*Усевалад Краўчанка*

# КРЫГАЛОМ

*Апавяданні • Аповесць*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

## РАДАСЦЬ

### 1

Рыгорка стаяў каля варот новай хаты цёткі Тэклі і не ведаў, што яму рабіць. Цётцы Тэклі прыйшло тэрміновае пісьмо, і ён як пісьманосец кваліфікаваны, які разумее ўсе тонкасці сваіх складаных абавязкаў, перш чым разнесці па сялу простую пошту, прыбег сюды. А калі яшчэ прыняць пад увагу тую акалічнасць, што за прынесеную два тыдні таму назад паштоўку цётка Тэкля пачаставала яго надзвычай смачнымі варэнікамі, то паспешнасць яго стане зусім зразумелай.

Але, як і ў мінулы раз, каля самых варот Рыгорку сустрэў Тузік — невялічкі чорны сабака, па сутнасці сваёй міралюбівае, дабрадушнае стварэнне, такое ж нястрашнае, як і рыжы нязграбны певень, што выступаў побач з Тузікам. Але па сабачай сваёй звычцы Тузік, трымаючы верчыкам хвост, час ад часу, каб паказаць, што і ён не абышто, а вартаўнік дома, рабіў некалькі крокаў наперад і няцвёрда брахаў: «гаў, гаў». І гэтага «гаў, гаў» хапала для таго, каб трымаць Рыгорку за варотамі. Толькі зрэдку ён прыадчыняў іх з надзеяй убачыць у дзвярах хаты добрую цётку Тэклю. Але, прастаяўшы так цярпліва некалькі хвілін, Рыгорка вырашыў дзейнічаць больш актыўна.

— Цётка Тэкля! А, цётка Тэкля! — крыкнуў ён.

«Гаў, гаў, гаў»,— стараўся Тузік.

— А, цётка Тэкля!

І вось у дзвярах хаты паказалася цётка Тэкля. Гэта была высокая, худая жанчына, з доўгімі, па-мужчынску жылаватымі рукамі. З-пад хусткі выбіваліся пасмы сівых валасоў. Твар яе, пакрыты слядамі маршчынак, здаваўся суровым, але, відаць, гэтая суровасць была толькі вонкавай. Вочы, светлыя, мяккія, пaглядалі цёпла і прыветліва.

Адчыніўшы дзверы, яна з нейкай нецярплівасцю і хваляваннем паглядзела на вароты.

— Гэта я, цётка Тэкля, пісьмо вам спешнае... ды вось Тузік...

— Рыгорка, сыночак мой, — працягнула радасна рукі і кінулася да варот Тэкля,— пісьмо... Пайшоў вон! — тупнула яна на Тузіка, і той, не вельмі цікавячыся, чаму гаспадыня крычыць на яго ў час, калі ён добрасумленна выконвае свае сабачыя абавязкі, пабег пад павець.

— Сыночак!.. — уся забыўшыся ад радасці, паўтарала Тэкля,— хадзі ж хутчэй у хату, хадзі, мілы мой...

Яна схапіла Рыгорку за руку і амаль уподбежкі пацягнула яго ў хату. Нервова пасадзіла Рыгорку на лаву. Яна стала перад ім, усёй сваёй постаццю выяўляючы нецярплівасць і хваляванне. На твары ў яе з'яўляліся то радасць, то неспакой, то трывога, гэтыя пачуцці чаргаваліся, знаходзілі адбітак на яе суровым твары.

— Ад каго ж... хутчэй, Рыгорка!

Рыгорка, адчуваючы ўсю важнасць моманту, не валадзіў, хуценька нырнуў у сваю паштальёнскую сумку і дастаў адтуль сіні лёгенькі канверт.

— Во,— падаў ён пісьмо Тэклі. Тая міжвольна выхапіла пісьмо з Рыгоркавых рук, але ўспомніла, што яна малапісьменная.

— Чытай... ды не марудзь, Рыгорка...

Рыгорка разарваў канверт і выняў адтуль складзены напалам лісток.

— Ад Петруся... ведаем мы яго почырк.

Тэкля ўся ператварылася ў слых. Яна яшчэ больш падалася да Рыгоркі.

— Ад Петруся? Ад сынка майго?!

— Ну, чытаю,— важна сказаў Рыгорка і пачаў чытаць:

«Дарагая маці!

Даруй, што не пісаў такі доўгі час. Быў вельмі заняты, у нас былі іспыты. Цяпер можаш мяне вітаць — школу скончыў на «выдатна». Мне надалі званне лётчыка. Але аб усім гэтым пазней. Справа ў тым, што 4 верасня мне давядзецца ляцець выканаць адно невялікае заданне, і маршрут палёту акурат ляжыць над нашай мясцовасцю. То я папрасіў дазволу свайго начальніка крыху звярнуць і заляцець на некалькі гадзін праведаць цябе. Начальнік дазволіў мне зрабіць гэта. Кажучы карацей, гадзін у семнаццаць 4 верасня я буду ў Сапюках. Сяду я напэўна на палянцы, каля Савосевага дуба. А калі не зааралі пад зяблiва загуменне, то я там сяду.

Усяго добрага, маці! Цалую цябе твой сын Пятрусь.

Можа, я прылячу раней, чым ты атрымаеш гэтае пісьмо, бо ведаю ж я вашу вясковую пошту. Першага верасня».

— Вось і ўсё,— закончыў Рыгорка.

У першую хвіліну Тэкля стаяла, не кранаючыся з месца. Яе свядомасць ледзь успрымала сэнс прачытанага Рыгоркам. Раптоўную радасць, бывае, чалавеку таксама цяжка асэнсаваць, як і раптоўнае няшчасце.

— Усё! — сказаў яшчэ раз Рыгорка.— Так як сёння ў нас трэцяе, то чацвёртае будзе заўтра.

І тады Тэкля ачнулася.

— Пятрусь... заўтра прыляціць Пятрусь!

Тэкля абняла сваю галаву, выпрасталася і павярнулася да Рыгоркі.

— Чытай яшчэ раз...

Рыгорка ад пачатку да канца прачытаў пісьмо ў другі раз.

Тэкля выцягнула з печы талерку аладачак у смятане, беленькіх і пульхных, і паставіла на стол. Ёй хацелася абняць Рыгорку, абняць усіх людзей.

Рыгорку прасіць доўга не трэба было. Прыцмокваючы і аблізваючыся, ён умінаў аладачкі адну за адной.

— Заўтра прыляціць,— шапялявіў ён, набіўшы повен рот смачных аладачак,— прыляціць! Мы яго сустракаць будзем. Загуменне яшчэ не аралі, гэта я добра ведаю, бо ў Лёшкі ўчора жывот балеў... Хіба вы не ведаеце Лёшку? Гэта ж трактарыст з эмтээса, што ў нас на кватэры. Ах, аладачкі якія вашы смачныя! Як вы іх рабілі?

Ён еў і гаварыў, а цётка Тэкля сядзела на лаве і, схіліўшы набок галаву, хісталася паціху. Яна глядзела на Рыгорку, але думала не пра яго.

Рыгорка пакінуў есці толькі тады, калі на яго глянула дно талеркі.

— Я пабягу,— сказаў ён. І Тэкля правяла яго да дзвярэй. Тузік цяпер спакойна пазіраў на Рыгорку, але ж той, баязліва скасіўшы вочы ў бок сабакі, датуль не лічыў сябе ў бяспецы, пакуль не апынуўся за варотамі. Ужо выскачыўшы на вуліцу, Рыгорка павярнуўся, прыадчыніў вароты і, прасунуўшы на двор галаву, паказаў Тузіку язык. І мала таго, што паказаў, ён яшчэ і перакрывіў Тузіка:

— Ме-ме-ме...

Тэкля вярнулася ў хату і села на лаву. Яна засталася сам-насам са сваімі думкамі. Яна глядзела ў акно, і з гародчыка ў хату глядзела на Тэклю чырвоная рабіна. Рабіна хіліла да долу свае абцяжараныя плодам голлі. Клён

па адным губляў жоўтыя лісты. У небе свяціла сонца і плыло срабрыстае павуціннe. У сініх і бяскрайніх прасторах цягнуліся качкі, ляцелі гусі. Непрыкметна бег час.

А куды ляцелі гусі? А якімі шляхамі ўецца чалавечы лёс?..

## 2

...Чацвёртага свайго сына, Петруська, Тэкля нарадзіла ў полі. Быў гарачы спякотны дзень. Пад капою жыта стаяў гляк з халоднаю вадою. Ахопленая смагай, Тэкля ляжала на посцілцы і ад слабасці не магла дацягнуцца рукою да гляка. Ціха застагнаўшы ад нясцерпнага болю, яна згубіла прытомнасць. Суседка цераз мяжу ўбачыла гэта і прыбегла на дапамогу. Неўзабаве Петрусёк ужо быў жыхаром на зямлі. На ігрушы каркала варона. Яна каркала на бяду. Суседка перавязала Петрусю пупок і кінула каменем у варону. Мякка ўзмахваючы крыллем, варона павольна праляцела над імі. З жахам у вачах Тэкля правяла яе позіркам і папрасіла піць. Вада канчаткова прывяла яе ў прытомнасць. Над галавой стаяла як ніколі чыстае неба. У далёкіх прасцягах яго сваім жыццём жыў сусвет, невядомы, чужы. Тэкля не ведала пра далёкі сусвет. Яна ведала другое: Пятрусь быў шостым ротам у сям'і. Яна ведала другое: недажатаю засталася палоса...

Захар, яе муж, прыехаў на поле толькі пад канец дня. Ён ішоў да яе і стараўся здавацца радасным.

— Ну што прывяла, хваліся?

Ён усміхаўся крывою, жаласліваю ўсмешкай. Каб не глядзець Захару ў вочы, яна закрыла рукою твар. Захар скінуў шапку.

— Хлопчыка...

— Едзем,— адказала Тэкля.

Тады Захар паклаў на воз некалькі снапоў і дапамог узабрацца на іх Тэклі. Ціхі і абыякавы гнеды павольна пацягнуў воз. Апусціўшы галаву, збоку, як за труною, ішоў Захар. Рыпнулі вароты. З прызбы насустрач возу скочыў сухі, калматы кот. Ён прыцяком трымаў свой аблезлы хвост. Пятрусь прыехаў на сваю бацькаўшчыну. Каля пахіленых, маленькіх дзвярэй хаты, апранутыя ў рызманы, стаялі тры яго браты — старэйшы з іх меў дзесяць гадоў. Яны сустрэлі Петруська абыякава, не здзівіліся яго паяўленню, не адзначылі яго ні радасцю, ні смуткам. У іх былі тоненькія шыі і бледныя, дробненькія тва-

ры. Яны моўчкі, з аднолькавай цікавасцю глядзелі на матку, на бацьку, на гнедага, на калматага ката і на яго, Петруська.

Ужо назаўтра Тэкля пайшла дажынаць жыта. У яе балела ў паясніцы, і дзень ад гэтага здаўся годам. Людзі не дапамагалі і не спачувалі ёй. Ці вінаваты яны ў гэтым? У кожнага з іх было сваё гора, свае хваробы — гэтага хапала на ўсіх. Людзі былі чужыя адзін аднаму, яны цураліся адзін аднаго. Абапіраючыся на плечы суседа, кожны імкнуўся крыху вылезці ўгару, выбіцца з галечы і бяды. Такою была жыццёвая логіка. І сашчапіўшы ад болю зубы, Тэкля дажала паласу.

Захар не губляў надзеі паставіць на ногі гаспадарку. Ён хацеў зрубіць новую хату. У старой напаўразбуранай хаце жыць было ўжо немагчыма. Ён кідаўся ва ўсе бакі, ішоў на ўсё, абы толькі здзейсніць сваю мару. Яму здавалася, што ад гэтай хаты залежыць яго будучыня, дабрабыт яго сям'і. А зараз сям'я недаядала, сам ён зімою вазіў у горад панскі лес, улетку наймаўся да багатых у касары, аратаі — так ён збіраў грошы, каб купіць лесу. Частку лесу ён купіў, але ў яго не хапіла грошай на ўсю хату. Захар аблюбаваў месца для новай хаты і пачаў рубіць зруб. Ён паклаў ужо тры вянцы. Ён глядзеў на аснову сваёй новай хаты і смяяўся і плакаў ад шчасця, гэты чалавек, жыццё якога, не адстаючы ні на крок, суправаджалі няўдачы.

Але яму не давялося пераступіць парог сваёй новай хаты. Петрусёк нядоўга жыў пад апекаю бацькі. Уночы Захар паехаў у панскі лес, меркаваў украсці адну хваіну на хату — усё ж менш прыйшлося б купляць. У лесе нікога не было. Скінуўшы світку, ён смела пачаў секчы высокую, гонкую хвою. Хвоя доўга не хацела падаць, не хацела пакідаць жыццё, але калі ўпала, то рашыла жыццё і Захару. Ён спатыкнуўся, упаў і не паспеў адскочыць убок, як цяжкі камель хваіны падабраў яго. Ён напружваў рэшткі сіл, каб вылезці з-пад дрэва, але не мог нават узняць рукі, спрабаваў клікаць на дапамогу, але з грудзей вылятаў адзін хрып. У лесе было ціха і па-асенняму холадна. Стромкія хвоі ўзнімалі свае вяршыні над лесам, нібы яны сябравалі з Вялікай Мядзведзіцай. У прагале паміж галін Захар бачыў толькі тры зоркі, але хутка яны патухлі.

Ён жыў да раніцы. Раніцою ляснік натрапіў на яго мёртвага і зразумеў усё. Вызваліўшы з-пад хвоі Захара, ляснік узваліў яго на воз і прывёз у вёску, дахаты. Тэкля

сустрэла мужа галашэннем. У Захара быў сіні твар і з рота маленькімі пухіркамі выступала пена. Пад вечар яго хавалі. За труною ішло не больш дзесятка людзей. Каго хвалявала смерць Захара? Толькі тых, каго яна непасрэдна датычылася. Тэкля галасіла, нават забіваючы крыкам сваім літанні папа.

На хвою, пад якою хавалі Захара, падалі апошнія промні сонца. Глуха стукала зямля аб века труны. Сумна спяваў бацюшка. А Тэкля стаяла, прыпёршыся спіною да хвоі, моўчкі пазірала ў яму. Яна змарылася плакаць і галасіць, у яе не было слёз, чым плакаць. Паціху прыйшла яна дадому. Яна глядзела на пусты двор, на пахіленую хату, на чатыры вянцы новай хаты побач, на гнедага, які спакойна жаваў у канцы двара лебяду, і толькі цяпер адчула, як яна асірацела.

...І пацягнуліся гады, цяжкія і нудныя. Гэтыя гады і падарвалі былі ў Тэклі веру ў жыццёвую праўду. Яна тады не верыла нікому — ні людзям, ні богу, ні жыццю, яна верыла толькі адной сабе. У яе жыцці тады стаяла адна мэта: выгадаваць чатырох сваіх сыноў. Яна калацілася над імі, вырывала ў сябе з рота кавалак, каб накарміць дзяцей. Што ж, акрамя дзяцей, заставалася ў Тэклі, для каго ж, як не для іх, было ёй жыць? Вёснамі арала яна зямлю, засявала раллю, увосень збірала ўраджаі. Яна ніколі не бачыла светлай часіны, не разгінала спіны ад работы. Адзінай радасцю і ўцехай яе былі дзеці. Яна ведала, для чаго жыла.

І вось яна выгадавала свайго старэйшага сына, вырашыла пусціць яго ў жыццё. Яму ўжо было 13 год. Ён расплёў сабе лыкавыя лапці і перакінуў цераз плячо радзюжную торбу. Ён наняўся ў падпаскі да вясковага пастуха. У першы вясенні дзень ён выйшаў на вуліцу і затрубіў у рог. Насустрач, з поўдня, плылі гусі, яны, як і людзі, рады былі вясне. Хлопчык адчуў сябе самастойна, ён сам сабе ўжо зарабляў на хлеб. Ён вярнуўся ўвечары змораны, бледны, ап'янёны пахкім водарам вясенняга паветра, але цвёрда, па-гаспадарску сказаў маці:

— Нішто, мама, мы і хату з табой паставім. Вось няхай зараблю!

— Паставім... — падтрымала, уціраючы слёзы, Тэкля.

І ўлетку яны нанялі цесляра дзеда Архіпа, і той памаленьку палажыў яшчэ два вянцы на зруб. Зруб рос, і вясялілася сэрца хлопчыка — яму здалося, што яны зрабілі немаведама як многа. Ён ляскаў доўгай пугай, адвароч-

ваючы ад шкоды кароў, і спяваў песні, не зважаючы на тое, што ў яго торбе ляжаў толькі маленькі акраец хлеба. Пастух вучыў яго граць на хваёвай жалейцы. І рад быў свайму жыццю хлопчык.

Але лёс па-здрадніцку абышоўся з ім. Халодным асеннім днём — гусі ключамі ляцелі на поўдзень — прывезлі на возе на двор Тэклі яе дарагога хлопчыка, акрываўленага і нежывога, як і Захара. Раз'юшаны стаднік, бугай, прыпёр хлопчыка да дуба, узняў высока на рогі і кінуў вобзем. Ён вымесціў на хлопчыку нейкую сваю сляпую звярыную злосць.

Час ведае, чаму так рана пасівела галава Тэклі. Ён нямала падрыхтаваў для яе ўдараў. Тэкля пахавала сына побач з бацькам. Цяпер ужо сваю мацярынскую любоў яна дзяліла на траіх дзяцей. Памалу з часам яна загаіла ў сэрцы рану ад панесенай страты. І яна зноў з надзеяй пачала глядзець на жыццё. І нават жыццё неяк выраўнялася і палягчэла.

Шырокім шляхам прыляцела ў вёску чутка аб рэвалюцыі. Яна ўсхвалявала людзей. Затрывожыліся вясковыя багацеі. Была вайна. Але калі чуткі прынеслі рэвалюцыю, вайна скончылася. Як бы на крыллях гэтых чутак прыляцеў у вёску худы, бязногі Амелька. На вайне снарадам адарвала яму нагу. Ён быў першым, які вярнуўся з фронту, і таму на яго глядзелі, як на дзіва. А ён ужо звыкся з тым, што ў яго толькі адна нага, смяяўся, жартаваў і нават падміргваў палінялым ад жыццёвых нягод брывом вясковым салдаткам. У першы ж дзень ён даволі спрытна прашкандыбаў па ўсёй вёсцы, не мінуў ніводнай знаёмай хаты. Заходзіў, гаварыў мала і, відаць, не ўсё, аб чым ведаў. Мінаў ён толькі двары з моцнымі дубовымі варотамі, з цяжкімі жалезнымі запорамі. І да Тэклі зайшоў. Прыжмурыўшы вока, ён паглядзеў на зруб.

— Хату залажылі?

— Залажылі...

— Та-ак...

Сагнуўшыся, улез у старую хату.

— Памёр Захар? Цяжка? Та-ак... Ну што ж — усім цяжка... Усім! Цярпі, Тэкля, скора палягчэе...

Амелька стаяў сярод хаты, абапёршыся на сваю драўляную нагу. Дзеці спалохана глядзелі на аднаногага чалавека.

— А галоўнае — дзяцей гадуй: людзі скора нам вельмі патрэбны будуць, ой як патрэбны. Нашы людзі.

І Амелька спрытна пашкандыбаў па вуліцы далей.

...А яна і не даглядзела сваіх дзяцей. Неўзабаве ў вёсцы аб'явіўся тыфус. Людзі лажыліся ў ложкі сем'ямі. Дзед Архіп рабіў труны. Але нядоўга ён іх рабіў, хутка і сам лёг у труну, апошнюю, якую ён зрабіў.

Першай у хаце захварэла Тэкля. Яна, калі адчула хваробу, заплакала, але не ад таго, што захварэла сама. Сэрцам яна адчула, што пагінуць дзеці. Яна ў гарачцы клікала дапамогу не да сябе, да дзяцей. А потым захварэлі і дзеці. Яны ўпокат ляжалі на палку. І не было каму падаць ім нават вады. Смага паліла іх маленькія грудзі. А калі Тэкля ачнулася, двaіх ужо не было. Целы іх былі ўжо халодныя. Застаўся адзін Петрусёк. Яму тады было чатыры гады. Ён чапляўся за жыццё, хаўкаў, як рыба, выкінутая на бераг. Тэкля сядзела на ложку слабая, змучаная горам і нават не магла ўзняцца, каб падаць яму вады. Але Пятрусь быў жывучы, ён перамог смерць.

І вось застаўся ў яе адзін Пятрусь. Але цяпер жыццё пачало спагадаць Тэклі. Пятрусь вырас моцным, жыццярадасным хлопчыкам. І ён ніколі нават не хварэў. Цэлымі днямі ён бегаў па палях, па лясах, бесклапотны і вясёлы.

З той пары, калі Тэкля закапала дзве апошнія труны, сплыло многа вады. Яна даўно змірылася з гэтай стратай. Чалавек здольны мірыцца з тым, чаго нельга вярнуць. Цяпер яна радавалася ўжо толькі аднаму сыну. І вось тры гады назад узмужнелы Пятрусь пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Яго прынялі ў паветраны флот і паслалі ў школу. А цяпер ён скончыў яе і прыляціць пераведаць матку...

### 3

— Тэкля! — паціхеньку пастукаў нехта ў акно.

Тэкля ледзь ачнулася і павярнула галаву да акна на двор. Каля акна стаяла яе суседка Базыліха.

— Тэкля, ці можна цябе на хвілінку?

— Сарафімка, дарагая, заходзь,— замітусілася, адразу ажывіўшыся, Тэкля. Суседка не паспела яшчэ зачыніць за сабой дзверы, як спыталася:

— Ці то праўду Цімохаў блазнюк баяў, што да цябе сынок ляціць у госці?

— Праўду, Сарафімка, праўду! Пісьмо вось атрымала.

— Вой, якая ж ты шчаслівая, Тэкля! Толькі я не зайздрошчу табе, не. У мяне, ты ж сама ведаеш, сыны такса-

ма не абібокі якія. Вось толькі не піша нічога малодшы, той, што ў горадзе, кажа, часу няма, але хіба я не ведаю аб гэтым, ці што? Няхай і не піша. Вой, Тэкля, балбачу я без толку, а за чым ішла, і не кажу. То ж я прыйшла табе сказаць, што, можа, у цябе няма чаго-небудзь, можа, мукі няма свежанькай пшанічнай, то мой стары ўчора толькі змалоў, тонкая такая, беленькая! А ты ўжо напячы Петрусю пірагоў на сустрэчу... Вой, мне і самой неяк не верыцца, што Пятрусь ужо такі! То ж я яго і прымала ў цябе, памятаеш, у Зазер'і. От жа, як час бяжыць, а? То ты, Тэкля, кажы, мо не мукі, дык чаго другога табе трэба. Дзякаваць богу, цяпер жа ўжо... Ды ты не махай рукамі, ведаю я, што і ў цябе ёсць чым спаткаць сына, але ж...

Суседка гаварыла, не даючы нават адказаць што-небудзь Тэклі. А тая стаяла, узрушаная праяўленнем такой шчырасці, яна была ўсхвалёвана ўспамінамі аб мінулым. Базыліха хацела гаварыць далей. Раптам расчыніліся дзверы.

— Добры дзень, Тэкля Паўлаўна!

На парозе стаяў старшыня калгаса Карпаў, малады, гадоў трыццаці мужчына.

— Рыгорка-паштальён казаў, нібы Пятрусь прыляціць да вас у госці. Ці праўда гэта?

— Праўда. Вось піша,— сказала і падала пісьмо.

Карпаў разгарнуў пісьмо і, заклапочана нахмурыўшы бровы, прабег па ім вачыма.

— Так... заўтра прыляціць. Каля Савосевага дуба яму сядаць нязручна. Далёка, ды і палянка малая... Алёшка загуменне араць пачаў ужо, але ж... ну, так і зробім. Няхай загуменне яшчэ дзянёк паляжыць неўзараным. Гэта ж, Тэкля Паўлаўна, не для вас адных радасць — усім нам радасць, што вось Пятрусь, галота былая, лётчыкам стаў. Гэта ж... а, ды што і гаварыць. Пайду лепш скажу, каб араць пакінулі ды знак пасадачны пашылі. Я ж у арміі служыў, ведаю. Выкінем знак, тады ён спакойненька сядзе сабе.

Карпаў пайшоў. Сабралася ісці за ім і Сарафіма. Тэкля правяла суседку аж на вуліцу, трымаючы яе пад руку, як сваю родную. Яна зачыніла за ёю вароты, паглядзела на двор, на новую хату. Тыя шэсць вянцоў, што паклаў Захар з сынам, ужо амаль зусім пацямнелі ад часу. Чыстаю белаю смалінаю канчаў калгас Тэкліну хату. Калгасныя цесляры дружна, у адзін тыдзень зрубілі яе, а сталяр Агей павыразаў на аканіцах такіх пеўнікаў, што на іх адно па-

глядзіш, і то весела робіцца. Цесляры канчалі хату і спявалі вясёлыя песні. На сходзе Карпаў сказаў: «Мы зрабілі табе, Тэкля Паўлаўна, хату за тое, што ты добрасумленна працуеш. Ніводная маці не скардзілася на тое, каб яе дзіця ў дзіцячым садзе было недагледжана табою. Ты да іх, як родная маці, а таму і калгас да цябе, як родны бацька».

Тэкля вярнулася ў хату і ўспомніла, што ёй трэба прынесці вады. Яна ішла да калодзежа, і кожны сустрэчны чытаў у вачах яе незвычайную радасць. І кожны падзяляў яе радасць, выказваў Тэклі што-небудзь прыемнае. Дзяўчына Настасся крычала ад калодзежа, хуценька выцягваючы вядро:

— Чакайце, цётка Тэкля, чакайце! — і, крыху засаромеўшыся, дадала: — З поўным я перайду.

Яна перабегла Тэклі дарогу, пругка трымаючы поўнае вядро. Настасся не верыла ў «поўнае вядро» — гэта бабскія забабоны, а яна ўжо трэці год як камсамолка, але яна хацела сказаць што-небудзь прыемнае старой Тэклі.

— Пятрусь ваш прыляціць? Цётка Тэкля, папрасіце, каб ён пакатаў мяне на самалёце. Добра?

— Добра, галубка, добра, папрашу,— адказала Настассі Тэкля.

Яна набірала ваду і хацела плакаць, сама не ведала ад чаго: ці то ад смутку, навеянага цяжкімі ўспамінамі, ці ад радасці за сённяшняе жыццё.

Па вуліцы бег Лёшка-трактарыст. На руцэ ён трымаў скуранае паліто. Твар яго блішчаў і ільсніўся ад здароўя і паўнаты жыцця. Убачыўшы Тэклю, ён уподбежкі кінуўся да калодзежа з усмешкай бесклапотнага і вясёлага хлапца.

— Тэкля Паўлаўна! Зняў мяне з ворыва Карпаў, кажа, сын ваш прыляціць, дык каб поле неараным было. То я, вядома, згадзіўся. А Карпаў сказаў, каб я Зазер'е ехаў араць. То я, канешне, не згадзіўся. Трактар буду яму ганяць... Ды, галоўнае, жывот у мяне нешта... Хай напарнік арэ ў Зазер'і. Правільна, цётка Тэкля?

— Правільна, галубок, правільна,— нават не асэнсоўваючы пытання, пацвердзіла Тэкля і глядзела на Лёшку вачыма, у якіх свяцілася мацярынская ласка. Яна выцягнула ваду.

— Дайце, мамаша, паднясу.

І не паспела Тэкля згадзіцца, як ён падхапіў вядро і панёс яго, пасвістваючы, да хаты. Яна ледзь паспявала ісці ўслед за Лёшкам. Паставіўшы ля варот вядро, той памчаўся ўсцяж па вуліцы далей.

Ужо калі Тэкля хацела ісці ў двор, яе нехта гукнуў. З другога боку па вуліцы шкандыбаў бязногі Амелька. Гэтага старога як бы і час не браў. Ён, як і калісьці ў першыя гады свайго калецтва, жвава шкандыбаў па зямлі, энергічна завіхаўся па калгаснай пчалінай пасецы паміж вулляў і выхваляўся перад калгаснікамі, што ведае па імені кожную пчалу. Праўда, ён крыху пастарэў, асунуўся, але ж волас яго быў чорны, як галчына крыло, моцны быў яго голас, і меў ён маладыя вочы.

— Тэкля, пачакай часінку, дачыкільгаю да цябе, спытаю нешта.

— Амелька? Чакаю, родны, чакаю,— павярнулася Тэкля.

— Твой Пятрусь сапраўды да цябе прыляціць ці гэта так чуткі ходзяць?

— Сапраўды, пісьмо атрымала.

— То вось жа, браце, я падаруначак яму прынёс. Ад Амелькі, скажаш, пчаляра.

Амелька адхіліў крысо світкі і падаў Тэклі гладышык светлага мёду.

— Свежанькі, як раса, чысценькі... — пахваліў Амелька мёд і пашкандыбаў па вуліцы.

Увечары Тэкля доўга не магла заснуць. Заўтра яна ўбачыць свайго сына! Яна патушыла лямпу і запаліла на комінку. Агонь лучыны, ад якога з часам адвыкала Тэкля, абуджаў у яе ўспаміны аб мінулым. Патрэсквалі смалякі, і па хаце ад няроўнага агню лёталі фантастычныя цені. У куточку за лавай пілікаў цвыркун, яго песня была аднастайная і роўная. І пакуль не дагарэў апошні смаляк, Тэкля сядзела на ложку і думала, паглядаючы на агонь, аб тым, як змянілася жыццё і людзі...

## 4

Дзень назаўтра выдаўся ясны і пагодлівы. Невялічкі марозік за ноч пакрыў інеем апаўшыя лісты, але іней знік, як толькі ўзнялося сонца. Халоднае паветра было празрыстым, як крышталь. Кляновыя лісты, адрываючыся ад галін, кружыліся ў паветры. На блакітным небе не відаць ніводнай хмаркі, і ад гэтага неба здавалася неабсяжным, бяскрайнім. Такім прыгожым бывае неба толькі ўвосень.

На загуменні, куды павінен быў сесці Пятрусь, пасля абеду сабралася ўсё сяло. Была нядзеля, выхадны дзень у калгасе, і таму мужчыны, жанкі, а асабліва калгасная мо-

ладзь апрануліся ў сваю лепшую святочную вопратку. Карпаў з камсамольцамі выкладваў сярод поля пасадачны знак. У групе мужчын, апрануты ў вышываную кашулю, паголены, падцягнуты стаяў Амелька.

— Вось, адтуль будзе ляцець,— паказваў ён бярозавым кіёчкам на захад,— з-за лесу.

Амелька, як заўсёды, жвава круціўся на сваёй здаровай назе, расказваў мужчынам свае ўспаміны аб вайне.

Тэкля стаяла сярод жанчын. Кожная жанчына, якая падыходзіла да іхняй групы, перш за ўсё віталася з ёю.

— Сына твайго прыйшлі сустракаць.

І жанчыны станавіліся збоку, каб не засціць Тэклі выглядаць сына. Яна была апранута ў чыстую доўгую спадніцу і дабротны суконны сак. Хустку яна развязала і ўскінула на плечы. Сухімі бліскучымі вачыма яна паглядала на захад. Вясёлая Настасся падбегла да яе з усмешкай і румянцам на шчоках. Яна махала белым шарсцяным шалікам і паказвала ў другі бок.

— Цётка Тэкля, вунь гусі ляцяць! Пятрусь, калі б захацеў, напэўна мог бы абагнаць іх. Ай! От добра! Абагнаў бы!

Настасся была ў захапленні. Яна нарадзілася і расла ў час, калі людзі ўжо верылі адзін у аднаго і верылі ў свае сілы. Ёй прыемна было адчуваць, што чалавек можа абагнаць любую птушку. Ад гэтага яна паўней адчувала і свае сілы, Петруся ж яна лічыла роўным сабе.

— Сакатуха,— з замілаваннем паглядаючы на рухавую Настассю, адказалі за Тэклю жанкі,— дзе ж гэта відана, каб за гусямі ганяцца?

Тэкля стаяла сярод гэтых жанчын, блізкіх і родных ёй, і ўся замірала ад радасці. Радавалася таму, што хутка абдыме і прытуліць да грудзей адзінага сына, што яе радасць падзяляюць усе людзі.

Карпаў паглядзеў на гадзіннік. Да семнаццаці гадзін не хапала некалькі хвілін. Карпаў паківаў галавою і хацеў зазначыць, што Пятрусь нечага спазняецца, але раптам з самага вільчыка бліжэйшага гумна пачуўся дзіцячы крык:

— Ляціць!

Ад гумна да натоўпу калгаснікаў сыпанула стайка дзяцей, і наперадзе імчаўся Рыгорка.

— Ляціць! — крычала ўслед за Рыгоркам уразнабой уся дзетвара.

І сапраўды, з-за лесу паказаўся самалёт. Пабліскваючы на сонцы срэбрам, ён хутка набліжаўся да вёскі. Сама-

лёт вырастаў на вачах, і разам з ім мацнеў і набліжаўся шум матора. Тонкі і стройны, як птушка, ён адзін неспакойна ляцеў па шырокіх і ціхіх прасцягах неба і, здавалася, гнаўся напярэймы тым гусям, што ляцелі за сваім важаком на поўдзень зімаваць у далёкіх цёплых краях.

Натоўп узрушана замітусіўся. Настасся пляскала ад радасці далонямі.

— Як хораша! Ой, як хораша!..

Жанкі пад рукі падтрымлівалі Тэклю. Аслабелая ад хвалявання, яна ўпілася позіркам у самалёт. Шырокі і плаўны круг зрабіў самалёт над полем. Карпаў махаў рукой, паказваючы на знак. Але самалёт, моцна зароўшы маторам, нечага крута паляцеў уверх. Вось ён пачаў ляцець угору, амаль прастастаўна да зямлі. Перакуліўся на спіну... і з заглушаным маторам паляцеў проста ўніз. Натоўп замёр: самалёт падаў. Тэкля захвалявалася, закрыла вочы. Гэта была пятля, зрабіць якую лёгка можа спрактыкаваны лётчык. Каля самай зямлі самалёт выраўняўся і паляцеў на пасадку.

— Ура! — закрычаў нехта ў захапленні.

Здзіўленыя майстэрствам маладога пілота, калгаснікі дружна падхапілі вокліч. З крыкам усе рынуліся да самалёта, які ўжо каціўся па неараным полі.

Пятрусь вылез з пілоцкай кабіны крыху збянтэжаны — ён не чакаў, што яго будзе сустракаць усё сяло.

— Пятрусь! Здароў, Пятрусь! Пятро Захаравіч!

З усіх бакоў віталі яго сябры, знаёмыя і блізкія. Разгублены і расчулены, ён паціскаў працягнутыя рукі, адказваў на прывітанні і адначасова шукаў у натоўпе маці. Тая ж бегла ўжо да яго, радасная, і перад ёю хуценька расступаўся натоўп...

Па дарозе, абдымаючы маці, Пятрусь у адказ на яе роспыты гаварыў:

— Дома аб усім пагаворым, дома.

Шыракаплечы, павольны ў рухах, Пятрусь намнога змяніўся за гады, у якія не бачыла яго Тэкля. Яна не магла нагледзецца на яго, мужнага, спакойнага. Тэкля ведала, што яна і не нагледзіцца на яго ўдосталь сам-насам: у новай Тэклінай хаце ўвішныя жанчыны ўжо расстаўлялі на сталах пачастункі. Следам за Петрусём ішлі мужчыны, жанкі, моладзь. Дзяўчаты спявалі песні. Дзетвара бегла наперадзе, пазіраючы на Петруся, як на героя. Амелька, які нечага быў адстаў, цяпер старанна шкандыбаў, даганяючы Петруся.

— Петрусёк! Сынок, дай я хоць абдыму цябе! — крыкнуў Амелька, наблізіўшыся да натоўпу.

Яны пацалаваліся, як родныя, і Амелька неўпрыкмет выцер рукавом набегшую слязу.

Пятрусь адчыніў вароты свайго двара і спыніўся, паглядзеў на новую хату.

— Хата добрая. Вось бацьку майму не давялося пажыць у ёй.

І Пятрусь шырока расчыніў дзверы. Ён ужо ведаў аб тым, што да яго прыезду падрыхтавалі багаты пачастунак.

— Заходзьце!

У прасторнай хаце за доўгімі сталамі паселі разам і старыя і моладзь. Пятрусь сеў побач са шчаслівай маткай. Амелька быў па другую руку ад яго. Тут былі і Карпаў і Настасся, якая час ад часу кідала сарамлівыя позіркі на Петруся. Сядзелі за сталамі і Базыліха з мужам, і ўсе былыя сябры Петруся, Лёшка-трактарыст і дзяўчаты, аднагодкі Петруся, і равеснікі Тэклі.

Першаю захацела сказаць некалькі слоў Тэкля. Усе змоўклі. Яна ўзнялася, трымаючы ў руцэ чарку, і ў яе памаладзелых вачах гарэў агонь радасці. Сівыя валасы яна старанна схавала пад хустку.

— На дварэ ўжо восень, лісты вунь асыпаюцца. І жыццё маё к канцу падыходзіць. Але, госцейкі мае, цяпер у мяне такая радасць — сорак год яшчэ жыць буду! Хоць саднаго выгадавала, выхадзіла ў пакуце ды ў бядоце. Самі ж ведаеце! А цяпер вось прыляцеў ён да мяне... прыляцеў...

Слёзы радасці залілі ёй твар. Левай рукой яна паднесла да вачэй хустачку і змоўкла. Госці з усіх канцоў стала пацягнуліся да яе з чаркамі.

— Што вы, што вы, Тэкля Паўлаўна! Навошта плакаць! Давайце лепш вып'ем за ваша здароўе... — загаманілі адусюль.

— Будзеш яшчэ сорак год жыць, Тэкля,— гукнуў Амелька,— і я не менш буду чыкільгаць па свеце. А Петрусю дзяўчыну высватаць трэба,— кінуў ён хітрым позіркам на Петруся.

Гэта быў вечар чалавечай еднасці. Людзі падзялялі сваю радасць шчаслівага жыцця. Калектыўнай у іх была не толькі праца. Пачуццё таго, што яны — адна дружная сям'я, што ў іх — калектыўныя інтарэсы, радасць, яднала іх за гэтым сталом, багата ўстаўленым пачастункамі.

## 5

А назаўтра, сінім марозным ранкам, яна праводзіла Петруся ў далёкі шлях. Так і не паспела яна наглядзецца на сына, распытаць, аб чым хацела. Яна ішла следам за ім па пожні.

Сярод поля, развінуўшы ў бакі крыллі, стаяла росная ад інею, блакітная птушка. Хутка ўзнімецца яна ў неба і панясе на сабе Петруся, дарагога яе сына. Панясе на ўсход, насустрач сонцу.

— Ну, маці, да пабачэння! Засумуеш — напішы, забяру цябе ў горад. Толькі бачу я, моцна здружылася ты з людзьмі, не захочаш пакідаць сяло. А?

Пятрусь абняў і пацалаваў маці некалькі разоў. Тэкля гладзіла яго валасы і маўчала.

— Маці, чаго маўчыш?

Яна апусціла рукі і ціха сказала:

— Ляці.

Вось яна і не наглядзелася на яго і не нагаварылася, а ўсё роўна была спакойная і адчувала сябе лёгка, радасна. Петрусёва ўпэўненасць і спакой перадаліся ёй — яна цяпер не баялася, што згубіць сына.

І Пятрусь паляцеў. Прабегшы з двое гоней па зямлі, самалёт пайшоў у неба. Смела і крута ён набіраў вышыню, разразаючы лёгкае мроева туману. Ён зрабіў развітальны круг над сялом, хістануўся з крыла на крыло («усё ў парадку») і паляцеў на ўсход. Вось і няма Петруся. Ён паляцеў далёка, выконваць даручанае яму заданне. Але няма і смутку ў сэрцы Тэклі. Калісьці яна адна калацілася над сваімі дзецьмі, гадавала іх. Але ці ж можна было адной, былінцы прыдарожнай, устаяць супроць жыццёвых нягод. Не дагледзела, пагінулі сыны. Толькі адзін Пятрусь дажыў да часу, калі і жыццё стала нябачана светлым, і людзі зрабіліся членамі адной вялікай сям'і. Ён паляцеў, але яна ведала, не на чужыну, а да сваіх, да блізкіх, да сяброў. Яна была спакойнай за яго. Хіба не з любоўю і клопатамі гадавала яна чырванашчокіх і бесклапотных дзяцей аднавяскоўцаў калгаснікаў? Хіба не радавалася яна разам з імі іх дзіцячымі радасцямі?

Ужо і гуку матора не чуваць больш, і сам самалёт, вялікі і стройны прыгажун, ператварыўся ў чорную кропку, а Тэкля стаяла і паглядала на ўсход.

Узыходзіла сонца, нараджаўся новы дзень.

— Цётка Тэкля, пачакайце! Я баюся вашага Тузіка. Вам пісьмо,— каля самых варот спыніў Тэклю Рыгорка. Ён бег па вуліцы і размахваў канвертам.

— Пісьмо? Ад каго ж мне можа быць пісьмо?

— Ад сына, мусіць... Другога сына. У вас жа ёсць дзе-небудзь другі сын? А, цётка Тэкля? — спытаўся Рыгорка.

— У мяне — сын?

Тэкля замоўкла. Яна паглядзела на Рыгорку. Той хуценька апусціў вочы. Тады яна пачала здагадвацца аб нечым. Яна засмяялася і прыкінулася вельмі зацікаўленай і ўсхвалёванай.

— Хадзем, Рыгорка, у хату, хутчэй прачытай мне пісьмо.

Рыгорка разарваў канверт, і памалу ў яго чырванелі вушы, шчокі. Калі ён пачаў чытаць, то ён хваляваўся і ўвесь гарэў ад нечага ўжо, як у агні.

— «Дарагая маці...»

Тэкля паставіла на стол мёд, дастала з скрыні мяшэчак з арэхамі. Яна сур'ёзна слухала Рыгорку.

— «...Можна сказаць, жадаю табе».

Рыгорка асцярожна ўскінуў вочы ад пісьма на Тэклю. Тая ўважліва слухала кожнае яго слова. Рыгорка нечага ўсхвалёвана круціўся, шморгаў без патрэбы носам.

— «...добрага здароўя...» Цётка Тэкля,— раптам узмаліўся Рыгорка,— я больш не буду!

— А мой жа ты галубок,— не вытрымала, засмяялася Тэкля.

Яе меркаванні пацвердзіліся: Рыгорку так спадабаліся пачастункі за пісьмы, што ён, не дачакаўшыся, пакуль хто-небудзь напіша, вырашыў скласці сам пісьмо. А можа, Рыгорка хацеў парадаваць старую вестачкай ад другога сына? Рыгорка ж не ведаў, што Пятрусь быў адзіным яе сынам.

— Пакаштуй вось мядку, давай кішэньку, арэшкаў табе ўсыплю,— гаварыла ласкава Тэкля.

І яна, цёпла смеючыся, пагладзіла па галаве збянтэжанага і ўшчэнт выкрытага Рыгорку.

1937

## ПРЫКРАЕ ЗДАРЭННЕ

### 1

Раніцою ў нядзелю ў хаце Тамаша чакалі гасцей з суседняй вёскі Замасточча. Павінен быў прыехаць Тамашоў брат Цімох з жонкаю і маленькім Міхаськам. Тамаш запрасіў іх у госці. Ён доўга не хацеў рабіць гэта, але жонка Наста ўсё ж дамаглася свайго, і Цімох быў запрошаны.

Тамаш з даўніх пор быў з братам не ў ладах. Яшчэ даўно, пры дзяльбе, калі памёр бацька, яны ледзь-ледзь не пазасякаліся. У часы калектывізацыі іх шляхі яшчэ больш разышліся. Цімох крута рвануўся ад калгаса, на хутар, у прымы да заможніцы Юстыны, тады як стары, разважлівы Тамаш быў адным з першых, якія падышлі да стала, каб запісацца ў калгас, перанесці сябе ў новае жыццё. Памятае стары Тамаш, як тады брат Цімох, з'едліва ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Ну, глядзі ж, прыцісне мор, не прасі ні ў кога ратунку. Гінь сам...

Але Тамаш ад Цімохавага наракання не загінуў. У калгасе раней, калі пачалі сарганізоўвацца, было крыху нязвычна, але калі да калектыўнай працы прывыклі, стала добра і лёгка. Тамаш, вядома, не згадзіўся б паклікаць у госці Цімоха, калі б яму самому не хацелася пахваліцца перад братам. У калгасе нядаўна было размеркаванне ўраджаю на працадні, і ў каморы Тамаша стаялі бочкі са збожжам, якіх ніколі не насыпаў ён, жывучы аднаасобна. Ён быў ужо стары і непрыгодны да цяжкай працы, а тым часам у калгасе яму знайшоўся занятак лёгкі і важны — вартаваць гумно.

У Тамаша цяпер стала шмат часу для адпачынку. Падмецены двор, прыбраны, чысты хлеў для каровы, добра падсыпаная прызба не пераставалі лашчыць Тамашова вока. Уся яго гаспадарка была ў найлепшым парадку.

І звыш усяго — радыё... Яго падараваў Тамашу сын. Тыя радасныя дні Тамашу ўспамінаюцца так. Аднойчы сярод нядзелі нечакана, як навальніца сярод белага дня, прыехаў сын Фёдар, што служыць у Чырвонай Арміі.

— На тыдзень усяго. Пазачарговая пабыўка, як выдатніку баявой службы,— адказаў ён на пытанні бацькоў, якія не ведалі ад радасці, куды яго пасадзіць. Адказаў і незпарок вызваніў шпорамі нешта новае, нячутае дагэтуль

у хаце ні маткай Настай, ні старым Тамашом. Гэты звон не быў падобны ні на звон патэльні аб прыпечак, ні на дзынканне конскіх цугляў. Расчыніў куфэрак, што прынёс за плячыма, і пачаў вымаць падарункі. Матцы паднёс вялікую хустку, чорненькія валёнкі («От, тупаць, значыцца, будзе па гаспадарцы»,— вырашыў Тамаш), паркалёвае плацце, а старому Тамашу, апрача тытуню і кажушка, выцягнуў незразумелую, пафарбаваную ў жоўтае, скрыпку. За ёю пачаў вымаць розныя бліскучыя цацкі.

— А табе, тата, я прывёз у падарунак радыёапарат. Будзеш слухаць з маці ўвечары розную музыку.

— Гэта што ж такое, накшталт грамафона, ці што? — спытаў насцярожаны Тамаш.

— Э, не, зусім не тое,— адказаў, смеючыся, Фёдар. А праз дзень, калі сын устанавіў на хляве і хаце жэрдкі, нацягнуў паміж імі драты і падзеў бацьку на галаву навушнікі, у Тамаша ад здзіўлення ажно вочы заблішчалі. Упершыню слухаючы радыё, ён глянуў сыну ў твар, увесь пачырванеў ад здавальнення і знямеў. Адразу не паверыў. Выйшаў усхвалёваны на двор, пахадзіў ля хаты, ля акна, каб упэўніцца, што там нікога няма, паглядзеў уверх на нацягнуты, як струна, дрот і вярнуўся збянтэжаны ў хату.

— І як гэта ты? — асцярожна, баючыся перашкодзіць сыну, пытаўся Тамаш. Сын зняў навушнікі, выключыў рупар і звярнуўся да Тамаша:

— Падабаецца, тата, падарунак?

— Навошта пытаешся?

Вольны час тых пяці дзён адпачынку, якія засталіся ў Фёдара, ён патраціў на тое, каб навучыць бацьку кіраваць прыёмнікам. На трэці дзень вучобы Тамаш самастойна злавіў Маскву.

Тыдзень праляцеў хутка, і стары Тамаш, пацалаваўшы сына пры развітанні, застаўся сам-насам з сынавым падарункам. Пра Тамашова радыё ведала ўся вёска, і вечарамі моладзь збіралася паслухаць музыку да Тамаша пад акно. І кожны дзень Тамаш надвячоркам зачыняўся ў чысценькай бакоўцы, папраўляў старанна вусы, бараду, нібы збіраючыся ў сваты, сядаў за столік, ля акна, на якім стаяў прыёмнік, і, усяўшы на галаву навушнікі, увесь забываўся.

Тамаш быў у захапленні ад апарата. Кожнага, хто прыходзіў да яго ў хату, ён заводзіў у бакоўку, паказваў радыёпрыёмнік, даваў паслухаць і радаваўся, прыкмеціўшы ў вачах госця здзіўленне. Ён быў горды і тым, які ў яго

слаўны сын, і сваім умельствам кіраваць незразумелым і складаным апаратам. Бывала, ці трэба ці не, стары Тамаш заклапочана і мнагазначна падкручваў якую-небудзь шрубку ў кантактах, правяраў злучэнне. Потым з важным, таемным выразам твару прыслухоўваўся да працы прыёмніка і, быццам тое, што перашкаджала, ужо выпраўлена, сам сабе задаволена пасміхаўся.

І калі сказаць праўду, Тамаш хацеў здзівіць Цімоха радыёпрыёмнікам і толькі таму ён і згадзіўся з жонкай, каб запрасіць у госці брата. Тамаш успомніў той апошні момант, калі яны развітваліся з Цімохам, выказваючы адзін аднаму жаданне ніколі больш не сустракацца, і здрыгануўся. Чамусьці цяпер злосці на брата не было, а тады, памятаецца, поўніла грудзі ад яе. Тамашу хацелася паказаць, які ён цяпер шчаслівы.

Новы чырвоненькі пеўнік на каньку хаты вось-вось збіраўся кукарэкнуць на ўвесь голас. Вакол хаты — прыгожая агарожа, пад акном — градка кветак. На вуліцы, каля плота, лаўка, на якой вечарамі збіраецца ўся канцавая моладзь. На хляве і на хаце — па мачце. Вокны завешаны паркалёвымі фіранкамі. У хаце чыста, светла, свежа. Усё здавалася новым, калі зірнуць вачыма мінулага на хату Тамаша. І сам Тамаш, апрануты ў чыстую белую кашулю, падпяразаную стракатым саматканым поясам, або адзеты ў чорны пінжак, новыя боты, з акуратна расчэсанаю сівою барадою, здаваўся памаладзелым.

Тамаш зайшоў у хату, паглядзеў, як дачка спрытна ўвіхаецца з бляхамі, пекучы разнастайныя пшанічныя пернічкі, і падаўся ў бакоўку. А там не ўцярпеў, каб не глянуць на прыёмнік. Ён стаяў, начышчаны да бляску, старанна правераны, у найлепшым доглядзе. Тамаш прыкідваў, як найбольш уразіць брата сынавым падарункам. То хацелася прыкрыць хусцінкай апарат, злавіўшы раней музыку, прывесці ў бакоўку Цімоха і раптам уключыць рупар, то проста сустрэць Цімоха музыкай, то, не заводзячы яго ў бакоўку, ашаламіць нечуванымі гукамі адтуль. Хацелася, каб Цімох сапраўды пабачыў новае ў жыцці Тамаша.

На вуліцы затарабанілі і спыніліся ля варот Тамаша калёсы. У Тамаша ёкнула сэрца: «Цімох, мусіць».

Ён прыкрыў вялікаю хусткаю прыёмнік і пайшоў да дзвярэй. Не паспеў выйсці з бакоўкі, як у двары забрахаў прывязаны Лыска і рыпнулі вароты. Тамаш на хаду кінуў Насці і Мані:

— Цімох, здаецца.

Тыя адразу пакінулі ўсю работу і рынуліся з хаты. З радасным крыкам пабегла насустрач гасцям і чатырохгадовая Волька. Тамаш выйшаў апошнім. Вароты ў двор ужо былі насцеж адчынены. Ля іх стаяў Цімох. Канём кіравала, узяўшы ў рукі лейцы, Юстына.

— Ну, Тамаш, прымай гасцей,— сказаў грубым, крыху хрыпаватым голасам Цімох, нацягваючы ўсмешку на шырокі скуласты твар. Цімох стаяў, трымаючы ў руцэ пугу, шыракаплечы, каржакаваты, з доўгімі моцнымі рукамі, кароткай шыяй і вялікай узлахмачанай галавой. На твары пад густой страхой лахматых брывей хаваліся хітрыя вочы. Яны быстра бегалі па двары, па тварах сустракаючых, забеглі ў гародчык, каўзануліся па жэрдках-мачтах на хляве і на хаце, ускінуліся на пеўніка на каньку хаты і спыніліся на Тамашы. Той ішоў насустрач, крыху ўсхвалёваны, але вонкава зусім спакойны.

— Заязджайце, заязджайце ў двор.

Конь, накіраваны рукою Юстыны, прайшоў у глыб двара. Юстына сядзела на возе, прыбраная па-святочнаму ў шырокую, з фальбонамі спадніцу, вышываную кофту, з вялікай стракатай, у кветкі, хусткай на галаве, трымаючы адной рукой лейцы, а другой абдымаючы маленькага Міхаську. Цімох зачыніў вароты і паволі падышоў да Тамаша. Тамаш падаў яму руку. Браты стрэліся поглядамі. І адзін і другі вельмі змяніліся за гэтыя некалькі год, што не бачыліся. Цімох асунуўся, пачарнеў, у Тамаша каля вачэй гады змаршчынілі скуру і ўплялі ў бараду многа сівых валасоў. Але затое вочы Тамаша былі светлыя, глядзелі шчыра, ледзь пасміхаючыся. У іх свяцілася радасць. Цімох пацiснуў працягнутую руку і першым прывітаўся:

— Здароў, брат.

— Здароў... — адказаў Тамаш.

Крыху збянтэжаныя, яны хвілінку памаўчалі, прымерваючыся адзін да аднаго. Цімох, жонка і маленькі Міхаська пачалі вітацца з Настай, пляменніцай Маняй, унучкай Воляй. Тамаш завёў пад павець каня, выпраг яго, паклаў сена і пайшоў за ўсімі ў хату. Там ішла нясмелая гутарка. Як увайшоў Тамаш, Цімох пасунуўся і сказаў:

— Ну, дык сядай жа, брат, раскажы, як жывеш, як маешся?

Тамаш падышоў і сеў за сталом насупраць брата. Па хаце, гуляючы, бегалі Волька з Міхаськам. Са смехам яны перабягалі з большай хаты ў бакоўку, адтуль назад, ха-

валіся адзін ад аднаго, жартавалі. Дарослыя не звярталі на іх увагі.

— Не загінуў, як бачыш,— успамянуў Тамаш братава папярэджанне і глянуў на Цімоха. У таго хутка з рэчы на рэч пераскаквалі вочы.

— Жыву... — зноў прамовіў Тамаш.

— Хлеб да стала маеш? — спытаўся Цімох.

Тамаш усміхнуўся.

— Маю, і да хлеба маю. Сёлета мы на працадні атрымалі столькі збожжа, што насыпалі даверху тыя бочкі, якія яшчэ да смерці бацькі ўсёй гаспадаркай не засыпалі,— падлічыў брату Тамаш.

Цімох упяў у Тамаша хітры позірк:

— Тыя старыя, бацькаўскія, што ў каморы?..

— Тыя самыя,— спакойна адказаў Тамаш.

— Няпраўда,— рэзка выгаварыў Цімох і адкінуўся тулавам да сцяны. Тамаш моўчкі ўстаў і кіўнуў Цімоху на камору:

— Хадзі.

У яго радасна тахкала сэрца. Цімох не ленаваўся, падымаўся на пальчыках і зазіраў у кожную бочку. І з кожным разам у яго ўсё болей і болей хмурнеў твар. Таго, што яму гэта непрыемна, ён не мог схаваць, хоць і спрабаваў зрабіць гэта. У вачах зайгралі злосныя агеньчыкі. Сківіцы варушылі шчаку. Вярнуўшыся ў хату, Цімох стаў маўклівым, сур'ёзным, сеў за стол і толькі слухаў, што гаварыў яму Тамаш. Жанкі, азнаёміўшыся, шчабяталі аб нечым. Маня, накрыўшы стол белым абрусам, пачала падаваць на стол.

— Чым багаты, тым і рады,— сказаў Тамаш, калі Маня паставіла на стол пачастунак, і пачаў запрашаць гасцей за стол. Сам сеў насупраць Цімоха і пачаў гаварыць яму аб сваім новым жыцці.

Цімох прыкідваўся, быццам рады таму, што Тамаш жыве добра і што не спраўдзіліся яго колішнія прадраканні. Але па ім відаць было адваротнае. Ён сядзеў насуплены, маўклівы, час ад часу роблена ўсміхаўся, піў, як ваду, гарэлку і не глядзеў Тамашу ў вочы.

## 2

Пасля снедання, калі Маня прыбрала са стала, Тамаш усміхнуўся, глянуў на каржакаватага Цімоха і сказаў:

— Ну, а цяпер хадзем у бакоўку, пакажу табе сынаў падарунак. Федзька ў арміі служыць. Прывёз мне.

— Што ж такое? — спытаўся зацікаўлены Цімох.

— Бачыў на хаце і на хляве жардзіны? Паміж імі нацягнуты, як струна, дрот. А ў бакоўцы — радыёпрыёмнік. Музыку з Масквы пачуем,— сказаў Тамаш і запрасіў: — Зойдзем у бакоўку, хадзі і ты, Юстына, паслухаеш, падзівішся. Хадзем усе...

Цімох устаў, шырокі, прысадзісты, і пайшоў следам за жонкай і Тамашом. Тамаш падсунуў лаўку да століка:

— Сядайце!

Калі Цімох з Юстынаю селі, Тамаш скінуў з прыёмніка хустку і пачаў глядзець, якое ўражанне зрабіў на гасцей прыёмнік. Цімох крыху прыўзняўся і зацікаўлена глядзеў на яго, а Юстына пляснула рукамі:

— Во-ой, і што ж гэта за цацка такая?..

— А вось учуеш зараз,— сказаў Тамаш, адвярнуўшыся да прыёмніка.

— З Масквы, кажаш, музыку пачуем? — недаверліва ўсміхнуўся Цімох.— Глупства гаворыш, мусіць.

«Чакай, чакай, як зайграе, паверыш»,— падумаў сам сабе Тамаш і сеў ля стала. Успяў на галаву навушнікі і пачаў плаўна круціць рэгулятары настройкі. Цімох з Юстынаю ў напружанні глядзелі.

Раптам на твары ў Тамаша прабегла маленькая хваля разгубленасці: у навушніках нічога не было чуваць... Нават не трашчала суха, як заўсёды. Тамаш глядзеў на лямпы. Валаскі былі распалены як след, да жоўтага колеру, але апарат чамусьці маўчаў. У Тамаша ад хвалявання мацней пачало тахкаць сэрца і ўзмакрэў лоб. Рукі пачалі таропка бегаць па прыёмніку, абмацваючы кантакты. Усё было ў парадку. Тамаш пераключыў прыёмнік на другую станцыю і зноў нервова пакруціў рэгулятар. Навушнікі маўчалі. Тамаш у напружанні спыніўся: «Няўжо сапсаваўся?» — падумаў ён.

Цімох, напружваючы ўвагу, сачыў за Тамашом і абыякава кінуў:

— Што, маўчыць?

Тамаша балюча кальнула. Цімох заўважыў яго разгубленасць.

— Маня! — крыкнуў ён, стараючыся стаіць хваляванне.— Прынясі кубак вады.

Калі ён падліваў у батарэю ваду, у яго ад хвалявання дрыжалі рукі. Ён ведаў, што батарэі вада непатрэбна, бо лямпы гарэлі як трэба, але падліваў, адцягваючы час. Па

твары, сарваўшыся з лоба, прабегла першая кропелька поту.

— Напаіць трэба,— усміхнуўся Цімох, хітра падміргнуўшы Юстыне з-пад лахматых брывей.

— Так, напоім,— паспрабаваў пажартаваць і Тамаш. Але голас выдаваў яго, бо быў слабы і няўпэўнены. Калі ён зноў сеў да апарата, то адразу адчуў, што знямогся ад хвалявання. Навушнікі маўчалі, як і ў першы раз. Зрабілася горача, і Тамаш прагна выпіў рэшткі вады ў кубку. Несвядома, па звычцы, круціў рэгулятар. Сэрцам адчуваў: прыёмнік не загаворыць. У галаве снавалі спалоханыя думкі. Адзін раз, ледзь скасіўшыся, Тамаш зірнуў на брата. Той сядзеў насцярожаны, іранічна ўсміхаўся.

— Не грае?.. Эт, кінь, Тамаш, мучыцца. Вядомы гэтыя цяперашнія штучкі — глупства.

Тамаша нервова скаланула. Вось, пачалося. Цімох затопча ў гразь сынаў падарунак, а ён нічога не зможа давесці. Значыць, не збудзецца тое, чаго так чакаў Тамаш. Цімох не адкрые ад здзіўлення рот. Не напоўніцца музыкай пакой, і не стане цёпла ад радасці ўсярэдзіне Тамаша. А гэты Цімох... Цяпер ён мае права пасмяяцца з Тамаша, пакпіць над яго пахвальбою.

Нешта мулкае падкацілася пад горла Тамашу, і ад крыўды ён ледзь не заплакаў. Ён глядзеў на лямпы прыёмніка, а бачыў скуласты Цімохаў твар, расцягнуты ўсмешкай, і незразумелая злосць горача пякла яму грудзі.

— Вось табе і музыка... — прамовіў Цімох, пасміхаючыся, і нецярпліва сказаў: — Кінь, Тамаш, глупства гэта...

Значыць, канец? Значыць, трэба прызнаць, што сынаў падарунак глупства? І сцярпець, сашчапіўшы зубы, усе кпіны Цімохавы?

Усхвалёваны Тамаш зноў хутка перагледзеў прыёмнік... і зноў навушнікі маўчалі, нібы нямыя. Уся надзея на тое, што апарат урэшце ажыве, прапала. Тамаш адчыніў вечка прыёмніка, паглядзеў усярэдзіну на безліч розных дроцікаў, шпулек і замёр. Яму хацелася шапнуць, схіліўшыся, прыёмніку, нібы жывому: «Ну ж, мілы, харошы, зайграй. Дакажы, што ты можаш. Хутчэй жа...»

Але Тамаш не шаптаў, баючыся паказацца вар'ятам. Зачыніў крышку і павярнуўся да Цімоха, ціхі, сумны.

— Не грае... Сапсаваўся нешта. Учора граў...

Сказаў і замоўк, зноў уставіўшы погляд у анямелы прыёмнік. Цімох пасміхваўся:

— Ну што ж, бывае...

Выйшлі ў другую хату. Гутарка больш не ладзілася. Тамаш адказваў на звароты да яго злосна, адным-двума словамі. Праз паўгадзіны Цімох вырашыў ехаць. Тамаш не пярэчыў. Ён развітаўся суха, з незахаванай злосцю. Цімох усміхаўся і нешта гаварыў слізкае, халоднае...

### 3

Абражаны ў сваіх найлепшых пачуццях, Тамаш стаяў і глядзеў, як выязджалі за вароты госці. Яму хацелася крычаць ад злосці, вылаяць нізавошта Цімоха, і ён ледзь стрымліваў сябе. Здавалася, што Цімох, прыўзняўшы калматыя бровы, зласліва смяецца з яго.

Раптам да Тамаша падбегла вясёленькая Волька, якая трымала нешта за спіною ў маленькім кулачку. Яна спынілася ля Тамаша і, хітра ўсміхаючыся, весела прамовіла:

— Ага, дзедуска, а я не сказу табе, сто мы з Міхаськам адк'юцілі гаецку... Ага.

Тамаш крута павярнууся да яе:

— Якую гаечку? Пакажы!

Волька, трымаючы за спіною рукі, адступала ад дзеда і смяялася, падскокваючы на аднойназе:

— Не сказу, не сказу...

— Пакажы, Волечка,— наступаў дзед.

Вольцы надакучыла аднекваццa. Яна раскрыла маленькі кулачок і пакорна палажыла на руку Тамашу бліскучую гайку. Тамаш, схапіўшы на рукі Вольку, кінууся ў бакоўку.

— Дзе ж вы, Волік, адкруцілі яе?

— Вось тут,— наіўна ткнула ружовым пальчыкам Волька на вушак акна, на якім былі дзве клемы. Каля надпісу «антэна» свабодна матляўся непрымацаваны гайкаю провад. Тамаш ліхаманкава хутка схапіў яго, прыкруціў на пустую клему і ўсхвалёвана надзеў навушнікі.

...За акном праехаў, махаючы пугай, Цімох. Яго сківіцы, здавалася Тамашу, трэсліся ад унутранага стрыманага смеху.

Звыкла пакруціў рэгулятар, і... у вушы адразу пырснула спевам, вясёлым і моцным. Уключыўшы рупар, Тамаш спыніўся, захапіўшыся цікавымі спевамі. У нутро хлынула нешта радаснае, бадзёрае, хацелася — дзікае жаданне! — абняць увесь апарат, сціснуць яго старымі, мазолістымі рукамі і пацалаваць у беленькія, пасярэбраныя лямпачкі.

Тамаш устаў з зэдліка і зарагатаў. Волька ў захапленні выгукнула:

— Як хояса!..

«Вярну Цімоха, хай паслухае»,— зараз жа ўспомніў Тамаш і кінуўся за дзверы да варот. Глянуў усцяж па вуліцы і спыніўся: далёкі Цімохаў воз паварочваў у вулічку, на палявую дарогу. Спачатку Тамаш хацеў дагнаць, крыкнуць Цімоху, але раптам плюнуў сабе пад ногі і вярнуўся ў хату. Ён падумаў сам сабе: «Э, нашто я буду яго клікаць? Няхай сабе думае як хоча. Ён і жыве толькі тым, што суцяшае сябе зманам, прыкідваецца, што не бачыць нашага светлага жыцця. Бочкі з жытам, што стаяць у каморы, і так увялі яго, зайздрасніка, у злосць, пераесць нутро яму думка аб гэтым жыце...»

Тамаш узяў на рукі Вольку.

— Няхай сабе думае як хоча,— уголас сказаў ён і пацалаваў сваю ўнучку.

1937

## ДЗЕДАЎ ПРЫНЦЫП

Крылаты госць зрабіў над вёскай два кругі, бліснуў на сонцы белым крылом і, прабегшы метраў сто, сеў на ялавіне за гумнамі. Такое здаралася не кожны дзень, і вестка мігам абляцела вёску. Першымі да госця з радаснымі крыкамі бегма рынуліся ўсе вясковыя дзеці. За імі з хат пачалі выбягаць дзяўчаты і жанкі. Потым адзін за адным пайшлі мужчыны. А калі на калгасным гумне праз дзве хвіліны па нейкай прычыне спыніў работу эмтээсаўскі трактар, павалілі на ялавіну ўсім сялом.

Злез са свайго месца, каля малатарні, і дзед Мацей. Пакуль ён, нездаволена тупаючы па гумне, паспеў агледзецца, на таку ўжо не засталося ніводнага чалавека.

— Самалёта яны не бачылі,— бурчаў сам сабе Мацей,— узбегаліся, канаплянікі. Шах-мах, кінулі-рынулі ўсё і гайда! Самалёт ім цікавы...

У насцеж расчыненых варотах гумна ў зашмальцаванай спяцоўцы паказаўся трактарыст, дзедаў унук Міцька. Ён вельмі спяшаўся і на хаду крычаў:

— Сеў, сеў, дзеду! Бяжым на ялавіну!

Дзед спакойна стаў у варотах, паглядзеў услед Міцьку, які пабег да самалёта, і нездаволена перакрывіў яго:

— «Сеў, сеў, бяжым». Яшчэ не хапала, каб дзед навыперадкі з табою, канаплянікам, пабег.

Дзеда Мацея на сяле іначай не завуць, як Мацей-рэўком. Рэўком — гэта ў сэнсе рэвізійная камісія. Бо такая ўжо рыса была ў дзедавым характары, што любіў ён ва ўсім парадак. От убачыць што-небудзь, зробленае не да ладу, то абавязкова рупіць яму паказаць на гэта або і самому паправіць. Ідзе, скажам, Мацей па вуліцы, убачыць, што прызба ля хаты ў каго-небудзь не падсыпана, лаўкі, каб пасядзець можна было, няма,— адразу закрычыць:

— Эй, гаспадар! Не лянуйся, прызбу падсып, лавачку змайструй...

Зойдзе на калгасны двор, а там плуг пад адкрытым небам іржавее. Спачатку пакрычыць дзед на ўсіх, канаплянікамі абзаве, а тады ўжо сам і зацягне плужок пад павець. Усё ён прыкмеціць, да ўсяго прычэпіцца. І любілі за гэта дзеда Мацея калгаснікі, і паважалі, і, сказаць праўду, уеўся ён некаторым гультаям-неахайнікам у косці: рэўком...

Міцька паспеў ужо чатыры платы пераскочыць — так ён спяшаўся нацянькі да ялавіны, каб самалёт убачыць. Мацей жа пастаяў у варотах, патупаў туды-сюды, граблі ўзяў, падгроб каласкі на таку ў адну кучу. Агульная сумяціца як бы і не кранала яго. Але ж, патупаўшы без справы некалькі хвілін, дзед урэшце зацікавіўся:

— І што там ужо за самалёт такі?

Паставіўшы ў кут граблі, дзед Мацей выйшаў з варот і накіраваўся за гумны.

На ялавіне, проста сярод поля, стаяў невялікі трохмесны біплан. Ля яго пахаджваў апрануты ў скураную куртку малады лётчык. Ён дапамагаў невялічкай пасажырцы аслабаніцца ад рамянёў, якімі яна была прымацавана да сядзення. Дзеці бегалі вакол машыны, разглядалі яе з розных бакоў. Адны любаваліся крыламі, стройна раскінутымі ў бакі, другіх цікавіў хвост, трэціх прапелер. Бегаў з доўгай плеценай пугай і калгасны пастушок Сярожка. Жанкі і мужчыны шчыльна абступілі самалёт.

Дзед Мацей прыйшоў якраз у тую хвіліну, калі з пасажырскай адчыненай кабіны вылазіла тоненькая жанчына. Яна была апранута ў жоўтую скураную куртку, з шлемам

на галаве. Жанчына ветліва ўсміхалася і, калі вылезла на крыло, скінула шлем і прывіталася:

— Добры дзень, таварышы!

З натоўпу ёй адказалі цэлым гулам прывітанняў.

— Наш самалёт з агітэскадрыллі Аляксея Максімавіча Горкага. Прыехалі мы да вас праверыць, як вы падрыхтавалі школу для сваіх калгасных рабят — восень ужо скора,— звонка гаварыла жанчына.

— Калі ласка, калі ласка,— пачаў прабірацца праз натоўп да самалёта старшыня калгаса Ляўшак. За ім падаліся камсамольцы.

А дзед Мацей стаяў збоку і, калі ўбачыў гэтую жанчыну, то і на самалёт пакінуў глядзець, так яна яго здзівіла. Здзівіла якраз тым, што нічога незвычайнага сабою не ўяўляла. Просценькая такая, галасок звонкі. Калі шлем скінула, грабянцом валасы расчасала. Косы ў яе падрэзаныя, бялёсыя...

Некалі, год восем таму назад, Мацей ніяк не хацеў верыць расказу свайго ўнука Міцькі аб тым, што людзі прыдумалі машыну, на якой можна лятаць. Не верыў, пакуль уласнымі вачыма не пабачыў у небе небывалую птушку. З той пары ён усё хацеў пабачыць адважных людзей, што ляталі на такой машыне. Яны, па дзедаваму ўяўленню, павінны быць незвычайна моцнымі і смелымі — то ж не жарты падымацца вышэй за хмары, бачыць зямлю такой, якой яе можа бачыць толькі легкакрылая птушка. Мацей толькі аднойчы ў жыцці быў на званіцы. Калі ён глянуў уніз, на палеткі, на лугі, на хаткі вясковыя, на лес, у яго закруцілася ў галаве. Людзі ж лялалі на вышыні ў багата разоў большай, чым званіца, і яны ў столькі ж разоў павінны быць больш мужнымі і храбрымі.

А тут вылазіць з самалёта звычайная жанчына, невялічкая, тоненькая, смяецца і гаворыць пра будзённае, пра школу, ходзіць каля машыны малады бязвусы лётчык. Проста баяўся дзед і верыць, што гэта людзі-птушкі.

— Новую школу ў гэтым годзе збудавалі,— хваліўся невялічкай жанчыне Ляўшак, і яны, выбраўшыся з натоўпу, накіраваліся ў вёску.

Дзед Мацей падышоў бліжэй да самалёта — яму хацелася, каб яго заўважыў лётчык. Мацей з ахвотай пагаварыў бы з ім. Але лётчык жартаваў з дзяўчатамі. Загарэлая Фроська смяялася больш за ўсіх, крыху ламалася («што мы — дзеравенскія!») і гаварыла:

— Вельмі мы хацелі б пакатацца на самалёце. На трактары паспрабавалі ўжо.

Фроська гаварыла гэта, і ёй у галаву не прыходзіла, што лётчык сапраўды можа згадзіцца правезці яе на самалёце.

— Пакатацца? Згодзен, зараз завядзём матор.

Лётчык адвярнуўся да трэцяга чалавека, які сядзеў у машыне. Але Фроська ўзмахнула рукамі і кінулася хавацца за дзяўчат з крыкам:

— Не хочу, не хочу!

— Ну, чаго ж баяцца? — засмяяўся лётчык.

Дзед Мацей, які дагэтуль стаяў моўчкі, вырашыў умяшацца ў гутарку, завязаць знаёмства з лётчыкам...

— Кінь ты, унуча, з гэтымі сакатухамі...

— Чаму так, дзедка? — ветліва запытаўся лётчык.

Дзед падышоў да лётчыка і, не адказваючы на пытанне, ціха праказаў:

— Табе — нічога. Ты ў плячах шырокі, моцны. Арол! Але ты скажы, як гэтае цівянё з табою лётала?

Дзед Мацей кіўнуў галавою на вёску, намякаючы па жанчыну, што прыляцела на самалёце.

— Цівянё? — засмяяўся пілот і хутка павярнуўся да самалёта.— Хадзі, сядай, дзед, сюды.

— Як... Для чаго?

— Сядай, пракачу.

— Мяне, значыць, і пракоціш... і значыць, і...

Мацей не ведаў, што рабіць. Яму вельмі хацелася праехацца на самалёце, але баяўся адразу згаджацца. Зноў жа, не выпадала і валаводзіць. Дзед азірнуўся назад. Усе чакалі, якое ён прыме рашэнне.

— Кацi, дзеду, чаго там!

— Ляці!

Моладзь падбадзёрвала дзеда. Міця горача размахваў рукамі і ківаў, каб дзед хутчэй згаджаўся. Разгублена апусціўшы рукі, дзед Мацей тупаў на адным месцы і паглядаў то на лётчыка, то на калгаснікаў.

— Ну, і што ж вы думаеце. Ну, і паеду, ну...

І дзед Мацей пайшоў за лётчыкам да самалёта. Сеў туды, дзе сядзела маленькая жанчына. Калі лётчык пачаў прывязваць яго рамянямі, нейкі халадок спалоху прабег па ўсім целе дзеда Мацея. Але адступаць ужо было позна. Міця радасна махаў дзеду рукой.

— Не здавай, дзеду, толькі не здавай!

Прапелер узвіхрыў слупы пылу. Усе рынуліся ў бок

ад машыны. Дзед ужо не чуў ніякіх павучанняў Міці, а толькі бачыў, як той нешта паказваў рукамі. Лётчык, які сядзеў каля механізмаў кіравання, азірнуўся на дзеда і засмяяўся, адкрыўшы два радкі белых зубоў.

Ён нешта крыкнуў, па губах Мацей здагадаўся, што сказаў: «Паехалі».

Прапелер завыў яшчэ больш ярасна, і машына пабегла па ялавіне. Мацей сударгава схапіўся за барты самалёта. Думаў, адразу рванецца самалёт у неба, і баяўся гэтага моманту. Нават заўсёды спакойнае сэрца дзедава цяпер тахкала палахліва.

А машына бяжыць і бяжыць па полі і ўсё не адрываецца ад зямлі. Дзед не разумеў, у чым справа, паспакайнеў і нават лепш прымайстраваўся ў сваім сядзенні. «Можа, і зусім ён не падымецца?» — думаў ён.

Але вось машына пачала заварочвацца супроць ветру. Дзед убачыў натоўп вяскоўцаў. Лётчык азірнуўся на дзеда і махнуў скураною пальчаткай. Дзед не здагадаўся, што ён хоча гэтым сказаць. Адчуў толькі, як машына хутчэй ірванулася наперад і амаль адразу перастала трусіць. Дзед паглядзеў на зямлю і здагадаўся: яны плывуць ужо ў паветры. Пажаўцелая трава з кожнай секундай аддалялася ад дзеда. Здавалася яму: яны стаяць на месцы, а зямля бяжыць у іх з-пад ног. Усярэдзіне нешта сціснулася, падцягнула жывот, нават язык у роце прыціснуўся да нёба. Гэта самалёт набіраў вышыню.

Але вось ён выпрастаўся і паплыў роўна. Дзед Мацей уздыхнуў вольна, на поўныя грудзі. Ён адчуваў сябе вельмі прыемна. Над галавой — сіняе неба, унізе — жоўтая поўсць бярэзніку, рэчачка сіняй пакручастаю жылкаю, квадраты зжатых палеткаў. І ён, шасцідзесяцігадовы дзед Мацей, ляціць над гэтымі прасторамі, вольны ад зямлі, як птушка. Для большага падабенства да птушкі Мацей нават паспрабаваў рукамі ўзмахнуць. Жорсткі вецер стукнуў па далонях рук, нібы ў злосці. То дзед Мацей больш рук ужо не выстаўляў, а так проста любаваўся краявідамі, якія рассцілаліся перад ім.

Самалёт злёгку пахіліўся на адно крыло і завярнуўся назад. Дзед схапіўся за барты самалёта — яму здалося, што самалёт валіцца набок. Але лётчык азірнуўся на дзеда ўсё з той жа вясёлай усмешкай, і Мацей адразу паспакайнеў.

Вось самалёт крыху знізіўся і пайшоў над палеткамі дзедавага калгаса. Копкі жыта стаялі толькі дзе-нідзе,

жыта калгаснае ўжо звезена, на азяродзе сохне. Вось унізе плыве вялізны жоўты касяк калгаснай грэчкі. Дзед самазадаволена зірнуў уніз на грэчышча і... настрой яго адразу змяніўся.

Ён моцна закрычаў нешта лётчыку. Той праз стукат матора ледзь пачуў дзедаў крык. Азірнуўся і ў здзіўленні ўбачыў, што Мацей усхвалёвана размахваў рукамі, паказваў на нешта ўніз і штосьці крычаў. Ад напружання дзед Мацей аж пачырванеў і, мусіць, забыўся нават, дзе ён знаходзіцца.

— Спускайся! — змог толькі разабраць лётчык.

Так і не зразумеўшы, у чым справа, ён павёў самалёт на зніжэнне...

На ялавіне дзеда-рэўкома чакалі з нецярплівасцю. Міцька хваляваўся больш за ўсіх. Прыставіўшы далоні казырком да вачэй, ён перабягаў з месца на месца, каб ямчэй было сачыць за самалётам. Фроська, дык тая, ледзь самалёт пахіліцца, ажно войкала ад страху. Задраўшы ўгару бароды, глядзелі ў неба дзядзькі. Дзетвара з крыкам бегала па полі, махаючы рукамі дзеду Мацею. Пастушок Сярожка ад узрушання «страляў» сваёй пляцёнкай-пугай. Жанкі стаялі асобнаю купкай, акружыўшы Мацееву старую. У тае па твары каціліся слёзы боязі за старога, і яна глядзела на самалёт, шэпчучы сама сабе нешта незразумелае: «Хаця б жа, хаця б жа...»

— Ото ж, скажы ты, машына! — у захапленні прамовіў нізенькі дзядзька і, пакінуўшы глядзець на самалёт, пакруціў у розныя бакі галавой, каб перастала балець шыя.

Але вось хутка ўсе ўбачылі: самалёт завярнуўся супроць ветру і пачаў зніжацца.

Усіх незвычайна цікавіла, як адчувае сябе дзед Мацей, якія ў яго ўражанні пасля катання. Самалёт спыніўся недалёка ад натоўпу. Усе бегма кінуліся да самалёта.

— Ну, як, дзед? Што?..— чуліся ўскрыкі навокал.

Мацеева жонка выцірала слёзы радасці. Міцька ледзь не хадзіў на галаве. А Мацей тым часам адшпіліў рамяні, паспешліва ўстаў у кабіне, моўчкі пашукаў некага ў натоўпе. Натоўп напружана прыціх: што такое, у чым справа?

— Сярожа! — раптам закрычаў Мацей.— Ты тут, сучы сын? Каровы свае пакінуў? А яны вунь паўгектара грэчкі калгаснай зглумілі. Марш адсюль!

Пятнаццацігадовы юнак, якога дзед назваў Сярожам

і сучым сынам, шмыгнуў з натоўпу і без аглядкі пабег да пакінутага статка.

Усе ў здзіўленні маўчалі. Тады, перамяніўшы тон, дзед Мацей з захапленнем адказаў на ўсе запытанні, накіраваныя да яго:

— З самалёта мне ўсё відно было. А не то што...

Што «не то што», зразумець не мог ніхто, але ўсе ўбачылі — «рэўком» і ў небе застаўся верны сваім прынцыпам.

1937

## РОДНАЯ СЯМ'Я

### 1

Сонца хоць яшчэ і не зайшло, але ўжо схавалася за лес, калі на хутар Андрэя Бондарава з паўстанка прыйшла яго дачка Галіна, якая прыехала з Масквы да бацькі на канікулы. Стомленая і запыленая за дарогу, Галіна паставіла сярод двара свой абшарпаны студэнцкі чамадан і зморана села на яго.

— Гэй, хто ёсць у хаце! — радасная, што скончыла сваё доўгае падарожжа, закрычала Галіна, расчэсваючы грэбнем зблытаныя ветрам валасы.— Гэй! — у нецярплівасці пракрычала яна яшчэ раз.

Але ў другі раз ёй можна было ўжо і не гукаць. Праз міг у хаце насцеж распахнуліся дзверы, і адтуль, што ёсць духу, першым выскачыў чатырнаццацігадовы Пілiпка, малодшы брат Галіны, выбеглі маці, не старая яшчэ жанчына, а за ёю бацька.

— Дачушка! — кінулася да Галіны маці.

— Ну, ну, пакажыся, якая ты там вырасла,— падышоў услед бацька і, узяўшы дачку за руку, з жартаўлівай строгасцю агледзеў яе з галавы да ног.— Рабая толькі ад вяснянак, а так нічога,— засмяяўся ён.

— Ластаўкі, мусіць, пабрала,— закрычаў ва ўзбуджэнні Піліпка, рады, што і яму давялося ўставіць сваё слоўца пры сустрэчы.

— «Ластаўкі, ластаўкі»,— смеючыся, перадражніла Галіна брата,— на сябе паглядзі, які ты. Кірпаносы!

Збянтэжаны Піліпка замоўк, таму што яго нос і сапраўды выглядаў самай сапраўднай кірпай.

Ледзь прайшла першая радасць ад доўгачаканай сустрэчы і Галіна па чарзе перацалавалася з усімі — бацькам, маці, братам Піліпкам,— яна раптам азірнулася наўкола і расчаравана спытала:

— А вы ўсё яшчэ на хутары? Вось табе і на. Я меркавала, што вы ўжо даўно ў сяле.

Бацька, які дагэтуль з замілаваннем пазіраў на дачку, уздрыгнуў, адразу прыціх і, апусціўшы вочы, спахмурнеў.

— Не перабраўся яшчэ... — ціха адказаў ён.

— А Піліпка ж зімою пісаў, што вы яшчэ ўвесну думаеце перавезці хату ў калгас. Гэта ж тут так сумна. Чаму гэта вы, тата, а?

Але стары Андрэй не адказаў на пытанне дачкі. Не паглядаючы ні на кога, ён падняў чамадан.

— Пойдзем у хату, ці што?

Уся сям'я моўчкі рушыла ўслед за бацькам. Маці спачатку не хацела парушаць добрага настрою, які ахапіў усіх з прыездам Галі, і стрымлівала сябе, але, увайшоўшы ў хату, не сцярпела.

— Не перабраўся! Усе людзі як людзі, адны мы, як тыя ваўкі!

— Сціхні! — агрызнуўся раззлаваны Андрэй.— Завяла песню.

Спачатку ён намерыўся было сесці на лаву, пагутарыць з Галінай аб яе жыцці, вучобе, поспехах і няўдачах, падзяліцца з дачкой сваімі думкамі, але раптам перадумаў, рэзка махнуў рукою і выйшаў за дзверы.

— Во, стары непакора,— злосна заключыла маці, ставячы на стол пачастунак.

Узнерваваны Андрэй закурыў, прайшоў па двары, адышоўся да гумна. У апошні час яму ўсе моцна ўеліся з гэтым хутарам. На пасяджэннях праўлення старшыня калгаса штораз папякае яго, каб ён хутчэй перабіраўся ў вёску. Дома жонка не дае праходу, хоча пакінуць хутар. Цяпер зноў дачка... І так балюча, што нікога з іх не цікавіць — ці ж лёгка Андрэю пакінуць гэтае абжытае, звыклае месца, гэты апрацаваны гародзік, што ляжыць вось перад ім, маленькі ўтульны садок, засаджаны і дагледжаны ўласнымі рукамі? Родны двор...

Андрэй акінуў позіркам увесь свой хутар: нестарую яшчэ, моцна зрубленую хату, крытыя чаротам хлявы, прасторны двор, дрывотню, гумно, гарод з садзікам — да ўсяго ён тут прывык, усё абжыў. Ці хопіць жа ў яго сіл пера-

біраццa на новае месца, усё зноў нанава адбудоўваць, ладзіцца?

Але калі цвяроза разважыць, то і жонка і дачка мелі рацыю. Жыццё ў адзіноце, на хутары, і нялёгкае і нявыгаднае. Каб не спазняцца на калгасную работу, трэба паспяшаць уставаць раней за ўсіх людзей, бегчы ў сяло, а ўжо толькі адтуль зноў ісці на поле, на сенажаць. Яшчэ летам нішто, можна і прабегчы, а зімою ў завіруху-мяцеліцу, у мароз, або ўвосень, у дождж і непагадзь? Зноў жа Піліпку ў школу бегаць за чатыры вярсты ці лёгка? Нават пайсці сабе вольным вечарам, як усе людзі, у клуб, пагаманіць пра тое-сёе, пра калгасныя справы, паслухаць радыё, пачытаць газету — і такой магчымасці Андрэй не мае. А колькі разоў ён прамінаў сходы, на якіх разбіралі важнейшыя агульнакалгасныя справы і на якіх яму абавязкова трэба было прысутнічаць.

А як сумна жыць вось так адасоблена ў лесе, у адзіноце! Жонцы няма да каго хоць бы на попрадкі пайсці, сядзіць, сумуе адна ў хаце. Ды нашто ўжо што — загарыся агнём на гэтым хутары — згарыш дазвання, пакуль прыскочыць хто на дапамогу.

Такія думкі часта апаноўвалі Андрэя, калі ён прыслухваўся да ўгавораў старшыні, парад людзей, да папрокаў жонкі. І калі сказаць праўду, злаваўся Андрэй не столькі на жонку, колькі на сябе за нерашучасць пакінуць наседжанае месца. Хоць і ведаў ён, што рана ці позна павінен будзе перабрацца ў вёску — аб гэтым нават ёсць пастанова ўрада,— усё адкладваў пераезд з вясны на вясну, усё не адважваўся зрабіць гэта адразу.

Пахадзіўшы па двары і супакоіўшыся канчаткова, Андрэй вярнуўся ў хату.

— Тата,— воклічам сустрэла яго Галіна,— ты сабе можаш злавацца колькі хочаш, але ў вёску мы ўсё ж павінны перабрацца. Мы тут гаварылі з маці...

— Паслухае ён цябе, якраз,— пакрыўджана сказала жонка, прыбіраючы стол, і горка махнула рукой.

Але Андрэй нічога не адказаў ні Галіне, ні на жончын выпад, моўчкі выцягнуў з-пад лавы размочанае ў карыце лыка і пачаў плесці лапці — заўтра іх брыгада выходзіць на касьбу, а для такой справы гэта самы зручны абутак.

«Ну, калі так, чакай жа. Я нешта такое прыдумаю,— рашуча падумала сабе Галіна, пакрыўджаная бацькавай няўвагай,— абавязкова прыдумаю!»

...Назаўтра яшчэ да ўсходу сонца на хутар нечакана прыехаў на веласіпедзе старшыня калгаса Пятрэнка, малады мужчына, жвавы, бадзёры і гаваркі.

— Добрага рання хутаранам! — гукнуў ён, зайшоўшы ў двор, дзе на гэты час бацька якраз кляпаў касу.

Пятрэнка сеў побач з Андрэем, закурыў. Як выявілася, ранні візіт старшыні тлумачыўся важнай прычынай. Учора на праўленні калгаса намячалі, каго паслаць на нараду стаханаўцаў-калгаснікаў у Мінск. Вырашылі паслаць Андрэя Бондарава — лепшага касца калгаса. Ехаць на нараду патрэбна было праз два дні, і Пятрэнка вырашыў загадзя папярэдзіць аб гэтым Андрэя. А каб застаць яго дома, ён і прыехаў так рана.

— Касавіца ў разгары, а тут нарада. Як жа так? — паспрабаваў пярэчыць Андрэй, але старшыня яго супакоіў:

— Справімся і без вас, дзядзька Андрэй. Ды і едзеце вы дні на чатыры, не больш.

Стары замоўк. Задаволены, што вяскоўцы не забылі на яго і аказалі яму такі гонар, ён зноў прыняўся за работу. Пятрэнка ж, развітаўшыся, пакаціў за вароты свой самакат. У гэты час з вядром у руках і ручніком, перакінутым цераз плячо, з сенцаў выскачыла Галіна.

— Міхаська, Міхась! — паклікала яна Пятрэнку. Азірнуўшыся, той шумна сустрэў сваю былую сяброўку.

— Галіна Андрэеўна! Колькі летаў, колькі зім! Прыехала на адпачынак?

— Так, на канікулы.

— Ну, як жа маешся?

— Ведаеш...— Галіна азірнулася на бацьку. Той быў цалкам заняты работай, раз-пораз стукаў малатком, наладжваючы сваю касу.— Я хацела з табой пагаварыць. Я чула, чаго ты прыязджаў да бацькі — пасылаеце яго ў Мінск. Гэта якраз добра...

Галіна яшчэ раз азірнулася, з таямнічым выглядам схапіла Міхася за руку і павяла за сабой. Схаваўшыся ад вачэй бацькі, за варотамі, яна ціха прамовіла:

— Слухай...

І, крыху хвалюючыся, пачала нешта паспешліва расказваць Пятрэнку. Той уважліва выслухаў яе ўсхваляваную гаворку і, адразу пасур'ёзнеўшы, задумаўся. Але пасля хвіліннага роздуму твар яго праясніўся.

— Гэта ж ідэя! Давай руку, Галінка! Усё будзе зроблена па-твойму.

І моцна, па-сяброўску, пацінуў Галіне руку.

## 2

У вызначаны дзень Андрэй Сцяпанавіч рана-рана, каб не спазніцца на цягнік, ужо быў гатовы да ад'езду. Ён устаў з усходам сонца, чыста пагаліўся, памыўся, апрануў свой лепшы касцюм.

Але не паспеў пасля ўсіх гэтых збораў і паснедаць, як ужо з калгаса падкаціла па яго фурманка. Складваючы ў чамаданчык апошнія рэчы, падрыхтаваныя на дарогу, маці паглядзела ў акно.

— Ого, сам Драбок у цябе за фурмана будзе.

«Сам Драбок» — так празвалі ў калгасе сына брыгадзіра Драбка, хлапчука Толіка. Па прычыне сваёй незвычайнай прывязанасці да коней той выконваў нейкія абавязкі на калгаснай канюшні — улетку купаў у возеры «галоўнага» калгаснага жарабца, быў за фурмана, калі трэба было адвезці ў мястэчка каго-небудзь з раёна, гадаваў на канюшні «асобай пароды» лашачка. Гэта быў шустры, невялікага росту хлапчук, але любіў ён важнічаць, надзімацца, гаварыць і дзейнічаць, як дарослыя. Вось і цяпер Драбок не саскочыў, як, здавалася б, павінен быў зрабіць яго гадоў хлапчук, а павольна злез з воза, не спяшаючыся, крыху ўразвалку, нібы стомлены якою-небудзь працаю ці доўгаю дарогаю, накіраваўся ў двор. У хату ён не зайшоў, спыніўся каля акна і, цвыркнуўшы слінаю праз зубы, важна, не гаворачы ні слова, пастукаў канцом пугаўя ў раму.

— Зараз, зараз, Драбок, ужоканчаем збірацца. Зайдзі на хвілінку ў хату,— адгукнулася маці.

Але Драбок, не рухаючыся з месца, пастаяў з паўхвіліны, затым зноў з тым жа спакойным выглядам, пазіраючы некуды ў лес, прыняўся стукаць пугаўём у акно.

— Так што, папярэджваю, Глеб — конь пародзісты, пад мухамі стаяць яму тут... — пры гэтым Драбок пагардліва кіўнуў на хутар,— інструкцыя не дазваляе. Трэба, каб як хутчэй.

І спакойна пайшоў да фурманкі. Слухаючы апошнія парады і пажаданні, Андрэй ужо выходзіў з хаты. Затрымлівацца насуперак інструкцыі каля варот пародзістага каня яму не хацелася, і стары Андрэй, таропка развітаўшыся з роднымі, сеў на воз. Драбок жа, перш чым прыступіць да выканання сваіх фурманскіх абавязкаў, аглядзеў збрую, памацаў рукою пад хамутом, ці не муляе што, праверыў, ці ў меру падцягнуты церассядзельнік. Толькі перакапаў-

шыся, што збруя падагнана як след, Драбок узабраўся на сваё сядзенне, прымошчанае ў перадку. Нібы ні да кога не звяртаючыся, ён ціха зазначыў:

— Футару гэтаму церыторыю ў сяле падабралі ўжо. Но! — шморгнуў ён лейцы, узмахнуўшы пугай, і Глеб, відаць, не досыць ахвочы да бегу, рушыў шпаркім крокам.

— Што, што ты сказаў? — нагнуўся да Драбка Андрэй, але той толькі махнуў пугай.

— Нічога такога асаблівага... Но!

Нейкія цьмяныя прадчуванні ахінулі душу Андрэя. Ён азірнуўся на свой хутар. Каля варот стаяла Галіна і махала яму рукой.

— Родны двор... — ціха праказаў Андрэй,— родны двор.

— Но! — гукнуў па ўсё горла Драбок, і Глеб, падбадзёраны пугай, затарабаніўшы па дарозе возам, пабег трушком.

...Тым часам, ледзь бацькава фурманка схавалася за лесам, Галіна ўскочыла ў хату.

— Ну, маці, пакуй з Пліпкам рэчы, а я — у калгас, да Міхася.

— Так-такі ўжо і пакаваць, дачушка? — спынілася ў разгубленасці сярод хаты маці, падносячы да вачэй падол фартуха.

— Усё вырашана, маці. Пакуль прыедзе бацька, хата наша будзе стаяць ужо ў вёсцы.

Галіна накінула на плечы хустку і накіравалася цвёрдай рашучай паходкай да дзвярэй, пакінуўшы маці ў глыбокім роздуме.

Дарогу ў калгас з двух бакоў акружаў прыгожы маладзы бярэзнік, ісці лесам было прыемна і лёгка. Збіваючы ранішнюю расу, ногі пакідалі на зялёным мурагу выразныя сляды. Разам з ранішнімі далінными туманамі ў паветры плаваў пахкі верасовы настой. Хоць думкі Галіны былі заняты сур'ёзнымі справамі, усё ж не магла яна не залюбавацца хараством чароўнай чэрвеньскай раніцы. Удыхаючы на поўныя грудзі свежае паветра, Галіна адчувала сябе як ніколі бадзёрай і ў добрым настроі. Усё, аб чым думала яна раней з трывогай і хваляваннем, калі вырашала выканаць свой план, цяпер не выклікала ніякіх сумненняў. Так, пакуль прыедзе бацька, усё будзе ўжо зроблена, і яму не будзе магчымасці ні думаць, ні сумнявацца, ні хістацца. Ды і хіба бацька супроць таго, каб пасяліцца ў цэнтры калгаса,— проста прывык чалавек да свайго хута-

ра, да абжытай мясціны. Усё абыдзецца добра, толькі каб цесляры склалі хату як след, вокнамі на поўдзень, добра пераклалі бярвенні мохам.

Галіна ўподбег спяшалася ў калгас. Каля праўлення, у акружэнні групы мужчын, яе ўжо чакаў Пятрэнка.

— Усё гатова? — без лішніх слоў сустрэў ён Галіну.

— Усё,— адказала Галіна.

— Тады ідзіце на хутар і пачынайце работу,— звярнуўся ён да брыгады цесляроў.— Пасля абеду прышлю да вас першыя фурманкі па бярвенні.

...На працягу тых пяці дзён, у якія ішла перавозка бацькавага двара, Галіне з рання да вечара даводзілася шмат працаваць. Калі часам і набягалі думкі,— а што, калі к прыезду бацькаваму хата не будзе складзена, калі бацька злаваць пачне за яе свавольства, калі не так, як трэба, хата будзе пастаўлена,— то не паспявала Галіна дадумаць да канца, што ж з усяго гэтага можа атрымацца, як ужо ішлі следам дзесяткі розных спраў, якія патрабавалі неадкладнага вырашэння. То патрэбна было пад хату новую аснову палажыць, і яна клапацілася ў лясніцтве, каб далі ёй на гэта лесу; то з Піліпкам па мох ездзіла, то цвікоў патрэбна было дастаць, то ў мястэчка па фарбы адскочыць. Ды ці мала ў такі час вынікае розных гаспадарчых спраў і клопату? Добра яшчэ, што Міхась, нягледзячы на гарачы час уборкі ў калгасе, прыняў у гэтай справе самы шчыры ўдзел. Ён адпусціў на перасяленне хутара цэлую талаку людзей і падвод столькі, што на другі ж дзень хата ўжо была звезена ў сяло. У Галіны ажно сэрца радавалася, калі глядзела яна, як хутка падымаліся, раслі вянец за вянцом.

А праз пяць дзён хата старога Андрэя стаяла ўжо на новым месцы. Змецены былі пад павець трэскі, перавезены і пастаўлены вакол двара плот, прыладжаны на месца старыя вароты, і так, здавалася, быццам хата гэтая і нарадзілася тут і састарылася, усё пазіраючы невялікімі сваімі вокнамі на поўдзень, у бок выгану, дзе, час ад часу дружна гагочучы, хадзілі статкі калгасных гусей. Толькі новая аснова ды свежапафарбаваныя аканіцы вылучалі хутарскую хату з рада другіх вясковых дамоў.

Надвячоркам Галіна павяла маці і Піліпку паказаць ім новую сядзібу. Вёска ў гэты час жыла сваім заўсёдным будзённым жыццём. З пашы якраз гналі кароў, і над статкам плыла цёмная хмара пылу. З хат раз-пораз выбягалі жанкі з вёдрамі на каромыслах, спяшаліся да калодзежаў

па ваду. З песнямі і жартамі ішлі з работы касары, грабцы, усё больш моладзь — хлопцы і дзяўчаты. Старая Андрэіха, якая пражыла на хутары без малога гадоў дваццаць, адвыкла ад усяго гэтага, засумавала па вёсцы, па людзях і цяпер, расчуленая, не саромячыся, выцірала набегшыя слёзы радасці.

— Вось і наша хата,— Галіна паказала рукою на сядзібу.

Маці моўчкі паглядзела з вуліцы наўсцяж ва ўсе чатыры бакі. Потым зайшла ў двор, асцярожна, нібы баючыся, што раптам усё рушыцца ці апыніцца сном, маці адчыніла дзверы ў сенцы. Усхвалёваная, памацала рукою па дзвярах, пакуль знайшла такую знаёмую клямку ў хату. Зайшла ў пакой, азірнулася навакол і ў знямозе села на лаву.

— Дачушка мая, колькі думала я аб гэтай хвіліне, колькі сніла!..

## 3

Глыбока задуманы, Андрэй пазіраў у акно вагона. Ён знаходзіўся ў нейкім самотным настроі. За акном адзін за адным мільгалі тэлеграфныя слупы, беглі лясы, лясы змяняліся лугамі, на якіх, паблiскваючы косамі, радамі рухаліся касары, за лугамі ішлі пакрытыя асокамі балоты, далей — квадраты зялёных палеткаў, на якіх пад лёгкім ветрам гойдаліся хвалямі цяжкія каласы налітай калгаснай ярыны, за палеткамі на ўзгорках раптам вырасталі невялічкія вёскі, а за імі зноў плылі палеткі.

Андрэй пазіраў на незнаёмыя яму вёскі, незнаёмых людзей, якія клапатліва і дружна працавалі на калгасных палях і сенажацях, і ўспамінаў свой калгас. Многа новага і цікавага бачыў і чуў Андрэй у Мінску, на нарадзе. Многае ён пачуў з трыбуны, дзе побач з кіраўнікамі ўрада выступалі такія ж простыя, радавыя людзі, як ён, многае пераняў з гутарак у вольны час з людзьмі з далёкіх і блізкіх калгасаў. І вось, слухаючы ўсе тыя прамовы, неўпрыкмет для самога сябе здолеў Андрэй паглядзець на сябе збоку і ацаніць усяго сябе. Усё яго жыццё, жыццё колішняга панскага парабка, прабегла перад ім. Успомніў ён, як нараджаўся ў іхняй вёсцы калгас, успомніў свае хістанні і недавер да яго, успомніў, як пазбягаў калгаса тры вясны і як затым уступіў у яго і знайшоў для сябе там новае, нязведанае, светлае жыццё.

«Ўдзячнасці ў нас мала»,— думаў сам сабе Андрэй, да болю адчуваючы сябе вінаватым перад некім. Убачыўшы ў акно, як у канцы нейкага сяла будавалася і вырастала цэлая новая вуліца,— хутаране ссялялі свае сядзібы,— ён з горыччу падумаў і пра свой хутар. Навошта ён так моцна трымаецца за яго? Дзеля чаго? Якія радасці прынёс яму ў жыцці гэты хутар, на які ў маладосці пакладаў ён столькі надзей, і колькі нястачы і невыгод перажыў ён там?

Так ён усё стаяў і моўчкі пазіраў на мільгаючыя за вокнамі краявіды, стаяў аж датуль, пакуль цягнік не прымчаўся да роднага паўстанка.

Цягнік тут стаяў нядоўга, і Андрэй хуценька вылез з вагона. Не ўбачыўшы на паўстанку нікога знаёмага, Андрэй сабраўся ўжо было ісці дахаты пеша, але ледзь ён мінуў будынкі, як убачыў за шуркамі дроў падводу і Драбка. З сумам у вачах той павольна зганяў мух са спіны свайго пародзістага Глеба.

— Машкара розная нападае на яго, нельга проста цярпець,— спакойна зазначыў Драбок і, па-гаспадарску падгробшы з-пад каня сена, ускінуў яго на воз.

Стомлены доўгай дарогай, Андрэй з радасцю сустрэў Драбка. Яшчэ большая прыемнасць ахапіла яго, калі ён даведаўся, што Драбок прысланы спецыяльна і што нават ён ужо прыязджаў сюды па яго ўчора.

Такая ўвага калгаса расчуліла старога Андрэя. Ён доўга ехаў і маўчаў, задумёна пазіраючы ўсцяж, на збажыну, што сцяною стаяла з абодвух бакоў дарогі, злёгку хістаючыся пад ветрам і гамонячы налітым коласам.

Драбок таксама ехаў моўчкі. Толькі час ад часу, калі разmoраны гарачынёю Глеб канчаткова «здаваў тэмпы», ён шырока ўзмахваў пугай і шмаргаў лейцы.

— Но, но! — І потым, знявераны ў Глебавай чыстапароднасці, пязлосна дабаўляў: — Чорта з два, мусібыць, ты такі пародзісты. Толькі паскудзіш фабрычную марку.

Але Глеб не зважаў на гэтыя злосныя выпады Драбка. На кожны замах пугі ён прывычна ўзмахваў хвастом, заадно зганяючы з сябе надакучлівых мух, і працягваў без асаблівага форсу бегчы павольным труцком.

Раптам Андрэй павярнуўся да Драбка.

— Што там у калгасе, Драбок, навіны якія-небудзь ёсць?

Драбок хутка ўскінуў на Андрэя позірк і апусціў вочы. Хітраватая ўсмешка паказалася на яго вуснах.

— Нічога такога няма. Но!

— Балота прыбралі ўжо?

— Учора касілі ўсім сялом — скончылі! Не сена, а чай кітайскі, за́пагадзь да апошняй травінкі прыбралі.

— Вось бачыш, як добра! Цяпер луг засталося скасіць — і ўсё. Жыццё...

Андрэй крыху памаўчаў, задумліва пазіраючы на шумлівую збажыну. Такое жыццё: усё талакой, гуртам. Чалавек адзін — што ён ёсць? Калектыў жа якую хочаш сілу можа пераадолець.

Андрэй загаварыў і, ужо як бы не маючы сіл стрымаць свае думкі, не спыняючыся, спяшаўся гаварыць і гаварыць. Нават не цікавячыся, ці слухае яго Драбок, ён гаварыў пра ўсё-ўсё таропка і крыху заблытана — пра сваё жыццё, пра калгас, пра светлыя сялянскія мары аб сваім будучым, пра нараду, на якую ездзіў у Мінск, пра людзей, з якімі давялося сустракацца.

Мінуўшы поле, яны ўехалі ў невялікі лясок, і на іх прыемна павеяла халадком. Драбок, які дагэтуль цярпліва слухаў Андрэя, раптам перапыніў яго:

— Вы пра калектыў казалі, што гэта — добра. А самі на хутар ад людзей староніцеся.

Збянтэжаны Андрэй рэзка адказаў:

— Ты да чужой болькі не дакранайся, калі нічога не разумееш. Можа, мяне так розум дурны паблытаў. Хіба я вінаваты? А людзей я не старанюся,— вось прыеду, падам заяву на праўленне, каб дапамаглі...

— Значыць, вырашылі перабірацца? — усміхаючыся, спытаў Драбок.

— А то як жа... — цвёрда адказаў Андрэй.

— Вось і добра,— весела сцебануў пугаю каня Драбок.

І якраз у гэты час яны выехалі на ўзлессе, дзе дарога раздзялялася на дзве — адна, пратораная, вяла полем у вёску, а другая, ледзь прыкметны, зарослы травою летнік, бегла на Андрэеў хутар. Скіраваны рукою Драбка, конь пайшоў проста ў вёску. Заняты гутаркай, Андрэй спачатку і не заўважыў гэтага. Але калі наперадзе паказаўся знаёмы масток, перакінуты цераз невялікі ручай, Андрэй спахапіўся.

— Ты што ж, у вёску мяне вязеш?

— Загадана, каб у вёску,— адказаў Драбок, безуважна падпраўляючы пугаўём набедрыкі, якія праз усю дарогу спаўзалі то на адзін, то на другі бок Глебавай спіны.

— Чаго ж мне ў вёску? Мне спачатку дахаты... То я злезу хіба, пеша пайду.

І стары Андрэй на хаду саскочыў з воза.

— Тпру, тпру! — нацягнуў лейцы Драбок. Калі Глеб канчаткова застыў на месцы, лена абмахваючыся хвастом, Драбок павярнуўся да Андрэя.— Лезьце зноў у воз, дзядзька. Не загадана было мне расказваць, таму і маўчаў. Хутар жа ваш ужо ў вёсцы.

— Як... у вёсцы? — ажно пахіснуўся Андрэй.

— Натуральна, у вёсцы. Па суседству з нашай хатай, на гуляшчым пляцу пастаўлены. Дачка ваша, Галінка, папрасіла калгас ад вашага імя. Так што сядайце, а то... — і Драбок дзелавіта, нібы нічога асаблівага не здарылася, пачаў зганяць з Глеба мух.

Андрэй утароплена паглядаў на Драбка, не рухаючыся з месца.

— Чакай... ты гэта праўду?

— Навошта ж мне хлусіць? Сядайце.

Андрэй моўчкі, нерашуча сеў у воз.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Вось і мой родны двор...— ціха прашаптаў Андрэй. Прыціхлы, усхвалёваны, ён, не адрываючыся, глядзеў на сваю абноўленую сядзібу, нібы ўросшую ў калгасную вуліцу, і на твары яго знаходзілі адбітак і радасць, і здзіўленне, і неспакой.

— Родная сям'я,— прамовіў ён, знаходзячыся ў нейкім зачараваным зняменні, не маючы рашучасці ні зайсці ў двор, ні крануцца з месца.

— Тата, тата прыехаў! — раптам пачуўся на двары вясёлы голас Галіны. Праз міг яна ўжо выскачыла на вуліцу. Выскачыла і, убачыўшы бацьку такім задумёным, у нерашучасці спынілася каля варот.

Андрэй павольна падышоў да дачкі. У нейкім забыцці ён зняў з галавы шапку, выцер на лобе пот. Асцярожна абняў дачку, ледзь чутна прамовіў:

— Гэта ж і ёсць наш родны двор, родная сям'я,— ён прасцёг руку, паказваючы на вёску,— наш калгас. Ты даруй мне, старому. Даруй, дачушка...

1939

## ЛЯ СТАРОЙ БЯРОЗЫ

Дзеда звалі Ігнась, а ўнучку — Надзейка. Набраўшыся за рукі, яны ішлі па дарозе, і дзед на хаду расказваў дзяўчынцы казку. Але дзед быў стары і слабы, гаварыў ціха, часта замаўкаў і доўгія хвіліны збіраўся з думкамі, а казка была цікавая, і Надзейка ўся гарэла ад нецярплівасці. Раз за разам яна прыскорвала дзеда:

— Ну, а далей, дзядусю, што было далей?

Маленькі, увесь сухі ад старасці Ігнась спыніўся. Белыя валасы на яго непакрытай галаве заварушыліся ад ветру, нібы жывыя.

— Сядзем, унучка. Не хочуць далей несці мяне мае ногі.

Дзед і ўнучка сышлі з дарогі і прыселі на мурог каля бярозы. Яны недалёка адышлі ад сяла, але ім і не трэба было нікуды спяшаць, яны проста выйшлі надвячоркам прайсціся. А сяла таго, уласна, і не было — вуліца, як глянуць, чарнела папялішчамі, у два рады тырчалі ў неба сіратлівыя коміны, высіліся абгарэлыя таполі, стаялі чорныя сады. Замест хат паблізу папялішчаў збудаваны былі шалашы, выкапаны зямлянкі, і ўгару з іх павольна віўся дымок.

— Ну, хутчэй жа, дзеду...

Стары падняў галаву. Вочы яго, пацягнутыя павалокай слёз, паглядалі кудысьці далёка, нібыта ў далячынь гадоў.

— Вось вынесла ветрам той карабель у мора. Узнялася навальніца. Хвалі пачалі заліваць судно, вецер ажно прыгінае да вады мачты. Потым раптам ударыў пярун у паганы той карабель, і рассыпаўся ён увесь, рассыпаўся, пачаў тануць. Бачыць цар Ірад — няма яму ратунку, пачаў енчыць ад жаху. «Ратуйце,— крычыць,— людзі добрыя». Мора ж шумела так, што голасу Ірадавага ніхто не чуў.

Дзяўчынка ажно затаіла дыханне, яе блакітныя вочкі загарэліся агнём.

— А далей, далей?

— Ну, апынуўся Ірад у моры, захлынаецца, крычыць. Углядаецца — аж вакол і не вада зусім, а чорная, па смаку падобная кроў. Так захлынуўся Ірад у моры чорнай крыві.

— Ох, як страшна,— жахаецца Надзейка.

Дзед змоўк. Дзяўчынка прыпала да яго ног, стаілася...

Куды панесліся яе дзіцячыя думкі? Стары ціха гладзіў дзяўчынку па галаве.

— Дзеду, а татка наш жывы? Хутка вернецца? — спытала раптам дзяўчынка.

— Вернецца, унучка, як жа, вернецца...

— Ён выратуе нас, праўда? Ён прыйдзе і паб'е ўсіх немцаў? Праўда, дзядусю, а?

— Праўда.

— А тады мы пабудуем сабе новую хату.

— Як жа, пабудуем...

За лесам танула сонца. Каля рэчкі пачала кукаваць зязюля, адлічваючы некаму доўгія гады жыцця. Дзяўчынка прыціхла, пачала сама сабе лічыць: раз, два, тры, чатыры...

У гэты час, уздымаючы пыл, на дарозе паказалася машына. У ёй было тры немцы. Худы, з востра вытыркнутым кадыком камандзір карнага злучэння капітан Краус, малады светлавалосы лейтэнант і шафёр. Капітан быў п'янаватым. Халодныя светла-шэрыя вочы яго былі бяздоннымі, як сама пустата.

— Вы бачыце, Вілі, наперадзе папялішчы і шыбеніцы? — адкінуўшыся на сядзенні, спытаў ён лейтэнанта, і кадык яго захадзіў хадуном, як жывы.— Яны радуюць маю душу салдата, гэта агнём і крывёю ўсталёўваецца на зямлі наша ўлада. Мы ідзем да яе скрозь слёзы і кроў рускіх.

Капітан закурыў сігару.

Холадна, з пагардай азіраў ён чужую для яго рускую дарогу, абсаджаную бярозамі, глядзеў на палеткі і лугі. Яму хацелася даць маладому лейтэнанту ўрок, паказаць на практыцы, што такое рускія і як трэба з імі абыходзіцца.

— Стой,— раптам загадаў ён шафёру.

— Вунь, бачыце, Вілі, пад бярозай сядзіць стары з дзіцем. Падыдзем да іх.

Машына спынілася. Убачыўшы немцаў, дзед Ігнась насцярожана падняў галаву. Дзяўчынка, захапіўшыся, усё яшчэ ціха лічыла сама сабе гады, абяцаныя зязюляй: пятнаццаць, шаснаццаць... Калі немцы наблізіліся, дзед устаў, ціха сагнуўся ў паклоне.

— Я баюся іх, дзеду,— прытулілася Надзейка да старога.

Сухі і няскладны немец з халоднай усмешкай кінуў лейтэнанту:

— Глядзіце, ён кланяецца, але ён ненавідзіць нас. Я бачу іх наскрозь. Стары,— звярнуўся капітан да Ігнася, і кадык яго зноў захадзіў хадуном,— гэта немцы спалілі вашу вёску?

— Немцы,— ціха адказаў Ігнась. Ён прыгарнуў да сябе Надзейку і пагладзіў яе рукою.

— За што ж яны спалілі? — з прытворнай цікаўнасцю спытаў немец. Стары маўчаў.

— За што? — нецярпліва перапытаў немец.

— Нізавошта...— з сумам сказаў стары.

— Ах, які жаль,— спачувальна падхапіў немец і звярнуўся да лейтэнанта: — Глядзіце, Вілці, перад вамі прыклад ілжывасці рускай душы. Мы спалілі гэтую вёску за тое, што паблізу яе на стыку дарог быў спушчаны пад адхон наш воінскі эшалон.

Ім авалодала раздражнёнасць. Ён задумаў адзін невялікі «ход канём», каб паказаць маладому лейтэнанту, як павінен сябе трымаць немец у Расіі. Але пакуль што ён працягваў гульню.

— І дзе вы цяпер жывяце? — спытаў ён старога.

— У зямлі, пане, у зямлі,— ціха адказаў стары.

— Які жаль,— зноў паспачуваў капітан. Ён падышоў ушчыльную да Ігнася: — Скажы, ты ненавідзіш нас, праўда, ненавідзіш?

Стары маўчаў. Вочы яго патухлі, твар застыў непранікнёнай маскай. Ён толькі ціха гладзіў па галоўцы Надзейку.

— Ты не бойся,— усміхнуўся немец,— скажы, ненавідзіш, а?

Але дзед маўчаў. Спалоханая Надзейка яшчэ шчыльней прытулілася да яго.

— А ты? Ты таксама ненавідзіш? — намерваючыся ўзяць Надзейку за плячо, спытаўся немец. Але не паспеў ён дакрануцца да Надзейкі, як тая рэзка адскочыла ўбок. Вочкі яе загарэліся агнём.

— Глядзіце, Вілці, гэтая звярушка таксама ненавідзіць нас. Яны ўсе ненавідзяць нас. Дзяўчынка,— закрычаў капітан, пацягнуўшыся рукою да кабуры.— Дзяўчынка, ідзі да мяне, не бойся. Я не зраблю табе нічога дрэннага.

Але Надзейка адбеглася яшчэ далей, азірнулася і стала. Потым яна пачала гукаць дзеда:

— Дзеду, хадзі сюды...

Немец выцягнуў з кабуры пісталет. Парабелум цьмяна бліснуў у яго руках.

— Глядзіце, Вілі...

Капітан лёгка ўскінуў руку. Дзяўчынка ўскрыкнула і пабегла да раллі, пераскокваючы задзірванелыя купіны зямлі. Дзед кінуўся да немца.

— Божа мой, пане, за што?

Амаль не цэлячыся, немец стрэліў раз і другі. Надзейка спатыкнулася. Яна яшчэ прабегла некалькі крокаў сагнуўшыся, нібы нешта збіралася падняць з зямлі, і не магла спыніцца. А затым упала...

— Мы павінны ненавідзіць іх,— спакойна сказаў немец.— Іх кроў ёсць наша перамога.

— Божа мой... за што? — ціха, ужо слабым голасам паўтарыў дзед і ў знямозе апусціўся на зямлю.

— Эй, стары, ты ненавідзіш нас, а? Ненавідзіш? — голасна, нібы глухому, закрычаў капітан, нагінаючыся над старым, і засмяяўся. Потым зірнуў на гадзіннік, коратка кінуў:

— Нам пара.

Немцы павярнуліся і пайшлі да машыны. Капітан зноў закурыў сігару, потым ён узяў пад руку маладога лейтэнанта.

— Вам не зразумела, чаму я не зрабіў трэці стрэл? Вам скора гэта будзе ясна.

Раптам яны пачулі ззаду крык. Яны азірнуліся. Стары Ігнась падняўся з зямлі. Ён выпрастаўся на ўвесь рост і ўзняў над галавою рукі ў праклёне. У перадвячэрнім змроку яго постаць здавалася тонкай і высокай.

— Ірады! — хрыплым крыкам з гневам і болем пракрычаў дзед.— Крывавыя ірады!

— Я толькі хацеў, Вілі, каб вы пачулі, як яны ненавідзяць нас,— сказаў немец і, павярнуўшыся, даў яшчэ адзін стрэл.

Нібы звалены ветрам, стары ўпаў на дол.

На зямлю паволі апускаўся вечар. Каля рэчкі ўсё яшчэ кукавала зязюля.

Гэта адлічвала яна бяссмерце той дзяўчынцы, што ляжала папярок разоры ў крыві. Гэта прарочыла яна чорную смерць нямецкім гадам.

1943

# ПАЛАНЯНКА

Палявою сцежкай, між жытоў, уподбег паспяшала да рэчкі дзяўчына. На бягу яна разпораз трывожна азіралася навокал, прытрымліваючы рукою напоўнены нечым фартух.

У небе ледзь прыкметнаю кропляй пад самым сонцам вісеў жаваранак. Песня яго срэбрам лілася з блакітных вышынь. Цёплы жнівеньскі вецер хваляй прабягаў па жаўцізне налітых жытоў, і жыты адгукаліся на песню жаваранка ціхім шумам спелага коласа.

Але гэта быў чужы вецер, і чужыя жыты шумелі коласам на чужой нямецкай зямлі.

На крутым высокім беразе дзяўчына спынілася. Азірнулася яшчэ раз і збегла з кручы да вады. Густыя травы пакрывалі бераг рэчкі. Пахілая вярба прасцёрла галлё над ціхай вадой. Дзяўчына глянула ўсцяж па рэчцы. Ціхія воды плылі між ніцых лоз і травы, сярод лугоў і палёў. Сярод чужых лугоў і чужых палёў.

Дзяўчына села на траву, разгарнула фартух,— там былі кветкі. Поўны фартух няхітрых палявых красак — махрыстай валошкі, пахучага са слязою расы на лісцы чабору, беленькага з жоўтым рамонка. Дзяўчына назбірала толькі такіх кветак, якія раслі там, на яе далёкай радзіме.

Дзяўчына закрыла вочы, прыпала тварам да красак. І вось, як жывыя, усталі перад ёю радзімыя палі і лугі, лясы і азёры, жаданым прывідам усплыло роднае палескае сяло і бацькава хата. І яшчэ ўспомніўся ёй родны шырокі прыгажун Дняпро.

Чым вымераць смутак беларускай дзяўчыны-паланянкі па далёкай сваёй радзіме? Што ёсць больш пакутнага за нямецкую няволю?

Але вось дзяўчына ачнулася. Пахілая вярба самотна прашумела лісцем над ёю. Таропка і спрытна дзяўчына пачала плясці вянок. Плясці, як, бывала, на купалле пляла з падружкамі, пускала на ваду, гадаючы, што прынясе ёй лёс.

Што чакае яе? Ці так вось і застанецца яна парабчанкай у нямецкай няволі, ці яшчэ давядзецца ступаць яе нагам па палях і лугах вызваленай радзімы? Загіне тут, на чужыне, сярод нелюдзей, ці яшчэ пачуе родны Дняпро яе песню, звонкі дзявочы голас?

Цёплы ветрык прабег па нерухомай роўнядзі ракі, і

ўзнятыя ім дробныя хвалі раптам бліснулі на сонцы залатымі іскрамі. Бліснулі і гулліва пабеглі ўслед за ветрам, усцяж па вадзе. Сціхнуў ветрык, згаслі іскры, і зноў нерухомай стала празрыстая рачная роўнядзь.

Дзяўчына затаіла дыханне, асцярожна пусціла вянок на ваду.

Паплыве ці патоне?

У гэты час на круцізне берага вырасла постаць. Тоўсты абрузглы немец з кручы пазіраў на дзяўчыну, у злосці пахлёстваючы сябе стэкам па наглянцаванай халяве.

— Эй, рус дзеўка. Ты пакінуль работу? Сука! Марш цурук! — скамандаваў немец, увесь наліваючыся крывёю ад гневу. — Ты чуеш?

Але дзяўчына не слухала немца. Не адрываючыся, яна сачыла за вянком. Падхоплены рачною плынню, той, спачатку ціха, а затым усё хутчэй, паплыў па рацэ, і апраменены сонцам кветкі горда закрасаваліся над вадой.

— Паплыў...— ледзь чутна, з захапленнем прашаптала дзяўчына.— На шчасце...

У шалёнай злосці немец скаціўся з кручы.

— Сука! Ты так слухаеш свайго гаспадара?

Падскочыў да дзяўчыны, замахнуўся лакіраваным стэкам. Дзяўчына крута павярнулася да немца. Вось ён стаіць перад ёю, яе гаспадар, тоўстая ненавісная брыда. Вочы дзяўчыны бліснулі гневам.

— Вось табе, сука!

Стэк секануў дзяўчыну па плячы. Яна ўся ўздрыганулася, нібы пранізаная токам. Немец ударыў яшчэ і яшчэ раз.

— Вось!

Раптам дзяўчына схамянулася. Нечакана пахіснулася, падхапіла з берага амыты вадою галыш. Немец ад неспадзеўкі жахнуўся, адступіў на крок назад, але — позна. З усёй сілай камень апусціўся на падатлівую мякаць скроні. Немец ціха ахнуў, і тоўстае цела яго павольна апусцілася на траву.

А вянок плыў і плыў па рацэ, і кветкі яго ўсё так жа горда красаваліся над вадой.

Дзяўчына даткнулася нагою да цела — мёртвы. Тады яна азірнулася — там, за ракою, на ўсходзе, ляжала яе далёкая радзіма. Дарагая сэрцу радзіма! Легкакрылай ластаўкай паляцець бы туды, паплыць па небе белаю хмаркаю.

Трывожна шуміць над вадою лісце пахілай вярбы, і калышуцца пад ветрам буйныя прыбярэжныя травы.

Некаторы час дзяўчына стаіць на беразе ў нерашучасці і роздуме. А затым — уваходзіць у ваду і, узмах за ўзмахам, плыве праз рэчку.

На ўсход...

1943

## У ІМЯ РАДЗІМЫ

Мне надоўга запомніўся адзін асенні вечар у бранскай пушчы. На прывале каля агню баец-аўтаматчык прачытаў нам трапіўшае да яго праз людзей пісьмо з акупіраванай фашыстамі роднай мясцовасці. Баец гэты быў немалады ўжо чалавек, да вайны калгаснік, родам з-пад Гомеля, па імені Іван Корзун. Ён быў ціхі і маўклівы чалавек, хадзіў увесь час смутны, нібы насіў на душы нейкі цяжар. І толькі ў баі перайначваўся. У баі ён увесь ажываў, біўся з ярасцю, і на яго аўтамаце было сорак тры зарубкі—па адной на кожнага забітага фашыста.

Шчыльным кругам мы сядзелі вакол агню і слухалі тое пісьмо, а над лесам нізка-нізка плылі цяжкія асеннія хмары. Мне запомнілася і тое пісьмо і асенні вечар. Я дагэтуль нават памятаю роўны голас байца і яго твар — абветраны, суровы, з зарубцаваным следам асколка нямецкай міны на скіўцы.

А яшчэ запомніўся мне аднастайны і роўны шум пушчы, што стаяла ўся ў красе асенняга золата.

Пісьмо пісала нейкая дзяўчына.

«І яшчэ хацела я напісаць вам пра нашага сельскага старасту Тараса, як ён жыў і як памёр. У нас у сяле спачатку казалі, што ён гад і прадажная шкура, а ён не гад, а герой, і прашу вас перадаць аб ім у газеты, каб усе гэта ведалі.

У наша сяло гітлераўцы ўварваліся ў жніво. Па загаду старшыні калгаса Раманюка ўсё, што было намалочана, мы падзялілі па працаднях і пахавалі ў ямы. А тое, што стаяла ў копах, павінны былі спаліць. Стары Тарас быў у «Камунізме» за палявода. Гэта ён і засяваў тое поле і прыбіраў, і ён плакаў, калі прыйшлося знішчаць дабро. Спа-

чатку Тарас адмовіўся паліць тарпы. На гэта Раманюк змаўчаў, ён і сам ледзь не плакаў, з болем паглядаючы на поле і на Тараса. І таму, што ён маўчаў і не мог сказаць ні слова, стары Тарас узяў і запаліў поле. На развітанне яны пацалаваліся. Раманюк пайшоў у Цёмныя Астравы, дзе павінен быў асталёўвацца толькі што арганізаваны партызанскі атрад, а Тарас вярнуўся ў вёску.

У сяле ўжо гаспадарылі немцы. Камендант воласці Кубец прызначыў у «Камунізме» сельскім старастам былога млынара Мухіна. Гэты юда выслужваўся перад акупантамі як толькі мог. Праз яго ў нашым сяле было праліта нямала нявіннай крыві і слёз. Гітлераўцы забралі ў нас усё, што трапіла ім пад руку, а за тое, што паблізу нашай вёскі партызаны падарвалі поезд, яны, па ўказцы Мухіна, спалілі паўвёскі.

Партызаны прыслалі Мухіну пісьмо з папярэджаннем, што днямі яго чакае смерць. Напалоханы Мухін паказаў пісьмо Кубецу, але той толькі засмяяўся. «Не,— гаворыць,— пане Мухін, працуй спакойна, мы гэтага не дапусцім». Але ўжо назаўтра Мухіна знайшлі каля прысад з прастрэленай галавой.

Кубец прызначыў другога старасту, нейкага прахадзімца, сляпога на адно вока, Стоўбіка. Стоўбік займаўся тым, што шпіёніў за сялянамі, усялякімі хітрасцямі выведваў, дзе яны хаваюць хлеб і пажытак, і затым перадаваў гэта немцам. Партызаны забілі здрадніка, укінуўшы ноччу ў яго дом гранату.

Два тыдні ў нашай вёсцы не было старасты, немцы не маглі знайсці халуя на гэты пост. Потым яны выкапалі яшчэ аднаго нейкага зарэчанскага капакрада. Той пратрымаўся ў сяле месяц. Да яго мёртвага цела партызаны прыкалолі запіску: «Так будзе з кожным, хто паспрабуе здрадзіць сваёй Радзіме».

Тады Кубец прыехаў да старога Тараса і прапанаваў яму быць старастам. Тарас адмовіўся, спаслаўшыся на старасць і нездароўе. Але Кубец толькі засмяяўся ў адказ. «Я вас,— гаворыць,— добра разумею, вы баіцёся партызанскай расправы. Але я вам раскажу сакрэт. У вашай вёсцы з заўтрашняга дня будзе стаяць гарнізон. Тут будуць пабудаваны воінскія склады, і вам не трэба будзе баяцца партызан». І дадаў, што ў выпадку згоды яго паслугі будуць высока ацэнены, а калі ён адмовіцца служыць «новаму парадку», яго могуць расстраляць як прыхільніка бальшавікоў. Кубец даў старому Тарасу суткі на роздум.

У Тараса ў той час была невялікая сям'я: ён ды двое ўнучат — Андрэйка і Волька. Жонка Тараса памерла за год да вайны, два сыны яго былі ў Савецкай Арміі, нявестку, маці тых унучат, немцы кудысьці выправілі. Стары Тарас калаціўся над сваімі ўнучатамі, бо ён быў ім і за бацьку і за маці. Пагроза Кубеца прывяла яго ў роспач. Ён зжаўцеў і ўвесь асунуўся ад думак за тыя суткі. А потым пайшоў да каменданта і даў сваю згоду быць старастам.

Усё сяло дзівілася — вось, значыць, што хаваў гэты чалавек на душы. І ўсе праклiналі Тараса, калі ён хадзіў ад хаты да хаты, загадваў ісці на будаўніцтва нямецкіх складаў.

А таго ніхто не ведаў, якія пакуты перажываў гэты чалавек. Кубец аднойчы пахваліў Тараса і дадаў: «Бачыш, партызаны цяпер баяцца і паказвацца ў нашу вёску — ты жывы». Сцяўшы зубы, Тарас падзякаваў за пахвалу, але ён ужо не мог больш цярпець сваёй здрадніцкай халуйскай пасады. Ён ненавідзеў акупантаў і ненавідзеў Кубеца, як толькі можа ненавідзець іх савецкі чалавек. І ён адважыўся і пайшоў у лес, да Раманюка, раскрыўся яму ва ўсім і папрасіў даць яму прытулак у атрадзе. Раманюк спачатку доўга маўчаў і думаў, а затым абняў за плечы Тараса і адышоўся з ім у бок ад людзей. Яны доўга гутарылі аб нечым.

Пасля той гутаркі як быццам нічога не змянілася. Стары Тарас па-ранейшаму працаваў старастам. І ён нават стаў яшчэ больш паслухмяным для немцаў, пачаў выслужвацца перад імі. Усе мы праклiналі яго і нават хацелі спаліць яго хату. Але ў хаце яго жыў начальнік гарнізона лейтэнант Краус, і да іх нельга было дабрацца — іх хату вартавалі і ўдзень і ўночы.

А таго з нас ніхто не ведаў, што стары Тарас служыў партызанам. Ён даносіў ім усе звесткі пра рух і перамяшчэнне гітлераўцаў па нашаму бальшаку, пра колькасць і ўзбраенне бліжэйшых гарнізонаў. Ён указваў партызанам мясціны на чыгунцы, якія слаба ахоўваюцца. Ён краў у акупантаў і дастаўляў Раманюку ўзрыўчатку, тэлефонны кабель, батарэі для радыёпрыёмніка, паперу для лістовак. Ён дастаўляў партызанам харчы, а пры выпадку забяспечваў іх зброяй і патронамі. Гэта было вельмі цяжка старому Тарасу. Каб не ўпасці ў падазрэнне, ён павінен быў крывіць душой. Краус адчуваў, што ў гарнізоне творыцца нешта няладнае, але ён яшчэ не здагадваўся, што

ўсе непаладкі зыходзяць ад старасты. І яны ўдвух сядзелі за сталом і абмяркоўвалі, як ім адшукаць злачынцаў і расправіцца з імі. А пасля Тарас уночы, цішком, у прызначаным раней месцы сустракаўся з Раманюком і прасіўся, каб вызвалілі яго ад гэтай пакуты. Але яны яшчэ не ўсё зрабілі, што трэба было, і Тарас па-ранейшаму нёс свой абавязак. І што было найбольш цяжка яму, то гэта пераносіць нянавісць, якою акружалі яго аднавяскоўцы.

Хутка немцы закончылі абсталёўваць чатыры склады. Яны назвозілі сюды многа дабра, гэта былі вялікія перавалачныя склады. Немцы іх пільна бераглі, вакол стаяла ўзмоцненая варта. Але стары Тарас увесь час прысутнічаў на будаўніцтве, ён тут ведаў усе хады і выхады. Цёмнай ноччу ён дапамог партызанам пракрасціся да тых складаў і ўстанавіць міны. А на світанні ўсе чатыры склады былі ўзарваны.

Гэта быў цяжкі ўдар для ворага, і начальнік гарнізона лейтэнант Краус не знаходзіў сабе месца ад злосці. А потым ён нейкім чынам даведаўся, што ўзрыў складаў — справа рук Тараса, і загадаў арыштаваць старасту. Слёзы засцілаюць мне вочы, калі ўспамінаю я жахлівую смерць нашага дарагога брыгадзіра. Тры дні і тры ночы глуміліся над ім каты. Яны закапалі жывымі ў зямлю Тарасавых унукаў, Андрэйку і Вольку. Яны спаласавалі Тараса шампаламі, выразалі на целе чатыры зоркі — за кожны склад па зорцы — і пасыпалі раны соллю. Яны білі яго, адлівалі вадой, зноў білі і ўсё пыталіся пра партызан, але стары маўчаў. Ён не адмаўляўся ад таго, што сам прымаў удзел ва ўзрыве, але пра партызан маўчаў.

На чацвёрты дзень досвіткам гітлераўцы ў канцы сяла пабудавалі шыбеніцу і, сагнаўшы туды ўсіх, ад старога да малога, пры людзях павесілі Тараса. Перад смерцю на памосце стары паспеў сказаць усяго некалькі слоў: «Бывайце, людзі добрыя, за вас, за праўду паміраю...» А больш нічога і не сказаў — каты выбілі з-пад яго ног апору.

Ашалелыя ад злосці фашысты дашчэнту спалілі вёску.

Партызаны забралі Тарасава цела, пахавалі яго непадалёк ад вёскі, а над магілай насыпалі высокі курган. І Раманюк ля таго кургана пакляўся адпомсціць ворагу і за пакутніцкую смерць Тараса і за ўсіх нас. І ўжо нямала тых гадаў знайшлі сабе смерць на палях Гомельшчыны, нямала варожых паяздоў паляцела пад адхон, адно ж вогненная помста Раманюкова не гасне, а ўсё больш разгараецца...»

Баец скончыў чытаць, і ўсе мы некаторы час сядзелі моўчкі, нібы скамянелыя, кожны паглыблены ў свае думкі. Мы думалі пра жыццё і смерць старога Тараса, палявода з калгаса «Камунізм». А над пушчай па-ранейшаму нізка плылі асеннія хмары, і лес шумеў аднастайным і роўным шумам. А потым баец нечакана для ўсіх ціха сказаў, што Тарас быў яго бацька, а Андрэйка і Волька родныя дзеці. І калі ён сказаў нам гэта, слёзы раптам заслалі яго вочы, але ён не саромеўся і на віду ва ўсіх выцер іх рукавом.

І тады ўсе зразумелі, чаму такі ціхі і смутны быў іх сябра на прывалах і такі ярасны ў баі...

1943

## У ВАГОНЕ

Гэтыя двое людзей увайшлі ў вагон ужо амаль перад самым адыходам поезда — мужчына сярэдніх год, невысокага росту, але шырокі і, відаць, моцны ў плячах, і маладая дзяўчына. Яна ішла і ўсміхалася. Нельга было не звярнуць увагі на яе твар — ён быў незвычайнай прыгожасці: тонкі, з правільнымі і пяшчотнымі рысамі. Дзіўна было толькі, што на ім ляжаў выразны адбітак нейкай вялікай душэўнай пакуты. Нешта загадкавае было таксама ў яе паставе і хадзе: яна рухалася неяк бокам, выставіўшы ўперад худое левае плячо (яно падобна было на крыло падстрэленай птушкі), галаву трымала высока і роўна, а ўсмешка яе была застылай, нібы высечанай з каменя.

— Паспелі ў самы акурат,— зазначыў мужчына нізкім, крыху сіплаватым голасам. Але, нягледзячы на сіплаватасць, былі ў яго голасе інтанацыі, якія выклікалі сімпатыі да гэтага чалавека.

— Сядай вось тут,— беражна падвёўшы дзяўчыну да акна, сказаў мужчына.

— Не, Міроныч, я лепш лягу, адпачну,— нечакана звонкім голасам праказала дзяўчына. У голасе яе не чулася той пакуты, якая так выразна відаць была на твары.

— І то праўда, ты ж змарылася,— згадзіўся Міроныч. Ён тут жа зняў з сябе ватоўку, разаслаў яе на верхняй

паліцы і дапамог дзяўчыне ўзабрацца на падрыхтаваны ёй ложак. Калі дзяўчына ўляглася, Міроныч сеў на лаву каля акна, і тады ўсе мы ўбачылі на яго палінялай гімнасцёрцы два баявыя ордэны.

А поезд тым часам ужо адышоў ад станцыі і, моцна грукочучы калёсамі на стрэлках, памалу набіраў ход. Мінуўшы апошнія станцыённыя пабудовы, узарваныя немцамі пры адступленні, поезд выбег на шырокі палявы прастор. Калёсы пачалі сакатаць усё шпарчэй і шпарчэй, густы дым паравоза ад хуткай хады віслаўся аж пад вагоны. За акном змянялі адзін аднаго малюнкі позняй восені, бадай, самай прывабнай пары года,— вось павольна праплыло шырокае пачарнелае пожнішча, яго змяніў луг і маленькая рэчка, па-асенняму папаўнелая ў берагах, вось пранёсся невялікі бярозавы гай, увесь жоўты, нібы абсыпаны золатам, а за ім альшэўнік, чорны, паспеўшы ўжо скінуць з сябе лісцвянае ўбранне.

Пасмоктваючы люльку, Міроныч сядзеў і не адрываючыся глядзеў у акно. Па выразу яго твару, па той прагнасці, з якой ён праводзіў поглядам пачарнелыя палі, пажоўклыя лясы і пералескі, відаць было, што ён любіў прыроду і з цікавасцю назіраў, як яна рыхтавалася да сустрэчы зімы. Ён маўчаў і не ўступаў у гутарку, якая паціху вялася ў купэ, як быццам забыўся на ўсё на свеце і адно аддаўся назіранню.

— Як прыгожа восенню ў лесе,— зазначыў я, паглядаючы, як і Міроныч, у акно. Мне хацелася ўгадаць думкі гэтага чалавека. Але Міроныч не праявіў схільнасці да гутаркі. Ён ціха і аднаслоўна прамовіў: «Та-ак» — і замоўк.

І зноў мы доўга ехалі моўчкі, нерухома назіраючы, як плылі за акном асеннія палі і лясы, як прабягалі, нібы адмерваючы наш шлях, тэлеграфныя слупы.

Але на адной невялічкай, усаджанай таполямі станцыі Міроныч раптам загаварыў, нават без усякіх намаганняў з майго боку. Шляхам, які ляжаў каля самай станцыі, гналі калону палонных немцаў. Няголеныя, абарваныя, у сваіх спецыфічных драўляных башмаках, яны праходзілі зусім недалечка ад нас. Брыдка было цяпер глядзець на гэтых людзей «блакітнай крыві», «заваёўнікаў свету», і цяжка сказаць, якое пачуццё пераважала — нянавісць да іх ці проста агіда.

Але Міроныч, калі ўбачыў немцаў, увесьператварыўся. Ён раптам уздрыгнуў, у адзін міг непазнавальна спа-

хмурнеў і пасуровеў яго твар. Сціснуўшы кулакі, Міроныч скрыгануў зубамі і шэптам вымавіў:

— Гады...

Потым адхіснуўся ад акна і закрыў рукою твар.

— Эх, чорт,— ціха, ні да каго не звяртаючыся, сказаў ён,— аслабеў... Столькі бачыў усяго, што не маю сіл спакойна на іх глядзець...

Гукнуў паравоз, і наш поезд зноў панёсся ўперад, мінаючы апошнія, цудам уцалелыя домікі станцыі невялікага мястэчка.

— Пачвары... Колькі звярынай злосці носяць яны ў сваіх высахлых грудзях! Хіба ёсць у іх хоць каліва чалавечнасці, хіба маюць яны ўяўленне, што такое праўда на зямлі? І не толькі гэтыя, а і тыя гадзюкі, што засталіся да часу ў сваіх гадзючых гнёздах... Калі хочаце, я вам раскажу трагедыю адной дзяўчыны-паланянкі, якую звалі прыгожым іменем — Надзея.

Я нічога не адказаў, а толькі выняў і паклаў на столік тытунь.

— Курыце.

Міроныч выбіў попел са сваёй патухшай люлькі, заправіў яе, распаліў і прагна зацёгся дымам раз і другі. Відаць, усё яшчэ не праходзіла яго ўзрушанасць. Потым ён прыўстаў і паглядзеў на паліцу, дзе ляжала дзяўчына.

— Спіць,— прыслухаўшыся, сказаў ён.— Ну і добра... Наша сяло да вайны на ўсю ваколіцу славілася сваімі прыгожымі дзяўчатамі. Восенню, бывала, ад жаніхоў адбою няма, з усіх навакольных сёл прыязджалі. Але не было сярод нашых дзяўчат прыгажэй і весялей дзяўчыны за маю пляменніцу Надзею. Бацька яе працаваў леснікам, гэта была ў яго адзіная дачка. Што гэта была за дзяўчынка! Беленькая, стройная, як жытні снапок, весялуха, здатная і да песні і да танца. Пойдзе яна, бывала, у нядзелю з дзяўчатамі-падружкамі да прысад, сядзе ў круг, ды калі заспявае — заслухаешся. А ў поле выйдзе — не глядзі, што ёй усяго шаснаццаць год! — работа так і гарыць у яе руках, дарасламу за ёй не ўгнацца. Бацькі налюбавацца не маглі на сваю дачку, адзіная гэтая радасць была іх і гордасць. І ўсё сяло любіла гэтую дзяўчыну за вясёлы нораў і дабрату душы.

Раптам калёсы нашага поезда галасней засакаталі па рэйках, у акне замільгалі пераплёты новага, напалову драўлянага, напалову ўмацаванага жалезам моста — гэта поезд прабягаў цераз нейкую рэчку. На далёкім павароце

ракі парыжэлы ад іржы буксір павольна цёг за сабою дзве невялікія баржы. Міроныч распаліў сваю патухшую люльку, глыбока зацёгся дымам і доўгую хвіліну моўчкі пазіраў на асеннія лугі.

— Немцы занялі нашу мясцовасць у жніўні, а ў канцы верасня, якраз у нядзелю, у сяло ўварваліся гітлераўцы, акружылі яго, сагналі на плошчу да школы ўсіх маладых хлапцоў і дзяўчат, якія не паспелі ўхавацца, і, пагрузіўшы іх на грузавікі, памчалі на станцыю. Я ў той час ужо быў у лесе. Наш атрад яшчэ толькі-толькі набіраўся сілы. Але мы ўсё ж здолелі б ўратаваць моладзь, перашкодзіць немцам адправіць яе ў Нямеччыну. Ды нам не пашанцавала: немцы адправілі эшалон з моладдзю раней, чым мы даведаліся аб падзеях у сяле...

Сярод другіх у тым эшалоне была і Надзея. Яе схапілі ў чым стаяла, маці не паспела перадаць ёй на грузавік нават клуначак з ежай. Але Надзеі было не да клуначка — яна ўся залівалася слязьмі, быццам прадчувала яе маладая душа свой гаротны лёс. Ну, а бацькі, дык тыя і зусім былі забіты горам. Стары спачатку быў сеў на каня і ўскач кінуўся на станцыю. Ён думаў як-небудзь уратаваць яе, выкупіць ці адпрасіць. Але куды там! Яго не дапусцілі нават і блізка да вакзала, і ён прыехаў назад увесь ссутулены і чорны ад гора.

Два месяцы, якія бацькам цягнуліся за два гады, не было ад Надзеі ніякай весткі. І толькі ў пачатку снежня, калі ўжо выпаў першы снег, раптам прыйшла ад яе вестачка — Надзея коратка пісала, што працуе яна парабчанкай на чорнай гаспадарчай рабоце ў адной нямецкай гаспадыні па імені Эльза, у маленькім прыморскім гарадку. Пісала, што жыве нядрэнна, пані не здзекуецца з яе, адно толькі зайздросціць яна, Надзея, становішчу сваёй бабулі Аніссі. Ведала Надзея, што пісала,— тая бабуля Анісся ад старасці ўжо даўно памерла, яна зайздросціць мёртвай. І яшчэ ўнізе была такая прыпіска: «Божа мой, аддала б я адсеч сабе правую руку, абы толькі вярнуцца дамоў ды глянуць на сваё сяло, пахадзіць каля рэчкі, пасядзець каля маіх дарагіх кветак. Хоць бы дыхнуць мне адзін разок на радзіме, глянуць у неба, а тады ўжо хоць і зайсціся».

Нельга было без слёз чытаць тое пісьмо. Бацька яе, стары ляснік, прынёс мне яго ў пушчу, і ўвечары я прачытаў тое пісьмо ўголас усім, хто сядзеў каля партызанскага вогнішча. Мы пакляліся тады адпомсціць гадам за Надзею. Бацька яе таксама ўжо больш не вяртаўся ў ся-

ло, а застаўся з намі. І мы стрымалі сваё слова — мы ўвагналі ў зямлю столькі немцаў, што калі б на магіле кожнага з іх паставіць па крыжу, то на ўсіх іх трэба было б сапсаваць цэлы малады лясок. Але мы не хавалі іх пад крыжамі. Балотныя канавы ды воўчыя ямы служылі чужынцам магілай...

Міроныч зрабіў глыбокую зацяжку са сваёй люлькі і на нейкі час замоўк. Ён нерухома пазіраў у акно, і ў вачах яго адбіваўся смутак, навеяны цяжкімі ўспамінамі. Цяпер яго расказ слухаў ужо не адзін я, а ўсе, хто быў у купэ.

— Астатняе расказала нам сама Надзея, калі прыехала дамоў,— але якая прыехала... Тое, што давялося ёй вынесці на паслугах у нямецкай пані, можна параўнаць толькі з пеклам, калі ёсць яно на свеце, а сама фрау Эльза, гаспадыня Надзеі, была жывым увасабленнем ведзьмы. Столькі злосці і атруты магло быць толькі ў чалавека, смяротна пакрыўджанага лёсам. Фрау Эльза была ў крыўдзе на жыццё за тое, што яе муж, які два гады выкручваўся ад мабілізацыі, у пачатку вайны з Расіяй адразу ж быў узяты ў армію і накіраваны на Усходні фронт. Яна з-за гэтага ледзь не ашалела, але яна не мела на кім вызначаць сваю крыўду. Руская дзяўчына Надзея, трапіўшы да яе ў рукі, сталася яе ахвярай. Немка спаганяла на ёй усё сваё гора і ўсю злосць. Яна з усіх сіл старалася атруціць жыццё парабчанцы. Калі б можна было, фрау Эльза з асалодай проста смактала б яе кроў. Якую б работу ні рабіла Надзея, фрау Эльза ганьбіла яе, папікала ў неахайнасці, няўмельстве, хадзіла за ёй услед і грызла, быццам здзекавацца з рускай дзяўчыны было адзінай мэтай яе жыцця. Яна прыкмеціла, як смуткуе Надзея па дамоўцы і радзіме, і гэта дало ёй новую магчымасць рабіць балюча дзяўчыне. Паштальён часта прыносіў фрау Эльзе пісьмы ад мужа, які акурат знаходзіўся ў гарнізоне аднаго з гарадоў Беларусі. Надзея ўпрошвала яе: «Раскажыце, пані, што піша ваш муж, што там робіцца ў нас на Беларусі...» — «Ха, што робіцца,— з вядзьмарскай усмешкай адказвала немка,— дымам да неба пайшла ўся ваша Расія, ні сёл, ні гарадоў не засталося, адна голая зямля. Армію вашу разбілі, аж да Масквы дайшлі».— «Божа мой, божа!» — жахалася Надзея і, забіўшыся ў куток, плакала наўзрыд. Але фрау Эльза не давала ёй нават плакаць.

Так вось у слязах і чорнай самоце для Надзеі прайшоў год. А потым здарылася страшнае і непапраўнае...

Аднойчы раніцай, калі фраў Эльза яшчэ была на кухні і гатавала сабе на пліце снеданне, паштальён прынёс ёй пісьмо. У вялікім казённым канверце ляжаў лісток, акаймаваны чорнай палоскай. Ваенная канцылярыя паведамляла фраў Эльзе аб смерці яе мужа на Усходнім фронце. Фраў прачытала кароценькі лісток і захісталася. Яна абапёрлася аб стол у здранцвеласці і ўтрапенні. У гэты час якраз увайшла на кухню Надзея. Яна ўбачыла, што паштальён прынёс немцы пісьмо, але не ведала, што то было за пісьмо. З прыветнай усмешкай яна падышла да немкі з роспытамі: «Панечка, якія навіны піша ваш муж?»

— «Навіны»? — раптам выйшаўшы з нерухомасці, павярнулася да яе немка. Вочы яе пранізалі Надзею звярынай нянавісцю.— А вось якія навіны! — у шаленстве крыкнула немка і, схапіўшы з распаленай пліты каструлю з гатаваным малаком, пляснула вогненным варам у твар Надзеі.

— За што? — немым голасам ускрыкнула Надзея, хапіўшыся рукамі за твар. Але было ўжо позна, немка зрабіла, што задумала,— вочы ў Надзеі патухлі наўсягды. Немка выклікала «хуткую дапамогу», а паліцыі дала растлумачэнне, што руская дзяўчына сама, па ўласнай неахайнасці, выпарыла сабе вочы. Праз тыдзень Надзею, ужо сляпую, выпісалі з больніцы і адправілі на радзіму — якраз вяртаўся дамоў адзін зямляк Надзеі, якому на заводзе пасам адарвала руку. Ён яе і прывёз у роднае сяло...

У суровыя гадзіны вайны сэрца чалавека загартоўваецца, чарсцвее, але калі я, лясны салдат, які столькі жахаў бачыў і перанёс за тры гады партызанскага жыцця, першы раз сустрэў Надзею, я ледзь не заплакаў. Загубіла дзяўчыніну юнасць праклятая немка! Вось чаму я і глядзець цяпер не магу на іх спакойна, гэта ўсе з аднаго кубла гадзюкі, што салдаты-немцы, што іх жонкі і сёстры...

Ездзілі мы вось з ёю да прафесара параіцца наконт яе здароўя. Кажа, нішто, здаровая, а пра зрок нічога не сказаў,— значыць, канец.

Міроныч раптам паглядзеў у акно і падняўся.

— Эге, ды я загаварыўся так, што не прыкмеціў, як і дамоў прыехалі... Надзейка,— крануў ён за плячо дзяўчыну, што спала на паліцы,— прачынайся, прыехалі.

— Ужо? Бач ты, як хутка! — прачнуўшыся, звонка азвалася дзяўчына і з дапамогаю Міроныча злезла з паліцы. Я зноў паглядзеў у задуменны і прыгожы твар Надзеі. Цяпер мне было ўжо ясна, чаму ён свяціўся такой паку-

тай,— вочы Надзеі, як дзве адцвілыя кветкі, цьмяна і нерухома пазіралі перад сабой.

Праз мінуту наш поезд спыніўся на невялікай станцыі, і Міроныч, апрануўшы ватнік, так жа беражна, як і прывёў, пад руку вывеў Надзею з вагона. Са станцыі ў іх сяло вяла палявая дарога, і я доўга пазіраў ім услед, як ішлі яны ўдваіх, пабраўшыся, нібы дзеці, за рукі — бывалы воін-партызан і маладая пакутніца нашых жахлівых дзён, надламаная асенняя кветка...

...Можа, гэтыя радкі дойдуць да цябе, воін Чырвонай Арміі, і да цябе, салдат саюзных сцягаў,— успомні пра беларускую паланянку Надзею, калі будзеш бегчы ў атаку на немца.

1944

## ЗЯМЛЯ ГУДЗЕ

Першы гарматны гул данёсся да вёскі ўночы. Гэта быў нават не гул, яго амаль нельга было ўлавіць вухам. Гэта быў нібыта няясны водгук нейкіх далёкіх громаў. Яго лягчэй было адчуць душою, чым пачуць вухам...

Можа, таму і пачуў першым той далёкі подых фронту стары Ляксей, глухі, замшэлы ад старасці дзед. Сярод ночы ўстаў ён са свайго рыззя, рассцеленага ў кутку зямлянкі, увесь насцярожаны, суровы.

— Чуеце?

Хрысціна прыўзнялася на вокліч бацькі, прыслухалася. Пасівелыя валасы яе пасмамі спадалі на худы маршчыністы твар.

— Нічога не чуем, тата.

— Ідзе,— ціха выдыхнуў дзед і перахрысціўся.

Хрысціна падхапілася з пасцелі, прачнуліся дзеці. Сэрца Хрысціны забілася мацней, затаёная радасць павольна абымала яе пакутную душу.

— Божа мой, тата, ці праўда?!

— Ідзе,— голасна паўтарыў дзед, і па вачах яго бліснулі слёзы. Тады Хрысціна выбегла на двор. У цемені ночы чутны былі ціхія галасы людзей. Сяляне вылазілі з зямлянак, з паграбоў, са стопак — вёска была дашчэнту

спалена немцамі,— паяўляліся аднекуль з-пад зямлі, як начныя здані. Яны збіраліся групамі, шэптам дзяліліся радаснай навіной:

— Фронт набліжаецца... Фронт ідзе на захад.

Тры гады, тры доўгія пакутныя гады яны жылі гэтай адзінай надзеяй. Яна адна падтрымлівала і сагравала іх. І вось набліжаўся чаканы дзень іхняга збавення.

Хрысціна далучылася да людзей. Яны маўчалі, напружана паглядаючы на ўсход. Ноч была на зыходзе, з кожнай хвілінай святлеў усход. Раптам Хрысціна апусцілася на дол і прыпала вухам да зямлі.

— Гудзе! — радасна ўскрыкнула яна.— Зямля гудзе!..

І тады ўслед за ёю прыпалі да зямлі ўсе, хто тут быў. Кожнаму хацелася пачуць самому, як набліжалася прагнае вызваленне. Раз за разам ціха ўздрыгвала зямля, цьмяна даносіўся да слыху няясны подых вайны, водгук далёкіх грымотаў.

Прайшоў дзень, і другі, і трэці, і з кожным днём гул усё рос і мацнеў. Ужо выразна стала чуваць, як каціўся за ракою гэты несутрымны грымотны вал, і нават можна было адрозніць, калі, патрасаючы зямлю і паветра, вохкала цяжкая дальнабойная і калі грымелі сярэднія палявыя гарматы.

І ўсё яшчэ не верылася шчасцю. Начамі Хрысціна не спала і, прыслухоўваючыся, шаптала: «Божа мой, хацця б...» Інагды ўночы ёй раптам здавалася, што гул заціхаў і аддаляўся, і яна ўсхоплівалася з пасцелі напалоханая, з пахаладаўшым сэрцам. Але калі грымоты ўдаралі з новай сілай, яна супакойвалася, і ў добрых прадчуваннях замірала сэрца.

А яшчэ праз дзень у сяло нечакана ўварваліся гітлераўцы. Гэта ўжо былі не тыя немцы, якіх бачыла Хрысціна ў сорак першым годзе — выпешчаныя, самаўпэўненыя, у дабротным адзенні. Гэта былі азлобленыя і пабітыя сабакі. Па звычцы яны кінуліся рабаваць. Але ў зямлянках ужо не было чаго браць, там засталося адно рыззё.

Да Хрысціны ў двор забег салдат. У яго вачах стаяў той жа спалох пабітага сабакі, жывёльны жах перад блізкай расплатай. Ён нават усміхнуўся Хрысціне.

— Нах вестэн, матка!

Салдат бадзёра махнуў рукою на захад. Хрысціна моўчкі, не кратаючыся з месца, паглядзела на салдата. Потым яна таксама ўсміхнулася,— яна ўсміхнулася сваім думкам, не стрымаўшы радасці, якая напаўняла грудзі. На яе

ўсмешку салдат раптам раззлаваўся. Ён кулаком адпіхнуў яе ад дзвярэй і закрычаў, каб усе выйшлі з зямлянкі.

— Шнэль, шнэль! — падганяў салдат дзеда, дзяцей.

Потым зноў паказаў рукой на захад:

— Пашоль, матка!

Узяўшы на рукі меншага, Хрысціна з сям'ёй пайшла да прысадаў, куды зганялі немцы сялян з усяго сяла. Тады салдат адчыніў дзверы зямлянкі і кінуў туды гранату. Потым ён паспешна пабег у суседні двор, на хаду рыхтуючы другую гранату.

А Хрысціна паціху ішла. І шчаслівая ўсмешка па-ранейшаму асвятляла яе твар. Ёй не шкада было ні згарэўшай хаты, ні ўзарванай зямлянкі, апошняга яе прытулку. Яна была поўная шчасця, што прыйшоў час збавення.

— Шнэль, шнэль! — крычалі немцы, зганяючы жанчын, старыкоў, дзяцей, нібы жывёлу ў статак. Хрысціна далучылася да сялян. Натоўп гуў, як пчолы над разбураным вуллём. Адусюль несліся слёзы і літанні.

— Людзі,— крыкнула Хрысціна,— не плачце! Грэх плачам нашым радаваць сэрцы катаў!

Вочы Хрысціны гарэлі радасным агнём. Яна цвёрда верыла ў вызваленне, і гэтая вера перадалася людзям. Паступова ў натоўпе сціхалі галасы і плач.

Скончыўшы апошнія разбурэнні, немцы з ўсіх канцоў сяла збегліся да сялян. Яны акружылі натоўп і наставілі аўтаматы — на жанчын, дзяцей, старыкоў.

— Форвертс!

І раптам на даляглядзе паказалася воблачка пылу. Яно штохвіліны расло і блізілася. Яно набліжалася, як магутны віхор,— гэта імчаліся рускія коннікі. Немцы першымі прыкмецілі іх. Яны закрычалі нешта на сваёй ненавіснай праклятай мове і, кінуўшы натоўп, пачалі разбягацца. Яны разбягаліся, як нашкодзіўшыя пацукі. Адзін з іх на хаду яшчэ павярнуўся, сyканyў з аўтамата па натоўпу, жадаючы, мабыць, спагнаць сваю звярыную злосць на безабаронных. Але стогны параненых заглушаны былі крыкамі радасці. Натоўп хлынуў насустрач савецкім воінам.

Па дарозе віхурай імчалася конніца, несліся танкі, пылілі гарматы. Ішлі, апыленыя пылам многіх дарог, байцы ў сталёвых касках.

...Не ўправіўшыся ад слабасці за натоўпам выбегчы на шлях, каб сустракаць вызваліцеляў, стары Ляксей стаяў па ўз'ездзе ў сяло. Вочы яго блішчалі ад слёз, губы шапталі нешта бязгучнае — шэпт заглушаў танкавы лязгат.

Абапіраючыся адною рукою на асмаленае шула, Ляксей працягваў другую ўперад, нібы накіроўваючы байцоў услед чорнай навале.

1944

## МІКОЛА БАГРЫМ З ВЫГЛЯДАЎ

На поўдні Палесся было раней такое сяло Выгляды. Яно стаяла на самым беразе Прыпяці. Звілістая рэчка ў тым месцы раптам выпроствалася, паварочвала на поўдзень і далей бегла роўна, як бы па знарок пракладзеным рэчышчы. Раскінутае на высокім правым беразе прыгожае сяло так прыціскалася да круч, што здавалася, яно імкнулася ўбачыць, куды гэта бягуць і чаму так спяшаюцца рачныя воды і ці ёсць дзе супынак іхняму бегу. Пэўна, з гэтай прычыны і называлася яно Выглядамі.

Пры самым канцы сяла ў невялікай хаце вокнамі на рэчку жыў выглядаўскі калгасны пастух Мікола Багрым. Я добра ведаў і тую палескую вёску і пастуха Багрыма. Гэта быў цікавы чалавек. Каля акна яго хаты рос высокі клён. Летнімі вечарамі пастух выходзіў на вуліцу, прысаджваўся на прызбе. Некаторы час ён моўчкі прыслухоўваўся, нібы лавіў вечаровыя гукі сяла — далёкі гоман перасмешніц-дзяўчат, рыпенне жураўля над калодзежам, ціхі шум клёна над галавою. Потым ён пачынаў ціхенька спяваць у тон песні летняга вечара. Ён сам складаў словы сваіх няхітрых песняў. Гэта былі своеасаблівыя гімны прыродзе і шчасцю свайго краю. Ён спяваў пра прыгоства і веліч адвечнай палескай пушчы, пра ціхія рэкі і азёры, славіў працу касца і аратага, славіў маладосць. Спяваў, як рыбак гоніць ціхай заваддзю човен, а пад карчом пляскоча шчупак; як звініць каса на лузе, калі касец узмах за узмахам кладзе ў рады роспую траву; як стогне ледаставамі рака і як вольна разліваецца яна ўвесну, вызваліўшыся з лёдавага палону; як шуміць пад жнівеньскім ветрам пшанічнае поле. Часам Багрым апавядаў казкі і легенды, і цяжка было адрозніць, якія з іх ён толькі пераказваў, а якія складаў сам. Ён расказваў старажытнае

паданне пра Князь-возера, як некалі адзін князь за здраду ўтапіў у возеры маладую князёўну, і ён расказваў, як паданне, пра асушку калгаснікамі адвечнай багны Жыткавіцкіх балот. Ён склаў сказ пра аднаго маладога трактарыста-камсамольца, які адолеў узараць небсяжныя прасторы некранутай цаліны прырэчча...

Нясцерпным горам сціснулася маё сэрца, калі ў сорак чацвёртым годзе, вярнуўшыся з далёкіх дарог вайны ў вызваленыя родныя мясціны, я не застаў ні тае вёскі, ні старога пастуха. Ногі мае цяжка ступалі па мяккім попеле, я блукаў ад аднаго абагарэлага печышча да другога і адчуваў, што беззваротна страціў кавалак дарагога свайго юнацтва. Я ўспамінаў усё да драбніц: тут стаяла сельская школа — два шулы ад брамы ў прасторны двор ды некалькі комінаў адзначалі гэтае месца; тут жыў калгасны пчаляр, ціхі і працавіты чалавек Антось Барэйка; тут стаяла хата кульгавага майстра гармонікаў Нупрэя; тут жыла Вольга Прачос, родная сястра тых двух братоў Ахрэмавых, якіх у дваццатым годзе закатавалі ворагі.

Попел і попел... Ні хат, ні людзей. Дзе ж хоць бы той клён, што шумеў удзень і ўночы сваім шырокім лісцем каля акон Багрымавай хаты? Злою рукою ссечан і клён.

Калі на захадзе нечакана загрымела варожая павала, сяло Выгляды стаілася і прыціхла ў трывозе. Людзі спачатку проста не маглі яшчэ ўсвядоміць таго, што адбываецца. То былі страшныя дні. Вайна няўмольна ішла на ўсход. Па дарогах паўзлі чужыя танкі, адзначаныя чорнымі крыжамі, імчаліся грузавікі, на якіх сядзелі чужыя салдаты ў касках.

Тымі днямі Багрым штовечар выходзіў на Голыя кручы. Ён насцярожана прыслухоўваўся — з Голых круч далёка было чуваць. Ён усё таіў надзею, што вось-вось накоціцца назад грымотны вал вайны. Але гул не вяртаўся, а ўсё аддаляўся і аддаляўся на ўсход, пакуль аж зусім не заціх. І разам з тым гулам згасла ў старога блізкая вера ў справядлівасць. Згорблены і прыціхлы, ён вярнуўся ў свой двор. З таго дня Багрым перастаў выходзіць вечарамі пасядзець на прызбе і больш не складаў ні смутных, ні вясёлых песняў. І ўсё сяло раптам прыціхла, яно нават як бы паменшала, нібы і хаты змізарнелі ў трывозе і самоце.

Крывёю і шыбеніцай устаноўлена была на Палессі фашысцкая «ўлада». Нейкі прайдзісвет Прокша быў прызна-

чаны ў Выгляды старастам. Ён прымусіў сялян зваць сябе панам і ездзіў па сяле на белым калгасным жарабку. Гэты здраднік стаpaнна выслужваўся перад акупантамі. Ён пастаўляў на станцыю з Выглядаў цэлыя абозы з хлебам, рабаваў сялянскі пажытак, жывёлу.

Але самае страшнае ўсё яшчэ неяк абмінала Выгляды. І толькі позняй восенню бяда дайшла і сюды. Тры грузавікі эсэсаўцаў пад'ехалі да воласці. З кабіны першай машыны вылез стройны малады афіцэр. Ён пагардліва акінуў поглядам сяло і падаў знак. Па яго знаку фашысты схапілі і расстралялі перад самым сялом на выгане маладую настаўніцу-камуністку Людмілу Богуш. Затым гітлераўцы спалілі сельскі клуб і збілі да крыві Антося Барэйку, каб ён сказаў, дзе яго сын. Ад малога да старога выглядаўцаў сагналі на плошчу, і афіцэр на ламанай рускай мове прачытаў загад, у якім пагражаў лютай смерцю прыхільнікам партызан.

Ціхім смуткам з таго дня зайшлося сяло. Адсутнасць веры — цяжкая хвароба для чалавечай душы, і нядоўга можна пратрымацца на свеце, жывучы ў роспачы. Багрым не паддаўся роспачы, і гэта ўратавала яго. Ён сэрцам адчуваў, што не ўсё яшчэ скончана.

А ў лясах Палесся тым часам адзін за адным нараджаліся і раслі атрады народных мсціўцаў. Усё часцей і часцей глуха грымелі выбухі на чыгунцы, ляцелі пад адхон фашысцкія паязды. Партызаны грамілі варожыя гарнізоны, падрывалі на дарогах варожыя грузавікі.

Аднойчы ўночы ў пастуховай хаце ціха дзынкнула шыбіна. Багрым прачнуўся на стук, выйшаў у сенцы. Там стаяла трое незнаёмых. У кожнага з іх цераз плячо звісаў аўтамат.

— Добры вечар, дзед Багрым,— ціха сказаў першы з гасцей.— Ці не можна ў вас напіцца вады?

Раптам прыспела тым людзям патрэба трывожыць у поўнач старога чалавека. Адразу зразумеў Багрым, што не за вадою прыйшлі гэтыя людзі да яго. Адчыніў дзверы, запрасіў:

— Заходзьце.

Незнаёмцы ціха ўвайшлі ў хату, селі на лаву. Пакуль Багрым пасцілкай завешваў вокны, сядзелі моўчкі. А затым адзін з іх чыркнуў запалку, асвятліў сабе твар:

— Пазнаеш, дзед?..

Стары Багрым глянуў і ўсхвалёвана ахнуў: перад ім сядзеў былы сакратар райкома Цярэшчанка, даўнішні

добры знаёмы дзеда. Доўга зацягнулася гутарка партызанскага важака са старым Багрымам. Толькі з першымі пеўнямі праводзіў ён за гумны сваіх дарагіх гасцей.

...Бег час. Зімою першага года вайны, узмужаўшы і загартаваўшыся ў баях, Чырвоная Армія разграміла фашыстаў пад Масквой. То была першая перамога — прадвесніца яшчэ большых будучых перамог. Гітлераўцы старанна хавалі праўду аб тых падзеях, але чутка аб іх дайшла нават у самыя глухія куточкі Палесся.

А вясною стары Багрым сасніў сон. Ён сасніў яго напярэдадні Першага мая. У дзень свята, пасля доўгага перапынку, Багрым зноў выйшаў на вуліцу. Ён усхвалёвана і паспешліва прайшоў сялом на лугі да Голых круч. Там ён стаў пад ракою і зноў, як мінулым летам, пачаў прыслухоўвацца. Аднастайна пляскала ў бераг вясенняя вада. Чародка крыжняў прашумела над самай галавой старога, прашумела і заціхла. У затоне, паміж сухіх мінулагодніх чаротаў, раптам голасна закрычаў качур. Гэта ўсё былі мірныя вясеннія гукі, знаёмыя і любімыя, але не іх лавіў вухам Багрым. Ён наставіў далонь, прыкрываючы вочы ад яркага сонца, і пачаў углядацца за раку, на ўсход. У Багрыма былі зыркія вочы — як ні шырока разлілася рака, а ён убачыў усё аж да краю разліву. За ракою стаялі дубы, па голле залітыя вадою. Там-сям паверх вады бездапаможна высоўвалася затопленая лаза. Пад напорам рачной плыні пахіліўся сіратлівы сігнальны ліхтар, паволька плыло лугамі заблудзіўшае бервяно.

Багрым нізка пакланіўся на ўсход — можа, гэта ён пакланіўся вясне, а можа, сваім надзеям. А надвячоркам на прызбе ён расказаў выглядаўцам сваё прароцтва.

...Прыснілася яму спачатку шырокае жытняе поле ў ясны дзень, і здалося яму, нібыта ён ішоў сцежкаю па тым полі да Прагалінскай крыніцы напіцца вады. Жыта было высокае, вышэй яго росту, і ён усё адхіляў рукою каласы, што навісалі з двух бакоў на вузкую сцяжынку. Смага падганяла яго, і ён ішоў хутка, так што і не прыкмеціў, як з захаду ўсплыла на небе хмара. Толькі ўжо калі перад самай навальніцай шугануў полем злосны вецер, калі застагнала, прыгінаючыся да самай зямлі, жыта, а хмара засланіла сонца і стала раптам цёмна, як уночы, ён прыкмеціў, што дзеецца наўкола. І здалося яму, нібы ён кінуўся бегчы, а ногі не слухаліся яго, не адрываліся ад зямлі, і ўсё закруцілася, зашумела навакол, і шалёны віхор паваліў яго на дол. Колькі часу прайшло, не памятае

стары, потым прачнуўся ён, глянуў навокал — поле ўсё здратавана, жыта павалена, нібы выгайсаў яго конскі табун, адзін колас зламаны туды галавою ляжыць, другі пахіліўся ў процілеглы бок. Вакол ціха, сонца свеціць. А крыніца — вось яна за дзесяць крокаў ад яго, і побач светленькі ручаёк бяжыць. Раптам на ўсходзе, з боку Гарватоўскай пушчы, нешта загуло, загрымела. Азірнуўся Багрым — танкі. Не адзін і не дваццаць — а столькі, што не злічыць, не акінуць вокам. Паўзлі і паўзлі з усходу на захад. І на кожным з іх на зялёнай бране зіхаціць-іграе здалёку, як кропля крыві на траве, чырвоная зорка. І ўбачыў стары пастух, як гінулі ворагі пад жалезам танкаў. Тады стары выпрастаўся на ўвесь рост, махнуў танкам рукою, як бы запрашаючы іх да сябе, на здратаванае поле, да светлай крыніцы. А танкі і самі беглі сюды, і што болей набліжаліся яны, то ўсё рос і рос гул. І Багрым, здаецца, забыўся на смагу, і захацелася яму кінуцца насустрач танкам, і ён кінуўся і нешта закрычаў, але голасу свайго не пачуў — такі тады гул стаяў на полі. У знямозе прыпаў ён да крынічнай вады, прамачыць горла, каб вярнуць сабе моцны голас. І на тым прачнуўся...

Багрым расказаў сон надвячоркам, а ўранні яго ведалі ўжо не толькі ў кожнай выглядаўскай хаце, але і ва ўсіх суседніх сёлах. Чутка, што пастух Багрым сасніў сон пра хуткае вызваленне ад чорнай фашысцкай чумы, пра зварот Чырвонай Арміі, абляцела ўсю акругу. З блізкіх і далёкіх сёл да Багрыма пачалі прыходзіць людзі, каб ён падрабязна расказаў, як і што ён такое бачыў. І стары знарок штодня выходзіў на прызбу, расказваў і пераказваў сон усім, хто жадаў яго паслухаць. А слухалі яго з прагнасцю, прыпадалі да таго сну, як хворы ў гарачцы прыпадае да кубка са сцюдзёнаю вадою.

Фашысты схапілі Багрыма ўночы. Яго прывялі на допыт да таго самага маладога афіцэра, што прыязджаў увосень у Выгляды. Афіцэр нерухома сядзеў за сталом, адкінуўшыся ў нейкай душэўнай зморанасці на спінку крэсла, курыў і думаў. А можа, ён і нічога не думаў, а проста глядзеў перад сабою пустым позіркам.

Калі ў пакой увялі Багрыма, афіцэр, не мяняючы паставы, акінуў яго поглядам з галавы да ног. Ён падаў знак, каб салдаты выйшлі з пакоя.

— Як цябе завуць? — спакойна спытаў фашыст.

— Мікола Багрым з Выглядаў,— адказаў стары.

— Багрым? — здзівіўшыся, перапытаў афіцэр.— Тваё імя мне знаёма.

Ён выняў з кішэні запісную кніжачку ў бліскучай металёвай аправе, перагарнуў яе. На адным лістку спыніўся, паклаў кніжачку на стол і, раптам спахмурнеўшы, устаў.

— Стары, я ведаю ўсё. Я зрабіў памылку, што даўно не павесіў цябе. Заўтра ўдзень гэтая памылка будзе выпраўлена.

Фашыст замоўк, схаваў у кішэню кніжачку і сеў.

— І мне больш няма аб чым з табой гаварыць.

Багрым у нерашучасці пераступіў з нагі на нагу. Ён не чакаў, што суд будзе такі кароткі і жорсткі.

— За што ж гэта мяне так?

Афіцэр зацягнуўся дымам сігары і павольна спытаў:

— Скажы, Багрым, ты сапраўды бачыў той сон пра поле і танкі?

— Бачыў. Я той сон штодня бачу,— адказаў Багрым.

— Можаш ісці,— афіцэр злосна махнуў рукой.

Багрым паціху павярнуўся і пайшоў да дзвярэй. Калі ён ужо дайшоў да парога, афіцэр гукнуў яго:

— Стой! Я перадумаў. Я магу пакінуць табе жыццё пры ўмове, калі ты адмовішся ад таго сну. Я загадаю сабраць народ, і ты перад усімі скажаш, што ты зманіў, што не бачыў такога сну.

Багрым спыніўся ў роздуме. У пакоі стала ціха, і стала раптам чуваць, як сіратліва цікаюць ходзікі на сцяне. Афіцэр не спускаў вачэй з Багрыма, а той стаяў і, не кратаючыся з месца, думаў. Потым стары махнуў рукою.

— Я не хачу паміраць на шыбеніцы,— ціха сказаў ён.

І зноў у Выгляды да воласці падкацілі тры грузавікі з салдатамі. Па загаду афіцэра на выган, да трыбуны, што стаяла насупроць школы, салдаты пачалі зганяць усё сяло, ад малога да старога. Як і ў першы свой прыезд, афіцэр у сваёй гордай паставе поўнага гаспадара азіраў сяло, ляскаў па глянцаванай халяве стэкам. Побач з ім быў Багрым. Ён таксама глядзеў усцяж сяла. Ён бачыў сваю хату, і клён, і рэчку, што сінела здалёк на зялёным дыване лугоў, і ў вачах яго свяціўся невыказны смутак.

Калі ўсіх сялян, жанчын, дзяцей сагналі на плошчу, афіцэр лёгкай хадой узышоў на трыбуну. За ім павольна падняўся па сходках Багрым. Ён азірнуўся. Вакол былі ўсе знаёмыя і родныя людзі. Яны не разумелі, для чаго іх сюды сагналі, са страхам пазіралі на афіцэра.

Афіцэр падняў руку — ахтунг! — і натоўп насцярожана заціх.

— Вас сабралі сюды, каб растлумачыць адно непаразуменне: Мікола Багрым ашукаў вас. Ён не бачыў ніякага сну і ўсё гэта прыдумаў. Цяпер ён зразумеў, што зрабіў блага, і хоча сам сказаць вам аб гэтым. Падыдзі бліжэй, Багрым, і гавары.

Багрым павольна падышоў да пярэдняга краю трыбуны, узяўся рукамі за парэнчы. Ён нерухома стаяў і маўчаў, пазіраючы на людзей.

— Ну што ж ты маўчыш? — спытаўся афіцэр.— Ты бачыў сон пра поле і танкі?

— Я не бачыў таго сну,— нізка апусціўшы галаву, ціха сказаў Багрым.— Я сам прыдумаў яго.— І раптам ён увесь выпраміўся, падняў голас да крыку: — Але гэтак і будзе, людзі! Гэта праўда! Я не адракуся ад праўды!

Збянтэжаны ад нечаканасці, афіцэр адступіўся на крок ад Багрыма. Ён спачатку разгубіўся, але хутка авалодаў сабой, выхапіў рэвальвер і, не цэлячыся, тройчы стрэліў у спіну Багрыма. І стары, як стаяў, упаў, нібы падкошаны касою.

У натоўпе трывожна зашумелі. Як у патрывожаным вуллі, усе заварушыліся. Нехта пачаў голасна плакаць і прычытваць. Нехта поўным нянавісці голасам крыкнуў: «Звер, за што забіў Багрыма?»

Збялелы ад злосці афіцэр павярнуўся на крык:

— Што?

Ён хуценька збег па сходках з трыбуны, на хаду крыкнуў нешта салдатам.

...І вось — ні сяла, ні людзей. Размахваючы запаленымі факеламі, фашысты беглі ад хаты да хаты, ад двара да двара, падпальваючы ўсё, што толькі магло гарэць — дамы, хлявы. Яны выгналі з хат усіх людзей, акружылі іх і пагналі. Хто не хацеў ісці ад роднай хаты, спрабаваў тушыць агонь, імкнуўся выратаваць свой пажытак, хто не здолеў схавацца або ўцячы, падаў мёртвым ад кулі. У агні загінулі многія сем'і з маленькімі дзецьмі, з бездапаможнымі старымі. Тыя, што ўратаваліся, ніколі не забудуць гэтага дня.

* * *

Праз некалькі год мне зноў давялося наведаць той далёкі куточак Палесся. Невыказнае пачуццё хвалявання і

радасці перажыў я, убачыўшы, як усё тут змянілася, як з попелу і руін адрадзілася і вырасла новае вялікае калгаснае сяло. Выгляды цяпер здаваліся мне нават багацей і прыгажэй, чым да вайны. Шырокія роўныя вуліцы, прыгожыя дамы з вялікімі вокнамі, новы прасторны клуб з кінаустаноўкай, электрастанцыя, цагляны будынак школы-дзесяцігодкі, маладыя сады ў канцы сяла, палісаднік і кветнікі каля дамоў. Захапляла і радавала імкненне савецкіх людзей да жыцця, іх вялікая калектыўная сіла, накіраваная на высакароднае мірнае будаўніцтва.

Я наведаў магілу Багрыма на Голых кручах.

Ён быў пахаваны каля вялізнага старога дуба, на самым высокім месцы над ракой, дзе ён любіў сядзець. Тут, бывала, сядзеў стары пастух і глядзеў на ўсход у надзеі першым убачыць зару Перамогі. Курган быў абнесены сціплым дубовым плоцікам, любоўна абсаджаны кветкамі, а на помніку — вялікім палявым валуне — было выразна высечана імя і дата нараджэння і смерці Багрыма. Скінуўшы шапку, я доўга стаяў у роздуме над магілай. У памяці паўставалі казкі і песні гэтага цудоўнага чалавека, яго высакародны патрыятычны подзвіг у імя праўды і шчасця на зямлі.

З вышыні Голых круч мне добра было відаць адроджанае сяло, уяўлялася ўсё Палессе, занятае будаўніцтвам шчаслівага мірнага жыцця.

Так, дарагі Мікола Багрым, у чорную часіну варожага нашэсця ты сказаў прарочыя словы, і твая светлая мара збылася. Прыйшла Савецкая Армія, прынесла радасць і шчасце на Палессе. Мінуць гады, далёкім успамінам стане прайшоўшая вайна і ўсе войны на зямлі. Многае сатрэцца ў памяці людзей, забудзецца. Але ніколі не забудзецца паданне пра жыццё і подзвіг палешука Міколы Багрыма. Як легенду, будуць перадаваць яе людзі сваім дзецям і ўнукам.

1944

## ТАЛІСМАН

Яго нават прынялі ў атрад неяк хутка і лёгка. Уладзіку Стрыжу, напрыклад, залічэнне ў партызаны каштавала столькіх клапот, было звязана са столькімі фармальнасцямі. А гэтага камандзір атрада, дзядзька Сцяпан, аднойчы прывёў да агню, да партызан і сказаў:

— Вось, хлопцы, новы член нашага атрада. Падрыўнік. Завуць Цярэшкам. Мае ад роду дваццаць год і крыху вопытны ў сваёй справе. Нежанаты.

Дзядзька Сцяпан пры гэтым выразна кінуў вокам у бок дзяўчат і ўсміхнуўся. Потым акінуў позіркам партызан:

— Стрыж тут?

— Тут, таварыш Сцяпан,— падхапіўся з зямлі Стрыж.

— Прыстаўляю цябе да таварыша Цярэшкі за... Адным словам, за падручнага, як бы сказаць, ардынарца. Зразумеў?

Стрыж толькі быў раскрыў рот, каб нейкім чынам пратэставаць, прасіцца вызваліць яго ад гэтай пасады, якая ва ўсякім разе не патрапляла яго ваяцкаму гонару, але дзядзька Сцяпан і не думаў слухаць яго, а тут жа сабраўся і пайшоў сабе ў сваю камандзірскую зямлянку.

Стрыж павярнуўся да Цярэшкі. Божа мой, хоць бы што-небудзь з выгляду было ў гэтым Цярэшку такога, што сведчыла б аб пільнай патрэбе мець яму «падручнага ардынарца». Сярэдняга росту, танклявы, смуглы, Цярэшка быў апрануты ў кароткую ватоўку, суконныя штаны, на нагах былі керзавыя боты. Праўда, адзенне ляжала на ім неяк ладна, прыгнана, ватоўка была шчыльна перацягнута ваенным поясам, на якім вісеў дэсантны нож у добротнай разной аправе. І ўвесь ён быў нейкі статны і лоўкі. Аднак жа такіх статных і лоўкіх хлопцаў у атрадзе было хоць гаць гаці. А потым, чакайце, дзе ж яго зброя? Акрамя таго невялікага нажа, ён не меў пры сабе нават нагана. І як яго, бяззбройнага, прынялі ў атрад?

— Хэ,— быў намерыўся крытычна ўсміхнуцца Стрыж, у якога, у процівагу новаму падрыўніку, цераз плячо ваяўніча звісаў трафейны фрыцаўскі аўтамат, за поясам тырчалі гранаты, наган, матляліся нейкія баявыя сумачкі і падсумкі. Але Цярэшка паклаў яму руку на плячо, паглядзеў на яго і ўсміхнуўся. Усміхнуўся аднымі толькі

вачыма, светлымі, праніклівымі, з адценнем нейкага далёкага смутку, і неяк няпэўна вымавіў:

— Стрыж...

І чамусьці такое адчуў Уладзік у Цярэшкавым голасе, у постаці, што адразу пракаўтнуў сваё крытычнае «хэ».

А Цярэшка тым часам падышоў да агню, узяў у хлопцаў гітару, сеў у круг — нейк адразу ўсе рассунуліся, далі яму месца,— злёгку крануў струны і заспяваў:

> Ты, чырвоная каліна, ой, і што цябе зламіла?..
> Ох ты, беленькі малойчык, а і што цябе ссушыла?

І голас быў у Цярэшкі прыемны, мяккі і такі шчыры, што ішоў, здавалася, ад самага яго сэрца. Заспяваў і нібы раскрыў перад усімі сваю душу. І чамусьці прапала ў Стрыжа ўсякая непрыязнасць да незнаёмца, а наадварот, што далей ён глядзеў і слухаў яго, то ўсё больш пранікаўся да Цярэшкі павагай. І нават гонар загаварыў у ім. Паглядзіце, моў, да каго я прыстаўлены ў падручныя, да якога чалавека. Дзядзька Сцяпан не абы-каго, а менавіта мяне выбраў на гэтае месца паставіць. У сваіх думках Уладзік адразу ж надзяліў незнаёмца нейкімі таямнічымі здольнасцямі, асаблівым геройствам. Ён нават пачаў думаць, што Цярэшка не хто іншы, як нейкі праслаўлены дыверсант, аб якім хутка пойдзе пагаласка па ўсёй партызанскай акрузе.

...Але гэтая Стрыжова выдумка пра асаблівыя здольнасці новага падрыўніка акурат і пацвердзілася. І пацвердзілася ў першай жа баявой справе. Абставіны былі такія. Былі атрыманы звесткі, што заўтра рана-рана, на досвітку, у напрамку на ўсход пройдзе варожы поезд з вельмі важным ваенным грузам. Ён павязе на фронт цяжкія танкі. Разам прыйшло ўказанне, што гэты поезд ні ў якім разе не павінен дайсці да месца. І вось гэтую важную аперацыю, узрыў поезда, камандзір атрада даручыў асабіста Цярэшку. На іхнім участку чыгунка ахоўвалася асабліва пільна — праз кожныя сто метраў хадзіў вартавы, праз кожныя дзвесце стаяў дзот з узмоцненай аховай. Цярэшка не мог не ведаць гэтага, аднак жа, як відаць, ніколькі не турбаваўся, быццам ён ужо ўсё абдумаў і ведаў падзеі наперад.

Апоўначы яны пакінулі партызанскі стан, а праз паўтары гадзіны ўжо былі на месцы і, прыпаўшы да зямлі, заляглі ў карчах непадалёк ад палатна чыгункі.

— Ты ляжы тут, а я папаўзу закалю вартавога,— шэп-

там загадаў Цярэшка.— І прыслухоўвайся: заскуголіць сава — цягні да мяне тол.

Сказаў гэта і адразу ж знік у цемені. І так будзённа сказаў Цярэшка тое «закалю вартавога», быццам гэта быў для яго лёгкі спацыр, а не страшэнна небяспечная справа.

І вось Уладзік ляжыць і думае пра Цярэшку, а вакол ціха-ціха. Вераснёвым начам уласціва такая празрыстая, некранутая цішыня. І раптам Уладзік чуе савіны крык — ку-га! ку-га! Недзе збоку на звонкі голас начной птушкі адгукнулася лясное рэха. Уладзік падхапіў увязаны тол і папоўз да чыгункі. Стоячы смела, у поўны рост, Цярэшка чакаў яго на самым чыгуначным палатне. Каля яго ног нерухома ляжаў забіты фашыст.

— Я закладу тол, а ты адцягні ў карчы гада,— ткнуў нагою ў цела фашыста Цярэшка.— І чакай мяне.

Загадваў гаспадарліва, як бы не дапускаючы і думкі, што нешта магло здарыцца інакш, чым было задумана ім і прадугледжана.

Словам, уранні важны той поезд быў падарваны, і новенькія варожыя танкі былі звалены пад адхон грудай жалезнага лому.

У другі раз ім давялося выканаць яшчэ больш цяжкую задачу. Партызаны вынеслі смяротны прыгавор каменданту суседняга мястэчка, нейкаму пану фон Губерту. Гэты гітлераўскі вылюдак тварыў нечуваны здзек над савецкімі людзьмі. Спачатку думалі гэтага Губерта проста забіць, а потым вырашылі: мала для ката такой смерці. Прыйшлі да думкі даставіць яго на стан і тут, у лесе, павесіць. І вось Цярэшку даручылі прывалачы на стан жывога Губерта.

Баявыя партызанскія будні заўсёды поўныя рызыкі. У час, калі партызану-разведчыку, скажам, патрэбна наведаць варожае логава, яму даводзіцца ісці па тоненькай і хісткай кладачцы паміж жыццём і смерцю і варта толькі ледзь аступіцца, як паляціш у бездань. А Цярэшка многа разоў хадзіў па такой кладачцы, удзельнічаў у самых рызыкоўных справах, у адзіночку ўзрываў паязды, падпальваў склады, быў у засадах на дарогах, але ні разу ніводная варожая куля на волас не кранула яго. Ён заўсёды выходзіў пераможцам, жывы і здаровы.

Уладзік проста прыйшоў да думкі, што Цярэшка не інакш, як валодае нейкім сакрэтам, мае таямнічае шчасце. Ён ужо нават неяк прывык да таго, што любая іх самая небяспечная справа скончыцца шчасліва.

Праўда, на гэты раз, лежачы з аўтаматам напагатове за вуллём у садку самога пана Губерта, ён усё ж моцна хваляваўся. Вельмі ж пад вялікі ўдар ставіў Цярэшка сваё шчасце.

І раптам — ку-га! ку-га! Знаёмая птушка! Уладзік кінуўся на голас у гусцеж малінніку і з радасцю ўбачыў, што Цярэшка ўжо быў там і, больш таго, у руках у яго, звязаны, з заткнутым ротам, біўся і брыкаўся сам той камендант фон Губерт. Каб канчаткова пераканацца, што гэта быў менавіта Губерт, Цярэшка асвяціў яму ліхтарыкам твар, і хоць перакошаны і пасінелы ад жаху «гер» цяпер мала быў падобны на таго фашысцкага гада, што распараджаўся каля шыбеніц, хлопцы пазналі яго, прывалаклі на стан, і назаўтра партызаны, утварыўшы допыт, павесілі гада на сухім суку.

Аднойчы ўвечары Уладзік з Цярэшкам ляжалі каля агню. Вечар быў позні, партызаны разышліся па зямлянках, і яны засталіся адзін на адзін. На агні яркім полымем гарэў смаляк, і ад гэтага за кругам святла цемень здавалася яшчэ больш густой. Дрыготкія цені, хістаючыся, таропка разбягаліся ад агню ў гушчыню цемені.

— Дзіўлюся я з цябе, Цярэшка,— парушыў маўчанне Уладзік,— нейкі шчаслівы ты...

— А што? — спытаўся Цярэшка.

— Ды так. Куля цябе не бярэ, нічога ты не баішся, за што б ні ўзяўся, заўсёды табе ўдача.

— А-а,— няпэўна прамовіў Цярэшка, у задуме пазіраючы на агонь.

— Вось я недзе ў кнізе чытаў пра штуку такую, пра талісман. Дробязь якая-небудзь, слонік, скажам, гліняны або падкоўка там, ці што, а мае вялікую сілу. Адзін капітан, звалі яго Ларсен, меў такі талісман, то яго карабель ніякага шторму не баяўся. Аж пакуль не ўкралі ў яго той талісман, плаваў ён у самых небяспечных водах...

Уладзік памаўчаў, падкінуў у агонь кавалак смаліны.

— Не, канешне, усё гэта, напэўна, няпраўда. Але паглядзу я на цябе, і мне часам здаецца — у цябе ёсць такі талісман.

Цярэшка ўсміхнуўся. Потым ён раптам прыўзняўся на локці, моўчкі сунуў руку ў кішэню кашулі і дастаў адтуль нейкую шкатулку. Ён асцярожна раскрыў яе і падаў Уладзіку. Нічога не разумеючы, Уладзік зазірнуў у шкатулку — там ляжаў маленькі медны пярсцёнак, звычайны, нічым не выдатны пярсцёнак.

— Дык гэта праўда? — сам не свой ад здзіўлення вымавіў Уладзік.— У цябе талісман?!

Ён быў канчаткова збіты з тропу.

Не мог жа ён, Уладзік, сур'ёзна дапусціць, што той мізэрны медны пярсцёнак меў нейкую асаблівую сілу прыносіць Цярэшку шчасце. Не для таго канчаў ён сямігодку, каб паверыць ва ўсякія глупствы!

А Цярэшка моўчкі паклаў шкатулку ў кішэню, лёг і зноў задуменна пачаў глядзець на агонь. У вачах яго раптам адбіўся той далёкі незразумелы смутак, які часта прыкмячаў Уладзік з дня іх знаёмства.

Беглі дні. Многа разоў пасля таго вечара хадзілі Цярэшка з Уладзікам на баявыя справы. Падрывалі на дарогах варожыя грузавікі, ірвалі сувязь. Цярэшка быў нястомны ў сваіх выдумках. Знішчаў фашыстаў Цярэшка ярасна, з нейкай асаблівай нянавісцю, смела ідучы на любую рызыку. І хоць і ведаў Уладзік, на якія штукі здольна была адвага Цярэшкі, усё ж яшчэ не раз даводзілася яму слупянець ад здзіўлення,назіраючы Цярэшкава шчасце. У адным баі, калі ўварваліся яны ў занятае фашыстамі сяло, Уладзік яскрава бачыў, як фашысцкі афіцэр тройчы ва ўпор стрэліў у Цярэшку з парабелума, і Уладзік нават заплюшчыў вочы ад жаху, каб не бачыць Цярэшкавай смерці. А калі ён адкрыў вочы, то ўбачыў, што Цярэшка жывы і бег далей, пераступіўшы цераз цела таго афіцэра.

Ці страляў той афіцэр ва ўпор, ці, можа, зрабіў яго парабелум асечку, аднак жа з таго бою Уладзік зусім не мог нічога зразумець. Няўжо і дапраўды выратаваў Цярэшку той талісман?

Застаўшыся аднойчы адзін на адзін з Цярэшкам, Уладзік парашыў даведацца праўду.

— Слухай, Цярэшка, што я хацеў цябе спытаць.

— А што?

— Пра той пярсцёнак. Ці гэта праўда, ці ты смяяўся?..

Цярэшка ўсміхнуўся:

— Дзівак...

І раптам адразу ўсмешка згасла на яго губах.

Цярэшка павярнуўся і пайшоў, а Уладзік стаяў і, пазіраючы яму ўслед, гадаў: чаму, уласна, «дзівак», ці таму, што сумняваўся ў сіле меднага пярсцёнка, ці таму, што меў наіўнасць верыць у яе?

У баях і паходах дзень за днём непрыкметна бегла лясное партызанскае жыццё. Неяк позняй восенню ў атрад

прыляцеў вялікі начальнік, камандзір злучэння, партызанскі генерал бацька Галай. Генерал выстраіў партызан на палянцы, выслухаў рапарт камандзіра і павіншаваў партызан з баявымі поспехамі. Гэта быў просты і сціплы з выгляду чалавек, у паўкажушку, у простых ботах, са спакойным, некалькі стомленым тварам, але ўсе тут ведалі, на якія геройскія подзвігі здольны гэты чалавек — слава аб ім грымела па ўсёй Беларусі, а гітлераўцы абяцалі за галаву бацькі Галая сто тысяч марак,— і партызаны, затаіўшы дыханне, лавілі кожнае слова праслаўленага героя. А потым генерал уручыў партызанам узнагароды. І першымі атрымалі па баявому ордэну падрыўнік Цярэшка і яго дружбак — «падручны ардынарац» Уладзік Стрыж.

Надвячоркам, праводзячы генерала да самалёта, таварыш Сцяпан ад імя партызан паабяцаў адзначыць гэты радасны для ўсіх дзень яшчэ адным ударам па гітлераўцах. У тую ж ноч партызаны выйшлі ў баявы паход. Вырашана было напасці і разграміць варожы гарнізон у сяле паблізу адной важнай шашы. Да зыходнага рубяжа партызаны падышлі на досвітку. На гэты раз усёй аперацыяй кіраваў сам камандзір атрада таварыш Сцяпан.

Выслаўшы ў сяло разведку, партызаны прытаіліся ў нізінцы каля возера, у густым асінніку. У ліку другіх у разведку пайшоў і Цярэшка. І вось так прыпала якраз, што Уладзіку давялося ляжаць у тым асінніку поплеч з дзядзькам Сцяпанам. Камандзір усё паглядаў праз бінокль на тую вёску. Ён з хваляваннем, як відаць, чакаў вынікаў разведкі, бо ад іх залежаў поспех аперацыі. Уладзік падсунуўся бліжэй да камандзіра.

— Дзядзька Сцяпан,— паўшэптам сказаў Уладзік.— Не скажу за ўсіх, а за Цярэшку я спакойны. З ім нічога не станецца.

— Гэта чаму ж? — азваўся Сцяпан.

Доўгія дні і тыдні насіў у тайне Уладзік тое, што ведаў пра Цярэшкаў талісман, баяўся, каб не паднялі яго, чаго добрага, на смех. Сёння ж, ва ўрачысты для яго дзень, калі ён упершыню ўдзельнічаў у баі з ордэнам на грудзях, ён вырашыў падзяліцца сваёй тайнай з дзядзькам Сцяпанам.

— Можа, вам і смешна будзе, што я скажу,— Уладзік нялоўка апусціў вочы.— Шчасце ў яго такое ёсць — талісман, то ў які б ён шалёны агонь ні ішоў, усё роўна куля яго не кране. Таму ён і смелы такі і люты ў баях.

— А што ж у яго за талісман такі?

— Ёсць у яго такі медны пярсцёнак. Ён яго заўсёды з сабой носіць, мне аднойчы паказваў.

Дзядзька Сцяпан павярнуўся да Уладзіка. Твар яго раптам зрабіўся строгім, суровым.

— Ты, Уладзік, наіўны, як дзіця. Талісман... Ты ведаеш, што то ў яго за пярсцёнак? Фашысты маці Цярэшкаву закатавалі да смерці, ён з яе рукі, з мёртвай, той пярсцёнак зняў. Нянавісць да ірадаў — вось яго талісман!

Збянтэжаны Уладзік моўчкі адсунуўся ад дзядзькі Сцяпана. Доўгую хвіліну ён, не варушачыся, ляжаў і думаў.

А потым асцярожна і ціха ўткнуўся тварам у жоўты асінавы ліст — як чароўна пахла залатая восень!

1944

## У ТУЮ НОЧ

Калі капітан Ягораў выйшаў з зямлянкі камандзіра дывізіі, цёплы адліжны вецер, дыхнуўшы ў яго твар, перш за ўсё данёс да яго прадчуванне блізкай вясны. Ягораў спыніўся, твар яго адразу спахмурнеў — як не ў час надышло цяпло! У задуме ён міжвольна падняў каўнер шыняля, быццам спадзяваўся, што калі ўкрыецца ад павеваў гэтага паўднёвага ветру, то знікне і вецер і цяплынь. Але раптам ачнуўся, рэзкім рухам адкінуў каўнер і пайшоў лясною сцежкаю, між густых зараснікаў маладога хвойніку.

А вясна і сапраўды наступала дружна і напорыста, нібы імкнулася замацаваць узяты ўпершапачатку разгон у паядынку з зімою. Яшчэ начамі кволы марозік на час затрымліваў яе наступ. Незлічоныя гаваркія ручайкі ўночы пакрываліся тоненькай коркай лёду, спыняўся іх жвавы бег каляінамі дарог, палявымі межамі, з узгоркаў. Але ўдзень усё мянялася. Ледзь узыходзіла сонца, ажывалі раўчукі, ціха пачынаў шумець лес пад цёплым ветрам. На палях, асабліва на ўзгорках, ад сонца адна за адной з'яўляліся праталіны, з-пад снегу выступалі чорныя лапіны зямлі. Пачарнела і рака. Шточасна поўнячыся новымі водамі з палёў і лугоў, яна быстраю плынню падточвала і без таго кволы лёд. Каля берагоў вада ўжо выходзіла наверх, і калі б не прымёрз і не трымаўся лёд, дзе толькі можна было, за лазу, за прыбярэжныя карчы і дрэвы, за

зімнія берагі, так, здаецца, і панесла б яго за сабой поўная вясенняя вада.

Недзе далёка збоку, на левым краі, за ракою засакатаў варожы кулямёт, і гэтак жа далёка адгукнуліся яму дзве кароткія чаргі з нашага боку. Час ад часу за ракой грукалі цяжкія гарматы, і над галавой Ягорава з пранізлівым свістам праляталі снарады. Але рваліся яны ззаду, за лесам; немцы, як відаць, стараліся затрымаць рух на шашы, што ішла ўсцяж фронту, і білі па ёй з дальнабойных. Гэта ўсё былі будні пярэдняга краю, і таму ні перастук кулямётаў, ні гарматныя стрэлы не перашкаджалі Ягораву думаць аб сваім, аб тым, што зараз хвалявала і займала яго ўсяго.

Дайшоўшы да размяшчэння часці, Ягораў загадаў выстраіць батальён, маўкліва прайшоў паўз строй.

— Вольна! — скамандаваў ён. Байцы ўскалыхнуліся, ім перадалося хваляванне камандзіра.— Байцы! — сказаў Ягораў.— Камандаванне ўсклала на наш батальён цяжкую задачу. Сёння ўночы мы павінны перайсці ніжэй нашых галоўных пазіцый раку і адным ударам захапіць на правабярэжжы сяло Загоны. Мы дадзім магчымасць усім нашым часцям фарсіраваць раку. Зразумела?

— Зразумела! — пачулася ў радах.

— Поспех гэтай аперацыі толькі ў адным — у нечаканасці і раптоўнасці нашага ўдару. А нечаканасць будзе залежаць ад таго, ці зможам мы перайсці раку і ўварвацца ў сяло без адзінага гуку, без адзінага стрэлу, ці здолеем мы быць цішэй самой ночы...

Ягораў на міг замоўк, перабег поглядам па маўклівых шарэнгах. Усе байцы былі здаўна знаёмы яму, з імі ён прайшоў амаль тры гады вайны. Вось стаіць салдат Рыжоў, якога ўсе завуць Трафімычам, амаль самы старэйшы ў батальёне, з пышнымі вусамі. Рыжоў у мінулым — калгаснік, родам з Магілёўшчыны. Побач з ім малады баец Міхаіл Каралькоў, агульны любімец і неразлучны сябра Рыжова, яго «сынок». Вось два кулямётчыкі, якіх ён запомніў яшчэ з часу баёў за Арол, дзе яны не раз агнём сваіх кулямётаў дабіваліся перавагі ў вулічных баях.

У кароткі момант Ягораў падумаў аб блізкіх і дарагіх яму байцах, якіх ён паспеў па-сапраўднаму палюбіць.

— Многіх з нас,— працягваў Ягораў,— мы недалічымся пасля сённяшняй справы. Многіх, як відаць, мы згубім яшчэ і раней, пераходзячы праз раку, па гнілым лёдзе. Але мы павінны сумленна выканаць свой абавязак перад радзімай.

Ягораў дастаў з кішэні партабак, выняў папяросу, але чамусьці хутка сунуў яе назад і схаваў партабак.

— Я хачу сказаць вам яшчэ,— ціпэй працягваў Ягораў.— Адна справа смерць у адкрытым баі, другая — здолець, калі прыйдзецца, моўчкі захлынуцца ў чорнай вадзе... Калі хто з вас не адчувае ў сабе такой мужнасці, заставайцеся і не ідзіце. Гэта — у імя ўсіх нас, у імя справы. А астатнія адыдзіце на правы бок — вы будзеце ўдзельнікамі сёпняшняга начнога бою.

Ягораў паказаў рукою, куды менавіта адысці, і павярнуўся спіною да байцоў. Ён не хацеў, каб тыя з байцоў, якія не знойдуць у сабе мужнасці пайсці направа, пад яго позіркам прынялі другое рашэнне. Сярод удзельнікаў сённяшняй ночы не павінна было быць ніводнага чалавека, які б хоць на момант захістаўся, калі вынікне неабходнасць ахвяраваць жыццём.

Ягораў закурыў... Ён чуў, як за яго спіною адбываўся нейкі няясны рух байцоў. А калі адвярнуўся — убачыў: па левы бок палянкі не засталося ніводнага салдата, батальён у поўным складзе быў выстраены на ўказаным ім месцы.

Да ночы заставалася яшчэ многа часу, і кожны з байцоў скарыстоўваў яго па-свойму: хто прылёг, каб гадзінкудругую заснуць перад боем кароткім салдацкім сном, хто, прымайстраваўшыся ў акопе, пісаў пісьмо сваякам, іншыя ж проста, сабраўшыся невялікімі групамі, курылі, дзяліліся думкамі або і зусім маўчалі.

У адным з акопаў, паблізу трох невысокіх разложыстых хвой, што выкінуліся, адбіўшыся ад лесу, далёка ў поле, сядзелі Трафімыч і Міхаіл Каралькоў. Над полем дзьмуў паўднёвы вецер. Ён разносіў вакол своеасаблівыя пахі вясны.

Шумна гаманілі, нібы згаворваліся аб сустрэчы вясенніх дзён, тры калматыя хвоі. Здавалася, на вачах выраслалі з-пад снегу і большыліся чорныя праталіны зямлі.

Трафімыч паглядаў у неба, па якім плылі белыя, амаль празрыстыя воблакі.

— Аб чым думаеш, бацька? — парушыў маўчанне Міхаіл. Трафімыч кінуў пад ногі недакурак. Як і заўсёды перад боем, Міхаіл імкнуўся выклікаць Трафімыча на размову. Памяркоўныя развагі Трафімыча аб вайне, аб мінулым і будучым як бы супакойвалі яго гарачую натуру. Ды Трафімыч і сам не супроць быў пагутарыць у та-

кія хвіліны — час перад боем найбольш цяжкі для салдата. За ім ідзе невядомасць, ідзе суровы салдацкі лёс.

— Слухаю, як весела шумяць хвоі... Вясну адчуваюць,— адказаў Трафімыч.

— А, ты вунь аб чым...

— Не бойся, сынок, твая вясна яшчэ прыйдзе да цябе. Ты яшчэ ў самым цвеце. Скончыцца вайна, і будзе твая вясна...

— А па мне, каб лепей была зіма і зіма, аж пакуль мы ўсіх іх не пераб'ём,— зазначыў Міхаіл.

— Э-э, сынок... У іх і так цяпер зіма. Вясна ідзе не для іх... Вось камандзір сказаў сёння — заставайцеся, хто не чуе ў сабе сілы. А як жа я магу застацца, калі ў душы маёй столькі гневу? Не, не пакіну я гэтай штукі,— Трафімыч патрос аўтаматам,— аж пакуль да канца не вынішчу дурное семя. Ты, сынок, паслухай вось, што піша мая Агрыпіна Сямёнаўна...

Трафімыч расшпіліў шынель і з запаветнай кішэні на грудзях выняў трыкутнічак — пісьмо. Беражліва трымаючы ў сваіх агрубелых салдацкіх руках тонкі лісток, Трафімыч пачаў уголас чытаць:

«...А яшчэ саабшчаю табе, дарагі мой муж, што Галенка наша з нядаўняга, як пашылі мы ёй чаравічкі, ходзіць у школу і ўжо навучылася...» Не, гэта я не з таго месца. Вось: «А яшчэ прапісваю я табе, што цяпер мы ўсе акрыялі і ўздыхнулі на поўныя грудзі і жыццё наша пасвятлела, як не бачаць нашы вочы праклятых басурманаў фашысцкіх. Дарагі мой муж, не плашай на тым месцы, куды прыстаўлены, заплаці ліхадзеям шчодрай мерай за ўсе нашы слёзы горкія, за ўсё гора людское...» Бачыш, як піша мне жонка. І можа, у мяне толькі тае і радасці, што вось ідзём мы і ідзём уперад і нясём людзям шчасце, вызваляем іх ад гітлераўцаў. А камандзір такое гаворыць...

Трафімыч на хвіліну змоўк, як відаць, падбіраючы новыя доказы і словы, каб выказаць усё, што датычылася яго крыўды на камандзіра.

Ні ён, ні Міхаіл не заўважылі, як ззаду да іх падышоў Ягораў. Убачыўшы камандзіра, Трафімыч збянтэжыўся, устаў, вінавата падцягнуўся. Але Ягораў рухам рукі пасадзіў яго на месца.

— Я гэта к таму казаў, Трафімыч, што адна дурная авечка можа ўвесь статак згубіць. А рэчка — глядзі, ледзь трымаецца.

— Рэчка, яна, праўда, гнілая,— не пераадолеўшы няёмкасці, падтрымаў камандзіра Трафімыч.

— Ну, вось... Кожны і павінен сябе праверыць перад боем.— Ягораў пайшоў далей, ад акопа да акопа, ад зямлянкі да зямлянкі. Ён меў звычай пагутарыць з байцамі перад боем, уведаць іх настрой, каго падбадзёрыць словам, каму падаць добрую параду.

Калі Ягораў пайшоў, Трафімыч доўга глядзеў яму ўслед.

— Правільны чалавек наш камандзір,— зазначыў ён нібы сам сабе. І, падумаўшы, дадаў з нейкай упартасцю:— З ім мы пройдзем хоць куды хочаш, хоць па голай вадзе пройдзем.

Трафімыч старанна склаў трыкутнічкам жончына пісьмо і схаваў яго ў кішэню.

Тую ноч ніколі не забудуць байцы з батальёна Ягорава. Пройдзе час, змыўшы з сябе копаць пораху і бруд акопнай зямлі, пазбыўшыся гора і слёз, людзі зноў як бы нанава ўбачаць і здзівяцца хараству свету — будуць любавацца сінім небам і залатым пшанічным полем, будуць слухаць салаўіныя песні ў зялёных дубровах і шум паўнаводных вясенніх рэк, адчуюць слодыч натхнёнай працы і кахання.

І вось дзе-небудзь на вакзале, у вагоне або на вуліцы шумнага горада сустрэнуцца раптам двое былых сяброў, байцоў з аднаго батальёна. Знямелыя ад радасці і хвалявання, яны моцна абдымуцца, на доўгі міг прыпадуць вуснамі адзін да аднаго, гарачымі вачыма будуць глядзець адзін аднаму ў твар. Ад набегшых успамінаў яны не змогуць нават што-небудзь гаварыць. Нехта з іх змахне рукою няпрошаную слязу, нехта скажа: «Не трэба, дружа...» Яны сядуць адзін каля аднаго, у абдымку, супакояцца, і тады адзін з іх скажа другому:

— А памятаеш ноч?.. А памятаеш?..

— Памятаю,— ціха адкажа другі.

І калі стрэнуцца яны ўранні, то не разыдуцца датуль, аж пакуль не згасне на небе апошні промень вячэрняй зары...

...Цемень, якая наступіла пасля кароткага змяркання, згушчалі цяжкія, налітыя воласам вільгаці, хмары, што павольна плылі над лесам. Ні пробліску ў цёмным небе, ні

зоркі. Хмары плылі так нізка, што, здаецца, гэта яны і шумелі, чапляючыся за стромкія верхавіны соснаў. Але то шумелі не хмары, а нёсся над лесам вясенні вецер. Зверху падаў дробны, нібы высяваны цераз сіта, дождж.

У цемені ночы амаль нічога не было відаць. Але, выйшаўшы з лесу, байцы адразу адчулі блізасць ракі — да шуму ветру далучыўся своеасаблівы гул шматлікіх ручаёў, што з усіх бакоў уліваліся ў рэчку. Прайшоўшы забалочанае поле, батальён выйшаў на бераг ракі. На людзей дыхнула вільгаццю вялікай вады.

«Наперад!» — напаўголасу падаў каманду Ягораў і сам першы ступіў на лёд. Каля берага лёд быў зусім заліты вадою і амаль увесь падточаны плынню. Дзе-нідзе байцы з першага ж кроку правальваліся па пояс у ледзяную ваду. Байцы дапамагалі адзін аднаму выбірацца на мацнейшы пласт.

— Ты ідзеш, сынок? — паўшэптам спытаўся Трафімыч, атрасаючы ваду з мокрага шыняля.

— Іду, Трафімыч, іду,— пачуўся голас Міхаіла з цемры.

— Мудрасць, брат, ёсць такая — на пачатку зімы лёд кажа: «Хоць і трашчу, ды не пушчу», а вясною: «І не трашчу, ды пушчу». Так што трымайся...

Пярэднія байцы апусціліся на лёд і папаўзлі. Так было зручней ісці, чым на поўны рост — цела апіралася на большую плошчу. Да таго ж хутчэй можна было ўбачыць і засцерагчыся праймаў. А такіх наскрозь прамытых вадою мясцін было ўсё больш і больш. Чорная, падобная ў цемені на смалу, вада з вурчаннем закручвалася ў такіх праймах маленькімі віхорчыкамі.

Мокрыя, прадрогшыя ад ледзяной вады, людзі паўзлі, з напружанасцю ўглядаючыся ў цемру. Колькі разоў бывала, што баец прыкмячаў вымоіну ў самы апошні момант,— яшчэ міг, і ён уваліўся б у вадзяную магілу, каб больш ужо ніколі адтуль не выбрацца.

— Міша! — час ад часу ціха клікаў Трафімыч, і кожны раз з цемені чуўся адказ Міхаіла:

— Я тут, бацька, тут.

Вось каля іх паявіўся і сам камандзір Ягораў. Не зважаючы на цемень і небяспеку, Ягораў падыходзіў то да адной, то да другой групы байцоў, вышукваў мацнейшую дарогу, накіроўваў іх па разведаным шляху.

— Трымайцеся пярэдніх,— шапнуў ён на хаду Трафімычу і знік у цемені раптоўна, як і з'явіўся.

Але з кожным крокам пераправа станавілася ўсё больш небяспечнай. На сярэдзіне ракі, дзе плынь была найбольш быстрай, адна пройма раптам вырасла ў даўгую вузкую паласу вады. Байцы вымушаны былі далёка абпаўзаць яе. Але пярэдні, які быў бліжэй за другіх ад краю праймы, раптам узмахнуў рукамі, лёд пад ім асеў, бясшумна пасунуўся ўніз, і баец моўчкі ўваліўся ў чорную бездань. На міг ён яшчэ паказаўся над вадою, намагаючыся ўхапіцца рукамі за лёд, але, відаць, у яго не хапіла сіл. Рукі яго саслізгнулі, і плынь у адзін момант бясследна паглынула яго.

А байцы паўзлі і паўзлі. Яны не спыняліся, каб скінуць шапкі над магілай баявога сябра, аддаць яму пашану ў яго апошнюю часіну. Яны не мелі права на гэта, ім трэба было паспяшаць наперад і наперад.

Трафімыч і Міхаіл, наколькі дазваляла цемра, трымаліся адзін аднаго. Спачатку яны паўзлі побач, але калі небяспека павялічылася, Трафімыч пайшоў першым, а Міхаілу загадаў рухацца ўслед. Ззаду і з бакоў у іх паўзлі нябачныя ў цемені людзі. Скрозь аднастайны шум ветру чуваць было мокрае хліпанне многіх дзесяткаў ботаў, неасцярожны стук зброі.

Міхаіл поўз, не заўсёды бачачы, але ўвесь час адчуваючы наперадзе Трафімыча. Няясная постаць Трафімыча часам знікала, расплывалася ў цемені. Тады Міхаіл прыскорваў хаду і не супакойваўся датуль, пакуль зноў не вырысоўваліся перад ім знаёмыя абрысы постаці Трафімыча.

Але ў адну з хвілін, калі Міхаіл на момант скіраваў увагу на правага свайго суседа, спераду раптам пачуўся няясны шум і ўсплёск вады. Міхаіл павярнуўся і ўвесь уздрыгнуў — перад ім не было постаці Трафімыча. «Бацька... Бацька»,— паўшэптам пачаў клікаць ён і паспешліва папоўз наперад. Але ніхто не адгукнуўся на яго голас. А праз чатыры-пяць крокаў Міхаіл наткнуўся на свежую вадзяную пройму. Ён спыніўся перад ёю, увесь апанаваны адчаем. «Бацька... Няўжо і табе суджана было...» Ён напружана ўглядаўся на ваду, нібы чакаў, што вось-вось адтуль пакажацца галава Трафімыча. Але вада была спакойнай, толькі маленькія хвалькі ад ветру маршчынілі яе паверхню. «Не можа быць...» — ледзь стрымаўся, каб не выгукнуць на ўвесь голас, Міхаіл і рашуча пайшоў далей. Час ад часу ён паўшэптам клікаў, спадзеючыся, што на яго голас адгукнецца адна з тых бязлікіх постацей, што былі вакол яго. «Бацька... Трафімыч...» Ён углядаўся наперад

і вакол сябе, але ўсюды бачыў постаці другіх людзей. Цемень не адгукалася на яго ўсхвалёваны шэпт, адно толькі шумеў вецер аднастайным і роўным шумам. «Загінуў... Няўжо загінуў?..» — у роспачы думаў Міхаіл і зноў кідаўся з аднаго боку ў другі ў пошуках Трафімыча, але ўсё было дарэмна.

Праз кароткі час батальён выйшаў на бераг. Метраў за сто ад ракі чарнелі хаты Загонаў. Дарагой цаною заплаціў батальён, каб падысці да гэтай невялічкай вёскі. Але гэтаю цаною была аплочана і перамога ў начным баі.

Разбіўшыся на часткі, батальён абышоў вёску з чатырох бакоў. Па сігналу ракеты байцы ўварваліся ў вёску. У адну хвіліну ўсё ажыло, ударылі кулямёты, загаварылі сотні аўтаматаў. З крыкамі выбягалі з хат перапалоханыя гітлераўцы. Байцы стралялі па іх, перабягаючы ад хаты да хаты, ад варот да варот. Звыклыя да цемры вочы байцоў лёгка адрознівалі постаці фашысцкіх салдат, якія не ведалі, куды кідацца ўцякаць.

У ліку першых уварваўся ў сяло і Міхаіл. Поўны гневу, ён бег з аўтаматам наперавес і ва ўпор расстрэльваў гітлераўцаў. Ён помсціў ненавісным ворагам за кроў і слёзы сваёй знявечанай радзімы. Ён спаганяў помсту за нядаўнюю смерць свайго сябра-бацькі Трафімыча.

Якое ж было яго здзіўленне, калі, убегшы на шырокі двор былой школы, дзе размяшчаліся фашысцкія казармы, ён амаль не стукнуўся плячом у плячо з тым, каго ён заўчасна пахаваў,— з Трафімычам. «Бацька! Ты жывы!» — радасна крыкнуў Міхаіл. «Жывы, сынок, жывы!» — адказаў Трафімыч. Міхаілу хацелася схапіць старога абедзвюма рукамі... абеуч, моцна пацалаваць, распытаць, куды ён падзеўся там, на рацэ. Але было не да абдымкаў і не да роспытаў. Яны ўбеглі ў двор у разгар баявой сутычкі. Пасля першага спалоху гітлераўцы апомніліся і аказалі шалёнае супраціўленне. Яны секлі аўтаматным агнём з акон школы, з-за вуглоў.

— Трымайце! — у нейкім радасным узбуджэнні крыкнуў Міхаіл і кінуў у казарму адну за адной дзве гранаты. Моцныя выбухі на момант перапынілі варожы агонь.

— Наперад! — гукнуў Міхаіл і першым кінуўся ў памяшканне.

За ім рынуліся і другія байцы. Фашысты пачалі выскокваць праз вокны, але ў двары іх сустракаў агонь савецкіх аўтаматчыкаў.

Праз гадзіну бой за вёску Загоны быў скончаны. Фашысцкі гарнізон быў часткова вынішчаны, часткова ўзяты

ў палон. І вакол зноў усталявалася цішыня, і толькі паранейшаму над зямлёю аднастайна шумеў вецер, несучы з сабою цяпло вясны.

...А яшчэ праз гадзіну, за ракою, вышэй Загонаў, раптам, сатрасаючы неба і зямлю, загрукаталі цяжкія гарматы. Гэта пачалася апрацоўка варожых пазіцый перад вялікім штурмам правабярэжжа па шляху, які праклалі героі.

1945

## ВЯСНА НА ПАЛЕССІ

### Аповесць

### 1

В осенню 1945 года на адной невялічкай палескай станцыі чалавек у форме ваеннага на хаду саскочыў з падножкі таварняка. Як відаць, ваенны той — дарэчы сказаць, на ім былі пагоны капітана — загадзя ведаў, што поезд, не спыняючыся, пройдзе гэтую маленькую ціхую станцыю, і чакаў зручнай хвіліны, каб злезці, калі таварняк замарудзіць на стрэлках ход. Улучыўшы такую хвіліну, ён скочыў, прабег, захоўваючы раўнавагу, колькі крокаў за поездам, потым падхапіў скінуты падарожнымі сябрамі невялікі рэчавы мяшок і махнуў на развітанне рукой.

На выгляд гэтаму капітану можна было даць не больш год 30—33, калі не браць пад увагу яго кранутых сівізною валасоў, якія выдавалі яго старэйшым. Загарэлы, абветраны твар капітана быў адкрыты, просты, выклікаў прыхільнасць сваімі правільнымі прыгожымі рысамі. Прыкметна была на яго твары таксама адзнака нейкага смутку, які свяціўся ў чорных, па-маладому бліскучых вачах. Апрануты капітан быў у шынель, на нагах звычайныя салдацкія боты.

Прасакатаўшы на стрэлках, таварняк пайшоў, але капітан яшчэ нейкі час нерухома стаяў між пуцей, быццам ашаломлены цішынёй і прыгажосцю яснага асенняга дня. Стаяла акурат тая пара восені, калі пачырванелы асіннік у лесе, яшчэ не згубіўшы ніводнага лісточка, трывожна ўжо шапоча пра заканчэнне лета, а над асірацелымі лугамі знікае духмянасць пасохлых траў.

Капітан закінуў за плечы мяшок, перайшоў пуці і паціху накіраваўся да напалову разбураных службовых будынкаў станцыі.

Каля складаў, якія размяшчаліся паводдаль ад станцыі, стаялі дзве фурманкі. Трое мужчын зносілі з вазоў у склад мяшкі з зернем. Капітан падышоў да іх, прывітаўся, спытаў, адкуль яны, з якога калгаса і ці не падвязуць да Беражкоў, у калгас «Чырвоны бераг», калі гэта ім па дарозе.

— Э, дарагі,— жалкуючы, адказаў адзін з мужчын,— не па дарозе нам. Мы за рэчку едзем. Рудню, сяло такое, чуў? Ну, мы адтуль і ёсць. А то чаму б не падвезці...

Мужчыны занеслі ў склад апошнія мяшкі і падышлі да капітана. Закурыўшы, яны пачалі распытваць яго, адкуль ён і чаго едзе ў Беражкі, ці на пабыўку, ці як, а калі даведаліся, што едзе ён з самога Берліна, накінуліся на яго з роспытамі. Збольшага задаволіўшы іх цікавасць, капітан спаслаўся на доўгую дарогу, якую яму яшчэ трэба было прайсці, і пачаў развітвацца з мужчынамі. Але раптам адзін з іх, вусаты рослы стары, які ўвесь час неяк пільна прыглядаўся да капітана, затрымаў яго.

— Выбачайце, таварыш капітан. Вось я ўсё гляджу і не магу прызнаць... Ваша прозвішча часам не Навасад?

— Ён самы,— адказаў капітан,— а адкуль вы мяне ведаеце?

— Таварыш Навасад,— радасна замітусіўся стары,— Мікола Пятровіч! Як жа не ведаць? Гэта ж вы да вайны за начальніка на асушцы Пагіблых былі... А я зменным на экскаватары працаваў, галоўную магістраль вёў, памятаеце? — захваляваўся ён.

— Чакай...— задумаўся капітан.— Памятаю. І імя тваё прыгадваю — здаецца, Міна Міхайлавіч.

— Ну, вядома! — узрадаваўся стары.— Дык, значыць, дзякаваць богу, адваяваў і жывы застаўся? Назусім дадому?

— Назусім...

— Што ж, можа, зноў за балоты возьмемся? — спытаўся стары.— Калі што якое, то на мяне не забывайцеся, з ахвотай пайду.

Навасад усміхнуўся.

— Ды ўжо не забудуся, калі спатрэбіцца.

Мінуўшы апошнія будынкі станцыі, Навасад выйшаў у поле. Роўная, укатаная грузавікамі дарога бегла між жа-

тых і прыбраных палеткаў. Наперадзе, кіламетраў за пяць ад станцыі, чарнеў лес. З кожным крокам, які набліжаў Міколу да роднага сяла, раслі ўсхвалёванасць, і радасць, і непакой. Ён паглядаў вакол — кожнае дрэўца, кожны кусток абапал гэтай дарогі былі яму знаёмы з дзяцінства, ён на памяць ведаў тут кожны ўзгорак і далінку. Ён ішоў, і сэрца яго білася моцна і часта — як усё дзіўна ў свеце. Вось ён ідзе, вяртаецца з пяцігадовага паходу — у грукаце і дыме вайны ўласнымі нагамі перамераў тысячы вёрст сваёй і чужой зямлі, бачыў сотні гарадоў, пераходзіў дзесяткі рэчак, бачыў моры, пра якія толькі ў кніжках раней чытаў, і чужыя стэпы, не раз бачыў смерць, паміраў і зноў ажываў, каб бегчы ў атаку, у агонь, а гэтыя дзве ігрушы на мяжы пры дарозе стаяць і сустракаюць яго, быццам не было на свеце ні вайны, ні смерці, і лісточкі на іх як трапяталіся тады, так і зараз ціхенька трапечуцца.

Мікола прыпыніўся, прыслухаўся — як даўно ён не чуў песні перапёлкі. Як даўно ён не стаяў вось так сярод поля пад спакойным і ясным небам, на шырокай дарозе, і не прыкмячаў вакол сябе такога хараства свету! Нейкі час Навасад азіраўся, быццам хацеў паўней адчуць і ўвабраць у сябе тое, што рабілася вакол. А вакол нічога асаблівага і не рабілася, а толькі ў спакойнай велічы ляжала асенняя зямля, знаёмыя з дзяцінства палі і лясы, рэкі і балоты,— ляжала, быццам ачуняючы памалу ад тлумнага чаду вайны.

...У памяці паўстала ўсё, як яно было ў тыя далёкія незабыўныя дні. Малады, поўны цікавых задум і імкненняў інжынер, які толькі што скончыў гідратэхнічны інстытут, ён быў прысланы на працу ў родныя мясціны, на Палессе. Гэта акурат адпавядала яго жаданням і марам. На Палессі, якое стагоддзямі ляжала ў палоне балот і пяскоў, пачыналіся тады вялікія работы па асушцы балот, па пераўтварэнню прыроды. Пачалося ажыццяўленне гістарычнага пятнаццацігадовага плана асушкі чатырох мільёнаў гектараў беларускіх балот і ў тым ліку забалочаных земляў Палесся. Навасаду было даручана кіраваць работамі па асушцы аграмаднага, плошчай у некалькі тысяч гектараў, масіву Пагіблых балот. З якой энергіяй узяўся ён за ператварэнне ў жыццё цудоўнай мары палешукоў! У сваіх думках ён бачыў Палессе — край, дзе прырода вякамі была такой няўдзячнай да працы хлебароба і ніколі не цешыла яго добрымі ўраджаямі, ператвораным у край калгаснага багацця, у квітнеючы сад.

Яго мары ўвачавідкі ажыццяўляліся. На пракладку асушальных канаў з рыдлёўкамі ў руках выходзілі тысячы калгасных грабароў, працавалі дзесяткі экскаватараў. Гэта быў сапраўдны бой з прыродай. Стваралася светлая, цудоўная казка новага, шчаслівага жыцця палешукоў. На асушаных землях калгаснікі пачалі ўжо атрымліваць першыя высокія ўраджаі, такія высокія, якіх не ведала раней Палессе. І ён быў адным з першых, хто сам ствараў гэтую казку.

Такім жа шчаслівым і паўнакроўным было і яго асабістае жыццё. Навасад успомніў жонку, Валянціну, сяброўку яго дзяцінства, вясёлую светлавалосую дзяўчыну, успомніў дачку Маечку. З якой радасцю, бывала, жонка і дачка сустракалі яго, калі ён, вымеркаваўшы некалькі вольных гадзін, прыязджаў да іх у вёску, дзе яны гасцявалі ў бацькоў Валі. Як Маечка, якой тады было крыху больш за гадок, міла лепятала нешта на сваёй дзіцячай мове, а ён браў яе на рукі і падкідваў высока-высока.

І ўсё гэта раптам абарвалася.

Перад ім паўстаў дзень расстання з сям'ёй. У тыя цяжкія хвіліны Мікола баяўся паглядаць на Маечку, на дачушку, якую ён так любіў. Ён ухіляўся глядзець на яе, бо баяўся, што не вытрымае і сам заплача, як дзіця. А яму плакаць нельга было, на яго з надзеяй глядзелі жонка і маці. Ужо мабілізаваны ў армію, ён спадзяваўся, што яго сям'я эвакуіруецца. Але, адышоўшы на той бок Дняпра, ён даведаўся ад знаёмых, якія здолелі прарвацца праз фронт у апошнія дні, што сям'я яго не паспела выехаць і засталася на акупіраванай тэрыторыі. Пад шалёным націскам гітлераўскіх дывізій злучэнне, у якім служыў Мікола, вымушана было адыходзіць на ўсход.

Пазней, калі між ім і роднымі мясцінамі лягла прастора ў многія сотні кіламетраў, увесь перажыты боль за Радзіму, якую па-зверску дратаваў подлы вораг, боль і трывога за сям'ю выліліся ў Міколы ў адно вогненнае пачуццё гневу, несціханай ні на хвіліну пякучай нянавісці да ворага. Гэтае пачуццё надавала яму нейкую незвычайную смеласць, адвагу. Аднойчы ў баі пад Трубчэўскам быў напавал забіты камандзір іхняй роты. Была такая хвіліна, што без камандзіра магла захлынуцца атака. Гэта быў кароткі момант, але ён вырашаў лёс бою. Тады Навасад падхапіўся з зямлі і сам павёў байцоў у атаку.

Воля да жыцця была ў яго пачуццём не менш моцным, чым нянавісць да ворага. Ён не хацеў паміраць, нічога не

давяршыўшы ў жыцці. Пад Арлом аскабалкам міны яго секанула ў плячо, і ён упаў. З пабялелым тварам, увесь абліты крывёю, Навассад усё ж прашаптаў санітарцы, калі тая падпаўзла да яго: «Цягні... Буду жыць. Цягні!»

Потым этапамі на яго цяжкай ваеннай дарозе былі шпіталь, кароткая вучоба ў школе лейтэнантаў, баі ў Крыму, за Феадосію, векапомны Валгаград, атрыманне першага баявога ордэна. А затым — радасныя, поўныя шчасця дні вызвалення: Растоў, зноў Арол, зноў Дняпро, усе рэкі і гарады Еўропы аж да самага Берліна. На сцяне рэйхстага, сярод тысяч іншых надпісаў савецкіх воінаў, Мікола Навасад таксама пакінуў невялікі надпіс пра свой шлях да Берліна.

А з паўгода таму назад ён атрымаў першую вестку з дому, з палескага сяла. Пісала пісьмо не Валя, а маці. І ўжо адно тое, што пісала не Валя, выклікала ў яго няясную трывогу: значыць, нешта здарылася, нешта страшнае... Маці пісала, што яшчэ ў сорак другім годзе фашысты пагналі Валю ў Германію і з таго часу аб ёй нічога не чуваць. А Маечка расце, жывая і здаровая, ёй цяпер ужо пяць гадкоў, і яна з нецярплівасцю чакае, калі татка знішчыць усіх фашыстаў і вернецца дамоў. Сустракаючы на дарогах Германіі вызваленых рускіх дзяўчат, Мікола прыглядаўся, спадзеючыся на выпадковасць, на тое, што ўбачыць сярод іх Валю, распытваў, ці не бачылі яны дзе бялявую маладую жанчыну, Валю Навасад. Але пра Валю ніхто нічога не ведаў. Дзяўчаты вярталіся з Германіі цэлымі эшалонамі, іх было тут тысячы, і Мікола суцяшаў сябе думкай, што недзе сярод гэтых тысяч ёсць і яго Валя і яна вернецца дамоў.

Раптам Мікола прахапіўся ад думак — што такое? Гэта ж тыя хвоі, што вунь зводдаля стоўпіліся на ўзгорку, мусіць, ужо і ёсць беражкоўскія могілкі. А збоку няйначай сінее тоненькая істужка Прыпяці. Заняты думкамі, ён і не прыкмеціў, як прайшоў тое шырокае поле ад станцыі, мінуў лес і мосцік, перайшоў цераз рэчку і зноў выйшаў у поле. Мікола мімаволі прыскорыў хаду. Нейкае змешанае пачуццё і радасці і смутку з невядомай дагэтуль сілай ахапіла яго. Мікола ўзіраўся ў далечыню, спяшаючыся ўбачыць, якія змены прынесла навальніца вайны яго родным мясцінам. У адным пісьме маці яму коратка паведамляла, што, адступаючы, «немцы спалілі палавіну сяла, увесь канец, што ад рэчкі».

І хоць на сваёй ваеннай дарозе ён сустракаў тысячы спаленых фашыстамі вёсак і сотні разбураных гарадоў і ўжо неяк прызвычаіўся да гэтых жахлівых слядоў вайны, але, калі ўбачыў здалёк абгарэлыя печышчы Беражкоў, увесь уздрыгануўся. Быццам разам з гэтымі роднымі хацінамі згубіў ён кавалак свайго юнацтва, сваіх першых дум і першага шчасця.

І вось ужо ўсё сяло стала яму відаць. З радасцю ён адсюль, здалёк яшчэ, убачыў — на папялішчы, сярод суцэльнай пустэчы, стаяла многа свежых зрубаў, людзі ставілі сабе новыя хаты. Адзін зруб быў ужо выведзены аж пад кроквы, відаць, чалавек спяшаўся, каб да зімы ўсяліцца ў новую хату. Значыць, не зламіла вайна, ды і не магла зламіць волі савецкіх людзей да жыцця, іх веры ў сваю будучыню.

Сонца сваім ніжнім краем кранулася чорнай рысы далягляду, пачало апускацца за лес. Неба на захадзе зачырвавела, і з палёў дыхнуў на Міколу перадвячэрні ветрык. Навасад паправіў за плячыма мяшок і ўвайшоў у вуліцу сяла.

## 2

Вяртаючыся з далёкага паходу, пасля доўгага расстання з сям'ёй, з блізкімі, хто не адчуваў пачуцця непаўторнай радасці, усхвалёванасці пры набліжэнні да роднай хаціны, закінутай недзе, скажам, у маленькім сяле, між глухіх балот і рэчак?

І Мікола на ўсё жыццё запомніў той дзень і час, як падышоў ён да роднай хаты, адчыніў рыпучыя варотцы, увайшоў на чыста падмецены дворык.

Старая Хрысціна, маці Міколы, нешта завіхалася каля печы, калі за акном, на двары, мільганула постаць чалавека ў ваенным шынялі. Хрысціна ўстрапянулася, нейкая здагадка іскрай радасці працяла яе ўсю. Яна павярнулася да дзвярэй і ўжо было кінулася насустрач таму невядомаму чалавеку. Але ў гэты міг Мікола ўвайшоў у хату.

— Сынок! — крыкнула Хрысціна.

Слёзы радасці міжвольна выступілі на яе вачах, і яна кінулася да сына. Мікола абняў маці, прыціснуў да сябе. Ён зразумеў, што толькі цяпер, у гэты міг сустрэчы, маці ўпершыню за ўсе прайшоўшыя гады адчула заспакаенне і толькі цяпер скончылася для яе вайна.

— Дзе ж Маечка? — аглядваючыся вакол, спытаў Мікола.

Маці яшчэ не паспела адказаць, як раптам ён убачыў: з бакоўкі выйшла бяляв енькая дзяўчынка. Дзяўчынка была ў зграбнай сукенцы, у сандаліках. Яна спынілася на парозе, у здзіўленні паглядаючы на яго. У адной руцэ яна трымала аловак, у другой — згорнуты сшытак.

— Маечка! — выгукнуў Мікола.

Ён адразу пазнаў у дзяўчынцы дачку. Роўненькі тонкі носік з капрызна раздзьмутымі ноздрамі, высока ўскінутыя цёмныя броўкі нагадвалі Валю. Хваля нейкага далёкага цяпла дыхнула на яго.

— Маечка! — працягнуў ён рукі да дзяўчынкі.

Але дзяўчынка стаяла, не кратаючыся з месца. Можна было толькі здагадацца, што адбывалася ў гэтую хвіліну ў душы дзіцяці. Яна ж не памятала бацьку, яна толькі малявала яго сабе ў сваіх думках. І раптам ёй трэба было паверыць, што гэты высокі смуглявы чалавек быў яе бацькам. Дзяўчынка зачырванелася, апусціла галоўку. Мікола ступіў крок да яе, падняў на рукі, пачаў цалаваць. Яму і самому дзіўна было пагадзіцца, што гэтая пяцігадовая дзяўчынка — яго дачка. Праз усю вайну ён думаў аб ёй, як аб маленькай, такой, якою пакінуў.

— А Валі няма,— паглядаючы, як у маці ад слёз уздрыгваў падбародак, здагадаўся Мікола. Сціснуўшы зубы, ён моўчкі апусціў галаву.— І не чуваць нічога пра яе? — з затоенай надзеяй спытаў Мікола.— Можа, хоць што-небудзь даведалася, жывая яна ці не...

— Ніякіх вестак, сынок, няма пра яе,— выціраючы хусцінкай слёзы, адказала маці.— З навакольных вёсак многія дзяўчаты вярнуліся, а яе няма.

Мікола скінуў з плеч рэчавы мяшок, распрануўся. Яны прайшлі ў светлы пакой. Не спускаючы з рук Маечку, Мікола сеў за стол, з любасцю пагладзіў яе па галоўцы, па кудзёрках ільняных валасоў... Як жа так, як магло гэта здарыцца? Валянціна павінна была жыць хоць бы дзеля яе, дзеля гэтай маленькай дзяўчынкі.

— А ты мамкі там не бачыў? — раптам спытала Маечка, смела падняўшы на яго ясныя, прамяністыя вочкі.

— Не бачыў, родная,— прыціснуў да сябе дачку Мікола, увесь уздрыгнуўшы ад жалю да дзяўчынкі.— Але ты супакойся, дзіцятка, яна вернецца,— паспяшыў Мікола заспакоіць дзяўчынку, і раптам выразна адчуў, што гэта няпраўда, што здарылася ў яго жыцці нешта непапраўнае, цяжкае...

Старая Хрысціна моўчкі дакраналася рукой да яго рукі, і слёзы адна за адной каціліся па яе твары. А Мікола паглядаў на маці, якая пастарэла і нібыта паменшала ростам, паглядаў на апусцелую хату і, як па раскрытай кнізе, чытаў усё жыццё маці ў час вайны.

— Што новага ў сяле, мама, як ты тут жыла? — спытаў Мікола.

— Так і жыла,— махнула рукой Хрысціна.— Нацярпеліся гора нямала. Горш за звера лютага тварыў ірад па нашай зямлі. Колькі людзей са свету згубіў... Новікава, Ляксея Сцяпанавіча, настаўніка нашага, памятаеш?

— Ну, што з ім? — устрывожыўся Мікола.

— У партызанах ён быў. У разведку хадзіў — злавілі, дык на віду ў людзей павесілі... Старога Івана Раманюка, брыгадзіра былога, расстралялі, а сям'ю яго замкнулі ў хлеў і спалілі. З партызанамі сувязь трымаў.

Мікола журботна паківаў галавою.

— А то яшчэ, можа, ведаеш сяло такое, Выгляды, за ракой,— працягвала ўспамінаць Хрысціна.— Там быў адзін пастух, казачнік вядомы, Багрым Мікола, дык таго таксама застрэлілі і ўсё сяло спалілі.

З болем даведаўся Мікола, як многа яго сяброў і проста знаёмых яму добрых людзей загінула ад фашыстаў.

Зараз аднаўленнем жыцця ў раёне кіравалі новыя людзі, былыя партызаны, дэмабілізаваныя франтавікі.

— А ў райкоме партыі хто зараз сакратаром, маці, не ведаеш? — спытаў Мікола.

— Як жа не ведаю? — сказала Хрысціна.— Амаль кожны тыдзень у сяло заглядвае. Прыяцель твой, Сіўцоў Андрэй, які ў школе настаўнікам працаваў.

— Ды ну? — радасна здзівіўся Мікола і, устаўшы, узбуджана прайшоўся па хаце.— І даўно?

— Ды ўжо з год, як працуе. Ён жа ў гэтых мясцінах і заставаўся ўсю вайну, у партызанах быў.

— А ў калгасе старшынёй хто?

— Іван Грабок, што брыгадзірам па жывёлагадоўлі некалі быў. Вярнуўся з фронту, паранены, ну, вось мы яго і выбралі.

— А як працуе?

— Ды як быццам нішто сабе. Сам паглядзіш.

Чутка аб прыездзе Міколы Навасада хутка абляцела вёску, і пад вечар у дом адзін за адным пачалі заходзіць суседзі, знаёмыя, сваякі. Прыйшоў дырэктар мясцовай школы, у нядаўнім мінулым партызан, малады яшчэ ча-

лавек, Антон Купрыенка. Прыйшоў, накульгваючы пасля ранення, неразлучны са сваім кіёчкам, старшыня калгаса Іван Ануфрыевіч Грабок. Усім хацелася пераведаць земляка, пагутарыць, падзяліцца навінамі, распытаць аб падзеях у Германіі.

Старая Хрысціна, якая нібы памаладзела ад радасці, заклапочана забегала па дому. Яна дастала гарэлку, паставіла на стол закуску. Госці селі за доўгі стол. Задаволена ўсміхаючыся і пагладжваючы сівыя вусы, першым падняў чарку Іван Ануфрыевіч.

— Ну што ж, дарагі Мікола Пятровіч, дазволь павіншаваць цябе з перамогай над праклятым ворагам ды са шчаслівым зваротам дамоў. Па ўзнагародах відаць, што выяваў ты нядрэнна. Па закону-то яно і адпачнуць не перашкаджала б, але, відаць, не прыйдзецца. Сам не ўседзіш без справы. Не такі цяпер час. Фашыст прайшоў, як чума,— голую зямлю нам пакінуў. А трэба нам як хутчэй дамагчыся, каб зноў яна зашумела калгасным багаццем, як шумела да вайны, ды, бадай, і мацней зашумела. Цяжка гэта будзе, але фашыстаў цяжэй было разбіць, а ўсё ж разбілі, думаю, што і гэтую задачу адолеем. Праўду я кажу, мужчыны?

— Праўду, Іван Ануфрыевіч, праўду,— падтрымалі яго адусюль.

У гэты вечар Навасад пра многае даведаўся ад землякоў. Іван Ануфрыевіч падрабязна, як быццам дакладваючы на бюро райкома, падзяліўся з ім сваімі бліжэйшымі планамі «аднаўлення жыцця», расказаў Міколе, як, нягледзячы на цяжкасці з цяглавай сілай, недахоп людзей, ён усё ж ухітрыўся прывезці для пагарэльцаў лес на новыя дамы, як стварыў дзве спецыяльныя брыгады цесляроў, каб яны ставілі калгаснікам зрубы. Расказаў, як узяліся яны за пабудову новай фермы для калгаснай жывёлы, фермы, як бы сказаць, «з запасам», улічваючы, што праз пяток гадоў пагалоўе жывёлы не толькі дасягне даваеннага ўзроўню, але значна яго перавысіць.

— А пра лёс Пагіблых балот ведаеш? — спытаў Антон Купрыенка, калі скончыў гаварыць Грабок.

— Ну, ну, расказвай, не ведаю,— зацікавіўся Мікола, прагна слухаючы навіны роднага сяла.

— Э, дык чаго ж ты маўчыш, не пытаеш? — сказаў Купрыенка, падсаджваючыся бліжэй да Міколы.— З імі, брат, бяда. Уся даваенная работа, можна сказаць, на вецер пайшла... Як прыйшлі сюды фашысты, сталі мы думаць,

што з асушаным балотам рабіць, і, як ні шкада было, пастанавілі зноў забалоціць Пагіблыя.

— Ды навошта? — нахмурыўся Мікола.

— А вось паслухай... Па-першае, вырашылі мы, не павінна была заставацца ворагу ўраджайная асушаная зямля. А па-другое, і гэта бадай была галоўная прычына, за Пагіблымі абаснаваўся наш партызанскі атрад і нам было цікава забалоціць Пагіблыя, зрабіць іх непраходнымі для ворага... Адным словам, правільнае рашэнне прынялі, жыццё пацвердзіла яго... Увосень сяляне некалькіх вёсак выйшлі на балота і ў трох мясцінах завалілі зямлёй і лесам магістральны канал. Не маючы стоку, хлынула вада на палі, і зараз вакол зноў балота.

Мікола моўчкі паківаў галавою.

— Ну, час прайшоў, сам ведаеш,— працягваў Купрыенка,— стрэлкі і калектары зацягло ілам, зараслі травою — уся асушальная сетка прыйшла ў непрыгоднасць. Усё трэба пачынаць нанава.

— І аб гэтым у нас зараз вялікі клопат,— умяшаўся Грабок.

— Крыўдна ж, далібог, столькі працавалі, столькі зямлі асушылі, а зараз яна зноў балотам стала. На Пагіблых толькі нашага калгаса шэсцьсот гектараў пад вадою ляжыць.

— Так,— задумёна прамовіў Мікола,— працы наперадзе нямала. Натварылі фашысты...

— Ды ў нас яшчэ што,— махнуў рукой Грабок.— А вунь у Азарыцкім, Парыцкім раёнах, дык там на ўсю акругу не толькі сяла, а хаты цэлай не засталося. Усё спалілі ірады...

— Ведаеш, як гавораць у нас на Палессі,— сказаў Купрыенка,— прайшоў фашыст, нічога ў палешука не засталося, адна савецкая душа ў целе...

Мікола падняў галаву.

— Савецкая душа гэта, сябры, і ёсць самае вялікае наша багацце. Не апусціць рукі савецкі чалавек пры сустрэчы з бядою. Не апусціць таму, што будучыня належыць нам...

— Вось і я тое ж кажу,— пацвердзіў Грабок і непрыкметна падміргнуў Хрысціне, каб налівала па другой чарцы...

Госці разышліся позна ўночы, але Мікола не адразу лёг спаць. Усхвалёваны размовамі, ён доўга моўчкі хадзіў па хаце, выкурваючы папяросу за папяросай. Думаў

пра калгас, пра тое, якое месца павінен будзе заняць ён, былы франтавік, у гэтым дружным працоўным калектыве. Так засмуткавала яго душа па працы, мірнай, стваральнай працы, што, ведаў Мікола, не вытрымае ён і тыдня без справы.

Навасад ціха падышоў да Майчынага ложка. Дзяўчынка спала, раскінуўшы ручкі, у мяккай пасцельцы. Прыслухоўваючыся да роўнага дыхання дзяўчынкі, Мікола доўга з замілаваннем пазіраў на яе... І раптам сэрца яго сціснулася ад болю — з ім побач не было Валі, роднай і любай сяброўкі. Няўжо гэта ўсё, няўжо яна ніколі больш не пакладзе яму руку на плячо і не стане вось так побач з ім, каб палюбавацца шчаслівым сном сваёй дачушкі? Няўжо не пачуе ад яе, як бывала, слова падтрымкі, добрай парады, а ў хвіліны весялосці — яе звонкага смеху і песняў?..

Мікола заснуў далёка за поўнач. А раніцой прачнуўся ад нечага лёгкага дотыку рукі. Адкрыў вочы і ўвесь уздрыгнуў ад радасці — перад ім стаяла Маечка.

— Татка,— выказваючы адзнакі нецярплівасці, прасказала дзяўчынка з нейкім смешным выглядам дарослай,— і калі ты прачнешся? Уставай. Я хачу з табой пагутарыць, а ты ўсё спіш і спіш...

## 3

Паснедаўшы, Мікола ўзяў за руку Маечку, і яны разам пайшлі прайсціся па сялу. Навасаду не цярпелася самому, уласнымі вачыма, убачыць, як выглядае сёння сяло, чым жывуць людзі.

Па дарозе Маечка ўвесь час шчабятала яму свае дзіцячыя навіны. То яна расказвала яму, як вясною іх кароўка нарадзіла маленькага бычка, такога рабенькага-рабенькага, у лапінкі, з зорачкай на лобе, і як ён за лета вырас і весела падбрыквае, калі выпусцяць яго на двор. То расказвала пра сваю сяброўку Гэлю і пра тое, якая ў яе ёсць цікавая лялька — сама ўмее адкрываць і закрываць вочы, а калі націснеш кнопачку, то нават гаворыць «мама».

Мікола з нейкай замілаванасцю слухаў яе бесклапотнае дзіцячае шчабятанне, стараючыся быць сур'ёзным, здзіўляўся ўголас, распытваў падрабязнасці.

Нават на першы беглы агляд было ўсюды відаць, з якой энергіяй і запалам узяўся народ за аднаўленне,

як, пачынаючы з дробязей і канчаючы вялікім, дбаў ён аб заўтрашнім дні, клапаціўся пра будучыню. Амаль каля самага дома Міколу сустрэў Антось Шчарбіна, нядаўні франтавік, брыгадзір паляводчай брыгады. Заклапочаны Шчарбіна спяшаўся ў канец сяла, да калгаснага гумна.

Радасна прывітаўшыся з Міколам, брыгадзір адразу ж з гонарам спытаў:

— Чуеце, як гудзе?

Мікола прыслухаўся — на калгасным гумне, якое цудам уцалела ад пажару, чуваць быў гул малатарні.

— Конная! Па вінціку сабралі, скляпалі, а цяпер глядзі, як весела пайшла работа!

Шчарбіна, развітаўшыся, паспешліва пайшоў да малатарні.

Прайшоўшы крыху, Мікола ўбачыў каля аднаго дома за працай вядомага беражкоўскага пчаляра дзеда Усціна. Стары майстраваў новыя вароты. Усцін узрадаваўся сустрэчы, удзяўбнуў сякеру ў шула і падышоў да Міколы.

— Гэта ж узялі, нелюдзі,— паказаў рукою Усцін,— танкам у двор заехалі, вароты паламалі, рабіну, каля акна расла, зламалі. Два гады не будаваў новых, а цяпер парашыў — усё ідзе на лад, давай і вароты збудую. Добра яшчэ, што ў хату не ўздумалі ўехаць.

Мікола выняў партабак, пачаставаў дзеда папяросай.

— А што, дзед, як твае пчолы? — спытаў ён.

— Э, пчолы! Не да парасяці было, калі свінню смалілі. Яшчэ ў першую зіму фашысты мёд павыдзіралі, і канец прыйшоў пчолкам. А цяпер думаю, сынок, зноў наладжваць вуллі. Вунь і дошкі ўжо нарыхтаваў, стаяць, сушацца. Думаю, перш за ўсё для калгаса вулляў з пяць за зіму змайстраваць. А вясною раі набуду, пасаджу...

Дзед Усцін задумаўся, памаўчаў.

— Я табе скажу, сынок, столькі перажылі ўжо... А вось жа глядзі, згінуў фашыст, і зямля і людзі зноў як бы ажылі... Хто дом будуе, а ў каго сям'я разбіта — пра сям'ю думае... Вось і ў цябе такое ж гора...

Мікола апусціў галаву.

— Яно, як ведаць, можа, яшчэ і вернецца. Вунь за ракой многія вярнуліся, вызваліла іх наша армія,— у роздуме сказаў Усцін, бачачы, які боль выклікаў у Міколы ўспамін пра жонку.

Мінуўшы яшчэ некалькі дамоў, Мікола з Маечкай выйшлі на папялішча. Вуліца тут была як бы абсечана, далей усё было спалена. Але на чорнай спапялёнай зям-

лі, паблісквaючы свежым бярвеннем, непадалёк ужо стаялі зрубы новых дамоў. Каля тых зрубаў, якія бачыў Мікола ўчора, падыходзячы да Беражкоў, зараз ішла гарачая работа, завіхаліся цесляры. Адны часалі бярвенне, другія ўкладвалі іх на сцены. Некалькі цесляроў ставілі кроквы на той закончаны зруб, што яшчэ ўчора заўважыў Мікола, і адразу ж клалі папярэчыны.

— Дзень добры будаўнікам! — прывітаўся Мікола, падышоўшы з Маечкай да зруба.

— А, Мікола Пятровіч!

— Дзень добры, дарагі, дзень добры! — дружна адгукнуліся цесляры.

Паклаўшы на хвілінку сякеры, мужчыны злезлі з рыштавання, сабраліся вакол Міколы. Тут былі і маладыя хлопцы, якія, як відаць, упершыню ўзялі ў рукі сякеру, і вопытныя майстры. Усіх іх Мікола добра ведаў. Вось прысадзісты, барадаты брыгадзір цяслярскай брыгады Макар Кузьміч Фаменка, мужчына год пад пяцьдзесят, спрактыкаваны. Ён многа пабачыў на сваім вяку. Вось малады хлопец, Цімоша Паўлечка, сын удавы Сымоніхі, які ўсю вайну праваяваў у партызанах падрыўніком. З радасцю ўбачыў Мікола сярод цесляроў Арсеня Дубовіка, аднаго са знатных да вайны грабароў на асушцы Пагіблых. Некалі на пракладцы калектараў ён выкідваў за дзень па пятнаццаць кубаметраў грунту, удвая і ўтрая перавольшваючы норму. Мікола добра ведаў гэтага стараннага, працавітага чалавека, які пасля звароту з вайны з нейкай асаблівай асалодай прыступіў да мірнай працы і зараз гатовы быў рабіць хоць з сякерай, хоць з плугам або рыдлёўкай.

Усе былі рады бачыць Міколу, павітацца з ім. Многія з іх самі нядаўна вярнуліся з вайны, некаторыя былі ў партызанах. З цікавасцю пачалі яны распытваць Міколу, што цяпер новага рабілася на свеце, пыталіся пра нямецкія гарады.

— А мы вось памалу ўваходзім у мірны курс,— пыхкаючы люлькай, паказаў на будаўніцтва Макар Кузьміч,— наладжваем жыццё. Парашылі калектывам будаваць дамы ўсім пагарэльцам.

— Што ж, даўно пара выбірацца з зямлянак,— заўважыў Навасад.— А то і другія ж справы даганяюць. Колькі дамоў пабудавалі?

— Шэсць ужо здалі, як ёсць, гатовымі, а вось, глядзі, яшчэ дзевяць зрубаў канчаем,— паказаў Фаменка рукою

наперад, дзе на аднолькавай адлегласці адзін ад аднаго стаялі ў рад новыя дамы.

— Я так думаю, што гэта вы, Мікола Пятровіч, закід наконт Пагіблых робіце,— з усмешкай сказаў чарнявы шыракаплечы Арсень Дубовік.

— Здагадлівы,— падміргнуў Мікола быламу грабару.

— Пабудуем хаты, а потым і за балота возьмемся, гэта пэўна,— махнуў рукою Дубовік.

— А гэта ж акурат мы яму і хату ставім,— растлумачыў Макар Кузьміч, паказваючы на зруб, каля якога яны стаялі.

Заклапочаны нейкімі гаспадарчымі справамі, да групы, накульгваючы, падышоў старшыня калгаса Іван Апуфрыевіч.

— Ну што, падабаецца домік? — павітаўшыся, звярнуўся Грабок да Міколы.— Новыя дамы ставім не роўня згарэўшым. Цяпер партыя нам такі арыенцір дае, што будаваць трэба на доўгія гады ды па ўсіх правілах, каб жыў наш савецкі чалавек, як і патрэбна людзям пры сацыялізме жыць... Чаго ж стаіцё, зойдзем усярэдзіну. Вядзі, брыгадзір, ты ж тут пакуль гаспадар.

Мікола ўзяў на рукі Маечку і следам за цеслярамі ўвайшоў у дом. Пакоі ў доме былі прасторныя, спланаваны па-новаму, не як у мінулым на Палессі, дзе ўся хата часцей за ўсё складалася з аднаго пакоя, у якім была і кухня, і спальня, і чыстая палавіна. У гэтым доме было тры пакоі, кухня, столь была высокая, вокны вялікія.

Вакол стаяў прыемны пах свежай смалы. Брыгадзір вадзіў Міколу з пакоя ў пакой і расказваў пра іх прызначэнне.

— І ўсё гэта дзякуючы нашай уладзе мы здолелі зрабіць,— спыніўшыся сярод пакоя і аглядаючы яго, сказаў Грабок.— І крэдыты нам доўгатэрміновыя далі, і лес адпусцілі. Што ж, хлопцы, рабіце хутчэй ды на наваселле клічце.

Развітаўшыся з цеслярамі, Мікола зазірнуў у кузню, адкуль чуўся звон малаткоў, потым схадзіў на ток, да малацільшчыкаў. І ўсюды, дзе б ён ні быў, бачыў Мікола, як дружна і энергічна людзі працавалі, як, не шкадуючы сіл, стараліся хутчэй аднавіць гаспадарку, загаіць раны, нанесеныя ворагам. Асабліва яго ўразіла тое, што ён убачыў каля школы — дзеці прынеслі з лесу і садзілі ўздоўж новай вуліцы маладыя дрэвы. Колькі глыбокага сэнсу было ў гэтым іх занятку!

Дадому Мікола вярнуўся поўны ўражанняў ад сустрэч і размоў. Але яму не сядзелася дома. Распытаўшы ў Купрыенкі дакладна, дзе былі зроблены завалы на магістралі, Мікола ў той жа дзень парашыў схадзіць на балота.

Пасля паўдня, ускінуўшы на плечы паляўнічую стрэльбу, ухаваную маці ад немцаў у застрэшшы хлява, Мікола пайшоў на Пагіблыя, на тыя самыя, вядомыя на ўсю рэспубліку, балацяныя нетры, з якімі некалі ён так упарта ваяваў. Бережкі знаходзіліся недалёка ад вялікіх балотных масіваў, у пойме маленькай, спрэс заросшай лазой і травамі, пакручастай рачулкі. Да асушкі балот плынь у гэтай рачулцы была такая павольная, што яе нават цяжка было прыкмеціць. Магістральны канал, які праходзіў ад Беражкоў усяго за якіх-небудзь сем кіламетраў, у многіх мясцінах супадаў з рэчышчам гэтай рачулкі, выпраставаў яе і пашырыў. Некалі Навасад меркаваў зрабіць гэтую рэчку-магістраль суднаходнай. Але работа гэтая засталася незакончанай, магістральны канал не быў даведзены да асноўнага водапрыёмніка Прыпяці і ўліваўся пад канец зноў у тую ж маленькую рачулку. А цяпер усё тое, што было зроблена, трэба было пачынаць амаль нанава.

То скачучы з купіны на купіну, то павольна ідучы па вузкіх дрыгвяністых сцежках, доўга хадзіў Мікола па абшарах Пагіблага. Яму знаёмы быў некалі кожны кусток на гэтых балотах. Ён аглядзеў тыя месцы на канале, дзе ў сорак першым годзе былі зроблены завалы,— пачарнелыя бярвенні, галлё, закіданае каменнем і зямлёй. Усё гэта ўжо зацягнута ілам, парасло асакой. Вакол зноў непраходная дрыгва.

Выбраўшы сухое месца на беразе канала, Навасад сеў пакурыць, а заадно вырашыў падлічыць, якая шкода нанесена гідратэхнічным збудаванням, прыкідваў на вока плошчу, што зноў ператварылася ў балота. Лічба атрымлівалася немалая.

Мікола акінуў позіркам мясцовасць. Навакол ужо бачны былі адзнакі восені. Самы кволы подых ветрыку прыводзіў у рух пажоўклую асаку і чарот, якія суха шапацелі. У нейкім панылым маўчанні застылі кусты жаўцеючага альшэўніку. Пакрытая плесенню, стаяла ў канале жоўтая, падобная на чай, тарфяная вада. Прыслухоўваючыся да той не кранутай ніводным гукам цішыні, якая панавала над балотам, можна было ашукацца і падумаць, што ніколі не ведалі гэтыя дрыгвяныя нетры чалавека і яго нага ніколі тут не ступала. Быццам і не чулі Пагіб-

лыя грукату экскаватараў, гоману тысяч людзей, гулу трактароў.

«Нядоўга вам так ляжаць»,— падумаў Мікола і паціху пайшоў берагам канала.

Раптам ён пачуў выразны шум над галавой — ад рэчкі ў бок азёрцаў, якія ляжалі ў старане ад канала, кіравалася стайка крыжных качак. Качкі ляцелі цэлым скопішчам, відаць, збіраліся ў адлёт, на поўдзень, апошнія дні жывучы ў родных балотах.

Мікола падхапіў з пляча стрэльбу, ускінуў на руку, але стрэліць не паспеў — качкі праляцелі. Ён звярнуў з дарогі і пайшоў нацянькі праз балота, абыходзячы, дзе можна, ваду, да азёрцаў, на якія, відаць было, апусцілася стайка.

Хаваючыся за кустамі, Мікола падышоў да самага берага маленькага азёрца. Качкі, якіх было, можа, каля сотні, густа згрудзіўшыся, поркаліся каля процілеглага берага ў траве і прыбярэжнай твані. Мікола ціха прылёг на сухі грудок, за густым альховым кустом, і стаіўся. Узяўшы на прыцэл крыжняў, якія збіліся ў кучку каля травы, Мікола стрэліў, падхапіўся на ногі і, калі стайка спалохана ўзнялася з вады, склаўся і стрэліў з другога ствала ўлёт. Буйны крыжань, ледзь падняўшыся над азёрцам, плёхнуўся ў прыбярэжную асаку. Развеяўся дым, і Мікола ўбачыў, што на вадзе ляжалі яшчэ дзве качкі, забітыя першым стрэлам. Ён абышоў азёрца і сабраў дзічыну.

Дамоў Мікола вярнуўся стомлены, але задаволены сваёй пагулянкай.

— І Пагіблае пабачыў і крыжняў настраляў,— весела сказаў ён, сустрэўшы на двары маці. Старая задаволена паважкала на руцэ тлустых, укормленых за лета крыжняў. Ідучы за Міколам у хату, яна перш за ўсё паведаміла:

— Сынок, а па цябе тут з сельсавета прыбягалі. Званіў таварыш Сіўцоў, хацеў з табой пагутарыць.

— Сіўцоў званіў? — зацікавіўшыся, перапытаў Мікола.

— Ён сказаў перадаць, каб на тым тыдні ты нікуды не адлучаўся, ён прышле па цябе машыну. На навошта ты трэба яму.

Мікола ўвайшоў у хату, ахоплены радаснымі здагадкамі,— можа, гэта і быў пачатак таго, аб чым ён думаў, пачатак яго мірнай працы.

Пакінуўшы на канапе свае лялькі, Маечка з усіх ног падбегла да бацькі. Мікола падхапіў яе, падняў на рукі. Ён паглядзеў на дачку, і раптам перад ім, як жывая, у

думках паўстала Валя. Твар Міколы адразу засмуціўся, стаў суровы, і на момант аддаліліся ўсе яго думкі і планы і ўся радасць сённяшняга дня.

## 4

Праз дзень пасля сваёй пагулянкі на Пагіблыя Мікола, вярнуўшыся надвячоркам з праўлення калгаса, застаў у доме незнаёмую жанчыну. Госця — маладая дзяўчына — сядзела ў пакоі і ціха размаўляла з маці. Скінуўшы мокры, задубянелы ад дажджу плашч, Мікола павесіў яго каля печы, прывітаўся. Дзяўчына ўстала і ціха адказала яму. Яна была невялікага росту, хваравіта-бледная, у паношанай ватоўцы.

Паглядзеўшы на маці, Мікола са здзіўленнем убачыў, што тая не аднімае хусцінкі ад чырвоных, заплаканых вачэй. Ён уздрыгнуў і павярнуўся да дзяўчыны. Нерухомы, змардаваны твар госці нічога яму не сказаў, але цяжкія прадчуванні адразу агарнулі яго.

— Гэта вы будзеце Мікола Навасад? — спытала дзяўчына.

— Я... А што?

— Тры дні таму назад я вярнулася з Германіі...— ціхім, роўным голасам сказала дзяўчына, глянуўшы на Міколу.— З горада Брауншвейга. А сама я родам з Койданаўкі, па суседству з вашым сялом... Я прынесла вам цяжкую вестку... Ваша жонка Валянціна не дачакалася вызвалення. У мінулым годзе, у снежні месяцы, яна памерла.

Нібы ўдараны знянацку, Мікола ўздрыгнуў, твар яго пабялеў. У адзін міг ён увесь змяніўся. Ён стаяў нерухомы, быццам аглушаны.

Дзяўчына спачувальна паглядала на яго. Але, відаць, яна лічыла за лепшае не шукаць вакольных сцежак, а адразу гаварыць праўду, якой бы горкай гэтая праўда ні была.

— Гаварыце, што вы ведаеце пра яе,— ачнуўшыся, папрасіў Мікола.— Адкуль вы гэта ведаеце? — спытаў ён, абнадзеяны імгненна ахапіўшым яго сумненнем. Але дзяўчына адразу развеяла ўсе яго надзеі:

— Я ўвесь час была ў адным з ёю лагеры. Я і хавала яе. Мы пахавалі яе за дротам нашага лагера, у полі. А расказваць, як мы жылі,— цяжка пра тое ўспамінаць. Валя ад знясіленасці, з голаду памерла. Злягла яна зімою ды і не паднялася ўжо. Нам па тры дні расінкі ў рот не дава-

лі — ні піць, ні есці. А працаваць ганялі на земляныя работы. Колькі людзей там загінула — жах адзін, іх раніцой збіралі і ў тачках за дрот вывозілі, у ямы... А Валю мы самі пахавалі — упрасілі вартавога, каб дазволіў...

Дзяўчына гаварыла роўным, як быццам абыякавым тонам, але ў ім гучала такая нянавісць, адчувалася, што ёй давялося столькі выцерпець пакут і здзекаў, што, слухаючы яе, станавілася страшна. Калі існуе пекла, дык толькі з пеклам можна было параўнаць жыццё беларускіх дзяўчат у Германіі, у фашысцкіх лагерах.

— Яна часта ўспаміпала дачку,— казала далей дзяўчына.— «Дачушка, кажа, мая дарагая, ці ты яшчэ на свеце, ці няма ўжо цябе жывой?» Многа разоў успаміпала вас. А я вас і сама да вайны ведала. Вы ў нас галоўным па балотах былі...

Дзяўчына расказвала пра жыццё ў лагеры, пра доўгія месяцы галадовак, пра тое, як аднойчы яна з Валяй і яшчэ адна жанчына родам з Палесся вырашылі ўцячы з лагера і як іх усіх траіх злавілі, збілі да паўсмерці і кінулі на два тыдні ў халодны карцэр...

Сціснуўшы вусны, Мікола слухаў дзяўчыну. Ён сядзеў нерухомы, маўклівы, і толькі рэдкія нервовыя ўздрыгі рук ды пацямнелыя ад болю вочы сведчылі аб яго ўнутраным хваляванні.

— Вось яшчэ...— дастаючы з кішэні ватоўкі маленькі вузельчык і развязваючы яго, сказала дзяўчына.— На ўспамін вам захавала... Пярсцёначак. Сама яна дала мне яго.

Дзяўчына перадала пярсцёнак Міколу. Так, гэта быў Валін персцень, залаты, з недарагім чырвоным каменьчыкам. Мікола некалі пасля вяселля купіў ёй гэты персцень у падарунак, і Валя ніколі не скідала яго. І вось — Валі няма, і яе ўжо ніколі не будзе, толькі гэты персцень успамінам аб ёй нерухома ляжыць на руцэ.

У гэты час у сенцах бразнулі дзверы, і суседка, маці Майчынай падружкі Гэлі, унесла ў хату Маечку, укрытую посцілкай ад дажджу.

— Прынесла вам вашу ўнучку,— звярнулася суседка да Хрысціны.— Гулялі яны з Гэлькай аж пакуль не натаміліся.

Мая, убачыўшы бацьку, кінулася да яго ў абдымкі.

— Божа мой,— зварухнулася раптам дзяўчына.— Гэта Валіна дачка! — Яна паднялася і падышла да Міколы:— Дайце мне хоць трошкі патрымаць яе...

Мая, прыціхшы, пакасілася на дзяўчыну. Тая ўзяла яе на рукі, пацалавала, пяшчотна пагладзіла па белых ільняных кудзёрках валасоў. Маечка паслухмяна прыхіліла галоўку да дзяўчыны.

Пакінуўшы дзяўчыну з маці, Мікола зачыніўся ў сваім пакойчыку. Значыць, бязлітасная вайна чорным сваім крылом закранула і яго. Валя, Валя... Ледзь толькі на адзін кароткі міг ён уяўляў сабе яе жахлівую няволю, пакутніцкую смерць, сэрца яго сціскалася ў такім болю, быццам усё тое, што адчувала яна ў няволі, перадавалася яму. Мікола лёг на ложак, уткнуўся тварам у падушку і сціснуў рукамі скроні...

Вось, як жывая, яна стаіць перад ім. Стаіць і смяецца ўласцівым ёй агністым смехам, ад якога вакол, здаецца, сыплюцца звонкія іскры... Вясна. Валя ў чоўне, махае рукой, кліча яго да сябе. Ён бяжыць па беразе, сядае з ёю ў хісткі човен. Тонкім краем човен ажно чэрпае ваду. Мікола ўзмахвае вёсламі, і яны ўдваіх плывуць па шырокай вясенняй вадзе. Ледзь прыкметнай цёмнай палоскай бачны ім на даляглядзе другі бераг. Яны плывуць па залітых вадою лугах, падплываюць да лугавых дубоў, што стаяць адзіночкамі-сіратамі па голле ў вадзе, выкіроўваюць човен паміж густых лазовых кустоў. На сярэдзіне ракі ён пакідае грэбці, і човен, падхоплены імклівай плынню, імчыцца сам. А яны ціха сядзяць і ў маўклівым захапленні сузіраюць урачыстае свята вясны, і жыццё ім абаім здаецца такім жа поўным і прыгожым, як гэтая вясенняя рака...

Мікола паварушыўся, і ўспамін знік, як дым на ветры. Скончыўся дзень, і надышла ноч, а Мікола ўсё ляжаў на ложку, агорнуты цяжкім одумам.

Толькі пад раніцу ён непрыкметна для сябе заснуў.

## 5

Пад'язджаючы да будынка абласнога камітэта партыі, невялікага, яшчэ да вайны абсаджанага ліпамі, двухпавярховага дома, Сіўцоў заклапочана паглядзеў на гадзіннік.

— Ну, часу да пачатку пасяджэння дастаткова,— сказаў ён, вылазячы з машыны.— Прасіў мяне Дзям'ян Сяргеевіч, каб мы зараней прыехалі. Здаецца, аб нечым з табою пагаварыць хоча.— І ўжо ўваходзячы ў дзверы абкома, Сіўцоў, як бы жадаючы расказаць Міколу пра Лугаўца, першага сакратара, больш падрабязна, дадаў:— Строгі наш Дзям'ян Сяргеевіч, любіць дакладнасць. Армейская звычка... А трэба сказаць, разумны чалавек! Паглядзіць

па цябе, то здаецца, наскрозь бачыць, і нават думкі чытае. Колькі папрокаў давялося выслухаць ад яго за розныя промахі, а пакрыўдзіцца нельга — заўсёды праўду-матку ў вочы рэжа.

Па лесвіцы, засланай неш ырокай дарожкай, яны падняліся на другі паверх, распрануліся. Малады, у ваеннай форме, памочнік Лугаўца правёў іх у невялікі зал, дзе павінна была адбыцца нарада. Тут ужо сядзела, размаўляючы паміж сабой, некалькі чалавек. Агледзеўшыся, Мікола ўбачыў сярод прысутных даваенных знаёмых. Павітаўся з Быланіным, сакратаром суседняга райкома, з начальнікам абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі Ахрэмавым, які працаваў да вайны выкладчыкам у агратэхнікуме. Сіўцоў пазнаёміў Навасада з новым кіраўніком абласнога аддзела меліярацыі, Мельнікавым, немаладым, паважным чалавекам, у чорных рагавых акулярах. Пачуўшы прозвішча Міколы, Мельнікаў ажывіўся — відаць, яму ўжо гаварылі пра Навасада,— пачаў распытваць яго пра Пагіблыя, пацікавіўся настроем Міколы. Тут жа прапанаваў яму пасаду загадчыка аднаго з сектараў у абласным аддзеле меліярацыі. Навасад адхіліў яго прапанову, пажартаваўшы, што ахвотнікаў працаваць у абласным цэнтры, у горадзе, Мельнікаў напэўна знойдзе лягчэй, чым для работы ў Беражках.

Нечакана перапыніўшы гэтую размову, памочнік Лугаўца запрасіў Навасада ў кабінет першага сакратара.

«Аб чым ён хоча са мною гаварыць?» — міжвольна адчуў некаторую ўсхвалёванасць Мікола. Ён здагадваўся, што размова гэтая будзе нейкім чынам кранацца яго далейшага лёсу.

Лугавец ветліва падняўся насустрач Навасаду, выйшаў з-за стала. Гэта быў высокі, некалькі грузны чалавек, з буйнымі, выразнымі рысамі твару, густымі, сівеючымі валасамі. З-пад яго шырокіх брывей глядзелі на Міколу разумныя ўважлівыя вочы. Шчаку Лугаўца перасякаў вялікі рубец, які цягнуўся ад скроні да барады,— як відаць, след нядаўняга ранення. Рухі яго былі непаспешлівыя, спакойныя, поўныя ўнутранай упэўненасці, сілы.

Прывітаўшыся, Лугавец запрасіў Міколу сесці і сам сеў у крэсла насупраць. У кабінеце было ціха, выразна чулася, як адлічваў секунды маятнік гадзінніка на залітай сонцам блакітнай сцяне.

Лугавец закурыў, прапанаваў папяросу Міколу.

— Вы, вядома, ведаеце, якія аграмадныя аднаўленчыя

работы праводзяцца зараз у вобласці,— як відаць, па звычцы асцярожна пагладжваючы рубец, пачаў гаварыць Лугавец.— Мы займаемся адразу ўсім — будуем дамы для калгаснікаў, каб хутчэй перасяліць іх з зямлянак, наладжваем работу МТС, асвойваем запушчаныя за вайну палі.— Лугавец зрабіў паўзу і раптам спытаў:— Скажыце, Навасад, як па-вашаму, ці здолеюць калгаснікі ўжо ў гэтым годзе, скажам, хоць бы ў вашым Даманаўскім раёне, адначасова з аднаўленнем гаспадаркі пачаць меліярацыйныя работы на балотах? Для нас, палешукоў, праблема асваення балот мае жыццёва важнае значэнне...

Навасад, не чакаючы такога пытання, памаўчаў, падумаў. Затым сцвярджальна кіўнуў галавой:

— Здолеюць. У вёсцы зараз адчуваецца ўздым, людзі працуюць з небывалай энергіяй. Мне здаецца, іменна зараз, падтрымліваючы гэты ўздым, патрэбна пачынаць вялікія работы.

Лугавец раптам нечакана лёгка падняўся з крэсла, прайшоўся па кабінеце.

— Добра, вельмі добра! — задаволена выгукнуў ён, зрабіўшы рашучы жэст.— Няхай мы пачнём з малога: адновім і прывядзём у парадак асушальную сетку, пракладзеную да вайны. Пазней, атрымаўшы машыны, пойдзем далей... Скажыце, у якім становішчы зараз Пагіблыя балоты? — Лугавец спыніўся.

Навасад пачаў падрабязна расказваць усё, што бачыў сам і ведаў пра Пагіблыя і пра ўсе другія балоты Даманаўскага раёна. Назваў прыблізныя лічбы нанесеных вайною страт і аб'ём рамонтных работ, выказаў свае меркаванні, з чаго трэба пачынаць асушку. Захапіўшыся, ён пачаў марыць, расказваць пра казачныя ўраджаі, якія будуць здымаць палешукі на балотных тарфяніках, пра невычэрпныя магчымасці, якія дае ў рукі чалавеку багатая прырода Палесся.

Лугавец сеў і, засяроджана слухаючы, час ад часу рабіў паметкі ў блакноце. Часамі ён задумёна паглядаў у акно, і ў такія хвіліны Міколу здавалася, быццам Лугавец зусім і не чуе, што ён гаворыць. Але Лугавец нечакана паварочваўся да яго і, папрасіўшы выбачэння, перапыняў яго пытаннем, мяркуючы, па якім было відаць, як уважліва ён слухаў.

Калі Навасад скончыў, Лугавец павярнуўся, уважліва, як бы вывучаючы, паглядзеў на яго. Відаць, усхвалёваны расказ Навасада зрабіў на яго ўражанне.

— Вы дзе служылі? — спытаў ён Міколу.
— У Трэцяй арміі, у дывізіі генерала Папова.
— Бацюхны! — здзівіўся Лугавец.— Ды мы ж з вамі аднапалчане. У гэтай дывізіі і я ў пачатку вайны быў. Праўда, там я нядоўга праслужыў, па раненню давялося выбыць. Лоеўскія пераправы памятаеце? Вось там мяне і шкрабанула... Як відаць, шмат вам давялося перажыць за вайну?
— Як і ўсім,— ухіляючыся, адказаў Навасад.— А чаму вам так здаецца?
— Ды па ўсім відаць. Такое гарачае імкненне ў «заўтра», такую прагу да мірнай працы, якую выказалі вы, можа адчуваць толькі чалавек, які прайшоў праз усе цяжкасці ў гэтай вайне... Вось, успамінаю,— пасля паўзы працягваў Лугавец,— як мяне ўпершыню параніла. Ляжу сярод поля — ні зварухнуцца, ні дыхнуць. І раптам мне так захацелася жыць, што нават болю не адчуваю. Прывезлі ў шпіталь, аперыравалі, і адразу вычуняць пачаў. Нават дактары здзіўляліся, як хутка ачуняў, набраўся сілы... Вось гэтую прагу да жыцця заўважыў я і ў вас. Гэта добра, савецкі чалавек таму такі і моцны, што ведае, у імя чаго ён жыве, змагаецца...
Лугавец павярнуўся да Міколы:
— Здаецца, вы да вайны працавалі на асушцы Пагіблых?
— Так, працаваў.
— А ведаеце, што я вам прапаную? Давяршайце справу, пачатую вамі да вайны, бярыцеся за кіраўніцтва асушкай Пагіблых... Сіўцоў мне расказваў пра вас, пра ваша асабістае няшчасце. Мне думаецца, работа — самыя найлепшыя, самыя дзейсныя лекі ад усякай раны. Усё, аб чым баліць душа, павінна вылечыць праца... Дык што ж, згодны на маю прапанову?
Навасад усхвалёвана падняўся, кіўнуў галавою:
— Згодзен... Вы нават не ведаеце, як вы ўгадалі! Да вайны ў кожнага з нас былі свае нейкія вялікія і малыя мары, планы. Асушка Пагіблых была маёй вялікай марай...
— Што ж, вось вы зараз і ажыццявіце яе,— усміхнуўся Лугавец.— Я знарок паклікаў вас, каб на нарадзе, якая цалкам будзе прысвечана пытанням меліярацыі, вы не адчувалі сябе старонні... Вернецеся ў Даманава, адразу ж, не адкладваючы, прыступайце да рамонту асушальнай сеткі. А адначасова звяжыцеся з Мельнікавым ды пачынайце складанне праекта асушкі ўсёй плошчы Па-

гіблых... Ад усёй душы жадаю поспеху! — горача паціснуў Лугавец руку Міколу. Ён паглядзеў на гадзіннік і дадаў:— Што ж, пара і нараду пачынаць. Пайшлі?..

І, прапусціўшы наперадзе сябе Міколу, Лугавец выйшаў з кабінета.

## 6

У сваё новае, неваеннае жыццё Навасад уваходзіў паступова. Напачатку варта было яму на міг забыцца, заплюшчыць вочы, і думкі адразу пераносілі яго назад у вайну, на фронт. То ён бачыў сябе бягучым на чале ланцугоў сваёй роты па шырокім голым полі Усходняй Прусіі з аўтаматам у руках... Ён крычыць словы каманды, урываецца ў варожую траншэю. Вось перад ім два жывыя фашысты. Дзіка выпучыўшы вочы, яны нешта крычаць. Ён страляе з аўтамата, і ворагі валяцца на дно траншэі, а ён пераступае цераз іх мёртвыя целы і бяжыць, бяжыць далей, і толькі ў памяці стаяць, быццам хто на камені высек, іх страшныя ў перадсмяроцці вочы... То раптам узнікала перад ім ноч пад Кенігсбергам, ноч, якая была святлей за дзень ад зарава агню, ахапіўшага, здавалася, і неба і зямлю. Часта ён бачыў фронт у снах. Ён бачыў у снах лясы і рэкі, якія яму давялося некалі праходзіць, біўся ўрукапашную ў руінах гарадскіх камяніц. Часамі ён ясна чуў у сне, як гохае дзесьці на ўзлессі буйнакаліберная савецкая артылерыя і з выццём праносяцца над галавой цяжкія скрыні смерці, як скрыгочуць жалезам гвардзейскія мінамёты... Так ясна ён гэта чуў і бачыў, што калі раптам прачынаўся сярод ночы, то доўга не мог зразумець, дзе ён і што з ім, уражаны нейкай першароднай цішынёй і поўным спакоем вакол.

А калі прахапляўся і ўсё ўспамінаў, падымаўся з ложка, запальваў святло і, пыхкаючы папяросай, доўга хадзіў па пакоі.

Але паступова вайна ўсё радзей і радзей вярталася да яго і ў снах, і ў думках. Кіраўніцтва падрыхтоўкай да асушкі балот з кожным днём давала яму ўсё больш клопат. Па сваёй новай пасадзе Навасад павінен быў жыць у Даманаве, раённым цэнтры, да якога ад Беражкоў было дзве гадзіны добрай хады. Але Навасад пасля столькіх год расстання з сям'ёю не хацеў адразу ж і пакідаць яе, а пераехаць усім у Даманава перашкаджалі некаторыя абставіны. Сіўцоў пайшоў на выручку свайму даўнішня-

му прыяцелю і падараваў Навасаду матацыкл, некалі захоплены партызанамі ў немцаў. У два дні асвоіўшы нескладаную тэхніку трафейнага «цундапа», Мікола незалежна ад працы мог цяпер жыць у роднай вёсцы, таму што ўся дарога ў Даманава адбірала якіх дваццаць хвілін. Зноў жа, Беражкі былі бліжэйшай вёскай да Пагіблых і неяк самі па сабе сталі цэнтрам усіх падрыхтоўчых работ, так што і ў раён Навасаду прыходзілася ездзіць не кожны дзень.

З таго памятнага дня, калі Мікола даведаўся пра смерць жонкі, ён неяк асабліва моцна пасябраваў з дачкой. Раніцой кожнага дня яшчэ да снедання ён з паўгадзіны праводзіў у гульнях з Маечкай. Гэтыя штодзённыя паўгадзіны яны называлі «фізкультзарадкай». Колькі было тут смеху, жартаў, выдумак! Часам уся хата ходарам хадзіла ад іхніх забавак, і старая Хрысціна вымушана была заходзіць у пакой, каб супакоіць іх,— а можа, не столькі супакоіць, колькі палюбавацца на сваіх дзяцей. Часта ў добрае надвор'е Мікола браў Маечку з сабой у паездкі ў Даманава або ў раён работ на балота. Усаджаная на матацыкл, Маечка заўсёды адчувала сябе такой шчаслівай, так весела і па-дзіцячаму бесклапотна смяялася, што Мікола, паглядаючы на яе, і сам радаваўся, як дзіця.

Дзяўчынка ўжо ведала, што маці яе загінула. Мікола разгапарашыў не хаваць ад яе праўды і неяк увечары, разгаварыўшыся з дачкою, расказаў ёй усё.

— І яна ўжо ніколі-ніколі не прыедзе да нас? — не па-дзіцячаму строга спытала дзяўчынка, паглядаючы проста ў вочы Міколу.

— Ніколі! — адказаў Мікола.

Наперакор чаканням Міколы яна не заплакала, а толькі прыціхла, задумалася, як бы жадаючы зразумець, што адбылося і як ёй быць далей без маці. Увесь той вечар Мая заставалася сумнай, задумёнай, ціхенька сядзела, забраўшыся ў куточак. А раніцою ўстала і, быццам нічога не здарылася, пачала гуляць са сваімі цацкамі. Мікола нават здзівіўся таму, як лёгка і проста змірылася дзяўчынка з гэтай цяжкай весткай, і, па звычцы дарослых усё ўскладняць, быў нават некалькі збянтэжаны, як яму здавалася, жорсткасцю дачкі, яе абыякавасцю.

Бабуля пяшчотна і горача любіла Маечку, займалася ёю амаль увесь вольны час, клапацілася пра яе. Ніколі Маечка не была ненакормленай або няўмытай, непрыча-

санай, ніколі бабуля не выпускала Маечку ў халоднае надвор'е на вуліцу, не апрануўшы яе цяплей, не завязаўшы ёй на шыю цёплы шарсцяны шалік...

І ўсё ж Мікола бачыў і разумеў, як ёй не хапае маці, не хапае старэйшага друга, які быў бы для яе прыкладам, вучыў яе жыццю, разумеў яе дзіцячыя клопаты і інтарэсы.

Праз месяц пасля нарады ў абласным камітэце партыі ў Бяражкі абследаваць Пагіблыя прыехала спецыяльная камісія з вобласці. Камісію ўзначальваў загадчык абласнога аддзела меліярацыі Мельнікаў, той самы дабрадушны таўсцяк, з якім Навасад пазнаёміўся ў кабінеце Лугаўца.

Па-сяброўску ўзяўшы пад руку Навасада, Мельнікаў адразу ж паведаміў:

— Перш за ўсё, дарагі, даручана мне перадаць табе цёплы сяброўскі прывет ад таварыша Лугаўца. Хацеў ён і сам з намі прыехаць, ды раптам наспелі неадкладныя справы. Абяцаў другім разам як-небудзь зазірнуць... Між іншым, Мікола Пятровіч, відаць, спадабаўся ты яму. Разы два пры сустрэчах пытаўся пра цябе, як жывеш, працуеш, які настрой.

— Дзякуй, таварыш Мельнікаў,— прыемна ўзрадаваны ўвагай сакратара абкома, адказаў Мікола.— Перадайце, што жыву нядрэнна, сумаваць няма калі, работы процьма. А вось калі знойдзе час ды прыедзе, буду вельмі рады. Ёсць чаго паглядзець у нас на Пагіблых.

Абследаваўшы Пагіблыя, камісія прыйшла да вываду, што працы па аднаўленню асушальнай сеткі трэба пачынаць з будучай вясны. Сёлетняй жа восенню меркавалася хоць бы давесці да ракі і прывесці ў парадак магістраль — разбурыць пабудаваныя ў пачатку вайны завалы, расчысціць і ўмацаваць фашынай рэчышча, дзе-нідзе кранутае плывуном. Гэта былі нялёгкія работы, таму што ў калгасах не было ні спецыяльных рыдлёвак, ні сякер, не было дастатковай колькасці людзей, а разбураць завалы, умацаваныя бярвеннем, можна было толькі ўручную.

Каб давесці пракладку канала да ракі, патрэбен быў экскаватар. І тут Мікола ўспомніў Міну Міхайлавіча. Выклікаўшы яго ў Даманава, Мікола прапанаваў яму прымацца за працу. Міна Міхайлавіч з радасцю згадзіўся вярнуцца да любімай справы. На Пагіблых усю вайну нерухома прастаялі два экскаватары — іх не паспелі вы-

везці ў тыл. Фашысты ведалі пра існаванне гэтых экскаватараў, але ім, відаць, было не да іх, тым больш што партызаны ў свой час здолелі зняць і схаваць у лесе многія важныя дэталі, без якіх пусціць машыны ў ход было немагчыма. Экскаватары пачырванелі ад іржы, стаялі закінутыя, пакрытыя гразёю. Узначаліўшы брыгаду слесараў, Міна Міхайлавіч за тыдзень ухітрыўся збольшага прывесці ў годнасць адзін з іх, які патрабаваў меншага рамонту.

І вось надышоў дзень, калі гэты першы экскаватар ажыў, загрукатаў і, апіраючыся на свае шырокія гусеніцы, пасунуўся да незакончанага канала. Вестка аб гэтай, на першы погляд не такой ужо і важнай, падзеі адразу ж абляцела ўсе навакольныя калгасы, і нечакана для Міколы пачатак работы экскаватара ператварыўся ў сапраўднае свята. На Пагіблыя сабраліся калгаснікі з многіх вёсак. Сівабародыя дзяды і малыя дзеці стаялі на беразе канала і ў захапленні паглядалі, як цяжкія сталёвыя клюшні ўгрызаліся ў адвечную балотную дрыгву і магутным рухам крана выкідвалі на бераг вялізныя кучы вільготнага грунту.

— Вось яно, пачалося,— не зводзячы вачэй з экскаватара, заўважыў высокі барадаты стары ў вышытай крыжыкамі кашулі,— пачалося наша новае жыццё.

Навасад зразумеў, што гэтая падзея была для старога як бы сімвалам адраджэння роднай зямлі. Назіраючы, як клюшні ўпэўнена і смела ўгрызаліся ў зямлю і крок за крокам расло рэчышча канала, калгаснікі прыгадвалі свае даўнішнія думы і спадзяванні, абарваныя вайной, і грукат экскаватара, няхай сабе хоць і адзінага пакуль што, падымаў у іх веру ў будучыню. Зноў вёў іх наперад шлях роўны, шырокі, як гэты канал, што бег удалячынь. Няхай ён яшчэ не даведзены да шырокай ракі іх вялікага калгаснага шчасця, але яны давядуць да канца, да высокай і яснай мэты, указанай вялікім правадыром...

Пуск экскаватара з'явіўся як бы штуршком, у калгасах пачалі рыхтавацца да ручных работ па расчыстцы завалаў на канале. У «Чырвоным беразе» наладзілі выраб спецыяльных грабарскіх рыдлёвак. У ход ішла браня з абгарэлых нямецкіх бронемашын і ўсякага іншага жалеза, раскіданага на палях нядаўніх баёў. У калгаснай кузні на пакоўцы рыдлёвак працавала аж чатыры кавалі. Хоць сапраўдным майстрам з іх быў толькі адзін Бягун, каржакаваты сухі стары, з доўгаю барадою, але

праз два-тры дні і астатнія маладыя кавалі налаўчыліся ў сваёй справе. Прыладжвалі да рыдлёвак трасціны сталяры з суседняй вёскі, дзе не было кузні, і за гэта беражкоўскія кавалі павінны былі скаваць для іх лішнюю сотню рыдлёвак.

За ўсёй гэтай работай раўніва, не перадаручаючы нікому, сачыў сам Іван Ануфрыевіч. Амаль кожны дзень увечары, калі канчаліся ў сяле ўсе дзённыя работы, Грабок заходзіў да Навасада пагаварыць аб справах. Звычайна Грабок прысаджваўся на табурэтку, вымаў з кішэні свой вышыты ўкраінскімі ўзорамі кісет, падараваны яму некалі ў шпіталі, закурваў сам і частаваў самасадам Міколу. Ён расказваў Міколу, як ухітрыліся яны прывалачы да кузні спаленую нямецкую бронемашыну, і як ён вымеркаваў каваць з яе выдатныя лемяхі на плугі, і колькі рыдлёвак кавалі зрабілі за дзень. Грабок любіў паразважаць з Міколам на самыя разнастайныя тэмы.

Неяк Грабок з уласцівай яму схільнасцю да разваг, прыйшоўшы да Навасада, заўважыў:

— Гэта я ўночы кожны раз слухаю, як у Маскве, на Краснай плошчы, куранты б'юць, а вакол чуваць, машыны бегаюць, гудуць — сэрца замірае ад хвалявання. Думкі розныя ў галаву лезуць... У Маскве сваё, вялікае, размашыстае, шумнае жыццё, а ў нас, у Беражках, іншае, але думка, клопат галоўны, як у Маскве, так і ў Беражках — адзін, адной высокай ідэяй жывём: як бы хутчэй загаіць раны вайны ды шагануць наперад, наперад да нашай светлай мэты — да камунізма...

## 7

Беглі дні, і памалу канчалася восень. Пачарнеў лес, скінуўшы на дол апошняе сваё залатое ўбранне, асірацелі голыя палеткі. З дня ў дзень губляла блакітную празрыстасць неба і, усё часцей хмурнеючы, яно як бы ніжэй апускалася да зямлі. Цьмянасцю пакрываліся ўсе яркія шматкаляровыя фарбы асенняй прыроды...

Але ўсё яшчэ сярод хмарных здараліся і пагодлівыя дзянькі, калі зямля, здавалася, на поўныя грудзі дыхала цеплынёй, а навакол стаяла такая яснасць, што курлыканне адлётных жураўоў чутна было ў небе на многія вёрсты.

У адзін з такіх прывабных дзён адыходзячай восені, вяртаючыся на сваім быстраходным «цундапе» з Дама-

нава, Мікола дагнаў па дарозе дзяўчыну. Набліжаючыся да яе, ён крыху прыцішыў ход. Дзяўчына ішла прыткай хадой, як бы і не чуючы таго маленькага чамаданчыка, які яна несла ў руках. Адзін раз, пачуўшы шум матацыкла, яна была азірнулася, сасупіла на бакавую сцежку з дарогі і пайшла далей, але Мікола не ўгледзеў яе твар. Дагнаўшы дзяўчыну, ён затармазіў матацыкл і спыніўся.

— Эй! — гукнуў Мікола з дарогі.— Куды кіруецеся? Сядайце, падвязу!

Уважліва прыгледзеўшыся да Міколы, дзяўчына з нейкім папрокам у голасе перапытала:

— Куды кіруюся? Думаю, што ў адну дарогу... Сорам, Мікола, не пазнаваць старых сяброў.

Збянтэжаны, Мікола глянуў на дзяўчыну і сумеўся — гэта была Наташа Купрыенка, Валіна сяброўка, у мінулым добрая яго прыяцелька, сястра таго Антона Купрыенкі, які цяпер працаваў дырэктарам Беражкоўскай школы.

— Ната! — саскочыў Мікола з матацыкла.— Якая сустрэча.

Абое радыя гэтай нечаканасці, яны цёпла прывіталіся. У кожнага з іх адразу абудзілася многа дарагіх успамінаў. Мікола ажно здзівіўся, як змянілася Наташа за час, што яны не бачыліся. Цяпер да яе ўжо не стасавалася даўняя мянушка, «дзікая козка», якую некалі жартам прыдумаў ёй Мікола. Наташа ўзмужнела, твар яе, хоць і не крануты яшчэ ніводнай зморшчынкай, выглядаў цяпер старэй, акругліўся. Яе нельга было назваць прыгожай, і аднак жа рысы яе твару былі мілыя і прывабныя, выклікалі нейкую асаблівую сімпатыю. Вочы Наташы свяціліся дабрынёй, цёплай увагай, а часамі ў іх успыхвалі знаёмыя Міколу гуллівыя чорцікі, тыя ж, што і некалі, у школьныя гады, у «дзікай козачкі». Тонкі стан Наташы шчыльна аблягала сіняя шарсцяная сукенка, паўзверх якой было накінута лёгкае летняе паліто.

— Ну, што ты так глядзіш? — адчуваючы сябе няёмка пад працяглым, як бы вывучаючым позіркам Міколы, спытала Наташа.— Яшчэ сурочыш...

— Ого, якая ты стала! Цябе не сурочыш...— збянтэжыўся раптам Мікола.

Яны адышліся з дарогі і селі на прымежку, проста на зямлю, на пажоўклую сухую траву. Мікола расказаў, дзе і што ён рабіў у час вайны і што робіць цяпер, расказаў

пра жыццё маці і пра дачку і ўсё, што ведаў пра лёс Валі. Калі ён скончыў гаварыць, Наташа задумалася, востры смутак пакрыў яе твар.

— Эх, Валя...— горка пажалкавала яна.— Як усё нядобра сталася.

Потым Наташа коратка расказала пра сябе. Вайна застала яе ў Маскве, дзе яна якраз была ў гасцях у свайго дзядзькі, інжынера маторабудаўнічага завода. У першы ж дзень вайны яна захвалявалася, спакавала свае рэчы і хацела адразу ехаць дамоў. Многа клапот каштавала дзядзьку адгаварыць яе ад гэтага намеру, але ўрэшце яна паслухалася яго і засталася жыць у Маскве, тым больш што неўзабаве аб ад'ездзе ў Беларусь ужо не магло быць і гаворкі. Увосень, каб не губляць часу, яна паступіла на другі курс Маскоўскага медыцынскага інстытута (першы курс яна закончыла ў Мінску), усе чатыры гады вайны вучылася. Пасля здачы дзяржаўных экзаменаў яе накіравалі на працу ў Беларусь. У Мінску, у Міністэрстве аховы здароўя, улічылі яе жаданне і далі працу ў родным раёне. А тут, у Даманаве, атрымаць пуцёўку якраз у роднае сяло дапамагла простая выпадковасць — акурат на гэты час у беражкоўскім медпункце была незанятая пасада.

— Як бачыш, нічога геройскага я не зрабіла ў вайну,— пакрыўджана закончыла Наташа.— Аж сорамна... А ўсё дзядзька вінаваты. Бярог мяне, нікуды ад сябе не пускаў. Ты, кажа, у мяне адзіная пляменніца, вучыся, і ўсё. А цяпер шкадую, што слухалася яго.

Мікола ўсміхнуўся.

— І замуж не выйшла?

— І замуж не выйшла,— як бы злуючыся, пацвердзіла Наташа.

— Таксама дзядзька вінаваты? — са смехам спытаў Мікола.

— Вінаваты,— упарта паўтарыла Наташа,— каб не ён, то і выйшла б.

Мікола паглядзеў на яе па-дзіцячаму ўпарты пакрыўджаны твар і не стрымаўся ад вясёлага смеху. Усміхнулася і Наташа.

— Ну вось, ты смяешся,— ужо з меншай пераконанасцю супрацiўлялася яна,— а мне ўсё-такі сорамна. Спытаюць мяне калі-небудзь, што ты, Купрыенка, рабіла ў вялікую вайну, а мне і няма чаго казаць. Дзяўчаты вунь нашы, палескія, у партызанах якія справы рабілі.

Ды і на фронце таксама... А я што ж, горш за іх, ці што?

— Дзівачка ты аднак,— запярэчыў Мікола.— А вучыцца ў дні вайны таксама нялёгка было. А зараз ты ўрач, спецыяліст высакароднай і патрэбнай прафесіі. Да таго ж робіць табе чэсць тое, што не шукала ты, як некаторыя, мяшчанскага складу «студэнткі», цёплага месцечка ў горадзе, а не баішся, ідзеш у нізы, у нашу, як калісьці казалі, палескую глуш. І калі ты толькі захочаш, то зможаш вось тут, у Беражках, на сваім пасту многае зрабіць і аддзякаваць радзіме за тое, чым ты абавязана ёй.

— Ты нагаворыш... Не лепшы за майго дзядзьку,— ужо з меншым азартам пярэчыла Наташа.

Потым яны ўспомнілі даўно прайшоўшае мінулае. Многія самыя нязначныя выпадкі з іх жыцця, якія некалі былі для іх звычайнай будзённасцю, цяпер успаміналіся, як нешта важнае і дарагое. Наташа ўспомніла, як аднойчы яны плылі з Валькай на чоўне, а Мікола напалохаў іх — ціхенька нырнуў каля берага і вынырнуў каля самага чоўна... Прыгадала, як некалі, збіраючы грыбы, заблудзіліся яны ўсе ўтраіх у гарватоўскім лесе і, праблукаўшы ўвесь дзень, урэшце выйшлі да чужой вёскі... Успаміны нагадвалі ім начыста спёртую суровым часам шчаслівую бесклапотнасць іх маладосці.

— Ёсць і яшчэ многа іншага ўспамінаць,— ціха сказала Наташа і нясмела паглядзела на Міколу.— Але таго ўжо не вернеш...

Мікола маўчаў, у задуменасці паглядаючы перад сабой. Раптам Наташа заўважыла:

— А як ты пасівеў, Мікола... Я толькі цяпер убачыла.

— Пасівеў, гэта нішто,— махнуў рукой Мікола.— Дзякаваць, што хоць не састарыўся. Вось толькі Маечка,— усміхнуўся ён,— расце і расце, як неабвержны доказ таго, што гады ідуць.

Полем прайшоўся перадвячэрні ветрык, і сонца пачало паволі апускацца за лес, калі яны падняліся ехаць. Прывязаўшы да багажніка Наташын чамадан, Мікола завёў матор.

— Ну, трымайся! — перакрыкваючы трэск матора, гукнуў Мікола. Наташа ўхапілася за ручку каляскі, і матацыкл, плаўна зрушыўшы з месца, пабег па дарозе ўсё шпарчэй і шпарчэй.

## 8

Калі скончаны былі ўсе падрыхтаванні і на ўсёй працягласці магістральнага канала былі ўдакладнены аб'екты, што патрабуюць аднаўлення, калгасы Даманавіцкага раёна вылучылі для работ на балоце спецыяльных людзей. Гэта былі ў большасці калгаснікі, якія і да вайны працавалі на асушцы і былі ўжо знаёмы з грабарскай работай. Правёўшы папярэдне ў вёсках інструктыўныя гутаркі, Навасад размеркаваў гэтых людзей на брыгады па 25—30 чалавек у кожнай. На чале іх былі пастаўлены найлепшыя, спрактыкаваныя ў сваёй справе грабары.

Беражкоўскую брыгаду ўзначальваў Арсень Дубовік, той самы, што да вайны быў вядомы па ўсёй трасе сваімі грабарскімі рэкордамі па пракладцы калектараў і стрэлак. Як і ўсе франтавікі, ён цяпер з запалам браўся за любімую справу. Вайна дала гэтаму чалавеку добрую загартоўку. Мірная праца прыносіла яму вялікую радасць, і ён укладаў у яе ўсё сваё ўмельства. У нейкай узаемасувязі ўставала перад ім усё, чым ён жыў,— раней на фронце са зброяй у руках адстойваў сваю родную зямлю ад ворага, а зараз павінен аднавіць на ёй жыццё.

Першы дзень выхаду брыгад на балота нечакана ператварыўся ў мнагалюдны суботнік. Досвіткам, яшчэ да ўсходу сонца, на балоты з рыдлёўкамі і сякерамі ў руках з розных вёсак рушылі сотні калгаснікаў. Разам з Дубовікам і яго брыгадай ішло яшчэ дзесяткі тры беражкоўцаў, а замыкаў шэсце сам Грабок, таксама з рыдлёўкай на плячы.

Мікола ўжо быў на балоце, каля таго месца, дзе канал быў перагароджаны завалам. Разамлелае ў нерухомасці балота яшчэ як бы спала. Над прасцягамі зарослай дрыгвы слаўся рэдкі туман. Зрэдку чуўся ў лазе крык бекасаў ці выццё рачнога бугая. Гоман многіх людзей, смех дзяўчат, якія па дарозе забаўляліся жартамі, упершыню пасля вайны прагучаў на гэтым глухім, закінутым балоце.

— Прымай людзей, Мікола Пятровіч! — весела гукнуў узмакрэлы ад цяжкай хады па балоце Грабок, падыходзячы да Навасада.— Глянь колькі! Падахвоцілі і мяне на пачын за рыдлёўку ўзяцца.

На даляглядзе, над сіняй палоскай далёкага лесу, раптам пырснулі ў неба залатыя промні сонца. Марыва туману ўвачавідкі рабілася празрыстым, пачало паступова раставаць, захоўваючыся толькі на нейкі час у гу-

сцяжу лазы і зараснiках альшэўніку. Зазіхацела раса на лісцях альхі, на траве.

Усе, хто быў на канале, павярнуліся тварам да сонца.

— Ну, вось і сонца вітае нас,— разам з іншымі залюбаваўшыся нараджэннем новага дня, сказаў Мікола.

— Эх, Мікола Пятровіч,— задумёна зазначыў Грабок,— а чатыры ж гады было яно для савецкіх людзей як туманам апавіта...

Параіўшыся з Навасадам, Дубовік частку людзей выправіў нарыхтоўваць фашыну для ўмацавання аплыўшых берагоў канала. Астатнія пачалі разбураць гаць. Паплява́ўшы на рукі, першым адкінуў лапату мокрага жвіру брыгадзір Арсень Дубовік. За ім і ўсе прыступілі да працы. Спачатку памалу, а затым усё дружней і смялей замільгалі ў руках грабароў рыдлёўкі.

Мікола берагам канала паціху прайшоў да другога завалу, які быў бліжэй да ракі. Балота нібы ажыло, усюды бачны быў рух людзей. На адным з адхонаў рамонтная брыгада ўмацоўвала бераг канала. Адкасаўшы халявы гумавых балотных ботаў, Мікола апусціўся ў адхон і паказаў брыгадзіру, як лепш класці і прымацоўваць да зямлі фашыну. Ён сам умасціў і драўлянымі калкамі прыбіў некалькі жменяў лазы.

На другім завале на ўсіх не хапіла рыдлёвак, і тут працавалі па чарзе. Дзяўчаты, што чакалі чаргі на свабодную рыдлёўку, сядзелі на чорным сухім торфе і, сабраўшыся ў кружок, спявалі жартоўныя прыпеўкі. Некаторыя з іх дзяўчаты з вясёлым смехам і жартамі тут жа на хаду самі і складалі. Дзявочыя галасы весела звінелі над балотнымі прасторамі:

Добры хлопец наш Паўлуша,
Ды вось адна толькі бяда,
Як упаў Паўлуша ў ваду,
Замуцілася вада!..

Не паспеў Навасад падысці да завалу, як дзяўчаты заспявалі і пра яго:

Дарагі ты наш Пятровіч,
Прымі параду ад душы:
Асушаць балоты можна,
Нашы сэрца не сушы!

Не ўтрымаўшыся ад усмешкі, Мікола жартаўліва пагразіў дзяўчатам пальцам. Над песню працавалася вясе-

лей, і, калі дзяўчаты пераставалі спяваць, грабары ў пакаранне падавалі ім рыдлёўкі і выпраўлялі на завал, а самі выбіраліся на бераг перакурыць.

Абышоўшы да паўдня амаль усе брыгады, Мікола пад канец наведаў экскаватар. З шумам паварочваючы кран і апускаючы ў балота цяжкія клюшні, экскаватар раз за разам выкідваў на бераг вільготны тарфянік. Машына павольна, метр за метрам, пасоўвалася да ракі. Убачыўшы Міколу, Міна Міхайлавіч, не перапыняючы работы, паказаў рукою наперад, туды, дзе вехі на бярозавых жардзінах абазначалі рэчышча канала. Мікола паглядзеў — зводдаля ўжо відаць была вузенькая сіняя істужка Прыпяці. Толькі цяпер ён заўважыў, як павялічыўся канал за два прайшоўшыя тыдні.

— Як поспехі, дзядзька Міна? — падняўшыся па сходках у кабіну механіка, нахіліўся да вуха Міны Міхайлавіча Навасад.— Дацягне да ракі без рамонту?

— Не дацягне,— пакачаў галавою стары механік.— Калі дазволіш, то заўтра ж будзем поршні мяняць.

Навасад падышоў да матора, заклапочана прыслухаўся. Махнуў рукою:

— Што ж, няхай па-твойму, з раніцы станаві на рамонт. Ды толькі глядзі, не марудзь!..

Навасад на вока прыкінуў, ці паспеюць яны да надыходу зімы адолець участак балота, што застаўся да ракі, і парашыў — калі матор адрамантуюць хутка і экскаватар не падвядзе, справяцца.

Пачынаючы з гэтага дня, работы на канале вяліся ўжо штодзённа. Брыгады грабароў у некалькі дзён разабралі завалы, і па каналу пайшла вада. Праўда, пакуль магістраль не была закончана, вада, уліваючыся ў ціхую, пакручастую рэчачку, бегла яшчэ павольна, як бы нехаця.

Абласны аддзел меліярацыі, не вызваляючы Навасада ад кіраўніцтва бягучымі работамі па аднаўленню канала, даручыў яму скласці праект рамонту асушальнай сеткі на ўсёй плошчы Пагіблых балот. У Міколы адразу прыбавілася работы. Узброены тэадалітам, ён з двума памочнікамі цэлымі днямі хадзіў па балотах, а вечары праседжваў за чарцяжамі. Але такая нагрузка не здавалася яму цяжкай. Захапіўшыся справай, Мікола забываўся, да яго ўсё радзей вяртаўся смутак. Ён і сам не заўважыў, як да яго вярнуўся ўласцівы яму да вайны душэўны ўздым, працоўнае натхненне.

З прыездам у Беражкі Наташы Мікола стаў частым госцем у Купрыенкаў. Часамі ўвечары, стомлены карпатлівай работай над чарцяжамі, Мікола рашуча падымаўся, складваў у шафу ўсе свае лінейкі, пёры, гатавальню і ішоў да Наташы.

Наташа жыла пры школе, побач з кватэрай брата, у маленькім, заўсёды чыстым і ўтульным пакойчыку. Звычайна яны ўчацвярых — Наташа, яе брат Антон, жонка брата, маладая настаўніца Лена, і Мікола — збіраліся ў гэтым пакойчыку, запальвалі святло і, пасеўшы хто на крэслах, хто на нізенькай, абцягнутай жоўтай скурай канапе, пачыналі розныя размовы. Душою гэтых вячорак, галоўнай выдумшчыцай і завадатарам заўсёды была Наташа. Пра што толькі яны тут не гаварылі! То пачыналі ўспамінаць смешныя выпадкі з далёкіх школьных гадоў і юнацтва, вучобу ў інстытутах, выкладчыкаў, якія вызначаліся нейкімі арыгінальнымі рысамі, то дзяліліся думкамі пра любімыя кнігі і герояў, то расказвалі адзін аднаму аб сваёй рабоце і планах. Аднойчы Мікола заняў увесь вечар, расказваючы старажытныя легенды і паданні пра Пагіблыя балоты. Часамі Наташа ў асобах перадавала выпадкі са сваёй першай урачэбнай практыкі, расказвала пра пакуты і сумненні сваёй першай дыягностыкі. Часамі яны пачыналі жартоўныя гульні.

Неяк нечакана для самога сябе Мікола пачаў заўважаць, што і ў Купрыенкаў і на вечарах у калгасным клубе яму заўсёды было асабліва прыемна быць у прысутнасці Наташы. Варта ёй пайсці — па тэрміноваму выкліку да хворага або па хатніх справах,— як Міколу адразу станавіліся нецікавымі размовы, знікаў добры настрой. Часта Мікола лавіў сябе на тым, што падоўгу непрыкметна любаваўся Наташай. Быццам нейкая цеплыня разлівалася ў яго душы, калі ён, не адрываючыся, слухаў яе вясёлую размову або проста глядзеў на яе.

Спачатку ён думаў, што гэтая яго прыхільнасць да Наташы проста вынік іх даўняй дружбы. Ён ведаў Наташу з дзіцячых год, яны разам раслі, у адной школе вучыліся. Наташа была лепшай сяброўкай Валі, і ў Міколы было з ёй многа агульных успамінаў.

Але хутка Мікола зразумеў, што ўжо не толькі пачуццё дружбы цягнула яго да Наташы. Пасля аднаго, на першы погляд нязначнага выпадку Мікола адчуў, як нешта новае пачало расці і ўмацоўвацца ў яго душы.

Аднойчы позна ўвечары, здаецца, нават за поўнач, Мікола з Антонам, забраўшыся ў настаўніцкую, каб не перашкаджаць Лене і Наташы, якія ўжо ляглі спаць, гулялі ў шахматы. За акном імжыў халодны асенні дождж. Раптам нехта пастукаў у акно. Мікола і Антон уздрыгнулі ад нечаканасці. Падышоўшы да акна, Антон адхінуў фіранку і пачаў углядацца, але святло ў пакоі перашкаджала што-небудзь разглядзець у цемені. Ён накінуў на плечы плашч, выйшаў на ганак. А праз хвіліну вярнуўся, чартыхаючыся: прыйшоў нейкі хлопец з Койданаўкі, шукае ўрача. Няшчасны выпадак з бацькам — інвалід, кантужаны на вайне, а цяпер вось упаў, ляжыць у непрытомнасці, нешта здарылася з ім, а што, самі не ведаюць...

— Што рабіць, проста розуму не дабяру! — заклапочана развёў рукамі Антон.— Не разбудзіш яе, лаяцца будзе, а ехаць у такое надвор'е... Чорт ведае што выходзіць! А галоўнае — хлопец жа гэты пеша прыйшоў, значыць, і ёй з ім топаць!..

Мікола маўчаў, не ведаючы, што параіць. Антон сярдзіта прайшоўся па пакоі, лаючы надвор'е, а заадно і неспакойную прафесію сястры.

Усё ж ён пайшоў і пабудзіў Наташу. Яна хуценька апранулася. Паклікаўшы ў пакой хлопца, распытала, што здарылася. Праз хвіліну зайшла ў настаўніцкую, ужо ў паліто, з маленькім чамаданчыкам у руцэ, і строга, як малодшаму, сказала Антону:

— Ты не шумі! Выпадак сур'ёзны, і я павінна пайсці...

— З пасцелі і на дождж!.. Ды ты заўтра сама зляжаш!

Наташа махнула рукой:

— Вось і яшчэ апякун!.. Супакойся.

Запахнуўшы паліто, яна рашуча і хутка пайшла да дзвярэй.

— Чакай, Наташа,— раптам падняўся Мікола.— Дык я ж магу падвезці цябе. Хоць ехаць цяпер на матацыкле не зусім зручна, але затое і хутчэй і лепш...

Наташа спынілася каля парога:

— А і сапраўды, падвязі, калі не баішся дажджу...

Кінуўшы недаканчанай партыю ў шахматы, Мікола схадзіў дамоў і, завёўшы матацыкл, уночы, у дождж, па гразкіх прасёлачных дарогах падвёз Наташу да Койданаўкі. Бледнае святло фары няярка асвятляла дарогу, і

Мікола ехаў асцярожна, старанна абмінаючы ямы і лужы.

Агледзеўшы хворага, Наташа пераканалася, што яе дапамога сапраўды была тэрмінова неабходная. Тут жа зрабіўшы хвораму ўколы камфары, намагаючыся прывесці яго ў прытомнасць, заклапочаная, Наташа выйшла да Міколы ў пярэдні пакой:

— Ведаеш, ты едзь...

— А ты як жа? — спытаў Мікола.— Я пачакаю.

— Не, не, я застануся тут. Яго нельга пакідаць без нагляду...— Наташа падышла да Міколы, падала яму руку. Нясмела ўсміхнулася нейкай незвычайна добрай, сардэчнай усмешкай. Мікола ўздрыгнуў — нешта да болю блізкае, роднае раптам мільганула ў гэтай усмешцы Наташы, у яе вачах...

— Дзякаваць табе, Мікола... Едзь!

Мікола развітаўся і выйшаў з хаты ў цемень, у гразь, у халодную асеннюю непагадзь. Але, дзіўна, ён як бы не бачыў і не заўважаў нічога вакол, а ўсё ўглядаўся ў тую запаўшую ў яго сэрца Наташыну ўсмешку, у яе добрыя вочы...

## 9

Неяк у нядзелю ў Беражках адбылося радаснае гулянне — адразу пятнаццаць калгасных сем'яў спраўлялі ўваходзіны ў новыя дамы. Падзея гэтая была радасцю для ўсяго сяла. Людзі самі назносілі ў хаты навасельцаў усякага частавання і спраўлялі гэты дзень, як свята. Навасада разам з сям'ёй запрасіў да сябе ў госці лепшы яго памочнік па асушцы Арсень Дубовік. У вялікім светлым пакоі Дубовікавага дома было шумна ад песняў і гоману падвыпіўшых гасцей. За багатымі сталамі, састаўленымі ў два, ад сцяны да сцяны, рады, самае пачэснае месца займалі калгасныя цесляры, збудаваўшыя дом. Затым ужо, дзе каму прыйшлося, размясцілася калгаснае начальства, сваякі і суседзі Дубовіка і ўсе, хто быў запрошаны на наваселле, мужчыны і жанкі і шумлівая моладзь.

Побач з Навасадам сядзеў захмялелы Іван Ануфрыевіч. Апрануты ў свой найлепшы касцюм, упрыгожаны двума ваеннымі медалямі, сёння ён выглядаў так урачыста, быццам быў імяніннікам на гэтым свяце. Час ад часу ён падымаў галаву, азіраў гаспадарчым вокам гасціну

і насцярожана прыслухоўваўся да гоману галасоў. Потым, задаволена чмыхаючы носам і пагладжваючы вусы, Грабок зноў нахіляўся з гаворкаю да Навасада.

— Загаманілі... — у самае вуха Міколу бубніў Грабок.— Ты не думай, гэта не гарэлка гамоніць у іх. І ад гарэлкі, браток Мікола Пятровіч, можна слёзы ліць. Гэта ў іх радасць за сваё жыццё гамоніць, за тое, што няма ўжо над імі праклятых ірадаў фашысцкіх, а жывуць яны пры савецкім ладзе. Зрубілі мы вось гэтых пятнаццаць хат. А чаму зрубілі? Сам Дубовік не адолеў бы такую даміну пабудаваць. А таму зрубілі, што калгасам, калектывам не тое што дом пабудаваць, горы звярнуць можна...

У размове прыняў удзел сусед Міколы злева, барадаты стары, Клім Дубовік, родны дзядзька Арсеня. Нагнуўшыся над сталом, ён паклаў сваю шырокую далонь на руку Грабка.

— Гэта ты праўду, Іван Ануфрыевіч... Памятаецца мне, даўно гэта было, за царом яшчэ, згарэў у нас неяк увесь канец, што ад ракі. То пяць год пагарэльцы жылі ў зямлянках, з торбамі хадзілі па свеце, міласціну прасілі, пакуль здолелі сякія-такія хаціны паставіць... А цяпер нам савецкая ўлада і лес дала і грошы ў крэдыт адпусціла.

У самы разгар гасцявання да хаты Дубовіка падкаціў вядомы Міколу райкомаўскі «газік». У ім прыехаў запрошаны на наваселле Андрэй Сіўцоў. Як і ва ўсіх вёсках раёна, Сіўцова ведалі ў Беражках ад малога да старога, ды ён і сам тут ведаў у твар бадай што кожнага калгасніка. Пазнаёміўся ён з людзьмі ў часы падпольнай работы і партызаншчыны, калі ўзначальваў адну з партызанскіх брыгад.

Калгаснікі сустрэлі прыход Сіўцова цэлым гулам прывітальных воклічаў, а дзяўчаты, падняўшыся з-за стала, заспявалі яму жартоўную велічальную. Прывітаўшыся, Сіўцоў заняў месца за сталом. Ён сеў побач з барадатымі калгаснымі цеслярамі і адразу пачаў з імі нейкую гарачую размову. Была ў ім такая добрая рыса — умеў ён і знаходзіў аб чым пагутарыць і з юнаком, і са старой бабулькай, і з кіруючым работнікам, і з радавым калгаснікам.

Калі налілі чаркі, Сіўцоў устаў, папрасіў слова. Усе замоўклі.

— Дарагія таварышы! — падняўшыся з-за стала, проста, задушэўна звярнуўся ён да гасцей і, выцягнуўшы з нагруднай кішэні лісток паперы, разгарнуў яго.— Неяк днямі зазірнуў я ў энцыклапедычны слоўнік Брокгауза і Эф-

рона. Добрасумленны, хоць, вядома, у многім устарэлы зараз слоўнік. І вось што я прачытаў там пра наша з вамі Палессе, вобласць, у якой мы жывём. Чытаю: «Мазырскі павет займае велізарныя прасторы, больш пятнаццаці тысяч квадратовых вёрст, але з іх больш трох чвэртак знаходзіцца пад лясамі, хмызнякамі і балотам, не лічачы пяскоў і вод. Па абодвух берагах галоўнай ракі Прыпяці раскінулася незаселенае Палессе, краіна балот і лясоў...» Вось якая прамысловасць была тады на Палессі: дванаццаць вінакурных заводаў, шэсць мукамольняў, адна лесапілка, тры цагляныя заводы, васемнаццаць смалакурных, шкіпідарных і дзягцярных. У павеце налічвалася 108 цэркваў, 40 малітвенных дамоў і сінагог. А школ народных і царкоўнапрыходскіх было ўсяго 49, паштовых аддзяленняў 13, сельская бальніца адна на 10 ложкаў, урачоў — 1 павятовы і 2 сельскія...— Сіўцоў павольна склаў лісток і паклаў яго зноў у кішэню.— Адным словам, як пісаў наш вялікі беларускі паэт Янка Купала:

Было тут калісьці —
Багнішчы-балоты,
Ў дрыгве прэла лісце,
Асокі, чароты...

А людзі? а людзі? —
Іх мала-нямала,—
Упаўшыя грудзі,
Бяда ўслед навалай.

Між топкіх багнішчаў,
На выдмах пясчаных,
Як на папялішчы,
Рад хат, бы курганаў.

Жывуць людзі ў хатах,
Плятуць сабе лапці,
Каб з торбай у латах
Пайсці жабраваці.

Пад шум бесканечны
Бярозаў і соснаў,
Сахой недарэчнай
Аруць пясок млосна...

Праз леты і зімы
Паданне йшло ў векі:
— Палешукі мы,
А не чалавекі.

Ёсць, таварышы, на свеце многа розных цудоўных казак, але больш цудоўнай казкі, чым наша жыццё, бадай і не знойдзеш. Як ператварылася, як далёка пайшло на-

перад наша Палессе за гады савецкай улады! Тысячы школ, клубаў, кінатэатраў, сотні бальніц, радзільных дамоў, амбулаторый, ды не з якім-небудзь адным-двума эскулапамі, а з цэлай арміяй адукаваных спецыялістаў. Сотні электрастанцый, якія асвяцілі самыя далёкія і глухія куточкі Палесся, дзесяткі машынна-трактарных станцый, дзесяткі фабрык і заводаў. Тысячы багацейшых калгасаў, дзе людзі жывуць заможным і культурным жыццём,— вось што прынеслі гады савецкай улады нашаму Палессю. Адышлі ў нябыт адвечная беднасць і галеча палешука, яго славуты «каўтун», яго бездапаможнасць у барацьбе з суровай прыродай. Цяпер паляшук — гаспадар свайго лёсу, смела бярэцца за пераўтварэнне прыроды, прымушае яе служыць сабе.

Сіўцоў памаўчаў, аглядзеў прысутных. Усе ўважліва слухалі, ні словам, ні рухам не парушаючы цішыні.

— Гітлераўскія акупанты нанеслі вялікую шкоду нашай народнай гаспадарцы. Але, таварышы, ад нас залежыць яе хуткае аднаўленне. І я веру, што не пройдзе і пяці гадоў, як жыццё наша стане яшчэ прыгажэй і багацей, чым было да вайны. Зноў зашумяць на нашых палетках багатыя ўраджаі, загамоняць у сёлах маладыя сады, загрукочуць тысячы і тысячы трактараў, камбайнаў, засвецяцца агні электрастанцый...— Сіўцоў падняў чарку:— Жадаю навасёлам жыць у новых дамах весела і шчасліва, ды каб жыла і працавала наша савецкая Радзіма пад мірным небам ад гэтай хвіліны і ва векі вякоў!..

Да Сіўцова з усіх бакоў пацягнуліся рукі з чаркамі — чокацца. Госці задаволена зашумелі, усім прыйшлася да душы прамова сакратара. Цягнуўся са сваёй чаркай да Сіўцова і Іван Ануфрыевіч. З усмешкай паглядаючы на захмялелага Грабка, Сіўцоў жартаўліва пагразіў яму пальцам.

Калі госці падняліся і пачалі ачышчаць хату ад сталоў, каб наладзіць танцы, Сіўцоў падышоў да Навасада. Ён выйшаў з ім у маленькі пакойчык, дзе не было людзей.

— Ну, як, Мікола, жывеш?

— Ды нішто,— няпэўна адказаў Мікола.

Сіўцоў уважліва паглядзеў на Міколу, паклаў яму руку на плячо.

— Чаму ж ты маўчыш, не гаворыш сябру? Ведаю я пра тваё гора... Ды гэтага і можна было чакаць. Скажу табе адно — мужайся, вазьмі сябе ў рукі. Тых, каго ўжо няма,— а іх тысячы тысяч,— тых не падымеш, як бы мы

пра іх ні гаварылі, і наш смутак ім непатрэбны. Смутак толькі знясільвае чалавека...— Сіўцоў памаўчаў, закурыў папяросу.— Усё мінае, зажыве і гэты боль. У многіх пасля вайны засталіся такія раны, ды глядзі, не толькі дамы адбудоўваюць, але ўжо і вяселлі дзе-нідзе спраўляюць. Так яно і павінна быць, жывыя пра жыццё павінны думаць — вось табе мая сяброўская парада...

— Дзякаваць, Андрэй,— ціха сказаў Мікола.— Вось ты гаворыш, усё мінае... Гэта праўда. Не забываецца, а іменна мінае...— Мікола апусціў галаву.— Баюся прызнацца, але, здаецца, я ўжо закахаўся. Нават няёмка неяк...

— Вось яно што! — выгукнуў Андрэй.— А чаго няёмка? Каханне — пачуццё складанае. Тэрмінаў яно не ведае, узнікла — не адкладзеш!.. Гэта ці не ў Наташу Купрыенку закахаўся?

— У яе,— кіўнуў галавой Мікола.

Сіўцоў усміхнуўся, шырока развёў рукамі.

— Ну, дружа, нічога дрэннага не скажу — добрая дзяўчына! Калі сват спатрэбіцца, мяне запрашай...

— Ды што ты, што ты,— адмахнуўся Мікола,— рана яшчэ пра сватоў гаварыць.

Сіўцоў абняў Міколу за плечы, прайшоўся з ім па пакоі.

— Кахання, Мікола, не бойся. Узвышанае гэта, прыгожае пачуццё. Смела ідзі яму насустрач. Выкажуся табе па сакрэту, пад гарачую руку — я, брат, так думаю, што чалавек, які не ўмее кахаць, толькі напалову чалавек.

Яны спыніліся каля акна. Мікола маўчаў, паглядаючы, як за акном на плоце падскоквалі нахохленыя ў прадчуванні зімы канаплянікі.

— У вольны час падумай, што я тут табе гаварыў, усё зразумееш.— Сіўцоў таксама паглядзеў у акно.— Глядзі ты, неба ў хмарах, пахаладнела, як бы снег не пайшоў... Ну, расказвай, як справы на балоце?

— Ды як быццам нічога,— усё яшчэ знаходзячыся пад уражаннем слоў Сіўцова, адказаў Мікола.— Ручныя работы на канале закончаны, завалы разабралі. Закончылі б ужо і магістраль, ды экскаватар падвёў. Знасіліся поршні, укладышы падшыпнікаў, прыйшлося ўсё гэта замяняць... Думаю ўсё ж, што за некалькі дзён скончым.

— Як Міна Міхайлавіч сябе адчувае?

— Добры стары, вось ужо сапраўды энтузіяст. Дзень і ноч гатовы працаваць. А галоўнае — справу ведае.

— Перадай яму маё прывітанне... Ён і ў партызанах вось такім жа быў — пашлеш яго ў засаду, то пакуль фрыца не падстрэліць, двое сутак з месца не сыдзе, не варухнецца...

— На яго гэта падобна,— усміхнуўся Навасад.

— А ведаеш, Мікола,— памаўчаўшы, сказаў Сіўцоў,— табе ж заўтра ў вобласць ехаць трэба.

— А што такое?

— Лугавец выклікае. Як відаць, твае праекты па асушцы Нагіблых зацверджаны, паведаміць табе пра ўсё хоча.

— Што ж, прыйдзецца паехаць,— адразу ажывіўся Мікола.— Гадзіны за дзве на матацыкле дамчуся.

— Ты не вельмі спяшайся, а то, чаго добрага, разаб'ешся, а тады мне адказваць прыйдзецца: гэта ж я цябе ўзнагародзіў такой каляскай...

Да позняй ночы весяліліся беражкоўцы, святкуючы наваселле сваіх аднавяскоўцаў. Гэта быў дзень, калі кожны яшчэ і яшчэ раз адчуў сілу роднага калгаса, адзінства і згуртаванасць дружнай калгаснай сям'і.

...А прачнуўшыся раніцаю, Мікола доўга нерухома ляжаў, здзіўлены незвычайным святлом, што лілося праз акно яго пакоя. Зразумеўшы нарэшце, што здарылася, Мікола падняўся, падышоў да акна — ну, так, на зямлі, на дахах суседніх дамоў — усюды ляжаў снег ды такі белы, што вачам балюча было глядзець на яго.

Дзіўна бывае, калі нечакана, у адну кароткую ноч, раптам настае зіма. Засынаеш, на двары яшчэ восень, усё неба ў хмарах, імжыць бясконцы, сумны дождж, а прачнешся і бачыш — малады, невядома адкуль наляцеўшы за ноч мароз скаваў ужо ўсе лужы і ручаі, і вакол рассцілаецца белы, іскрысты снегавы дыван. І заўсёды ў такія хвіліны чалавек адчувае нейкую незразумелую беспрычынную радасць.

**10**

Неўзабаве прачнулася маці, а следам і Мая.

— Тата,— падняўшы сонную галоўку, паклікала дзяўчынка.— Ты куды збіраешся?

— У горад, дачка,— укладваючы ў партфель патрэбныя паперы, ручнік, мыла, падрыхтаваны маці бутэрброд, адказаў Мікола. Ён падышоў да яе ложка, загарнуў Маю ў коўдрачку і паднёс да акна.

— Ану паглядзі на вуліцу!

— Ух, татачка! — зажмурыўшыся ад нечаканасці, выгукнула Мая, здзіўленая свежасцю і беллю першага снегу.— Гэта зіма, так?

— Зіма, дачка,— усміхаючыся, адказаў Мікола.

— Тата,— рашуча сказала Мая,— ты купі мне ў горадзе саначкі, такія маленькія, са спінкай. Добра?

— Добра, дачка, калі знайду, прывязу табе такія санкі,— паабяцаў Мікола.

— А ведаеш, тата,— шчабятала дзяўчынка на руках у Міколы.— Ты паедзеш, а да мяне сёння цёця Ната прыйдзе. Прынясе кніжку з малюнкамі.

Пачуўшы ад Маі пра Наташу Купрыенку, Мікола, сам не ведаючы ад чаго, збянтэжыўся, нічога не адказаў.

— Яна вельмі добрая цёця,— дадала Мая.— Яна, як прыходзіць, казкі мне расказвае, вершыкі вучыць.

Мікола ўжо і раней ведаў пра гэтую дружбу Наташы з Маяй. Яму было і прыемна гэта і неяк няёмка. Няёмка таму, што пазнаёміліся яны без яго, самі, ды яшчэ пры даволі дзіўных абставінах. Аднойчы, робячы санітарны абход вёскі, Наташа зайшла ў дом да Навасадаў. Пастукаўшы ў дзверы, Наташа пачула тонкі дзіцячы голас:

— Чакайце, зараз адчыню...

За дзвярыма пачуўся шум, пыхценне. Падсунуўшы па падлозе табурэтку, Мая адкінула кручок дзвярэй. Наташа была нямала здзіўлена, убачыўшы, што дзяўчынка ў доме адна.

— А дзе ж бабуля?

— На ферму пайшла, яна хутка вернецца. А тата на балота паехаў,— смела адказала дзяўчынка.

— І табе не сумна адной?

— Сумна,— адкрыта прызналася Мая.— А ты хто — доктар, так? — убачыўшы на Наташы белы халат, што выглядваў з-пад паліто, спытала яна.

— Доктар,— усміхнулася Наташа.

— Ты добры доктар? Не будзеш мне рабіць уколаў?

— Не буду,— адказала Наташа і прапанавала:— А хочаш, я раскажу табе казку пра Алёнушку і братца яе Іванушку?..

— Ну?..— у Маі загарэліся вочкі, але яна тут жа недаверліва прыжмурылася:— А ты ўмееш?

— Умею, пойдзем...

Вярнуўшыся з фермы, старая Хрысціна застала ўнучку з Наташай за ажыўленай размовай. Мая прынесла і паказала цёці ўсе свае цацкі і лялькі, развесялілася.

Калі Наташа сабралася ісці, Мая незадаволена запыхцела, была гатова расплакацца. Супакойваючы дзяўчынку, Наташа паабяцала абавязкова зайсці да яе калі-небудзь у іншы раз, у вольны час.

Хрысціна і здзівілася і была кранута, убачыўшы, як у час гэтай размовы Наташы з Маяй у Наташы раптам заблішчалі слёзы на вачах, задрыжаў голас. Ці быў гэта жаль да дзяўчынкі, якая так прагна пацягнулася да яе даверлівым сэрцам, ці ўспомніла яна сваю сяброўку, маці Маі?..

«Было б лепш, калі б я сам пазнаёміў іх,— думаў Мікола, стоячы з дачкою на руках каля акна.— А можа, і не лепш, можа, так атрымалася ўсё больш натуральна, проста».

— Тата, дык ты ж глядзі, не забудзь пра саначкі,— яшчэ раз напамянула Мая.

— Куплю, мая малышка, абавязкова куплю,— моцна прыціснуўшы да сябе і пацалаваўшы Маю, сказаў Мікола і аднёс яе на ложак.

Дарога ў вобласць прайшла не без прыгод. Ад'ехаўшы ад Бераржкоў кіламетраў з дзесяць, Навасад нечакана напароўся на цвік. З шумам трэснула камера пярэдняга кола, матацыкл рэзка закінула, і Мікола ледзь не зваліўся ў кювет. Увогуле ўсё абышлося добра, калі не лічыць, што Мікола, не маючы шафёрскай практыкі, дзве з паловай гадзіны згубіў на разманціроўку кола і заклейку камеры ды ў дадатак вымазаўся. «Што ж, любіш катацца, умей і папрацаваць»,— супакойваў сам сябе Мікола, цярпліва завіхаючыся з гайкамі і ключамі.

Падлатаўшы камеру, ён пад'ехаў да ракі, памыўся і потым ужо працягваў шлях.

Гэтая непрадбачаная затрымка прывяла да таго, што ў горад ён трапіў толькі а чацвёртай гадзіне дня. Лугавец, з якім ён адразу сазваніўся па тэлефоне, сказаў, што зможа прыняць яго толькі ўвечары, а восьмай гадзіне, а пакуль што параіў ісці ў гасцініцу і адпачываць.

Мікола не адчуваў сябе стомленым і, пакінуўшы ў двары гасцініцы матацыкл, вырашыў прайсціся па горадзе. Як і ўсюды на Палессі, у горадзе на кожным кроку кідаліся ў вочы сляды ваенных разбурэнняў. Фашысты, ужо адступаючы, узарвалі ўсе лепшыя будынкі ў цэнтры горада — шматпавярховы дом абласнога выканаўчага камітэта, будынак рэдакцыі абласной газеты, тэатр, буйныя

магазіны, многія адміністрацыйныя будынкі. Горад выглядаў параненым, увесь яго цэнтр ляжаў у руінах.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, адчувалася, што ён ужо жыў сапраўдным паўнакроўным жыццём. Усюды відаць была рука чалавека-стваральніка. Дыміліся каміны аднаўленай электрастанцыі, дрэваапрацоўчага завода, фанернай фабрыкі. У многіх мясцінах руіны ўжо былі прыведзены ў парадак, на беразе Прыпяці гараджане зрабілі новы сквер, і цяпер там садзілі дрэвы. Высокімі дашчатымі агароджамі былі абнесены будаўнічыя пляцоўкі. Ажыўленне адчувалася ў рачным порце, куды да прыстаней падыходзілі і адыходзілі з living рознымі грузамі апошнія перад закрыццём навігацыі параходы. Па часовым пантонным мосце цераз Прыпяць адна за адной беглі на станцыю, якая знаходзілася за некалькі кіламетраў ад горада, грузавыя, легкавыя аўтамашыны, пасажырскія аўтобусы. Ажыўлена гандлявалі магазіны, рэстараны. Чуваць быў шум толькі нядаўна ўстаноўленай ратацыі ў друкарні абласной газеты. Працавалі кінатэатры, бібліятэкі, Дом партыйнай асветы. Стракатыя афішы паведамлялі пра пастаноўку новага спектакля абласным украінскім тэатрам, завітаўшым у госці да суседзяў-палешукоў.

Увечары, дакладна ў прызначаны час, Навасад прыйшоў у абком. Знаёмы ўжо Міколу малады чарнявы памочнік Лугаўца запрасіў яго прысесці, а сам зайшоў у кабінет сакратара.

Лугавец сустрэў Міколу цёпла, па-сяброўску, як даўняга знаёмага. Быццам падкрэсліваючы свае добрыя адносіны да Навасада, жаданне пагутарыць па шчырасці, Лугавец выйшаў з-за стала, сеў побач з ім на канапе, закурыў.

— Рады павіншаваць вас, Мікола Пятровіч,— па звычцы паціраючы рукою рубец на шчацэ, сказаў Лугавец.— Ваш праект па асушцы Пагіблых зацверджан Міністэрствам меліярацыі без адзінай папраўкі.

— Што ж,— адказаў Мікола, адчуваючы, як чырвань міжвольна заліла яму твар,— цяпер застаецца прасіць, каб яны гэтак жа дзейсна дапамаглі нам у яго ажыццяўленні, як лёгка зацвердзілі.

— Правільная заўвага, і мы будзем патрабаваць гэтага ад іх,— згадзіўся Лугавец.— Але я выклікаў вас, каб пагаварыць аб іншым. Падыдзем да карты...

Лугавец падвёў Навасада да сцяны, на якой вісела вялікая шматкаляровая карта вобласці, з падрабязнасцямі

адлюстроўваючая не толькі геаграфію Палесся з усімі яго рэкамі, азёрамі, вадаёмамі, балотамі і лясамі, але і ўсю прамысловасць і гаспадарку вобласці.

У міністэрстве не зрабілі паправак да вашага праекта, а я зараз зраблю вам сур'ёзную заўвагу,— усміхнуўся Лугавец.— Мне не трэба гаварыць вам пра тое, што нашай з вамі мэтай з'яўляецца не простае асушэнне балот. Наша мэта — ператварыць балоты, і не толькі балоты, а і ўсе мінеральныя глебы, у землі штогадовых высокіх ураджаяў. Для рэгулявання воднага рэжыму на балотах у вашым праекце прадугледжана спецыяльная сістэма шлюзаў. І гэта правільна, у засушлівыя гады, перакрыўшы шлюзы, мы ўратуем тарфянікі ад перасушкі... Але ці толькі аб тарфяніках мы павінны клапаціцца, Мікола Пятровіч? А колькі ў нас на Палессі пяскоў, земляў, якія з году ў год церпяць ад недахопу вільгаці?.. Клапоцячыся пра будучае, заглядаючы ў заўтрашні дзень, ці не павінны мы з вамі, таварыш Навасад, падумаць пра гэтыя пяскі?

— Гэта ў якім жа сэнсе? — спытаў Мікола, некалькі здзіўлены нечаканай прапановай Лугаўца.

— У тым сэнсе, каб абвадніць іх. Балотныя воды спускаць не ў рэкі, а ў штучна створаныя вадаёмы, якія потым выкарыстоўваць для абвадпення пяскоў.

Мікола памаўчаў, падумаў.

— Гэта цікавая прапанова,— сказаў ён,— але такія работы патрабуюць вялікіх затрат...

Лугавец кіўком галавы згадзіўся з заўвагай Навасада.

— І яшчэ,— дадаў задумёна Мікола,— вялікую колькасць меліярацыйных машын.

— Зусім правільна! А іх цяпер пакуль што ў нас вельмі мала... Але, Мікола Пятровіч, смялей глядзі наперад, больш упэўнена. Дзяржава пойдзе нам насустрач. Будуць у нас машыны, будзе столькі машын, колькі спатрэбіцца для выканання любых, самых смелых задум па пераўтварэнню нашай прыроды. Мне вядома, што інстытут механізацыі, які, дарэчы кажучы, узначальвае зараз наш зямляк Мацэпура, прыступіў ужо да вырабу механічных канавакапальнікаў. Машына гэтая заменіць тысячы людзей з іх грабарскімі рыдлёўкамі... То вось,— узяўшы ў рукі ўказку, працягваў Лугавец,— паглядзіце на гэты аграмадны пясчаны масіў, які ляжыць побач з Пагіблымі. Цяпер гэта закінутыя землі, іх ніхто не апрацоўвае. Падумайце,

Навасад, ці нельга іх ажывіць, выкарыстаць, напаіўшы жывою вадою Пагіблых?

— Гэта трэба праверыць на мясцовасці, паглядзець, ці можна стварыць дзе-небудзь побач вадаём,— паглядаючы на карту, разважліва сказаў Мікола.

— А вось я і прапаную вам падумаць аб гэтым, праверыць,— сказаў Лугавец і задумёна дадаў:— Гэта будзе ў нас на Палессі першы вопыт. Калі ён удасца, апраўдае сябе, зоймемся абвадненнем пяскоў у самых шырокіх маштабах. Вады ў нас дастаткова, а ўсё ж ад засух часта церпім. Чаму мы павінны залежаць ад выпадковасцей?..— Лугавец паклаў на стол указку, узбуджана пагладзіў рукою рубец на шчацэ.— Смялей глядзіце наперад, у будучыню. Яна прыгожая, незвычайна прыгожая, наша будучыня, і мы павінны заўсёды бачыць яе перад сабою, смялей да яе ісці.

Лугавец падышоў да тэлефона, пазваў нумар.

— Таварыш Мельнікаў?.. Гаворыць Лугавец. Заўтра да вас зойдзе Навасад. Мікола Навасад з Беражкоў. Пазнаёмце яго, калі ласка, з рашэннем міністэрства па яго праекце... Так, так... Ды, дарэчы, абмяркуйце з ім пытанне аб прыцягненні да работ на Пагіблых калгаснікаў усяго сельсавета, усіх навакольных вёсак... Так, так...

Лугавец паклаў трубку, паглядзеў на Міколу.

— Вясной прыеду да вас, Навасад. На юху,— усміхаючыся, дадаў ён.

— Будзем рады бачыць вас сваім госцем,— сказаў Мікола.— На Пагіблых будзе тады што паглядзець.

Лугавец падаў Навасаду руку.

## 11

У дзень, калі Мікола ездзіў у вобласць, Наташа, скончыўшы прыём у амбулаторыі, успомніла сваё абяцанне і, купіўшы ў сельскім культмагу некалькі каляровых дзіцячых кніжак з вершамі, зайшла да Навасадаў. Як узрадавалася Маечка, убачыўшы яе!

— Цёця Наташа, цёця Наташа! — закрычала дзяўчынка, падскокваючы па хаце.— Бабулька, да нас цёця Наташа прыйшла! — спяшалася яна падзяліцца сваёй радасцю з любімай бабуляй.

Старая Хрысціна, усміхаючыся, выйшла сустрэць госцю. Яна падзяляла радасць сваёй унучкі, разумела: дзіцячае сэрца не можа памыляцца, відаць, чыстай душы

чалавек была гэтая мілая, добрая дзяўчына, да таго ж, як кажуць людзі, і доктар пядрэнны.

Наташа распранулася, села побач з Маечкай на канапе і ўвесь вечар чытала ёй вершы, расказвала казкі.

У другі раз Наташа, выклікапая да хворага ў суседнюю вёску, вырашыла ўзяць Маечку з сабою. Дзянёк быў сонечны, не халодны, і апранутая ў цёплы кажух, усеўшыся ў сані, Маечка была на дзесятым небе ад радасці. Пагулянка так спадабалася ёй, што яна потым доўга расказвала бацьку, як яны хутка імчаліся па дарозе, як з-пад капытоў каня ляцеў іскрысты снег, як прыгожа блішчыць за вёскай снежнае поле.

Мая так прывязалася да Наташы, што калі тая, занятая якой-небудзь тэрміновай працай, доўга не прыходзіла да іх, сумавала.

Аднойчы, вярнуўшыся з работы, Мікола знайшоў у сябе на стале складзеную ўдвая запісачку. Разгарнуўшы яе, Мікола прачытаў: «Былі з Ленай у вас, але не дачакаліся цябе. Чаму не заходзіш? Увечары чакаем абавязкова. Наташа».

Мікола прысеў на крэсла і задумаўся...

Вось і не заўважыў ён, як прабег час, як ва ўсёй сваёй складанасці ўстала перад ім пытанне, якое ўжо нельга было ні абысці, ні адкінуць. Так, гэта было каханне, не трэба ашукваць сябе, ён кахае яе, разумее, што толькі яна, Наташа, здольна вярнуць яму шчасце, разбітае вайной...

Ці трэба было яму баяцца гэтага пачуцця, саромецца яго, калі яно прыносіла яму такую радасць? Ці ж добрым, сумленным каханнем ён пакрыўдзіць памяць Валянціны? Вядома, не... «Тым, каго ўжо няма, непатрэбны наш смутак,— успомніў Мікола словы Сіўцова.— Каханне прыгожае, святое пачуццё, і смела ідзі яму насустрач...»

Надвячоркам, амаль на змярканні, Мікола, выходзячы з сельсавета, нечакана ўбачыў Наташу. Не заўважыўшы яго, яна хутка ішла па вуліцы,— відаць, скончыўшы работу ў медпункце, вярталася дамоў. Яна была ў простым, акуратна пашытым паўкажушку, у валёнках, у цёплай белай хустцы.

— Наташа! — ціха паклікаў яе Мікола.

— Добры вечар! — збянтэжыўшыся, што не заўважыла яго, прывіталася Наташа.— Ты куды? Не да нас?

— Ды як табе сказаць... магу і да вас.

— А ведаеш,— раптам прапанавала Наташа,— я так

стамілася за дзень, давай ашукаем Антона з Ленай і не поїдзем дамоў, а проста так пройдземся. Вечар які прыгожы!

— Давай, — згадзіўся Мікола.

Яны павольна пайшлі па вуліцы. У дамах ужо запальваліся агні. Мікола маўчаў, адчуваючы нейкую няёмкасць перад Наташай. Яму здавалася, што яна ўжо ўсё ведала. Нават тое, як ён раніцамі, саромячыся самога сябе, станавіўся каля акна ў сваім пакоі і цішком, хаваючыся за фіранкамі, чакаў, калі Наташа пройдзе побач, каб убачыць яе.

— Што ты да нас рэдка стаў заходзіць? — спытала Наташа.— Дзе бываеш, чым займаешся?

Мікола, не адказаўшы на яе пытанне, нахмурыўся, пакрочыў хутчэй... А можа, яму проста, вось так, спыніцца ды і прызнацца ёй ва ўсім, не хаваючы нічога?..

Але Наташа, як бы разгадаўшы яго думкі, паспешліва пачала расказваць яму пра нейкія смешныя дробязі, спытала, калі ён едзе ў Даманава, і ці не возьме яе за пасажыра? Як бы напалохаўшыся нечага, што павінна было зараз адбыцца, Наташа заспяшалася дамоў, успомніўшы нейкія неадкладныя справы.

Мікола вярнуўся і праводзіў яе да школы... Няхай будзе так, як хоча яна, ён будзе цярпліва несці ў сабе нават неразздзеленым гэтае вялікае пачуццё.

Каля дома Наташа спынілася, падала яму руку.

— Ну, да пабачэння!

Мікола пастаяў каля варотцаў, пакуль за Наташай не зачыніліся дзверы ў хату. Потым павольна пайшоў па вуліцы, неяк даверліва радуючыся ўсяму — і ціхаму зімоваму вечару, і дымкам, што цягнуліся з камінаў у асветленае першымі зорамі неба, і рыпучаму снегу пад нагамі...

## 12

Нечакана надышоўшая ў той год зіма ўсталявалася не адразу. Першы снег растаў, расквасіўшы і без таго дрэнныя дарогі. Праз дзень-два зноў падмарозіла і выпаў новы снег, але і гэты, у сваю чаргу, доўга не пратрымаўся. З завалочанага шэрымі хмарамі неба падаў то дождж, то снег, і ўсё гэта ператваралася ў мокрую мешаніну. І толькі ў палове снежня ўдарыў сапраўдны, па-зімоваму пякучы мароз і пышнай белай коўдрай упэўнена і, відаць, надоўга лёг снег.

Экскаватар, які працаваў у апошні час і ўдзень і ўночы, паспеў дакончыць сваю працу да наступлення гэтага першага сапраўднага марозу.

Навасад папрасіў у Грабка каня, каб з'ездзіць паглядзець канал. Іван Ануфрыевіч выказаў жаданне і сам праехаць за кампанію з Міколам. Неўзабаве да дома Навасада падкаціў папакаваны саломай вазок старшыні калгаса. Грабок сам кіраваў канём, спрытна спыніў яго каля самых варот.

З сяла яны паехалі наўпрост да ракі, а тады, прабіраючыся берагам, па сухім лугавым грудзе дабраліся аж да самага таго месца, дзе канал уліваўся ў Прыпяць. Пад'язджаючы да вусця канала, яны яшчэ здалёк убачылі па рацэ падняты ўгору хобат прыціхшага экскаватара, які цяпер нерухома стаяў, прыпнуты каля берага. На высокім грудку, пад дубам, віднеўся шалаш, і каля яго гарэў касцёр.

Міна Міхайлавіч і яго памочнік, шаснаццацігадовы Віктар, з радасцю сустрэлі Навасада.

— Ну, інжынер, прымай работу,— павітаўся з Міколам Міна Міхайлавіч.— Глядзі, якую канаўку пракапалі!

— Добра, дзядзька Міна, што ў час закончылі, што зіма не засцігла.— Мікола моцна паціснуў руку старому машыністу.— Дзякаваць табе. Між іншым, рады перадаць, што работа твая ацэнена па заслугах. Сіўцоў званіў, што сельгасаддзел прэміраваў цябе.

Яны падышлі да магістралі. Роўны, як бы пракладзены па шнуры, канал у перспектыве звужаўся ў маленькую чорную кропку. Грабок тупаў па беразе ўслед за Міколам, які рабіў некаторыя тэхнічныя падлікі, і ўсё задаволена чмыхаў носам.

— Канец Пагіблым! — час ад часу выгукваў ён.— Такая канаўка ўсё высмакча, няхай толькі вясна прыйдзе.

Тым часам каля шалаша Віктар у вялікім медным рондлі гатаваў над агнём юху. Нанач яны з Мінай Міхайлавічам паставілі нажыўлены жыўцамі шнур, а раніцай зпялі з дзесятак акунёў і два невялікія самы. За час, пакуль Навасад выраШаў са старым машыністам, куды паставіць на зіму экскаватар, пагутарыў з ім пра зімні рамонт агрэгата, акурат згатавалася і юха. Яны вярнуліся да шалаша і паселі каля агню на раскіданае вакол сена.

— Да юхі не шкодзіла б і чарачку,— здымаючы з агню рондаль, заначыў Міна Міхайлавіч,— але, выбачайце, няма, а на няма і крыўды няма.

Грабок моўчкі ўстаў і пайшоў да фурманкі. Пакапаўшыся ў наладаваным саломай возе, ён дастаў прыхаваную ў задку паўлітэрку і, не кажучы ні слова, вярнуўся, паставіў яе на дол.

— Ну і прадбачлівы ж ты чалавек,— засмяяўся Мікола.— А што б ты рабіў з гарэлкай, каб не было юхі?

— Не было б юхі, закусілі б сальцам,— вымаючы з шырокай кішэні свайго брызентавіка пакунак з закускай, спакойна адпарыраваў Грабок...

Калі выпілі па адной добрай чарцы, Міна Міхайлавіч расказаў, што рабілася на Пагіблых пры акупантах, як памалу зноў забалочваліся асушаныя масівы. Ён быў і сведкам і ўдзельнікам усяго, што адбывалася тут. Два з паловай гады Міна Міхайлавіч партызаніў у Гарватоўскай пушчы і нават займеў у атрадзе славу найпершага майстра па засадах на фашыстаў.

— Вось дайце вы мне, людзі, адказ на такую загадку,— нават спыніўшы чэрпаць юху, сур'ёзна запытаў Міна Міхайлавіч.— Чаму гэта такое бывае — тры ночы я ўжо за працай не сплю, стомлены, стары чалавек, а сяджу з вамі, і нішто, радасна мне і добра сябе пачуваю. От калі б не дакончыў сёння канал, то і яшчэ без перадыху працаваў бы... А ў сорак першым, увосень, выйшлі мы на Пагіблыя загачаць магістраль — рыдлёўка ў руках тры пуды важыць, ні падняць, ні ўскінуць яе сіл няма, ледзь рукамі варушу, і душа і цела стогне ад болю. Кінуў, памятаю, можа якія тры рыдлёўкі жвіру і ўвесь потам абліўся. Што гэта за цуд такі, а?

І, не чакаючы адказу — відаць было, што ён даўно ўжо сам знайшоў адказ на сваю загадку,— прамовіў:

— Думаю я, такі гэта цуд, што працаваць на карысць жыцця ў чалавека сілы патройваюцца, а на шкоду і рукі не падымаюцца. Во як...

— Гэта ты, браток Міна Міхайлавіч, праўду кажаш,— разважліва падтрымаў яго Грабок.— Бывала, ляжыш у акопе, лета, птушкі спяваюць... Здаецца, эх, касу б у рукі ды на луг. Або хоць выйсці на наша залатое поле ды падзівавацца на ячмень са сцяблом таўшчынёю з руку... А тут фашыст як зайграе на сваіх шасціствольных цымбалах, то ўся зямля вакол у скокі ідзе. І такая тады злосць на праклятых вылюдкаў апаноўвае за разбуранае жыццё, што ўжо ні страху, ні болю, калі параняць, не адчуваеш. Устаеш, бяжыш, і тады ні куля, ні снарад цябе не бярэ, а цымбалы тыя голымі нагамі топчаш — такая злосць!

— Ты мне скажы, браток Міна Міхайлавіч,— спытаў, памаўчаўшы, Грабок,— што ты маеш зімою рабіць?

— Ды вось, перш за ўсё агрэгат падладжу,— не разумеючы, куды хіліць Грабок, адказаў стары машыніст.

— Та-ак,— сказаў Грабок.— А я да цябе з просьбай ад усяго нашага калгаса: скончыш рамонт машыны і давай да нас, у Беражкі. Дапамажы нашым кавалям інвентар у спраўнасць прывесці, да вясны падрыхтавацца. Што хочаш, браток, прасі за гэта, а толькі не адмаўляй.

— Гм...— задумаўся стары, як відаць не падрыхтаваны да такой прапановы.

— І не гмыкай, Міна Міхайлавіч, бо і з балота не паеду, пакуль згоды тваёй не даб'юся. Што я людзям скажу, калі з «такам» прыеду? Ну, згода? — неадчэпна прыстаў Грабок.

— Ды што ўжо з табой зробіш? Прыеду, дапамагу штокольвечы...— доўга не адмаўляючыся, здаўся Міна Міхайлавіч.

Мікола ўбачыў, што не проста па цікавасці прыехаў з ім сюды Грабок. Прадбачлівы і руплівы гаспадар, ён ужо з самага пачатку зімы пачаў клапаціцца аб падрыхтоўцы да вясны. І пэўна таму, што абодва яны, і Грабок і Міна Міхайлавіч, яскрава разумелі, чаго кожны з іх хоча і да чаго імкнецца, і абодва аднолькава дбалі аб адной і той жа вялікай агульнай справе, яны так хутка і згаварыліся.

Не ўтрымаліся Мікола і Грабок, каб не пахадзіць па балотах, па тых залатых, як яны называлі, палетках, на якіх здымаліся да вайны такія ўраджаі, што імі дзівіліся вучоныя. Яны прыкідвалі, як ім вясною расставіць сілы і з чаго пачаць аднаўленне дробнай асушальнай сеткі.

Толькі калі ўбачылі яны, што кароткі асенні дзень падыходзіць к канцу, вярнуліся да фурманкі.

## 13

Звонкімі ланцугамі лёду скаваўшы Прыпяць, замёўшы снегавымі сумётамі ўсе шляхі і дарогі, злая зіма як бы адгарадзіла Беражкі ад усяго навакольнага свету. Потым ёй здалося мала зробленага, і яна наслала на сяло завею, якая не сціхала двое сутак. На вуліцах каля хат снег курэўся, як дым, і гурбы раслі, падымаючыся аж пад стрэхі, засыпаючы вокны, замятаючы калодзежы.

І на першы погляд, калі б, скажам, з вялікай вышыні паглядзець на гэтае закінутае сярод лясоў і балот, замецене снегам палескае сяло, магло б здацца, што не толь-

кі прырода, але і людзі замерлі тут у доўгім зімовым сне. І Мікола нават спачатку думаў, што вельмі цяжка будзе яму прывыкнуць да гэтай зімовай сельскай цішыні пасля пяцігадовага грукату вайны і салдацкіх паходаў па гарадах і краінах.

Але ўся гэтая замерласць была толькі вонкавай. Своеасаблівае, поўнае гаспадарчай руплівасці жыццё ў сяле не спынялася зімою. Канчалася завея, і праз гадзіну расчышчаны былі ўжо гурбы каля хат, пратораны дарогі, і кожны ў сяле займаўся сваёй справай. На гумне з рання да вечара чуваць быў гул малатарні, у кузні звінелі малаткі. Кожны ў вёсцы займаўся сваёю справай. Даяркі спяшаліся на фермы, конюхі выводзілі на вадапой коней. Вось прамчаўся па вуліцы ў маленькіх санках, аб'язджаючы маладога каня, старэйшы конюх калгаса Клім Дубовік. Вось прайшлі цесляры з сякерамі на будаўніцтва хатылабараторыі.

Міколавы зімнія дні, напоўненыя самай разнастайнай, і дробнай і важнай, дзейнасцю, беглі адзін за адным так, што ён і не прыкмячаў іх. У пачатку зімы па дарученню абласнога аддзела меліярацыі ён узначаліў у Даманаве курсы дзесятнікаў і брыгадзіраў па меліярацыі. Вярнуўся з Даманава — давялося вырашаць розныя тэхнічныя справы, каб прыскорыць рамонт экскаватараў. Вечарамі Мікола хадзіў у калгасны клуб, куды збіралася і моладзь і пажылыя калгаснікі. Часта ён чытаў на калгасных сходах даклады на міжнародныя або навуковыя тэмы.

Аднойчы ўвечары ў пакойчык да Міколы зайшоў Грабок. Ён сеў, закурыў цыгарку.

— Усё працуеш, над кнігамі сядзіш? — запытаў Грабок, і па яго выгляду Мікола адразу зразумеў, што ён мае сказаць нешта больш важнае. Грабок таямніча нахіліўся да Міколы:— Бачыў ты, браток Мікола Пятровіч, якая пароша выпала?.. То давай заўтра на золаку закладзём у сані майго вызнога ды ў Астравы на дзікоў адскочым. Не дзіка, дык зайчыка або ліса ўпалюем... Нельга ж чалавеку ўвесь час працаваць і працаваць. Конь і той без адпачынку не можа...

Мікола з радасцю згадзіўся па прапанову. Назаўтра, захапіўшы з сабой яшчэ двух беражкоўскіх аматараў-паляўнічых, яны выехалі ў пушчу.

Многа радасці можна зазнаць у зімнім лесе. Асабліва прыгожай бывае палеская пушча ў ціхія марозныя дні, калі па-святочнаму ўбраны ў белае лес стаіць застылы ў

нерухомасці і на кожным дрэве, на кожнай галінцы дыяментамі іскрацца, пераліваюцца асветленыя сонцам блёсткі снегу. Варта, затаіўшыся, пастаяць адну хвілінку, каб адчуць, якім поўным жыццём жыве зімовая пушча. Ціха вакол, не зварухнецца, трымаючы на сабе багатыя дары зімы, ніводная галінка на дрэве. І раптам — шась! — аднекуль з вышыні сыплецца снежны пыл. Гэта рыжая непаседа-вавёрка пераскочыла з дрэва на дрэва. Адзін кароткі міг, і яна маланкай знікла ў вяршаліне кашлатай хвоі... А вось недзе невідочны ў галлі ўпарта забубніў дзяцел — та-та-та!.. Лапатнуў крыламі, сарваўшыся з галіны, цецярук. Дзве казулі выскачылі на просеку, спыніліся, пастаялі кароткі момант і адразу, нібы адчуўшы нейкую небяспеку для сябе, скокнулі і панесліся на сваіх тонкіх нагах, пакінуўшы за сабой толькі воблачка снежнага пылу. І калі воблачка гэтае знікае, нават няма ўпэўненасці, ці праўда, што тут, на просецы, міг таму назад стаялі дзве казулі, ці гэта толькі здалося...

Якраз такой прыгожай была пушча і ў дзень, выбраны Грабком для палявання, і, памалу ідучы ўзлессем, Мікола не столькі аддаваў увагі таму, дзеля чаго сюды прыехаў, колькі любаваўся строгай прыгажосцю пушчы, убранай у снегавое адзенне. Ціха рыпеў пад нагамі снег, недзе далёка, па той бок бярозавага гаю, што прымыкаў да пушчы, чуваць было яхканне ганчакоў. Хутка Мікола адбіўся ад сяброў. Ён ішоў адзін і, быццам ап'янёны свежасцю марознага дня, памалу забыўся, аддаўся ва ўладу думак...

Але нечакана яны былі перапынены. Выпрастаўшыся ў шалёным бегу, два, адзін за адным, ганчакі, абыходзячы бярэзнік, з яхканнем гналі перад сабой зайца. Напалоханы да паўсмерці белячок з усіх сіл сігаў па паляне, перасякаючы яе і накіроўваючыся ў пушчу. Напрамак у яго быў такі, што хоць ён і павінен быў прабегчы на адлегласці стрэлу ад Міколы, але нязручна для яго — стараной. Мікола стаіўся за дрэвам. Калі белячок, прабягаючы міма, параўняўся з ім, Мікола стрэліў раз і амаль адначасна здубальтаваў. Заяц, як мячык, падскочыў угару, крута павярнуў і яшчэ хутчэй панёсся полем на рог лесу. Мікола ўсміхнуўся — пашанцавала касому! Ён заклаў у стрэльбу два новыя набоі і выйшаў з-за дрэва. Заходзячыся ў яхканні, ганчакі амаль даганялі беляка. Раптам зводдаля, адтуль, куды напрасцяк імчаўся бяляк, пачуўся стрэл, і Мікола ўбачыў, як далёка нехта з яго сяброў усё-такі ўлажыў небараку...

Паляванне дало добры адпачынак Міколу ад штодзённага гаспадарчага клопату. Але надоўга памятным гэты дзень для Міколы стаўся з прычыны іншай падзеі.

Вярнуўшыся з палявання, Мікола ўвечары пайшоў да Наташы. Пастукаўшы, ён увайшоў у пакойчык, моўчкі прыпыніўся каля парога. Здзіўленая Наташа ўстала, адразу не зразумеўшы, што з ім, чаму ён не такі, як заўсёды, нават не прывітаўся ўвайшоўшы... Але калі яна прыгледзелася да Міколы, то адразу зразумела, чаго ён прыйшоў. Мікола стаяў усхвалёваны, твар яго быў суровым.

— Наташа! — не сыходзячы з месца, уздрыгнуўшым голасам сказаў Мікола.— Даруй, што я так адразу... Разумееш, я люблю цябе, Наташа... Ты не злуйся на мяне...

Збянтэжаная, Наташа моўчкі адступіла да стала. Мікола таропка падышоў да яе, узяў за руку. Наташа не працівілася. На твары ў Міколы перасмыкнулася нястрымная радасць.

— Ната! — збіваючыся, працягваў Мікола.— Я і сам не заўважыў, як гэта здарылася... Ты даруй мне... Усё роўна я павінен быў табе гэта сказаць. Ты можаш мне нічога цяпер не адказваць. Ты можаш сказаць мне сваё слова, калі сама гэтага пажадаеш. Але толькі не кажы «не»... Добра?

— Добра! — паглядаючы ў вочы Міколу, ціха адказала Наташа.

## 14

Адшумеўшы завеямі і сцюжамі, непрыкметна мінула зіма, і аднойчы цёплы вільготны вецер, наляцеўшы з поўдня, нечакана прынёс з сабою першае адчуванне вясны. З кожным разам усё вышэй і вышэй узнімалася сонца, даўжэй станавіліся дні.

З прыходам вясны для Міколы настала гарачая пара. Па прапанове раённага выканаўчага камітэта ў аднаўленні асушальнай сеткі на Пагіблых і пракладцы новых канаў павінны былі прыняць удзел не толькі беражкоўскія калгаснікі, але і сяляне ўсіх навакольных сёл. Гэтая прапанова была падтрымана калгаснікамі, таму што ў асушцы Пагіблых былі зацікаўлены не адны беражкоўцы. Трэба было загадзя падрыхтавацца да пачатку работ з тым, каб, як толькі будзе мажлівасць, пачаць пракладку калектараў.

Мікола цэлымі днямі не даваў перадышкі свайму «цундапу», ездзячы то ў Даманава, то ў суседнія калгасы. На

праўленнях калгасаў браўся на ўлік кожны чалавек, і загадзя было намечана, дзе хто павінен будзе працаваць у напружаныя дні вясны. Размеркаваць людзей патрэбна было так, каб выхад на балоты не перашкодзіў правядзенню сяўбы. Зноў складзены былі брыгады грабароў, падрыхтоўвалася неабходнае начынне. З вобласці прыслалі шмат гумавага абутку спецыяльнага прызначэння для работ у вадзе.

Тым часам цеплыня з кожным днём бралася ў большую сілу, вясна наступала напорыста і ўпэўнена. Удзень, ледзь толькі падымалася сонца, усюды ажывалі тысячы гаваркіх ручайкоў. Маленькія паступова зліваліся ў большыя,раслі і буйнелі. З шумам і рознагалосым цурчаннем бегла вада палявымі межамі, каляінамі дарог. Снег сыходзіў дружна і хутка. Увачавідкі вырасталі на палях чорныя прагаліны зямлі. А на ўзгорках, асабліва на сонечным баку, снегу ўжо і зусім не было, здавалася, быццам яго проста здзьмухваў цёплы сакавіцкі вецер. Лёд на рацэ ўздыбіўся і пачарнеў, падточаны маладымі водамі з палёў.

Заняты многімі справамі, Мікола, аднак, не прапусціў адной вялікай вясенняй урачыстасці — рачнога ледаходу. Гэтае відовішча заўсёды мела для яго вялікую асалоду. Некалі юнаком ён па двое сутак, не адыходзячы, пільнаваў урачыстую хвіліну, калі кранецца і пачне ісці лёд.

Сёлета гэтае свята вясны таксама не менш займала Міколу. У гэты дзень ён сабраўся ехаць па справах у Даманава. Выехаўшы раніцай за сяло, ён пачуў незвычайны шум на рацэ. Ён здагадаўся, што здарылася, і павярнуў да рэчкі.

Калі ён пад'ехаў да берага, то ўбачыў, што ўжо ўся рака была ў руху. З глухім шумам і скрыгатам, напаўзаючы адна на адну, плылі вялізныя крыгі. Не ўмяшчаючыся ў берагах, лёд напаўзаў на пясок, крышыўся, трушчыўся і з лёгкасцю падмінаў пад сябе прыбярэжны лазняк. Вось адна вялізная крыга з ходу ўдарыла ў сігнальны ліхтар. Ледзь стрымаўшы націск ледзянога тарана, ліхтар нахіліўся, нібы ў паклоне, але наступная крыга зусім паваліла яго і прапаўзла па ім, упрасаваўшы яго ў мокры жвір. Вось праплыла крыга з кавалкам зімняй дарогі на лёдзе. Дзіўна было глядзець на гэтую адарваную недзе без пачатку і канца дарогу, адслужыўшую сваю кароткую зімовую службу...

Прастаяўшы колькі часу на беразе, Мікола паехаў у Даманава.

Пасля поўдня, вяртаючыся дадому, ён зноў пад'ехаў паглядзець на рэчку. Крыгі плылі ўжо не суцэльнай масай, а рэдкія, дробныя, і вызваленая ад лёду рака адразу стала бяскрайняй у шырыню, разлілася.

Мікола нерухома стаяў, пагладаючы на разлітую ў паводцы раку, на ўвесь магутны рух вясенняй прыроды. Зарэчныя лугі, лазняк былі заліты вадою аж да далягляду. Цёплы вецер даносіў да Міколы водар паруючых пад сонцам палеткаў, пахі ажываючай зямлі. Стайка крыжняў прашумела над галавой, накіроўваючыся ў бок Пагіблых...

«Як, аднак жа, хараша жыць! — раптам падумаў Мікола, адчуваючы нейкую нязнаную дасюль вялікую радасць.— Так, гэта так і трэба было, каб тады, у вайну, ён смела, не шкадуючы жыцця, ішоў у бой, у агонь дзеля таго, каб адстаяць сваю радзіму ад ворага, дзеля перамогі над чорнай сілай, дзеля жыцця, дзеля шчасця бачыць вось гэтую раку ва ўсёй яе веснавой красе. Дзеля гэтай перамогі, у імя шчасця сваёй радзімы ён і тыя, што ішлі поплеч з ім, змагаліся і перамагалі, нават смерцю сваёй сцвярджаючы жыццё...»

Мікола завёў матацыкл. Выехаўшы на дарогу, ён прышпорыў свой паліняглы ў цяжкіх раз'ездах «цундап» на самую большую хуткасць. Ён ехаў у сяло, прамчаўся па вуліцы, распырскваючы вакол густую гразь, і спыніўся ў самым канцы Беражкоў, каля невялікага саду. Саскочыўшы з матацыкла, ён прайшоў праз садок — у глыбіні паміж дрэў віднеўся пабелены чысты дом: сельская амбулаторыя, дзе працавала Наташа.

Мікола ўвайшоў у дом.

— Ты што,— усміхнулася яна, падняўшыся насустрач Міколу,— можа, захварэў? Можа, лячыцца прыехаў? То сядай, я зараз прапішу табе лекі...

— Ната! — падыходзячы да яе, паспешліва сказаў Мікола.— Апранайся і паедзем са мною. Я хачу паказаць табе вясну...

Наташа, адчыніўшы дзверы, зазірнула ў пакой, дзе хворыя чакалі чаргі на прыём — там сядзела адна-адзіная жанчына, яна прыйшла змяніць перавязку на руцэ. Наташа запытальна паглядзела на сваю памочніцу, фельчарыцу Ксеню.

— Едзьце, Наталля Кірылаўна,— сказала тая, адразу ж здагадаўшыся, пра што менавіта хацела прасіць яе Наташа.— Я і сама ўпраўлюся перавязаць. Едзьце...

Мікола прывёз Наташу да ракі і надвёў яе да самага берага высокай кручы. Наташа паслухмяна ішла за ім.

— Во, глядзі...— паказаў ён рукой на разліў. Наташа паглядзела і прыціхла ў здзіўленні ад таго харaства, якое ўяўляла сабой вясенняя рака.

Мікола задумаўся.

— Наташа, ты бачыш вунь, далёка сярод вады, астравок-узгорак і на ім дуб.— Мікола паказаў рукою за раку.— Гэты ўзгорак ніколі не заліваецца вадою. Да вайны каля таго дуба стаяў курэнь, і ў ім з самай вясны аж да ледастава жыў адзінокі бакеншчык дзед Кандрат, родам з Зарэчча. Гэта быў найлепшы ў акрузе рыбалоў і цудоўны апавядальнік усякіх выдумак. Зрэдку я ездзіў да яго ў госці на юху. «Сынок,— сказаў ён мне аднойчы,— хочаш я раскажу табе байку пра Пагіблыя?» — «Што ж,— кажу,— раскажы...» — «Ну, дык вось слухай жа...» І ён расказаў мне байку, якую сам ён і прыдумаў у тым куранi, пaглядаючы, што рабілася на Пагіблых. Гэта была байка пра тое, як адзін паляшук паехаў у вялікае падарожжа, а вярнуўшыся праз дзесяць год, заблудзіўся, не пазнаў радзімай мясціны. «Скажыце мне, дарагія людзі,— пытаўся той падарожнік, паглядаючы вакол,— дзе гэта тут ёсць такое вялізнае балота, Пагіблым завецца?» — «А вось яно»,— паказваюць яму людзі на багатае пшанічнае поле, на палеткі лёну. Падарожнік падумаў, што з яго смяюцца, і пытаецца далей: «А скажыце, добрыя людзі, дзе ж тут ёсць такая вёска Зарэчча?» — «Як жа ты не бачыш гэтай вёскі, калі вось яна перад табой і стаіць»,— зноў адказваюць людзі. «Не смейцеся вы з мяне,— раззлаваўся падарожнік,— ніколі ў Зарэччы не было такіх прыгожых дамоў і такіх зялёных вуліц. Не было ў Зарэччы вось гэтага двухпавярховага клуба, кінатэатра, не было такой вялікай школы-дзесяцігодкі, не было электрастанцыі, ніколі не было такіх багатых садоў вакол вёскі, пчаліных пасек, светлых вадаёмаў, не было такіх прасторных і багатых жывёлагадоўчых ферм. Не смейцеся з мяне, гэта не Зарэчча...» — «Зарэчча, Зарэчча, мілы ты чалавек,— кажуць яму людзі,— яно не было такім, але такім стала. А ты бліжэй прыгледзься, то яшчэ і не так здзівішся, убачыўшы, як багата жывуць цяпер зарачанцы, якія цудоўныя каровы стаяць на гэтых фермах, колькі рыбы ў вадаёмах, хлеба на складах, які ўраджай у нашых садах...» Вось якую цудоўную байку расказаў мне аднойчы той стары бакеншчык.

Мікола замоўк.

— Падабаецца?

— Так, вельмі,— уздыхнуўшы, адказала Наташа, але тут жа, уздрыгнуўшы, узялася за Міколаву руку.— Але ты бачыш?.. Паглядзі, там цяпер няма кураня... Мусіць, загінуў у вайну той добры летуценнік...

Мікола, усміхнуўшыся, павярнуўся да яе.

— Не, ён жывы! І сёння мы сустрэліся з ім у Даманаве. Ён усю вайну з партызанамі ў лесе быў, нават у разведку хадзіў. «А-а, вярнуўся, інжынер! — сустрэўшы мяне, гукнуў ён.— Што ж, спраўдзіш ты маю казку ці дарэмна я складаў яе?» — «Спраўджу, дзед Кандрат,— кажу я яму,— я, можа, і жывым застаўся ў гэтай вайне дзеля таго, каб пасмяяцца некалі з таго няўцямнага падарожніка».— «Добра, сынок,— кажа тады стары,— добра, што з вайны ты ідзеш з такім настроем,— шчасце сваё кожны чалавек ва ўласных руках трымае... Толькі вось мне, мусіць, ужо не ўбачыць таго, аб чым табе гаварыў».— «Дзед,— адказваю я,— а тое шчасце не так ужо і далёка, глядзі, і не азірнешся, як дажывеш».— «Ды як табе сказаць, можа, і дажыву,— хітра прыжмурыўся дзед.— Але так ці не так, а праз два дні кінь вокам, сынок, за рэчку — зноў мой курэнь ля дуба будзе стаяць, памаленьку дыміць дымком!..» Во які той дзед!

Мікола некаторы час задумёна пазіраў на рэчку.

— І ведаеш, Ната,— сказаў ён, памаўчаўшы,— веру я: будзе спраўджана гэтая рыбакова казка...

Аб бераг кручы ціха плюскалася вада. Пачало вечарэць. Ледзь толькі сонца схавалася за лесам, неба на захадзе загарэлася яркім малінавым агнём. З ракі дыхнула халодная золкасць.

Наташа захінула паліто, павярнулася да Міколы. Твар яе раптам асвятліўся той знаёмай яму нясмелай усмешкай.

— Мікола, я ўсё хацела табе сказаць... Помніш, ты гаварыў, што будзеш чакаць мой адказ... Я, Мікола, таксама люблю цябе, люблю даўно-даўно...

## 15

Лугавец не забыў свайго абяцання. Як толькі схлынула вясенняя вада і на даманаўскіх балотных масівах пачаліся аднаўленчыя работы, ён дамовіўся з Мельнікавым і разам з ім выехаў на Пагібныя. Дзень акурат выдаўся сонечны, цёплы. На палях гудзелі трактары,— першыя пасля вайны трактары,— ішло ворыва і вясенняя сяўба. Узнятыя

палі паравалі пад гарачымі промнямі красавіцкага сонца. Над свежай раллёй каркала і круцілася, ходзячы за плугамі, варанне. Памалу ажываў лес, набрынялі почкі на бязлістых чорных галінах дрэў. На ўзгорках, дзе ветрык хутчэй асушаў зямлю, пачынала прабівацца першая зеляніна. Усюды відаць было, як ажывала прырода, як цягнулася да жыцця ўсё жывое.

Лугавец моўчкі пазірадаў у адчыненае акенца аўтамабіля. Яны праязджалі палі і лясы, міналі вялікія і малыя вёскі, перасякалі рэкі. І ўсюды — і ў вёсках, і па палях — відаць было, як ажывала Палессе, як хутка аднаўлялі палешукі сваю гаспадарку, наладжвалі шчаслівае мірнае жыццё. Вось каля дарогі стаіць вялікае, толькі што адбудаванае сяло з прыгожымі дамамі, дзе-нідзе нават упрыгожанымі адмысловай разьбой. Вось вучні пад кіраўніцтвам старога, барадатага садоўніка насаджаюць малады сад. У палях раз-пораз відаць дымкі трактароў, па дарогах бягуць калгасныя грузавікі. А вось брыгада лясных рабочых расчышчае захламлены фашыстамі лес і спальвае сабранае ў кучу галлё. Вось непадалёк ад вёскі будуецца новая цагляная МТС. На двары, пад дашчатым навесам, у рад стаяць навенькія, толькі што прывезеныя жнейкі, касілкі, малацілкі. Праязджаеш далей і бачыш, як цягнуцца ў поле адна за адной фурманкі, гружаныя мінеральным угнаеннем. А вось ужо відаць і больш буйныя справы — калгаснікі трох вёсак, аб'яднаўшыся, будуюць плаціну для гідрастанцыі.

Лугавец глядзіць вакол і думае пра мінулае і будучае Палесся, гэтага багатага прыроднымі багаццямі, своеасаблівага беларускага краю, пра яго людзей. Некалі самая закінутая, глухая ўскраіна царскай Расіі, што славілася толькі сваёй выключнай беднасцю, пяскамі, непраходнымі балотамі ды яшчэ паганай хваробай «каўтун», за гады савецкай улады непазнавальна пераўтварылася, стала квітнеючым калгасным краем. Тысячы школ, дзесяткі тэхнікумаў, інстытуты, тэатры, тысячы клубаў, дамоў сацыялістычнай культуры ў вёсках, кіно, аграмадная сетка лячэбных установ, бальніц, радзільных дамоў, дзесяткі друкарняў — такім вялізным культурным багаццем валодала цяпер Палессе. Няма зараз на Палессі вёскі, з якой не выйшлі б дзесяткі настаўнікаў, інжынераў, дактароў, спецыялістаў-механізатараў, аграномаў. Дзеці палешукоў, атрымаўшы адукацыю ў вышэйшых навучальных установах Масквы, Ленінграда, Мінска, не забываюць род-

ных мясцін, прыязджаюць працаваць у Палессе, каб дапамагаць хутчэйшаму росту яго гаспадаркі і культуры.

Вайна нанесла вялізныя страты народнай гаспадарцы Палесся. Спалены і разбураны тысячы вёсак, мястэчкі і гарады, фабрыкі, электрастанцыі. Загінулі дзесяткі тысяч людзей. Але палешукі і ў дні вайны паказалі сябе вартымі сынамі сваёй радзімы, яны не схілілі галавы перад ворагам: змагаліся супроць фашыстаў у радах Савецкай Арміі, у партызанскіх атрадах...

Многа глыбокіх ран нанесла вайна Палессю, але паступова ўсё прыходзіць у норму. Сціхае смутак па загінуўшых, знаходзяць новых бацькоў сіроты. Вырастаюць на пажарышчах новыя вёскі і гарады. Зноў загудзелі ў полі працавітыя трактары і выехалі з сявяркамі аратыя. Цёплым майскім вечарам стань на краі палескага сяла і прыслухайся — здалёк пачуеш звонкую дзявочую песню, якой не чуваць было пяць год. Прыгледзься да людзей і ўбачыш, як пачынаюць разгладжвацца на іх тварах маршчынкі, нажытыя ў вайну, як святлеюць вочы, якія былі цёмнымі ад перажытага гневу і болю.

Узяць хоць бы таго ж Навасада,— Лугавец невыпадкова так горача цікавіўся ім, сачыў за яго лёсам. Некалі на нарадзе ў абкоме, упершыню ўбачыўшы Навасада і слухаючы яго гарачыя словы аб пераўтварэнні палескіх балот, Лугаўцу неяк адразу кінулася ў вочы: ні зорачкі капітана, ні два баявыя ордэны, што ўпрыгожвалі грудзі Навасада і сведчылі аб тым, што ваяваў ён як сапраўдны воін, не шкадуючы жыцця, не рабілі яго, аднак, ваенным. Па ўсяму яго складу адчувалася, што гэта быў мірны, цывільны, а не ваенны чалавек, і толькі вайна зрабіла яго салдатам.

Машына раптам павярнула з гравійнай дарогі на шырокі, абсаджаны бярозамі, грунтовы шлях, што вёў на Беражкі. Здалёк віднелася цёмная паласа балот.

— Паглядзіце,—паказаў рукою праз расчыненае акенца Мельнікаў,— вунь збоку відаць балота: гэта і ёсць Пагіблыя. Хутка і Беражкі...

Але Навасада ў Беражках яны не засталі — у сельсавеце сказалі, што ён недзе на балоце. Дапамагчы ім расшукаць яго ўзяўся Іван Ануфрыевіч, які адзін ведаў, што і дзе важнага рабілася цяпер у любым куточку Пагіблых.

Пакінуўшы машыну на краі балота, Лугавец і Мельнікаў следам за Грабком паціху пайшлі ў глыбіню Пагіблых. Над балотам стаяла лёгкая парнасць, пахла застаялай ва-

дой і тванню. На зарослай лазою рачулцы чуваць быў прарэзлівы крык качуроў. Здалёк чуўся шум экскаватара.

Навасада яны ўбачылі, прарабіўшы немалы шлях па глухім балоце. З групай рабочых ён пракладаў на мясцовасці, адзначаючы высокімі вешкамі, шлях новага вадазборнага канала. Навасад узрадаваўся гасцям. Даручыўшы свайму памочніку, маладому тэхніку, працягваць работу, ён павёў гасцей па балоце.

Дзе сцяжынкамі, а дзе пераскокваючы з купіны на купіну па дрыгве, яны ішлі ў самую глыбіню Пагіблых.

— Весці-то ты нас вядзі, ды не замучай,— уціраючы хусцінкай лысіну на галаве, жартаўліва папрасіў таўсцяк Мельнікаў.

— А вось выйдзем на Сухую граду, спынімся,— супакоіў яго Навасад.— Адтуль усё балота відаць.

— Нічога, нічога,— пажартаваў Лугавец, які, нягледзячы на знешнюю грузнасць, ішоў лёгка і хутка.— Табе такая прагулянка не пашкодзіць.

Хутка яны выйшлі на невялікі груд, паросшы алешнікам і дробным хмызняком, празваны ў народзе Сухой градой. Адсюль і сапраўды відаць былі далёка вакол прасторы Пагіблых. На адлегласці кіламетра ад Сухой грады, каля ракі, уздымаліся стрэлы двух экскаватараў. Непадалёк ад іх, на калектары, мільгалі яркія каляровыя касынкі і белыя сукенкі дзяўчат, сарочкі хлапцоў. Такія ж групы грабароў відаць былі і ў іншых месцах на балоце. Аднекуль здалёк вецер данёсіў да Сухой грады звонкую песню.

— Эге, браток! — азірнуўшыся вакол, здзівіўся Лугавец.— Бачу я, замахнуліся вы тут не на жарты. Народу колькі!

Навасад выняў з паходнага планшэта кальку, разгарнуў яе. Гэта быў план Пагіблых.

— Ну, Дзям'ян Сяргеевіч, пачну з таго, пра што вы мне прапанавалі падумаць,— сказаў Навасад.— Вадасховішча стварыць на Пагіблых можна, і нават амаль не парушаючы праекта... Вунь, глядзіце, на даляглядзе чарнее лес.

Госці паглядзелі ў бок, куды паказваў Навасад, і ўбачылі ледзь прыкметную чорную палоску.

— Там пачынаюцца Пагіблыя,— растлумачыў Навасад.— Па правы бок гэтага лесу ляжаць палі калгаса «Рассвет», далей — беражкоўскія палі, а яшчэ далей пачынаюцца палеткі «Трэцяга рашаючага». І ўсё гэта — суцэльныя пяскі... Там, выкарыстоўваючы натуральную лагчыну

Пагіблых, мне здаецца, і можна будзе стварыць запасы вады...

Навасад пачаў расказваць, як будуць выкарыстоўвацца асушаныя плошчы Пагіблых. Векавы перагной тарфянікаў дасць калгасам нечуваныя ўраджаі льну, канапель, ячменю, аўса, пшаніцы, бульбы, гародніны. Выбарачныя пробы грунту паказалі, што на асобных участках балота маюцца велізарныя запасы торфу, які залягае на вялікую глыбіню. На базе гэтага выдатнага паліва тут можна будзе пабудаваць міжкалгасную электрастанцыю — торфу для яе хопіць на сотню год...

Лугавец уважліва слухаў Навасада. Калі ён змоўк, Дзям'ян Сяргеевіч летуценна прыжмурыў вочы, сказаў:

— Пагіблыя балоты... А дзіўна і недарэчна будзе гучаць такая назва праз якія-небудзь два-тры гады. Ды ўжо і зараз гэта не Пагіблыя балоты, а хутчэй — цудоўны край некранутых багаццяў.

— Народ хутка дасць новую назву гэтаму месцу,— горача адгукнуўся Мікола.

Слухаючы Навасада, Лугавец адразу заўважыў змены, якія адбыліся з ім пасля іх сустрэчы зімою ў абкоме. Ажыўлены, жартаўлівы, Мікола нават нібы памаладзеў з твару. Чорныя вочы яго бліпчалі, у іх не відаць было таго смутку, які некалі адразу быў прыкметным. Поўны энергіі, Навасад быў увесь захоплены любімай працай.

«Добра, вельмі добра,—падумаў сам сабе Лугавец, уважліва прыглядаючыся да Міколы.— Гэта мне таксама хацелася ўбачыць».

Навасад правёў гасцей да грабароў, якія працавалі на пракладцы малых асушальных канаў, да экскаватаршчыкаў.

Потым яны выйшлі на бераг рэчкі. Цёплы вецер абдаў іх свежасцю вады. Па рацэ праплыў буксір, цягнучы за сабой дзве вялікія свежапрасмаленыя баржы, і хвалі адна за другой запляскалі аб прыбярэжную лазу.

— Ведаеце,—заўважыў Лугавец, звяртаючыся да Навасада,— а вы як быццам памаладзелі за гэты час. Выходзіць, што казаў я вам праўду — праца добры лекар.

— Што ж,— усміхнуўся Навасад,— вайна скончылася, усё мінулася, час і маладзець.

Навасад памаўчаў, пазіраючы ўдалечыню, услед праплыўшаму буксіру. Асветленыя сонцам хвалі, што беглі следам за ім, успыхвалі і гаслі яркімі іскрамі агню.

— А яшчэ, калі б вы ведалі, колькі радасці вакол у

нашых краях вясною. Адзін вось гэты гаючы ветрык з ракі ад любой хворасці вылечыць можа. Вось пад вечарок сходзім з вамі на паляванне, на качуроў. Самі адчуеце.

Лугавец усміхнуўся.

— Што, чуў я, ты ўжо і сяброўку сабе знайшоў?

— Знайшоў,— кіўнуў галавою Мікола.— Ажаніўся...

— І правільна зрабіў,— сказаў Лугавец.— Вось скончыш працу, ды паедзем, пазнаёміш з жонкай, пахвалішся дачкой.

— За мною, як кажуць, даўжок, буду рады, Дзям'ян Сяргеевіч, бачыць вас сваім госцем...

Яны яшчэ пастаялі на беразе, моўчкі глядзелі, як усныхвалі і гаслі на вадзе іскры агню ад яркага бляску сонца на хвалях. Хутка і буксіра стала не відаць, а залатыя іскры на вадзе ўсё гарэлі і пераліваліся.

1946

## ДАЧКА МАРЫЙКА

Урапошні час Люба столькі думала аб ім і так чакала, што, здавалася, калі б ён ні прыйшоў, калі б ні вярнуўся ў гэты чысценькі і ўтульны домік на краі сяла, ці ўдзень, ці сярод ночы, усё роўна ён не застаў бы яе знянацку. Люба выходзіла да калодзежа па ваду і кожны раз не праміпала паглядзець на шлях — а што, як ідзе? Гэта ж так магло быць — вось акурат яна выйшла на вуліцу, а на дарозе далёка, далёка відаць яго постаць. Яна пазнала б Рыгора па хадзе, як бы далёка яго ні ўбачыла.

Вечарамі яна прыслухоўвалася да кожнага грузавіка на шашы — ці не спыніцца каля іх вёскі. А калі грузавік, прыцішаючы матор, тармазіў і спыняўся, чакала, ці не ён гэта прыехаў. Яна адлучалася з дому на адну-дзве гадзіны на вячоркі ці да суседкі па справах, і калі вярталася, кожны раз у душы таіла надзею — а што, калі ён ужо дома.

Яна ўжо даўно перадумала ў самых дробязях, якой будзе іх сустрэча. Гэты малюнак, як жывы, стаяў у яе перад вачыма. Рыгор уваходзіць у хату, ён няголены, пастарэлы за гэтыя пяць суровых гадоў вайны. Стомленасць, нейкі невыразны смутак відаць на яго твары, гэткім жа

смуткам адзначана і Рыгорава ўсмешка. Чамусьці — яна і сама не ведае чаму — Люба заўсёды бачыць гэтую самотнасць, калі ў думках уяўляе Рыгора. І яшчэ ёй здаецца, што ён прыйдзе не такі гаваркі, не такі вясёлы, якім яна ведала яго. Такі знак па яе меркаваннях павінна была пакінуць на Рыгору вайна. І вось яна кінецца яму насустрач, за ёю маці, маленькая Марыйка...

Але як толькі Люба пачынае думаць аб сустрэчы Рыгора з Марыйкай, у сэрцы яе, недзе ў самым далёкім куточку, раптам маленькай іскрай успыхвае трывога: як яны сустрэнуцца? Марыйка была яе прыёмнай дачкой. Яна ўзяла яе на выхаванне з дзіцячага дома, калі была ў эвакуацыі, у далёкім гарадку на Волзе. За два гады, што прайшлі з таго часу, яна моцна палюбіла Марыйку і прывыкла да яе. Якая гэта была мілая дзяўчынка. Яе наіўнасць, даверлівасць часамі даводзілі Любу да слёз. Ёй здавалася, што яна любіць і шкадуе Марыйку мацней, чым яна любіла б роднае дзіця. Такую моцную чуллівасць выклікала ў яе, мусібыць, адчуванне Марыйчынага сіроцтва. У цяжкія часы эвакуацыі яна начамі праседжвала над Марыйкай, калі тая, здаралася, хварэла. Яна адмаўляла сабе ва ўсім, каб толькі Марыйка ні ў чым не адчувала нястачы. І дзяўчынка расла на славу, вясёлая, разумная, ёй пайшоў толькі шосты гадок, а яна ўжо ведала на памяць столькі вершыкаў, казак. А як забаўна спявала яна свае дзіцячыя песенькі, якія сама і складала, гуляючы ў лялькі.

А найбольш кранала Любу тое, што Марыйка наіўна верыла, што Люба — гэта і ёсць сапраўдная яе маці, якая «знайшлася». Схіліць яна звычайна набок сваю прыгожую галоўку з чорнымі, густымі, па-ўкраінску раскідзістымі броўкамі і пытаецца:

— Мамка, а ці хутка наш тата наб'е фашыстаў? Ці хутка прыйдзе дадому?

І Люба рабіла ўсё, каб дзяўчынка расла, не ведаючы праўды. Ды і навошта было цяпер ёй ведаць гэтую праўду, навошта было бянтэжыць яе светлыя дзіцячыя думкі.

Даўно, яшчэ будучы ў эвакуацыі, ледзь толькі Люба даведалася Рыгораў адрас, яна напісала яму аб Марыйцы. Рыгор адказаў, што ён вельмі давольны яе ўчынкам і будзе рады замяніць сіраціне бацьку. А ў апошніх пісьмах нават сам пытаўся аб ёй, клапаціўся, ці ёсць у Марыйкі зімовае адзенне, ці не маюць яны ў чым якой патрэбы.

Ён нават меўся прысылаць ім са шпіталя грошы, але Люба забараніла яму гэта рабіць — жылі яны ніштавата, і ўсё ў іх было.

А трывожылася Люба, чакаючы гэтай першай сустрэчы Рыгора з Марыйкай, і сама выразна не ведала чаго. То ёй думалася, што ў Рыгора не знойдзецца пры сустрэчы з Марыйкай патрэбнай радасці і цяпла. А ад чуллівага дзіцячага сэрца не схаваеш фальшу. Ледзь ухіліцца ён ад праўды, яна адразу адчуе і ўжо захавае тое «чужое» адчуванне на ўсё жыццё. А то баялася яна, што, можа, Марыйка трымае дзе-небудзь у далёкай падсвядомасці вобраз роднага бацькі, загінуўшага недзе на фронце, і не захоча прызнаць за бацьку Рыгора.

Але над гэтай маленькай і невыразнай трывогай, якая пэўна што якім-небудзь чынам утаймуецца і ўсё абыдзецца добра, цяпер пераважала адно жаданне: як найхутчэй убачыць Рыгора.

І ўсё ж, як ні чакала яго, як ні падрыхтавана была ў любую хвіліну сустрэцца з ім, а калі аднойчы вечарам, ледзь сцямнела на вуліцы, нехта тройчы ціхенька пастукаў у акно — усёй істотай уздрыгнула ад нечаканасці. Сэрца Любы ёкнула і зайшлося — гэта ён, ён, яна пачула гэта душой, яна хацела ўсхапіцца з лавы, кінуцца яму насустрач, хутчэй адкрыць сенечныя дзверы, але не магла. Усю яе пранізала нейкая здранцвеласць, ногі не слухаліся яе. Яна як сядзела, так і засталася сядзець за сталом побач з Марыйкай, якая нешта малявала на паперы.

І ўсё пайшло не так, як думала Люба. Маці, а не яна, выйшла першай яму насустрач у сенцы, адчыніла дзверы і за руку ўвяла Рыгора ў пакой.

— Добры вечар у хату,— спыніўшыся ў парозе, гукнуў Рыгор, і ў голасе яго, у трох простых будзённых словах, сказаных ім, прагучала столькі пачуццяў, што цяжка было б апісаць іх нават у вялікай кнізе. Тут была і невыказная радасць сустрэчы, і гордасць пераможцы, які сумленна і шчыра папрацаваў на гаротнай ніве вайны і заслужыў гэтую радасць сустрэчы, тут быў і глыбокі смутак чалавека, які не раз і не два глядзеў у сухія вочы смерці, прайшоў выпрабаванне і агнём і крывёю.

Абліваючыся слязьмі радасці, маці кінулася сыну на шыю. Ён абняў і пацалаваў яе моцным салдацкім пацалункам. Потым ён ступіў крок на хату, прасцяг уперад рукі.

— Люба!..

А яна... Пазней яна сама дзівілася і не магла зразумець, чаму ўсё пайшло не так, як яна думала. Яна раптам схапіла Марыйку, выскачыла з-за стала. На гэты міг Люба забылася пра ўсё на свеце. Яна была цяпер падуладна толькі той невыразнай трывозе, што тачыла яе праз увесь час. Ёй хацелася, каб у сённяшні шчаслівы вечар усё абышлося шчасліва і ўсе былі шчаслівы. Яна падняла на руках Марыйку і, нібы ў сне, падышла да Рыгора.

— Рыгор,— ціха прамовіла яна.— Глядзі, вось наша дачка Марыйка.

Ён адразу здагадаўся аб той яе дарэмнай трывозе. Ён нічога не сказаў, а толькі ў кароткім позірку вачэй кінуў ёй дакор — чаму яна такая, ці яна не ведае яго? Чаму не здолела сваім жаночым сэрцам здагадацца, што і сам ён, можа, яшчэ будучы там, сярод агнёў і пажарышчаў, ужо думаў аб гэтай маленькай дзяўчынцы, можа, яму і самому было да болю радасна пасля ўсяго, што ён бачыў у крывавым пекле вайны, прыгалубіць, хоць і не сваю, дачку.

— Ну, хадзі, Марыйка...— працягнуў насустрач дзяўчынцы рукі Рыгор.

Нейкі момант, прыціскаючыся да Любы, Марыйка ў маўчанні з недаверлівасцю пазірала на Рыгора. Хто ведае, якія думкі роіліся ў яе дзіцячай галоўцы. «Гэта і ёсць той тата, якога я чакала з вайны?» Мусібыць, яна намагалася як найхутчэй спалучыць той гатовы вобраз, які быў у яе, калі яна думала пра тату, з цяперашнім незнаёмым чалавекам у шэрым пяхотным шынялі, з салдацкім клумкам за плячыма. Чорнымі праменнымі вочкамі з-над густых раскідзістых брывоў яна ўважліва вывучала Рыгора. Але гэта цягнулася адзін кароткі момант. Ледзь пачула яна Рыгораў голас — ірванулася да яго, тоненькімі ручкамі моцна абхапіла за шыю і прыціснулася так, што ажно заплюшчыла вочкі.

У Любы нібы нешта цяжкае звалілася з грудзей. З лёгкасцю і радасцю яна ўздыхнула і падышла да Рыгора.

Позна ўвечары, можа, ужо апаўночы, калі, скончыўшы бясконцыя размовы і роспыты аб вайне, уцішыўшы слёзы па загінуўшых і радасць за жывых, разышліся па дамах усе суседзі і сваякі, Рыгор падняўся з-за стала і ціха, на дыбках, наблізіўся да маленькага Марыйчынага ложка. Вольна і соладка, раскінуўшыся на мяккай пасцельцы,

дзяўчынка спала. Расчырванелай ад сну шчочкай яна прыціскалася да лялькі, якую падараваў ёй Рыгор. Ён стаяў каля ложка і, прыслухоўваючыся да роўнага дыхання дзяўчынкі, доўга моўчкі пазглядаў на яе. Марыйка ўсміхалася, мусіць, бачыла нейкія радасныя сны. Люба асцярожна падышла да мужа, стала побач з ім.

— Што ты так глядзіш на яе? — ціха спытала яна.

— Так, нічога... Якія ў яе зыркія бровы. Ты кажаш, бацька яе загінуў на вайне?

— Але, ён забіты яшчэ ў сорак другім годзе.

Рыгор у нейкім неспакоі павярнуўся да жонкі.

— Ён быў салдат ці афіцэр? Ты не ведаеш яго прозвішча?

— Здаецца, ён быў лейтэнантам. А прозвішча не ведаю. Але чаму ты пытаешся аб гэтым?

Рыгор моўчкі ўзяў жонку за плячо і павёў да стала. Яны селі, і па бляску Рыгоравых вачэй, па ўзнерваванасці яго рухаў Люба адчула, што ён нечага хвалюецца.

— У яе такія бровы...— задумёна і збіваючыся, пачаў Рыгор.— Яны нешта нагадваюць мне... Пэўна, што гэта глупства, мне толькі так здалося. У сорак другім годзе каля Волгі наша часць два разы штурмавала адно маленькае сяло, здаецца, яно называлася Рузаеўка ці Разуваеўка. Немцы ператварылі яго ў камень і жалеза, яны адбіваліся, як чэрці. За трэцім разам мы ўзялі тое сяло. Мы ўбеглі ў вуліцу, і тут асколкам гранаты насмерць параніла нашага камандзіра ўзвода, лейтэнанта Кажана. Украінец ён быў. Вясёлы такі, любіў песні. Я падбег да яго. Ён яшчэ быў жывы, але ўжо канаў. Я нагнуўся над ім, аж чую — у непрытомнасці ён гукае: «Дачушка!» Сэрца маё аж зайшлося ад болю. Я і цяпер чую той яго крык...

— І ён памёр? — нецярпліва спытала ўсхвалёваная Люба.

— Памёр... У яго вось таксама былі такія ж чорныя бровы... Гэта, вядома, глупства... Але мне здалося, можа, гэта ён і быў Марыйчын бацька?

— Чакай, Рыгор, чакай,— усё больш хвалюючыся, перабіла Люба.— У дзіцячым доме мне далі вузельчык з хатнімі рэчамі. Там, сярод адзення, у канверце ляжаў маленькі здымак яе бацькоў. Толькі адзін гэты здымачак і застаўся ў яе на памяць аб бацьках.

Нават пабялеўшы ў твары, Рыгор устаў.

— Чаму ж ты маўчыш? Хутчэй паказвай!

Люба кінулася да скрыні, узяла захаваны там сярод

розных папер канверт і падала яго Рыгору. Амаль выхапіўшы канверт з Любіных рук, Рыгор раскрыў яго і нахіліўся над сталом, падносячы здымак бліжэй да святла газоўкі. Люба ў напружанні глядзела на твар мужа.

— Не, гэта не ён,— рэзка адкінуўшыся ад святла, неяк збянтэжана ўсміхнуўся Рыгор і ўздыхнуў. Цень расчараванасці перасмыкнуўся на яго твары, але адразу і знік.

— Гэта не Кажан,— ціха сказаў ён, і твар яго зрабіўся суровым.— Гэта нехта іншы. Маладзейшы.

Рыгор яшчэ раз паглядзеў на здымак, схаваў яго ў канверт і працёг жонцы. Ён паглядзеў на Любу вачыма, поўнымі цеплыні.

— Я падумаў, можа, гэта ён і ёсць. Я быў бы шчаслівы, каб гэта быў ён. Але калі і не ён, то ці не ўсё роўна нам? Праўда, Люба, цяпер жа мы Марыйчыны бацькі і яна наша дачка.

— Дачка,— мякка паўтарыла Люба.

1946

## ФРАНТАВІК

Сапраўднае прозвішча яго было Корж, звалі — Якаў Радзівонавіч, але ў каго б вы ні спыталі пра яго ў раёне, гэтага чалавека ў адно слова называлі Франтавік, як быццам гэта было яго ўласнае імя. Калі які-небудзь новы ў раёне чалавек цікавіўся Бакаўцом, вялікім прырэчным сялом, дзе пражываў Якаў Радзівонавіч, яму гаварылі: «Пра Бакавец пытаеце? Дзе Франтавік калгасным старшынёй? У гэтым сяле ўсё ідзе ладна».

У раёне Франтавік карыстаўся шырокай вядомасцю, аб ім хадзіла многа розных гаворак. Былі сярод іх і смешныя гісторыі, якія малявалі яго як чалавека своеасаблівага, але перад усім выдатнага калгаснага гаспадара. Выслухаўшы ўсе гэтыя, напоўненыя нейкай асаблівай цеплынёй апавяданні пра Якава Радзівонавіча, прыехаўшыя ў раён многа і падрабязна распытвалі пра яго ў старажылаў — і хто ён, і колькі яму гадоў, і чаму яго так празвалі,— бо і сапраўды, пасля ўсяго чутага нельга было застацца абыякавым да самой асобы Франтавіка. Быў гэта з выгляду крыху медзведзяваты, шыракаплечы і невысокі ростам ча-

лавек, з кароткай і моцнай шыяй. Гаварыў ён павольна, быццам даючы магчымасць кожнаму адчуць усю важнасць сказанага.

І ад гэтай яго павольнасці ў гаворцы, медзведзяватасці ў рухах першае ўражанне складалася ў кожнага такое, што гэтакі ж павольны і непаваротлівы ён і ў рабоце. Але гэта было памылковае ўражанне. Той, каму даводзілася бліжэй пазнаёміцца з Франтавіком, адразу з некаторым здзіўленнем для сябе пераконваўся, што гэта энергічны і цікавы чалавек, і, нават расстаўшыся з ім, доўга знаходзіўся пад уплывам яго вялікай жыццёвай энергіі.

А ўся вядомасць Якава Радзівонавіча пайшла з таго, што, узначаліўшы пасля фронту заняпалы, з разбуранай гаспадаркай бакавецкі калгас, ён здолеў паставіць яго на цвёрдыя ногі і дабіцца поўнай вагі калгаснага працадня. Проста здзіўленне выклікала, як умела перанёс ён у калгас тое, што сам набыў на вайне,— дысцыпліну, разумную вынаходлівасць, чоткасць і дакладнасць у рабоце. Цвёрда перакананы сам, што няма цяжкасцей, якіх не магла б пераадолець добра арганізаваная калектыўная сіла, Корж запальваў гэтай верай усіх, і, відаць, у гэтым быў увесь яго поспех.

Яшчэ на першым агульным сходзе, калі перавыбіралі праўленне і старшыню, калгаснікі адразу адчулі, што Франтавік не ашукае іх давер, што гэта будзе надзейны важак. Робячы справаздачу перад сходам, былы старшыня калгаса, гультаяваты, безыніцыятыўны чалавек, з адпаведным яго дробнай натуры прозвішчам Маляўка, адно толькі і рабіў, што спасылаўся на пасляваенныя цяжкасці: «Цяжкасці, цяжкасці...» — аднастайна бубніў ён, як дзяцел. А часам, сам адчуваючы, што ўсім абрыдзела слухаць адно і тое ж, ён пачынаў гаварыць пра аб'ектыўныя прычыны, як быццам гэта ўжо мяняла малюнак і давала яму нейкае апраўданне — бач, былі ў яго не толькі цяжкасці, але яшчэ і аб'ектыўныя прычыны.

Франтавік сядзеў за сталом і, упяўшы нерухомы погляд у не надта чыстую сурвэту, якой быў засланы праўленчаскі стол, моўчкі слухаў Маляўку. Становішча сапраўды было цяжкае. Цягла ў калгасе, як кажуць, кот наплакаў, рабочай сілы таксама не ставала. За час вайны амаль палова бакавецкіх палеткаў запустазелілася і стала непрыгоднай для апрацоўкі. Не здолеўшы арганізаваць як след працу, калгас амаль утрая зменшыў плошчу пасеву і зняў такі ўраджай, што, разлічыўшыся з дзяржавай і ад-

клаўшы насенны фонд, праўленне ледзь здолела выдаць калгаснікам на працадзень нейкую дробязь. Бедны працадзень аказаў свой расслабляючы ўплыў на дысцыпліну працы — да вайны бакавецкія калгаснікі прывыклі атрымліваць на працадзень поўнай мерай дабра. Якаў Радзівонавіч слухаў Маляўку і разгадваў, у чым корань і з чаго трэба пачынаць. І пакуль Маляўка, аднастайна прабубніўшы разоў дваццаць пра пасляваенныя цяжкасці, нарэшце скончыў сваю справаздачу, Корж прыйшоў да вываду — у тым становішчы, якое склалася цяпер у Бакаўцы, у першую чаргу трэба дбаць аб ажыўленні запусцелых палёў, наколькі дазволяць сілы ўгноіць і засеяць большую плошчу зямлі, дабіцца добрага ўраджаю. Высокі ўраджай дасць важкі працадзень, а важкі працадзень выкліча зацікаўленасць людзей да калгаснай працы, падыме матэрыяльны дабрабыт калгаснікаў.

Калі Маляўка скончыў, папрасіў слова Якаў Радзівонавіч. Ён павольна падняўся з лавы, переступіў з нагі на нагу.

— Вось што, мужчыны... а таксама і жанчыны,— ціха сказаў ён, але ў наступіўшай цішыні голас яго быў выразна пачуты ўсімі.— Пасляваенныя цяжкасці...— пачаў ён і запыніўся. Не скончыўшы думкі і не надаўшы гэтым словам ніякага адцення, ён раптам пачаў гаварыць зусім іншае: — У сорак другім годзе ў Валгаградзе абаранялі мы аддзяленнем адзін дом. Прыціснулі нас фашысты так, што ўжо дыхаць не было як... Навакол агонь, смерць... Боезапас канчаецца, людзей мала, хоць плач! Лейтэнант пытаецца: «Што ж, хлопцы, здамо дом?» А мы кажам: «Не, памром тут, а адыходзіць не будзем...» Двое сутак біліся. Чорнымі ад густога дыму сталі... Не было патронаў, штыкамі біліся. Мы за гэты дом біліся, а ўсю нашу Айчыну ад краю да краю перад вачыма бачылі. Адбілі! Адстаялі мы гэты дом!

Якаў Радзівонавіч уздыхнуў і дадаў:

— Як хто хоча, так няхай і разумее, да чаго я гэта сказаў. А толькі так далей, як у нашай гаспадарцы справа ідзе,— нельга.

І сеў.

І хоць гаварыў Корж мала ды, здавалася, і не па сутнасці справы, а калі пачалі вырашаць, каго выбраць старшынёй, то колькі было на сходзе людзей — а была паўнюсенькая хата,— як адзін, усе галасы аддалі яму.

З гэтай кароткай, але выразнай прамовы і пачаў Фран-

тавік сваю працу старшынёй. Не ўсім прыйшоўся да густу круты і цвёрды характар новага старшыні. Асабліва даўся ён у знакі гультаям, людзям, якія нядбайна ставіліся да працы і да калгаснага дабра. Па-ваеннаму хутка ўвайшоўшы ў курс калгасных спраў, ён, здавалася, адразу стаў ведаць не толькі тое, што робіць, але і што думае кожны калгаснік. Гуменнік Савасцей, дзіву даючыся з такой здольнасці Франтавіка, расказваў адзін такі дробны эпізод. Вазілі неяк увосень з поля снапы. Усё паказвала на тое, што надвор'е вось-вось павінна было змяніцца на дождж і з возкай снапоў трэба было паспяшаць. Якаў Радзівонавіч падышоў да Халімона, звеннявога паляводчай брыгады, які акурат кіраваў возкай.

— Як, Халімон, ці справішся ўсё да вечара перавезці?

Халімон, чалавек, мякка кажучы, не зусім гарачы да работы, паглядзеў на неба, цвіркнуў слінай сабе пад ногі і сказаў:

— Уга-а, да вечара... Первязём!

— Так... А чаму ж ты думаеш другое? Чаму ж ты так думаеш, што, моў, перавязём, то добра, а не перавязём, яго і на полі чорт не схопіць? А? — І ва ўпор паглядаючы на прымоўкшага ад неспадзяванасці, захопленага знянацку Халімона, дадаў:

— Я, брат, да гэтага не прывык. На фронце мы так не рабілі. Увечары праверу, як ты сваё «ўга» споўніш...

Халімона так уразіла гэтая здагадлівасць старшыні, што ён пасля тае гаворкі лётаў з узмакрэлай чупрынай, як птах, перадыху нікому не даваў і дамогся, што спраўдзіў сваё слова.

У першую восень, як пачалося асенняе ворыва, пакольві з цяглом у калгасе было цяжкае становішча, а ўзараць пад азімыя трэба было як мага больш, вырашана было на праўленні выкарыстоўваць на ворыве кароў. І вось пачалася марока. Ненавучаныя хадзіць у плузе, каровы блыталіся, псавалі баразну, брыкаліся. Трэба было мець цярплівасць і ўмельства, каб прывучыць карову да працы. І не ў кожнага ставала гэтай цярплівасці і ўмельства. Франтавік сам хадзіў у поле, наладжваў усю гэтую справу. У першы дзень ворыва, як толькі прыйшоў ён на поле, яго абступілі аратыя са скаргамі. Адзін малады хлопец асабліва хваляваўся.

— Не, Якаў Радзівонавіч, няхай яно згарыць з такою працай! Ты ёй хоць «ксо», хоць «цабэ» крычы, а яна куды хоча, туды ідзе... Няма ўжо маіх сіл!

— От, чорт!..— спачуваючы аратым, вылаяўся Корж. Пастаяў, паглядзеў на поле, падумаў.— А трэба ж неяк араць.— Корж паклаў руку на плячо разгарачонага хлапца: — Ты супакойся. Чалавек, калі захоча, то можа зайца прывучыць на лічыльніку лічыць, а не то што карову да плуга. А што цяжка, то...

Корж памаўчаў, падумаў.

— От я ўспомніў, як штурмавалі мы Дняпро. Таксама, брат, нялёгка было... Падбеглі да рэчкі — шыро-окая. Паблізу бой ідзе, немцы з-за ракі б'юць. На беразе нідзе ні чоўніка, ні парома, а тут трэба хутчэй пераправяцца, пакуль не заўважылі. «Уплаў»,— загадвае лейтэнант. Ну, а я плывец такі — як сякера. Што тут рабіць? Падыходжу да камандзіра: «Таварыш лейтэнант, плаваць не ўмею, што рабіць?» А ў нас лейтэнант свойскі такі чалавек быў, просты, любілі мы яго ўсе. «Што рабіць? — кажа ён мне.— А чорт яго ведае, што рабіць! Што хочаш, то і рабі, а толькі каб праз паўгадзіны на тым баку быў». Кінуўся я з гэтай «інструкцыяй», каб шукаць які сродак пераправіцца, а лейтэнант услед крычыць: «Стой, Корж! Прабяжы па беразе, можа, дзе ў лазе бервяно прыблуднае знойдзеш». І праўда, знайшоў. Вясною, мусібыць, прыгнала аднекуль. І пераплыў. Колькі пакуты набраўся, а пераплыў... А потым як гакнулі мы фашыстам у тыл, то на іх адно шматкі курэліся...

Корж паглядзеў на хлопца і ўсміхнуўся.

— Вось як, брат, бывае на свеце...

І, замоўкшы, раптам насупіўся, задумаўся.

— Чортава насенне гэтыя каровы... Не хочуць у баразне хадзіць роўна. Мусібыць, трэба нешта прыдумаць, трэба дзяцей прылаўчыць, каб вадзілі іх, то пойдзе справа лягчэй. Араць жа ўсё роўна трэба.

Гаворка Каржа падзейнічала на гарачага хлопца, як халодны душ. Ён толькі паківаў галавой, здзіўлены, як гэта старшыня да ўсяго можа знайсці, што сказаць. Моўчкі пайшоў да плуга. Разышліся і астатнія аратыя. А Якаў Радзівонавіч пайшоў у сяло і распарадзіўся паслаць у дапамогу аратым усіх вольных ад працы жанчын, а таксама падлеткаў.

Ну, і што казаць — як ні цяжка было, а паставіў Франтавік на сваім. Засеялі яны той восенню азімых амаль столькі, колькі сеялі бакаўчане і да вайны.

І заўсёды, калі паўставала перад калгасам якая-небудзь перашкода, што здавалася слабавольным або нера-

дзівым людзям непераадольнай, Якаў Радзівонавіч, памеркаваўшы, што да чаго, рабіў вывады, а заадно, як быццам гэта толькі да слова прыйшлося, успамінаў вайну, франтавую абстаноўку.

Расказваюць, што вясною, яшчэ задоўга да пачатку сяўбы, Франтавік выранцыў правесці «самалічную» рэвізію ва ўсіх чатырох брыгадах калгаса. Ну, такія праверкі вясною наладжваліся заўсёды, і сама па сабе гэтая справа не была новай для калгаснікаў. Але здзіўлены яны былі іншым — тым, з якой прыдзірлівасцю і стараннасцю даходзіў Франтавік да кожнай самай малой дробязі ў гаспадарцы. Якаў Радзівонавіч асабіста праверыў у калгасе кожны плуг, барану, кожны хамут, яго ўвагі не абмінула ніводная самая маленькая недаробка. На сявярках Франтавік з ключом у руках правяраў ледзь не кожную гайку, кожны самы нязначны болцік. І пакуль не пераконваўся, што ўсё зроблена добра, не адыходзіў.

— Ці ж гэта вам, Якаў Радзівонавіч, канешне ўсё самому трэба глядзець,— казалі яму некаторыя, паглядаючы, як ён, выпэцкаўшы ў мазуту рукі, корпаўся каля сявярак і плугоў. Не адрываючыся ад працы, Корж адказваў:

— Праверу сам, каб сэрца спакойнае было.

А потым, памаўчаўшы, дадаў:

— Наш камандзір палка — палкоўнік — перад боем, бывала, усю часць сам абходзіў, усё да дробязі правяраў. Кожнага байца вокам акіне, на кожным кані вупраж сваёю рукой праверыць. Аднойчы гэтак ідзе, бачыць, стаіць прыхіленая да дрэва вінтоўка. Узяў яе, лясь-лясь затворам. «Чыя вінтоўка?» Адзін баец падхапіўся: «Мая, таварыш палкоўнік».— «Ты што ж, лайдак, перад боем цянькі аціраеш, а вінтоўка твая якая — бачыш?» — «Вінават, таварыш палкоўнік, не дагледзеў»,— апраўдваецца баец. «Вось як дам табе за недагляд пяць нарадаў... Але нарадаў не дам, а пасля бою няхай твой камандзір даложыць мне, як ты сябе ў баі паводзіў. Тады пабачу. Як прозвішча?» Той назваўся. «Ды глядзі, каб зараз жа вінтоўку як след пачысціў...» Сам палкоўнік, а за кожнай драбніцай глядзеў. І гаспадарка ў яго была не такая, як у нас, а можа, у дваццаць разоў большая...

Лета здарылася засушлівае, але бакавецкія палі, у большасці сваёй акружаныя шчыльнай сцяной лясоў і заслоненыя ад сухавеяў, амаль што не пацярпелі ад спёкі. І азімыя і яравіна ўрадзілі добра, а прымаючы пад увагу, што калгас здолеў узараць і засеяць амаль усю даваенную

плошчу, ураджай бакаўчане атрымалі не малы. Сплаціўшы ўсё, што належала дзяржаве, і засыпаўшы насенныя фонды, калгас размеркаваў калгаснікам амаль па два кілаграмы на працадзень. Гэта ва ўсіх узняло настрой. На калгасным сходзе, калі падагульваліся вынікі гаспадарчага года, брыгадзіры ўставалі і па чарзе гаварылі аб поспехах сваіх брыгад і аб тым, як дабіліся яны, што вось сёння іх калгас зноў бярэцца ў заможную сілу. А некаторыя з выступаўшых пад гарачую руку забываліся на тое, што яшчэ далёка не дасяг іх калгас даваеннага — што яшчэ і коней у іх мала, і інвентару не стае, што з чатырох фермаў, якія меў калгас да вайны, ёсць у іх толькі дзве — малочная і свінагадоўчая, ды і тыя яшчэ недакаплектаваны, і будоўлі грамадскія яшчэ не закончаны,— многія забываліся на ўсё гэта і пачыналі адно толькі выхваляцца поспехамі.

Адзін брыгадзір выступіў і, не ўспамінаючы нават пра работу брыгады, пачаў сыпаць словамі на халасты ход: «Таварышы, мы дабіліся ў гэтым годзе вялікіх дасягненняў! А чаму мы дабіліся гэтых дасягненняў? А таму, што дзякуючы кіраўніцтву...»

Якаў Радзівонавіч не вытрымаў, устаў і перапыніў яго прамову.

— Чакай... Ты адно хвалішся дасягненнямі, толькі іх ты бачыш. А ты не бачыш, што яшчэ нам трэба зрабіць. Гэта азначае, што твой погляд толькі назад скіраваны. А трэба, брат, наперад глядзець! Нашае ўсё наперадзе. Бо калі будзем толькі любавацца зробленым, за гэта жыццё і пакараць можа.

Якаў Радзівонавіч памаўчаў, пераступіў з нагі на нагу.

— Гэта з намі, аднойчы не даходзячы Кантэміраўкі, так было... Гналі, гналі мы ворага дзён тры без перадыху. Патаміліся, галодныя — кухні нашы недзе адсталі. Зайшлі ў лясок, і тут камандзір падаў нам каманду адпачыць. Размясціліся мы ў поўнай смеласці, хоць і патомленыя, а смяёмся, жартамі перакідваемся. Немец жа, думаем мы сабе, дзе — падрапаў шляхам! Толькі гэта мы разуліся, у кацялках вар гатуем — і раптам та-та-та, кулямёт аднекуль як секане! А за ім, аж бярэзнік разлёгся, снарад адзін — гах! другі — гах! Вось табе і адпачылі — давай разбягацца па лесе. Аказваецца, фашысты заслон пакінулі, а тыя не прамахнуліся — заўважылі, што мы тут, як паны, размясціліся, і пахрысцілі нас крыху. Аж чатырох байцоў мы тут згубілі. Вось да чаго заспакоенасць наша прывяла...

Кажуць, што аднойчы, выслухаўшы чарговае апавяданне Якава Радзівонавіча пра вайну, нехта яму запярэчыў:

— І чаму вы, Якаў Радзівонавіч, усё расказваеце прыклады з вайны? Вайна — гэта адно, а цяпер жа зусім іншае, цяпер мірны час.

Франтавік ажно ўстрапянуўся ўвесь, павярнуўся ўсёй постаццю да таго, хто яму пярэчыў.

— Сам ведаю, што іншае. Але ты дайдзі галавой — у вайне мы перамаглі? Перамаглі! То гэта, на маю думку, азначае, што ёсць нам чаму ў франтавікоў павучыцца, вопыт сякі-такі ў іх пераняць. Зразумеў?..

Тыя, каму выпадала асабіста пазнаёміцца з Якавам Радзівонавічам, многа бралі ад гэтага знаёмства. Хто ведаў яго блізка, вельмі хутка пераконваўся, што нездарма гэтага цікавага чалавека ўсе ў адно слова называлі такім пачэсным іменем — Франтавік, як быццам гэта было яго ўласнае імя. Пераконваліся таксама і ў тым, што недарэмна так шырока ішла пра яго добрая слава.

1946

## ВЕСНАВЫМІ ДНЯМІ

Кастусь Рудакоў ціха, стараючыся нікога ў хаце не разбудзіць, прайшоў пакой гаспадароў і асцярожна зачыніў за сабою дзверы бакоўкі. Увесь неяк адразу абмякшы, аслабеўшы, ён павольным рухам зняў з плячэй і павесіў на цвік кажушок, які апрануў паўзверх спяцоўкі. Зморанаю хадою падышоў да стала і, намацаўшы ў кішэні запалкі, запаліў лямпу. Паглядзеў на ходзікі, што роўна цікалі на сцяне,— ноч, адзінаццаць гадзін. Памалу азірнуў свой пакойчык — мілая бабка Насця, якая яна добрая і ўважлівая! Як чысценька яна прыбрала і дагледзела яго халасцяцкае жыллё. Ложак акуратна засцелены, падлога вымыта, беленькія фіранкі завешаны. На стале стаіць гладышык са свежым малаком, ляжыць на талерцы халоднае тушонае мяса, хлеб, салёныя агуркі, усё гэта прыкрыта чыстым ручніком. Каля парога, на табурэце,— міска з вадою, мыла.

Кастусь паглядзеў на свае чорныя, выпэцканыя ў мазуту рукі. Быў нейкі момант, калі яму хацелася не дакра-

нацца ні да вады, ні да вячэры, а так, як стаіць, у спяцоўцы, у ботах, заваліцца на свой нізенькі жалезны ложак і спаць, спаць... Гэта ж не жарты — дваццаць гадзін (дзве змены падрад!) прасядзець за рычагамі трактара з пяцікорпусным плугам. Не ўсякі трактарыст здолеў бы вытрымаць такое. Але Кастусь ведаў свой абавязак у гарачыя дзянькі вясны. Ён разумеў, што навасёлкаўцы сваім цяглом не паднялі б і палавіны запушчанага і неаранага вось ужо шостую вясну рудняyскага поля. У полі яго сілы падтрымлівала адчуванне, што ён робіць нешта важнае і вялікае, што за яго працай з удзячнасцю і хваляваннем сачыў увесь калгас і сам старшыня, Трахім Пятровіч.

Гэты яго прыўзняты душэўны стан нейкай сваёй далёкай старанoй нагадваў яму часы партызанства, калі яму з сябрамі, бывала, стомленаму, галоднаму, па трое сутак даводзілася прабірацца паміж варожых гарнізонаў у пошуках зручнага месца на чыгунцы, каб спусціць пад адхон варожы поезд...

Толькі часам, калі апаўдні прыгравала вясенняе сонца і цёплы ветрык лагодна лашчыў зморaную галаву, жаданне спаць рабілася неадольным, грукат матора як быццам цішэў і аддаляўся. Рэзкім якім-небудзь рухам ён адганяў ад сябе сон і дабіваўся таго, што матор у поўную сілу зноў грукацеў.

Ён не выпусціў з рук рычагоў, пакуль не даараў руднянскага поля. Заўтра ўранні на трактар сядзе яго напарнік, Сеня Махаты, вясёлы і працавіты хлапчына.

І вось цяпер, калі ён ужо дома і мае права на працяглы адпачынак, ён разам адчуў усю накопленую за дваццаць гадзін стому. Яна навалілася на яго, як нешта да такой ступені адчувальнае, што, здавалася, ён чуў, як гудуць налітыя зморанасцю рукі і галава.

Але ён перамог тое сваё імгненнае жаданне — адразу заваліцца спаць. Ён распрануўся да пояса, памыўся і доўга з асалодаю расціраў халоднаю вадою сваё мускулістае цела. Памыўшыся, адчуў, як прыкметна пасвяжэла галава, адступілася некуды неадчэпнае жаданне спаць. Яму было прыемна адчуваць, што ён споўніў слова, якое даў калгаснікам і Трахіму Пятровічу,— за суткі ўзараў руднянскае поле. І цяпер у яго наперадзе трыццаць шэсць гадзін адпачынку — ноч, дзень і яшчэ цэлая доўгая ноч!

Кастусь падышоў да стала, каб выпіць шклянку малака. На стале ён убачыў паперку, на ражку якой, мусіць, знарок, каб прыцягнуць яго ўвагу, была пастаўлена шклянка.

Ён паднёс паперку да святла — тэлеграма. «Рудакову Кастусю. Прыехала праведаць хворую сястру. Калі зможаш быць у нядзелю, ты яшчэ застанеш мяне. Белая».

Кастусь уздрыгнуў ад нечаканасці: Ксеня ў горадзе! Захварэла яе сястра. Можа, Ксеня нават мае якую патрэбу ў яго дапамозе? Любая, родная Ксеня! Каб ярчэй усплылі перад ім успаміны, яна падпісала тэлеграму сваім партызанскім імем «Белая». Так звалі ўсе ў атрадзе баявую партызанскую медсястру, Ксеню Палявую, якая цяпер была Кастусёвай нявестай. Паўгода мінула з часу, як ён праводзіў яе на вучобу ў Мінск, у медыцынскі інстытут. Яе пісьмы асвятлялі дні Кастуся радасцю, скрашвалі доўгія дні расстання. І Ксеня цяпер была так блізка ад яго, у горадзе, у сястры.

Разгублены Кастусь нерухома стаяў каля стала. Ён забыўся і пра сон і пра стому. Думкі адна за адной роіліся ў яго галаве, і ён, не адрываючыся, паглядаў на спісаны буйным почыркам лісток паперы, паступова асэнсоўваючы радасную навіну.

Вясна шуганула цёплым ветрам у расчыненую фортку, і святло ў лямпе спалохана захісталася. Заўтра нядзеля, і заўтра ў Кастуся выхадны дзень — як шчасліва ўсё супала! Ён яшчэ застане Ксеню ў горадзе. Раніцою, ледзь займецца на дзень, ён наўпрост праз лес пойдзе ў МТС, папросіць у старога Кузьміча, іхняга старшага механіка, матацыкл і а дзесятай гадзіне раніцы ўжо будзе ў горадзе. Не можа быць, каб стары Кузьміч адмовіў яму даць машыну. У крайнасці Кастусь прызнаецца механіку, для чаго яму так пільна трэба быць у горадзе, і сэрца старога не ўстоіць, размякне...

«Спаць, спаць! Павячэраць і спаць. Каб добра адпачнуць і не спазніцца заўтра ўстаць»,— вырашыў Кастусь і, наспех павячэраўшы, кінуўся на ложак.

Лёг і ў той жа міг, быццам некуды праваліўся, адразу заснуў моцным, глыбокім сном здаровага, стомленага працай чалавека...

Пачало ўжо днець, калі нехта ціха пастукаў у акно Кастусёвага пакойчыка. Кастусь прахапіўся — за акном стаяў шэры паўзмрок: ці не заспаў ён, каб бегчы да старога Кузьміча? Хто гэта разбудзіў яго?.. З двара нясмела пастукалі другі раз. Кастусь падышоў да акна і адхіліў фіранку. Ён павінен быў добра ўглядзецца, каб пазнаць у ранішняй шэрані невысокую постаць Трахіма Пятровіча, у брызентавіку, з вострым верхам капюшона на галаве.

— Адчыні, Косця,— ціха сказаў Трахім Пятровіч.

Кастусь накінуў на плечы паліто і выйшаў у сенцы. Абодва моўчкі ўвайшлі ў хату. Пакуль Кастусь запальваў святло, Трахім Пятровіч чакаў, стоячы каля парога. Як заўсёды, за некалькі крокаў было чуваць яго шумнае дыханне — вынік цяжкага ранення ў лёгкія на вайне. Калі полымя свечкі асвятліла пакойчык, Трахім Пятровіч падышоў да стала. Ва ўсёй яго постаці, у рухах адчувалася нейкая нялоўкасць, быццам ён быў нечым вінаваты перад Кастусём. Ён адклаў капюшон, ціха, у кулак, пракашляўся. Няясная трывога стукнула ў сэрца Кастуся.

— Сядайце, дзядзька Трахім,— прамовіў ён, падстаўляючы зэдлік.— З чым вы да мяне прыйшлі?

Трахім Пятровіч, шумна ўздыхнуўшы, сеў.

— Дзякаваць табе, Косця, за Рудиянку... ад мяне і ад усіх калгаснікаў.

Кастусь уздрыгнуў — значыць, нічога такога не здарылася, значыць, дзядзька Трахім проста прыйшоў падзякаваць яму за сумленную працу... Не, нешта не так, адразу ж падумаў ён, дзеля таго толькі, каб падзякаваць, не будзіў бы яго старшыня ў такую рань, ды і сам, бадай, яшчэ адпачываў бы.

— Ведаеш, Косця, Сеня Махаты захварэў.

— Захварэў Сеня? — усхвалявана перапытаў Кастусь.— Што з ім?

— Пэўна, грып, ляжыць гарачы. Я доктара загадаў прывезці... Чакай, брат, чакай,— падняў руку Трахім Пятровіч, хоць Кастусь і не думаў яго перапыняць.— Ты толькі не крыўдуй. Я ведаю, што ты стаміўся і што табе трэба адпачыць. Але... вясенні дзень год корміць. Вясна на вачах сушыць поле, коней мала... Трактар стаіць, а Ягаднае ў нас не кранута нават. А мы там запланавалі пасеяць ранняй сяўбой ячмень. Уся наша стаўка на тое, каб зрабіць гэта хутчэй. І адна ў нас надзея — на цябе. Не ўхопім цяпер — не дагонім...

Трахім Пятровіч замоўк, чулася толькі яго шумнае дыханне. Ледзь стрымліваючы хваляванне, маўчаў і Кастусь. Што ж гэта... што ж гэта атрымліваецца? Атрымліваецца, што яму, нават не адпачыўшы як след, зноў трэба апранаць спяцоўку, ісці да трактара. А Ксеня? Ён так і не ўбачыць яе? Заўтра яна паедзе, і хто ведае, калі яны зноў сустрэнуцца. Акрамя таго, магчыма, Ксені патрэбна яго дапамога. Ён разумее, як важна хутчэй узараць і засеяць поле, але ж дзень туды, дзень сюды — ці гэта мае такое

ўжо вялікае значэнне? Ён пабачыцца з Ксеняй, а тады будзе працаваць хоць тры, хоць пяць змен падрад.

Кастусь устаў. Каб дзядзька Трахім ведаў, якая тэлеграма атрымана ўчора! Кастусь зараз пакажа яе і растлумачыць усё.

Ён падышоў да стала, узяў у рукі тэлеграму. Зноў прабег позіркам вывучаны на памяць тэкст.

— Дзядзька Трахім...— дрыжачым голасам пачаў Кастусь.

— Косця,— перапыніў яго Трахім Пятровіч,— ты падніміся вышэй. Ты падумай, у які час мы жывём, якая вялікая вясна прыйшла на нашу бацькаўшчыну і як нам трэба цяпер працаваць. Вельмі нам важна як найхутчэй засеяць той ячмень. Ты падумай пра гэта...

Кастусь прыціх. На сухім абветраным яго твары рэзка пралеглі дробныя маршчынкі. Трахім Пятровіч толькі цяпер заўважыў, чаго каштавалі Кастусю бяззменныя суткі на трактары. Нерухома ўтаропіўшыся позіркам перад сабой, Кастусь стаяў і маўчаў... Ну так, Трахім Пятровіч быў правы. Раптам перад Кастусёвым позіркам паўстала ўся яго, ад краю да краю, савецкая Радзіма, ён пачуў разам грукат крочачых экскаватараў у Данскіх стэпах і шум матораў у цэхах Мінскага трактарнага, лёгкае трапятанне лісточкаў на маладых дубах крымскіх лесапалос і шум вады на Прыпяці, якая несла на сабе плыты вялікім будоўлям. І Кастусь раптам з незвычайнай яснасцю адчуў сваё месца ў гэтым аграмадным працоўным страі... Так, трактар не павінен прастойваць. Вялікая вясна прыйшла на калгасныя палеткі, і Кастусь, як і ў гады вялікіх выпрабаванняў, не падвядзе. Ягаднае павінна быць узарана ў вызначаны час.

Кастусь павольна склаў тэлеграму ўдвая, затым учэцвера.

— Я апрануся і прыйду,— ціха прамовіў Кастусь.— Толькі дайце мне другога прычэпшчыка, Уладзік ужо з сіл выбіўся.

— Прыставім другога,— адразу згадзіўся Трахім Пятровіч і, шумна дыхаючы, падняўся.— То я пайду.

Кастусь праводзіў Трахіма Пятровіча, вярнуўся ў хату і, не гасячы святла, прылёг на ложак.

Так, закінуўшы пад галаву рукі, ён ляжаў нерухома і думаў, можа, дзесяць хвілін, а можа, паўгадзіны, аж пакуль не прачнуліся ў суседнім пакоі. Стала чуваць, як пачала тупаць па хаце бабка Насця, якая заўсёды прачына-

лася раней за ўсіх. Тады Кастусь разам падхапіўся і пачаў паспешліва апранацца.

Можна было падумаць, што тыя хвіліны нерухомага ляжання з адкрытымі вачыма надалі яму новых сіл.

Пакуль ён умываўся, бабка Насця паставіла на стол гарачы сняданак.

— Што ж рабіць, сынок,— вясна,— паспачувала яна Кастусю, прысеўшы побач на зэдліку, пакуль ён еў.— Адсеемся, тады ўжо адпачнеш як мае быць, адпачнеш... Усё будзе добра!

«А Ксеня?» — хацеў ён спытаць у бабкі, але ўспомніў, што старая нічога не ведала пра яго смутак, і прамаўчаў.— Напішу ёй і ўсё растлумачу. Ксеня зразумее, і праўда — усё будзе добра!..

* * *

Кастусь сеў за рычагі, плаўна ўключыў хуткасць. Пяць лемяхоў урэзаліся ў цаліну, і ззаду паплыла чорная шырокая паласа свежаўзаранай раллі. Прыляцеўшае да трактара вараннё з крыкам апусцілася на ворыва жыраваць. Ралля правала пад промнямі красавіцкага сонца, і адусюль — з поля, з рэчкі, з лесу — плылі да Кастуся непаўторныя пахі вясны, ажываючай прыроды.

Кастусю прыемна было, што вецер упарта біў яго ў грудзі і твар, а яму не баліць і не холадна, а толькі шлакотна; прыемна было чуць роўны гул свайго трактара, падуладнага любому руху яго рукі; азірацца і бачыць, як роўна кладуцца адна ля адной чорныя скібы, шырыцца і расце паласа раллі; бачыць вакол буйны поступ вясны — у першай зеляніне на сонечных узгорках, у набрынялых почках на бязлістых галінах дрэў, у вільготных подыхах ажываючага поля.

А Трахім Пятровіч, стоячы на краі поля, здалёк глядзеў на Кастуся і ціхенька пакалыхваў галавой:

— Добры ты хлопец, Кастусь. На такіх, як ты, Радзіма смела можа спадзявацца і ў мірныя дні і ў часы любое навальніцы...

1948

## СКЛАДАНЫ ВУЗЕЛ

Яшчэ за акном праплывалі розныя станцыённыя пабудовы — дэпо, вадакачка, склады, і цягнік толькі пачаў набіраць разгон, як у суседнім купэ пачуўся ўжо вясёлы мужчынскі голас:

— Ану, налятай, ахвотнічкі, у даміно...

Гэта быў, відаць, гуляка з той катэгорыі пасажыраў, якія, сеўшы ў цягнік, не ведаюць ніякай іншай забавы, чым карты або даміно. Для іх не існуе ні прыгожых пейзажаў за вагонным акном, ні цікавай кнігі або газеты, ні суседзяў-пасажыраў, з якімі можна бывае распачаць такую гутарку, што і не прыкмеціш, як праскочыць самая доўгая дарога. Паклаўшы на састаўленыя калені чамадан, яны будуць бясконца стукаць костачкамі і дыміць цыгаркамі, перапыняючы гульню толькі для таго, каб дзенебудзь на супынку выбегчы на перон за бутэрбродам або за пачкам папярос.

На бадзёры заклік гулякі адразу ж знайшоўся водгук. З нашага купэ на голас рынуліся аж двое. Для большай пэўнасці яны нават захапілі з сабой свае чамаданчыкі, як відаць, маючы на мэце асталявацца там грунтоўна і надоўга. А на іх месца, выціснутыя гулякамі, у наша купэ перабраліся дзве жанчыны. І так атрымалася, што за выключэннем мяне ды яшчэ маўклівага насупленага дзядзькі ў капелюшы, які, сеўшы, адразу ж пачаў чытаць газету, у купэ сабраліся ўсе жанчыны.

З тых жанчын, якія перабраліся да нас, адна была, як відаць, студэнтка, маладая, з усыпанымі вяснянкамі круглым, але прыгожым тварам, з маленькім роўным носікам, быстрая і рэзкая ў рухах. Другая — жанчына год пад трыццаць з універсітэцкім значком на грудзях, стройная, чарнявая, з мяккімі і прыемнымі рысамі твару і прыгожымі цёмнымі вачыма. Уладаваўшы на паліцы свае рэчы, яна прыстроілася ў самым кутку, каля акна, насупроць таго маўклівага дзядзькі ў капелюшы, што чытаў газету.

Да часу, калі скончылася ўся гэтая турбацыя, цягнік ужо выскачыў на шырокі палявы прастор, і за вокнамі паплылі палеткі, пакрытыя зялёным аксамітам веснавой руні, лясы і пералескі, налітыя першымі сокамі вясны і толькі што апранутыя ў зеляніну першай маладой ліствы, паўнаводныя, шырока разлітыя рэчкі.

Студэнтка, абапёршыся рукамі на столік, не адрываючыся, у захапленні паглядала ў акно.

— У полі ўжо сапраўдная вясна,— заўважыла яна, ні да кога, уласна, не звяртаючыся.— Во, ужо і трактар выйшаў, і плугары выехалі... А варання колькі!

Тут уставіў сваё слова мужчына ў капелюшы, які, як выявілася, зусім не быў такі маўклівы і пануры, як здавалася на першы погляд.

— Вясна, каханне,— у тон дзяўчыне, з усмешкай сказаў ён, па-ранейшаму трымаючы перад сабою разгорнутую газету.

Студэнтка ўся ўспыхнула, пачырванела, але, перамагаючы сваю збянтэжанасць, сказала:

— Пры чым тут каханне?.. Я ж кажу пра вясну.

— Якое там каханне! — неяк рэзка і нечакана абазвалася на гаворку сухатварая сярэдніх год жанчына з кашолкай на каленях.— Няма цяпер ніякага кахання. Жэняцца, разыходзяцца, зноў жэняцца і разыходзяцца...

— Ой, і чаму вы так гаворыце? Гэта ж няпраўда,— засупярэчыла студэнтка, яшчэ больш загарэўшыся ад сорама, што ёй, самай маладзейшай у купэ, прыходзіцца адстойваць праўду пра каханне.

— А чаму ж няпраўда? — рэзка павярнулася да яе сухатварая жанчына.— І вельмі нават праўда.

І яна тут жа расказала гісторыю пра аднаго вядомага ёй мужчыну, які за два гады «змяніў чатыры жонкі».

— Ну,— выслухаўшы яе, адпарыравала ёй студэнтка,— гэты ваш мужчына проста распуснік і жулік, і за свае паводзіны ён яшчэ panясе пакаранне. А каханне — ёсць, без яго... без яго...

Студэнтка канчаткова збянтэжылася і замоўкла. Мужчына ў капелюшы, весела пасміхаючыся, слухаў гэтую спрэчку і, паглядваючы з-за газеты, час ад часу падміргаваў жанчыне з універсітэцкім значком на грудзях.

— А вось мая суседка,— мужчына хітравата паглядзеў на чарнявую жанчыну,— я ўпэўнены, мае сваю, асаблівую думку аб гэтым? Праўда?

Чарнявая жанчына ўсміхнулася.

— Хочаце і мяне ўцягнуць у спрэчку? — прыветна сказала яна і рухам галавы адкінула звісаўшы на лоб завіток чорных валасоў.— Вядома, маю... Толькі мая думка ніякая не асаблівая. Я проста не згодна з вамі, вось і ўсё,— сказала яна жанчыне з кашолкай на руках.— Вядома, бываюць у жыцці і вельмі складаныя вузлы... Я вось на коль-

кі дзён еду ў госці да сваёй сяброўкі, настаўніцы. З ёю такое адбылося, што...

Тут усе, у тым ліку і мужчына з газетай у руках, і сухатварая жанчына, і студэнтка, зацікаўленыя яе словамі, пачалі прасіць, каб яна расказала гісторыю той настаўніцы. Чарнявая жанчына спачатку адмаўлялася, але пасля дружнага націску ўсіх прысутных саступіла і пачала расказваць.

— Маю сяброўку завуць... ну, я не буду называць яе сапраўднае імя, няхай яна будзе звацца Наташай. Яшчэ займаючыся ў тэхнікуме, яна пазнаёмілася неяк з адным студэнтам апошняга курса сельскагаспадарчага тэхнікума. Звалі яго Анатоль. Гэта быў выдатнік вучобы, вясёлы і шчыры хлапец, і да таго ж прыгожы, высокі, стройны, з светлымі кучаравымі валасамі. Не мінула і месяца пасля іх знаёмства, як яны ўжо так закахаліся, што не маглі адзін без другога жыць. Яны сустракаліся амаль штодня і заўсёды былі такія шчаслівыя, што нам, сяброўкам, аж зайздросна было на іх глядзець. Калі ў Анатоля не было часу доўга быць у нас, то ён хоць на тры хвілінкі заскокваў у інтэрнат параведаць Наташу.

Па сканчэнні тэхнікума Анатоля накіравалі працаваць на яго радзіму, Бабруйшчыну, аграномам у вёску Крышычы. Год яны з Наташай былі ў разлуцы, і гэты год паказаў, што іх каханне сапраўднае і вялікае, бо разлука не толькі не затушыла яго, а яшчэ больш распаліла.

Наташы пашчаслівіла: калі нас, скончыўшых педагагічны тэхнікум, размяркоўвалі па раёнах, у аддзеле народнай асветы ўлічылі яе просьбу і накіравалі на працу ў тыя ж самыя Крышычы, дзе працаваў і Анатоль. Ну, вядома, як толькі Наташа прыехала ў вёску, яны адразу ж пажаніліся. Але мне выпала іх параведаць толькі праз год, калі ў іх ужо нарадзілася дачка. Скажу проста — шчаслівая была гэта сям'я. Жылі яны дружна, зладжана, адзін аднаго разумелі з паўслова і верылі адзін аднаму. Наташа працавала ў школе, а яе маці дапамагала гадаваць маленькую Галінку. Анатоль у той час быў пераведзены на працу ў МТС і займаўся асушкай балот. Работы ў яго было вельмі многа, але ўвесь свой вольны час ён цалкам аддаваў сям'і. Ён любіў забаўляцца з Галінкай, насіў яе на руках да рэчкі. У выхадныя дні ездзіў з Наташай у горад, наведваў кіно, тэатр.

Так мінула тры гады. І раптам мірнае і шчаслівае жыццё сям'і было абарвана. Сорак першы год. Анатоль, з'яў-

ляючыся лейтэнантам запасу, быў адразу ж мабілізаваны ў армію. У сваіх некалькіх пісьмах, якія ён паспеў напісаць Наташы з часці, ён настойваў, каб яна як найхутчэй эвакуіравалася ў глыбокі тыл. А Наташа і сама ўжо збіралася ехаць. Хутка яна разам з Галінкай і маці выехала на ўсход, у глыб краіны.

Яны спыніліся за Волгай, непадалёк ад Саратава. Там яна пачала працаваць спачатку рахункаводам у калгасе, а праз кароткі час па сваёй спецыяльнасці — настаўніцай. Хутка праз цэнтральнае бюро па росшуку эвакуіраваных Анатоль даведаўся яе адрас, і яны наладзілі пісьмовую сувязь. Кожны атрыманы ад Анатоля ліст асвятляў вялікай радасцю дні Наташы. Трэба сказаць, што гэта былі не лёгкія дні — ёй даводзілася многа працаваць і ў школе і ў калгасе, даводзілася перажываць і матэрыяльныя цяжкасці.

Але ўсё гэта было б нішто, калі б у сорак другім годзе Наташы не давялося знесці адзін за адным два цяжкія ўдары. Вясною, захварэўшы на запаленне лёгкіх, памерла яе старэнькая маці. А ўвосень... увосень паштальён прынёс ёй пісьмо, што ў баях за Керч забіты яе Анатоль. Не паранены і не загінуў без вестак, а забіты...

Гэтае гора звалілася нечакана, і яно ледзь не зламала Наташу. Першыя тыдні яна і працавала і жыла як бы ў сне, засмучоная, маўклівая, не праяўляючы ні да чаго ніякай цікавасці. Дапамаглі ёй вычуняць ад гэтага цяжкога смутку сябры па рабоце. Яны акружылі Наташу ўвагай, прыходзілі да яе, уцягнулі ў грамадскую работу. А яшчэ, што вярнула яе інтарэс да жыцця,— клопаты пра дачку Галю, якой яна цяпер аддавала ўсе свае сілы. Праз некалькі месяцаў Наташа спісалася з адной сваёй добрай знаёмай, нават нейкай далёкай сваячкай, якая пражывала ў Вольскім раёне той жа Саратаўскай вобласці, і, калі скончыўся навучальны год, пераехала да гэтай сваячкі.

Час ад часу, усё яшчэ захоўваючы іскарку надзеі, што смерць Анатоля — непаразуменне, яна пісала лісты то ў часць, то ў штаб Вярхоўнага камандавання з запросамі пра мужа. Але адказ адусюль быў адзін і той жа — Анатоль забіты. Яна пасылала пісьмы на месца свайго ранейшага жыхарства, у Краснаярскі раён,— можа, туды дайшла якая вестачка пра яго. Але і адтуль кожны раз адказы былі бязрадасныя.

Так мінуў год і яшчэ паўгода. Савецкая Армія пачала вызваляць нашу рацзіму. Крок за крокам вызвалялася ад

ворага і наша Беларусь. Увосень 1944 года Наташа, атрымаўшы выклік абласнога аддзела народнай асветы, вярнулася з эвакуацыі на сваё старое месца працы, у Крышычы. Былое памяшканне школы тут было спалена фашыстамі, маёмасць разграблена. Школу прыйшлося арганізоўваць на голым месцы. Розных клапот і працы было столькі, што ўвечары Наташа амаль знясіленая валілася ў ложак. Але праца не палохала яе, паадварот, яна сама шукала працы і знарок стамлялася, каб не падпасці пад уладу цяжкіх думак.

Але час ішоў, а ён, як вядома, найлепшы лекар у такіх справах. І рана Наташы паступова загойвалася. Скончылася вайна. Наташа нейк уся акрыяла, прымірылася з лёсам і, калі не лічыць дробных зморшчынак каля вачэй ды яшчэ выразу нейкай заўчаснай сталасці, які прыкметна лёг на твары, ніякіх іншых знакаў перанесенага гора ў яе нельга было заўважыць.

А яшчэ праз паўгода я даведалася, што Наташа выйшла замуж. Мужам яе стаў нехта Андрэй Будоўскі, сябра па рабоце, дырэктар школы. Па ацэнцы ўсіх, ад каго я чула пра яго, чалавек гэта быў вельмі станоўчы, разумны, чулы і ўважлівы да людзей. У арміі ён уступіў у партыю, быў многа разоў узнагароджаны. Не ведаю, ці адказвала яму Наташа такім жа шчырым пачуццём, але ён пакахаў яе вельмі моцна. У тым, што яны пажаніліся, вялікае значэнне, мусіць, мела і тое, што Андрэй вельмі ж шчыра, пасяброўску і разам з тым, як самы клапатлівы бацька, адносіўся да Наташынай дачкі Галінкі, якой к таму часу было ўжо сем гадоў. Прынамсі, калі Наташа пісала мне пісьмо пра сваё другое замужжа, яна многа разоў падкрэслівала, што Андрэй крануў і расчуліў яе сваімі цёплымі і шчырымі адносінамі да яе дачкі.

Новае жыццё Наташы ішло роўна, спакойна. З цягам часу яна з радасцю пераканалася, што не памылілася ў сваім новым мужу, што ён будзе добрым сябрам у жыцці і заменіць бацьку Галінцы.

Толькі часамі, рэдка-рэдка, у іх адбываліся невялікія спрэчкі. Гэта нават былі не спрэчкі, а нешта іншае. Моцна палюбіўшы Наташу, Андрэй часамі пачынаў раўнаваць яе да Анатоля. Справа ў тым, што Наташа яшчэ да замужжа выгаварыла сабе права павесіць на сцяне партрэт Анатоля і часта ўспаміпала яго, забываючы, што такія ўспаміны для Андрэя балючыя. Між іншым, ад Галінкі яна не хавала праўды, яна ёй проста сказала, што першы яе бацька

загінуў у баях з фашыстамі, а папа Андрэй — яе айчым. Андрэй, чалавек разумны і разважлівы, дараваў ёй усё гэта, але часамі ўсё ж успыхваў у кароткім прыпадку рэўнасці.

Аднойчы ён нават паставіў перад Наташай такое пытанне, хаця сам адчуваў яго бестактоўнасць: калі б здарыўся цуд і раптам Анатоль аказаўся жывым, з кім бы працягвала яна жыць, з ім ці з Анатолем? Наташа, абняўшы яго за плечы, упрошвала не задаваць ёй такіх складаных пытанняў. Яна пазбягала думаць пра гэта...

Чарнявая жанчына некаторы час маўчала, задумёна паглядваючы ў акно вагона, за якім адзін за адным мільгалі тэлеграфныя слупы, прабягалі лясы і пералескі. Потым яна павярнулася зноў да сваіх суседзяў і працягвала расказ.

— Але акурат так выпала, што жыццё паўтарыла пытанне Андрэя. Вясною сорак шостага года ў Крышычы раптам прыехаў «забіты» Анатоль. Як выявілася, ён сапраўды ў адным баі быў цяжка паранены і памылкова залічаны ў забітыя. Ён быў падабраны санітарамі суседняй часці і доўга лячыўся ў глыбокім тыле. Затым Анатоль выконваў адно небяспечнае ўрадавае заданне, быў паранены ў другі раз і часова не меў магчымасці перапісвацца. Пазней ён пісаў пісьмы на Краснаярск, але яны вярталіся назад. Ён згубіў яе след і толькі праз тры гады нечакана вярнуўся.

Увечары ён зайшоў у хату, дзе жылі Андрэй з Наташай. Гэта былі вельмі цяжкія хвіліны для ўсіх траіх. Адзін рукаў Анатоля быў пусты, заткнуты за пояс. Ён многа змяніўся за вайну, пастарэў. Вялікі боль ад таго, што здарылася, скажаў пакутай яго твар, і яго нават цяжка было пазнаць. Але Наташа, вядома, пазнала яго адразу. Андрэй, глянуўшы на пабляднелы Наташын твар, на якім імгненна адлюстраваліся і вялікая радасць, і збянтэжанасць, і спалох, таксама адразу здагадаўся, хто перад ім.

— Толя!..— не маючы сіл нават скрануцца з месца, выгукнула Наташа. Многа чаго хацела ўкласці ў гэты кароткі выгук Наташа. Яна хацела б сказаць, як яна чакала Анатоля з вайны, як моцна яна яго любіла і як доўга не верыла ў яго смерць, а потым усё ж паверыла, выйшла замуж, і што ні ў чым не вінаваты яе новы сябра Андрэй. Хацела сказаць многае, а здолела толькі зноў паўтарыць: — Толя!

Але Анатоль нерухома стаяў каля парога і, нахмура-

ны, суровы, моўчкі пазіраў на іх. У яго поглядзе не было гневу, а толькі свяціўся глыбокі смутак і боль.

— Толя, даруй мне, даруй! — са слязьмі ў голасе раптам закрычала Наташа і кінулася да Анатоля. Але той рашучым рухам сваёй здаровай правай рукі спыніў яе і рэзкім, асіплым ад хвалявання голасам сказаў:

— Чакай...

І ён, як бы не прыкмячаючы Наташы, ва ўпор пагля-дзеў на Андрэя. Андрэй, які дагэтуль сядзеў на канапе, адразу ўстаў. Ён быў увесь бледны ад хвалявання.

— Бачыш, Наташа,— цяжка сказаў ён,— ты адмаўлялася адказаць мне на маё пытанне. Цяпер само жыццё паўтарыла яго. Нам усім траім было б лягчэй, калі б ты адказала мне тады, а не цяпер. Бывай! — Андрэй нізка схіліў галаву і шэптам дадаў: — Бывай, любая Наташа.

Потым ён выпрастаўся і паглядзеў на Анатоля.

— Перад вамі яна ні ў чым не вінаватая, і вы сапраўды павінны дараваць ёй...

Андрэй пайшоў. Наташа і Анатоль засталіся ўдваіх. Сурова сцяўшы губы, Анатоль, глыбока задуманы, стаяў і маўчаў, не пазіраючы на Наташу. Так цягнулася, можа, некалькі доўгіх хвілін, і Наташа не вытрымала.

— Толя, чаму ты маўчыш? Толя! — у роспачы выгукнула яна.— Гэта непаразуменне. Роўна тры гады таму назад я атрымала паведамленне аб тваёй смерці. Я думала... Але я... Вось яно, вось...— кінулася Наташа да куфэрачка, дзе ляжала паведамленне, як быццам тая даўняя пажаўцелая паперка магла ўсё вырашыць і неяк апраўдаць яе перад ім і прынесці самому Анатолю палёгку.

Але Анатоль нават не глянуў на паперку.

— Дзе наша дачка, Галінка? — адхіліўшы Наташыну руку з паперкай, сурова спытаў ён.

Наташа кінула на стол паперку і паспешна пайшла ў другі пакой.

— Хадзі...

Ён доўга пазіраў на дачку, што спала, непазнавальна вялікую, нейкую і блізкую, і чужую, і слёзы заслалі яму вочы. Потым ён хутка пацалаваў яе і выйшаў зноў у першы пакой.

— Ведаеш, Наташа,— ціхім, але цвёрдым голасам сказаў ён,— я не магу застацца ў цябе... Можа, ты і не вінаватая, але я не здольны зараз дараваць табе, што здарылася. Жыві, як жыла,— так будзе лепш для нас абаіх. Бывай...

— Толя! —заламала ў роспачы рукі Наташа.— Як жа гэта? Я ж цябе так чакала! Гэта непаразуменне...

— Так будзе лепш для нас абаіх,— цвёрда паўтарыў Анатоль і пайшоў...

І вось Наташа засталася зусім адна. Збянтэжаная тым, што адбылося, яна цяпер зноў замкнулася ў сабе, цалкам аддаўшыся працы, выхаванню дачкі...

Праз месяц-паўтара пасля таго здарэння яе аднойчы наведаў Андрэй.

— Калі б вы жылі разам,— сказаў ён Наташы,— я не меў бы ніякага права станавіцца вам на дарозе. Але цяпер, калі Анатоль пакінуў цябе, я хачу зноў прапанаваць табе сваю дружбу і вярнуцца. Ты ж ведаеш, як я люблю цябе...

Але Наташа адмовіла яму. Яна сказала, што пры жывым Анатолю ніколі не выйдзе замуж, хоць яны і не будуць жыць разам. Вось і ўсё...

Чарнявая жанчына замоўкла. Мы ўсе раптам пачулі, як раўнамерна і голасна ляскочуць калёсы цягніка — датуль мы быццам і не чулі іх вясёлага перабору. Студэнтка, якую, відаць, моцна ўсхваляваў лёс тых трох незнаёмых ёй людзей, уся ўстрапянулася.

— Як? І гэта ўсё? Анатоль так і не вярнуўся да Наташы? Вы ж казалі, што яны гэтак любілі адзін аднаго!..

— Вось і ўсё — гэта так сказала тады Наташа Андрэю,— усміхаючыся, працягвала чарнявая жанчына.— А што датычыць Анатоля, то ён, вядома ж, вярнуўся да Наташы. Праўда, мінуў немалы час, мінула больш года пасля той іх першай размовы. Анатоль, як і да вайны, пачаў працаваць аграномам. Ён многа перажываў, бо па-ранейшаму кахаў Наташу, але нешта было такое, што ўтрымлівала яго ад таго, каб адразу ж сысціся з ёю. Я так думаю, што ён чакаў, пакуль утаймуецца яго першы пякучы боль, нанесены гэтым здарэннем.

І вось мінуў час, і ён вярнуўся да яе, я ўпэўнена, назаўсёды. І калі б вы ведалі толькі, як дружна і шчасліва яны цяпер жывуць. Заўтра дзень нараджэння Наташы, і вось я еду да іх у госці.

— Ой, як добра! — выгукнула радасна студэнтка.— І правільна ён зрабіў, што вярнуўся! Во, а вы гаворыце, што няма сапраўднага кахання,— горача звярнулася яна да сухатварай жанчыны з кашолкай на каленях.

— М-да, нічога не скажаш, складаны вузельчык,— ад-

кінуўшыся, задумёна прамовіў дзядзька ў капелюшы, цярэбячы бародку.

— Анатоль і Наташа, вядома ж, шчаслівыя! — горача і безапеляцыйна заявіла студэнтка.— Бо яны любяць адзін аднаго і на іхнім шляху не стаіць ніякіх перашкод да шчасця.

Цягнік стаяў на нейкай невялікай станцыі. Раптам студэнтка падхапілася, падбегла да акна.

— Ой! — выгукнула яна.— Гэта ж мая станцыя! Я пабегла. Бывайце!

Паспешна схапіўшы свае рэчы, яна хуценька пайшла да выхаду. А мы засталіся ў купэ, і кожны з нас мімаволі працягваў думаць пра складаны лёс траіх незнаёмых нам людзей.

Тым часам у суседнім купэ ўсё яшчэ ляскалі і ляскалі костачкамі даміно...

1948

## КІНАСЕАНС
## У ПЕРАРОВЕ

Пераз усю дарогу ад самага райцэнтра аж да Пераpоўскай паваpоткі, дзе машына павінна была звярнуць з шашы на лясную прасёлачную дарогу, Марынка была ў найлепшым настроі. Яна ўвесь час жартавала, многа гаварыла, смяялася. То яна расказвала Цімку Жаўне, шафёру і памочніку па догляду за дынамай, розныя смешныя выпадкі з свайго жыцця, не расказаныя яшчэ за час іх штодзённых сумесных падарожжаў. То раптам, не міргнуўшы вокам, ва ўпор дапытвалася, ці кахаў ён калі-небудзь якую дзяўчыну і каго іменна, хоць, хітруха, добра ведала, каго маўкліва і пакуль што без поспеху кахаў Цімка. То з усёй жорсткасцю маладосці абзывала Цімку «шляпай», а не шафёрам, калі ён, у разгубленасці ад яе пытанняў, часам дзе-небудзь не досыць спрытна абмінаў на дарозе яміну і машыну рэзка падкідала ўгару.

Але калі машына мінула паваротку і да Перарова засталося лічаных пяць-шэсць кіламетраў, Марына неяк прыціхла, задумалася. Знаёмыя з маленства, такія родныя і блізкія палі, лясы і пералескі, што ляжалі паабапал да-

рогі, пафарбаваныя ў мяккія і сумныя восеньскія колеры, разварушылі яе ўспаміны.

Усяго якіх шаснаццаць месяцаў мінула, як Парамон Ігнатавіч, старэйшы настаўнік і дырэктар Перароўскай школы, на ўрачыстым выпускным вечары ўручыў ім пасведчанні аб сканчэнні няпоўнай сярэдняй школы. Колькі розных гаворак, колькі вясёлай і заклапочанай мітусні было тады сярод школьнікаў Перарова! Да таго часу ўсё было так проста — узімку яны хадзілі ў школу, у штогоднай паступовасці з большым ці меншым поспехам пераходзілі з класа ў клас, лета прабягала то ў адпачынку, то ў лёгкай працы ў калгасе, то ў дапамозе бацькам. І вось, як у хуткім сне, нечакана прабегла дзяцінства, і кожнаму з іх прыйшоў час выбіраць далейшую дарогу жыцця. Пачаліся гарачыя спрэчкі, абмеркаванні, куды паступаць вучыцца, дзе працаваць. Трое дзяўчат з іхняга класа вырашылі паступіць у восьмы клас дзесяцігодкі, каб потым пайсці ў інстытуты. Трое хлопцаў, пераросткаў, вучоба якіх была затрымана вайной, па накіраванню райкома камсамола падаліся на Мінскі трактарны, каб там набыць добрую рабочую прафесію. Выдатнікі Толя Шпак і Міша Лагута, лепшыя ў школе натуралісты, вырашылі не адмаўляцца ад прафесіі сваіх бацькоў і дзядоў і падалі заявы на курсы калгасных паляводаў. Камсамолец Уладзік, які ўвесь час захапляўся паўночнымі падарожжамі і назубок ведаў усе экспедыцыі вядомых палярнікаў, раптам здзівіў усіх, падаўшыся на курсы трактарыстаў. Іншыя вырашылі паступіць у медыцынскую школу, іншыя ў педагагічнае вучылішча.

І толькі адна Марынка выбрала сабе тады гэтую клапатлівую і, можна сказаць, хлапцоўскую прафесію — механік сельскай гукавой кінаперасоўкі. Хто ведаў неспакойны, схільны да прыгод характар Марынкі, каму вядомы былі яе дзіцячыя мары, таго не здзівіў яе выбар. Але многім такое яе рашэнне паказалася недарэчным. Колькі яе ні адгаварвалі бацькі, сяброўкі, яна стаяла на сваім — будзе вучыцца на кінамеханіка, і ўсё. Няхай, казала яна, гэта была не якая-небудзь гераічная прафесія лётчыка-знішчальніка або палярніка, няхай, урэшце, гэта не пачэсная работа доктара або настаўніка, але паказваць у калгасах кіно таксама важная і патрэбная справа, можа, нават не менш важная за іншыя. Бацька Марынкі, калі пераканаўся, што не дапамагаюць яго ўгаворы, нават лаяўся на яе, даводзіў, што не пад сілу будзе ёй справа, якая, па яго

думцы, патрабавала хлапцоўскіх рук, і ўпрашаў не ўводзіць на старасці бацьку ў сорам.

Але дзе там тое было, каб Марынка, нешта цвёрда вырашыўшы, паслухала бацьку, тым больш што, чэсна кажучы, праўда была не на яго баку. Памятаецца, бацька тады моцна пакрыўдзіўся на яе. Словы, якія ён кінуў некалі дачцэ на развітанне, і цяпер яшчэ ярка стаялі ў памяці Марынкі:

— Ну што ж, едзь. Толькі ж забудзь і дарогу ў Пераpoў, калі як-небудзь праскочыш у механікі — у нашым сяле партачоў не любяць. А які ж кінамеханік з бабы...

— Усё роўна паеду,— запальчыва кінула тады бацьку Марынка.— А вывучуся, на злосць вам і ў Перароў з карцінай прыеду.

І вось усё збылося, як яна думала і казала. Каля года правучылася Марынка на курсах кінамеханікаў, на «выдатна» скончыла іх і атрымала накіраванне на Палессе — у родны раён. А цяпер вось прыйшло і тое, што яна едзе з кінаперасоўкай у родную вёску, у Перароў. У яе было такое адчуванне, быццам яна павінна была вытрымаць нейкі экзамен перад сваім сялом, перад бацькамі. Марынка добра ведала сваю справу, складаны апарат быў ёй падуладны да апошняга вінціка, і ўсё ж яна хвалявалася цяпер, можа, нават больш, чым перад экзаменам на курсах...

Тым часам, пакуль Марынка перадумала ўсё гэта, машына мінула апошні перад вёскай хвойнічак. Па левы бок ад дарогі выбліснула акаймаваная лазняком рака, а на ўзгорку, над ракою, завідненліся перароўскія хаты.

Збянтэжаны маўчаннем Марыны, Цімка запытальна паглядзеў на яе. Марына злавіла яго позірк і строга сказала:

— Чаго глядзіш? Няхай толькі сёння закапрызнічае ў цябе дынама, ніколі не дарую. І ездзіць з табою адмоўлюся...

Цімох нахмурыўся і без патрэбы газануў машыну.

— Ты не злуйся, Цімоша,— раптам памякчэла Марына.— Я так хвалююся, каб хаця ў нас усё добра было. Разумееш — гэта ж мая родная вёска...

Цімка не адказаў ёй, бо машына ўжо ўязджала ў вуліцу сяла, і трэба было глядзець, каб не пераехаць часам якую неасцярожную курыцу або парсюка. Але выглядам сваім ён паказаў Марыне, што зробіць усё, што ад яго залежыць, каб дынама працавала безадмоўна.

Увечары перапоўнены людзьмі калгасны клуб гудзеў, што вулей. Людзі сядзелі на лавах, стаялі ў праходах, тоўпіліся каля дзвярэй. Дзетвара, у пошуках лепшых пазіцый, заняла нават усе падаконнікі — неўгамонныя жэўжыкі круціліся там, быццам канаплянікі на плоце. Пасярэдзіне залы, бліжэй да задняй сцяны, узвышаўся кінаапарат, устаноўлены на моцным дубовым стале. На сцэне вісеў вялікі, роўна распраўлены экран. Некалькі электрычных лямпачак залівалі зал яркім святлом.

Бацька Марынкі, Адам, адзін з старэйшых калгасных конюхаў, паважаны ў калгасе чалавек, звычайна займаў у клубе месца ва ўсіх на віду. Калі быў які сход або пастаноўка, ён з жонкай садзіўся ў першых радах, калі кіно — размяшчаўся побач з начальствам, на задніх лавах. Але сёння ён выбраў месца ў самым дальнім куточку, паблізу ўваходных дзвярэй, дзе стаялі фанерныя шчыты старых дэкарацый і куды нават не вельмі даставала святло. І ён і маці Марыны сядзелі ціхія, усхвалёваныя, баючыся, каб не асароміцца перад людзьмі за дачку. Людзі ў Перарове патрабавальныя, на язык вострыя. Было ж такое, што неяк у мінулым годзе асвісталі ў гэтым самым клубе аднаго кінамеханіка-няўмеку, калі ён нешта пераблытаў і пусціў карціну задам наперад. Чаго добрага, здарыцца такое з дачкою, то лепей, каб старога Адама і зусім не бачылі людзі. Адам нясмела паглядаў са свайго кутка на Марынку, як яна, асветленая яркай электрычнасцю, з расчырванелым тварам завіхалася каля апарата... Галоўнае ж, увесь клуб ведаў, што кінамеханікам сёння — аднавяскоўка, Марынка. Усе віталіся з ёю, з цікавасцю глядзелі, як яна абыходзіцца са складанай апаратурай.

Падышоў прызначаны час, і загадчык клуба, які ўсё бегаў, наводзіў парадак у зале, рассаджваў людзей, даў Марыне загад пачынаць сеанс. У яе ўжо ўсё да дробязі было падрыхтавана. Марына цяпер і хвалявацца перастала, да яе вярнуліся спакой і ўпэўненасць. Кінуўшы смелы, нават крыху задзірысты позірк у бок свайго бацькі, яна выключыла ў зале святло. Гоман, што дагэтуль панаваў у клубе, памалу сціхаў, усе павярнуліся да экрана. Марына знаёмым, разлічаным рухам пусціла ў ход апарат, і з рэпрадуктараў, пастаўленых побач з экранам, шырокай і магутнай плынню хлынула ў зал музыка, а на палатне ўспыхнула кароткае слова: «Клятва».

Марынка ведала, з якім фільмам трэба было прыехаць у Пераро́ў. На базе кінапракату яна доўга і горача спра-

чалася з нейкім лысым дзядзькам, што загадваў размеркаваннем карцін, пакуль выпрасіла ў гэтае сваё падарожжа па вёсках раёна іменна «Клятву». Ведала яна, што «Клятва» сваімі хвалюючымі, незабыўнымі кадрамі павінна была адразу моцна захапіць гледачоў, даняць іх да самага сэрца. А калі карціна спадабаецца, то — Марынка па вопыту ведала,— і механікам тады ўсе застаюцца задаволеныя.

І гэты тонкі Марынчын разлік спраўдзіўся. Не прайшло і хвіліны, як гледачы, захопленыя хвалюючымі падзеямі, забыліся на ўсё і затаілі дыханне. Калі на экране з'явіўся вобраз правадыра народа, у зале выбухнулі дружныя гарачыя воплескі.

Марынцы таксама хацелася прывітаць воплескамі гэты дарагі яе сэрцу вобраз, але яна не магла сабе дазволіць нават на кароткі час адарваць увагу ад апарата. Напружана сачыла яна за суладным, плаўным ходам валікаў і калёс, па якіх бегла чорная істужка плёнкі.

А на экране адзін за адным праплывалі незабыўныя эпізоды. Вось смяротна паранены кулакамі рабочы Сцяпан Пятроў дае сваёй жонцы Варвары ліст да Леніна... Вось памірае Ленін у доме, што стаіць у бярозавым гаі, над Масквой...

Грозныя хмары вайны над Еўропай. 1941 год. Абарона Масквы...

І вось патух экран, у зале ўспыхнула яркае святло.

У той жа міг увесь зал прыйшоў у рух. Сыпанула з падаконнікаў дзетвара. Марына раптам убачыла, як яе абступілі калгаснікі. Прабіваючы сабе дарогу, ішоў да яе старшыня калгаса, Антон Пятровіч.

— Ну, Марынка,— цёпла загаварыў ён,— дай па шчырасці пацісну табе руку, падзякую ад імя ўсяго калгаса. Выдатны фільм ты нам сёння паказала. І без адной заміначкі.

— Марынка, часцей да нас прыязджай!

— Прывозь яшчэ такія цікавыя фільмы.

— Малайчына, Марынка! — чуліся навакол выгукі. Найбольш шчыравала з пажаданнямі дзетвара.

І тут Марына ўбачыла сваіх бацькоў. Яны стаялі пасярод залы і чакалі яе. Адразу радасна стукнула ў сэрца — бацька перастаў хавацца ў кутку і выйшаў на святло: значыць, і ён што-колечы перадумаў. Не выцерпеўшы, Марынка прабілася праз кола людзей і падышла да бацькоў. Ціхенька спытала:

— Ну, а ты што мне скажаш, тата?

— А што мне казаць,— апусціўшы вочы, прамовіў Адам.— Я і тое забраў бы назад, што раней казаў... Малайчына, адным словам.

...І толькі калі ўсе разышліся, даведалася Марынка, які адданы быў ёй у дружбе яе памочнік Цімка. Трымаючы пласкагубцамі, ён так старанна і хутка злучыў рассечаны недзе па дарозе провад, які падаваў у зал святло, што пачаты сеанс ёй не прыйшлося перапыняць ні на адну хвіліну.

Марынка не дзякавала яму. Яна толькі цёпла-цёпла паглядзела на яго, і ў яе позірку ён прачытаў нешта большае, чым «дзякуй».

1948

## ЖЫТА КРАСУЕ

Ледзь толькі льсняны ад гарачыні паравоз, з шумам выдыхнуўшы воблака белай пары, спыніўся, як Ганка Траян адразу саскочыла на зямлю.

Сівавусы праваднік апусціўся на апошнюю прыступку вагона і, падаючы ёй чамадан, строга паківаў пальцам:

— Эх, маладосць! Заўсёды спяшаецеся! А калі б пад колы, тады што?

Ганка толькі ўсміхнулася і, падзякаваўшы праваднiку, павярнулася да маленькага, густа абсаджанага акацыямі будыначка са свежай пахучай сасны, да якога цягнуліся драты чыгуначнага тэлеграфа. Агледзелася вакол, абмахнулася хусцінкай, ратуючыся ад нясцерпнай спякоты. Прывет табе, родны паўстаначак Рослікі, прывет вам, мілыя сэрцу палі і лясы роднай Мазыршчыны! Вось я зноў вярнулася да вас, да вашых духмяных пшанічных палёў, шумлівых жытніх абшараў, да вашых пахнучых мёдам грачнёвых азёр. Не забыліся яшчэ пра сваю стараннiцу з калгаса «Шлях камунізма», з паляводчай брыгады Тамаша Андрэевіча Катка? Памятаеце, якіх высокіх ураджаяў дасягала яна, якая тады добрая слава ішла пра моладзь? Ордэн, што золатам гарыць на грудзях дзяўчыны — гэта ж адзнака той былой яе славы.

Тры гады таму назад падвезлі яе на выязным калгас-

ным стаенніку вось на гэты ж паўстаначак, пасадзілі ў цягнік. Акрамя напакаваных у чамадан пахучых матчыных выпяканчыкаў і хрусцікаў на мядку, яна везла з сабой самыя найлепшыя пажаданні ад сяброў і сябровак, ад старшыні калгаса Рамана Іванавіча, гаспадара ўдумлівага і з далёкім прыцэлам наперад, ад усяго калгаса. На агульным сходзе сяла яе як адну з лепшых калгасніц вылучылі ехаць на вучобу ў горад, у сельскагаспадарчы тэхнікум. Раман Іванавіч, прыкідваючы на будучае, вырашыў, што іх насенняводчай гаспадарцы ў далейшым ніяк не абысціся без агранома, і будзе вельмі добра, калі Ганка Траян, тая Ганка, якая дзякуючы адной сваёй стараннасці і прыроднай кемлівасці здолела дабіцца па 18 цэнтнераў буйназёрнай гатунковай пшаніцы з гектара, вывучыцца і праз колькі часу вернецца да іх спецыялістам. Многія дзяўчаты сяла тады цішком зайздросцілі Ганцы, але крыўды ніякай не было, бо ўсе ведалі, што Ганка вартая гэтага вылучэння, заслужыла яго сваёй добрасумленнай працай.

Гады вучобы мінулі хутка. Настойлівая па характару, Ганка ў тэхнікуме, як і ў калгасе, уся аддавалася справе. І цяпер ёй не сорамна было вяртацца — на дзяржаўных экзаменах яна атрымала атэстат выдатніка. Дзякуючы клопатам Рамана Іванавіча, які карыстаўся ў раёне добрым аўтарытэтам, яе прызначылі на працу ў родны калгас. І вось яна амаль дома...

— Ганка! Ганка! — пачуўся здалёк каля вагонаў нечы голас.

Узрадаваная Ганка азірнулася і нечакана для сябе ўбачыла Тамаша Андрэевіча, былога свайго брыгадзіра. Дзядзька Тамаш, невысокі, год за пяцьдзесят, з акуратна падстрыжанай «козлікам» бародкай і такімі прыветнымі праменьчыкамі маршчынак каля вачэй, трымаючы ў руках пугу, хутка крочыў ёй насустрач.

У гэты час прарэзліва загуў гудок, і ахутаны густой парай паравоз плаўна крануўся з месца. Загаманілі пад вагонамі колы, спачатку павольна, а потым з перастукам, усё шпарчэй і шпарчэй, і, выгнуўшыся на павароце дугой, цягнік імкліва пабег удалячынь — да новых сёл і гарадоў.

Чмыхаючы ў вусы, Тамаш Андрэевіч з нейкай не ўласцівай яму ўсхвалёванасцю, цёпла, па-бацькоўску прывітаўся з Ганкай, павіншаваў яе з заканчэннем вучобы. Ганка таксама была радасна ўсхвалёвана. Яна не чакала, што яе прыедзе сустракаць на паўстанак сам брыгадзір. Ганка заўсёды адчувала да дзядзькі Тамаша нейкую асаблівую

блізкасць, ён займаў немалое месца ў яе жыцці. Па сутнасці, усім тым, чаго яна дасягнула некалі, яна абавязана была брыгадзіру. Першым у яе жыцці дзядзька Тамаш адкрыў ёй простую, але не ўсім вядомую ісціну, што зямля раскрываецца ў сваёй шчодрасці толькі ў адказ на такую ж шчодрасць чалавека. І ён як мог дапамагаў Ганцы, тады яшчэ нявопытнай і нікому не вядомай дзяўчыне, авалодваць сакрэтамі земляробчага майстэрства. Ён навучаў і вырошчваў з яе сапраўдную гаспадыню зямлі, ён і на вучобу рэкамендаваў яе паслаць. А сёння нават сам прыехаў яе сустракаць.

Між тым Тамаш Андрэевіч не спускаў з Ганкі ўважлівых вачэй, глядзеў на яе, як бы жадаючы заўважыць, што новага набыла за прайшоўшыя гады дзяўчына, прыкмеціць змены, якія адбыліся з ёю за гэты час. Відаць было, што не прыгожае, па-гарадскому пашытае плацце і не модная шляпка, якую раней ніколі не насіла Ганка, цікавілі яго, а нешта іншае, больш глыбокае, якое не ляжыць на паверхні і не кідаецца ў вочы пры першым поглядзе.

— Ой, Тамаш Андрэевіч, што вы на мяне так глядзіце? — успыхнула Ганка.

— Ды так, нічога...— збянтэжыўся Каток.

Ён узяў з Ганчыных рук чамадан і павёў яе да фурманкі, якая стаяла паводдаль ад станцыі, схаваная ад спёкі ў цяньку, за шуркамі нарыхтаваных да адпраўкі дроў. Уладаваўшы чамадан у сена, у задку воза, дзядзька Тамаш паправіў сядзенне, нацягнуў посцілку і, сеўшы па правы бок ад Ганкі, тузануў лейцамі. Гладкі, бліскучы, добра дагледжаны конь спорным крокам рушыў на дарогу, а калі адчуў пад коламі цвёрдую каляіну, пабег буйной замашыстай рыссю.

Усё вакол млела ад гарачыні. Кветкі, травы і нават лісты на дрэвах павялі, пакутуючы ад смагі. Пераехаўшы высокі насып чыгункі, фурманка звярнула ў лясок, у густы алешнік, што разросся скрозь паабапал дарогі. Тамаш Андрэевіч маўкліва чмыхаў у вусы і зрэдку, больш для фасону, чым для патрэбы, падшморгваў лейцы.

Ганка адчувала, што дзядзька Тамаш хоча і як бы не адважваецца гаварыць з ёю аб нечым важным, што хвалявала яго ад самага пачатку іх сустрэчы. І ад гэтай дзядзькавай маўклівасці яна адчувала сябе ніякавата, звязана і таксама маўчала, хоць ёй вельмі хацелася хутчэй распытаць у Тамаша Андрэевіча аб калгасных навінах, аб жыцці былых яе сяброўак і сяброў.

Колы застукалі па карэнні, што перацінала дарогу, і Тамаш Андрэевіч, прытрымаўшы лейцы, перавёў каня на хаду.

— Ну, што ж ты маўчыш, ні аб чым не пытаешся? — нарэшце звярнуўся ён да Ганкі.

— Калі ж вы нейкі такі... не як заўсёды,— адказала дзяўчына.— А я ж гэтак засумавала па ўсіх нашых... так хацела прыехаць. Раскажыце, дзядзька, што там у сяле, як ідуць справы.

Нічога не адказваючы, Тамаш Андрэевіч неспакойна варухнуўся на сядзенні. Ганка адчувала, што не гэтая гаворка рупіла яму.

— Слухай, Ганка, Мацей Ільіч пасылаў не мяне, я сам напрасіўся ехаць сюды, па цябе,— нейкім прыціхлым, усхваляваным голасам загаварыў раптам Тамаш Андрэевіч.

— А што такое? — насцярожылася дзяўчына.

— Ды нічога асаблівага... Хацеў пагаварыць з табою пра адну справу. Ты там у тэхнікуме ўсякім навукам навучалася, а мне, старому дзіваку, усё карціць думка, што адно маглі табе там і не сказаць, забыцца...

— Пра што, Тамаш Андрэевіч? — ажно павярнулася да дзядзька зацікаўленая Ганка.

Зноў, як і некалі, яна адчула сябе як бы вучаніцай Тамаша Андрэевіча, адчула, што ён і зараз знойдзе сказаць ёй нешта вельмі важнае і неабходнае ў жыцці.

— Наконт славы,— коратка кінуў Тамаш Андрэевіч.

— Славы? — здзівілася Ганка.

— Ну, так, працоўнай славы... Некалі ты была выдатнай работніцай,— працягваў Тамаш Андрэевіч.— Усюды толькі і гаворкі было — наша Ганка, наша Ганка, Ганка Траян. Я таксама ганарыўся табой. За сваю працу ты вось ордэн атрымала. Слава аб табе па ўсёй вобласці ішла. Ведаеш, хоць твае дасягненні ўжо даўно перавышаны, але тваё імя і зараз яшчэ часта называюць на нашых сходах і цябе часта ставяць у прыклад. І вось ты зноў едзеш да нас, едзеш не абы-кім — аграномам. То я хачу табе напамянуць: працоўная слава гэта не тое, што даецца чалавеку адзін раз і назаўсёды,— заслужыў яе і жыві спакойна. Яе праз усё жыццё, штодзённай сваёй працай падтрымліваць трэба. А інакш яна развеецца, як дым.

Тамаш Андрэевіч памаўчаў, канцом пугаўя падправіў на кані набедрыкі. Потым выняў з кішэні партсігар, закурыў папяросу.

— А між іншым, ёсць яшчэ ў нас такія людзі, што слава ім не на карысць ідзе. У Заазер'і, можа, памятаеш, была адна такая знатная Ганна Кузюрава. Некалі найпершая ў раёне льнаводка была. Ну, ёй, вядома, і павага была ад народа, і ў газетах пра яе друкавалі. Здавалася б, у падзяку народу за гэтую павагу, за тое, што народ яе вырасціў і падняў, яна і яшчэ лепш павінна была б працаваць. А вось жа, скажы, як бывае на свеце — цяпер гэтая Ганна так зазналася, што і ў поле не ходзіць... Лён палола, а з душы сваёй пустазелля перажыткаў не выпалала...

Пыхкаючы дымам, Тамаш Андрэевіч прымоўк. Ганка сядзела на возе прыціхлая, задумёная. Ёй цяжка было так адразу адказаць што-небудзь дзядзьку Тамашу.

— Я не ведаю, Тамаш Андрэевіч, як вас разумець,— памаўчаўшы, спытала дзяўчына.— Вы што, гэтай гаворкай як бы папярэджваеце мяне? Баіцеся, каб не здарылася са мною, як з тою Ганнай?

— Думай сабе, як хочаш,— падшморгнуў лейцы Тамаш Андрэевіч. — А толькі не крыўдуй. Люблю я цябе, як дачку, а таму і выказаў усё, што ляжала на душы.

— Тамаш Андрэевіч! — горача павярнулася да яго дзяўчына.— Вы дарэмна баіцеся. Працавала я некалі не дзеля славы, вы самі гэта ведаеце. І тым больш не пагаджуся зараз жыць на былыя працэнты ад яе. Не для гэтага я столькі часу вучылася, столькі перачытала, перадумала. Вы баіцеся, што ў тэхнікуме нам маглі гэтага не сказаць,— нам і не казалі. Гэта, Тамаш Андрэевіч, нам не трэба было казаць, гэтаму нас вучыла само наша жыццё...

Тамаш Андрэевіч варухнуўся на сядзенні, запыхкаў дымам.

— Яно пэўна, пэўна, можа, і не трэба... Толькі я, Ганка, чалавек стары, на сваім вяку ўсяго бачыў... Сам нёс ды яшчэ і зараз нясу, чаго граха таіць, на плячах нямала markdownрознага грузу ад старога. А вось мы падыходзім да новага сонечнага жыцця, да камунізма,— і хочацца скінуць гэты груз і бачыць, як і другія, уваходзячы ў тое новае жыццё, таксама яго не маюць. Таму і клапачуся...

Ганка ўважліва слухала дзядзьку Тамаша. Яна адчула, як з новай сілай у яе грудзях успыхнула пачуццё ўдзячнасці і павагі да Тамаша Андрэевіча.

Тым часам скончыўся алешнік, і дарога, вывільнуўшы паміж дубоў, што стаялі, быццам вартавыя, на самым узлессі, выбегла на шырокі палявы прастор. Вакол, аж да самага далягляду, стаяла жыта, нерухомае, ціхае, падоб-

нае на дзіўнае зялёнае воблака, прылёгшае пасля доўгіх нябесных вандровак адпачыць на зямлі.

— Жыта красуе! — ачнуўшыся ад думак, выгукнула раптам Ганка ў нейкім наіўным, радасным захапленні. Прыўзняўшыся з месца, яна прагна агледзелася вакол.— Ой, Тамаш Андрэевіч, даўно я не бачыла, як жыта красуе.

Фурманка выехала на поле, і густое, рослае жыта з двух бакоў цесна абступіла дарогу. Выказаўшы ўсё, што ляжала ў яго на душы, Тамаш Андрэевіч нібы скінуў з плеч нейкі нябачны цяжар, супакоіўся.

— Стойце, Тамаш Андрэевіч! — сказала Ганка, як быццам і забыўшыся на нядаўнюю гаворку.— Я злезу, хоць нагляджуся ўволю на яго.

Тамаш Андрэевіч паслухмяна спыніў каня. Злезшы з сядзення, ён следам за Ганкай ушчыльную падышоў да жыта.

— А гэта ж, Ганка, цяпер скрозь наша поле,— сказаў ён.

— Як наша? — здзівілася дзяўчына.— Тут жа, здаецца, былі палеткі «Перамогі».

— Ну так, «Перамогі»,— хітра ўсміхнуўся Тамаш Андрэевіч.— Але мы нядаўна з'ядналіся з імі ў адно, і цяпер гэта наша агульнае поле.

— І правільна зрабілі,— горача выгукнула Ганка.— Проста неразумна было паасобку з імі працаваць: наша сумесная, палеткі ўпрытык, ды яшчэ часам і клінамі адзін у адзін заходзілі...

— Вось і мы гэтак разважылі. Старшынёю Рамана Іванавіча выбралі, а я цяпер ужо не які-небудзь там брыгадзір, а бяры вышэй — у намесніках старшыні хаджу,— з жартаўлівай пыхлівасцю паведаміў Тамаш Андрэевіч.

— А вы маўчыце, дагэтуль не пахваліліся! — ажно пакрыўдзілася Ганка.

— Вось жа бачыш, пахваліўся,— сцёбнуў пугай па траве Тамаш Андрэевіч. Яны прайшліся па дарозе каля самага жыта, быццам прыслухоўваючыся да яго ціхага шэпту.

— Тамаш Андрэевіч, хоць і няёмка мне, а прыйдзецца папракнуць вас. Жыта ў самым красаванні, а ціша вакол такая стаіць. Проста просіцца поле, каб з вяровачкай па ім прайсціся, дапамагчы апыленню. Самі ж мяне некалі вучылі, а цяпер...

— Твая праўда, Ганна Пilіпаўна,— упершыню назваўшы яе па бацьку, згадзіўся Тамаш Андрэевіч. Ён як быц-

цам нават узрадаваўся, атрымаўшы ад Ганкі гэтую заўвагу. Для яго яна многае азначала. Яна сведчыла, што дзяўчына па-ранейшаму горача прымае да сэрца інтарэсы калгаса, што яна не можа заставацца абыякавай да якіх бы там ні было недаглядаў і промахаў.— Вось прыедзем, загадаю брыгадзірам, каб наладзілі такую праходку па палетках.

Як толькі Ганка і Тамаш Андрэевіч вярнуліся да воза і паселі, апанаваны мухамі конь з месца пабег рыссю. Ажывіўшыся, Тамаш Андрэевіч пачаў расказваць Ганцы калгасныя навіны, дзяліцца з ёю сваімі запаветнымі думкамі пра далейшае развіццё іх аб'яднанай гаспадаркі.

Так, размаўляючы, яны мінулі і тое жытняе поле, і бярозавы гай і пераехалі рэчку Ваўчанку, па правы бок якой былі выпасы і размяшчаліся летнія загоны для жывёлы іхняга калгаса.

— Я, дзядзька, добра зразумела, што да чаго вы гаварылі,— выбраўшы зручную хвіліну, вярнулася Ганка да пачатку іх размовы.

Тамаш Андрэевіч усхвалёвана паварушыўся на сядзенні, пацмокаў на каня, тузануў лейцы.

— Мы яшчэ папрацуем з вамі,— працягвала Ганка.— Людзі ў нас залатыя. Зямля таксама неблагая, толькі падмаладзіць яе трэба. Я, Тамаш Андрэевіч, еду не адна, а вязу з сабою запаветы Мічурына, Лысенкі. Мы яшчэ зробім наш «Шлях камунізма» перадавым калгасам у раёне. Пабачыце!..

— Вось і добра, вось і добра, Ганна Піліпаўна! Давай возьмемся. Рады я пачуць такія словы. Я вось і ехаў, каб сваімі вушамі пачуць іх ад цябе. Прабач мне, старому дзіваку... Мы яшчэ папрацуем,— радасна загаварыў Тамаш Андрэевіч.

Ганка паглядзела на дзядзьку Тамаша і весела ўсміхнулася.

Зводдаля, пад гарой, з зеляніны садоў і палісаднікаў памалу выплывалі хаты вялікага сяла.

І тут Ганка нямала здзівіла Тамаша Андрэевіча сваёй нейкай юнацкай гарэзлівасцю. Зняўшы з галавы капялюшык, яна прыўзнялася на возе і прагукала:

— Дзень добры, родны калгас!

«Маладосць...» — падумаў сам сабе, усміхнуўшыся, Тамаш Андрэевіч і, задаволены, ціхенька чмыхнуў у вусы.

1950

# ПАЛЕССЕ

Можа, вам, дарагі чытач, здарыцца часамі быць на поўдні Беларусі, на Мазыршчыне, не пагрэбуйце маёй парадай, зазірніце на дзянёк-другі ў якую-небудзь палескую вёску. Зазірніце, куды трапіцца, куды вам будзе больш з рукі,— у Залессе, Чапаеўку, Міхалкі, Васілішкі, Барбароў, Вялікі Бор, Лужкі, Зарэчнае, Навасёлкі... Гэта толькі так гаворыцца — на дзянёк, а трапіце вы туды, пазнаёміцеся з палешукамі, людзьмі гасціннымі, працавітымі, са шчырай і адкрытай душой, паслухаеце, як надвячоркам улетку спяваюць палескія дзяўчаты, паблукаеце са стрэльбай па навакольных лясах і лугах, устанеце раненька, ледзь на золак, ды праедзеце ў чоўне па Прыпяці, па яе зялёных затонах і «старыцах», я ўпэўнены, калі будзе ў вас час, затрымаецеся-такі там на добры тыдзень.

Апетае ў многіх старых песнях, адлюстраванае ў паданнях і казках, беларускае Палессе, гэты край балотаў і пяскоў, край шумных лясоў і ціхіх рэчак, у мінулым быў адной з самых бедных і закінутых мясцін нашай Радзімы. Людзям Палессе было вядома толькі паганай хваробай — каўтуном ды балотнай трасцай, дымнымі курнікамі ў пахілых хатах ды драўлянай сахою.

Пераможны Кастрычнік змёў усё гэта ў нябыт, падняў і акрыліў Палессе, і тым, хто ведаў яго раней, сёння яго ўжо не пазнаць. Разняволены беларускі народ пераўтварыў яго ў багаты і прыгожы край, хаты палешукоў цяпер асвятляе электрычная лямпачка. Ідзе апошні рашучы наступ на векавыя балоты, узброеныя магутнымі машынамі людзі ператвараюць іх у пладаносныя, ураджайныя землі.

Палессе — прыгожы і самабытны край, пазнаёміўшыся з ім, яго нельга не палюбіць. Але мне яно дарагое і любае ўдвая — гэта месца, дзе я нарадзіўся і вырас. І кожны раз, калі ці то на поездзе, ці на машыне я набліжаюся да мазырскіх палёў і лясоў, калі далёка-далёка наперадзе раптам выблісквае між зялёных лазнякоў блакітная істужка Прыпяці, у мяне міжвольна мацней б'ецца сэрца, і я адчуваю нейкую асаблівую радасць.

Добры дзень табе, з'яднаны ў дружныя калгасныя сем'і, працавіты і шчыры палескі народ! Добры дзень вам, любыя прасторы Палессея!..

## 1. НА ПЕРАПРАВЕ

Перад самым захадам сонца да пераправы цераз Прыпяць падкаціла прыкметная здалёк ярка-зялёная палутарка з Журавіч, з калгаса «Перамога». З усёй спрытнасцю, якую толькі можна было праявіць на грузавіку, ды яшчэ і нагружаным — у кузаве сядзелі людзі, штабелем былі складзены дошкі, драўляныя стаякі, ляжалі пілы, сякеры, скрынка з цвікамі, ліхтары «лятучая мыш»,— шафёр Лёнька Окунь развярнуў машыну каля дашчанага доміка паромшчыка і памалу павёў яе кузавам назад на самы край крутога берага, адкуль пачыналася дарога да паромных масткоў. Праязджаючы каля доміка, Лёнька, малады, чарнявы, падобны на цыгана хлопец з загарэлым да колеру медзі хударлявым тварам, непрыкметна кінуў позірк на дзверы...

Але ў доміку было пуста і ціха, на дзвярах вісеў маленькі, для прыліку, замочак, і ніхто не выйшаў насустрач ярка-зялёнай журавіцкай машыне.

Лёнька нахмурыўся, заглушыў матор.

Брыгадзір цесляроў, Сцяпан Фаміч Серада, які сядзеў побач з ім у кабіне, сам сабе ўсміхнуўся, але не падаў выгляду, што заўважыў яго незадаволенасць, і толькі заначыў:

— Ну і спрыцён ты, Лёнька, што цыркач. Табе б не на палутарцы ездзіць, а на легкавой...

Сцяпан Фаміч вылез з машыны, зірнуў на раку. Надвячорак быў ціхі, але па-асенняму хмурны, неба на захадзе было заслана густымі шэрымі хмарамі. Прыпнуты да масткоў, паром стаяў па той бок ракі. Удалечыні на рацэ відненіся бледныя зорачкі сігнальных ліхтароў. З узгорка, дзе спынілася машына, уніз да вады вяла крутая, але роўная, добра ўкатаная дарога. Берагі ракі па абодва бакі ад паромных масткоў былі пакрыты зараснікамі пачарнелай, бязлістай ужо лазы.

— Ну, хлопцы, не губляць часу! — дзелавіта загадаў Сцяпан Фаміч і сам хутка ўзяўся адкідваць кручкі бартоў. Чацвёра мужчын, што ехалі ў кузаве, адзін за адным саскочылі на зямлю і адразу ж пачалі разгружаць машыну.

Управіўшыся з кручкамі, Сцяпан Фаміч азірнуўся, прыклаў да губ складзеныя рупарам рукі і закрычаў:

— Э-ге-гей! Паро-ом! Гані сюды-ы!

Голас яго гулка пакаціўся над ракой і недзе далёка аддаўся рэхам.

— Іду-у! — амаль адразу ж пачуўся басавіты воклік з-за ракі.

— Вось здзівіцца нашаму налёту стары Даніла,— падхопліваючы на плячо тонкае бервяно, усміхнуўся адзін з мужчын, маладзейшы, апрануты ў брэзентавую куртку, з высокімі, ледзь не да пояса, гумавымі ботамі на нагах.

— Рады будзе,— азваўся Сцяпан Фаміч.

— Хапіліся супроць ночы,— буркліва кінуў Лёнька. Ён стаяў каля машыны і, пакурваючы папяросу, глядзеў за раку, на паром. Час ад часу, маючы яшчэ нейкі іншы клопат, ён азіраўся на домік.— А пра гэты паром дакладная Данілы Іванавіча ўжо з месяц пад сукном у канцылярыі ляжыць.

Здагадваючыся, што прычына дрэннага настрою Лёнькі была не ў пароме, Сцяпан Фаміч усміхнуўся:

— Сам ведаеш, Лёнька, восень, уборка, не да парома было. Ды, сказаць, і не к спеху, ён і без рамонту смела дахадзіў бы да зімы. А ўжо вясной...

— У нас заўсёды так: як на паляванне ісці — сабак кормяць.

Сцяпан Фаміч пацiснуў плячыма:

— Хто ж мог такое прадбачыць?

— Столькі разумных у калгасе, а не прадбачылі! І Ягор Пятровіч, і парторг... Вось і вы, Сцяпан Фаміч, камуніст, а...— Лёнька з дакорам кіўнуў галавой.— А я, калі толькі прачытаў газеты, адразу зразумеў: ну, цяпер у нас на Палессі такое пачнецца... зашуміць, загудзе! Асушэнне Палесся, калі вы хочаце ведаць, гэта вялікая справа.

— Нічога, Лёнька, за ноч управімся, за намі затрымкі не будзе.— Сцяпан Фаміч глянуў на неба.— Вось толькі б пагодка не перашкодзіла...

Паром з адзінокай постаццю паромшчыка памалу адчаліў ад берага і пачаў павольны, здалёк ледзь прыкметны для вока рух. Стоячы каля парэнчаў і раз-пораз пацягваючы дрот, стары Даніла ў павольным рытме гайдаўся туламам то назад, то ўперад.

— А зарачанцы, відаць, яшчэ не ведаюць, якое да іх папаўненне ідзе,— заўважыў Лёнька, глянуўшы за раку, дзе кіламетры за тры ад пераправы паблісквалі ў першым вечаровым змроку электрычныя агні зарачанскай машынна-меліярацыйнай станцыі.

— Ведаюць, не можа быць, каб не ведалі,— азваўся Сцяпан Фаміч.— Гэта Сяргееў, дырэктар іх, кажуць, у абком паехаў, а то ўжо напэўна сюды прымчаў бы...

Лёнька заправіў пад кепку чубок чорных смаляных валасоў і зноў заклапочана азірнуўся на дашчаны домік.

Сцяпан Фаміч злавіў яго погляд і, нібы незнарок, запытаў:

— І што гэта Марылькі не відаць, бяляначкі Данілавай? Пэўна на затоку паехала венцляры трусіць...

Лёнька нахмурыў бровы і зрабіў выгляд, што яго зусім не цікавіць тое, аб чым гаварыў Сцяпан Фаміч.

— А Ягору Пятровічу пра паром з райкома пазванілі,— заўважыў ён і, кінуўшы на зямлю недакурак, па шафёрскай звычцы акуратна прытаптаў яго нагой.— «Што, пытаюць, зможаш ты на сваім пароме тэхніку ў Зарачанскую МТС перакінуць?» У Ягора Пятровіча аж вушы загарэліся ад сораму,— паром-то не ў спраўнасці. Яшчэ грузавічок там які перавезці можна, але што-небудзь іншае... «А якая, пытаецца, тэхніка?» — «Ну, смяецца сакратар, так і так, кажа, прыкідвай, як на артылерыю або на танкавае падраздзяленне. З паўстанка, кажа, да моста гнаць — сорак кіламетраў кругу, дарага каштаваць будзе, ды і час немалы займе... Між іншым, кажа, ідучы, у сувязі з чым і дзеля якой вялікай справы тая тэхніка ідзе...»

— Ды ты адкуль пра іх размову ведаеш? — недаверліва ўсміхнуўся Сцяпан Фаміч.

— Вось яшчэ,— пакрыўдзіўся Лёнька,— выдумляць вам буду. Сам Ягор Пятровіч усё і расказаў. Выйшаў пасля той размовы са свайго кабінета ў канцылярыю ўсхваляваны, урачысты. «Ну, кажа, таварышы, віншую вас, да зарачанцаў такая тэхніка ідзе!..» Мы ўсе, хто быў на той час у канцылярыі, да яго: якая тэхніка, калі прыйдзе? Ну, ён нам усё і расказаў.

— Умее Ягор Пятровіч за малым вялікае бачыць,— заначыў Сцяпан Фаміч.— Мяне выпраўляў, абняў за плечы: «Ведаю, кажа, ты камуніст, не падвядзеш, але скажу на дарогу: памятай, тэхніка тая канец нашым Тапілам нясе, адвечнай дрыгве! Так што не падвядзі...» Вось ён які, Ягор Пятровіч.

Пакінуўшы Лёньку, Сцяпан Фаміч падышоў да машыны, падставіў цеслярам шырокае моцнае пляча і гукнуў:

— Ану кладзі!

Цесляры падалі яму некалькі дошак, Сцяпан Фаміч пасунуў іх на плячы туды-назад, знайшоў раўнавагу і ўпэўнена пакрочыў з узгорка да паромных масткоў.

Нейкі момант Лёнька ў нерашучасці пазіраў яму

ўслед,— так не вялося, каб шафёр удзельнічаў у якой бы там ні было пагрузцы або разгрузцы, у яго былі свае абавязкі і клопат: машына. Але сёння... Лёнька рашуча схапіў на плячо драўляны стаяк для трымання парэнчаў і хутка, ледзь не подбегам, пайшоў следам за Сцяпанам Фамічом. Тым часам асенні змрок паволі апусціўся на зямлю, зрабілася золка, няўтульна. З-за ракі падзьмуў ветрык, не моцны, але халодны, пранізлівы, і роўнядзь вады пакрылася дробнымі хвалямі.

Разгрузку машыны скончылі ўжо пры святле ліхтароў. Амаль адначасова да берага прычаліў паром.

Даніла Іванавіч — прысадзісты, шыракаплечы, з вялікай, акуратна расчасанай на дзве палавіны барадой, у саламяным брылі — сапраўды быў нямала здзіўлены прыезду калгасных цесляроў.

— Добры вечар, людзі! — моцным, крыху застуджаным басам прагудзеў ён.— Чаго гэтак позна, каб на вас шызы качур? Няўжо на маю заяву такая тэрміновая рэагіроўка?..

— А ты што ж думаў? Напалохаліся, каб не патануў ты тут са сваім дрэдноутам,— пажартаваў Пятро Тугай, той малады цясляр у высокіх гумавых ботах.

Даведаўшыся, у чым была сапраўдная прычына нечаканага прыезду цесляроў, Даніла на момант задумаўся.

— Ох, Сцяпан Фаміч,— заклапочана прамовіў ён.— Ды ці ж вам управіцца да раніцы? Тут жа на добрых тры дні работы.

— А ты паглядзі на нас, Даніла Іванавіч,— весела азваўся брыгадзір,— што за хлопцы — гвардыя!.. Вядзі, паказвай, што ў цябе там?

Узяўшы ў рукі ліхтары, Сцяпан Фаміч і стары Даніла па мастках узышлі на паром, пачалі ўважліва аглядаць яго з усіх бакоў, спачатку зверху, а затым палезлі пад насціл, у дубы.

Сышоўшы неўзабаве на бераг, Сцяпан Фаміч нахмурыўся.

— Тут і сапраўды работы ліха ведае колькі! Увесь насціл збіты, прагніў, цяжкага грузу не вытрымае, новы класці трэба. Стаякі, парэнчы таксама патрабуюць замены, ды і дубы дзе-нідзе прагнілі.— Сцяпан Фаміч павярнуўся да паромшчыка: — Дзе твая Марылька, няхай бы нам чай згатавала, відаць, ночка ў нас гарачая будзе...

— Няма Марылькі, раніцой у вёску за прадуктамі на зарачанскай машыне паехала... Ды за чаем справа не стане, сам нагрэю...

Сцяпан Фаміч павярнуўся да цесляроў:

— Ну, то за справу...

Ужо на хаду, ідучы да штабеля дошак і прылад, складзеных на беразе, Сцяпан Фаміч успомніў пра Лёньку:

— А ты, браток, што ж, гані дахаты... Перадай Ягору Пятровічу, каб не хваляваўся,— скончым у тэрмін!

Але Лёнька чамусьці не паварушыўся і не азваўся на словы брыгадзіра. Ён стаяў і моўчкі глядзеў сабе пад ногі.

Сцяпан Фаміч у здзіўленні вярнуўся, падышоў да яго.

— Ты што... чаго стаіш? Можа, маеш нешта сказаць?

— Дзядзька Сцяпан,— усхвалявана памкнуўся да брыгадзіра Лёнька,— дазвольце, я застануся з вамі... Цяпер жа ноч, машына ў калгасе ўсё роўна не трэба. А я рабіць буду, што загадаеце! Дазвольце, а, дзядзька Сцяпан...

Сцяпан Фаміч уважліва паглядзеў на Лёньку, з удзячнасцю паклаў яму руку на плячо.

— Заставайся... Работы тут столькі, што нам, мусіць, і сарочкі паскідаць прыйдзецца.

— Пайшлі,— узрадавана выгукнуў Лёнька, і яны хутка пакрочылі да парома.

Ад Журавіч да пераправы было ўсяго якіх пяць-шэсць кіламетраў, але не кожная дзяўчына асмелілася б выправіцца туды супроць ночы цёмным асеннім вечарам. Дарога да ракі амаль увесь час ішла лесам, а як толькі выйдзеш за сяло, па правы бок ад шляху ляжалі могілкі, і міма іх трэба было прайсці. Але для Марылькі ўсё гэта было хоць бы што... Затрымалася яна ў сяле, дапамагала маці бульбу выбіраць. Маці не пускала яе, раіла пераначаваць дома, а ўжо заўтра раненька забраць свой кошык з прадуктамі і бегчы.

Але Марылька на матчыны словы нават пакрыўдзілася:

— А бацька што ж, па-вашаму, галодны начаваць будзе?

І пабегла. Маці ажно пазайздросціла ў думках: вось ужо бацькава дачушка, вось непакоіцца пра таго старога ваўкалака. Не здагадвалася яна, што не толькі пра бацьку думала Марылька, а быў у яе яшчэ і іншы, свой дзявочы клопат. Ужо на змярканні, калі яна вярталася з поля, суседскі хлапчук, дванаццацігадовы Дзімка, вялікі аматар пакатацца на машынах і лепшы сябра ўсіх шафёраў, перадаў ёй пісьмо ад таго, ад чарнявага цыгана...

Ох, ужо гэты Лёнька! Такі дзівак. Сустрэўшыся, ні-

колі не скажа пра тое, аб чым смела напіша ў пісьме. Калі яны бывалі разам, Лёнька звычайна цікава расказваў ёй пра ўсё — пра сваіх сяброў, пра новыя машыны, успамінаў школьныя гады, настаўнікаў. А нядаўна з захапленнем расказваў, якім у недалёкім будучым стане іх Палессе, край адвечных балот і пяскоў. Гаварыў ён заўсёды цікава, часам сур'ёзна, а часам так, што Марылька рагатала да слёз. Але аб тым, аб галоўным,— ні слова. Затое ў пісьмах!..

На гэты раз пісьмо было таўсцейшае, чым звычайна, напэўна, добрых старонак пяць, не менш. Відаць, там было нешта важнае і цікавае. Але дома Марылька не змагла яго прачытаць, саромелася маці, а на дварэ было ўжо цёмна. І яна вырашыла: трэба ўзяць сябе ў рукі, пацярпець. Дабяжыць да доміка на пераправе, а ўжо там, на адзіноце, ёй ніхто не перашкодзіць,— прачытае радок за радком.

Марылька хутка ішла па цёмнай лясной дарозе. Час ад часу яна вымала з кішэнькі пісьмо... І што там гэтак многа Лёнька напісаў? Як пачнеш думаць ды гадаць, ажно сэрца замірае. І чаму яна не здагадалася ўзяць з сабой ліхтарык — магла б па дарозе прачытаць. Але нічога, як толькі Марылька прыйдзе на пераправу, яна дасць бацьку павячэраць, а сама забярэцца ў куточак і прачытае пісьмо. Няхай бацька і падсміхваецца з яе, няхай што хоча гаворыць... Семнаццаць год, шчаслівая пара маладосці! У такія гады ў каго не забілася б сэрца ад нецярплівасці хутчэй даведацца, што піша каханы?..

Неўзабаве скончыўся лес, і Марылька выйшла на поле. Адсюль да пераправы было ўжо рукой падаць: толькі мінуць адну невялікую лагчынку — і на ўзгорку заблішчыць агнём акенца іхняга доміка.

Але, мінуўшы лагчынку, Марылька спынілася ў здзіўленні. На пераправе рабілася нешта незвычайнае. На беразе, ля паромных масткоў, гарэў вялікі яркі агонь, вакол былі відаць постаці людзей. На парэнчах парома, рассяваючы вакол цьмянае святло, віселі ліхтары. Нейкі грузавік стаяў на ўзгорку. Да слыху Марылькі данёсся дружны стук сякер, шоргат фуганкаў, візгат пілы. Пільна прыгледзеўшыся, яна ўбачыла, што ўсе людзі былі заняты працай. Адны габлявалі дошкі, другія жалезнымі ламамі ўзрывалі прагнілы насціл на пароме. Нехта стаяў каля дуба па пояс у вадзе і арудаваў сякерай. Марылька здагадалася, што гэта цесляры з сяла рамантавалі паром.

Нават не зазірнуўшы ў домік, Марылька з кошыкам у руках збегла ўніз, да ракі. Ну так, тут усе былі знаёмыя людзі, цесляры з «Перамогі». Вось, асядлаўшы верхам горку складзеных адна на адну дошак, габлююць вялікім двуручным фуганкам на пару іх журавіцкі сусед дзядзька Антон і канцавы Мікіта Базылёнак. Абодва працуюць без шапак, з расхлістанымі каўнярамі, іх разгарачаныя твары ўзмакрэлі і паблісквper. Побач, раз-пораз узмахваючы сякерай, абчэсвае дошкі брат Марыльчынай сяброўкі Волечкі, Піліп Багуцкі, а каля яго са шнуром і драчкай у руках завіхаецца бацька. Пазнала Марылька і Пятра Тугая, які працаваў каля дуба. А хто там, на пароме?..

Марылька ўздрыгнула, спынілася, твар яе пыхнуў чырванню... Падважваючы ламамі і са скрыгатам узрываючы дашчаны насціл, на пароме заўзята працавалі Лёнька і Сцяпан Фаміч. Лёнька быў у адной сарочцы, з закасанымі па локаць рукавамі. Пасма мокрых валасоў выбілася ў яго з-пад кепкі, хударлявы загарэлы твар выглядаў сур'ёзна, строга... Усхваляваная Марылька міжвольна нейкі час не магла адарваць вачэй ад Лёнькі,— які ён, аднак, прыгожы, які моцны! Цяжкі лом так і ходзіць у яго руках, як лёгкая трасцінка. Ён быццам і не чуе сібернага паўночнага ветру, не адчувае холаду. А ноч жа такая сцюдзёная, вецер на рацэ разгуляўся не на жарт. Чорныя, высокія хвалі з белымі грабеньчыкамі пены з шумам плёскаюць аб паром. Любы Лёнька...

Марылька ўспомніла пра пісьмо, дарагое пісьмо ад яго, ад чубатага цыгана, пакратала яго рукою ў кішэні. Не, перш чым яго чытаць, яна павінна даведацца, для якой справы так тэрмінова, уночы, рамантуюць паром? Напэўна, прычына вельмі-вельмі важная, калі так, не зважаючы на холад, на ноч, завіхаюцца цесляры, калі працуюць нават бацька і Лёнька...

Марылька кінулася да бацькі. Але стары Даніла працаваў так заўзята, што заўважыў дачку, толькі калі яна кранула яго за руку.

— Дачушка,— і радасна, і здзіўлена азваўся ён, выпростваючыся і выціраючы з ілба пот.— Не пабаялася, прыбегла... Вось добра!

— Я, тата, вам есці прынесла...

— Дзе ўжо тут есці, тут такая справа, што...— Даніла памахнуў рукою.— Раніцою новыя машыны на Зарэчча павінны прайсці. Дык трэба каб без затрымкі, разумееш? Вось лепш бяры ў рукі ломік, дапамагай...

Марылька крутнулася, паставіла каля агню кошык. Значыць, вось у чым была справа, вось чаму цесляры працавалі з такім запалам! Яна не памылілася ў сваіх здагадках, прычына была вельмі важная. Ішлі машыны для асушкі палескіх балот, пра якую так многа расказваў ёй Лёнька. Шчыра кажучы, тое, што ён гаварыў, яна ўспрымала, як цікавую казку, ёй здавалася, што ўсё гэта будзе адбывацца не ў іх, а недзе далёка, і будзе няхутка, можа, праз некалькі год. Ды яна і наогул не зусім верыла яму, таму што гаварыў ён пра незвычайнае, гераічнае, усё роўна як пра вялікія дзяржаўныя будоўлі, аб якіх Марылька заўсёды чытала з захапленнем і тайнай зайздрасцю. Лёнька сцвярджаў, што на Палессі будуць асушаны ўсе незлічоныя балацяныя масівы, выраўнаваны і паглыблены рэкі, пракладзены суднаходныя каналы, будуць пабудаваны вялізныя вадасховішчы, магутныя электрастанцыі, якія асветляць самыя далёкія куточкі Палесся. На былой адвечнай дрыгве зашуміць пшаніца, а на пясках заквітнеюць сады...

І раптам усё выходзіць так, што ўжо сёння і не дзе-небудзь далёка, а ў іх, у Зарэччы, пачалася падрыхтоўка да здзяйснення тых вялікіх, прыгожых, як самая прыгожая казка, спраў.

Азірнуўшыся, Марылька ўбачыла на зямлі, паміж дошак, лом, падняла яго. Няхай пісьмо паляжыць у яе кішэньцы да раніцы, чубаты цыган не пакрыўдзіцца на яе. Яна ўзбегла па мастках на паром. Пачуццё нейкай незвычайнай прыўзнятасці, радасці ахапіла Марыльку.

— Дзядзька Сцяпан,— перакрыкваючы шум ветру, звонка выгукнула яна,— прымайце ў памочнікі!

— Марылька? — здзівіўся нечаканаму з'яўленню дзяўчыны Сцяпан Фаміч.— Ану, станавіся сюды, падважвай гэты апалубак...

Пад поўнач Пятро Тугай закончыў рамонт дубоў, заліў смалою залапленыя месцы і вылез на паром. Тут пачыналі ўжо класці новы насціл, ставіць стаякі пад парэнчы. Больш чатырох гадзін давялося Пятру працаваць па пояс у ледзяной вадзе. Ён быў увесь мокры, не ўратавалі яго ад вады высокія гумавыя боты. Глянуўшы на яго, Сцяпан Фаміч загадаў яму зараз жа ісці да агню, абсушыцца. Пятро паслухаў брыгадзіра і пайшоў, але ўжо праз некалькі хвілін вярнуўся і зноў узяўся за сякеру.

— Няхай астатняе ветрык падсушыць,— пажартаваў ён, прагна зацягваючыся папяросным дымам.

Сцяпан Фаміч змоўчаў, але ў думках пагадзіўся з Пятром: у час, калі ўлічвалася кожная хвіліна, было не да абсушкі. Толькі Марылька, якая ўвесь час працавала побач з Сцяпанам Фамічом, не ўцярпела, збегала ў домік і, захапіўшы кароткі, пахватны кажушок, накінула яго на плечы Пятру.

...А з Лёнькам яна так за ўсю ноч і не перакінулася ні словам, хаця часта даводзілася працаваць зусім блізка каля яго, плячо да пляча. Зрэдку, выбраўшы момант, Марылька паглядвала на Лёньку. Адзін раз, калі яны стаялі побач, разам падважвалі дошку, яна не стрымалася, напаўголасу аклікнула яго: «Лёнька!..» Але ён ці не пачуў за шумам ветру, ці зрабіў выгляд, што не пачуў. Налёг на ломік з такою сілай, што дошка аж сагнулася, затрашчала...

Між тым працаваць станавілася ўсё больш нялёгка. Чорныя хвалі раз-пораз з сілай білі ў барты дубоў, і паром увесь дрыжаў і калыхаўся. Прывязаныя да стаякоў ліхтары не маглі перасіліць чарнільную цемень асенняй ночы і асвятлялі паром кволым няясным святлом. Напяты дрот, што спускаўся з парома ў ваду, увесь гудзеў пад ветрам, то глуха, як басовая струна, то звонка, з пранізлівым свістам. За шумам ветру і хваль амаль не было чуваць ні стуку сякер, ні звону піл.

Але цесляры як бы і не заўважалі таго, што тварылася вакол, а моўчкі, хутка і дружна рабілі кожны сваю справу — падганялі дошку за дошкай, кладучы падлогу парома, мацавалі жалезнымі кранштэйнамі стаякі, устанаўлівалі парэнчы...

Раніцой, калі на ўсходзе пачало ўжо займацца шэрае асенняе світанне, на пераправе раптам заўважылі, што да шуму ветру быццам бы далучыўся нейкі няясны гул. Марылька першая пачула той роўны, аднастайны гул, зусім новы, не падобны на шум ветру, і, спыніўшыся, насцярожана прыслухалася. Гул ішоў ад Журавіч, відаць, ад чыгуначнай станцыі. Глянуўшы на Марыльку, Сцяпан Фаміч таксама насцярожыўся. Потым адзін за другім пачалі прыслухоўвацца і ўсе, хто быў на пароме.

— Ідуць машыны,— ціха сказаў Сцяпан Фаміч і, азірнуўшыся на цесляроў, усміхнуўся. Гэта была ўсмешка стомленага, але шчаслівага чалавека, які сумленна выканаў даручаную яму важную справу: паром быў поўнасцю

адрамантаваны, падмецены і прыбраны, і нават уз'ездныя паромныя масткі былі пакладзены новыя, з моцных дубовых плах.

— Ідуць! — усхвалявана паўтарыў Сцяпан Фаміч.— Эх, хлопцы, абняць бы мне вас усіх ды расцалаваць!..

Тым часам гул чуўся ўсё з большай выразнасцю, і здавалася, што нават вецер пацішаў перад яго роўнай, магутнай сілай.

— Родныя мае,— выступіў раптам наперад стары Даніла,— прыхавана ж у мяне недзе тое-сёе ад застуды... Марылька, запрашай людзей у хату. Будзем, як кажуць, у цеснаце, ды не ў крыўдзе...

Запрасіўшы ўслед за бацькам мужчын зайсці пагрэцца, Марылька апярэдзіла ўсіх і пабегла ў домік. Цесляры не адмаўляліся, адзін за адным пайшлі за гаспадаром.

І толькі Лёнька, стомлены, хмурны, не пайшоў разам з усімі. Нібы нечым узлаваны, ён падышоў да сваёй паўтаратонкі, рэзка адкінуў капот і, нырнуўшы да матора з галавою, пачаў там нешта бразгаць гайкамі і ключамі. Ён і не заўважыў, як з доміка, наспех накінуўшы на плечы паліто, выскачыла Марылька.

— Лёнька,— пацягнула яна яго за рукаў,— Лёнька, чаму ты не ідзеш у хату, там усе чакаюць цябе.

— А ты куды? — заўважыўшы, што Марылька пачала апранаць паліто і зашпільвацца, спытаў Лёнька.

— А я...— Марылька выняла з кішэнькі пісьмо.— Даруй, Лёнька, я яго яшчэ не паспела прачытаць. Вось адыдуся...

Твар Лёнькі асвятліўся цеплынёй, радасцю, ён узяў Марыльку за руку.

— Не трэба, Марылька,— ласкава сказаў ён,— не трэба чытаць... Любая мая, я сам табе ўсё раскажу, Марылька...

Але, не даслухаўшы Лёньку, яна раптам хапіла яго за руку, павярнулася к дарозе.

Мінуўшы лагчынку, да доміка з грукатам і лязгам памалу набліжалася калона машын. Гусенічныя трактары цягнулі на прычэпе вялізныя, падобныя на гіганцкія жалезныя плугі, канавакапальнікі, кустарэзы, балотныя плугі, чыгунныя каткі...

Марылька, а за ёю Лёнька кінуліся бегчы к дарозе, насустрач калоне.

Ад магутнага поступу машын уздрыгвала пад нагамі зямля.

## 2. КРЫГАХОД

У самым пачатку красавіка позна ўвечары ў маёй кватэры раптам зазваніў тэлефон. Па тым, як настойліва і працягла ён званіў, я здагадаўся, што гэта быў выклік міжгародняй, і, не марудзячы, зняў трубку.

— Алё, стары! — пачуў я да непазнавальнасці зменены адлегласцю голас свайго добрага прыяцеля Андрэя Пятрэнкі з далёкага Палесся. Я пазнаў яго па яго ўлюбёным звароце «стары», які ён жартам ужываў, звяртаючыся да ўсіх людзей, што мелі не больш сарака пяці год; старэйшых ён так не называў, каб не пакрыўдзіць.— Памятаеш, аб чым ты прасіў мяне зімою?.. Памятаеш? Ну, то зараз жа збірайся і кaці да мяне. Злезеш з цягніка, і адразу паедзем на пост да Кузьмы Нупрэевіча. Прыпяць ужо ледзь трымаецца. Не сёння-заўтра праграміць на поўны ход...

Жывучы ў вялікім і шумным горадзе, за сумятнёй штодзённых спраў і клапот, бывае, і не заўважыш, як надыходзіць вясна. Ну, прыкмячаеш, як даўжэюць дні, як усё вышэй уздымаецца сонца, мімаходам бачыш, як растае на вуліцах лёд, наклёўваюцца пупышкі на дрэвах у парках і скверах. Зусім не тое на ўлонні прыроды — у полі, у лесе, на рэчцы, дзе ты, здаецца, усёй істотай адчуваеш жывое дыханне вясны, дзе пра яе надыход табе гаворыць усё, што ты бачыш і чуеш вакол.

Некалькі год засаб я збіраўся з'ездзіць вясною на Прыпяць, у асалоду палюбавацца самым хвалюючым відовішчам вясны — крыгаходам. Але кожную вясну ці то якія-небудзь неадкладныя справы, ці якія іншыя акалічнасці перашкаджалі мне здзейсніць такую паездку. І вось неяк зімою я папрасіў прыяцеля, каб ён сёлета названіў мне, калі на Прыпяці пачнецца крыгаход. На гэты раз я намерыўся абавязкова з'ездзіць да Пятрэнкі.

Шчыра кажучы, акрамя жадання паглядзець крыгаход была ў мяне на мэце і другая, можа, не такая рамантычная, але для мяне вельмі цікавая задача. Але пакуль што я пра яе маўчаў, спадзяваўся, што там, на месцы, калі прыеду, здолею неяк дамовіцца з Пятрэнкам і здзейсню яе.

Як гэта заўжды бывае, званок Пятрэнкі, хоць я ўжо і чакаў яго, застаў мяне знянацку. Адразу ўспомнілася з дзесятак і дробных і важных, але аднолькава неадкладных спраў, якія мне трэба зрабіць абавязкова заўтра. А поезд адыходзіў гадзіны праз тры, уночы. З практыкі я ведаў,

што варта было застацца на дзень, каб разлічыцца з тымі дробнымі і важнымі справамі, як, ліха ведае адкуль, узнікне з дзесятак іншых, новых спраў, якія гэтак жа ўчэпіста будуць трымаць цябе на месцы. І таму я парашыў ехаць не адкладваючы, адразу ж, сёння.

І — дзіўная рэч! — ледзь толькі я прыняў рашэнне, як са здзіўленнем адчуў, што справы, якія нядаўна здаваліся мне абавязковымі, аказаліся зусім не такімі ўжо важнымі і неадкладнымі, і ўсе яны без вялікай бяды маглі пачакаць.

Уночы я сеў у вагон, а праз якіх дванаццаць гадзін, перасеўшы ў Жлобіне з хуткага на мясцовы рабочы поезд, прыехаў на месца.

Сябра сустрэў мяне на вакзале нейкі нездаволены.

— Не шанцуе, ліха на яго!.. Нездарма кажуць, чалавек мяркуе, а бог не чуе. Карацей, стары, да Кузьмы Нупрэевіча з табой паехаць не змагу — справы. Трэба зараз жа выязджаць у калгас. Старшыня райвыканкома, разумееш, гэта табе не «вольны казак» — пісьменнік, ён не можа распараджацца сваім часам, як яму хочацца. Як бачыш, вясна, і ў нас цяпер свой крыгаход, такі, што аж галава кругам ідзе. Усё, што магу для цябе зрабіць, гэта сказаць вось Пятру Іванавічу, каб ён адбарабаніў цябе на гэтым «газіку» на пост да старога Кузьмы. Зразумела?..

— Зразумела,— крыху збянтэжаны такім новым паваротам справы, працягнуў я.— Але калі так, то ты хоць скажы, куды іменна ты маеш ехаць, і, па-другое, што там недзе так загарэлася, што спатрэбілася патурбаваць тваю высокую асобу?

— Ну вось, ты ўжо і пакрыўдзіўся,— дабрадушна ўсміхнуўся Пятрэнка.— Можа, за «вольнага казака»?.. Дык гэта ж, брат, толькі жарт. Ці ж ты думаеш, я не ведаю, што кожны з нас мае нейкія свае абавязкі і загружаны працай? Зноў жа, разумею я, што для вашага брата паглядзець, скажам, крыгаход — не пустая забаўка, а важная справа, што, магчыма, за гэтым крыгаходам ён здольны бачыць тыя вялізныя зрухі, якія...

— Чакай, Андрэй, не хітруй,— перарваў я яго высокую тыраду.— Ты ж добра ведаеш, што пасля таго, што ты расказаў, ні да якога Кузьмы я не паеду, а паеду з табой. Ты лепш адкажы на мае пытанні.

Пятрэнка весела і шчыра засмяяўся.

— Пазнаю газетчыка! Ведаў, чым цябе даняць! — выгукнуў ён.— Ты Сцяпана Апанасавіча памятаеш? Таго

добраахвотніка, што ў Заракітным, у «Маяку», старшынёй працуе?..

Я сказаў, што памятаю, і нават вельмі добра.

— Ну то вось, дзве гадзіны таму назад ён пазваніў, што сёння ўвечары ў яго будзе нейкі важны сход, і вельмі прасіў мяне прыехаць. А што там у іх такое — не ведаю, па тэлефоне ён мне нічога не сказаў. Значыць, едзем?

— Ну, дружа,— развёў я рукамі.— Гэта проста нейкі цуд. Я ж акурат хацеў прасіць, каб ты дапамог мне дабрацца да «Маяка».

— Значыць, лічы, што табе пашанцавала,— сядаючы ў машыну, усміхнуўся Пятрэнка.

Калі мы пад'язджалі ўжо к доміку, дзе жыў Пятрэнка, я спытаў:

— Але скажы па шчырасці, Андрэй, Прыпяць, крыгаход, аб якім ты мне званіў,— гэта ўсё таксама была твая маленькая хітрасць? Ты проста хацеў выцягнуць мяне з горада?..

— Што ты? — шчыра выгукнуў Андрэй.— Прыпяць, дружа, сапраўды вось-вось праграміць. Ды я спадзяюся, мы яшчэ паспеем і на крыгаход...

* * *

Галоўнага агранома сельгасаддзела Сцяпана Ладуцьку, немаладога, але яшчэ моцнага на выгляд, прысадзістага чалавека з густымі чорнымі вусамі, я добра памятаў не толькі таму, што гэта быў адзін з першых энтузіястаў, які па закліку партыі паехаў за старшынёю ў самы адсталы ў раёне калгас. Пасля вядомага вераснёўскага Пленума ЦК такія паездкі ў вёску нават адказных работнікаў былі з'явай нярэдкай. Можна сказаць, што ў свой час гэта стала нават своеасаблівай модай, і трапляліся кар'ерысты, якія нават спрабавалі спекуляваць на гэтай модзе: звонячы на ўсіх скрыжаваннях аб сваім звышгарачым жаданні дапамагчы партыі і выстаўляючы сябе вялікімі патрыётамі, яны першымі падавалі заявы ў высокія органы, каб іх паслалі на працу ў калгасы, і тут жа з усіх ног кідаліся ў медкамісіі і спецпаліклінікі да дактароў за даведкамі аб дрэнным стане свайго здароўя...

Сцяпан Апанасавіч нідзе асабліва не шумеў і не выстаўляўся. Калі аднойчы на пасяджэнні бюро райкома ўстала пытанне аб замене старшыні ў занядбалым калгасе «Маяк», ён папрасіў слова і без усякай асаблівай афектацыі сказаў, што, калі б члены бюро даверылі яму, ён па-

ехаў бы туды працаваць. І яшчэ дадаў, што добра разумее, які нялёгкі воз бярэцца везці. Прызнаўся, што ў яго нават няма цвёрдай упэўненасці, ці здолее ён павезці гэты воз, бо, як вядома, адных толькі аграномічных ведаў для добрага калгаснага кіраўніка недастаткова. Але ён абяцаў райкому працаваць шчыра, з душою, а што з таго выйдзе — будзе відаць.

Для многіх, хто не вельмі блізка ведаў Сцяпана Апанасавіча, яго заява была даволі-такі нечаканай. У «Маяку» за апошнія гады перабывала з паўдзесятка старшынь, але ніводзін з іх так і не змог зрушыць наперад справы ў гэтым калгасе. «Ану яго да д'ябла, гэты «Маяк»,— звычайна гаварылі скінутыя са сваіх пасад старшыні.— Людзі ў Заракітным несвядомыя, гультаі!..» А апошні старшыня «Маяка», нехта Дармідонт Кружальскі, закінуты туды лёсам з раённай майстэрні па рамонту прымусаў, швейных машын, замкоў і самавараў, ад'язджаючы з калгаса, сказаў так:

— Да гэтых заракітнянцаў трэба дабіраць нейкі асаблівы ключ, тады ўсё там пойдзе на лад. А я, забі мяне, не ведаю, у чым сакрэт іхняга замка!..

І ўжо каму-каму, а Ладуцьку, аграному сельгасаддзела, было добра вядома, якія цяжкасці ён сустрэне, узяўшыся выцягваць з прарыву «Маяк». Да таго ж Сцяпан Апанасавіч быў ужо чалавек пажылы, меў вялікую сям'ю,— ці ж падыходзіла яму мяняць утульнае месца ў сельгасаддзеле і ехаць на злом галавы ў гэты развалены «Маяк»?..

Але сакратар райкома, які ведаў Ладуцьку яшчэ па гадах партызанства ў часы вайны, не здзівіўся яго заяве. Была ў гэтага вусача адна зайздросная якасць: умеў ён, як вобразна казаў небарака Кружальскі, дабіраць ключы да людскіх сэрцаў, ведаў сакрэт чалавечай натуры.

Некалі ў партызанскім атрадзе Сцяпан Апанасавіч быў радавым байцом, але ў час, калі трэба было, скажам, падняць на новы бой да знямогі стомленых бяссоннымі ляснымі паходамі хлопцаў, запаліць іх нянавісцю да ворага, ніхто не ўмеў зрабіць гэтага так, як ён.

Бюро задаволіла просьбу Ладуцькі і рэкамендавала яго старшынёй у «Маяк».

Самы першы крок Сцяпана Апанасавіча ў Заракітным, можна сказаць, яго першае ўступнае слова паказала, што бюро, відаць, не памылілася ў сваёй рэкамендацыі. На перадвыбарчым сходзе, куды расчараваных і зняверaных

калгаснікаў «Маяка» давялося збіраць ледзь не сілком, адразу ж недзе ад парога, з далечы, якая танула ў густым махорачным дыме, пачулася іранічнае пытанне:

— А скажыце, ці надоўга вы, таварыш Ладуцька, прывезлі да нас свае чумайданы?

Сцяпан Апанасавіч устаў, спакойна перачакаў, пакуль сціхне вясёлы рогат у закопчаным ад дыму клубе, і сур'ёзна адказаў:

— Чамаданаў я яшчэ не прывёз. А калі даверыце мне і выбераце, прывязу і думаю, што надоўга.

— Дзіва што! — пачулася аднекуль з кутка.— За такія грошы, як у нас старшыні плацяць, можна і не спяшацца.

Ладуцька памаўчаў, падумаў, кашлянуў у кулак і, паглядзеўшы ў куток, сказаў:

— Што ж, адкажу і пра грошы. Не ведаю, колькі вы дагэтуль плацілі свайму старшыні. А я ў вас думаю працаваць не за грошы, а за працадні. Што вам на іх прыпадзе, тое і мне...

Смех і шум у зале імгненна сціхлі. Калгаснікі здзіўлена пераглядваліся,— ці гэта яны недачулі, ці не зразумелі свайго новага старшыню? Або, можа, Ладуцька не ведае, што яны вось ужо трэці год атрымоўваюць на працадзень нейкую дробязь? Некалі Дармідонт Кружальскі на такім жа вось сходзе перш за ўсё пачаў таргавацца і выгаворваць сабе добры аклад. На ўтрыманне старшыні калгаса даводзілася штомесячна везці на бойню цялушку або добрага падсвінка. А гэты?.. Няйначай, нейкі дзівак. А можа, ён нешта іншае мае на ўвазе?..

Тым часам Ладуцька прадаўжаў гаварыць. Яго словы ў наступіўшай цішыні былі выразна чуваць у самым далёкім куточку клуба.

— Не думайце, што я не ведаю, што ў вас прыпадае на працадзень. Добра ведаю. Але лічу, што перавагі перад вамі ў мяне не павінна быць. Разам будзем выводзіць калгас з прарыву, разам дабівацца высокага працадня!..

У зале было ціха-ціха, толькі чуваць было, як заклапочана пыхкалі самакруткамі мужчыны на пярэдніх лаўках. Нарэшце ад сцяны падняўся адзін калгаснік, у кажусе, у шапцы-вушанцы, як пазней даведаўся Ладуцька, загадчык свінафермы Піліп Чурыла.

— Усё гэта, та-ска-аць, зразумела,— скідаючы з галавы шапку, павольна сказаў ён.— Ды нешта не верыцца... Няўжо зусім, та-ска-аць, бясплатна згаджаешся рабіць?

— Кажу я праўду,— адразу ж голасна адсек Сцяпан Апанасавіч.— І я хачу, каб вы заўсёды верылі мне, таму што не будзе ладу там, дзе народ не верыць свайму старшыні... Што ж датычыць работы, то я бясплатна рабіць не збіраюся. Я не святы, і дзеці мае не анёлкі нябесныя,— кармлю я іх, як і вы сваіх, хлебам надзённым, а не духам святым. А хачу зрабіць так, каб працадзень і хлеб даў, і да хлеба... Зробім — работа наша будзе аплачана, а не зробім, то, значыць, і платы яна не варта ніякай!

Позна ўвечары заракітнянцы прагаласавалі за новага старшыню і разышліся па хатах. Але яшчэ доўга ў размаляваных марозам акенцах заснежанай вёскі свяціліся аганькі,— ніхто не клаўся спаць. Ці ж можна было ў той вечар так адразу заснуць! Бачылі яны за апошнія гады ў сваім калгасе розных старшынь, і многія з іх, заступаючы на гэтую пасаду, абяцалі ім залатыя горы. Абяцалі і назаўтра ж забываліся пра ўсе свае абяцанні... А гэты нейкі не такі, як усе. Зусім з іншага канца пачаў. І, відаць, верыць у тое, што падыме калгас, бо калі б не верыў, то ад платы не адмаўляўся б.

У добрых спадзяваннях мацней забіліся сэрцы калгаснікаў «Маяка»: а што, калі на гэты раз трапіўся ім сапраўдны, варты іх давер'я чалавек!

А новы старшыня як пачаў сваю работу дзіўным нечаканым крокам, так і працягваў працаваць неяк «не так, як усе». Назаўтра, адразу ж пасля сходу, ён падняўся ні свет ні зара і пайшоў у абход па калгасу бліжэй знаёміцца з гаспадаркай. Ідучы па заснежаным дзядзінцы ад кузні да цялятніка, Ладуцька раптам спыніўся і пачаў прыглядацца да дарогі, якая бегла полем у далёкі, ледзь бачны на даляглядзе лес. Упрэгшыся ў нагружаныя дровамі саматужкі, па дарозе памалу, відаць моцна стомленая, крочыла пажылая жанчына. Сцяпан Апанасавіч пастаяў нейкі час, прыглядаючыся, потым звярнуў на бакавую сцежку і пайшоў наперарэз жанчыне.

Барадаты, у гадах, каваль Ахрэм Каляда, які, праводзячы з кузні новага старшыню, быў выйшаў на двор, спыніўся на парозе і, пыхкаючы самакруткай, пачаў з цікавасцю назіраць за старшынёй. Тым часам Ладуцька падышоў да жанчыны, прывітаўся, спытаў, дзе яе чалавек, чаму гэта яна ўзяла на сябе такі цяжкі клопат — сасілам вазіць з лесу дровы.

— А я ўдава,— збянтэжана адказала жанчына.— Няма ў мяне чалавека, самой даводзіцца аб усім думаць.

— Ну добра,— сказаў Сцяпан Апанасавіч,— а чаму ж, калі так, ты не ўзяла ў брыгадзіра каня?

— Уга, сказалі!..— працягнула жанчына.— А хто ж мне яго дасць, таго каня? Ці ж вы нашага брыгадзіра не ведаеце? Лягчэй мне два канцы ў лес зрабіць, чым дабіцца ў яго таго каня. Няхай ён згарыць са сваімі коньмі!..

Сцяпан Апанасавіч задумаўся, апусціў галаву. Потым падышоў да жанчыны, узяў з яе рук адну пастронку.

— Ану, давай я дапамагу табе дацягнуць дахаты.

Жанчына збянтэжылася:

— Што ты, што ты, старшыня! Людзей смяшыць!.. Цягнула гэтулькі, то ўжо зацягну і ў двор...

— Памаўчы ды станавіся побач, разам пацягнем! — прамовіў Ладуцька і, напяўшы пастронак, першым пакрочыў па дарозе.

Стары Ахрэм быў так здзіўлены, убачыўшы ўсю гэтую карціну, што ад нечаканасці ледзь не апёк недакуркам пальцы. Адумаўшыся, ён раптам ускочыў у кузню і крыкнуў:

— Лёнік! Кідай усё і бягом на дарогу. Дапамажы Кацярыне саматужкі з дровамі да двара падвезці.

— А што такое, з якой гэта радасці? — здзіўлены такім імпэтам старога Ахрэма, спакойна спытаў Лёнька, малады, чырванашчокі хлопец, падручны каваля.

— Ды ты не пытайся, разбойнік, а хутчэй бяжы, калі табе гавораць! — загарачыўся Ахрэм і, вывеўшы Лёньку на парог, паказаў: — Вунь, бачыш?.. Новы старшыня ў сані ўпрогся, сарамата якая!

Лёнька бягом кінуўся на дарогу, а Ахрэм усё стаяў і ў роздуме глядзеў на Ладуцьку.

— Чалавек які, а? — збянтэжана мармытаў ён сам сабе ў бараду.— Які чалавек!..

У той жа дзень увечары, яшчэ нават не скончыўшы прыём спраў калгаса, Ладуцька сабраў першае пасяджэнне праўлення. Прамова яго на тым пасяджэнні была кароткай, ды і само пасяджэнне заняло не больш за якую гадзіну. Але ўражанне яно зрабіла на ўсіх большае, чым некалі шматгадзінныя, з лаянкамі і воблакамі дыму, сходы.

— Вось што я хацеў вам сказаць,— задуменна пазіраючы на заплямлены чарнілам і, відаць, ніколі не мыты абрус на стале, сказаў Ладуцька.— Абышоў я сёння гаспадарку, усё агледзеў... Запушчанасць усюды — на фермах,

на складзе, нават у канторы,— проста глядзець брыдка. Што гэта, вы мне скажыце, за ануча на стале заслана, а?..

Усе, хто сядзеў навокал, міжвольна паглядзелі на стол,— на ім і сапраўды заслапы быў як быццам не абрус, а нейкая брудная пакамечаная ануча. Нават не зарубленая па краях. Кружальскі цэлы год тут сядзеў, ні разу не заўважыў, ды і яны, праўду кажучы, не прыкмячалі.

— Мы ўсё скардзімся на нашы благія землі,— працягваў тым часам Ладуцька,— на нізкую ўраджайнасць, на тое, што людзі на работу не ходзяць, а калі і ходзяць, то працуюць, як мокрае гарыць. Усё гэта праўда, але чаму так здарылася, у чым самая вялікая наша бяда?.. Не ў дрэнных землях наша бяда! — галасна выгукнуў Сцяпан Апанасавіч і абвёў позіркам твары людзей.— Бяда ў тым, што занядбалі мы самае галоўнае — чалавека, калгасніка! Забыліся, што не людзі жывуць для калгаса, а калгас існуе для народа, для шчасця людскога. Наша дзяржава падказала нам калектыўную форму жыцця, каб мы сваёю шчырай працай кавалі сабе заможнае і культурнае жыццё. Як жа ў нас паварочваецца язык папракаць і вінаваціць нашых людзей, што яны неахвотна працуюць, калі вось ужо трэці год у «Маяку» на працадзень прыпадае такая дробязь? Заракітнянцы гультаі?.. Няпраўда гэта! Чалавек сам сабе ніколі не вораг. У нашых суседзяў, у «Чырвонай звяздзе», на работу загадваць не трэба, там людзі самі рвуцца на работу. А чаму?..

Збоку на крэсле варухнуўся Піліп Чурыла.

— Чаго тут пытаць? Тут, та-ска-аць, і дурню ясна чаму.

— Вось то ж ба і то, што ясна!..— падхапіў разгарачоны Ладуцька.— Таму што ўвосень там да кожнага калгаснага двара на пароконных фурманках хлеб падвозяць, а ў дадатак па дзесяць рублёў на працадзень налічваюць. Людзі працуюць з ахвотай, не дзіва, што ў іх і гаспадарка, як у вяночку.

Сцяпан Апанасавіч апусціў галаву, нервова пабарабаніў пальцамі па стале.

— А ў нас як выходзіць? Людзям нічога не даюць — яны рабіць не хочуць, а рабіць не робяць, дык скуль жа чаго ўзяць, каб на працадні выдаць? Зачараванае кола выходзіць. І найпершае, што нам трэба зрабіць,— разбіць гэтае кола!

— Добра ты, Сцяпан Апанасавіч, кажаш — разбіць,—

азваўся адзін з брыгадзіраў, Кузьма Прахацкі, нахмураны і як бы ўвесь час нездаволены нечым чалавек.— А як разбіць, вось гэта ты нам скажы.

— А вось слухай,— павярнуўся да брыгадзіра Ладуцька.— Першае слова акурат да цябе і будзе. Удава Кацярына, маці чацвярых дзяцей, з тваёй брыгады, здаецца, калгасніца?.. Дык растлумач жа ты нам, мілы чалавек, як магло такое здарыцца, што гэтая пажылая жанчына і добрая калгасніца, як нейкая сірата абяздоленая, на сабе з лесу дровы возіць, а? І гэта не пры памешчыках і кулаках, не за царом Мікалаем, а пры савецкай уладзе, у калгасе?.. Цябе ж народ за брыгадзіра выбраў, даверыў табе месца старэйшага ў дружнай калгаснай сям'і. А як ты апраўдваеш гэтае давер'е, як аб людзях клапоцішся?..— Сцяпан Апанасавіч памаўчаў, падумаў, акінуў позіркам праўленцаў.— Вось што я вам скажу, таварышы. Пачынаць мы будзем з таго, што да людзей тварам павернемся...

Нялёгка прыйшлося Сцяпану Апанасавічу ў першыя месяцы работы. Уся бяда была ў тым, што ў «Маяку» літаральна не было за што рукі закласці. Агледзеўшы землі калгаса, усю гаспадарку, Ладуцька намеціў сабе для пачатку гэтакі, як бы сказаць, прыцэл, куды рухацца, да якой галоўнай мэты весці калгас. Такой галоўнай мэтай для «Маяка» было крутое, па меншай меры ўдвая, павышэнне ўраджайнасці палёў, прадуктыўнасці фермаў. Але як было гэта зрабіць? Каб павысіць даходнасць фермаў, трэба было мець у дастатку кармоў, мець добрыя памяшканні для жывёлы. А ў «Маяку» кармоў было акурат столькі, каб каровы да вясны не паздыхалі з голаду. А палі?.. Ім трэба было даць добры догляд, вывезці на іх сотні тон гною, тоны мінеральных угнаенняў. А за якія сродкі купіць гэтае мінеральнае ўгнаенне, калі на рахунку калгаса была, як горка смяяліся заракітнянцы, круглая дуля?..

Зноў-такі ні аб якім зруху нельга было і думаць, не ўзяўшы ў калгасе дысцыпліну працы. А для гэтага трэба было зараз жа, без усякіх пустых слоў і абяцанак, неяк заахвоціць калгаснікаў. А як?.. Многія калгасы ўвялі новую аплату працы — штомесячнае авансаванне калгаснікаў па працаднях. Але ў «Маяку» нельга было гэта зрабіць. Чым жа авансаваць, калі не было ні грошай, ні збожжа, ні даходаў з ферм?

На людзях Сцяпан Апанасавіч заўсёды трымаўся спакойна, упэўнена, стараўся не гарачыцца, не панікаваць. Але ўночы, калі заставаўся сам-насам са сваімі невясёлы-

мі думкамі, у яго здараліся хвіліны сумнення і няўпэўненасці. Сцяпан Апанасавіч сярод ночы ўставаў, запальваў святло і хадзіў, хадзіў у цяжкім роздуме па хаце... Не, відаць, не па сіле быў яму гэты воз, не адолець яму высокую гару ўстаўшых перад ім перашкод... Не адолець? Але ж і адступаць не было як, сорам было перад людзьмі, а яшчэ больш — перад уласным сумленнем.

Неяк Пятрэнка, старшыня райвыканкома, з якім Сцяпан Апанасавіч часта раіўся, расказваў свае планы, спадзяванні і сумненні, падказаў Ладуцьку цікавую думку. А што, калі б Ладуцька для пачатку паспрабаваў узяць у дзяржавы грашовую пазыку? З грашыма, калі скарыстаць іх з розумам, па-гаспадарску, можна шмат чаго зрабіць.

Ладуцька горача ўхапіўся за гэтую думку. Гэта была рызыка, але ж разумная рызыка з добрым гаспадарчым разлікам — добрая справа. Грошы ёсць грошы, і калі іх выкарыстаць разумна, яны абавязкова павінны прынесці прыбытак. І Ладуцька пайшоў на рызыку. Пайшоў, хоць яму давялося вытрымаць немалую барацьбу. Не хацелі заракітнянцы лезці ў доўг. «Расплывуцца грошыкі, як заечае сала, а тады што рабіць? З малатка ўсю гаспадарку пускаць?..»

Але Сцяпан Апанасавіч настаяў на сваім, і калгас узяў у банку адразу буйную пазыку — сто тысяч рублёў. Маловеры не суніманіся: «Ну,— казалі яны,— тыя старшыні былі разумнікі, а гэты вусач за ўсіх мудрэйшы,— пусціць нас па свеце з торбай!» Але Ладуцька не крыўдзіўся. Ён разумеў, што ішлі гэтыя абразы не ад асабістай непрыязні да яго, а таму, што людзі зняверыліся, баяліся за лёс калгаса.

«Вялікі паварот» у калгасе, як пазней, успамінаючы тыя не так далёкія дні, гаварылі заракітнянцы, пачаўся з малога — на пазычаныя грошы былі закуплены кармы для кароў і свіней, і адразу ж на свінаферме паставілі на адкорм дзесяткі два лепшых падсвінкаў. Гэта быў першы гаспадарчы крок новага праўлення. Разлік быў просты: лепш даглядаць кароў, дабіцца большых надояў і пачаць у горадзе продаж малака, а свіней — адкарміць і таксама пусціць на продаж. У дадатак да тых кармоў, што закупілі, Сцяпан Апанасавіч зрабіў і другое — кінуўся на машыне туды-сюды і неўзабаве дамовіўся з спіртзаводам, што будзе забіраць у іх барду для адкорму свіней, а за гэта ўвосень разлічыцца з імі бульбай.

Два гады на беразе калгаснай сажалкі стаяў без руху

сапсаваны паравічок, усё збіраліся заракітнянцы і ніяк не маглі — не было за што! — адрамантаваць машыну. Замяло снегам замкнутыя дзверы доміка, дзе стаяў паравік, паржавелі завалы. Ладуцька сабраў праўленне, параіўся, прыкінуў, што можа даць калгасу невялікі млын, крупарушка і пілацыркулярка, якую некалі прыводзіў у рух гэты паравічок, і парашыў ажывіць машыну. У горадзе быў наняты механік, і праз які тыдні два над сажалкай запыхкаў парай ажыўлены паравічок, завішчала цыркулярка.

Набліжалася вясна, і Сцяпан Апанасавіч нанава абмеркаваў з праўленцамі план веснавых пасеваў. Быў гэты план складзены цяпер з адным разлікам — як лепш і з большым прыбыткам выкарыстаць землі калгаса, як павысіць ураджайнасць? На палеткі па саннай дарозе пацягнуліся абозы з гноем. З грашыма і патрэбнымі паперкамі на Украіну, у далёкую Вінніцкую вобласць, былі мандзіраваны два пасланцы за насеннем нейкай асаблівай высокаўраджайнай кукурузы.

Мінуў кароткі час, і заракітнянцы са здзіўленнем адчулі, як уся іх вялікая гаспадарка пачала памалу ажываць. Здаецца, нідзе яшчэ і не было ніякіх асаблівых вынікаў, і ўсё ж адчувалася, што недзе нешта скранулася з месца, і гэтае адчуванне руху, адчуванне нейкага ажыўлення перадалося ўсім.

Сцяпан Апанасавіч уставаў штодня ў шэсць гадзін раніцы, выпіваў шклянку халоднага малака, падрыхтаваную яшчэ звечара, і ішоў у кантору. Па прыкладу старшыні туды к гэтаму часу падыходзілі брыгадзіры. Абмеркаваўшы і ўдакладніўшы з імі план работы на дзень, Сцяпан Апанасавіч ішоў у свой штодзённы абход па калгасу — абыходзіў палі, фермы, наведваў будаўнічую брыгаду. Дзе дасць параду, як лепш рабіць, дзе папракне за нядбайнасць, дзе падахвоціць вясёлым словам. Старшыню можна было бачыць сярод людзей на світанні, удзень і да позняй ночы, і ніхто не ведаў, калі Сцяпан Апанасавіч адпачываў.

А неўзабаве ў «Маяку» адбыліся і больш прыкметныя навіны. Адкарміўшы і прадаўшы свіней, калгас разжыўся на грошы. І вось Сцяпан Апанасавіч прапанаваў праўленню частку іх адкласці на гаспадарчыя патрэбы калгаса, а частку адразу ж раздаць калгаснікам у аванс на працадні. Можна сабе ўявіць, як пасля гэтага акрыялі духам заракітнянцы! А гэта ж быў яшчэ толькі пачатак...

...На вялікі жаль, на гэтым, бадай, і канчалася ўсё, што я ведаў пра Сцяпана Ладуцьку і пра «Маяк». Праўда, па-

зней час ад часу да мяне рознымі выпадковымі шляхамі даходзілі некаторыя весткі пра гэты калгас. Так, аднойчы, прыблізна праз паўгода, мне сёе-тое расказваў пра Ладуцьку Пятрэнка, які быў прыехаў у Мінск на нейкую нараду. Крыху пазней я натрапіў на невялікую заметку пра «Маяк» у абласной газеце.

З усіх гэтых выпадковых крыніц я ведаў, што справы ў «Маяку» паляпшаліся, але рост гаспадаркі адбываўся няроўна, з цяжкасцямі. Не раз здаралася, што, прыпёрты да сцяны складанымі акалічнасцямі, Ладуцька вымушаны быў адступаць, атрымліваў паражэнне. Але, як сапраўдны стратэг, ён тут жа вынаходзіў які-небудзь абходны манеўр і зноў пачынаў наступленне. У газеце ўжо нават проста пісалася, што за апошні год «Маяк» пачаў выходзіць у рады лепшых гаспадарак раёна, і калі калгаснікі здолеюць замацаваць свае першыя поспехі, ёсць падставы спадзявацца, што ў наступным годзе «Маяк» зможа дагнаць свайго суседа-мільянера «Чырвоную звязду».

Натуральна, што пасля таго, што мне было вядома пра Ладуцьку, я зараз ехаў у «Маяк» з вялікай цікавасцю: як цяпер жылі заракітнянцы, што новага ў калгасе? Якія маглі ўзнікнуць там такія важныя пытанні, што Сцяпан Апанасавіч палічыў патрэбным запрасіць на сход старшыню райвыканкома? Была б гэта якая дробязь, Ладуцька, напэўна, не турбаваў бы яго...

* * *

Быў красавік, і вясна ішла ў сваю апошнюю пераможную атаку. Цёплы вецер смела і весела шугаў над палямі, разносячы вакол пахі ажываючай зямлі. Усюды па дарогах, па разорах палеткаў тысячы ручаінак і ручаёў вызвоньвалі вясёлую песню вясны, змываючы на сваім шляху апошнія лапікі снегу.

Але нам было не да весялосці. Дарога ў Заракітнае ператварылася для нас у сур'ёзнае выпрабаванне. Раз-пораз трапляючы ў непралазнае месіва гразі, наш шматпакутны «газік» вурчаў, як злоўлены ў пастку разлютаваны звер. Часамі ён да знямогі, на ўсе свае сорак конскіх сіл тузаўся па гразі, не ў сілах скрануцца з месца, і мы вымушаны былі адступаць, даваць круга, аб'язджаючы расквашаныя кавалкі дарогі. Бездараж была такой, што ў Заракітнае мы прыехалі са спазненнем гадзіны на тры. Калі пад'язджалі да сяла, было ўжо цёмна і хаты здалёк свяціліся агеньчыкамі вокнаў.

Неўзабаве мы пад'ехалі да клуба. Сход ужо ішоў, і мы, не марудзячы, накіраваліся ў клуб. Зайшоўшы ў залу, Пятрэнка асцярожна пачаў прабірацца паміж людзей да стала прэзідыума. У зале было поўна людзей, і сіні папяросны дым плаваў пад столлю густою чаднаю хмарай. Клуб, як і ўсё сяло, асвятляўся электрычнасцю,— нядаўна заракітнянцы падключыліся да дзяржаўнай кальцавой высакавольтнай лініі. Гэта была ўжо навіна для калгаса.

На сцэне, якая крыху ўзвышалася, за сталом, пасярэдзіне, сядзеў Ладуцька, а з бакоў — знаёмы мне дырэктар мясцовай школы Алесь Шарай, што працаваў у «Маяку» сакратаром партарганізацыі, і два калгаснікі. Сцяпан Апанасавіч быў апрануты ў суконную гімнасцёрку, якая шчыльна аблягала яго шырокія плечы. З таго часу, як я яго памятаў, ён як быццам зусім не змяніўся з выгляду. Той жа строгі, спакойны позірк вачэй, тыя ж густыя чорныя вусы; хіба што, можа, з твару крыху пахудзеў ды некалькі новых зморшчынак пралягло пад вачыма. Кідалася ў вочы і яшчэ адна новая рыса ў вобліку Ладуцькі — яго нейкая акрылёнасць, упэўненасць.

Убачыўшы Пятрэнку, Сцяпан Апанасавіч увесь ажывіўся, узрадаваўся. Ён адразу ж устаў і звярнуўся да сходу з прапановай увесці старшыню райвыканкома ў прэзідыум. Гэта было як быццам дробнае і фармальнае пытанне,— вялікая справа, будзе ці не будзе пацверджана сходам права Пятрэнкі сядзець за сталом прэзідыума! Але ў гэтым учынку быў увесь Сцяпан Апанасавіч: ён паважаў людзей, і такія пытанні не былі для яго дробяззю. Дзе толькі мог і як мог ён прывіваў калгаснікам пачуццё ўласнай годнасці, пачуццё таго, што яны, і толькі яны, з'яўляюцца паўнапраўнымі гаспадарамі калгаса.

Пазлядаючы на Сцяпана Апанасавіча, у мяне міжвольна ўзнікла думка: а ці не ў гэтай яго глыбокай павазе да людзей хаваўся сакрэт таго, што яму за такі кароткі час удалося паставіць на ногі гаспадарку «Маяка»? Ці не ў яго любві да людзей, у спачуванні да іх патрэб, да іх радасцяў і бядот быў той таямнічы ключ, якога не мог знайсці Дармідонт Кружальскі?.. Людзі паверылі яму і сабе і пайшлі за ім, і, напэўна, у гэтым быў увесь сакрэт поспеху Сцяпана Апанасавіча. А як яшчэ часта некаторыя нашы кіраўнікі не бачаць, не разумеюць, у чым іх бяда!..

Сход абмяркоўваў пытанне, якое, відаць, моцна хвалявала ўсіх, таму што не паспеў Пятрэнка заняць сваё месца за сталом, як недзе з сярэдніх лавак голасна і за-

пальчыва папрасіў слова чарговы прамоўца. На сцэну выйшаў усё ў тым жа сваім нязменным кажушку Піліп Чурыла.

— Я, таварышы, скажу коратка,— рашуча махнуў ён шапкай-вушанкай.— Тут, та-ска-аць, многія гаварылі паўсякаму, а я так думаю: не можам мы назад адступаць! Ніхто нам не даў такога права — адступаць. А тое, што нам тут Сцяпан Апанасавіч прапануе, гэта адступленне. Вось! Як жа выходзіць?.. Некалі ў нас на фермах вясной кароў ад голаду даводзілася, та-ска-аць, за хвасты падымаць. Дык яно, канешне, тады мы і не скардзіліся, што не было нічога на працадні. Але зараз гаспадарка наша, та-ска-аць, угору пайшла, і людзі падахвоціліся, паверылі ў калгас, лепш сталі жыць, то не маем мы права адбіраць ад людзей іх кроўнае, заробленае мазалём... Я, та-ска-аць, адзінадушна галасую супроць!..

— Мне слова! — раптам рэзка выгукнула аднекуль з кутка маладая дзяўчына, ледзь толькі скончыў гаварыць Піліп Чурыла.

— Калі ласка, Алена Васільеўна, выходзь,— прыглядзеўшыся ў зал, сказаў Ладуцька.

Дзяўчына паспешліва і, відаць, моцна хвалюючыся, узышла на сцэну. Твар яе гарэў чырванню, яна нервова камячыла рукамі ражок накінутай на плечы стракатай хусткі.

— Вы, таварыш Чурыла, галасуеце супроць, а я «за» і ўсіх заклікаю падтрымаць прапанову праўлення. Тры гады мелі мы на працадзень адны слёзы, і нічога, жылі неяк. А цяпер мы ўжо вельмі запанелі, не хочам якіх паўгода без штомесячнага авансу папрацаваць. Ці ж тут гаворка ідзе аб канчатковым адмаўленні авансавання па працаднях? Зусім не! Гэта ж Сцяпан Апанасавіч прапануе толькі часова, на некалькі месяцаў, адмяніць яго і адмяніць для чаго? Каб павярнуць грошы на гаспадарку, каб даць калгасу яшчэ большы разгон, каб яшчэ больш важкім стаў наш працадзень!.. Гэта, таварыш Чурыла, не адступленне, а, калі ўжо гаварыць па-ваеннаму, накапленне сіл для новай атакі. Зробім, як казаў таварыш Ленін, крок назад, каб потым ступіць два, тры, пяць крокаў наперад. Вось якая мая думка!

У зале зашумелі, загаманілі. Многія падтрымлівалі дзяўчыну, але былі і такія, што не згаджаліся з ёю.

— Правільна, Алена!

— Добра сказала, малайчына!

— Іш, разумная, куды павяла!
— Даволі ўжо, што некалі рабілі задарам!
— Ну і што ж, трэба і наперад глядзець!
Сцяпан Апанасавіч устаў, усміхаючыся, пастукаў рукою па стале:
— Цішэй, таварышы! Хто хоча яшчэ гаварыць?..
Але шум у зале супакоіць не ўдавалася. Слова папрасіў нейкі стары дзядок з тоўстым, акуратна абструганым ядлоўцавым кіем. Дзядок бадзёра выйшаў на сцэну і, моцна прыстукваючы кіем аб падлогу, пачаў нешта натужліва крычаць тонкім, брынклівым голасам. Што ён гаварыў, разабраць было цяжка, але па тым, як ён строга гразіўся ў бок Чурылы і якімі гарачымі выгукамі адабрэння падтрымлівала яго Алена са сваімі прыхільнікамі, можна было здагадацца, на чыім баку быў дзядок.
За дзедам слова ўзяў каваль Ахрэм, за Ахрэмам выступіў брыгадзір паляводчай брыгады Кузьма Прахацкі. Прамоўцы змянялі адзін другога, выступалі горача, з запалам.
Як можна было здагадацца з усіх гэтых прамоў, пытанне і сапраўды было хвалюючым і важным. З год таму назад, калі гаспадарка «Маяка» яшчэ толькі пачала памалу ўмацоўвацца, Сцяпан Апанасавіч адважыўся на дзёрзкі крок: увёў штомесячны грашовы аванс па працаднях. Многія тады пярэчылі, гаварылі, што крок гэты заўчасны. Але ў Ладуцькі тады былі свае разлікі: штомесячны аванс, безумоўна, павінен быў зрабіць уплыў на павышэнне працоўнай дысцыпліны.
І Сцяпан Апанасавіч не памыліўся. Як толькі калгаснікі ўбачылі, што на зароблены я працадні штомесячна выдаюць грошы, усюды — на фермах, у брыгадах — адразу ажыла работа. На працу пачалі выходзіць людзі, якія да гэтага часу адмаўляліся ад усякага ўдзелу ў жыцці калгаса.
Усё было б добра, калі б калгас меў сродкі на такое авансаванне. Але грошай у «Маяку» было мала, і ў першыя месяцы Ладуцьку давялося сустрэцца з немалымі цяжкасцямі. Але з часам усё пачало наладжвацца: калгаснікі працавалі ахвотней, лепш, і, натуральна, прыбыткі ў калгасе раслі. А гэта, у сваю чаргу, давала магчымасць лепш аплочваць працадзень. Усё пайшло, як у наладжанай машыне.
Але мінуў час, і Сцяпан Апанасавіч адчуў, што зараз то машына ідзе, і ідзе як быццам нядблага, але для

таго, каб яна і ў далейшым працавала і магла развіць яшчэ большую магутнасць, трэба сёе-тое ў ёй замяніць, падладзіць, узвесці пад ёю мацнейшы фундамент. Улічыўшы, што пры разліках за мінулы год калгаснікі атрымалі на працадні нямала і грошай, і збожжа, Ладуцька прапанаваў праўленню адмовіцца на некалькі месяцаў ад штомесячнага грашовага авансу і павярнуць гэтыя сродкі на гаспадарку калгаса.

Гэта была разумная прапанова. У калгасе трэба было шмат чаго зрабіць — пабудаваць новы кароўнік, новае гумно, купіць грузавую аўтамашыну, набыць тэхнічнае абсталяванне для насоснай устаноўкі на агародзе, прывесці ў парадак сажалку і наладзіць там невялікую рыбную гаспадарку. Прапанова была зроблена з добрым гаспадарчым прыцэлам, і праўленне калгаса, не хістаючыся, ухваліла яе. Але на агульным сходзе яна выклікала спрэчкі: не ўсе здолелі ўбачыць яе далёкія выгады, затое ўсім было зразумела, што ў наступным месяцы яны не атрымаюць авансу на працадні. Было тут над чым задумацца, была прычына паспрачацца.

Сцяпан Апанасавіч прадбачыў, што яму з Шараем не пазбегнуць гарачай бойкі на сходзе, і перад пачаткам сходу крыху хваляваўся. Вось чаму ён і папрасіў прыехаць на сход Пятрэнку,— як-ніяк, старшыня райвыканкома ўсё ж можа моцна падтрымаць праўленне, калі ў гэтым узнікне пільная патрэба.

Але чым далей ішлі спрэчкі, тым больш відавочна станавілася, што большасць калгаснікаў правільна зразумела прапанову Ладуцькі, і ўжо можна было не хвалявацца за вынікі сходу. Апошнюю гіру на шалі спрэчак кінуў сваім выступленнем Пятрэнка. Яго прамова раз-пораз перарывалася дружным смехам у зале, выгукамі адабрэння.

— Тут, на вашым сходзе, сутыкнуліся два процілеглыя погляды,— гаварыў Пятрэнка.— Адны, утаропіўшы позірк у сённяшні дзень і не жадаючы глядзець у дзень заўтрашні, кажуць: не трэба нам ніякія жураўлі ў небе, дайце нам хаця б трымаць за хвост нашу шэранькую сініцу. А вось другія, якія ўмеюць смела марыць, не хочуць спыняцца на паўдарозе, а імкнуцца да лепшага, у свой светлы заўтрашні дзень, разважаюць інакш: як можна задаволіцца нікчэмнай сініцай, калі ў нас ёсць усе магчымасці завалодаць жураўлём? Не, мы не згодны на сініцу, будзем змагацца за жураўля!.. Як бачыце, таварышы, прымаўкі таксама не бываюць вечныя, яны адміраюць, змя-

няюцца. Спрэчка тут ішла аб далейшым вашым жыцці, і я думаю, што вы цяпер самі разумееце, хто тут сёння быў правы...

* * *

Было далёка за поўнач, калі нарэшце скончыўся сход і мы сабраліся ехаць з Заракітнага. Накінуўшы на плечы жоўты дублены паўкажушок, Сцяпан Апанасавіч выйшаў разам з намі з клуба на вуліцу, да машыны. Ён быў нейкі маўклівы, задуменны,— можа, якія новыя думкі трывожылі яго, а можа, проста быў стомлены.

— Што прымоўк? — развітваючыся з Ладуцькам, спытаў Андрэй.— Нябось задаволены, што атрымаў такую дружную падтрымку людзей?

Сцяпан Апанасавіч задумаўся.

— Як тут табе сказаць, Андрэй Фёдаравіч,— ціха адказаў ён.— Вядома, рады... Але ж давер'е людское задарма не даецца, яго трэба апраўдаць, а справа гэта, сам ведаеш, нялёгкая.

Ужо калі паселі ў машыну і пачалі абменьвацца апошнімі развітальнымі словамі, Сцяпан Апанасавіч раптам прытрымаў дзверцы «газіка» і спытаў:

— Дарэчы, Андрэй Фёдаравіч, ці чуў навіну? Перад самым сходам мне з МТС пазванілі...

— А што такое? — спытаўся Пятрэнка.

— Прыпяць кранулася. Сёлета, кажуць, такі крыгаход, што вакол аж уся зямля дрыжыць ад грукату.

— Ну, цяпер верыш, праўду я табе сказаў? — з усмешкай павярнуўся да мяне Пятрэнка.— Дзякаваць за добрую навіну, Сцяпан Апанасавіч. Віншую цябе з вясною!.. Толькі вось бяда,— пажартаваў Андрэй,— не давядзецца мне праз гэты крыгаход сёння дома начаваць,— паедзем да рэчкі...

Бліснуўшы бледнымі промнямі фараў, наш «газік» бясстрашна нырнуў у непраглядную цемень ночы. Добрых гадзіны тры калясілі мы па расквашаных веснавых дарогах, зварочвалі з бальшакоў на вузкія палявыя прасёлкі і зноў выбіраліся на бальшакі, пакуль нарэшце, ужо на світанні, не пад'ехалі да Прыпяці, на пост да старога прыпяцкага бакеншчыка Кузьмы Нупрэевіча, даўняга нашага знаёмага.

Ледзь толькі быў выключаны матор, як усе мы пачулі нейкі своеасаблівы, роўны і магутны шум, што ішоў ад

ракі. Шум гэты то заціхаў і як быццам аддаляўся, то мацнеў, узрастаў да глухога грукату, а часамі ад ракі чуўся такі звонкі ляскат, што ажно рэха аддавалася ў недалёкім лесе.

Мы падышлі к доміку старога Кузьмы, але там нікога не было,— дзверы былі прычынены на клямку. Тады мы пайшлі да ракі, на самы край высокага абрывістага берага. Было ўжо зусім светла, і перад намі ва ўсім сваім непаўторным хараստве адкрылася хвалюючае відовішча. Уся рака, як глянуць, была ў няспынным руху, вялізныя пацямнелыя крыгі сунуліся па вадзе суцэльным ледзяным полем. Крыгі ўспаўзалі адна на другую, крышыліся, утваралі таросы. Глыбы лёду на вачах збіраліся ў высокія дзівосныя нагрувашчванні і раптам, у адзін момант, знікалі, разбураліся. Лёд не змяшчаўся на рацэ і сунуўся на берагі, нібы цяжкім сталёвым прасам прыгладжваў узбярэжныя лазнякі, тараніў дрэвы, угрызаўся ў пясок берагавых круч. Гул ад руху гэтых вялізных ледзяных мас быў такі, што голас чалавека нячутна тануў у ім.

Дзіўныя, незвычайныя адчуванні выклікаў гэты магутны рух абуджанай прыроды,— у сэрцы нараджаліся нейкія светлыя надзеі, узнікалі няясныя хвалюючыя жаданні...

Раптам збоку, крокаў за пяцьдзесят, пад высокім старым ясакарам, што рос над самым берагам, мы заўважылі постаць Кузьмы Нупрэевіча і побач з ім маленькага хлапчука. За шумам крыгаходу стары, відаць, і не чуў, як мы пад'ехалі. Нахіліўшыся да хлопчыка, Кузьма Нупрэевіч нешта расказваў яму і паказваў рукою на раку.

Нас Кузьма Нупрэевіч сустрэў з такім выглядам, як быццам ён зусім не быў здзіўлены нечаканым гасцям і было зусім натуральна, што мы прымчаліся сюды ні свет ні зара ў такую бездараж, каб толькі паглядзець на крыгаход.

Стары адразу ж пачаў расказваць нам пра асаблівасці сёлетняй вясны, пра тое, якой вялікай абяцае быць паводка. А буйная паводка — багаты травастой на заліўных прырэчных лугах і, значыць, добры ўраджай на сена.

— Гэта ж вось учора прывёў унука з вёскі, Мішкам завуць, малодшай дачкі. Аж канае малы, просіць, каб паказаў яму крыгаход. Няхай паглядзіць...

Стары Кузьма клапатліва нахіліўся да ўнука, паправіў яму на шыі чырвоны шарсцяны шалік, завязаны паўзверх доўгага, купленага навырост паліто, асцярожна пахадзіў

пальцам каля маленькага носіка Мішкі. Хлопчык паслухмяна і даверліва дазваляў дзеду ўсе гэтыя аперацыі. Зірнуўшы разы са два на нас вялікімі сінімі вачыма, ён зноў павярнуўся да рэчкі,— відаць, на ўсім свеце зараз не было для яго цікавейшай рэчы, чым гэты таямнічы, з шумам, грукатам і стогнам, рух на рацэ.

У гэты час акурат перад намі на сярэдзіне ракі ўтварыўся вялікі завал, крыгі папаўзлі адна на другую, збіліся ў кучу, нешта вухнула, грымнула, як з гарматы, так што аж пошчак пакаціўся вакол.

— Ого! — прыглядаючыся да ракі, не ўтрымаўся ад здзіўлення Пятрэнка.— Як на вайне ўсё роўна. Акурат як з «трыццацьчацвёркі» ляснула!

Стары Кузьма, які таксама, не адрываючыся, глядзеў на крыгаход, уздыхнуў, паківаў галавою:

— Эх-хе!.. Не ведаць бы людзям ніколі на свеце іншай вайны і не чуць іншага грукату, чым гэты... Праўда, Мішка, а?

Не вельмі разумеючы, аб чым ідзе гаворка, хлопчык зірнуў на дзеда, пераступіў з нагі на нагу і старанна шмаргануў адталым носам.

## 3. СУСТРЭЧА З ЗЕМЛЯКАМІ

Неяк зімою, незадоўга пасля Новага года, да мяне на кватэру нечакана завіталі ўвечары двое знаёмых з Палесся, з вёскі, якая была паблізу ад маёй радзімы: старшыня прырэчнага калгаса Даніла Кузьміч Кушнярoў, мужчына гэтак год пяцідзесяці, выдатны гаспадар і знаўца зямлі, і механік паравіка з таго ж калгаса Нічыпар Ждан, год на дзесяць маладзейшы за старшыню, хударлявы, прыгожы мужчына, з разумнымі, крыху смяшлівымі вачыма. Я быў шчыра ўзрадаваны гасцям.

У родных мясцінах я ўжо не быў з паўгода, а гэтыя паўгода, як вядома, прынеслі нямала змен у жыцці калгасаў. Адбылося нямала змен і на Палессі, і я з цікавасцю пачаў распытваць землякоў аб навінах, аб тым, якія справы прывялі іх у Мінск. Даніла Кузьміч, хітравата прыжмурыўшыся, адказаў, што прыехалі яны ў сталіцу па асабістых справах: ён — праведаць сына, студэнта політэхнічнага інстытута, а Ждан, назбіраўшы кучу грошай, хоча тут агаліць паліцы некаторых аддзелаў універмага, а заадно прыхапіць у аўтамагазіне «Пабеду» або хоць бы «Масквіча».

Магчыма, што гэта было і так, і ўсё ж, ведаючы Данілу Кузьміча як чалавека, які не любіць адразу гаварыць праўду, я яму не паверыў. І не памыліўся. Неўзабаве выявілася, што гэта былі толькі ўскосныя прычыны, а сапраўдная, якую Даніла Кузьміч не хацеў раскрываць да часу, заключалася ў іншым: яны мелі нейкую справу ў Інстытуце механізацыі Акадэміі навук, з якім даўно перапісваліся.

Мы паселі вакол стала, выпілі па чарцы віна, закурылі.

Я ведаў Данілу Кузьміча даўно, яшчэ да вайны, калі ён працаваў брыгадзірам грабароў на асушцы балот. Многа вады сплыло з таго часу. Даніла Кузьміч камандаваў партызанскім атрадам у дні Айчыннай вайны, стаў камуністам, пасля вайны скончыў завочна сельскагаспадарчы тэхнікум і стаў добрым кіраўніком калгаса. Але знешне за гэты час ён змяніўся мала. Быў ён такі ж каранасты, павольны, са строгім удумлівым позіркам, абветраным грубаватым тварам, з якога і зімою не сыходзіў бронзавы загар. Толькі і здолелі зрабіць з ім гады, што пасеребрылі валасы на скронях ды злёгку зморшчынілі твар каля вачэй.

У мяне было такое адчуванне, што землякі зайшлі да мяне не так сабе, а была ў іх, відаць, нейкая справа. І сапраўды, зрабіўшы адну-другую зацяжку, Даніла Кузьміч раптам павярнуўся да мяне.

— А ведаеш, зямляк, мы ж зайшлі да цябе з просьбай. Ты тут бліжэй. Хочам, каб перадаў нашу крыўду пісьменнікам. Нешта мы чытаем, чытаем новыя творы, а цікавых бачым мала. Такіх, ведаеш, каб аж за душу бралі, каб, як пяцікорпусны плуг, аралі і шырока і глыбока, а галоўнае — жыццё паказвалі праўдзіва.

Я запярэчыў Данілу Кузьмічу, назваў рад новых добрых, праўдзівых твораў.

— Не аб гэтых гаворка,— перабіў мяне Даніла Кузьміч.— А вось нядаўна прачытаў я раман пра калгасы,— адна лакіроўка! Не людзі там паказаны, не калгаснікі, не аграномы, не партыйныя кіраўнікі, а, можна сказаць, анёлы нябесныя, адно толькі, бедныя, без крылаў. І жывуць гэтыя анёлы ў такой згодзе, што ў слабавольнага чытача ажно слёзы наварочваюцца на вочы ад расчуленасці. Усё адшліфавана да такога бляску, што прыходзіцца зажмураць вочы, каб часам не папсаваць зрок.

Я ўсміхнуўся, здагадаўшыся, які твор мае на ўвазе

Даніла Кузьміч. Мне гэты раман таксама не падабаўся. Быў гэта яркі ўзор гэтак званай бесканфліктнай творчасці, што ў перакладзе на маё разуменне гэтай з'явы азначае звычайную хлусню, у якой жыццё малюецца роўнай ружовай фарбай, і бедны чытач, як хворы на дальтанізм, бачыць ружовай і зямлю, і неба, і ваду, і лес.

— Ёсць такі грэх, Даніла Кузьміч,— згадзіўся я,— але ж гэты раман не вызначае асноўных тэндэнцый нашай літаратуры, ён не характэрны.

Але Даніла Кузьміч, разгарачыўшыся, не слухаў мяне.

— Перадай гэтаму пісьменніку, што ён са сваім бліскучым лакам не памочнік нам у нашай вялікай справе. Не ўсё ў жыцці ідзе так гладка і хараша, як здаецца такім лакіроўшчыкам.

Даніла Кузьміч памаўчаў, выняў з карабка другую папяросу.

— Што, Нічыпар, расказаць мне яму ці не варта? — павярнуўся ён да свайго механіка.

— Аб чым, Даніла Кузьміч? — не разумеючы, спытаў Ждан.

— Ды пра гэтае... ну, як у Рудні новага старшыню выбіралі.

Нічыпар Ждан усміхнуўся, паціснуў плячыма.

— Раскажу,— махнуўшы рукою, парашыў Даніла Кузьміч.— Вось ты пытаеш пра навіны. Думаю, што ты і сам іх добра ведаеш. Курс цяпер узяты нашай партыяй правільны — даць у калгасы такіх людзей, каб здолелі там навесці сапраўдны парадак. Вунь у Ліпняках — ведаеш, што за Рудняй сяло,— калгаснікі былога партызанскага генерала за старшыню выбралі, а ў Навасёлках — агранома з вышэйшай адукацыяй. Мяне пакуль што народ пакінуў, даверыў, але трэба будзе, відаць, добра за навуку ўзяцца.— Даніла Кузьміч памаўчаў, падумаў.— Ну, але ёсць яшчэ ў нас людзі, і людзі не радавыя, а бывае, і кіраўнікі, якія і цяпер ні каліва не зразумелі значэння верасвёўскіх рашэнняў партыі, а ўспрынялі іх, як чарговую «кампанію»: ага, сказана замяніць дрэнных старшынь калгасаў, ну і замяняюць, а кім замяняюць — аб гэтым у іх малы клопат, абы замяніць! І ты вось паслухай, што з гэтага выходзіць, які канфуз нядаўна здарыўся з былым нашым старшынёй райвыканкома Пераходавым.

— Чаму з былым? — спытаўся я.— Ці ж Пераходаў ужо не працуе старшынёй райвыканкома?

— А ты паслухай да канца, сам зразумееш, ці можна было яму пасля ўсяго, што здарылася, заставацца ў нашым раёне. У Рудні, у «Барацьбіту», праходзілі перавыбары праўлення. Там, калі ты памятаеш, старшынёй калгаса працаваў нейкі Заяц, гультай і няўмека, якіх не часта сустрэнеш. Проста дзіву трэба давацца, як такія людзі на адказныя пасады трапляюць. Ні ведаў у яго няма, ні арганізатарскіх здольнасцей. Сам рабіць нічога не ўмее, а толькі «ўзначальвае агульнае кіраўніцтва». Праваліць такі Заяц работу ў адным калгасе, пераскочыць з дапамогаю «добрых дзядзяў», накшталт Пераходава, у другі, праваліць там — наравіць перакінуцца ў трэці. Скача так і скача, пакуль, нарэшце, не даскачацца. Вось цяпер, дзякаваць партыі, цяжкавата прыйшлося такім скакунам-прайдзісветам, адусюль іх мятлой пачалі выганяць.

Ну, Руднянскі калгас пад кіраўніцтвам гэтага Зайца зусім заняпаў. Ураджаі з году ў год там былі нізкія, жывёлагадоўчыя фермы не раслі, даходу не прыносілі, працадзень — адны слёзы. Невядома, ці ўтрымаўся б гэты Заяц у калгасе далей, але тут акурат адбыўся вераснёўскі Пленум ЦК, і ўсё крута павярнулася. У раёне было вырашана зараз жа змяніць старшыню ў «Барацьбіту».

Перавыбары праўлення ў калгасе — вялікая справа. На сход у Рудню прыехаў сам старшыня райвыканкома Пераходаў. Ды не адзін, а ўтрох. З ім разам старшы аграном райаддзела сельскай гаспадаркі Барсукоў, чалавек разумны, адукаваны, і яшчэ нейкі дзядзька — год так пад сорак, чарнявы, у добрым паліто, у ботах. Вылез гэты дзядзька з машыны апошнім, глянуў мімаходам на людзей, што стаялі каля клуба, на сяло і падаўся ў клуб следам за Пераходавым. Некаторыя з калгаснікаў, відаць, ведалі яго, усміхнуліся, а хто і не ведаў, здагадаўся, хто быў гэты трэці: вось гэтак жа некалі вылазіў з «Пабеды» Пераходава іх цяперашні старшыня Заяц.

Даніла Кузьміч хітравата ўсміхнуўся, прыжмурыў вочы. Механік Ждан з усмешкай засяроджана разглядаў сваю тонкую чарку, як быццам знайшоў у ёй нейкі незвычайны аб'ект для вывучэння.

— А трэба табе сказаць, што новыя рашэнні партыі маюць яшчэ і тое, неацанімае на маю думку, значэнне, што яны актывізавалі ў людзей непрымірымасць да ўсякіх непаладкаў, да фальшу, фармалізму. Дальбог жа, хоць і крыўдна часам бывае, але і прыемна, калі возьме цяпер

слова на калгасным сходзе якая-небудзь старая бабуля, што раней і ў клуб ніколі не заходзіла, ды так цябе прабярэ за які недагляд або памылку, што аж горача становіцца. І злуешся, бывае, а слухаеш — не абы-хто гаворыць, а паўнапраўная гаспадыня калгаса, і клапоціцца яна не за якія-небудзь там дробныя асабістыя інтарэсы, а за агульную справу, за калгас.

Ну, людзей сабралася на сход — паўнюткі клуб. Перад пачаткам сходу Пераходаў па сваёй заўсёдашняй звычцы зарання распісаў з Зайцам, як усё павінна было праходзіць, хто што павінен быў гаварыць, падрыхтоўваў нават рэзалюцыю — гэта ён так разумеў добрую падрыхтоўку да сходу. Ну, выйшаў у зал, адкрыў сход. «Каго выберам у прэзідыум, хто мае якія прапановы?» Не паспеў ніхто азірнуцца, як з месца падхапіўся з паперкай у руках член праўлення Альховік. «Я маю, дазвольце».— «Гавары, таварыш Альховік»,— дазволіў Пераходаў.

«Прапаную выбраць прэзідыум з сямі чалавек. Персанальна таварышаў...» Ну і давай вычытваць па паперцы — таго, таго, Сідарава, Пятрова, вядома ж, і Пераходава, і Барсукова, і таго, трэцяга, у паліто.

Прагаласавалі, хто «за», выбралі прэзідыум, сакратар наладзіўся пісаць пратакол. Адным словам, усё ідзе як па пісанаму. Далі слова для справаздачы Зайцу. Прамыкаў той нешта хвілін з дваццаць, як быццам год не еўшы, ды і сеў — не было яму аб чым гаварыць. Вынікі года ў калгасе такія, што самі за сябе гаварылі.

Першым пасля Зайца ўзяў слова Пераходаў — трэба ж было даць, так сказаць, напрамак спрэчкам. Выступіў і давай крыць: а Заяц такі, а Заяц гэтакі, работу праваліў, надзей не апраўдаў, а да ўсяго — п'яніца. Словам, даў яму поўную атэстацыю. Людзі слухаюць, маўчаць — усё правільна гаворыць Пераходаў. Тым часам Пераходаў накрысе пачаў хіліць да таго, чаго прыехаў: так, каža, і гэтак, Зайца вашага, як не апраўдаўшага сябе, трэба з працы зняць, а выбраць старшынёю рэкамендуем вось таварыша Шарая, работніка райзаготсена. Чалавек ён прынцыповы, працаваў на многіх адказных пасадах. Расхваліў таго Шарая, хоць ты яго не за старшыню калгаса, а за самога міністра выбірай.

Ну, расхваліў і сеў. Відаць, думаў, пакрытыкуюць людзі свайго былога старшыню, выберуць новага, ды на гэтым і кропка.

Але гэтыя мірныя разлікі Пераходава раптам паляце-

лі дагары нагамі. Ды так паляцелі, што ён, як кажуць, рад быў бы ад сораму пад зямлю праваліцца, каб мог. Справа ў тым, што не ў першы ўжо раз гэты Пераходаў прывозіў у «Барацьбіт» старшынь, падобных Зайцу, і не ў першы раз былі руднянцы сведкамі таго, як ён лаяў і бэсціў ранейшага старшыню і расхвальваў новага. А ў выніку выходзіла, што «хрэн рэдзькі не саладзейшы», адзін быў, скажам, п'яніца, а замянілі яго гультаём. Натуральна, што цяпер тут да яго гарачых прамоў адносіліся насцярожана.

«Хто хоча слова?» — пытае Пераходаў. Усе маўчаць. «Хто хоча слова?» Па-ранейшаму маўчаць. «Што ж гэта такое, таварышы, выходзіць? — звяртаецца Пераходаў да калгаснікаў.— Кроўна цікавае для калгаса пытанне на сходзе стаіць, а вы маўчыце, як вады ў рот набраўшы...»

Не разумеў Пераходаў, што была гэта не абыякавасць калгаснікаў, а зацішша перад бурай.

Раптам устае адна жанчына, даглядчыца цялят на ферме, Ганна Касуха, баявая такая калгасніца, і гаворыць: «Вось мы, таварыш Пераходаў, кожны дзень па радыё чуем, ды і вы самі аб гэтым гаворыце, што трэба пасылаць у калгасы лепшых людзей, спецыялістаў, аграномаў, арганізатараў. А вы прывезлі нам Шарая. А мы ж ведаем яго. Калі я не памыляюся, то цяпер таварыш Шарай вагаўшчыком на сенным складзе ў Зарэччы працуе. Хвалілі вы хвалілі гэтага «спецыяліста», а таго нам і не сказалі, што за апошні час ён ужо сем пасад перамяніў, нідзе месца не знойдзе, адусюль яго праганяюць. Відаць, добры спецыяліст!»

Пераходаў аж уздрыгануўся ад нечаканасці,— ну і сказанула бабка. Туды-сюды закруціўся на стуле, пазірае на актывістаў, каб яны падтрымалі яго рэкамендацыю. Але тыя маўчаць, не выступаюць. Устаў Пераходаў, пастукаў алоўвачкам па графіне. «Дзіўнае, кажа, ваша выступленне, таварыш Касуха. Што было, тое прайшло, за свае грахі атрымаў таварыш Шарай спагнанне, і мы ўпэўнены, што, усвядоміўшы свае памылкі, цяпер ён справіцца з работай. Лічу, што выступілі вы не па сутнасці. Хто наступны?»

Тут падымае руку адзін калгаснік з паляводчай брыгады, Мікіта Цыркун. «Не, кажа, не згодзен я з вамі, таварыш Пераходаў, правільна выступіла Ганна. І правільна, і па сутнасці. Падобна, што для вас гэты сход, як для папа абедня ў царкве: абы адслужыць па ўсіх правілах.

А для нас ён усё — і наша жыццё, і наш рост, і нашы працадні. Мы яшчэ не забыліся, як вы нам прывезлі Зайца, як вы яго тады расхвальвалі. Памятаю, глядзім мы, сядзіць сабе за сталом такі шчупленькі мужчынка, сапраўдны зайчык. Выбралі. А паглядзіце цяпер, гэта ўжо вам не заяц, а добры зайчына, можна сказаць, цэлы мядзведзь...»

Тут усе як грымнуць са смеху, аж сцены затрэсліся ў клубе. Пераходаў сядзіць збянтэжаны, а Цыркун знай сячэ сабе далей. «Адпасціўся, кажа, на калгасным дабры наш Заяц, а што гаспадарка наша заняпала, гэта яго мала абыходзіць...»

Тут Пераходаў ачомаўся, падхапіўся: «Дык што ж, таварыш Цыркун, да чаго ты ўсё гэта хіліш? Недавер'е да партыі выказваеш? Цень на таварыша Шарая хочаш кінуць?» Парашыў прыпалохаць Цыркуна. Але таго нялёгка было прыпалохаць. Чалавек ён праўдзівы, сумленны, на вайне ваяваў — тры ордэны на грудзях прынёс. «Не ўблытвайце, кажа ён, таварыш Пераходаў, сюды партыю. Наша партыя даражэй нам за роднага бацьку і маці, і слова яе — самае святое слова. Але вы — гэта яшчэ не партыя. Партыя кажа, каб у калгасы былі пасланы лепшыя людзі, а мы Шарая ведаем. Гэта вы нам такога кіраўніка ў калгас рэкамендуеце? Так выконваеце ўказанні партыі?.. Ашукалі вы нас ужо неаднойчы, то цяпер, выбачайце, мы добра надумаем, перш чым вам паверыць...»

Тут усе як загамоняць, зашумяць. Пераходаў аж збялеў ад хвалявання, забыўся і на тое, што трэба сходам кіраваць. А тут зноў падхапілася адна жанчына і гаворыць: «Не трэба нам вагаўшчыка, у нас з гэтай справай і крывы Амелька спраўляецца. Ды і важыць асабліва няма чаго, трэба спачатку вырасціць, каб было што важыць. Ёсць у мяне прапанова, каб за старшыню ў нас застаўся таварыш Барсукоў. Чалавек ён адукаваны, аграном, справу нашу добра ведае...»

Калгаснікі ў адзін голас падхапілі:

— Правільна! Барсукова за старшыню!.. Агранома!..

Сядзіць наш Пераходаў, як мыла з'еўшы, не ведае, што і казаць. Шарай побач таксама галаву ўпурыў у стол, вушы агнём гараць ад сораму. А Барсукоў нічога, глядзіць па людзей, усміхаецца.

Устаў нарэшце Пераходаў і кажа: «Таварышы калгаснікі, гэта ж калі так пойдзе і кожны каго хоча за старшыню выбіраць пачне, то хто ж у нас у раёне працаваць за-

станецца? Трэба гэтую справу ўзгадніць, абдумаць, ды к таму ж і ў Барсукова яшчэ трэба згоды запытаць...»

«Ну, што ж, кажуць, і ўзгадніце, і абдумайце, што трэба, а Шарая мы выбіраць не будзем, вязіце яго сабе назад...»

Так і не выбралі ў той дзень старшыню калгаса ў «Бараньбіту». На тым сход закончылі, што звярнуліся ў райком з пісьмом — даць ім у калгас сапраўднага спецыяліста, чалавека сумленнага, працавітага, добрага арганізатара і кіраўніка.

А праз які тыдзень дайшлі да нас чуткі, што Барсукоў і сапраўды паехаў у «Барацьбіт» за старшыню. Па ўласнай ахвоце паехаў, кажа, моцна яму народ у Рудні спадабаўся, баявы, прынцыповы, з такімі людзьмі горы можна перавярнуць. І калгаснікі яго аднагалосна выбралі.

А разам прыйшла і другая навіна — знялі з работы Пераходава. Знялі, як не здолеўшага зразумець важных рашэнняў партыі па ўмацаванню калгасаў. Выявілася, што прывёз ён тады ў «Барацьбіт» Шарая, нават не ўзгадніўшы яго кандыдатуры з райкомам: сакратар якраз па справах у вобласць паехаў, а Пераходаў гэтак паспяшаўся «выканаць» указанні пленума.

Даніла Кузьміч замоўк, потым па сваёй звычцы хітравата прыжмурыў вочы, паглядзеў на мяне, і ў яго поглядзе я выразна прачытаў пытанне: «Ну што, зямляк, ці такім складаным, а бывае і супярэчлівым, паказваеце вы жыццё ў сваіх творах? Прыхарошваць ды прыгладжваць ды кветачкі апісваць — няцяжкая справа. А вось закасаць рукавы ды ў бойку пайсці — супроць бюракратаў, фармалістаў, розных чынуш, супроць лайдакоў, сябелюбаў, супроць усякай плесені і дрэні, у імя інтарэсаў народа, у імя сцвярджэння нашай вялікай светлай справы,— ці гарыць у вас гэтым душа, ці хапае пораху, смеласці, жадання?»

Задумаўшыся, я некаторы час маўчаў і нічога не адказваў Данілу Кузьмічу на гэтае яго нявыказанае пытанне. Потым ціха прамовіў:

— Што ж, Даніла Кузьміч, усё ясна. Дзякаваць за крытыку, за добрае слова...

## 4. ЖНІВЕНЬ У АЗЁРАХ

### МАЛЮНКІ

Быў канец ліпеня, і ў Азёрах вось-вось, праз якія тры-чатыры дні, павінна было пачацца жніво. Стаяла гарачыня, суша, жыты ў палях пабялелі. На ўзгорках, дзе сонца

прыпякала мацней, збажына даходзіла ўжо да апошняй жоўтай спеласці, і, калі цяпер па полі час ад часу хваляй прабягаў вецер, чуўся не ранейшы густы і сакавіты шум, а ціхае, сухое шапаценне.

З раніцы, аб'ехаўшы на вазку палеткі, заклапочаны Багдан Шульга, старшыня азёрскага калгаса, спыніў каня каля канторы праўлення. Быў гэта мужчына год пад пяцьдзесят, прысадзісты, крыху таўставаты, грузны, але яшчэ моцны і паваротлівы. Яго абветраны, загарэлы, пакрыты кропелькамі поту твар быў нахмураны.

Узышоўшы на ганак, Шульга спыніўся, падумаў, потым вярнуўся і, рассупоніўшы каня, кінуў яму ахапак свежай канюшыны. Конь адразу пачаў смачна хрумстаць духмяную траву, і Шульга яшчэ нейкі момант задумепна стаяў, наглядаючы, як ён есць. Потым ачнуўся і хутка пайшоў у кантору, у свой старшынёўскі пакойчык.

Не дзіва, што Шульга быў такі заклапочаны, было сёння аб чым падумаць старшыні калгаса. Бадай, няма больш напружанай пары ў сяле, чым жніво. Разам прыспявае і ўборка, і абмалот, і разлікі з дзяржавай,— і ўсё гэта трэба ўправіцца зрабіць за якія дваццаць дзён. У жніво на ўліку кожны дзень і нават гадзіна. Арыфметыка тут самая нескладаная: кожны загублены дзень — загубленыя цэнтнеры хлеба. А ў «Перамозе», як-ніяк, адных толькі збожжавых пасеяна за дзвесце гектараў, так што клопатаў для старшыні хапала.

Галоўнае ж, была такая рыса ў неспакойным характары Шульгі, што не любіў ён, каб азёрскі калгас хто-небудзь у раёне абганяў, імкнуўся заўсёды быць першым.

Багдан Пятровіч асцярожна, нібы прамакаючы, абцёр чыстай хусцінкай твар, пагладзіў вусы. Потым выняў са стала лісты з планамі ўборкі. У каторы раз ён ужо праглядаў гэтыя планы за апошнія дні. Распрацоўвалі іх на пасяджэнні праўлення, абмяркоўвалі на агульным сходзе. Усё тут было запісана, падлічана, разнесена ў роўненька разлінаваныя графы: і хто на якіх участках павінен быў жаць жыта жняяркамі, і хто за імі вязаць і звозіць снапы, і на якія палеткі будзе пушчаны камбайн, і дзе будуць жаць сярпамі.

Але план планам, а ў час працы — Шульга добра ведае гэта — абавязкова, ліха ведае адкуль, вынікне столькі нечаканасцей і розных непрадбачаных перашкод, што калі не праявіць кемлівасці, то можна моцна адстаць. Усяго не прадугледзіш, дробязь якая-небудзь здарыцца, лопне, ска-

жам, на кані пастронак, і вось табе парушэнне плана: будзе стаяць жняярка добрых паўгадзіны, пакуль рымары паладзяць збрую або заменяць яе новай.

Э, ды што казаць, вось яшчэ і жніво не пачыналася, а ўжо не ўсё ідзе як трэба. Гэта ж падумаць толькі, МТС дагэтуль не сабралася прыслаць у Азёры камбайна. У мінулым годзе такой парою камбайнер Сяргей Пашук ужо спакойна пахаджваў па калгасным двары каля свайго самахода, агледжанага і змазанага да апошняга вінта, ды толькі націраў рукі, чакаючы, калі можна будзе выехаць у поле.

А сёлета дырэктар МТС Баброў, зыходзячы з нейкіх сваіх меркаванняў, перакінуў Пашука ў суседняе з Азёрамі сяло Васілішкі, у калгас «Світанне», а да іх, у Азёры, і дагэтуль чамусьці нікога не прыслаў. Світанскі старшыня Парфір Лешчанка, сустрэўшыся неяк днямі ў раёне з Шульгой, пахваліўся, што самаход Пашука ўжо стаіць у іх на двары, на поўным пагатове, і пры гэтым іранічна заўважыў, што ён, маўляў, нідзе не чытаў такога закона, каб абавязкова Шульга штогод першым у раёне рапартаваў аб заканчэнні ўборкі. Намёк, значыць, на тое рабіў, што сёлета першым закончыць уборку ён. Што ж, можа, і закончыць. Толькі гэта яшчэ невядома, раней часу радавацца не варта. Адзін Сяргей, хоць які ён там добры майстар, усяго не прыбярэ, справу рашае калектыў, арганізацыя працы. Ды і без камбайна «Перамога» не застанецца. Шульга, калі трэба будзе, да абкома дойдзе, а машыны даб'ецца. Так што зарання, таварыш Лешчанка, не радуйся...

Багдан Пятровіч расчыніў акно ў цяністы палісаднік, і адтуль дыхнула ў пакой халадком. Шульга абмахнуўся хусцінкай, уздыхнуў... Каго ж там сёлета прышле Баброў у Азёры, і калі прышле, што там у іх закалодзіла? Тры разы ўжо званіў Шульга ў МТС, але ці ж у гэтыя дні дырэктара застанеш у кабінеце,— усё недзе па брыгадах ездзіць, правярае... Калі не Пашука, то няхай бы прыслаў да іх Паўла Бачкова, таксама камбайнер высокага класа, хоць, праўда, і менш увішны за Пашука... Павырасталі, скажы ты, хлопцы на Палессі, каб ім добра было, адзін у адзін. І каб спытаў, адкуль узяліся,— усе свае. Бацькі іх некалі другой прылады не ведалі, акрамя сахі ды цэпа, а гэтыя што вырабляюць! Камбайнам, такой складанай машынай, навучыліся кіраваць, і хоць бы што. А там жа, як паказваў яму аднойчы Сяргей, адных толькі бубачак для змазкі

сто восемдзесят штук, і трэба ўсе іх на памяць ведаць, ні адну не забыць ды яшчэ помніць, праз колькі гадзін якую змазваць...

«Пазваню хіба яшчэ раз,— парашыў Шульга,— можа, акурат пашчасціць застаць Баброва».

Але не паспеў Багдан Пятровіч дазваніцца да азёрскай пошты, як за акном канторы, на вуліцы, пачуўся і заціх трэск матацыкла,— нехта пад'ехаў да канцылярыі. Шульга адняў ад вуха трубку, прыслухаўся. Хто б гэта мог быць, ці не з МТС які трактарыст?

Праз момант у дзверы пастукалі, і ў пакой увайшоў малады чарнявы хлопец без шапкі, у жоўтай, спрытна перахопленай поясам скуранай куртцы.

— Сяргей?— здзівіўся Шульга, нечакана ўбачыўшы Пашука, свайго мінулагодняга камбайнера.— Якім ветрам? Сядай...

Але хлопец заклапочана махнуў рукою, як бы жадаючы сказаць, што яму цяпер не да сядзення. Рысы яго тонкага, прыемнага твару выдавалі ўсхваляванасць.

— Багдан Пятровіч,— падышоўшы ўшчыльную да стала, хутка загаварыў Пашук,— прыехаў я да вас, як да бацькі... З просьбай. Падтрымаеце, век буду ўдзячны.

— А што такое? — зацікаўлена спытаў Шульга, вешаючы трубку.

— Папрасіце Баброва, каб ён перавёў мяне працаваць да вас, у Азёры...

Твар Шульгі нахмурыўся.

— У Азёры? А чаму?..

— Ці ж я дрэнна рабіў у вас, Багдан Пятровіч? — не растлумачваючы прычын, пачаў угаворваць Сяргей.— Ці мала прыбраў, ці нядобра вымалачваў? А?.. Ніводнай заўвагі ад вас за ўсё лета не меў. А сёлета ўзяўся я прыбраць шэсцьсот гектараў. І прыбяру! — бліснуўшы вачыма, выгукнуў Сяргей.

Твар Багдана Пятровіча нахмурыўся яшчэ больш.

— Позна ты спахапіўся, Сяргей, не згодзіцца на гэта Баброў.— Шульга паваліўся грудзьмі на стол, апусціў галаву.— Я і вельмі хацеў бы, каб ты працаваў у нас, але... не з рукі мне зараз прасіць аб гэтым. Не хочацца мне, каб той баламут Лешчанка званіў потым на ўвесь раён, што я цябе пераманіў ад яго. Сам разумееш — дысцыпліна ва ўсім павінна быць...

Сяргей памкнуўся да стала, захваляваўся.

— Дзядзька Багдан, вы паслухайце!.. Тут у мяне та-

кая справа... Закахаўся я. Ні жыцця, ні спакою мне без той дзяўчыны няма. Ва ўсім прызнаюся вам, як бацьку... А яна толькі ўлетку і бывае дома, у час канікул.

Шульга задумаўся.

— Не ведаю, што табе на гэта і сказаць... А яна цябе любіць? Калі любіць, то пачакае...

Сяргей горка скрывіўся, махнуў рукою.

— Э-э, любіць... Кажа, пакуль не скончу вучыцца, замуж не пайду. А калі тое будзе... Не веру я ёй. Напэўна, не любіць.

— Ну што тут сказаць? — развёў рукамі Шульга.— Каханне, браток, каханнем, а справа — справай. Дапамагчы табе цяпер не ў маіх сілах.

Апусціўшы ў стол вочы, Сяргей памаўчаў. Потым падняў галаву, рукамі паправіў пояс.

— Ну што ж, дзядзька Багдан, калі нельга, то нельга. Я на вас не ў крыўдзе. Няхай будзе як ёсць.

— Слухай, Сяргей, а скажы, калі гэта не ваенная тайна, каго ты тут аблюбаваў, ці не старога Дворака дачку?..

— Ае,—кіўнуў галавою Сяргей.

Шульга адкінуўся на спінку крэсла:

— Акурат учора бяляначка тая прыехала ў Азёры. На канікулы. Расказвала, што пасля вучобы некуды яшчэ на экскурсію па пуцёўцы ездзіла...

— Прыехала?! Гэта праўда, дзядзька? — стараючыся стрымаць сваю радасць, спытаў Сяргей.

— Ну вядома, праўда, дзівак. Прыходзіла да мяне, каб даў ёй якую работу ў брыгадзе на час жніва. Ну, то я яе вязальшчыцай снапоў прызначыў.

— Да пабачэння, дзядзька Багдан!..— хутка паціснуў руку Шульгу Сяргей і адразу павярнуўся ісці. Але, не дайшоўшы да дзвярэй, раптам затрымаўся: — А між іншым, Багдан Пятровіч, да вас ведаеце каго за камбайнера прышлюць?

Шульга ўвесь ажно страпянуўся.

— Што?! І ты дагэтуль маўчаў? Ах ты ж лайдак! Каго, кажы хутчэй, можа, Бачкова?..

— Якога там Бачкова! З поўдня, аднекуль аж з Краснадарскага краю ідуць да нас на Палессе камбайны.

— З Краснадарскага краю? — у здзіўленні ўтаропіўся на Сяргея Шульга.

— Ну так... На поўдні ўжо амаль закончана ўборка, вось і перакідаюць частку камбайнаў у Беларусь. Адно —

у парадку брацкай узаемавыручкі, а другое — стратэгічны манеўр, так сказаць, дзеля паўнейшага выкарыстання тэхнікі. Даюць камбайнам двайную нагрузку.

— Ты глядзі, як дадумаліся! — у захапленні выгукнуў Багдан Пятровіч.— Што значыць, калі ўсё — народнае, уся краіна — адна вялікая сям'я!

— У вас у «Перамозе» будзе працаваць... як жа яго завуць, забыўся... Крывачуб, здаецца... Ага, так, Грыцыян Крывачуб. Украінец...

— Грыцыян Крывачуб?..— павольна, па складах, перапытаў Багдан Пятровіч, малюючы сабе ў галаве вобраз чалавека, які насіў такое імя.— А скажы, пажылы ён ці малады?.. Трэба ж мне ведаць, што за чалавек, як яго прыняць, прывеціць...

— Не ведаю,— зняважліва махнуў рукою Сяргей,— біяграфіі яго не вывучаў. Між іншым, хто б ён ні быў, перадайце яму, дзядзька Багдан, што выклікаю яго на спаборніцтва і, успамянеце маё слова, наламаю краснадарцу хрыбта!

— Ты чакай, чакай, не гарачыся,— убачыўшы, што Сяргей павярнуўся ісці, паспешна сказаў Шульга.— Абыкаго з Краснадара да нас не пашлюць. Я думаю... Ды ты пачакай...

Але Сяргей рашуча пайшоў да дзвярэй.

— Сяргей! — гукнуў Шульга, ды дзе там было яго цяпер запыніць, калі даведаўся ён аб прыездзе Ксені. Праз хвіліну на дварэ пачулася гудзенне матора, і неўзабаве матацыкл патрашчаў усцяж па вуліцы. Шульга толькі асуджальна паціснуў плячыма: ну і гарачая галава гэты Пашук...

Багдан Пятровіч зноў асцярожна прамакнуў хусцінкай на лбе кропелькі поту. Значыць, усё ідзе на лад, будзе ў Азёрах камбайн. Грыцыян Крывачуб... Не павінна, каб гэта быў які малакасос або няўмека, пасаромеюцца такога з Краснадара да нас пасылаць. Чалавек, напэўна, з вопытам, з практыкай. Ды ўжо, напэўна, добры работнік, калі ўправіўся і ў сябе там, у стэпах, прыбраць, і да людзей на дапамогу едзе. Відаць, гэтакі каранасты мужчына, гадоў пад сорак. Яно і лепш, калі чалавек у гадах, спакойны, разважлівы. А то вазьмі гэтага Сяргея — і добры хлопец, а згаварыцца з ім цяжка — малады, гарачы... Вось толькі куды, да якой гаспадыні гэтага Крывачуба на кватэру прыладзіць. Гэты Грыцыян, мусіць, любіць смачна паесці. Ды яно і не дзіва, работа ў камбайнера нялёгкая. Да таго

ж украінец, яму, напэўна, падай галушкі з макам. А ў нас па Палессі ўсё больш дранікі са смятанай. Але і так падумаць — чым горшыя нашы беларускія дранікі за ўкраінскія галушкі?.. А прыняць яго трэба шчодра, каб не забыў дарогу ў Азёры...

* * *

Увечары разносчык пошты, трынаццацігадовы Дзімка, сын брыгадзіра першай паляводчай брыгады Данілы Вераб'я, гэтакі дасужы, цікаўны падлетак, задыхаўшыся, з бліскучымі вачыма, ускочыў у хату да старшыні калгаса з весткай, што яго зараз жа выклікае да тэлефона дырэктар МТС Баброў.

Зацікаўлены Шульга кінуў вячэру, на хаду надзеў шапку і, не марудзячы, пайшоў у праўленне.

Баброў сказаў тое новае для Багдана Пятровіча, што прызначаны ў Азёры краснадарскі камбайнер будзе ў іх разам з камбайнам заўтра апаўдні, самае позняе — пад вечар. Прыедзе не з МТС, а з бліжэйшага чыгуначнага паўстанка, і няхай там Шульга дасць указанне падрыхтаваць усё, што трэба, да сустрэчы,— як-ніяк, чалавек прыедзе далёкі, усё яму тут будзе ў навіну. А наконт таго, хто ён і што, жанаты ці нежанаты, пажылы ці малады, то Баброў нічога пра гэта сказаць не мог, бо і сам таго Грыцыяна Крывачуба ніколі ў вочы не бачыў. Чуў толькі, што ў Краснадарскім краі аб ім пісалі ў газетах, хвалілі за добрую работу.

Багдану Пятровічу хапіла і гэтай маленькай даведкі, каб настрой яго адразу падняўся. Добры камбайнер — палова клопату з галавы...

А назаўтра так прыпала, што Багдан Пятровіч тэрмінова павінен быў з'ездзіць у Далінічы,— наспелі ў раённых установах розныя справы. Перад тым як ехаць, Шульга раненька, ледзь прачнулася сяло, забег да свайго намесніка, Цярэшкі Міхальчука, наказаў яму сустрэць Крывачуба і даць тут усяму парадак, калі ён, Шульга, часам забавіцца ў раёне. Ужо выехаўшы з двара, Шульга ўспомніў і загадаў шафёру, Цімку Лужку, спыніць машыну каля дома Данілы Вераб'я. З яго жонкай, Маланняй Ільнінішнай, Шульга яшчэ ўчора дамовіўся, што яна прыме краснадарца на кватэру і сталаванне. Старшыня заскочыў у хату да цёткі Маланні і даў ёй апошнія наказы.

Дом Данілы Вераб'я стаяў побач з хатай старога Дворака, раздзяляў іх толькі невялікі зялёны садок. Выходзя-

чы з двара да машыны, Багдан Пятровіч нечакана ўбачыў з вядром у руках Ксеню, дачку Дворака, студэнтку педагагічнага тэхнікума. Яна акурат пераходзіла дарогу.

— З поўным! — гулліва ўсміхнулася Ксеня.— Усё вам будзе добра, дзядзька Багдан.

— Жартуеш, бялянка,— усміхнуўся ў адказ Шульга і зацікаўлена прыгледзеўся да дзяўчыны. Не, што казаць, вока ў Сяргея вострае, не быў бы то камбайнер, дзяўчыну выбраў лепшую з усяго сяла. Стройная, прыгожая. Белыя валасы кудзёркамі спадаюць на плечы. І да навукі здольная. Хваліўся стары Дворак, што з аднымі пяцёркамі на другі курс перайшла.

Пакуль аж не схавалася Ксеня за варотамі, пазіраў ёй услед Шульга. Так што ажно Цімка Лужок заўважыў гэты погляд і, калі Шульга сеў побач з ім у кабіну, пажартаваў:

— Нешта вы, дзядзька Багдан, вельмі загледзеліся на Ксеню. Ці не нанава жаніцца надумаліся?

Шульга дабрадушна прабурчаў:

— Ты давай, вунь, давай, круці абаранак ды лепш глядзі, куды едзеш. А то ўжо ўсіх курэй у Азёрах павыдушваў...

А калі гадзін у шэсць вечара, справіўшыся ў рёне, Багдан Шульга вяртаўся з Далініч, першае, што ён заўважыў на калгасным двары,— камбайн пасярод дзядзінца.

— Ух ты! — з палёгкай уздыхнуў Шульга.— Як гара з плеч звалілася.

Багдан Пятровіч вылез з кабіны, паціху абышоў вакол камбайна, раўніва ўсё агледзеў і нават пакратаў сёе-тое рукою. Відаць было, што камбайн яшчэ зусім нядаўна быў у рабоце, нават так здавалася, што ад яго яшчэ ішлі пахі краснадарскіх палёў, пахі сухой пшаніцы і палыну, і, дакрануўшыся рукою да матора, можна было адчуць яго неастыглае цяпло.

Машына была знаёмая. Не новая, але яшчэ і не старая, усё вакол у парадку. У двух месцах Цімка Лужок заўважыў у краснадарскім камбайне новае, дробленае, відаць, самім камбайнерам: па-першае, было ў ім узмоцнена дадатковай паласою сталі мацаванне, што злучала капнічель з машынай, а па-другое, былі падоўжаны супроць звычайнага транспартныя шнэкі, прызначаныя для падавання на транспарцёр хлебнай масы.

— Глядзі ты,— здзівіўся Шульга, калі Цімка паказаў яму на гэтыя ўдасканаленні,— з галавою, відаць, чалавек.

І адразу ж заспяшаўся ўбачыцца, пагаварыць з Крывачубам. Заўтра на некаторых палях, дзе жыта паспела ўжо, можна было пачынаць уборку, і трэба было вырашыць з камбайнерам некаторыя практычныя пытанні.

Багдан Пятровіч выйшаў на вуліцу, азірнуўся. Ведаючы, у каго напэўна можна атрымаць самыя дакладныя весткі пра новага камбайнера, Шульга запыніў першых трапіўшых яму на вока падлеткаў. Дзеці сапраўды ведалі, дзе краснадарац, і, перабіваючы адзін аднаго, пачалі гаварыць.

— Тфу на вас, канаплянікі! — махнуў на дзяцей рукой Шульга.— Гаварыце хто-небудзь адзін.

Наперад выступіў белабрысы хлапчук з чубком валасоў на галаве.

— Ён, дзядзька Багдан, пайшоў з Дзімкам Вераб'ём на рэчку.

— Як гэта на рэчку? Чаго? — не разумеючы, спытаў Шульга.

— З вудамі. Мусіць, рыбу лавіць,— не ўцярпеў, уставіў сваё слоўца другі з хлапчукоў.

— Ён Дзімку трохзубага кручка падараваў, адмысловага,— паведаміў трэці.

Багдан Пятровіч разгублена заморгаў вачыма: з Дзімкам пайшоў на рэчку?.. З вудамі?.. Падараваў кручка... Нічога не зразумела! Прыехаў чалавек з вялікай дарогі, ні з кім не пазнаёміўся, не пагаварыў і адразу на рэчку з вудамі, вуды яму ў галаве. Ды яшчэ з кім — з дзіцём, знайшоў кампанію. Багдан Пятровіч збянтэжыўся: а можа, гэты Грыцыян ніякі не пажылы чалавек, а блазан гадоў васемнаццаці. Цяпер жа сярод механізатараў найбольш такая зялёная моладзь, камсамольцы.

Шульга моўчкі павярнуўся і, не слухаючы, што яшчэ там шчабяталі дзеці, хутка пакрочыў дамоў.

А тым часам на беразе Прыпяці, у прыгожай, зарослай лазняком затоцы, закінуўшы ў рэчку вуды, сядзелі побач і ціха гаманілі Дзімка і краснадарскі камбайнер Крывачуб. Багдан Пятровіч нямала здзівіўся б, калі б ведаў, што ў сваіх здагадках ён быў недалёкі ад ісціны. На выгляд Крывачубу можна было даць не больш год дваццаці. Хударлявы, загарэлы твар з тонкім прадаўгаватым носам, дабрадушны, усмешлівы выгляд. На тым месцы, дзе ў пажылых людзей звычайна растуць вусы, у Крывачуба яшчэ толькі бялеў рэдзенькі мох. З-пад шыракаполага, ссунутага на лоб саламянага капелюша глядзелі мяккія з хітрынкай вочы. У постаці, як і з твару, краснадарац быў

хударлявы, сухі, але па ўсім адчувалася, што быў гэта хлопец моцны, як кажуць, мог сагнуцца, але не зламацца. Мускулы дужых, загарэлых рук прыкметна выпіралі з-пад гімнасцёркі, высокія роўныя плечы выдавалі яго захаваную сілу.

Паклаўшы вудзільна на ўваткнутую ў бераг сошку і не спускаючы вачэй з паплаўка, Крывачуб ціха, амаль паўшэптам, расказваў:

— А то яшчэ ловяць у нас вясною язёў... На хрушча. Ну, брат, лоўля! Памятаю, выехаў я неяк уранні на чоўне. Толькі світаць пачало. Падвеславаў да адной кручы, стаў пад яварам...

Тут Крывачуб замоўк, насцярожыўся. Паплавок яго вуды калыхнуўся, вада вакол уздрыгнулася, пакацілася маленькімі хвалямі. Крывачуб паклаў руку на вудзільна, нарыхтаваўся выхапіць вуду. Але паплавок пакалыхаўся і зноў замёр у нерухомасці.

Дзімка нецярпліва варухнуўся:

— Гэта ён так сабе, дзядзька Грыцыян. Расказвайце далей.

Крывачуб усміхнуўся.

— Заві ты мяне, Дзімка, проста Грыцьком... Мяне ўсе так завуць. Гэта некалі поп, каб ён сказыўся, мне такое выкрунтаснае імя прыдумаў... Ну, закінуў я вуду — па-аняслo майго хрушча за плынню. І раптам — жых! Няма хрушча... Я — хоп за вуду — язь! Ну, брат, кілаграмаў на чатыры, не менш.

Дзімка летуценна прыцмокнуў языком.

Сонца паволі закацілася за лес, і неба на захадзе занялося ружовым агнём. Усё навокал як бы прыціхла ў гэты прыгожы ўрачысты час на грані дня і ночы, толькі недзе далёка ў лазе выразна чуўся свіст нейкай балотнай пташачкі. Ад вады на бераг адразу пацягнула прыемным халадком, а па той бок ракі ўзнік і павіс над балотнымі хмызнякамі першы вечаровы туман.

Крывачуб падняўся і моўчкі залюбаваўся шырокай Прыпяццю, што чырванела на захадзе, адлюстроўваючы фарбы неба. Зводдаля паказалася лодка. Каля сігнальнага ліхтара, што стаяў на высокім беразе, лодка спынілася, і неўзабаве ліхтар засвяціўся маленькай яскравай кропачкай. Гэта, відаць, ехаў бакеншчык, гаспадар і даглядчык рачной сігналізацыі. Ён паехаў, і па ўсёй рацэ адзін за другім загараліся сігнальныя агні.

— Скажы ты, любата якая! — уздыхнуў Крывачуб.—

Эх, Дзімка, люблю я рэчку. Сыдзеш з камбайна — стомлены, запылены, адны зубы блішчаць,— і ў ваду бух! Усю зморанасць з цябе як рукой здыме, зноў поўны сілы.

— А вы ныраць умееце? — спытаў Дзімка.

— Умею, брат, і ныраць, і плаваць па-ўсякаму.

— А скажыце, ад той мясцовасці, дзе вы жывяце, мора далёка?

Крывачуб усміхнуўся, паглядзеў на Дзімку,— цікаўны хлопчык, усё яму трэба ведаць.

— Жыву я, Дзімка, пад Белай Глінай, у станіцы Вясёлая. А мора ад нас, ну, як табе сказаць, калі пеша ісці, то і вельмі далёка, а калі на машыне — рукой падаць. Кіламетраў сто.

— Не так і далёка,— задуменна заўважыў Дзімка.

Калі пачало змяркацца, Крывачуб заўважыў:

— Мусіць, пара нам, дружа, ужо і дахаты.

Акуратна зматаўшы вуды, Крывачуб і Дзімка вузенькай сцежкай па лазе пачалі прабірацца да прасёлкавай дарогі. Калі, прайшоўшы з гоні, яны выбраліся з хмызняку, Крывачуб спыніўся, закурыў папяросу.

— Дык ты кажаш, Дзімка, гэты Сяргей Пашук найпершы ў вашай МТС камбайнер?..

— Над ім няма! — з гордасцю, катэгарычна адрэзаў Дзімка.

— А ён што, пажылы ўжо чалавек, даўно на камбайне працуе?

— Што вы, малады ён... Сёлета толькі трэці год на камбайне будзе рабіць... Ды вы хіба яго не ведаеце?

— Адкуль жа, браток, мне яго ведаць? У Краснадары пра яго нешта не было чуваць,—пажартаваў Крывачуб.

Дзімка горда ўскінуў галаву:

— А мы тут пра вас таксама нешта не чулі...

Крывачуб голасна засмяяўся з дасціпнага адказу Дзімкі.

Неўзабаве яны мінулі луг і выйшлі да азёрскіх садоў, што ляжалі на схіле па-над ракой, па левы бок абсаджанай маладымі бярозамі дарогі. З садоў ішоў араматны пах садавіны, і Дзімка міжвольна кінуў вокам на агароджу. Каб не вартаўнік дзед Кузьма ды не ішоў ён з гэтым краснадарскім чалавекам, няблага было б узабрацца на якую раннюю яблыню, паласавацца... Але што дарэмна думаць. Дзімка зморшчыўся і адвярнуўся.

На ўсходзе, дзе неба было цямнейшым, замігцелі першыя зоры. Крывачуб ішоў не спяшаючыся, любуючыся

прыгожым ліпеньскім вечарам. Калі па правы бок дарогі пачаліся палеткі з пасевам, Крывачуб падышоў да жыта, загроб у жменю некалькі сцяблін, агледзеў каласы, а затым, выцершы ў далоню адзін з іх, паспрабаваў зярняты на зуб. Ужо сухія, можна прыбіраць.

— Як прыйдзем, Дзімка, у сяло, не забудзь, пакажы мне, дзе жыве Галоўчанка, а яшчэ дом вашага галавы калгаса Шульгі.

— Старшыня па той бок выгана жыве, можа, заўважылі,— новая хата, дах з чырвонай чарапіцы... А Мікола Дзям'янавіч — ён жа дырэктар школы — пры школе і жыве. Гэта блізка каля нас, за клубам. А нашто вам Мікола Дзям'янавіч?..

Крывачуб усміхнуўся, прыжмурыў вока.

— Ну і дапытлівы ты, Дзімка... На часовы ўлік у яго трэба стаць. Ён жа ў вас парторг.

— А-а,— здагадаўшыся, ускінуў Дзімка галаву.— А наш Сяргей яшчэ толькі камсамолец.

— Ну і што ж... Камсамолец, браток, таксама высокае званне, не кожны варты яго насіць,—адказаў Крывачуб і, памаўчаўшы, дадаў: — А Пашук, відаць, варты...

Скончыліся сады, і недалёка ўжо стала відаць сяло. У адным месцы вузенькая, як праехаць калясьмі, дарожка аддзялялася ад дарогі і бегла наўпрост цераз жытняе поле, відаць, у нейкую недалёкую суседнюю вёску. Жыта густой сцяной абступала дарожку з абодвух бакоў. Падышоўшы да гэтай дарожкі, Крывачуб і Дзімка заўважылі здалёк паміж жыта дзве цьмяныя постаці. Дзімка прыглядзеўся і раптам схапіў Крывачуба за руку.

— Стойце, Грыцько! — шэптам прамовіў хлапчук.— Гэта ж ён і ёсць — Сяргей...

— Які Сяргей? — не зразумеўшы, перапытаў Крывачуб.

— Ну, Пашук, камбайнер... Гэта ён, мусіць, да Ксені прыехаў на матацыкле. З ёю і гуляе... Хочаце, я вас пазнаёмлю?

— Цс-с, Дзімка, не зараз,— абняў хлапчука за плечы Крывачуб.— Няхай гуляе, не будзем яму перашкаджаць.

Дзімка паслухмяна пайшоў за Крывачубам. Але не паспелі яны адысці і некалькі крокаў, як зводдаля пачуўся голас:

— Дзімка — ты?.. Бягом сюды!

— Пазнаў...— ціхенька шапнуў Дзімка Крывачубу.— Бегчы?

— Што ж, ідзі, калі кліча. Я пачакаю.

Дзімка перадаў Крывачубу вуду, рыбу, нанізаную на лазовы дубец, і бягом кінуўся да Сяргея. У вечаровай цішыні Крывачуб выразна чуў іх гаворку.

— Хто гэта з табою?

— Наш кватарант, камбайнер.

— Той, што з Краснадара?

— Ага...

— От дарэчы,— спакойна і нават узрадавана заўважыў Сяргей, але адчувалася, што ён захваляваўся, не чакаў тут гэтай сустрэчы.— Вазьмі, Дзімка, і перадай яму гэты лісток.

— Ёсць перадаць!

— Ты перадай і скажы, што...

Сяргей запнуўся: а што, уласна, ён мог яшчэ дадаць да ўмовы, у якой з поўнай выразнасцю былі запісаны яго абавязкі і самы выклік Крывачубу? Ён задумаўся, наморшчыў лоб.

Дзімка тым часам кінуў быстры позірк на Ксеню. Яна была ў прыгожым квяцістым плацці, з шаўковай святочнай касынкай на плячах. Дзімка ўсміхнуўся, хітра падміргнуў Ксені. У адказ на гэты яго выпад Ксеня, закрыўшыся рукою ад Сяргея, выставіла яму язык... Суседка, з ёю ў Дзімкі была своеасаблівая дружба: як сустрэнуцца, абавязкова жарты строяць адзін з другога, пасміхаюцца. Але варта было Ксені сур'ёзна папрасіць аб чым-небудзь Дзімку, ён пластам ляжа, а ўсё зробіць для яе. Памаўчаўшы, Сяргей махнуў рукою.

— Чакай, Дзімка... Лепш я сам аддам. Прабач, Ксеня.

Сяргей выхапіў з рук Дзімкі лісток і, пакінуўшы Ксеню на дарожцы, рашуча пайшоў да Крывачуба.

Ён падышоў да краснадарца, уважліва агледзеў яго з галавы да ног. Агледзеў і не стрымаўся ад здзіўлення: э, ды гэты ж Крывачуб яшчэ маладзейшы за яго. Не хаваючы насмешкі, Сяргей паглядзеў на саламяны капялюш Крывачуба, на вуды:

— Вось ты які, з вудамі!..

— А што?..

— Ды нічога... Трымай лісток. У нас на Палессі так заведзена, што... Адным словам, на спаборніцтва выклікаю...

Крывачуб прыставіў да пляча вуды, спакойна ўзяў ад Сяргея паперу. І ўсміхнуўся — па-сяброўску, але не без хітрынкі:

— Добры звычай, прымаю выклік. Толькі, можа, варта было б... пазнаёміцца для пачатку, прывітацца, а?..

І ўсё гэтак жа ўсміхаючыся, падаў Сяргею руку.

На нейкі момант Сяргей збянтэжыўся... Глядзі ты, а ён з гонарам, гэты краснадарац, упэўнены ў сабе. Што ж, пабачым, браток, чыя будзе перамога, хутка пабачым...

Сяргей моўчкі, паспешліва паціснуў Крывачубу руку.

* * *

Так пачыналася ў Азёрах жніво. Каму ў сяле не знаёма гэтая гарачая, клапотная пара! У дні жніва ў калгасе ніхто не ведае спакою, людзі, бывае, па некалькі дзён працуюць без адпачынку, працуюць, калі трэба, і ўдзень і ўночы — у полі, на таках, на складах. У гэтыя дні заняты і жнеі, і механізатары, і малацільшчыкі, і шафёры, і возчыкі, і наогул усе, ад старога да малога. На полі з раніцы да вечара чуцен шум камбайна, стракатанне лабагрэек, па дарогах, нагружаныя збожжам, імчацца грузавікі, на гумнах гудуць малатарні.

Так ідзе вялікая калгасная бітва за ўраджай.

1952

## ПАЕЗДКА
## Ў НАВАСЁЛКІ

Неяк у сярэдзіне ліпеня, у самы разгар лета, калі ўдзень ад брукаваных гарадскіх вуліц, тратуараў, дамоў пачало дыхаць нясцерпнай гарачынёй, Ганна Пятроўна раптам засумавала. Маленькая, сухая, з гладка прычасанымі сівымі валасамі, з маршчыністым тварам, яна разгублена сланялася з пакоя ў пакой па вялізнай кватэры, раз-пораз занепакоена ўздыхала. У час вячэры, калі за сталом збіралася ўся сям'я, яна сядзела прыціхлая, маўклівая, часта забывалася, і позірк яе станавіўся чужы, далёкі. У такія хвіліны яна не заўважала ні любімай дачкі Таццяны, супрацоўніцы гарадской дзіцячай бібліятэкі, ні зяця Уладзіміра Іванавіча, маладога інжынера тамбоўскага чыгуначнага дэпо, не чула шчэбету двух вертапрахаў, як яна звычайна называла сваіх унукаў Толіка і Леаніда.

Таццяна заўважыла гэтыя змены ў маці і, выбраўшы зручную хвіліну, калі яны засталіся ўдзвюх, спытала:

— Што з вамі, мама? Можа, вас хто пакрыўдзіў?

Ганна Пятроўна ўздрыгнула, падняла галаву.

— Што табе здалося? Ніхто мяне не пакрыўдзіў. Проста так.

Але Таццяна, здагадваючыся аб прычыне матчынага смутку, ведала, што ўсё гэта не «проста так», і была гатова да ўсякіх нечаканасцей. І яна не памылілася. Праз дзень, у суботу, вярнуўшыся з працы, Таццяна ўбачыла маці, адзетую ў цёмнае шарсцяное плацце, тое плацце, якое яна заўсёды надзявала, збіраючыся ў далёкую беларускую вёску Навасёлкі, на Палессе, убачыла падрыхтаваны чамаданчык у белым палатняным чахле.

Маці стаяла сярод пакоя, апусціўшы ўніз сухія, з сінімі набухлымі жыламі рукі,— родныя, мілыя рукі, якія столькі папрацавалі...

— Зноў да Андрэя? — з дакорам паглядаючы на маці, спытала Таццяна.

Ганна Пятроўна моўчкі кіўнула галавой.

— І чаго, мамуля, родная? — пачала ўгаворваць дачка.— Зноў перахвалюешся, нераплачаш, разварушыш рану. Ці ж гэта кожны год туды ездзіць?

Маці прысела на стул, склала на каленях рукі.

— Супакойся, дачушка, я не буду плакаць. Усё ўжо мінулася, адбалела. Проста так паеду, агледжу магілку, пасяджу каля сына...

— Магіла ж дагледжана, мама,— угаворвала Таццяна.— Нядаўна ж яшчэ Падабед пісаў вам пра ўсё— агародка новая вакол помніка, кветкі...

Маці махнула рукой:

— Не ўгаворвай... Ты, Таццяна, не разумееш, што я прывыкла ўжо неяк і да таго сяла, і да людзей. Па людзях засумавала, па калгасу. Пагляджу, як яны там зараз. Багдана Алешку праведаю, Падабеда... А яшчэ хачу з'ездзіць да Міколы Бабра,— памятаеш, таго, што вясною да нас заходзіў?

— І што вам да яго, мама? Нашто ён вам здаўся!

— Як гэта ты так гаворыш, Таццяна? Ён жа служыў разам з Андрушам, прайшоў разам амаль усю вайну. Аднойчы Андруша нават выратаваў яго ад смерці. Ці ж магу я быць абыякавай да яго? Ён мне не чужы ўжо, гэты Мікола.

Маці нахмурыла бровы, апусціла галаву:

— Нават непакоюся пра яго: чаму ён тады здаўся мне нейкім сумным, панылым... Як зараз помню: прыйшоў, сказаў, хто ён, і змоўк, спіснуў вусны. «Што з вамі?» — пытаюся. Маўчыць, нахмурыўся. Потым узяў мяне за руку: «Вось вы, кажа, маці, сапраўдная маці, і я няшчасны чалавек, што не маю такой...» Колькі я ні дапытвалася потым, што з ім, не сказаў, махнуў рукою і развітаўся. Толькі прасіў, калі буду ў Навасёлках, абавязкова да іх заехаць. То як жа мне не заехаць?

— Можа, выпіўшы быў, нагаварыў абы-чаго, а вам нешта здалося,— заўважыла Таццяна, хаця ўжо канчаткова пераканалася, што не здолее адгаварыць маці.

— Няхай сабе і выпіўшы, але нешта ж у яго здарылася, калі так гаварыў,— запярэчыла маці і, памаўчаўшы, летуценна сказала: — Колькі я, дачушка, бачыла там на Палессі добрых людзей, працавітых, сумленных, і мне часамі здаецца,— ты, вядома, скажаш, што гэта толькі такое матчына пачуццё,— здаецца, што гэта таму яны ўсе такія харошыя, што і наш Андруша быў такім, яны ўсе як бы раўняюцца па ім, іх вядзе наперад яго светлая памяць.

Таццяна моўчкі пазірала на маці,— добрая, мілая маці, як жа моцна яна любіла Андрэя, як моцна любіць яго і зараз. Ён як бы і не памёр для яе, а стаіць у яе думках побач з жывымі...

Увечары Уладзімір Іванавіч, вярнуўшыся з працы, таксама паспрабаваў адгаворваць маці.

— Можа б, вы хоць адклалі паездку на восень, цяпер там якраз гарачая пара, жніво.

Але Ганна Пятроўна не паслухала і зяця:

— А я нікому перашкаджаць не буду...

Назаўтра — гэта было ў выхадны дзень — Уладзімір Іванавіч раніцою з'ездзіў на вакзал, купіў білет, а пасля паўдня яны з Таццянай і дзецьмі праводзілі маці да поезда.

Дарога з Тамбова да Навасёлак была хоць і нядоўгая, але нялёгкая, з перасадкамі. Таццяну супакойвала тое, што маці ехала туды не ўпершыню і добра ведала дарогу. Да таго ж Уладзімір Іванавіч, адыходзячы з вакзала, паслаў Падабеду, старшыні Навасёлкаўскага сельсавета, тэлеграму, і Таццяна была ўпэўнена, што маці і сустрэнуць з фурманкай на станцыі, і прытулак дадуць, і праводзяць, як заўсёды, з усёй гасціннасцю.

У Навасёлках высока шанавалі памяць тамбоўскага камсамольца, Героя Савецкага Саюза Андрэя Скварцова,

гвардзейца, які загінуў тут у баях з фашыстамі ў дні Айчыннай вайны. Невялікі ўзгорачак на ўскраіне сяла з мармуровым помнікам на магіле быў у вёсцы запаветным месцам. Магілу героя абсадзілі дрэвамі, яе любілі наведваць і дарослыя і дзеці, усё лета з яе не сыходзілі жывыя кветкі.

З пашанай адносіліся ў Навасёлках і да маці героя, яна заўсёды была дарагой госцяй у гэтым вялікім прырэчным сяле. Кожны раз, калі Ганна Пятроўна прыязджала туды, Падабед, а з ім і старшыня калгаса Багдан Алешка вадзілі госцю па сялу, паказвалі, як пабагацеў іх калгас, расказвалі пра поспехі і няўдачы.

Трэба сказаць, што навасёлкаўцам было чым пахваліцца. Нягледзячы на тое, што некалі, адступаючы, фашысты пакінулі тут толькі голае папялішча, Навасёлкі, як і большасць вёсак на Палессі, адбудаваліся хутка, за якіх два-тры гады. Людзі тут былі дружныя, працавітыя, і навасёлкаўскі калгас даволі хутка ўзяўся ў сілу. Зараз «Трэці рашаючы» лічыўся адной з лепшых гаспадарак у раёне. Замест зямлянак, у якіх у першыя гады пасля вайны туліліся калгаснікі, у сяле цяпер стаялі новыя дамы. Былі тут пабудаваны і добрыя грамадскія будынкі — школа, клуб, жывёлагадоўчыя фермы. Вакол вёскі вараслі сады, пасаджаныя рукамі навасёлкаўскіх садоўнікаў. З горада была падведзена ў сяло электрычнасць, радыё... Хто ведае, можа, і была свая праўда ў разважаннях Ганны Пятроўны: тут не забывалі пра светлы подзвіг Скварцова, ён аказваў свой уплыў на людзей, вёў іх наперад.

Ганна Пятроўна заўсёды шчыра брала да сэрца ўсе поспехі і няўдачы калгаса, радавалася, калі бачыла змены да лепшага, непакоілася, калі бачыла які непарадак. Такія яе адносіны да калгаса няцяжка было зразумець: ёй хацелася бачыць у шчасці і багацці людзей, за якіх аддаў жыццё яе сын, адчуваць, што ён загінуў недарма. Напэўна, тыя ж прычыны выклікалі ў яе цікавасць і да таго выратаванага некалі ў баі Андрушам Міколы Бабра...

Да паўстанка Лемяжы, бліжэйшага чыгуначнага пункта ад Навасёлак, Ганна Пятроўна прыехала назаўтра пад вечар.

На гэты раз па яе прыслалі з фурманкай Петруська, сына калгаснага конюха з Навасёлак. Гэта быў шустры чарнявы хлапчук год чатырнаццаці. Даручэнне прывезці са станцыі маці героя ён, натуральна, лічыў за гонар. Выгляд у Петруська быў урачысты: нягледзячы на ліпень-

скую гарачыню, ён быў адзеты ў касцюмчык, на шыі па-лымнеў акуратна завязаны піянерскі гальштук.

Прывітаўшыся з Ганнай Пятроўнай, Петрусёк падхапіў з яе рук чамаданчык, сам уладаваў яго ў задку воза, у салому. Па дарозе Петрусёк пераказаў Ганне Пятроўне бадай усе галоўныя вясковыя навіны. А такіх галоўных навін, з пункту гледжання Петруська, было нямала. Перш за ўсё ён расказаў Ганне Пятроўне гісторыю пра новую жалезную аградку вакол помніка Андрэю Скварцову, як па рашэнню праўлення старшыня калгаса дзядзька Багдан ездзіў яе заказваць у гарадскую металаарцель, як спачатку там запрасілі з іх за работу вялікія грошы, але, даведаўшыся, для чаго прызначана аградка, зусім адмовіліся ад грошай, не ўзялі ні капейкі (рабочы клас — свядомы народ!).

Потым Петрусёк паведаміў самую свежую навіну дня — пра спаборніцтва навасёлкаўскага камбайнера Лёнькі Касухі з зараčанцам Ільёй Рыбчанкам, пра тое, як учора Лёнька нарэшце паклаў Рыбчанку на абедзве лапаткі, пераганаў на пяць гектараў, і што віншаваць Лёньку з перамогай прыязджаў на легкавой машыне сам дырэктар МТС.

Ганна Пятроўна слухала Петруська з добрай ласкавай усмешкай. Па-дзіцячаму наіўныя расказы хлопчыка ярка малявалі перад ёю людзей калгаса, іх дружную працу, іх паўнакроўнае, цікавае жыццё.

Мінуўшы лес, што акружаў паўстанак, фурманка неўзабаве выехала на торную палявую дарогу, і Ганна Пятроўна ўбачыла вакол шырокія, як акінуць вокам, палеткі пажаўцелага збожжа. Жыхарка горада, яна не магла без хвалявання глядзець на гэтыя шырокія жытнія прасторы, на багацце, якое дарыла прырода чалавеку за яго сумленную працу. А на палях усюды відаць было ажыўленне. Рухаліся па полі жнеяркі, гудзелі маторы аўтамашын, што адвозілі на гумны ўраджай. У адным месцы на ўзгорку, зусім блізка ля дарогі, насустрач фурманцы павольна праплыў камбайн. Яго роўны, магутны рокат на час уладарна заглушыў усе іншыя гукі поля, як бы сцвярджаючы, што сёння тут, на калгасных палях, ён адзіны паўнапраўны гаспадар. Дзе-нідзе стаялі бабкі жыта, зжатага рукамі, на палетках відаць былі жнеі, чуліся жніўныя песні.

Ганна Пятроўна са здзіўленнем заўважыла, як некуды непрыкметна знікала ўся яе стомленасць пасля пакутлівай

вагоннай духаты, вакзальнай перасадачнай мітусні. Яна адчувала сябе ў нейкай прыемнай прыўзнятасці, дыханне вялікага і цікавага жыцця бачыла яна вакол.

— А ведаеце,— тузануўшы лейцамі каня, павярнуўся да Ганны Пятроўны Петрусёк,— у сяле нехта з рабят пусціў плётку, што гэта вы не так сабе едзеце. Сказалі, што вы хочаце забраць... ну, гэтае самае, ну, як яго... астанкі сына на сваю радзіму, у Тамбоў... Няпраўда гэта, а?

— Няпраўда,— ціха адказала маці.

— Вось бачыце... А як мы ўсе былі захваляваліся! Цэлым атрадам пайшлі да таварыша Падабеда. Як жа так, нашага героя і ў Тамбоў? Чаму, па якой прычыне?.. Ну, дзядзька Падабед нас заспакоіў, кажа, выдумкі ўсё гэта. Ганна Пятроўна проста да нас у госці едзе. Наша сяло не з такіх, каб у ім сорамна было спачываць герою... Каб мы знайшлі таго, хто пусціў тую плётку, ну і адкуксілі б!..— шчыра заключыў Петрусёк, патросшы пугаўём.

Маці сціснула вусны, задумалася, усхвалявана пачала перабіраць пальцамі сухую травінку з сядзення... Праўда, было некалі і такое, думала яна перавезці прах сына ў Тамбоў. Людзі адгаварылі. Радзіма!.. Ці ж месца, дзе Андруша праліў сваю маладую кроў, не было такім жа родным і блізкім для яго, як і Тамбоў, горад, дзе ён нарадзіўся? Уся вялікая савецкая зямля, ад краю і да краю, была для яго дарагой і любімай Радзімай!..

У размовах з Петруськом непрыкметна мінуў час, і гадзіны праз дзве, праехаўшы невялікі бярозавы гай, фурманка выехала на ўзгорак, з якога воддаль, на беразе рэчкі, у зеляніне садоў паказалася сяло.

У Ганны Пятроўны міжвольна мацней забілася сэрца. Колькі разоў была яна ўжо тут, усё было тут ёй знаёма, і аднак жа кожны раз, калі яна набліжалася да Навасёлак, не магла стрымаць хвалявання.

Петрусёк, як было яму загадана, пад'ехаў проста к дому старшыні калгаса Багдана Алешкі. Фурманка яшчэ толькі паспела спыніцца ля варот, як насустрач Ганне Пятроўне выйшаў сам гаспадар дома, Багдан Мікалаевіч, яго дачка, дзесяцікласніца Наташа, стройная, загарэлая дзяўчына з заплеценымі ў дзве касы валасамі, а следам за імі — высокі, шыракаплечы Ігнат Нікадзімавіч Падабед.

— З прыездам вас, Ганна Пятроўна,— прывітаўся Багдан Мікалаевіч і гасцінна запрасіў: — Заходзьце ў дом...

* * *

Не стрымала Ганна Пятроўна слова, што давала дачцэ,— уволю і паплакала і пасмуткавала каля помніка. Доўга сядзела на лавачцы нерухома, ціхая, паглядаючы на чорны мармур з высечанымі на ім залатымі літарамі. Успомніла ўсё сваё жыццё, усё да дробязі, што было звязана з яе дарагім Андрушам,— і як гадавала яго малога, і які ён быў дарослым. Андрэй стаяў перад ёю, як жывы,— з смяшлівымі, крыху прыжмуранымі вачыма, прыгожы, моцны, спакойны.

Але гэты смутак і слёзы не прыгнялі, не зламалі яе. Наадварот, выплакаўшыся, маці, нібы гаючай вадой умыла душу, паспакайнела і нават як быццам адчула нейкую палёгку: так пасля грознай навальніцы з дажджом і громам выходзіць з-за хмар яснае сонца, і ўсё вакол становіцца ясным і спакойным. Маці вярталася ў сяло, поўная жадання нешта рабіць, дапамагаць людзям добрым словам, дзяліцца з імі сваёй ласкай. Быў надвячорак. Па дарозе, уздымаючы пыл, ішлі статкі кароў. Аднекуль здалёку плыла над вечаровымі палямі ціхая песня жней. З поля прабеглі дзве палутаркі, везучы прыцiснутыя пад рубель снапы сухога жыта.

«Трэба заўтра ж з'ездзіць да Міколы Бабра,— падумала маці.— Чаму ён тады быў нейкі прыгнечаны, што з ім?» Пастаяла, прыслухоўваючыся да далёкай песні... Як можна адчуваць сябе прыгнечаным, нешчаслівым у час, калі ўсё вакол у гэтакім радасным уздыме, калі ўсё — і гэтыя багатыя палеткі, і статкі, і лясы, і рэкі, і гэты ціхі цёплы вечар — належыць чалавеку працы, існуе дзеля яго шчасця і радасці?..

Увечары, у час размовы за вячэрай, калі Ганна Пятроўна звярнулася да Алешкі з просьбай дапамагчы ёй дабрацца да калгаса, дзе жыў Мікола Бабёр, яна была здзіўлена адной акалічнасцю: выявілася, што ні Багдан Мікалаевіч, ні Падабед не ведалі ніякага Бабра.

— Але ж мне сказалі, што яго вёска недзе ў вашым раёне і нават паблізу ад Навасёлак,— растлумачыла Ганна Пятроўна.— Няўжо яго тут ніхто не ведае? Няўжо ён ні разу не наведваў Андрушавай магілы?

— Чакайце, чакайце,— задумаўся Падабед.— Ці не той самы гэта Бабёр, што...— Ігнат Нікадзімавіч раптам нахмурыўся, наморшчыў лоб.— Ну, так, гэта, напэўна, ён і будзе. З Гурыноў, з калгаса «Перамога», кіламетраў за

пятнаццаць ад нас... Ты, Багдан, яго таксама ведаеш. Ён бываў у Навасёлках.

Алешка запытальна паглядзеў на Ігната Нікадзімавіча:

— Гэта ці не той, што ўвесну такі сумны сядзеў каля помніка?

— Ён,— яшчэ больш нахмурыўшыся, пацвердзіў Падабед.— Сын таго вядомага Пракопа Бабра,— і дадаў, панізіўшы голас: — Хутараніна...

Алешка замоўк, апусціў уніз галаву. Відаць, абодва яны — і Падабед, і старшыня калгаса — адчулі нейкую няёмкасць. Ганна Пятроўна заўважыла гэта і насцярожылася.

— А што такое? Мой Андруша некалі вырататаваў яго ад смерці, яны былі блізкімі. Чаму вы кажаце — хутараніна? Хіба ён жыве на хутары?

— Не на хутары,— глуха прамовіў Ігнат Нікадзімавіч.— Хутароў у нас ужо даўно няма... А вось хутаране, так сказаць, яшчэ дзе-нідзе, на жаль, засталіся.

— Як гэта? Я не разумею,— здзівілася маці.

— Не раіў бы я вам ехаць да тых Баброў,— не адказваючы на пытанне, кінуў Падабед. Памаўчаў, пазіраючы ў стол, і дадаў: — Ну іх да ліха! Не па нашай светлай дарозе яны ідуць, усім карэннем захраслі ў мінулым... Адно слова — хутаране.

Твар Ганны Пятроўны пакутліва перасмыкнуўся, яна ўся як бы сціснулася, звяла.

— Мне цяжка паверыць... Андрэй пісаў, як яны ў дні баёў ішлі ў атакі, як з боем перабіраліся праз Дняпро. Можа, тут якая памылка?

Ганна Пятроўна ўся захвалявалася, адсунула талерку, на якую гасцінная Наташа палажыла нейкі пачастунак.

Ігнат Нікадзімавіч кінуў на яе асцярожны позірк, уздыхнуў.

— А зрэшты, хто яго ведае, можа, я і памыліўся. Там гэтых Баброў — поўнае сяло, няцяжка і пераблытаць.

За сталом усталявалася цішыня. Толькі пузаты самавар, пыхкаючы парай, тоненька пішчаў збоку, на маленькім пасудным століку. Ганна Пятроўна да болю сціснула вусны: праўду казаў Падабед ці маніў, не жадаючы яе хваляваць.

— Калі так, я абавязкова пад'еду туды,— ціха сказала маці.

Алешка выняў з кішэні папяросы, закурыў.

— Добра, Ганна Пятроўна, я скажу, вас падвязуць... Хоць заўтра.

Ігнат Нікадзімавіч сядзеў хмуры, надзьмуты, з ссунутымі на пераноссі брывамі, і нельга было здагадацца, аб чым ён думаў, што меў сказаць і не дагаварыў...

Назаўтра раніцою, выпраўляючыся ў чарговы рэйс на элеватар з жытам новага ўраджаю, калгасны шафёр Рыгор Лабуда пасадзіў Ганну Пятроўну побач з сабою ў кабіну і падвёз да Гурыноў. Вёска гэтая ляжала кіламетрах у трох ад бальшака, і калі яны пад'ехалі да павароткі, маці хацела вылезці з машыны і пайсці туды пехатой. Але Рыгор не дазволіў ёй вылазіць і прывёз Ганну Пятроўну ў самы калгас. Потым, распытаўшы людзей, падвёз яе да двара Пракопа Бабра, бацькі Міколы.

Дапамагаючы Ганне Пятроўне выбрацца з кабіны, Рыгор пакасіўся на вароты і са знявагай заўважыў:

— Так мне здаецца, ненадоўга вы тут затрымаецеся. Выходзьце на шашу, я сёння ўвесь дзень курсіраваць буду. А калі што, дык я ўвечары сам па вас заеду.

Сказаўшы гэта, Рыгор сеў у кабіну, газануў і пакаціў усцяж па вуліцы.

Ганна Пятроўна ступіла крок-другі да варот сядзібы Баброў і спынілася ў роздуме. А чаго, уласна, яна сюды прыехала, да гэтых незнаёмых ёй, чужых людзей? Што ёй тут трэба, якая справа да іх? Вайна, баі — усё тое ўжо даўно адышло, мінулася. А Мікола Бабёр — чаму яна думае, што той, каго ўратаваў ад смерці яе Андруша, абавязкова павінен быць добрым, сумленным чалавекам?..

І аднак жа наперакор гэтаму голасу стукала ў сэрца другое. Не, не, хто б ён ні быў, той Мікола Бабёр, яна павінна праведаць яго, даведацца, што з ім. Ёй, Андрушавай маці, была справа да ўсяго — і да поспехаў навасёлкаўскага калгаса, і да лёсу гэтага мала знаёмага ёй чалавека. А калі паглядзець шырэй, то ёй ёсць справа і да ўсёй нашай вялікай краіны, да ўсіх людзей. І калі нават той Мікола Бабёр звярнуў з дарогі, то ці не яе абавязак сказаць яму матчына слова асуджэння, накіраваць, падтрымаць, калі яму цяжка?..

Ганна Пятроўна акінула поглядам сядзібу: новая дашчаная агароджа, калітка, высокія вароты. За агароджай радок маладых вішань, за імі бокам да вуліцы новы, абшаляваны па вуглах дом. Дом быў, як і ўсе іншыя ў сяле, высокі, прасторны, толькі — дзіўная справа! — уся доўгая сцяна ад вуліцы была сляпой, на вуліцу не глядзела ні-

воднага акна. Усе суседнія дамы, і па правы, і па левы бок, і насупраць цераз дарогу, пазіралі вокнамі на вуліцу, а гэты быў павернуты да людзей глухой сцяной.

Ганна Пятроўна горка ўсміхнулася: не, здаецца, яна дарэмна спадзявалася, што Падабед памыліўся, відаць, гэта і быў той самы «хутаранін», пра якога ён казаў.

Маці падышла да форткі, пацягнула за клямку. Фортка была зачынена з сярэдзіны. Ганна Пятроўна асцярожна пастукала. На двары пачуліся крокі, нехта стукнуў завалай, і фортка прачынілася. Ганна Пятроўна ўбачыла старога, невысокага росту, хударлявага, адзетага ў чорныя картовыя штаны і паркалёвую сарочку, падпяразаную вузенькім паяском. Стары толькі ледзь прачыніў фортку і спыніўся, са здзіўленнем аглядаючы незнаёмую.

— Скажыце, тут жыве Мікола Бабёр? — спытала Ганна Пятроўна.

— Тут,— не адчыняючы форткі, у шчыліну адказаў стары. Вочы ў яго былі вострыя, быстрыя, тонкія губы насцярожана ўздрыгвалі.— А, выбачайце, якая ў вас да яго справа? — стары наставіў вуха, з гатоўнасцю падрыхтаваўшыся слухаць.

Ганна Пятроўна растлумачыла.

— У-у, матухна, вайна, вайна, калі тое што было,— усміхнуўся стары і адчыніў фортку.— Праходзь...

Ён акуратна зачыніў фортку, залажыў завалу і паспяшыў к дому. Не пачакаўшы Ганны Пятроўны на ганку і нічога ёй не сказаўшы, стары хуценька, амаль падбегам, заскочыў у сенцы. Ганна Пятроўна падышла да ганка і збянтэжана спынілася,— ісці ёй за старым ці чакаць яго на двары? Дзверы ў сенцы былі адчынены, і Ганна Пятроўна, незнарок глянуўшы туды, убачыла: у далёкім цёмным кутку стары паспешна закрываў посцілкай нейкія бочкі і дзежы, закідваў іх старымі світамі, латунамі...

Адчуўшы няёмкасць, маці адвярнулася,— дзіўны чалавек, чаго ён так захваляваўся? Маці акінула поглядам двор. Гаспадарчыя будынкі на сядзібе Баброў, як і хата, былі пабудаваны своеасабліва, не як у людзей: шчыльна адзін каля аднаго і ўсе пад адным дахам. Проста насупраць ганка стаяў хлеў, побач — павець, стопка, далей — крыты ток, на якім сушыліся снапы жыта. Быў у гэтым нейкі незразумелы, скарэдлівы разлік: ці то гаспадар шкадаваў лесу, ці эканоміў зямлю прысядзібнага ўчастка.

— Праходзь, матухна, у хату,— выйшаўшы з сянец, запрасіў стары.— Зараз і сын зойдзе.

Маці ўзышла на ганак, ступіла крок у сенцы і... міжвольна на міг спынілася: у твар ёй ударыў цяжкі, густы пах самагоннай брагі... Дык вось што гэтак паспешна прыхоўваў посцілкамі ў бочках і дзежах стары Бабёр!

Ганна Пятроўна зайшла ў хату. У вялікім пакоі, куды правёў яе Бабёр, стаяў шэры паўзмрок — вокны былі напалову завешаны,— і, увайшоўшы з двара, дзе свяціла яркае сонца, маці некаторы час, нічога не бачачы, стаяла ў парозе. З бакоўкі насустрач ёй выйшла жанчына, год за пяцьдзесят, у даматканым андараку, у хустцы, завязанай так, што ледзь відаць быў яе дробны маршчыністы твар. Гэта была, відаць, гаспадыня. Стары Бабёр падышоў да яе, нешта буркнуў, і яна адразу ж пайшла на кухню.

— Вайна, вайна,— жэстам запрашаючы Ганну Пятроўну да стала, паўтарыў, прыцмокваючы, Бабёр.— Колькі, матухна, людзі гора нацярпеліся. Усё навокал фашыст спаліў, стаптаў. Пакуль адбудаваліся, пакуль сталі на ногі...— Стары ўздыхнуў, махнуў рукою.

Ён падышоў да аднаго з вокнаў і адсланіў посцілку. У хаце пасвятлела, і Ганна Пятроўна з цікавасцю агледзела пакой. Абстаноўка ў хаце была сціплая: у кутку стаялі два вялікія фікусы, збоку, каля акна,— драўляная канапа, побач — шафа, на сцяне, як звычайна ў сялянскіх хатах, віселі пад шклом у рамках фотакарткі.

— А ў цябе да сына якая справа ці проста так? — прыцэльваючыся вокам і барабанячы пальцамі па стале, спытаў Бабёр.

— Ён служыў разам з маім Андрушам, хацела праведаць, пагаварыць...

— А-а, яно канешне, канешне,— няпэўна прамовіў стары.— Можа, табе там чаго нагаварылі пра нас,— не вер, матухна. Усё злыя языкі, людская зайздрасць. Упоперак дарогі мы нікому не стаім. Самі сабе жывём, як можам...

Нячутна ступаючы, у пакой увайшла гаспадыня, у руках у яе былі талеркі з пачастункам. Расставіўшы іх на стале, яна прынесла з кухні пляшку гарэлкі, чаркі. Стары моўчкі, асцярожна наліў чаркі і адну з іх паставіў перад маці.

— Чым багаты, тым і рады,— беручыся за сваю чарку, сказаў стары Бабёр.

Ганна Пятроўна чокнулася, ледзь прыгубіла чарку і паставіла яе на стол. Стары прыжмурыўся, паглядзеў на амаль некранутую гарэлку маці і таксама выпіў не да дна.

— Клічку на нас прыдумалі — «хутаране»... Што ж, няхай сабе і хутаране. А з калгаса выкінуць — вось вам! — Бабёр спрытна скруціў і выставіў кукіш.— Не ўдасца! Мінімум у нас спраўны, а болей які з нас спрос? Я — стары, а сын — увесь у ранах, інвалід.

Бабёр нейкі момант памаўчаў, паглядваючы на стол, потым кароткім рухам кульнуў чарку ў шырока раскрыты рот. Панюхаў скарынку хлеба і паклаў яе на стол, не закусваючы.

— Спачатку Мікола ўзяўся рабіць як вол. Штодня на работу хадзіў. Я глядзеў на яго, глядзеў — не сцярпеў. Дурань, кажу, чаго ты са скуры вылузваешся, чаго дабіваешся? Яшчэ аднаго медаля атрымаць хочаш, мала іх у цябе? За гэта ты ваяваў, каб тут чарнець на рабоце?.. Мікола адразу быў наяршыўся, пачаў пярэчыць, але ў нас, Баброў, рука цвёрдая, мы на сваім паставіць умеем. «Што ж, пытаецца, мне рабіць загадаеце?» Ну, тут я яму сёе-тое падказаў — і чыстую, і лёгкую работу. Ведаеш, кажу, пачым сёлета грыбы ў Ленінградзе? Тое, што ты тут заплаціш за паўпуда, там табе за кіло дадуць. Ну, з'ездзіў ён туды раз, з'ездзіў другі... А што, скажы, матухна, ці ж ён не засужыў права пажыць сабе ўволю? Не заваяваў гэтае права сваёй крывёй?

Ганна Пятроўна слухала Бабра са здзіўленнем і агідай, сумная, прыціхлая. Значыць, вось хто ён, гэты Бабёр! Аказваецца, ёсць яшчэ і такія людзі ў працавітай калгаснай сям'і. Паразіты, падобныя да тых шэрых губак, што часам вырастаюць на стройным целе маладой бярозы... Дык вось чаму такі панылы быў тады, вясною, Мікола.

Што далей гаварыў Бабёр, то ўсё больш вырысоўвалася перад Ганнай Пятроўнай яго нікчэмнае аблічча. Яна была і абурана і збянтэжана,— ці ж можна было падумаць, што, пераступіўшы парог хаты Бабра, яна быццам з яснага сонечнага святла трапіць у змрочныя скляпенні мінулага? Адкуль ён узяўся, гэты нікчэмны чалавек?

— Ну-ну, кажыце, кажыце,— ціха папрасіла Ганна Пятроўна.

— А што казаць,— даліваючы чаркі, сказаў Бабёр.— Няма мне чаго казаць. Цяпер вось яшчэ адзін спосаб прыдумалі — ездзім у Оўруч, купляем пшаніцу і ціснем на продаж самагон. Так і жывём...

Бабёр падняў сваю чарку, паглядзеў на Ганну Пятроўну.

— Вып'ем, ці што?

Скварцова маўчала, нібы не чула яго запрашэння. Бабёр пачакаў крыху, крэкнуў і разам перакуліў у рот другую чарку. Цяпер яго ўжо і не трэба было запрашаць, ён ахвотна загаварыў сам:

— Ці так я некалі хацеў жыць?.. Не падумай, матухна, што я з багатых. Гадаваўся я ў беднасці, быў за парабка ў млынара. Працаваў у яго і прыглядаўся, вучыўся, як трэба на свеце жыць. Тапталі мяне, а я маўчаў, усё чакаў свайго часу, калі і мне ўдасца каму-небудзь стаць нагою на грудзі... А цяпер і патрэбы такой няма. У калгасе нядрэнна, супроць калгаса я нічога не маю. Жывём і будзем жыць!

Ганне Пятроўне раптам зрабілася душна. Яна ўстала, задрыжаўшай рукою накінула на плечы хустку.

— Ведаеце, я пайду.

Больш яна не магла тут трываць,— хутчэй, хутчэй адсюль, з гэтай змрочнай хаты, да святла, да сонца. Ганна Пятроўна павярнулася і хутка пайшла да дзвярэй.

Але ў гэты момант ад парога пачуўся ціхі голас:

— Чакайце, мама!

Голас быў такі нечаканы, што Ганна Пятроўна міма волі ўздрыгнула. Стары Бабёр строга павярнуўся да дзвярэй. Прыхіліўшыся да вушака, на парозе нерухома стаяў Мікола. Ганна Пятроўна адразу ўспомніла, пазнала яго,— той жа хударлявы, як у бацькі, твар, доўгі, з гарбінкай нос, тыя ж тонкія, нервовыя вусны. Мікола быў у ботах, у старой, расхлістанай на грудзях ваеннай гімнасцёрцы.

— Ты прыйшоў? — пахмура спытаў Бабёр.— Каня дастаў?

— Не спяшайся, бацька,— азваўся Мікола. Ступіў крок-другі да Ганны Пятроўны, узяў яе за руку і, сагнуўшыся, прыпаў да яе вуснамі.— Дзякаваць вам, што прыйшлі,— ціха, амаль шэптам, прагаварыў ён. Не разгінаючыся, Мікола з заплюшчанымі вачыма прытуліўся да яе рукі тварам, як бы шукаючы падтрымкі, ласкі.

Ганна Пятроўна спачатку збянтэжылася, але, зразумеўшы яго пачуццё, раптам, нібы пранізаная электрычным токам, выпрасталася, горда ўзняла галаву.

— Я ўсё зразумела, Мікола. Усё, усё... Я прыйшла, каб дапамагчы табе,— голасна і выразна сказала маці.

Стары Бабёр, які, насупіўшыся, назіраў усю гэтую сцэну, з шумам адсунуў ад сябе талерку, падняўся з-за стала.

— Гэта што яшчэ за камедыя? — строга крыкнуў ён.— Я пытаюся, ты дастаў каня?

— Не дастаў! — выпрастаўшыся і адпусціўшы руку Скварцовай, рэзка кінуў Мікола.— Я і не хадзіў па каня. Я вярнуўся, каб развітацца з табой, бацька. З табой і з тваім хутарам!..

— Што такое? — павольна вымавіў аслупянелы ад здзіўлення Бабёр.— Ты што, здурнеў?

— Не, я не здурнеў! — горача, з бліскучымі вачыма выгукнуў Мікола.— Можа, быў дурны, а цяпер паразумнеў. Праз тваю прагнасць я страціў усё — жонку, павагу людзей. Праз цябе я страціў сумленне і гонар, прамяняў іх на нікчэмныя спекулянцкія грошы. Я хадзіў, не знаходзячы сабе месца, хаваўся ад людзей, як злодзей, саромеўся глядзець ім у вочы. А ты штурхаў мяне на спекулянцтва, зрабіў з мяне самагоншчыка. Табе ўсё нутро пераела зайздрасць да таго млынара, у якога ты некалі парабкаваў. Ты, як сляпы крот, не бачыш, што робіцца вакол, якім светлым шляхам ідзе жыццё!

Стары Бабёр стаяў нерухомы, бледны, тонкія губы яго нервова ўздрыгвалі, вочы былі напаўзаплюшчаны, нібы ён нешта ўспамінаў і ніяк не мог успомніць.

— Ты думаў пра сваё шчасце, але не хацеў бачыць, што цяпер іншым шляхам ідуць да яго. Ты адгарадзіўся ад людзей высокім плотам, думаў нажыцца на хітрыках і махінацыях. Такі ты бацька?.. Не бацька ты мне!

Усхваляваны Мікола кідаў у твар старому Бабру слова за словам, нібы рашуча падсякаў гнілыя карэнні дрэва, якое трэба было выкарчаваць. Відаць было, што ён доўга на адзіноце насіў у сабе гэтыя думкі і не хапала толькі нейкага маленькага штуршка, каб выказаць іх, рашуча парваць усё, што звязвала яго з бацькам.

— А вам, маці,— павярнуўся да Ганны Пятроўны разгарачоны Мікола,— яшчэ раз дзякуй. Я ведаў, што вы прыедзеце сюды, я ноч не спаў, калі даведаўся аб вашым прыездзе...

Узрушаная, расхваляваная Ганна Пятроўна ціха дакранулася да Міколавай рукі.

— Пойдзем адсюль, Мікола. Правядзі мяне...

Але стары Бабёр, нібы ачнуўшыся ад нейкага дзіўнага забыцця, раптам шумна выйшаў з-за стала.

— Чакай, Мікола! — груба выкрыкнуў ён.— Ты што ж, нягоднік, задумаў? А?.. А брага? Пра брагу ты забыўся? Прападаць бразе?..

Мікола нервова ўсміхнуўся.
— Нікчэмны ты чалавек! Ты і цяпер нічога не зразумеў... Пойдзем, маці! — Мікола накіраваўся да дзвярэй.— А брагу вывернеш свінням, не прападзе! — кінуў ён ад парога.
— І ўсё? — увесь закалаціўшыся ад злосці, выгукнуў услед стары练Пракоп.— Ты больш нічога мне не скажаш? Ну, ідзі! Ідзі, гадаўская душа!.. Толькі ж глядзі, прыцісне ліха — не прасі ратунку. Глядзі!
Але Мікола ўжо не чуў бацькавых пагроз. Асцярожна трымаючы пад руку Ганну Пятроўну, ён выйшаў на двор.

* * *

Маці павольна ішла па дарозе. Вакол было ціха і спакойна, абапал дарогі жаўцелі пожняй прыбраныя палі. Як рана, аднак, пачалося сёлета на Палессі жніво... Вось ужо стаў відаць і бальшак, абсаджаны бярозамі. На ім не сціхала ажыўленне, туды і назад беглі машыны, уздымаючы густыя палосы пылу, здалёк падобнага на ранішні туман.
Маці спынілася, азірнулася на Гурыны. Акружанае зелянінай садоў, сяло здалёк бялела дахамі дамоў... Таццяна адгаворвала яе ехаць сюды. Але яна не паслухалася, і добра зрабіла, што не паслухалася.
Шчаслівай дарогі табе, мой сын...

1953

## ІЛОНКА

Аднойчы ў пошуках нейкай патрэбнай мне рэчы я выпадкова зазірнуў у ніжнюю шуфляду свайго рабочага стала, дзе ў мяне ляжаць розныя памятныя дробязі. Паміж скрыначкай з нарачанскімі каменьчыкамі, звязкам спінінгавых блешняў і невялікай калекцыяй манет я з цікавасцю заўважыў чорнага засушанага марскога вожыка — даволі дзіўнае, падобнае на ігласты мячык стварэнне прыроды. Я асцярожна выняў яго з шуфляды і паклаў на стол. Вожык гэты некалі быў жыхаром далёкага блакітнага Ядрана,— так у Югаславіі называюць Адрыятычнае мора. Я злавіў яго ў моры, каля

невялікага гарадка Стары Каштэль, размешчанага ў сямі-васьмі кіламетрах ад горада Спліт, адміністрацыйнага цэнтра Далмацыі і буйнога порта Югаславіі.

І вось — дзіўная асаблівасць чалавечай памяці — я глядзеў на вожыка і раптам надзвычай ярка ўспомніў і той маленькі гарысты гарадок з яго вузенькімі крывымі старадаўнімі вулічкамі, шумным базарам, царквой і шматлікімі, акружанымі зелянінай атэлямі, і блакітны Ядран з маляўнічымі скалістымі астравамі, і нейкія своеасаблівыя паўднёвыя сосны на беразе мора, і тое цікавае незабыўнае знаёмства, пра якое мне зараз так захацелася расказаць...

...У Стары Каштэль мы прыехалі ў другой палове дня. Ззаду ў нас заставаўся нялёгкі амаль трохсоткіламетровы шлях з Дуброўніка да Спліта па гарыстым узбярэжжы Ядрана. Шлях маляўнічы, прыгожы,— па правы бок ускінутыя да нябёсаў шэрыя гранітныя скалы, па левы — бліскучае блакітна-зялёнае мора, уздоўж дарогі багатая субтрапічная расліннасць. Але, трэба сказаць, дарога гэтая была не для людзей са слабымі нервамі. Высечаныя ў скалах горныя дарогі Югаславіі амаль усюды незвычайна вузкія, толькі ледзь шырэйшыя за наш прасторны турысцкі аўтобус з яркім надпісам спераду «Путнік», і здаралася, што на крутых паваротах — а такія павароты тут на кожным кроку — колы аўтобуса каціліся па-над самай безданню, і нават самыя смелыя з нас часамі адчувалі, як пад сарочкай па спіне пачыналі бегаць мурашкі.

Прыбыўшы на месца, наш запылены «Путнік» асцярожна ўехаў у шырокія каменныя вароты і пакаціўся па цяністай алеі старога парку да будынка, што бялеў зводдалек паміж дрэў. Гэта быў вялікі трохпавярховы атэль. У ім мы павінны былі правесці каля сарака наступных гадзін з нашага двухтыднёвага падарожжа па краіне.

Ледзь толькі аўтобус спыніўся, як усе мы, нават не зазірнуўшы ў атэль, кінуліся да мора, якое гэтак прывабна і, як бы сказаць, рахмана пляскалася літаральна ў дзесяці-пятнаццаці метрах ад гасцініцы. Бераг быў увесь усцяж закуты ў бетон, але нават гэты бетон не мог зменшыць прыгажосці велічнага, празрыстага, як нейкае дзіўнае зялёнае шкло, халоднага Ядрана.

Пакінуўшы на каменных, зробленых спецыяльна для купальшчыкаў, выспах сваё адзенне, мы адразу ж пачалі адзін за другім кідацца ў ваду. Пасля васьмігадзіннай калатні ў распаленым ад гарачыні, душным аўтобусе халод-

ны марскі душ быў проста-такі выратаваннем, і мы з асалодай плёхаліся і боўталіся, аж пакуль не пачулі строгі голас Даніцы, нашай перакладчыцы і гіда. Даніца — студэнтка Белградскага універсітэта, сербіянка па нацыянальнасці — клікала нас у атэль справіць неабходныя фармальнасці па прапісцы і размяшчэнню.

Справы занялі ў нас не шмат часу, і неўзабаве мы, жадаючы адпачыць з дарогі, зноў выйшлі на бераг. Заняліся хто чым: хто шпацыраваў па ўзбярэжнай дамбе, уздоўж якой раслі нейкія дзіўныя, зусім непадобныя на нашы беларускія, сосны; хто проста сядзеў на лавачцы, любуючыся морам; аматары-рыбаловы на чале з шафёрам нашага аўтобуса, белградскім камуністам Вітамірам Крысцічам, замёрлі над паплаўкамі, зробленымі на скорую руку прымітыўных вудаў, спадзеючыся злавіць у зялёных глыбінях які-небудзь незвычайны марскі цуд.

Мы ўчацвярых — тэхнік Мінскага аўтазавода Алесь Карпенка, малады, гаваркі хлапчына, якога за вясёлы і адкрыты нораў усе адразу ж пачалі зваць цёпла і любоўна Саша, пажылы сівы выкладчык універсітэта Іван Нікадзімавіч і два пісьменнікі — забраліся ў халадок, на лавачку, пад цень высокай сасны, і з асалодай падставілі твары і грудзі прыемнаму марскому ветрыку. Наша турысцкая група зрабіла ўжо немалы шлях па краіне, наведала многа вялікіх і малых гарадоў, і ў кожнага з нас ужо было што ўспомніць і аб чым падумаць. Моўчкі мы перабіралі ў памяці свае ўражанні, успаміналі цікавыя сустрэчы і размовы.

— Прызнаюся вам,— пазіраючы ў далячынь мора, раптам прамовіў Іван Нікадзімавіч,— ехаў я сюды не толькі для таго, каб пазнаёміцца з гэтай цікавай і маляўнічай краінай, з побытам і культурай народа. Меў я на мэце, так сказаць, асабіста для сябе атрымаць адказ на адно пытанне...

— На якое такое пытанне, калі не сакрэт? — спытаў нецярплівы Саша, шпурнуўшы ў мора каменьчык.— І ці атрымалі вы ўжо на яго адказ?

Іван Нікадзімавіч нейкі момант памаўчаў, падумаў.

— Так, атрымаў,— кіўнуў ён галавою,— атрымаў неаднойчы, а шматкратна і поўна. І што найбольш радасна — адказ такі, якога я і чакаў... А сакрэту тут ніякага няма. Мяне цікавіла...

Але закончыць сваю думку Іван Нікадзімавіч не паспеў. Непадалёк ад нас на невялікай пляцоўцы, на самым

беразе мора забаўлялася з мячом група вясёлых і шумных хлапчукоў і дзяўчынак. Гэта былі зусім яшчэ падлеткі, гадоў па 15—16, відаць, вучні якой-небудзь мясцовай школы. Яны заўзята рукамі перакідвалі мяч адзін аднаму, а часам нават падбівалі яго нагамі. Нехта з іх нечакана ўцэліў па мячу так, што ён, як снарад, праляцеў над пляцоўкай проста да нас, і, калі б Іван Нікадзімавіч не праявіў спрытнасці, мяч, бадай, трапіў бы яму проста ў лоб. Але гэтага не здарылася, Іван Нікадзімавіч рукамі хвацка схапіў мяч, чым нямала здзівіў нас, таму што ніхто з нас не падазраваў у ім такіх спартыўных здольнасцей.

У той жа міг да нас, запыхаўшыся, падбегла двое падлеткаў, хлапчук і дзяўчынка, разгарачоныя, з бліскучымі вачыма. Хлопчык быў голы да пояса, у трусах, а дзяўчынка апранута ў лёгкую стракатую сукенку без рукавоў і з вялікім выразам на спіне і грудзях. Абое былі смуглыя, чарнявыя, тыповыя далмацінцы. Падлеткі падбеглі, паглядзелі на нас і ў здзіўленні спыніліся: па нейкіх ім адным вядомых прыкметах яны, відаць, адразу здагадаліся, што мы іншаземцы. Магчыма, яны пазналі нават і хто мы іменна, пазналі, што мы рускія.

Крыху збянтэжаны хлапчук працягнуў руку за мячом і нешта коратка сказаў.

— Не, не аддам,— жартаўліва ўсміхаючыся, прыціснуў да сябе мяч Іван Нікадзімавіч.— Прымеце ў сваю кампанію, пагуляць...— ён ткнуў сябе пальцам у грудзі і знакамі паказаў, што ён хоча,— тады аддам.

Хлопчык і дзяўчынка весела засмяяліся, заківалі ў знак згоды галовамі. Відаць, яны зразумелі жарт Івана Нікадзімавіча і па яго гаворцы канчаткова пераканаліся, хто мы. Адразу забыўшыся на мяч, яны з вялікай цікавасцю глядзелі на нас, здзівіўшыся такой нечаканай сустрэчы.

— Ілонка! — раптам гукнула дзяўчынка, павярнуўшыся да пляцоўкі, дзе сабраліся ў чаканні мяча іх сябры і сяброўкі.— Ілонка!

З групы падлеткаў выскачыла дзяўчынка і пабегла да нас. Гэта была тоненькая, стройная, нібы вытачаная, смуглявая дзяўчынка гадоў шаснаццаці. Вочы яе былі схаваны за вялікімі дымчатымі акулярамі ад сонца. Ілонка зірнула на нас, і ўвесь яе тонкі прыгожы твар засвяціўся радасным ажыўленнем.

— Вы рускія?.. Масква? — прыкметна хвалюючыся, спытала яна па-руску, але з рэзкім акцэнтам.

— Так, рускія,— адказаў Саша.— Але не з Масквы, а з Мінска, беларусы... Чулі такі горад?

Ілонка заківала галавой.

— Мінск? Чула, ведаю...— І адразу ж, не хаваючы сваіх пачуццяў, а толькі жадаючы, каб мы зразумелі яе, з нейкай наіўнай шчырасцю сказала: — Мы любім рускіх.

Мы спачатку не знайшлі, што і адказаць на гэта дзяўчынцы. Іван Нікадзімавіч запрасіў Ілонку сесці на лаўку, і ў той жа момант Саша далікатна падхапіўся і саступіў ёй месца. Ілонка села, абняўшы і пасадзіўшы побач з сабой сваю сяброўку Любіцу. Не мінула і хвіліны, як уся шумная чародка хлапцоў і дзяўчынак, што забаўляліся на пляцоўцы, пакінулі гульню і акружылі нас цесным колам.

Як мы адразу ж даведаліся, усе гэтыя падлеткі былі вучнямі восьмага выпускнога класа адной з гімназій Спліта і прыехалі сюды аўтобусам на некалькі гадзін адпачыць ад кніг і канспектаў,— цяпер у іх была гарачая пара падрыхтоўкі да выпускных экзаменаў. Усе яны былі дзеці партовых рабочых, рыбакоў, служачых.

Адразу ж мы даведаліся і пра тое, адкуль Ілонка ведала рускую мову. Аказваецца, яна вывучала яе ў гімназіі. Вывучала не адна яна, а многія хлапчукі і дзяўчынкі, што зараз акружалі нас, але Ілонка была сярод іх першая выдатніца. Лёгка было заўважыць, што яна і наогул з'яўлялася душой усёй гэтай кампаніі.

Праз момант у нас ужо завязалася жвавая, перасыпаная жартамі і смехам, размова. Дзеці наперабой шчабяталі нешта на сваёй мове, размаўляючы з намі больш рукамі, чым языком. Падлеткі літаральна засыпалі нас пытаннямі — і аб нашых школах, і аб савецкіх кінафільмах, у большасці знаёмых ім, і аб нашых футбалістах. Мы ўсе ўчатырох адказвалі, як умелі, карыстаючыся, акрамя рускіх і беларускіх, словамі з усіх хоць збольшага вядомых нам моў — украінскай, польскай, нямецкай. І трэба сказаць, што як бы там ні было, а мы добра разумелі адзін аднаго і маглі размаўляць нават на абстрактныя тэмы.

Але з усіх рабят вылучалася сваёй цікаўнасцю і нейкай асаблівай прыхільнасцю да нас Ілонка. Яна скінула свае вялікія дымчатыя акуляры, і мы ўбачылі яе вочы — бліскучыя, чорныя, поўныя цеплыні і шчырай радасці. Ілонка перабірала ў руках ражок абы-як накінутай на плечы недарагой ярка-чырвонай касынкі і некаторы час моўчкі глядзела на нас, не ўмешваючыся ў агульную стракатню дзятвы. Потым яна асцярожна кранула за рукаў

Івана Нікадзімавіча і, з цяжкасцю падбіраючы патрэбныя словы, а часам і блытаючы іх, прамовіла:

— Таварыш, таварыш... Дазвольце мне чытаць вам ваш Пушкін, пісьмо Таццяны. Я люблю Пушкін...

— А вы ведаеце на памяць творы Пушкіна? — шчыра здзівіўся Саша.— О, пачытайце!..

Ілонка ўстала з лаўкі. Мы ўсе павярнуліся да яе; прыціхлі і рабяты, з цікавасцю падрыхтаваўшыся слухаць. Твар Ілонкі адразу змяніўся, стаў строгі, задуменны. Некаторы час дзяўчынка моўчкі глядзела сваімі чорнымі іскрыстымі вачыма ўдалеч, нібы там, за скалістымі астравамі, дзе мора непрыкметна злівалася з небам, бачыла нейкі, даступны толькі яе позірку, цуд.

Потым яна пачала чытаць:

> Я к вам пишу — чего же боле?
> Что я могу еще сказать?
> Теперь, я знаю, в вашей воле
> Меня презреньем наказать...

Голас у Ілонкі быў гучны, звонкі,— нездарма яна была дачкой Далмацыі, расла на ўлонні мора, на ўлонні гэтых пакрытых снегавымі шапкамі гор. Відаць было, што яе зачароўваў не толькі змест, але і самая музыка цудоўнага пушкінскага верша. Міжвольна і мы ўсе паддаліся гэтаму зачараванню.

А Ілонка ўсё чытала і чытала:

> ...Ты в сновиденьях мне являлся,
> Незримый, ты мне был уж мил,
> Твой чудный взгляд меня томил,
> В душе твой голос раздавался.
> Давно... нет, это был не сон!
> Ты чуть вошел, я вмиг узнала,
> Вся обомлела, запылала
> И в мыслях молвила: вот он!

Дзіўнае, хвалюючае пачуццё абняло нас. Я заплюшчыў вочы,— слухаць тут, за тысячу кіламетраў ад Радзімы, за высокімі гарамі, на ўзбярэжжы далёкага і чужога мора родныя сэрцу пушкінскія вершы! І хто іх чытаў? Тоненькая, чарнявая, зусім незнаёмая і чужая далмацінская дзяўчынка Ілонка! Чужая?.. Не, цяпер яна ўжо была для нас як быццам і не чужая. Неяк адразу яна стала для ўсіх нас блізкай і мілай. Здавалася нават, што мы і пазнаёміліся з ёю не дзесяць хвілін таму назад, а даўным-даўно...

Калі Ілонка скончыла чытаць, усе мы нейкі момант

маўчалі, як зачараваныя. А потым, як гэта часта бывае ў такія хвіліны, усе разам загаманілі, зашумелі.

— Цудоўна! — у захапленні выгукнуў Саша.— Цудоўна, Ілонка! Дазволь, я табе ў знак удзячнасці падарую на памяць гэты значок.

Саша выняў з маленькай верхняй кішэні пінжака невялікую рубінавую зорачку з белым эмалевым галубком і ўрачыста падаў яе дзяўчынцы.

— О, спасіба, таварыш! — узяла значок Ілонка.— Спасіба!

Шчокі Ілонкі гарэлі чырванню. Тым часам, убачыўшы, што ў Сашы ёсць савецкія значкі, да яго дружна, з шумам рынулася ўся чародка дзяцей, працягваючы рукі за падарункамі.

Пакуль Саша шчодра, направа і налева раздаваў апошнія запасы сваіх памятных значкоў, Іван Нікадзімавіч зноў пасадзіў Ілонку побач з сабой на лаўку. Адчувалася, што ён быў моцна ўзрушаны.

— Чыя ты, Ілонка? Хто твае бацькі? — спытаў Іван Нікадзімавіч.

— Бацькі? — перапытала дзяўчынка.— У мяне ёсць толькі мама... Яна працуе ў порце. Мы жывём удзвюх з мамай.

— А дзе ж твой бацька?

Вясёлы і жыццярадасны твар Ілонкі раптам спахмурнеў, як быццам на яснае сонца набегла воблачка. Дзяўчынка апусціла галаву. Зноў рука яе міжволі ўзялася церабіць ражок касынкі. Потым дзяўчынка нейкім асаблівым рухам страсянула кудзеркамі сваіх густых валасоў і строга зірнула на Івана Нікадзімавіча.

— Мой бацька быў партызан. Ён загінуў там,— паказала рукой Ілонка,— у гарах... Ён біўся з фашыстамі і загінуў.— І, нейкі міг памаўчаўшы, гэтак жа строга дадала: — Мой бацька таксама любіў вершы Пушкіна. Калі я была маленькая-маленькая, вось такая,— паказала рукою Ілонка,— ён часамі прыходзіў з гор да нас з мамай. І тады, у вольную хвіліну, ён браў мяне на рукі і чытаў мне вашага Пушкіна...

У нейкім душэўным парыве Іван Нікадзімавіч узяў дзяўчынку за тоненькую смуглую руку, як бы жадаючы перадаць ёй усё цяпло свайго пачуцця сяброўства і спачування. Ён быў крыху збянтэжаны, што незнарок нагадаў дзяўчынцы пра бацьку і выклікаў у яе сумныя ўспаміны.

— Ілонка, твой бацька загінуў за святую справу... Ты гэта разумееш?

Ілонка коратка кіўнула галавой.

— Скажы, Ілонка,— шчыра, як бацька, спытаў Іван Нікадзімавіч,— аб чым ты марыш, калі думаеш аб сваім жыцці, ну, якія ў цябе жаданні, якія думкі аб будучым?

— О, мары! — Ілонка раптам усміхнулася, вочы яе гарэзліва бліснулі. Разам знік з яе тонкага твару выраз строгасці і смутку.— Марыць — добра. Мы многа марым — усе, усе,— яна абвяла рукою сваіх сяброў.— Вунь тая дзяўчынка, бачыце, такая кучаравая, яе завуць Міліца, дык яна, ведаеце, аб чым марыць? Хоча стаць кіназоркай, як ваша Ларыёнава.

Ілонка і яе сяброўка Любіца, што сядзела побач, весела засмяяліся.

— Як вы думаеце, удасца ёй гэта?

Іван Нікадзімавіч жартаўліва нахмурыў бровы і прыгледзеўся да дзяўчынкі, якая акурат атрымлівала ад Сашы нейкую адкрытку з аўтографам.

— Думаю, што ўдасца,— з сур'ёзным выглядам зазначыў Іван Нікадзімавіч, выклікаўшы гэтым яшчэ больш вясёлы смех абедзвюх сябровак.— Вельмі ж яна баявая... Ну, а ты, Ілонка, якія ў цябе жаданні?

Ілонка на хвілінку змоўкла, задумалася.

— О, у мяне многа-многа жаданняў, як вунь тых каменьчыкаў на беразе мора. Ці ж іх усіх пералічыш?.. Ну, вось сёлета скончу гімназію. А затым я хацела б паступіць у інстытут, вывучыцца на ўрача... Ну, а яшчэ мне хацелася б многа падарожнічаць, пабываць у розных краінах. Я так хацела б пабываць у Маскве! А яшчэ?..— Дзяўчынка, смеючыся, пацiснула плячыма.— Усяго не перакажаш...

Іван Нікадзімавіч жартаўліва падміргнуў дзяўчынцы:

— Ну, а самае запаветнае, Ілонка?.. Напэўна, сустрэць у жыцці добрага друга і моцна-моцна пакахаць? А?.. Я ўгадаў?..

Ілонка і Любіца зноў шчыра засмяяліся.

— У Ілонкі ўжо ёсць каханак — Аўгуст,— не ўтрымалася, выдала сваю сяброўку Любіца.

— Як табе не сорамна, Любіца? — уся зачырванелася Ілонка.— Гэта няпраўда. Мы з Аўгустам проста добрыя сябры.— Ілонка нейкі міг памаўчала.— Я аб каханні яшчэ не думаю. Калі яно прыйдзе, то прыйдзе само і само смела пастукае вось сюды — тук-тук!..— паказала на сэрца Ілонка.— Маё запаветнае жаданне?..— Твар дзяўчынкі

зноў зрабіўся строгім, тоненькія чорныя броўкі сышліся на пераноссі. Яна загаварыла ціха, павольна.— Бацька мой загінуў ад рук фашыстаў. Гэта былі страшныя гады. Мы з мамай перанеслі столькі пакут... Найбольш я хацела б, каб на свеце ніколі не было ніякіх войнаў, каб заўсёды быў мір. Вось чаго я найбольш хацела б у жыцці!..

Іван Нікадзімавіч, відаць, не чакаў такога адказу на сваё паўжартаўлівае пытанне. Ён павярнуўся да дзяўчынкі, уважліва паглядзеў на яе.

— Вось табе мая рука, Ілонка,— на дружбу! — горача прамовіў ён.— Ведаеш, у нас з табой аднолькавыя жаданні. І я, і вось мае сябры таксама хацелі б, каб вайна ніколі не засмучала шчасця такіх, як ты, шчасця ўсіх людзей на свеце...

У гэты час Саша, раздаўшы ўсе свае значкі і адкрыткі, падказаў тым, хто застаўся абдзелены, каб яны звярнуліся за падарункамі да нас. І вось падлеткі ўсёй грамадкай зноў абступілі нас. Мы не пярэчылі, і хутка ўсё, што яшчэ заставалася ў нашых кішэнях, было раздадзена на ўспамін вясёлай і шумнай дзетвары.

Майскае сонца пачало ўжо хіліцца к захаду, калі дзеці раптам успомнілі, што ім пара ехаць дамоў.

Наша развітанне было незвычайным. Аказалася, што ў гімназістаў з сабой гітара,— яна ляжала непадалёк, пад кустом, разам з адзеннем,— і яны парашылі на развітанне праспяваць нам песню. Стаўшы паўкругам і пабраўшыся пад рукі, яны заспявалі народную песню пра свой родны горад Спліт. Запяваў і акампаніраваў на гітары высокі чарнявы хлопчык — той самы Аўгуст, якога ўспамінала Любіца.

Імправізаваны хор дзяцей зрабіў на ўсіх нас вялікае ўражанне. Чулі мы і раней, што далмацінцы — недалёкія суседзі італьянцаў — народ музыкальны і таленавіты, але цяпер самі ў гэтым пераканаліся. Падлеткі спявалі ў некалькі галасоў, праяўляючы тонкае адчуванне мелодыі, і гэтак прыгожа, гарманічна,— проста цяжка было паверыць, што хор гэты быў наладжаны проста на хаду.

Мы правялі гімназістаў праз увесь парк, аж да прыпынку аўтобуса, што хадзіў са Старога Каштэля ў Спліт. Дзеці паселі і, адразу ж высунуўшыся ў расчыненыя вокны, пачалі махаць нам рукамі і хусцінкамі.

Аўтобус крануўся і пайшоў, а яны ўсё махалі і махалі рукамі, і сярод многіх яркіх хусцінак мы выразна адрознівалі чырвоную касынку Ілонкі. Яе смуглявую тонкую

руку мы бачылі доўга-доўга, аж пакуль аўтобус не схаваўся за далёкім паваротам дарогі.

Вяртаючыся да мора, мы пaціху пайшлі па алеі старога парку. Высокія стогадовыя дрэвы, густыя кусты буйна зелянелі паабапал заасфальтаванай дарожкі.

— Вось, дружа мой Саша, бачыш? — ціха спытаў задуменны Іван Нікадзімавіч.— Гэта ж тое і ёсць, у чым я хацеў пераканацца, едучы ў гэтае наша падарожжа...

Саша нічога не адказаў, ён толькі ўзрушана памахваў нейкай зялёнай галінкай.

Так у маўчанні і роздуме — роздуме аб сустрэчах і расставаннях, аб дружбе людзей, аб міры і вайне — мы зноў выйшлі да мора, якое несціхана і роўна пляскалася ў бераг жывою вясёлай хваляй.

1958

## НЕ ВЕРЫЦЬ НЕЛЬГА

Моцны, басавіты гудок прагучаў над ракой, пакаціўся па асенніх зарэчных лугах, і параход, зусім замарудзіўшы ход, асцярожна ткнуўся носам у бераг. Лужкі — невялічкая прыстань, тут нават не было дэбаркадэра, і параходы прыставалі проста да крутога пясчанага берага.

Узяўшы з-пад лаўкі чамадан, Рыгор Беразняк ускінуў на руку дажджавік, спусціўся з палубы і па хісткіх вузенькіх сходках, перакінутых з борта парахода на пясок, сышоў на бераг. Пасажыраў сёння, як і заўсёды ў будзённыя дні, было няшмат, і параход доўга не затрымліваўся. Выгрузіўшы дзесяткі са тры парожніх лазовых кашоў з-пад рыбы, якую адсюль штодня адпраўлялі ў горад лужкоўскія рыбакі, ды яшчэ некалькі мяхоў з поштай, параход даў развітальны гудок і адразу ж, шумна залапатаўшы па вадзе магутнымі пліцамі, пачаў адплываць ад берага.

Рыгор, не спяшаючыся, падняўся на бераг. Тут, па левы бок ад дарогі, стаяла маленькая, збітая з пахучых смалістых дошак кантора прыстані і складскі будынак, а па правы — раскінулася прыгожая дуброва. Пастаўіў-

шы на траву чамадан, Рыгор дастаў з кішэні папяросы, закурыў, азірнуўся на раку.

Параход, пакідаючы ззаду шырокую пенную паласу, ужо даплыў аж да павароту ракі. Увесь беленькі, з ярка-чырвоным сцяжком на высокім тонкім флагштоку, ён зводдалек, на сіняй роўнядзі ракі выглядаў нібы цацачны. Неўзабаве параход схаваўся за зялёным поясам прырэчных лазнякоў.

Рыгор глянуў на гадзіннік — дванаццаць. Па сутнасці, дзень толькі пачынаўся. А да Васілішак, куды ехаў Рыгор, ад прыстані заставалася ўсяго кіламетраў з дваццаць. Рыгор не ведаў, як ён будзе дабірацца да вёскі, але яму не хацелася і думаць аб гэтым. Неяк даедзе — можа, трапіцца які падарожны грузавічок або фурманка, ды, зрэшты, пройдзе і пехатою. Гэта было не галоўнае. Самае важнае, што ён вось так зусім нечакана апынуўся тут, у роднай мясціне, дзе не быў ужо каля пяці год.

Вялікая ўсё ж гэта радасць — праз доўгія гады трапіць на месца, дзе ты нарадзіўся, дзе прайшло тваё маленства, пастаяць вось так сонечным асеннім днём над ракой, сярод апусцелага лугу, адчуваючы ласкавыя подыхі гаючага рачнога ветрыку. І адкінуць на час усе клопаты, усе цяжкія думкі...

Як узрадуюцца яго прыезду маці, Галінка. Маці, вядома, не ўтрымаецца, заплача ад радасці, прытуліцца да грудзей. А Галінка?.. Якая яна цяпер, яго дарагая сястрычка? Пяць гадоў назад бегала яна ў шосты клас,— гэтакая высокая танканогая бяляначка. А зараз ужо скончыла дзесяцігодку. Дарослая, самастойная дзяўчына. Настолькі самастойная, што, калі ён у пісьме прапанаваў ёй не траціць часу і дразу ж падаваць заяву ў інстытут, яна і не падумала паслухацца, засталася працаваць у сяле. Рыгор усміхнуўся,— слова камсамола было для яе даражэй, чым слова брата. Родная бяляначка, як яна выглядае цяпер?

Рыгор тэлеграмай паведаміў маці, што прыедзе, але не папярэдзіў, што едзе не ў госці, а назусім. У кішэні ў яго ляжала прызначэнне на працу аграномам у Васілішкі, у калгас «Сцяг Леніна». Ну, Галя, напэўна, не вельмі здзівіцца гэтай навіне. «І правільна,— бліснe яна сваімі строгімі вачанятамі.— Даволі табе там у сталіцы сядзець у навуковых канцылярыях ды ставіць доследы ў вазонных гаршках. Ідзі да нас, на прасторы палёў...» І раней у пісьмах яна часта прапаноўвала яму нешта падобнае. Але маці будзе збянтэжана. Добраахвотна кінуць працу ў го-

радзе, ды на такой высокай пасадзе, і ехаць у сяло?.. Яна не здолее гэтага зразумець. Адно падумае — здарыліся ў яго нейкія непрыемнасці. І ён не зможа схаваць ад маці сваёй бяды. Як ні цяжка, павінен будзе расказаць ёй усё...

Узяўшы чамадан, Рыгор паціху пакрочыў па дарозе. Дзень быў цёплы, сонечны, і халадок, што дыхаў з дубровы, прыемна астуджаў галаву.

Ззаду па дарозе пачуўся дробны стукат колаў. Рыгор азірнуўся.

— Гэй, таварыш! — прытрымліваючы лейцы, гукнуў з воза пажылы вусаты дзядзька з нейкай бліскучай какардай на шапцы.— Табе часам не ў Лужкі? Сядай, падвязу...

— Мне ў Васілішкі,— адказаў Рыгор.

— Не па дарозе... Ты, браток, кіруйся вось так,— махнуў пугаўём дзядзька,— выходзь на шлях. А там цаляй на падарожны грузавічок...

Дзядзька з какардай рашуча тузануў лейцы, і конь трушком пабег па дарозе ў той бок, дзе відаць былі хаты невялікага сяла.

Рыгор задуменным позіркам правёў фурманку, за якой густа ўздымаўся пыл... Так балюча было зноў і зноў думаць пра адно, але адкінуць ад сябе гэтыя думкі ён не мог. Як, з чаго ўсё гэта пачалося? Як сталася, што ён беззваротна згубіў Ірыну? Рыгору здавалася, калі б ён змог сам сабе ясна адказаць на гэтае пытанне, яму адразу стала б лягчэй. Але ён не знаходзіў адказу, усё было як бы ў нейкім дзіўным тумане.

Тры гады таму назад, упершыню пазнаёміўшыся з Ірынай, ён парашыў, што гэта была акурат тая адзіная ва ўсім свеце дзяўчына, якую шукала яго сэрца. Ірына, тоненькая, стройная, агністая, Ірынка!.. Ён пакахаў яе так моцна, як толькі магло кахаць яго маладое сэрца.

Як зачараваны, ён не заўважаў і не хацеў заўважаць нават такія рысы яе натуры, якія маглі б насцярожыць чалавека, няздольнага на моцныя пачуцці. Рыгор, напрыклад, першы весела смяяўся, калі Ірына, выхваляючыся сваёй нейкай ненатуральнай бесклапотнасцю, заяўляла, што не ведае, як расце ў полі жыта. Дачка багатых бацькоў, яна была вялікай прыхільніцай мод, любіла апранацца ў нейкія звышарыгінальныя, па-замежнаму пашытыя плацці і насіла туфелькі на такіх тоненькіх абцасах, што яны нагадвалі звычайнае шыла. Са здзіўляючай лёгкасцю Ірына магла спакойна круціцца цэлы вечар на танцульках, хоць заўтра трэба было ісці здаваць чарговы залік.

Але ў Рыгора нават у думках не было асуджаць яе за што б там ні было. Усё ў Ірыне захапляла яго. Моцнае пачуццё можа вось так часова асляпляць. Ды зрэшты, божа мой, як сумна было б жыць на свеце, калі б дзяўчаты, асабліва такія, як Ірына, не любілі танцаваць і не насілі прыгожыя модныя туфелькі. А што датычыць жыта, то ці ж гэта была ўжо такая непапраўная бяда? Наперадзе цэлае жыццё, і Рыгор верыў, што не толькі пакажа Ірыне, як расце жыта, але яшчэ, дзеля цікавасці, і навучыць яе жаць сярпом і вязаць снапы. Чаго варта было б каханне, калі б яго маглі перакрэсліць такія дробязі?..

Неўзабаве пасля вяселля Ірына перабралася жыць у сціплы пакой маладога навуковага работніка. І вось хутка ўсё пайшло, як у нейкім блытаным недарэчным сне. Непаўторныя, ап'яняючыя часіны шчасця чаргаваліся з часінамі роспачы і душэўнага болю. Як свежы ранішні вецярык разганяе начны туман, так жыццё пачало паступова разбураць першае сляпое ачараванне Рыгора. Ён хутка зразумеў, што Ірына не толькі не ведала, як расце жыта, але яна і не хацела гэтага ведаць.

Усё ёй спраўлялася і здабывалася, і Рыгор яшчэ не лічыў гэта самай вялікай бядой. Горш было другое. Праваліўшы адну за другой дзве экзаменацыйныя сесіі, Ірына аказалася выключанай з інстытута. Але, замест таго каб сесці за кнігі і канспекты, яна пашыла з паўтузіна новых шаўковых халатаў і пакаціла ў Сочы.

Так іх жыццё няўхільна і з усё нарастаючай хуткасцю пайшло наперакос. Рыгор зразумеў, што тая бесклапотнасць Ірыны, якая некалі выглядала такой чароўнай наіўнасцю і выклікала ў яго захапленне, была не чым іншым, як зародкам звычайнага паразітызму. Настойлівыя спробы што-небудзь змяніць, наладзіць, не прыводзілі ні да якіх іншых вынікаў, акрамя дзікіх істэрык, бясконцых папрокаў, спрэчак.

Мінаў час, і Рыгор прыкметна пачаў астываць. Знікалі ўсе яго добрыя намеры і спадзяванні пабудаваць сям'ю. Душу яго паступова агортваў холад адчужанасці, адзіноцтва. Цяпер яны спрачаліся ўсё радзей і радзей. Але разам са спрэчкамі знікалі і апошнія кволыя нітачкі іх блізкасці.

І вось ён застаўся адзін. Зусім адзін...

Рыгор памалу крочыў па мурожнай абочыне лугавой дарогі. Ішоў прыгнечаны, невясёлы... А вакол стаяла такое хараство. Неба было глыбокае, сіняе, і на ім — ні хму-

рынкі. Пырскалі з-пад ног напалоханыя конікі. Злева і справа адзінокімі вартавымі стаялі стагі. На самай вяршыні бліжэйшага з іх у строгай глыбакадумнай паставе нерухома замёр бусел. Смешны такі, важны, нібы гаспадар усіх гэтых навакольных лугоў, ён азіраў апусцелыя прасторы, час ад часу задзіраў угору доўгую дзюбу і клекатаў, відаць, развітваючыся перад адлётам у вырай...

Неўзабаве Рыгор выйшаў на шырокі, прatoраны калгаснымі грузавікамі шлях. Тут ужо як чыё шчасце — падарожная машына магла здарыцца і ў першую хвіліну, а магло яе не быць і цэлы дзень. Рыгор парашыў пачакаць з паўгадзіны, а калі машыны не будзе, пайсці памалу пехатою. У такі дзянёк прайсціся была адна любата, тым больш што чамадан у яго быў лёгкі. Рыгор прысеў на траву. Не мінула і пяці хвілін, як здалёк пачуўся шум грузавіка. Рыгор выйшаў на дарогу, падняў руку. Ахутаная пылам паўтаратонка імчалася поўным ходам, і Рыгор ужо думаў, што яна наогул не спыніцца. Але, пад'ехаўшы зусім блізка, грузавічок раптам аж скрыгатнуў тармазамі і, як укапаны, спыніўся каля яго.

З адкрытага акенца кабіны высунуўся шафёр — гадоў дваццаці юнак з абветраным загарэлым тварам. Акінуўшы Рыгора вясёлымі вачыма, ён шырока ўсміхнуўся, бліснуў роўнымі, адзін у адзін, белымі зубамі.

— Адкрытым галасуеш? — кінуў ён вядомы шафёрскі жарт.— Куды?..

— У Васілішкі... Не падкінеш, браток?

— Відаць, нехта за цябе ў царкве свечку паставіў... Акурат туды еду. Сядай,— расчыніў шафёр дзверцы.

Рыгор, не марудзячы, сеў побач з шафёрам і ледзь толькі паспеў застукнуць дзверцы, як машына адразу ж кранулася з месца і хутка пачала набіраць разгон.

Рыгор агледзеўся. У кабіне панаваў парадак, пад нагамі нідзе не было відаць ні акурачка, ні смяцінкі. А зверху, над пярэднім шклом, тырчаў маленькі букецік свежанькіх палявых рамонкаў.

— Праз паўгадзіны на месцы будзем,— з нейкім асаблівым спрытам пакручваючы руль, заўважыў юнак. Вёў ён машыну хутка, з асалодай, без напружання, і адчувалася, што дасканала ведаў сваю справу.— Прымчаў бы і хутчэй, ды дарожка тут — адно гора!

Па дарозе і сапраўды часта сустракаліся выбоіны, ямкі, але шафёр то прытармажваў, то спрытна аб'язджаў іх, і штуршкоў амаль не было чуваць.

— А сам ты дзе працуеш? — прыхільна спытаў шафёра Рыгор.

— Ды там жа, у Васілішках. У калгасе.

Рыгор больш пільна прыгледзеўся да хлапца.

— Нешта я цябе не ведаю. Ты адкуль родам?

— Не тутэйшы,— прамовіў юнак і нахмурыў бровы.— Родам я далёкі, з-пад Полацка.

— Як жа ты, палачанін, сюды трапіў? — зацікавіўся Рыгор.

— Трапіў...— Юнак уздыхнуў, закурыў.— Шчасце сваё тут знайшоў... Можна сказаць, зусім нечакана. Служыў я ў арміі і займеў там дружка. Два гады ў аўтароце разам адгрукалі. З Васілішак ён сам, можа, чуў, Янка Будай, нізенькі такі, чарнявы... Ну, адслужылі, вярнуўся я дамоў. Мінуў час, не дае мне дружок спакою, піша: «Прыязджай, Сцёпа, у госці, буду рады табе, як брату, успомнім, як разам елі салдацкую кашу...» Я, доўга не пагудумаючы, вясною, бах на поезд і сюды. З тыдзень пагуляў... ну, а назад ужо і не змог. Як у пастку трапіў. Дамовіўся з Іванам Кузьмічом наконт работы вось на гэтым драндулеце, за барахлішкам дамоў падскочыў... Маці за галаву схапілася: «Сынок, што з табою? Чаго так раптам з дому ляціш, ці ж табе тут дрэнна?» А я ёй: «Не пытай мяне пакуль ні аб чым, маці. Не бойся, цябе не забуду і дамоўку не забуду, але пакуль не пытай...» І на другі ж дзень назад паехаў... Адным словам,— ты ўжо, можа, і сцяміў,— закахаўся я тут у адну. Так закахаўся, што адчуваю: жыцця мне без яе ўжо не будзе!.. А цяпер не ведаю, як і аддзячыць дружка. Гэта ж, каб не ён, мог бы я і не знайсці ў жыцці таго, што знайшоў...

Юнак замоўк, патушыў недакурак і шпурнуў яго ў акно. Спахмурнелы Рыгор таксама маўчаў. Сэрца ў яго зашчымела. Шчасце юнака было наперадзе, а ён, Рыгор, адчуваў такую спустошанасць, смутак. Няўжо ён ніколі больш не спазнае таго хвалюючага палымянага пачуцця, не знойдзе свайго шчасця?..

Насустрач ім з-за павароту выкаціўся пашарпаны стары грузавік, вышэй кабіны нагружаны нейкімі парожнімі бочкамі і скрынкамі. Сустрэчны шафёр — запылены, чарнявы, такі ж малады хлопец, як і Сцяпан,— відаць, пазнаўшы васілішкаўскую машыну, яшчэ здалёк высунуўся з кабіны і замахаў рукой.

— Прывет, Сцёпа!..— гукнуў ён, калі машыны, вуркочучы гарачымі маторамі, прыпыніліся адна каля другой.—

Слухай, званілі з РТС, каб ты забіраў акумулятар. Ужо гатовы!..

— А хто званіў? — увесь падаўшыся ў акно, спытаў Сцяпан і, нават не жадаючы хаваць свайго хвалявання, адразу хапіўся рукою за рычагі.

— Адна асоба,— усміхаючыся, падміргнуў чарнявы.— Ды ты куды, Сцяпан? Чакай!.. Слухай!..

Але Сцяпан ужо не слухаў, што крычаў чарнявы, махнуў яму рукой, газануў і пакаціўся па дарозе.

— Гэта і ёсць той самы Янка,— крыху праехаўшы, сказаў Сцяпан.— У сельпо працуе. Я за яго ў агонь і ваду пайшоў бы...— Сцяпан з хвіліну памаўчаў, уважліва выбіраючы сярод выбоін роўную дарогу. Потым ён зноў загаварыў.— Асоба... Янка так жартам Галю называе. Не ў злосць — ён добры, не зайздроснік...

— Галю? — уздрыгнуўшы ад нечаканасці, здзіўлена спытаў Рыгор.— Якую Галю?

— Ды тут адна,— ні аб чым не здагадваючыся, працягваў Сцяпан.— У РТС працуе. Галя, па прозвішчу Беразняк...

Збянтэжаны Рыгор недаўменным позіркам утаропіўся на Сцяпана. Што такое, няўжо ўся тая гаворка ішла пра Галінку, пра яго сястру? Чырвань ударыла ў твар Рыгору, і ён ледзь стрымаўся, каб не выдаць сябе. Але Сцяпан, заняты машынай, нічога не заўважаў. Яму, відаць, і ў галаву не прыходзіла, хто ехаў побач з ім.

Рыгор разгубіўся — маўчаць яму ці прызнацца?! Маўчаць няёмка. Яны прыедуць у вёску, Сцяпан адразу ж даведаецца, хто з ім ехаў, і будзе адчуваць сябе так ніякавата. Атрымаецца, быццам ён знарок падслухоўваў яго тайны... Але ж пакуль Рыгор вагаўся, юнак зноў загаварыў, і Рыгор не знайшоў рашучасці перабіваць гаворку.

— Асоба...— усміхнуўшыся, калыхнуў галавою Сцяпан.— Янка яе так за гордасць празваў. А яна, і праўда, гордая, ідзе па вуліцы — галаву высока трымае, вачэй ні перад кім не апусціць. Але я скажу так: гордасць усякая бывае. Адна справа — пыхлівасць, а другая, калі чалавек горды сваёй харошай душой, калі ён увесь чысты і ясны, як неба. А Галя такая... За праўду — гарой! Нічога пустога, паказнога цярпець не можа.

Сцяпан замоўк. Грузавік нырнуў у малады сасновы лясок і пабег роўнай нешырокай прасекай. Адразу ж за сасняччком пачаўся стары лес, і тут машыну закалаціла на тоўстых вузлаватых карэннях, якія раз-пораз пераці-

налі дарогу. Але неўзабаве лес скончыўся, і машына выбегла на поле. Па абодва бакі дарогі ляжалі бясконцыя, пакрытыя ржэўнікам палеткі.

— Думаеш, лёгка такую кахаць? — памаўчаўшы, працягваў Сцяпан.— Натура ў мяне гарачая. Ну і, канешне, не без заскокаў. Бывае, лячу па вуліцы як вецер. Курэй тут, у навакольных сёлах, колькі перадушыў... Ну, аднойчы і яе так з форсам правёз. Сярод поля загадала мне спыніць машыну, выскачыла з кабіны і пайшла пеша. Нават не развіталася. «Пакуль, кажа, не навучышся ездзіць як чалавек, лепш і не падыходзь, ведаць цябе не хачу...» І што думаеш,— перасіліў натуру, пасмірнеў. Зараз па вёсцы еду — на клячы абагнаць можна, і ўвесь час нагу на тармазе напагатове трымаю, каб хаця якая жыўнасць пад кола не падкруцілася...

Рыгор слухаў юнака і адчуваў, як паступова супакойвалася яго засмучаная душа. Нібы ў спякотны дзень ён, засмяглы, прыпаў да чыстай халоднай крынічкі. Не, Рыгор не будзе прызнавацца, хто ён. Навошта бянтэжыць хлопца? Адразу ж знікне ўся яго прастадушнасць, шчырасць. А душа Рыгора прагнула дакрануцца менавіта такой шчырасці, чысціні.

— Эх, любоў! — не то ў захапленні, не то з болем уздыхнуў Сцяпан.— Раней я думаў, што гэта толькі ў кніжках так пішуць пра яе, а ў жыцці нічога такога няма... Каб ты ведаў, колькі я, бывае, пакут цярплю. Ледзь што не так або ненарокам паспрабуеш дазволіць што лішняе, Галя такую праборку задасць, што хоць на край свету ўцякай... Апусціш галаву, маўчыш, бо і сапраўды бачыш, што вінаваты. Затое, калі падабрэе, прыхіне галаву да грудзей, скажа ціха: «Сцёпа»,— то, здаецца, ты ў той жа міг нібы на ракеце ўзляцеў у неба. Вось што за Галя!..

Воддаль па правы бок ад дарогі паказаліся доўгія цагляныя пабудовы і побач, роўным радком, прыгожыя драўляныя домікі невялікага пасёлка. Домікі шчыльна падступалі да густога бярэзніку, які стаяў сярод поля, як аазіс. Гэта была Бараўлянская РТС. Усё тут было знаёма Рыгору: кожны кусток пры дарозе, кожнае дрэва. І ён яшчэ пільней стаў глядзець наперад, з хваляваннем чакаў, калі з-за густых прысад пакажуцца першыя васілішкаўскія хаты.

Але Сцяпан, пад'ехаўшы да скрыжавання, раптам асцярожна прытармазіў і звярнуў са шляху на пратораную машынамі палявую дарогу, што бегла ў бок РТС.

— На падзарадку акумулятар здавалі,— растлумачыў ён.— Трэба забраць.

— Ты ў РТС? — спытаў Рыгор.— Дык чакай, браток, я тут злезу.

— Сядзі, я толькі на хвілінку заскочу,— паспрабаваў угаворваць Сцяпан.

Але Рыгор заязджаць у РТС адмовіўся. Па-першае, ён не хацеў вось так адразу пасля той шчырай размовы сустракацца з сястрой у прысутнасці Сцяпана. Па-другое, да Васілішак ужо было зусім недалёка, і яму нават хацелася прайсціся пеша, пабыць на адзіноце. Гэта ж ён пойдзе насустрач свайму новаму, зусім-зусім новаму жыццю...

Сцяпан прыпыніў машыну, і Рыгор, шчыра падзякаваўшы хлопцу, вылез з кабіны.

— Шляхам ідзі, вунь за тым узгорачкам і сяло,— гукнуў, бліснуўшы сваімі прыгожымі белымі зубамі, Сцяпан.— Бывай!

— Ведаю, ведаю... Бывай! — махнуў рукою Рыгор.

Вярнуўшыся на шлях, Рыгор на момант спыніўся. Ён стаяў нерухомы, прыціхлы, глядзеў перад сабой на пачарнелае ржышча, на далёкі гай і нібы нешта настойліва намагаўся ўспомніць...

Некаторыя лічаць восень сумнай, нецікавай парой. Гаснуць у гэты час яркія зялёныя фарбы на лугах і палях, чарнее лес. Птушкі пакідаюць свае гнёзды і адлятаюць у вырай. Хмурнее неба, і ўся прырода заміраe, рыхтуючыся да зімы. Але няпраўда, восень не сумная, ёй уласціва свая, адметная і непаўторная краса. Прыгледзьцеся, якім велічным спакоем напоўнена ўвосень зямля,— усю сваю сілу, усе незлічоныя багацці яна сумленна і пакорна аддала чалавеку і цяпер, стомленая, але шчаслівая, ляжыць у заслужаным спачынку, збірае новыя сілы. А паслухайце, якая чуйпая, поўная цудоўнай гаючай сілы цішыня пануе гэтай парой у полі. Дыхніце духмяным водарам асенніх палёў у час, калі над сонечнай зямлёй плыве павуцінне «бабінага лета»,— нібы вып'еце чыстай крынічнай вады.

Ёсць своеасаблівае хараство і ў асенніх фарбах, яны не ўсюды шэрыя і пабляклыя, як здаецца. Зірніце, як у лесе палымнеюць, нібы ахопленыя агнём, арабіны, як прыгожа жаўцеюць клёны, бярозы, чырванее лісце асін...

Рыгор уздыхнуў — раптоўная думка, нібы нешта жывое, адчувальнае, стукнула ў сэрца. Так, Ірына не любіла яго, ён ведаў гэта. Але ці ўмела яна наогул любіць? Шчы-

ра і чыста, да самазабыцця, як некалі ён любіў яе, як вось зараз любіць гэты юнак?.. Сляпая, з пустой душой, яна не разумела, у чым шчасце, не шукала яго, жыла, як бы аблытаная павуціннем сваіх нікчэмных мяшчанскіх уяўленняў... І ў гэтым была, відаць, разгадка таго пакутліва-га пытання, на якое ён шукаў і не знаходзіў адказу.

Задуменны Рыгор ціха пакрочыў па дарозе. Вось ён выйшаў на ўзгорак і воддаль убачыў першыя хаты сяла. У крайняй ад шляху жыў стары Пракоп, па прозвішчу Смык, славуты на ўсю ваколіцу каваль. Выдумшчык і штукар, любімец васілішкаўскай моладзі. Хата яго стаяла, акружаная садам, а на вуліцы, каля самых акон, рос высокі стары клён. За хатай канцавога Пракопа жыла ўдава Агата, дарэчы, калі ён не памыляецца, родная цётка таго самага Янкі Будая, што быў сябрам Сцяпана...

Дзіўная рэч: з часу, калі Рыгор сышоў з парахода, здаецца, нічога не змянілася, усё засталося, як і было. І аднак жа цяпер нейкае новае, нязнанае дагэтуль адчуванне авалодала ім. Пачуццё надзеі. Сам таго не заўважаючы, Рыгор паскорыў хаду... Так, без веры ў шчасце нельга жыць. Не верыць нельга!..

Гуллівы ветрык нечакана наляцеў з поля, страсянуў галіны клёна каля хаты канцавога Пракопа, і на дол пасыпаліся шырокія жоўтыя лісты. Адзін з іх, нішчодра дубы знарок, прыліп да пляча Рыгора. Ачнуўшыся ад дум, Рыгор асцярожна ўзяў яго, разгладзіў на руцэ. Што за дзіўны знак? Вітанне? Ці, можа, пропуск у яго новае жыццё?..

1958

## НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ

Побыт на невялікім рачным буксіры, вядома, мае свае нязручнасці. Людзей тут мала, каманда, уключаючы ўсіх — ад капітана да качагара, складаецца чалавек з дваццаці, і, зразумела, кожны жыве на віду, нічога ні добрага, ні дрэннага ад суседзяў не схаваеш.

У матроса Васі Гардзевіча сёння з самай раніцы быў цудоўны настрой, і гэта адразу ж заўважыла ледзь не ўся каманда буксіра «Уля Громава». Белавалосы, невы-

сокі ростам, але моцны і стройны нават у прасторнай парусінавай робе, Васіль, ці, як яго па маладосці год звычайна называлі, Вася, Васёк, Васюта, увесь час нешта сам сабе напяваў, у час снядання жартаваў, смяяўся.

Паглядаючы, як Вася, закасаўшы рукавы, завіхаўся са швабрай, мыючы кармавую палубу, вольны ад вахты механік Жора Змушко падштурхнуў локцем свайго друга — матроса Мірутку.

— Глянь на Ваську... Смехатура! Або ён на латарэйны білет «Волгу» выйграў, або нарэшце атрымаў лісток ад сваёй бакавецкай каханкі. Няйначай!..

Васіль чуў гэтыя жарты сяброў, але не крыўдзіўся. Чаго там, няхай сабе гавораць... Яны, можа, таму і чэшуць языкі, што зайздросцяць. Як бы там ні было, а ён адчуваў сёння вялікую радасць, і ў яго не было ніякага жадання хаваць гэта ні ад каго. Шчасце... А што гэта, уласна, такое, калі падумаць? Ну, можа па-навуковаму гэта пачуццё і мае якое пэўнае тлумачэнне. У Васі ж было сваё разуменне шчасця, і, якой бы нязначнай ні здалася каму прычына яго сённяшняга настрою, скажыце дзякуй, калі лёс пашле вам такія прыемныя хвіліны, якія перажываў зараз гэты дзевятнаццацігадовы юнак.

Словам, жартаўнікі хоць і гаварылі наўгад, але трапілі ў цэль — прычынай усяго сапраўды былі сардэчныя справы.

Учора ўвечары Вася набраўся смеласці і пайшоў у каюту да Леаніда Ільіча, капітана. Сёння прыблізна апаўдні буксір, павольна цягнучы ўгару тры цяжкія, гружаныя рудою баржы, будзе праходзіць непадалёк ад Бакаўца, Васілёвай вёскі. Ад Прыпяці да Бакаўца напрасцяк было кіламетраў з дзесяць, не больш. Васіль папрасіў у Леаніда Ільіча дазволу адлучыцца з парахода на пару сутак, пакуль буксір дацягне баржы ў Нырчу, на перавалачную прыстань. Многія хлопцы з каманды — тыя, вядома, хто быў родам з недалёкіх ад ракі сёл,— ужо бралі такія кароткія, на дзень-два, адпачынкі. Паедуць, праведаюць бацькоў або жонак і потым даганяюць параход. Вася ж яшчэ ні разу з самага пачатку навігацыі дамоў не ездзіў і быў упэўнены, што Леанід Ільіч не адмовіць.

Леанід Ільіч, пажылы, вусаты мужчына, з маршчыністым, бронзавым ад загару тварам, павольна зняў акуляры, адсунуў убок лічыльнікі, гаспадарчыя ведамасці і запрасіў Васіля сесці. Сіні форменны кіцель быў на ім па-

дамашняму расшпілены, з-пад яго выглядала паласатая цяльняшка.

— А што ў цябе там за важныя справы? — спытаў ён, падняўшы сваю стрыжаную пад вожык сівеючую галаву.

— Ды ведаеце, Леанід Ільіч...— твар Васі пыхнуў чырванню. Хлапец збянтэжана заміргаў вачыма: і як гэта ён ішоў сюды і не прыдумаў якой-небудзь важнай прычыны?..

Капітан усміхнуўся, пільна паглядзеў на Васіля, і той у яго ўсмешцы, у позірку адчуў нешта такое цёплае, роднае, што адразу супакоіўся, даверліва ўзняў вочы на Леаніда Ільіча. Нібыта перад ім быў не камандзір парахода, а родны бацька.

— А каб цябе! — калыхнуў галавою Леанід Ільіч.— Які ты яшчэ малады, Васёк. Хоць бы хацеў зманіць, не зможаш... Дзяўчына, праўда?..

— Угу,— сцвярджальна кіўнуў Вася.

— Ну, добра, з'ездзі. Мы заўтра вечарам будзем у Нырчы, перададзім баржы «Тэльману», а паслязаўтра на запраўку станем. Там ты нас і дагоніш. Толькі дамоўся з кім-небудзь, каб у выпадку патрэбы падмянілі.

— Я ўжо дамовіўся з Цімкам Жаўрыдам,— паспешліва адказаў Вася.

— Ну тады не пярэчу, едзь,— з мяккай усмешкай паўтарыў капітан і ўзяўся за акуляры, паказваючы, што размова скончана.

Але Вася камячыў у руках шапку і працягваў сядзець. Заўважыўшы гэта, капітан непрыкметна зноў паклаў на стол акуляры.

— Тут такая справа, Леанід Ільіч,— апусціў галаву Вася.— Я б, можа, і не прасіўся, але так па ёй засумаваў... Паверыце, за апошні месяц, можа, дваццаць пісем паслаў. Усё ёй пішу: і як мы плывём, і розную там прыроду апісваю...

Уважліва, усё з той жа бацькоўскай усмешкай слухаючы Васю, Леанід Ільіч набіў тытунём сваю люлечку з доўгім роўным цыбуком і запыхкаў дымам.

— А то, памятаеце, мы каля Канатопа на мель наскочылі, паўдня прастаялі?.. Дык я і пра гэта ёй напісаў. Няхай чытае, ведаю, ёй усё гэта цікава будзе. З нашага сяла адзін я на параходзе служу, а то ўсё больш хлопцы ў калгасе або на экскаватарнай станцыі працуюць.

Вася прымоўк, і Леанід Ільіч, пачакаўшы, асцярожна спытаў:

— А што, Вася, яна табе таксама піша ці?..

— Піша, як жа! — выгукнуў Вася і адразу ж нырнуў рукою ў бакавую кішэню. З радаснай гатоўнасцю ён выцягнуў адтуль тоненькае і, відаць, даволі даўняе пісьмо.— Во! Як жа...— Вася пакруціў яго ў руках.

Па тым, з якім гонарам ён паказаў той невялікі лісток, можна было здагадацца, што не надта ўжо многа было ў яго другіх доказаў дзявочай увагі.

— Та-ак,— прамовіў Леанід Ільіч і апусціў вочы.

— Праўда, яна тут нічога такога... Ну, там пра навіны напісала, прыветы ад усіх. «Жадаю табе,— піша,— Вася, шчаслівага плавання і каб ты, Вася, стаў сапраўдным смелым маракоміж».— Васіль усміхнуўся, прыцмокнуў языком.— Смелым... А ў гэтым, Леанід Ільіч, акурат была мая бяда. Калі адзін на адзін з ёю заставаўся, то ў мяне адразу аднімала язык, усярэдзіне ўсё камянела, і я маўчаў, як пень... Цяпер мне дык аж смешна ўсё гэта ўспамінаць. Здаецца, і часу няшмат мінула, а я адчуваю, што... Вось паеду, сустрэнуся і ўсё ёй адразу скажу.

— Та-ак,— густа задыміў люлечкай Леанід Ільіч.

Размова з капітанам атрымалася шчырай, задушэўнай. Па сутнасці, гэта была яго першая такая размова з Леанідам Ільічом. Вася нават не чакаў, што строгі, суровы на выгляд капітан праявіць такую ўвагу да яго. Не тое, што гэтыя зубаскалы Жора Змушко або Мірутка, з якімі ён ніколі не асмеліўся б гаварыць так даверліва і шчыра...

І вось сёння Вася нечакана заявіцца ў Бакавец. Як жа было не радавацца! Ды тут і самы халодны, разважлівы чалавек не змог бы стрымацца. Магчыма, што ён яшчэ нават сёння ўвечары ўбачыцца з Клавай. Вось толькі гэты буксір — як жа ён, ліха на яго, марудна паўзе супроць плыні! Васю здавалася, што яны ні разу не ішлі так павольна, як сёння. Глядзіш на бераг, а ён нібы на месцы стаіць. Хутка паўдня ўжо будзе, а яны толькі-толькі Буйневічы мінулі. З такім ходам да той лугавой дарогі, што на Бакавец, яны будуць сунуцца яшчэ добрых гадзіны дзве.

Вася з непрыязню паглядзеў назад, на вялізныя, пад цяжарам грузу глыбока асеўшыя ў ваду тупарылыя баржы. Высокія пеністыя хвалі, якія ўздымаліся з-пад пліц буксіра, маглі запраста перакуліць любую вялікую лодку. А баржы, здавалася, і не адчувалі магутных удараў вады. Аж крыўдна было за тыя дзвесце дзесяць конскіх сіл, што на ўсю сваю магутнасць стагналі і сіпелі ў машынным

аддзяленні буксіра. Прывязаны да масіўнага чыгуннага кнехта тоўсты сталёвы трос, які цягнуўся да суднаў, увесь аж звінеў ад напружання, і Вася глядзеў на яго з міжвольным страхам і павагай — каб гэтая штучка раптам трэснула, вось быў бы ўдарчык!

Плёснуўшы на палубу рэшткі вады з вядра, Васіль падышоў да парэнчаў, абапёрся на іх і пачаў глядзець на берагі. Нічога, як бы там павольна яны ні плылі, а ўсё ж хплывуць, не стаяць на месцы. Ды зрэшты, хочаш не хочаш, а прыйдзецца чакаць... Эх, а ўсё ж прыгожая рака, гэтая Прыпяць! Праедзь па ёй памалу раз-другі, скажам, хоць бы ад вусця да Пінска, і на ўсё жыццё запомніш і яе ціхія люстраныя плёсы, і таямнічыя старыцы, што заўсёды нечакана выходзяць аднекуль з густых нетраў лазняку; і абрывістыя правабярэжныя кручы, скрозь паточаныя чорнымі дзірачкамі стрыжовых гнёздаў; і прыгожыя пясчаныя водмелі, што аж слепяць бляскам вочы на сонцы; і яе дубровы па правы бераг, і левабярэжныя лугі, і, нарэшце, самую яе, сціплую, слухмяную і такую павольную, як палескія жніўныя песні. Блакітная дарога да Дняпра! Вася яшчэ не так даўно і плавае па Прыпяці, а ўжо моцна палюбіў гэтую раку. Калі ўсё будзе ў парадку і капітан дасць яму, як некалі абяцаў, добрую атэстацыю, восенню Васіль паступіць на курсы рулявых і з наступнай вясны стане за штурвал. А там можна будзе завочна і на капітана вывучыцца — як-ніяк, а ў Васі за спіною дзесяцігодка. І ён, бадай, назаўсёды застанецца на Прыпяці...

Памарыўшы гэтак крыху, пазіраючы на берагі, якія павольна праплывалі перад ім, Вася аднёс на карму вядро і швабру і пайшоў у кубрык. Адчыніў насценную шафу, яшчэ раз аглядзеў форменны кіцель, штаны і чыстую паласатую цяльняшку. Як ні мяркуй, а ўсё ж яму ў Бакавец трэба з'явіцца сапраўдным матросам... Зноў праверыў сабраны ў дарогу маленькі чамаданчык — ці не забыў чаго? Выняў і разгарнуў складзеную ў некалькі столак вялікую, у кветкі, паркалёвую хустку — падарунак маці. У Чарнобылі ў магазіне купіў. Праверыў і другі невялікі пакунак — для Клавы. Яна, вядома, будзе аднеквацца, адмаўляцца, але Вася што-небудзь такое прыдумае, ператорыць усё ў жарт і — быць не можа! — угаворыць узяць. Пасмяецца, скажам, што такія касынкі носяць самыя першыя прыгажуні на Крашчаціку ў Кіеве і ён, маўляў, хоча, каб і бакавецкія дзяўчаты ад іх не адставалі... Адным словам, што-небудзь прыдумае.

Клава, Клава, каб ты ведала, як сумаваў па табе Васіль! З якой замілаванасцю ўспамінаў ён гады сумеснай вучобы ў школе, вясёлыя калгасныя вечарынкі, танцы пад гармонік на лясной паляне. Аднаго ён не мог зараз дараваць сабе — колькі разоў было, што ён заставаўся адзін на адзін з Клавай, але так і не асмеліўся сказаць ёй пра тое, як моцна яе кахае. Помніцца Васю, яна як быццам сама нават хацела, каб ён ёй нешта сказаў, чакала ад яго нейкіх слоў, але ён або маўчаў, або гаварыў дробязі. Магчыма, таму зараз Клава і не піша...

Вася ўздыхнуў, склаў назад пакуначкі, зачыніў вечка чамадана і выйшаў з каюты. Прайшоўся ўдоўж парахода да самага носа, прысеў там на скручаны канат. Акурат у гэты час «Уля Громава» разміналася са стрэчным пасажырскім параходам, і Вася правёў яго ўважлівым позіркам. Што казаць, непрыглядным на выгляд быў іх задымлены шэры буксір супраць гэтага беленькага пасажырскага прыгажуна з яго тэрасамі, салонамі і вялізнымі вокнамі. І аднак жа Вася не прамяняў бы на яго свой буксір. Гаротнік, непрыгожы ён, затое якія справы робіць! А паспрабуй ты да таго прыгажуна прычапіць хоць адну вось такую баржу, дык ён і з месца яе не зрушыць, стане, як на прыколе...

Праз колькі хвілін параход схаваўся за паваротам ракі. Васіль уздыхнуў, падышоў да рулявой будкі. Вокны ў рубцы былі расчынены насцеж — гарачыня!

— Што, Вася, не церпіцца? — спытаў рулявы Яўген Дубар, гэтакі чарнавусы прыгажун, украінец, родам аднекуль з-пад Белай Царквы. Яўген з паказной абыякавасцю насунуў на вочы сваю шыкоўную штурманскую шапку з вялізным беласнежным верхам і жоўтым бліскучым крабам над казырком. Верх у той шапцы трымала з сярэдзіны спецыяльная сталёвая спружына, і ён быў увесь напяты, роўненькі і круглы, нібы абведзены цыркулем.

— Ды нешта ж мы сёння су-унемся...— адказаў Васіль, міжвольна спыніўшы позірк на шапцы рулявога.

Ну і шапка!.. Васілёва цывільная кепачка выглядала супраць яе такой нікчэмнай, заношанай. І як гэта ён збіраўся ў дарогу і забыўся пра шапку — для матроса ж яна ўсё адно як вітрына. Каб да яго матроскай формы ды яшчэ...

— А хочаш, Вася,— павярнуўшы кола штурвала, раптам падміргнуў рулявы,— хочаш, я табе шапку сваю дам. На дарогу, а?..

Вася кінуў на Яўгена насцярожаны позірк,— што гэта, смяецца з яго рулявы ці гаворыць усур'ёз? І як ён адгадаў яго думкі?..

— Навошта мне твая шапка, ну цябе,— няўпэўнена махнуў рукой Васіль.

— А па вачах бачу: ой, як хочаш! — шчыра засмяяўся Яўген і, не чакаючы яго згоды, схапіў з галавы Васіля яго старую кепку і спрытна насунуў яму сваю шыкоўную шапку.— Во!.. А цяпер ты толькі паглядзі ў люстра — арол!..

Шапка была акурат па Васілю, сядзела на галаве як улітая, і ён увесь аж засвяціўся ад радасці.

— Што ты, Жэня? Навошта?..— слаба пярэчыў ён, але шапкі не аддаваў.

— Ну, ну, топай,— хвацка ссунуўшы на патыліцу Васілёву кепку, лагодна прамовіў Яўген.— Ды, між іншым, стары, пара ўжо табе і збірацца. Глядзі,— паказаў ён рукою наперад,— за тою дубровай і будзе бакавецкая пераправа. Пазнаеш?..

— І праўда! — прыгледзеўшыся, спахапіўся Васіль.— Ну, дзякуй, Жэня! Пабягу апранацца!..

— Ні пуху табе, ні пяра! — з вясёлай усмешкай гукнуў, выглядаючы з рубкі, Яўген.

Сапраўды, хвілін праз дваццаць буксір, стукаючы па вадзе сваімі магутнымі пліцамі, дачапаў да бакавецкай пераправы. На ваду была спушчана шлюпка, і Вася Гардзевіч у поўнай матроскай форме акуратна сышоў на бераг.

Узабраўшыся на падрэзаны вадою круты бераг, Вася абабіў ад пяску калашыны штаноў і азірнуўся на раку. Цімка Жаўрыд і Мірутка, якія падвозілі яго сюды, ужо далекавата адплылі ад берага, накіроўваючы шлюпку наперарэз буксіру. Вася махнуў ім рукою і рашуча пакрочыў — не было яму часу лішне бавіцца. Па сутнасці, у яго было ўсяго якіх сорак вольных гадзін, і чым хутчэй ён дабярэцца да Бакаўца, тым больш часу правядзе сярод родных і блізкіх. Вася выйшаў на дарогу, што бегла напрасцяк ад ракі цераз луг, і яшчэ больш прыскорыў хаду...

Заняты рознымі думкамі аб хуткай сустрэчы з бацькамі, Клавай, сябрамі, Васіль і не прыкмеціў, як мінуў прырэчны луг, алешнік і выйшаў на шырокае Пераároўскае поле, скрозь, як глянуць, пакрытае рослай густой збажынай. Жыта абступала палявую дарогу шчыльнай сцяной, і так прыемна было слухаць роўны ціхі шэпт калосся.

...Ужо за якіх два кіламетры ад Бакаўца, калі Васіль пераходзіў забалочаную пойму маленькай рэчачкі, ён пачуў то нарастаючы, то заціхаючы грукат рухавіка. Прыглядзеўшыся, ён убачыў воддаль, сярод густога алешніку, стралу экскаватара.

«Эге, ды гэта ж, мусіць, Алесь тут пыхкае, капае свае канаўкі»,— падумаў Васіль і спыніўся. Алесь Каляда быў некалі ў школе яго аднакласнікам і сябрам. Скончыўшы пасля дзесяцігодкі курсы, ён цяпер працаваў механікам на экскаватары. Чаму б Васю не патраціць паўгадзінкі і не праведаць друга? Невядома, ці знойдзе ён для гэтага больш зручны час, а пабачыцца з Алесем было б цікава.

Пастаяўшы з хвіліну ў нерашучасці, Вася звярнуў з грэблі і па самым беразе рэчачкі пайшоў у глыб алешніку.

Ён не прайшоў і двухсот метраў, як убачыў экскаватар. Машына стаяла сярод алешніку, на беразе роўнага, як страла, калектарнага канала, які ўразаўся ў глыб балота. Па берагах канала ляжалі высокія бясформенныя груды рудой балотнай зямлі. Вялізны, шумны экскаватар раз-пораз з грукатам кідаў у балота цяжкі чыгунны коўш, прыўзнімаў яго, асцярожна пераносіў і выварочваў на бераг канала балотную твань.

«А можа, гэта не Алесь, а які-небудзь яго зменшчык працуе»,— падумаў Васіль, але тут жа ўбачыў у будцы экскаватара знаёмы твар.

Вася паставіў на дол чамаданчык, сунуў у рот два пальцы і зычна свіснуў, стараючыся перасіліць шум рухавіка. Свіснуў і, усміхаючыся, стаіўся за густой алешынай. Алесь, відаць, пачуў свіст, прыпыніў машыну і, пусціўшы матор на малыя абароты, высунуў галаву з акенца... Што за глупства, нідзе нікога не відаць. Можа, гэта яму здалося? Але толькі ён зноў узяўся за рычагі, як у другі раз пачуўся свіст і з-за алешыны, смеючыся і вітаючы яго паднятай рукой, выйшаў Васіль.

— Вася! Друг! — здзіўлена гукнуў Алесь і — доўгі, худы, загарэлы — сігануў на зямлю.— Штурман далёкага плавання! Якім ветрам?..— жартаваў ён, стукаючы Васю рукою па плячы.

— Ды так, на пабыўку,— адказаў Вася.

— А шапачка на табе! Усе дзяўчаты галовы паскручваюць, ганяючыся за табой.

— Усе не ўсе, а якая-небудзь адна, можа, і скруціць,— у тон Алесю пажартаваў Вася.

Дружбакі шчыра засмяяліся, абнялі адзін аднаго за плечы.

— Ну як, Вася, служба на рацэ, падабаецца? Не шкадуеш, што са мною на экскаватарную не пайшоў?

— Што ты, Алеська! — Вася пачаў горача расказваць аб сваёй рабоце, пахваліўся, што рачная служба моцна прыйшлася яму па душы: і няцяжкая, і цікавая, штодня ўсё новыя і новыя месцы бачыш, новых людзей.— А восенню, калі ўдасца, пайду на курсы рулявых. А гэта, брат, работа — не прасі лепшай,— пахваліўся Васіль.

— Та-ак,— прамовіў Алесь.— Ну, у нас, вядома, працаваць цяжэй. Але ж затое, брат, і зарабляем!.. На тым тыдні я сабе матацыкл купіў, Іжа. Цягне, што звер!..

Хлопцы пагаварылі аб навінах, аб сваіх сябрах па школе.

— Што ж, Алесь, не буду табе замінаць, а то вунь як сярдзіта бурчыць твой экскаватар,— Васіль працягнуў руку сябру.

— Нічога, няхай крыху пабурчыць,— засмяяўся Алесь.— Ды мы з табой, відаць, яшчэ ўбачымся. Я сёння ўвечары ў клубе буду.

— Дык да сустрэчы!

— Пакуль! — пацісвуў працягнутую руку Алесь і пайшоў да экскаватара.

Вася яшчэ крыху пастаяў, праводзячы позіркам Алеся, паглядзеў, як той узлез на экскаватар, забраўся ў сваю будку. Алесь газануў, і паслухмяны матор з сілай загрукатаў.

Васіль ужо быў павярнуўся і хацеў ісці, як раптам матор экскаватара зноў прыглух, і ён пачуў голас Алеся:

— Гэй, Вася!

Васіль спыніўся, азірнуўся. З акна кабіны выглядаў вясёлы твар Алеся.

— Шкада, Вася, што цябе ў мінулую нядзелю не было. Як мы гулялі!..

— А што такое было? — павярнуўшыся, гукнуў Васіль.

— Вяселле спраўлялі. Клава замуж пайшла...

Васіль увесь сумеўся, адчуў, як у яго ад твару адхлынула кроў. Быццам ён з разгону балюча стукнуўся грудзьмі аб нейкую каменную сцяну. Думкі ў галаве адразу закружыліся, замітусіліся, як, бывае, кружацца на быстрай вадзе сухія лісточкі.

— Якая Клава? — дрыготкім голасам спытаў Васіль, яшчэ не верачы, не жадаючы верыць таму, што пачуў.

— Ды наша Клава, канцавая. Бегунова дачка. І ведаеш за каго пайшла?.. За Алёшку Бондара, лётчыка. На тыдзень прыехаў, і з ходу распісаліся... Да вечара, Вася!

Алесь махнуў з акенца рукой і схаваўся ў будцы. Матор зноў загрукатаў, і, скрануўшыся з месца, страла экскаватара асцярожна панесла над багнай ашчэраныя клюшні каўша.

Вася павярнуўся і павольна пайшоў да дарогі.

Ён ішоў, як сляпы, натыкаўся на кусты, спатыкаўся аб купіны. Не заўважаючы вузкай сцежкі, якая ішла паўз бераг рэчачкі, раз-пораз збіваўся ў твань.

Выйшаўшы на грэблю, Вася спыніўся, апусціў уніз галаву і так доўгую хвіліну стаяў нерухомы, нібы ашаломлены. Стаяў, як быццам у забыцці, нейкім дзіўна спакойным, бяздумным.

Потым ён уздрыгнуў, зірнуў на дарогу. Відаць, ён усё ж здолеў перамагчы тую сваю разгубленасць, бяздумнасць. Папраівіўшы ў руцэ чамаданчык, Вася хутка пайшоў, але не ў Бакавец, а назад, да ракі...

Пачало ўжо добра змяркацца, калі Васіль, адмахаўшы, дзе пехатою, дзе на падарожных машынах, кіламетраў з пяцьдзесят, дабраўся да Нырчы. Яшчэ здалёк, з узгорка, ён убачыў у затоне, на фоне яшчэ крыху светлай паверхні ракі выразныя цёмныя абрысы буксіра. Буксір ужо стаяў каля берага адзін, без баржаў, і яго корпус адлюстроўваўся ў ціхай вечаровай вадзе вялізнай чорнай плямай.

Васіль ведаў, што звычайна ў гэты час большасць каманды бывае на беразе. Моладзь ідзе ў кіно або на танцы ў пасялковы клуб, старэйшыя збіраюцца за куфлем піва ў закусачнай ці ў тым жа клубе гуляюць у даміно. Васіль спадзяваўся, што яму як-небудзь удасца прайсці на судно непрыкметным. А як бы ён хацеў зараз не бачыць нікога, не бачыць, каб не растлумачваць прычыны вяртання, не маніць і не казаць праўды, не прызнавацца ў сваёй бядзе. Апынуцца аднаму ў сваёй маленькай утульнай каюце, кінуцца ў ложак і ціха-ціха ляжаць, на адзіноце перажываючы свой боль, крыўду і сорам.

Толькі адзін чалавек на судне здолеў бы зразумець, што рабілася зараз у яго на душы. І толькі яму аднаму Васіль мог бы смела паглядзець у вочы, выказаць усё, што агнём пякло яго збалелае сэрца,— Леаніду Ільічу...

Парашыўшы абмінуць пасёлак, Васіль звярнуў з дарогі, што вяла да Нырчы, і лугам пайшоў напрасцяк да ракі. Ён сышоў з кручы да самай вады і так па беразе пайшоў да запані, дзе ўдалечыні чарнеў буксір.

Тут Васілю, нарэшце, пашанцавала: адзінокі вахценны ў прыцемку мелькам глянуў на яго і — вось дзе дапамагла яму тая славутая штурманская шапка! — відаць, прыняў яго за аднаго са штурвальных. Акрамя вахценнага, на палубе нікога не было, і Васіль крадком хутка прайшоў да кармы, спусціўся ўніз у свой кубрык. Не запальваючы святла і не распранаючыся, толькі кінуўшы на столік шапку, ніцма бухнуўся ў ложак, зарыўся тварам у падушку...

Ён ачнуўся ад забыцця, толькі пачуўшы, як нехта асцярожна дакрануўся да яго пляча. Васіль рэзка падняў галаву. У кубрыку было светла, каля самага ложка, нахіліўшыся, стаяў Леанід Ільіч. Твар яго быў нахмураны, вочы дапытліва глядзелі на Васіля.

— Што з табою, Вася? Што здарылася? — ціха спытаў ён. Васіль разам падхапіўся, кінуў вінаваты позірк на свае забруджаныя ў балоце калашыны штаноў, чаравікі, на памятую коўдру.

— Даруйце, Леанід Ільіч...

Але капітан не глядзеў на яго штаны. Паклаўшы Васілю на плячо руку, ён пасадзіў яго на ложак і, падсунуўшы да сябе табурэт, сам сеў блізка насупроць, каля засланага сурвэткай століка. Ціха пабарабаніў пальцамі па краі стала.

— Яна ашукала, Вася, так?..

На вачах у Васіля паказаліся слёзы, твар перасмыкнуўся ад болю.

— Хто б мог падумаць, Леанід Ільіч!.. Хто б мог падумаць! — Губы ў яго задрыжалі, вочы бліснулі гневам.

— Супакойся, хлопчык,— паглядаючы на расхваляванага Васіля, ціха прамовіў Леанід Ільіч.— Не трэба так... Ты падумай, яна ж раней не давала табе ніякіх абяцанняў, праўда?

Васіль уздрыгнуў, падняў вочы на зрэзаны глыбокімі маршчынамі твар Леаніда Ільіча. Ён не ведаў, што адказаць на гэтыя словы. Ну, так, не давала абяцанняў, але ж... але ж яна...

— Вось бачыш...— Леанід Ільіч апусціў галаву, у роздуме пакратаў рукою вусы.— Жыццё пражыць, сынок, не поле перайсці. Так не бывае, каб чалавек пражыў без

адзінай хмурынкі. Будзеш ты бачыць і шчасце, можаш стрэціць і бяду...

Васіль увесь страпянуўся:

— Дык што ж мне рабіць, Леанід Ільіч? Што рабіць?

— Што рабіць? — Капітан паклаў на стол сціснуты кулак.— Стрэціць сваю першую бяду, як належыць мужчыну. Ясна?.. А шчасце тваё цябе не міне. Толькі само яно, Вася, не прыходзіць, за яго трэба змагацца, трэба рвацца яму насустрач...

Леанід Ільіч змоўк, глянуў на Васіля.

Той сядзеў задуменны, прыціхлы, і Леаніду Ільічу здалося, што ён як быццам убачыў на яго твары нейкія новыя рысы, быццам сённяшні дзень паклаў на ім першую адзнаку сталасці.

1958

## ПАД АСЕННІМІ ЗОРАМІ

Вось і лета мінула, настае восень... Здаецца, зусім нядаўна за вокнамі шумелі красавіцкія веснавыя вятры, а я вечарамі сядзеў са сваімі хлопчыкамі на канапе і марыў, як мы летам, у час адпачынку, паедзем на Палессе да нашага старога дзядулі, будзем там загараць і купацца, падарожнічаць на чоўне па ціхай Прыпяці, паляваць утрох з адной стрэльбай на качак, ставіць старожні на шчупакоў, хадзіць у грыбы і ягады.

Лета прыйшло і мінула, хлопчыкі — чорнагаловыя баравічкі — падраслі кожны ледзь-ледзь не на паўпядзі і пабеглі ў школу. Былі падарожжы на чоўне і паляванні са стрэльбай, былі грыбы і ягады. Усё было і адышло, і вось пад нагамі ўжо шастае апалы асенні ліст, а над галавой, дзесьці высока ў небе, чуваць трубныя крыкі адлётных жураўлёў...

Ёсць у гэтай хуткабежнасці часу нешта невыказна сумнае. Не, гэта не смутак сталасці, не боязь таго, што вось гэтак жа непрыкметна надыдзе і твая жыццёвая восень. Гэта хутчэй за ўсё жаль, выкліканы пачуццём безваротнасці ўсяго добрага, што было і мінула, наіўнае

шкадаванне чалавека, што ён няўладны затрымаць час або вярнуць прамільгнуўшае некалі шчасце, смутак аб разгубленых сябрах, сустрэчах і ростанях...

Перад тым як пакінуць сяло і вярнуцца на працу ў далёкі горад, як і кожны раз, я абыходзіў усё наваколле, развітваўся са знаёмымі людзьмі, з лясамі, палямі, рэчкай. Я схадзіў у Зазер'е і на адзіноце паблукаў па асеннім лесе. Пабываў надвячоркам на Доўгіх азёрах, паслухаў, як у ціхіх затонах плешчуць хвастамі раз'ятраныя шчупакі. З'ездзіў да знаёмага механіка з РТС, старога, крыху дзівакаватага, але надзвычай добрага душой чалавека, між іншым, да захаплення ўлюбёнага ў чараўнічую навуку кібернетыку. Развітаўся з адным лесніком, адзіным ва ўсёй акрузе чалавекам, які аж тройчы бачыў па лёты спадарожнікаў зямлі. Праведаў знаёмага яшчэ па гадах вайны бакеншчыка на Прыпяці, заўзятага аматара расказваць розныя вясёлыя выдумкі...

Мне засталося толькі з'ездзіць на Старыцу і пабачыцца з маім даўнім і добрым прыяцелем, Пілiпам Андрэевічам Бондарам, патомным прыпяцкім рыбаком, брыгадзірам рыбалавецкай брыгады з суседняга прырэчнага калгаса. Старыца — даўнішняе, выгнутае крутой крывулінай рэчышча Прыпяці. Зараз рака, прарэзаўшы сабе новае рэчышча, бяжыць роўна, з поўначы на поўдзень, а чатырохкіламетровая Старыца хоць і заставалася па-ранейшаму шырокай і глыбокай, але хутка зарасла па берагах лазняком. Тут, у адным утульным месцейку, пад дубам, на высокім беразе Старыцы, і размяшчаўся рыбацкі стан брыгады — стаяў вялікі, увесь закопчаны дымам драўляны будан; збоку, за кустамі, была ўкапана ў зямлю лядоўня; пад дубам на забітых у зямлю слупах стаяў столік, а ўздоўж берага сушыліся разапнутыя невады.

Развітанне з Піліпам Андрэевічам я знарок адклаў на апошнія дні, калі ў мяне ўжо не заставалася ніякіх тэрміновых спраў, звязаных з ад'ездам. У нас з ім была даўняя дружба, і я хацеў пад'ехаць на Старыцу, усмак, аж да стомы, пахадзіць там са спінінгам, пераначаваць на стане, пачаставацца смачнай рыбацкай юшкай, пагаварыць з Піліпам Андрэевічам каля вечаровага агеньку.

А пагаварыць у нас было аб чым. Мяне захапляла адна надзвычай мілая рыса ў натуры гэтага чалавека — яго незвычайная любоў да прыроды, да ўсяго яе жывога і нежывога хараства, прычым любоў, як бы сказаць, актыўная, ваяўнічая. Неяк вясной мы ехалі з ім на чоўне па

Старыцы да Прыпяці, каб сустрэць кацер, што ішоў на Мазыр. Раптам збоку, у невялікай, зарослай травою затоцы мы пачулі жаласны віск і ўбачылі, як нешта заварушылася ў густой асацэ. Аказалася, што гэта было маленькае дзікае качанятка, якое, відаць, адбілася ад чародкі. Яно ў роспачы кідалася з боку ў бок па траве ў пошуках маткі. Мы спазняліся. Кацер вось-вось павінен быў падплыць да прыстані, і мне нават у галаву не магло прыйсці, што Піліп Андрэевіч так блізка да сэрца прыме бяду качаняці. А тым часам ён перастаў грэбці, прыслухаўся. У дальнім канцы затокі было чутна трывожнае краканне старое качкі.

— Чуеш? — усміхнуўся Піліп Андрэевіч.— Там маці крычыць, трывожыцца, а тут малое ў роспачы...

Ён звярнуў у затоку, паціху заехаў у траву, рукамі злавіў качанятка. Потым адвёз яго ў самы канец затокі, дзе чуўся крык старое качкі, і там выпусціў яго на сярэдзіне, на чыстую ваду. Качанятка з усіх сіл заплёскала па вадзе крылцамі, хуценька паплыло да травы, на голас маці... Толькі пераканаўшыся, што качаня знайшло родную чародку, Піліп Андрэевіч налёг на вёслы і заспяшаўся да прыстані.

А то, расказваюць, летась на Старыцы здарыўся такі выпадак. Недзе ў Гарватоўскай пушчы два ваўкі высачылі каля крыніцы лася і пагналіся за ім. Сахаты кінуўся наўцёкі і ў роспачы забег аж да Старыцы, у прырэчную дуброву. Пакружыўшы тут па лузе, ён нырнуў у гусцеж вербалозу,— думаў, там знойдзе схованку. Але ваўкі не адставалі, прыціскалі лася да ракі. З жахам убачыўшы, што не здолее ўцячы, лось, як бег, з разгону плёхнуўся ў ваду і паплыў на другі бераг. Але і ваўкі, раз'ятрыўшыся, не спыніліся і таксама кінуліся ў ваду.

Гэта было ўдзень, акурат непадалёк ад рыбацкага стана. Адпачываючы пад дубам пасля начное лоўлі, два маладыя рыбакі аж падхапіліся з зямлі, убачыўшы раптам гэты незвычайны паядынак. Нібы балельшчыкі на нейкім забаўным спаборніцтве, яны пачалі крычаць, свістаць, то падбадзёрваць лася, то заахвочваць ваўкоў.

З будана выйшаў Піліп Андрэевіч. Ён глянуў на раку і аж уздрыгнуў ад нечаканасці. Не кажучы ні слова, у адзін момант схапіў вёслы і рынуўся з кручы да лодкі.

— Дзядзька Піліп, куды вы? Без стрэльбы?! — адразу зразумеўшы сваю памылку і адчуваючы сорам, закрычалі маладыя рыбакі.

Але Піліп Андрэевіч нават не звярнуў увагі на іх словы, хутка, як мог, гнаў лодку наперарэз ваўкам. Падплыўшы бліжэй, ён рэзка павярнуў лодку, стаў на ўвесь рост і з усяе сілы стукнуў вяслом па галаве бліжэйшага ваўка. Драпежнік люта ашчэрыўся, хацеў ухапіць зубамі вясло, але не паспеў. Піліп Андрэевіч яшчэ і яшчэ раз перацёг яго па хрыбту. Воўк завыў ад болю і схаваўся пад вадой, але праз міг вынырнуў і штосілы паплыў назад. Следам павярнуў і другі воўк. А Піліп Андрэевіч, стоячы ў лодцы, гнаўся за імі і лупцаваў драпежнікаў вяслом па карках. Тым часам лось пераплыў Старыцу, выйшаў на бераг, атросся ад вады і, не марудзячы, пабег у гусцеж прыбярэжных кустоў...

Вось які чалавек Піліп Андрэевіч, і, уласна, гэтыя рысы яго натуры і былі прычынай нашага добрага сяброўства. Невысокі ростам, але моцны, шыракаплечы, з дужымі мускулістымі рукамі, ён вызначаўся нейкай асаблівай унутранай сабранасцю, спакоем, якія звычайна ўласцівы людзям, чыё жыццё праходзіць на ўлонні прыроды, у любоўным яднанні з ёю.

Апаўдні, захапіўшы спінінг, пару пачак папярос, авоську на рыбу, я выйшаў на шлях і, прагаласаваўшы, першай жа спадарожнай машынай пад'ехаў да Гарватоўшчыны — вялізнага, старога сасновага бору. Адсюль пеша па лясной дарозе за якое паўгадзіны датопаў да лугоў. Неўзабаве я ўжо быў каля знаёмага будана.

Але мне не шанцавала, застаў я тут аднаго толькі вартаўніка, дзядзьку Сілівона,— высокага, сухога, з доўгай жылаватай шыяй старога ў шырокім саламяным брылі, з неразлучнай стрэльбай-пістонаўкай за плячыма. Як выявілася, рыбакі паехалі ў сяло,— там, у калгасе, была нейкая тэрміновая работа. Мы прыселі са старым Сілівонам на траву, закурылі. Я спытаў у яго, як ідуць справы ў брыгадзе, як маецца Піліп Андрэевіч.

— Піліп? — кінуў на мяне недаўменны позірк дзядзька Сілівон.— А вы хіба не ведаеце? Ён жа зараз у бальніцы ляжыць...

— У бальніцы? — здзіўлена перапытаў я, ведаючы добрае здароўе брыгадзіра.— А што з ім?

— Гэ-э, да вы і праўда нічога не чулі... Ён параненьі. Ды яшчэ як! Нажом у самыя грудзі...

— Як?! Што здарылася?..

— Здарылася... Сенька Галай пачаставаў. Добра, што не насмерць... На шчасце, у ватніку быў Піліп...

Пачуўшы імя Сенькі Галая, я адразу аб усім здагадаўся. Пра яго я даўно ўжо чуў сёе-тое ад людзей. Гэта быў яшчэ не стары, гадоў пад сорак, мужчына, вядомы ў Стрыжэвічах самагоншчык і злодзей. Адсядзеўшы тры гады ў турме за спекуляцыю самагонам, ён толькі летась вярнуўся ў сяло. Але, відаць, пакаранне нічому не навучыла яго. У калгас на работу ён не пайшоў і наогул адмовіўся ад усякай работы, а выбраў сабе іншы занятак — пачаў па начах браканьерыць на рацэ і азёрах. Напэўна, тое, што здарылася зараз, было нейкім чынам звязана з начнымі налётамі Сенькі на Сомава возера.

Усхваляваны гэтай непрыемнай навіной, я адразу падаўся, кінуў папяросу.

— А дзе ён ляжыць, у якой бальніцы? — спытаў я Сілівона...

— Ды ў раёне, у Бароўлі...

Не марудзячы, я ўзяў свой спінінг, авоську, развітаўся са старым Сілівонам і адразу ж выправіўся ў дарогу.

Ад Старыцы да Бароўлі было кіламетраў з пятнаццаць, але пеша ісці давялося толькі да шляху, а там адразу ж мяне падхапіў спадарожны грузавічок. Грузавічок гэты быў на выгляд зусім стары, увесь дрыжаў і дрынчаў, і аднак жа, на маё вялікае здзіўленне, рухаліся мы даволі хутка. Не мінула і паўгадзіны, як воддаль, над зялёнінай садоў, паказаўся комін Бараўлянскай цукеркавай фабрыкі, а яшчэ праз нейкі час перад намі збоку паміж лоз выбліснула сіняя роўнядзь Прыпяці, і мы ўехалі на вуліцу мястэчка.

І вось я на двары бальніцы. Іду ў кабінет галоўнага ўрача, хвалююся: што з Піліпам Андрэевічам, як ён сябе адчувае, ці не пагражае яго жыццю атрыманая рана? Я так спяшаўся там, на Старыцы, што нават не распытаў ні аб чым у Сілівона.

Атрымаўшы дазвол урача наведаць хворага, я адразу ж спытаўся пра здароўе Піліпа Андрэевіча.

— Здароўе? — усміхнуўся малады, хударлявы на выгляд урач.— Праз тыдзень зноў паедзе камандаваць сваімі невадамі. Раны глыбокія, але, на шчасце, не закранулі ні сэрца, ні лёгкіх...

Вось і яшчэ навіна для мяне — аказваецца, рана была не адна, а некалькі.

— А як доўга мне можна пабыць у яго? — спытаў я.

— Будзьце, колькі вам захочацца. Цяпер гэта яму ўжо не ў шкоду.

Піліп Андрэевіч ляжаў у невялікім пакойчыку, светлым, чысценькім, з акном у бальнічны сад. Акно было расчынена насцеж, і ў пакой шырока плыў духмяны водар асенняга саду. На тумбачцы каля ложка хворага ў шкляным збанку стаялі прыгожыя свежыя кветкі — белыя і ружовыя астры, цёмна-карычневыя гваздзікі.

Піліп Андрэевіч узрадаваўся майму прыходу, прыўзняўся на пасцелі, усміхнуўся. Ён быў здаровы на выгляд, бадзёры, і калі б не тугія бінты на грудзях, што віднеліся з-пад расшпіленай сарочкі, яго бадай і нельга было б прыняць за хворага.

Спачатку я хацеў адразу ж накінуцца на Піліпа Андрэевіча з роспытамі, але ўспомніўшы, што ён па натуры сваёй не надта схільны да лішніх гаворак, парашыў стрымацца. Калі будзе ў яго жаданне, то ён і сам раскажа мне аб усім, а калі не пад настрой, то не дапамогуць ніякія роспыты.

Але відаць было, што сёння ён і сам меў жаданне пагаварыць, падзяліцца сваімі думкамі,— ужо больш за тыдзень прыкаваны да ложка, нязвыклы да бальнічнай адзіноты, Піліп Андрэевіч моцна засумаваў па людзях, па сваіх рачных затонах і кручах.

— Ну, браце, можаш віншаваць мяне.

— З чым, Піліп Андрэевіч? — не зразумеў я.

— Аходаў я такі Сеньку Галая, у турму запяк. Адным злодзеем менш будзе на нашых рэчках.

Тут я наважыўся і папрасіў Піліпа Андрэевіча падрабязна расказаць, што здарылася, як Сенька дайшоў да такога зладзейства. Піліп Андрэевіч узяў у мяне папяроску, закурыў, ямчэй падвярнуў пад галаву падушку. Твар яго спахмурнеў, позірк стаў суровы, халодны.

— Магу і падрабязна, калі гэта цябе цікавіць,— павольна прамовіў ён.— Перад усім скажу табе адно, браце,— ці то мяккаватыя ў нас законы на браканьераў, ці не дужа пільна трымаюцца іх нашы мясцовыя ўлады. Адным словам, магло і не здарыцца таго, што са мною здарылася. А тым часам, што цяпер творыцца на рэках — аж душа баліць. Распаясаліся браканьеры ваўсю ды, галоўнае, не толькі невадамі вывалакваюць, а ўзрыўчаткай рыбу глушаць, зладзеі. А каб ты ведаў, колькі яе пры глушэнні ў глум ідзе — жах адзін! На ваду ж усплывае толькі адзін-два працэнты знішчанай рыбы, а ўся астатняя на дно кладзецца, прападае марна. І ўся маляўка гіне вакол, як пасля чумы. Пад'едзеш часам да якое затокі, гля-

неш, і аж сэрца зашчыміць. Усё дно ракі серабрыцца на сонцы, зіхаціць, усланае маляўкай... Што ты на гэта скажаш?.. Ды іх, глушыцеляў гэтых, судзіць трэба, як самых злосных злачынцаў,— я так разумею...

Піліп Андрэевіч занерваваўся, сунуў у попельніцу недакураную папяросу, нахмурыўся. Памаўчаўшы нейкі час, супакоіўся, пачаў гаварыць далей:

— Ну, пра Сеньку ты ж, відаць, крыху чуў. На ўсё наша сяло вырадак. Увесь час так і цаляе, каб на дурнічку, нічога не робячы, пражыць. Ды і не абы-як пражыць, а ўсмак, на шырокую нагу. З крадзенага лесу хату адгрукаў, як звон. Потым наладзіўся спекуляваць самагонам, а бражкай свіней гадаваў і таксама на продаж пускаў. У калгас на работу хадзіў толькі для выгляду, каб прысядзібны ўчастак не адрэзалі. Адным словам, паразіт.

Усё ж неяк міліцыя засцігла яго разам з апаратам, і колькі ён ні выкручваўся, а давялося яму сесці ў турму. Адбыў кару, вярнуўся ў сяло — ну, думалі, зразумеў ён, што крутнёй ды зладзействам на свеце не пражывеш. Ды дзе там!.. Пахадзіў тыдзень з касой на лузе, потым прыкінуўся хворым. Недзе ў горадзе нават даведку аб хваробе раздабыў, усім яе ў праўленні паказваў.

Колькі дзён мінула пасля гэтага, гляджу, прыгнаў Сенька аднекуль новенькую лодку і прыпнуў у затоне супроць сваёй хаты. Навошта яму, думаю, тая лодка, ніколі раней Сенька ракой не цікавіўся. А то аднойчы надвячоркам іду з парома дахаты, бачу, спускаецца з кручы да лодкі Сенька,— на плячы бамбукавыя вуды, у руках падсадка, ну, проста дачнік, толькі цёмных акуляраў ад сонца не хапае... Нешта тут не так, думаю, быць не можа, каб Сенька такім блазенствам займаўся. Пастаяў я на беразе, паназіраў. Выплыў Сенька з затону, пераехаў Прыпяць, потым, спусціўшыся крыху ніжэй, прыстаў да берага і паволок лодку ў кусты — на азёры, значыць, падаўся. Што ж, думаю, можа, і праўда парашыў чалавек вудамі акунькоў палавіць.

А сярод ночы нібы мяне хто на ложку падкінуў, чую — гу-ух! За ракою нехта рыбу глушыць. Падхапіўся я, пабудзіў свайго матарыста Трахіма Падуту,— ён цераз дзве хаты ад мяне жыве,— хутчэй уставай, кажу, можа паспеем засцігнуць зладзеяў.

Кінуліся мы да берага, завялі матор. А якраз толькі летняя ноч скончылася, світаць пачало. Выскачылі мы на маторцы з затону, пашыбавалі цераз Прыпяць. Бачым,

плыве нам насустрач паціхеньку лодачка,— Сенька паўз самы бераг сунецца, вяслом аб дно штурхае. Прыцішылі мы ходу, развярнуліся каля яго. «Пачакай, кажу, Сенька, адкуль і куды едзеш?» — «А што такое? — нахабна глядзіць ён на нас і ўсміхаецца...— Ці ўжо, таварыш брыгадзір, без твайго дазволу і па рацэ ездзіць забаронена?»— «А ты не выскаляйся, а кажы, калі пытаюць»,— настойваю я. «Вось звечара ездзіў з вудамі да круч, акунькоў крыху нацягаў...»

Пад'ехалі мы шчыльна да яго, адгарнулі траву ў лодцы, а ў яго там не менш трох пудоў рыбы. Я ўвесь аж закалаціўся ад гневу. «І гэта ты столькі вудамі злавіў?»— пытаюся. «А чым жа яшчэ?.. Сёння, пражора, так і бралася, што толькі паспявай цягаць. Відаць, пад дождж...»— «Ты знайдзі дурняў ды ім і брашы,— сціснуўшы зубы, кажу я.— На азёрах рыбу глушыў, злодзей?..» — «А ты, разумны, не лайся! Не злавіў за руку, не абзывай злодзеем,— спакойна адказвае Сенька.— Не глушыў я ніякай рыбы, чаго прычапіўся?» — «А вось паедзем у сельсавет, там пагаворым»,— кажу я і хапаю за ланцуг Сенькаву лодку, наладжваюся ўзяць яе на буксір. Але Сенька нават брывом не варухнуў, спакойна мне рэжа: «Ты не надта палохай! Я таксама крыху законы ведаю,— чым дакажаш, што я глушыў?..»

Аж загарэлася ва мне ўсё ўсярэдзіне,— ах ты, шкоднік, думаю, бач ты яго, такое творыць ды яшчэ на закон спасылаецца!..

А закон жа, брат, і сапраўды патрабуе, каб доказы ў наяўнасці былі. Бразнуў я назад той ланцуг ад Сенькавай лодкі, махнуў рукою Трахіму, маўляў, гані... І памчаліся мы ўсцяж па рацэ, пакінулі дарэмную спрэчку. Выслізнуў ты, думаю сабе, з маіх рук на гэты раз, але ў наступны — не ўдасца! Злаўлю цябе з доказамі злачынства, як закон патрабуе!..

Праехалі мы ўніз па рацэ, павярнулі назад. Супакоіўся я крыху, ахаладзіўся. «А што, кажу, Трахім, можа, і праўда чалавеку так пашанцавала. Прычаль да берага, сходзім на азёры...» Трахім глянуў на мяне з дакорам: «Што вы, дзядзька Пілін! Няўжо злодзею паверылі?..»— «Верыць, кажу, не веру, а пераканацца хачу... Пойдзем паглядзім».

Ну і пераканаўся. Прыйшлі на бераг Сомава возера і ў адным затончыку пад ясакарам бачым: серабрыцца на дне паглушаная рыба. Дно пясчанае, жоўценькае, і нам

зверху ўсё як на далоні відаць. Зіхацяць паглумленыя маляўкі суцэльным пластам, хоць граблямі грабі... Значыць, не памыліліся мы, не дарэмна лаялі Сеньку.

З тае раніцы ўсё і пачалося. Пагаварыў я сам са сваімі хлопцамі, і пачалі мы ўсёй брыгадай употай сачыць за Сенькам. Пільнавалі, калі і куды ездзіць ён на сваім чоўне, прыслухоўваліся па начах, ці не чуваць выбухаў... Але не так лёгка было злавіць Сеньку на злачынстве: здагадаўся ён, што мы пільнуем яго, стаў удвая больш асцярожны, сам пачаў за намі сачыць. І так усё складалася, каб на яго ліха, што былі ў нас усе весткі — глушыць ён рыбу, раз, а то і два разы на тыдзень, глушыць і матацыклам адвозіць у Мазыр адной спекулянтцы,— а засцігнуць злодзея не маглі...

Сустрэў я неяк Сеньку на вуліцы, спыніў яго. «Што, пытаюся, новы спосаб жыцця знайшоў? Зноў захацеў у турму?» А ён глядзіць на мяне гэтакім анёлам, нібы нічога не разумее, і нахабна ўсміхаецца: «Аб чым гаворыш, брыгадзір? Які спосаб?..» — «Не прыкідвайся, кажу, адумайся, пакуль не позна. Апошні раз папярэджваю: засцігну — літасці не чакай!..» Сенька перастаў усміхацца, глянуў на мяне з нянавісцю. «Слухай, Пілip, не палохай мяне, кажа, не з палахлівых я... Ды ў мяне сёе-тое ёсць, што я і цябе спалохаць магу. І лепш нам не сустракацца на адной дарожцы...» — «Ах, вось яно як! — адказваю.— Тады, брат, рыхтуйся да сустрэчы!»

Узяла мяне за жывое гэтая размова, гнеў ва мне так і кіпеў. І ўсё ж спадзяваўся я, што адумаецца ён, перастане па начах сваё зладзейства тварыць.

Тыдні два і сапраўды не чуваць было ніякіх выбухаў, усё было спакойна і на рацэ, і на азёрах. Мы ў той час, як звычайна, рыбачылі па начах на Старыцы, і нам адсюль усё вакол добра было чуваць.

І вось нешта з тыдзень таму назад, у суботу, закінулі мы ўночы невад на адной лукавіне ў Старыцы, каля Сомава, і раптам чуем — гу-ух!.. Не на возеры стукнула, а недзе ў напрамку Прыпяці. Мяне так і падкінула — ён, думаю сабе, няйначай, Сенька!.. Хлопцы засумняваліся. «А можа,— кажуць,— гэта падрыўнікі з тэхучастка перакаты на фарватэры рвуць?» Але я не паслухаў іх. Якія там, думаю, перакаты ўночы, ці ж падрыўнікам дня не хапае, каб перакаты рваць?.. Узяў з сабою Трахіма і ўдвух на лёгенькім чоўніку хутка паплылі ў вусце Старыцы, да Прыпяці. Без матора, на вёслах, каб нячутна падысці...

Ноч акурат выдалася ясная, па-асенняму зорная, і мы яшчэ зводдалек, ледзь толькі выйшлі на Прыпяць, каля кручы на вадзе заўважылі лодку. Прыглядаюся — двое ў лодцы. Адзін на карме вяслом правіць, а другі падсакай арудуе, выцягвае з ракі глушаную рыбу. Прыналеглі мы на вёслы, спяшаемся, каб затрымаць іх, аж бачым, тыя двое ў лодцы таксама нас заўважылі. Кармавы гукнуў нешта, лодка крута павярнулася, і рынуліся зладзеі наўцёкі за раку, на пясчаную касу.

Ну, тут мы не марудзілі, адразу ж кінуліся за імі. Гонім, як толькі можна, аж вада за кармой шуміць. Але і яны стараюцца, толькі вёслы ў руках мільгаюць. І бачу, бяруцца напрасцяк на касу, намагаюцца хутчэй да берага даплысці,— відаць, быў у іх нейкі хітры разлік. Убачыўшы гэта, мы з Трахімам яшчэ больш паднаціснулі. Адлегласць паміж нашымі лодкамі пачала скарачацца... І ўсё ж не паспелі мы: іх лодка першай ткнулася носам у бераг. І як толькі ткнулася, адзін са зладзеяў падхапіўся, схапіў нешта ў рукі і кінуўся па пяску ў прырэчныя кусты...

Але мяне не ашукаеш. Ага, думаю, гэта Сенька сумку з толам ухапіў і хоча ўцячы, а ў лодцы, напэўна, зноў толькі вуды з рыбай пакінуў. Глянуў — і праўда: рыбы паўлодкі наварочана, вуды скручаныя ляжаць і нейкі хлапчук спалоханы на нас глядзіць. Крыкнуў я Трахіму, каб ён хлапчука затрымаў, а сам — кумільгам у кусты, за Сенькам. Не, думаю, гад, не выкруцішся ты на гэты раз з маіх рук!.. Нырнуў у лазняк, прыслухаўся. А ноч ціхая, кожны шолах чуваць. Чую, трашчыць непадалёку галлё, бяжыць злодзей у самы гусцеж. Толькі ён пралічыўся — лазняк той рос вузкай паласой, і не паспеў злодзей прабегчы і метраў з дваццаць, як выскачыў на адкрытае месца. Вакол луг ляжыць, голы, як бубен, толькі зрэдку сямтам дубы цямнеюць.

Кінуўся ён у адзін бок, у другі, замітусіўся,— няма куды падацца. Быў намерыўся назад у лазняк уцякаць, але не паспеў. Акурат у гэты час я з лазняку выскачыў. Падбягаю — так і ёсць, ніхто іншы, Сенька Галай стаіць... «А-а, здароў, кажу, Сенька. Вось і сустрэліся мы з табой... Ану, давай сюды тол, зладзюга!..» Сенька, як убачыў, што не ўдасца ўцячы, спыніўся, збычыўся. Раз — рукою за пояс і нож выхапіў. А ў другой руцэ сумку трымае,— відаць, тол у ёй і ляжаў. «Паспрабуй, падыдзі!..»

Але я і не падумаў зважаць на яго пагрозы. Як стаяў, так і кінуўся на яго. Думаю, выхаплю торбу з толам, пры-

цісну цябе, злодзея, да сцяны, дакажу тваю віну перад законам. Збіў яго з ног, і пакаціліся мы з ім па траве. Калясом пакаціліся — то я яго пад сябе падбяру, то ён наверх выкарабкаецца...

Бачыў я ў ягонай руцэ нож і ўсё на тую руку целам налягаў, не даваў яму замахнуцца. Аж ён, гад, неяк злаўчыўся, крутануўся, вырваў руку і ўдарыў... Раз ударыў, раз'юшыўся, замахнуўся і яшчэ раз стукнуў. Проста ў грудзі. Ватоўка мая адразу намокла ад крыві, я ўпаў. Толькі сумкі з рук не выпускаю. Забіў бы мяне там Сенька, калі б, на маё шчасце, Трахім не падбег.

Як убачыў яго Сенька, адразу драпануў у лазняк і знік. Але торба з толам так у маіх руках і засталася,— ад страху адцураўся яе бандыт. Тут у мяне ў галаве ўсё закружылася, пацямнела. Як скрозь заслону якую, ледзь толькі бачу над галавою асеннія зоры...

Не чуў я ні таго, як Трахім падняў мяне на рукі і занёс у лодку, ні таго, як плылі мы па рацэ да Старыцы, а затым на маторцы ў сяло.

Як ачнуўся, была ўжо раніца. Першым, каго я ўбачыў, быў наш стрыжэвіцкі ўрач,— ён перабінтоўваў мае раны. Потым мяне панеслі некуды на насілках, і я зноў страціў прытомнасць... Ну, а гэта неслі мяне ў маторку, каб хутчэй адвезці сюды, у бальніцу,— трэба было тэрмінова зрабіць пераліванне крыві...

Дні праз тры, калі я ўжо крыху ачомаўся, хлопцы з брыгады прыйшлі мяне праведаць і расказалі, што пазней здарылася ў тую раніцу. Расказалі, як яны ў каноплях злавілі бандыта Сеньку, як перадалі яго ў міліцыю разам з усімі рэчавымі доказамі яго віны: акрываўленым нажом, сумкай з толам. Паведамілі, што пракурор патрабуе тэрміновага суда над браканьерам і панажоўшчыкам і хоча зрабіць гэты суд паказальным на ўвесь раён.

Вось бадай і ўсё. Хіба толькі яшчэ дадам, што немаведама як і завошта зрабілі мяне нейкім ледзь не героем. Прыходзяць, віншуюць за адвагу. Бараўлянскія піянеры кветкі штодня прыносяць...— Піліп Андрэевіч кіўнуў на астры ў шкляным збанку.— А тут, уласна, адвагі ніякай не было. Проста, не можа душа мая цярпець такога зладзейства. Не магу я глядзець, калі чалавек ва ўгоду сваёй ненажэрнасці так бязлітасна глуміць прыроду, знішчае народнае дабро...

...Было ўжо зусім цёмна, калі я нарэшце развітаўся з Піліпам Андрэевічам і выйшаў з двара бальніцы. Асен-

нія зоры густа мігцелі ў вышыні. Нейкі невыразны, але прыемны роздум агарнуў усяго мяне. Здаецца, нічога асаблівага не здарылася на свеце, а вось жа сустрэнешся з такім чалавекам і чамусьці лягчэй становіцца жыць. Ападаюць прэч, як луска, розныя прыкрыя дробязі, усё неістотнае, злое, мацнееш душою і пачынаеш яшчэ больш любіць жыццё і людзей.

1959

## МЯНТАШКА

Чаго граха таіць, трапляюцца яшчэ ў нас дзенідзе людзі, якія любяць марна балбатаць, аматары без усякай дай прычыны ўступаць у спрэчкі, гэтакія буркуны, што ўсім незадаволены, усё бачаць у самым змрочным святле.

Калі да прыкладу ўзяць цётку Гарпіну з Заракітнага, то гэтая жанчына ў галіне падобнага красамоўства была, можна сказаць, заслужаным майстрам. Ва ўсёй ваколіцы другой такой балбатухі не знойдзеш. Нездарма муж яе, стары Даніла, раз і назаўсёды празваў сваю жонку каротсім з'едлівым словам — мянташка. Цётка Гарпіна і сапраўды працавала языком, як мянташка ў руках увішнага касца. Пачынала яна сваю «зарадку» з самай раніцы, як толькі, узброеная вілкамі, пачынала завіхацца каля гаршкоў, цабэркаў і чыгуноў. Успомніць раптам якую-небудзь пазамінулагоднюю крыўду на суседа ці суседку, або, скажам, ненарокам спаткнецца аб парог, або стары Даніла не так ступіць — і пайшла!

— Га-а, топчашся тут, няўклюда! А работа стаіць, каб цябе прэнтам паставіла!.. А карове не падаслаў!.. А лёд вакол калодзежа не абабіў!.. Людзі вунь па працадню ўжо зарабілі, а ён тут топчацца!..

Знаёмая музыка! Пачуўшы падобную «уверцюру», стары Даніла паспешліва даставаў капшук з тытунём, скручваў цыгарку велічынёй з добрую свечку і, заўзята пыхкаючы, адразу акружаў сябе воблакам густога дыму. І ўсё — моўчкі, бо, як паказала практыка многіх гадоў, варта было яму хоць адным слоўцам запярэчыць або абвергнуць хоць адзін пункт жончыных папрокаў, як язы-

катая баба сыпанула б на яго галаву цэлы кашэль новых, яшчэ больш цяжкіх абвінавачванняў.

А галоўная бяда была ў тым, што, з чаго б жонка ні пачынала, якую б крыўду ні ўспомніла, вінаваты ўсё роўна быў адзін Даніла, і ўвесь агонь яе баявых атак падаў на яго сівую галаву. Вось чым і тлумачылася тая сумная акалічнасць, што стары Даніла, які ў маладосці вызначаўся вясёлым норавам, быў гаваркі, любіў пажартаваць і пасмяяцца, у сталыя гады пératварыўся ў вечна нахмуранага маўчуна. Ды яно і не дзіва: за такой балбатухай жонкай можна было і зусім анямець. Між іншым, у падобных выпадках звычайна сама прырода ўстанаўлівае такую цікавую раўнавагу: калі ў жонкі язык — мянташка, муж бывае маўклівы, ціхі, скупы на слова, а калі балбатаць любіць муж — жонка трымаецца сціпла і маўклівa...

Невядома, як бы ў далейшым ішло жыццё старога Данілы, калі б у адзін цудоўны летні дзень не здарылася падзея, якая зусім нечакана для Данілы ўсё перавярнула дагары дном. Выконваючы абяцанне, дадзенае на апошнім справаздачным сходзе, старшыня Заракітнянскага калгаса нарэшце дамогся, што ў калгасе быў абсталяваны ўласны радыёвузел і ў кожную хату праведзена радыё.

Стары Даніла, пусціўшы ў ход сваяцкія сувязі з радыёманцёрам Толікам Шпаком — як-ніяк, а гэта быў яго родны пляменнік! — правёў у сваю хату радыёкропку адным з першых. Паглядаючы, як Толік спрытна завіхаўся з пласкагубцамі, прыладжваючы да сцяны рэпрадуктар, Даніла разважаў: «Чым мне слухаць бясконцыя «песні» сваёй Гарпіны, то лепш паслухаю сапраўдныя песні і музыку і жывое чалавечае слова. А можа, і старая, слухаючы радыё, крыху развеецца і не будзе так бурчаць...»

Але здарылася такое, чаго стары Даніла і прадбачыць не мог. Цётка Гарпіна балбатаць не перастала, але затое цяпер увесь агонь свайго красамоўства перакінула на... радыё. Калі ўпершыню загаварыў рэпрадуктар, яна як быццам нават узрадавалася, акрыяла духам. Стары Даніла ўвесь час маўчаў, ні слова ёй не пярэчыў, ды і як аб'ект нападу ён ужо даволі-такі абрыдзеў. А радыё гамоніла з раніцы да вечара, і з ім можна было весці бясконцыя спрэчкі.

— «Добрай раніцы, таварышы! Пачынаем нашы перадачы на хвалі...» — чулася раніцой з рэпрадуктара.

Не марудзячы ні хвіліны, цётка Гарпіна з ходу кідалася ў атаку.

— Га-а, ужо і ты загаварыла! Іш, разумніца якая — «добрай раніцы»! Каму добрай, а каму і не вельмі. Як ты выгулялася ды кафею напілася, дык табе, можа, і добра. А ты вось стань на маё месца, ды пацягай чыгуны, ды пастой каля гарачай печы!.. О-о, пастаяла б, дык не выкручвалася б так са сваімі намазанымі губамі!..

Перадыхнуўшы на момант, цётка Гарпіна лавіла вухам з рэпрадуктара нешта новае.

— «Перадаём урок гімнастыкі. Пастаўце ногі на шырыню плеч, рукі пакладзіце на паясніцу...»

Бяскрыўднае гэтае запрашэнне выклікала новы выбух:

— Ах ты, сараматнік! Рукі на паясніцу!.. Яшчэ не хапала, каб я тут табе ў скокі пайшла або дагары нагамі стала! Не дачакаешся! Не думай, што калі ты ўжо такі вучоны, дык з дурной бабы і пасмяяцца можна... Вось хадзі, патаўчы бульбу ў цабэрку, будзе табе добрая гімнастыка.

Часамі справа ўскладнялася яшчэ больш, і цётка Гарпіна, мала таго, што працавала языком, пускала ў ход і рукі.

— «...Трэба нарэшце прыняць рашучыя меры да людзей, якія бюракратычна адносяцца да...»

— Што?..— загаралася гневам Гарпіна.— Ты мне яшчэ будзеш пагражаць! Так я цябе і спалохалася! Во табе, во! — Спрытна скруціўшы дулю, Гарпіна рашуча тыцкала яе ў рэпрадуктар.

І вось, штодня наладжваючы такія гарачыя слоўныя баталіі са сваімі нябачнымі апанентамі, жонка пакінула свайго старога ў поўным спакоі. У першыя дні Даніла сам сабе не верыў ад радасці: няўжо так проста мінулася ўся яго бяда, няўжо Гарпіна назаўсёды забудзецца пра яго? Ды калі б ён ведаў такое, ён бы яшчэ дзесяць год таму назад спрамогся і купіў прыёмнік.

Стары Даніла цяпер хадзіў па сялу вясёлы, нібы памаладзелы, нават твар яго пасвятлеў, ажывіўся. Людзі проста не пазнавалі яго, такі ён стаў гаваркі, таварыскі.

— Вось ужо наш старшыня, дзякуй яму, падарунак нам зрабіў,— гаварыў звычайна Даніла, сустрэўшыся з мужчынамі на вуліцы.— Гэта ж цяпер раскоша, а не жыццё — і музыку слухаем, і ўсе навіны, і розныя парады...

А калі часам на радыёвузле здаралася якая няспраўнасць і радыё на некаторы час замаўкала, стары Дані-

ла першым бег да начальніка пошты, у сельсавет, да тэхнікаў і дабіваўся, каб яны як найхутчэй наладжвалі работу радыёвузла.

— Не можам мы цяпер без радыё! — горача даказваў Даніла.— Мяне цяпер хлебам не кармі, а давай апошнія паведамленні.

Людзі згаджаліся з ім, хаця і не здагадваліся, у чым была сапраўдная прычына гэтага захаплення.

Але бадай самым вясёлым было заканчэнне ўсёй гэтай гісторыі. Неяк ідучы па вуліцы, стары Даніла сустрэў свайго пляменніка, Толіка Шпака. Будучы ў гуморы, Толік шырока ўсміхнуўся дзядзьку Данілу.

— Ну, як, дзядзька, усё ў парадку, рэпрадуктар працуе? — бразгаючы крывымі жалязякамі для лазання на слупы, весела спытаў ён.

— Усё ў парадку, дарагі!..— адказаў стары Даніла і, даверліва ўзяўшы Толіка пад руку, падзяліўся з пляменнікам сваёй вялікай радасцю, расказаў, як цётка Гарпіна зараз пакінула яго ў спакоі і пераключыла ўсе свае штодзённыя атакі на рэпрадуктар.

Уважліва праслухаўшы дзядзьку, Толік раптам спыніўся і аж засвістаў.

— Чакай, чакай, дзядзька...— Толік на хвіліну задумаўся.— А што, калі мы з табой... Ну, так! Правучым крыху тваю старую, дадзім ёй невялікі ўрок выхаванасці і далікатнасці...

Тут Толік таямніча нахіліўся да старога Данілы і нешта горача зашаптаў яму. Праз якую хвіліну дзядзька і пляменнік грымнулі такім вясёлым смехам, што ажно куры кінуліся з вуліцы ў падваротню.

І вось аднойчы пасля абеду, калі звычайна радыёвузел спыняў сваю работу на перапынак, у хаце Данілы — у адзінай на ўсё сяло хаце — як ні ў чым не бывала раптам загаманіў рэпрадуктар.

— «Увага, увага, перадаём музыку для танцаў...»

Не паспела яшчэ радыё пачаць тую абяцаную музыку, як цётка Гарпіна па звычцы адразу ж накінулася на рэпрадуктар:

— Га-а, каб цябе трасца ўзяла, танцы табе ў галаве!.. Думаеш, як табе толькі гулі ў галаве, дык і ўсім танцаваць хочацца?..

Раптам, замест музыкі, з рэпрадуктара пачулася:

— «Вы, цётка Гарпіна, здаецца, нешта сказалі?.. Незадаволены?»

Яшчэ не разумеючы ўсёй незвычайнасці таго, што здарылася, Гарпіна ў запале крыкнула:

— Сказала і яшчэ скажу! Маўчаць не буду!..

Але раптам Гарпіна схамянулася і ўся аслупянела ад здзіўлення — гэта ж па радыё называлі яе імя, звярталіся да яе! Няўжо?..

А з рэпрадуктара тым часам нехта спакойным басавітым голасам працягваў:

— Ай-ай, цётка Гарпіна, як няхораша выходзіць! Вы думаеце, мы не чуем, як вы штодня лаецеся? Усё чуем і ўсё ведаем, але спадзяваліся, што вы самі зразумееце, як гэта дрэнна, перастанеце...

— Ох, родненькі мой! — заламіла ў спалоху рукі Гарпіна.— Ох, даруй мне, дурной бабе...

А між тым рэпрадуктар голасам Толіка працягваў:

— Нядобра, нядобра!.. Кхе-кхе!.. Дык вось, цётка Гарпіна, раз і назаўсёды папярэджваем: кіньце свае дурыкі, перастаньце пустое балбатаць. Бо калі яшчэ раз пачуем такую балбатню, накладзём на вас штраф у суме дзвесце рублёў. Зразумелі?

— Зразумела, родненькі, зразумела! — перапалохана паглядаючы на рэпрадуктар, залямантавала Гарпіна.— Няхай мне язык адсохне, калі я што якое...

Выключыўшы мікрафон, спецыяльна падладжаны для гэтай незвычайнай размовы ў хату старога Данілы, Толік хітра падміргнуў дзядзьку, які сядзеў побач з ім.

— Ну, дзядзька, тупай дахаты. Думаю, будзе цяпер усё ў парадку...

Пазней стары, смеючыся, расказваў, што незвычайная размова з рэпрадуктарам так падзейнічала на жонку, што з тыдзень яна наогул маўчала як вады ў рот набраўшы. А потым зноў загаварыла. Але гэта была ўжо зусім не тая Гарпіна, яе проста нельга было пазнаць — лагодная, ціхая. Так яна была напалохалася, бедная...

Паколькі ж спалох гэты пайшоў на карысць, то бяды тут вялікай не было. Затое цяпер стары Даніла ні разу ўжо не меў прычыны называць сваю жонку ні мянташкай, ні балбатухай. Перавыхавалася!..

1959

# ПРЭМ'ЕРА
# Ў ПАНЕЖЫЧАХ

Ці здаралася вам бываць калі-небудзь на поўдні Палесся, у краях паміж Прыпяццю і Дняпром?.. Ёсць там невялікая вёсачка Панежычы. Можа, будзе ў вас якая нагода пабываць у тых мясцінах, то не прамініце зазірнуць у яе. Далібог, не пашкадуеце! Калгас там, не будзем казаць, не з самых багатых,— ёсць у тых краях і багацейшыя сёлы,— але ж і не адсталы. Мяркуйце самі, сёлета за садавіну і лён паклалі панежычане ў калгасную суму — мільён рублёў! А хто збольшага разбіраецца ў такіх рэчах, той ведае, што гэта азначае, і для таго не будзе дзіўна, чаму ў панежыцкай краме ніколі не залежваюцца матацыклы, радыёпрыёмнікі, шафы, а пасярод сяла, на узгорку, стаіць Дом культуры, якому могуць пазайздросціць многія раённыя цэнтры.

Аднак жа не сваімі садамі і высокім працаднём заваявалі панежычане вядомасць у навакольных сёлах. І не толькі для таго, каб паглядзець на дабротныя фермы і багатыя льны, варта пабываць у гэтым сяле. Бадай, найбольшую вядомасць Панежычам прынёс іх самадзейны драматычны гурток пад мастацкім кіраўніцтвам аднаго маладога трактарыста, Цімоха Сымонавіча Алешкі, або, як яго па маладосці год называюць ўсе, Цімошкі. Вось ужо сапраўды вясёлы тэатр!.. Гэты Цімошка быў тут адначасова і арганізатарам, і рэжысёрам, і выканаўцам самых адказных роляў, і кожны новы спектакль ён аздабляў такімі дасціпнымі рэжысёрскімі знаходкамі, вырабляў на сцэне такія штучкі, што ў яго пастаноўцы любая, нават сумная п'еса зіхацела іскрамі сапраўднага гумару. Расказваюць, што самыя сур'ёзныя людзі, якіх наўрад ці даняў бы сам Ігар Ільінскі, гледзячы спектаклі з удзелам Цімошкі, клаліся ад смеху на сваіх крэслах. Мясцовы фельчар, Ціт Сямёнавіч Дрозд, чалавек бывалы і сур'ёзны, першы раз пайшоў на самадзейны спектакль панежыцкай моладзі з гэтакай паблажлівай усмешкай. Маўляў, што тут добрага ў Панежычах могуць паказаць, вось ён быў у Маскве, у Акадэмічным... А выйшаў, дык, выціраючы слёзы ад смеху, уголас сам аб'явіў, што такога ён не бачыў нават у Акадэмічным.

І тут Ціт Сямёнавіч, вядома, казаў чыстую праўду, таму што і сапраўды ў Акадэмічным тэатры такога, як у

Панежычах, ніяк не ўбачыш. Падумайце самі, ці здаралася, скажам, у Акадэмічным, каб у акцёра ў самы разгар дзеі на сцэне раптам адвальвалася не зусім добра прывязаная барада? Або, да прыкладу, каб акцёр, недачуўшы суфлёра, смела прыкладаў нешта ад сябе, ды такое, што калі б гэта ненарокам пачуў аўтар п'есы, то ён, напэўна, тут жа страціў бы прытомнасць...

Уся асаблівая прывабнасць аматарскіх спектакляў для панежычан заключалася ў тым, што, нягледзячы на самы складаны грым, на падвешаныя бароды і ўскінутыя на плечы кім-небудзь каптаны або казакіны, яны адразу ж пазнавалі ўсіх удзельнікаў спектакля. І чым больш тыя стараліся, каб іх не пазналі, тым больш вясёлую рэакцыю выклікалі ў зале гэтыя іх намаганні.

— Глядзі, глядзі,— звяртаўся да свайго суседа па крэсле калгасны вартаўнік, вядомы ўсяму сялу грамадскі актывіст і балельшчык мясцовай самадзейнасці дзед Сілівон.— Тая пані — гэта ж Нюшка канцавая, Сідарава дачка!..

На сцэну выходзіла новая дзеючая асоба, і дзед Сілівон не мог утрымацца, каб не заўважыць:

— Матухны мае, гэта ж Кастусь Адарчын! А каб па цябе! Ну і прыбраўся ж!..

І аднак жа найбольшы ад усіх гурткоўцаў поспех меў у гледачоў сам Цімошка. Колькі вясёлай выдумкі ўкладаў ён у выкананне кожнай ролі! Асабліва падабалася панежычанам, калі Цімошка выконваў у п'есах ролі дзядоў. Гэты выдумшчык дзеля жарту кожны раз па-рознаму грыміраваўся, пераймаў паходку, голас, жэсты якога-небудзь добра вядомага ўсім вясковага дзеда. І так гэта ў яго ўдала выходзіла, што яго і сустракалі, і праводзілі заўсёды з апладысментамі. Як ніхто, умеў ён улавіць і ў дасканаласці перадаць характэрную рысу таго ці іншага дзядулі. І кожны раз, калі ў час спектакля з-за хісткіх дэкарацый выходзіў на сцэну дзядок у лапцях, з кіёчкам у руках, з вялікай сівой барадою, усе адразу ж з вясёлым смехам пазнавалі Цімошку і пад барадой, і з густа намалёванымі зморшчынкамі і тут жа пачыналі прыглядацца,— а каго з вясковых дзядоў ён пераняў на гэты раз?..

І хто б мог падумаць, што гэты бяскрыўдны Цімошкаў жарт аднойчы павернецца зусім нечаканым бокам, прывядзе да ўсеагульнага непаразумення і ледзь не стане прычынай правалу чарговай прэм'еры. Вось як усё гэта было. Больш за тры тыдні рыхтавалі панежыцкія гурт-

коўцы свой новы спектакль. Колькі было рознага клопату, мітусні! Дзяўчаты тэрмінова шылі сабе нейкія старамодныя сукенкі, хлопцы капаліся ў старых бацькоўскіх скрынях у пошуках доўгіх да пят паляшуцкіх дзедаўскіх світак і кажухоў. Быў уключаны ў арбіту падрыхтоўкі да спектакля і вядомы нам балельшчык панежыцкіх гурткоўцаў дзед Сілівон,— ён падмеўся сплесці дзве пары лазовых лапцей, паколькі выявілася, што ні ў адной хаце ў сяле гэтага, нядаўна такога масавага на Палессі абутку знайсці не ўдалося. А колькі было бегатні, пакуль гурткоўцы раздабылі старую папоўскую расу або чорны хвастаты фрак для гарадскога дарэвалюцыйнага паніча. У самыя апошнія дні перад спектаклем раптам здарылася бяда — захварэў адзін з артыстаў, і, каб не сарваць прэм'еру, давялося зрабіць некаторыя замены і перастаноўкі выканаўцаў.

І вось, нарэшце, надышоў доўгачаканы вечар. Зала панежыцкага клуба,— а трэба сказаць, гэта памяшканне месц на пяцьсот,— была запоўнена так, што, здавалася, больш сюды ўжо не мог бы ўціснуцца ніводзін чалавек. Людзі стаялі ў праходах, каля сцен, запоўнілі ўсе свабодныя куточкі. Пярэднія рады, як звычайна, займалі старэйшыя калгаснікі са сваімі жонкамі, члены праўлення калгаса, мясцовая інтэлігенцыя: настаўнікі, знаёмы ўжо нам фельчар Ціт Сямёнавіч з жонкаю, рахункавод, кіраўнікі сельсавета.

У чаканні спектакля зала гудзела, не раўнуючы, як вылецеўшы з вулля малады пчаліны рой. Людзі гаманілі, жартавалі, ззаду дзяўчаты пад гармонік напаўголасу спявалі частушкі. Каля самай сцэны за маленькім столікам заўзятыя гулякі раз-пораз з усёй сілы грукалі костачкамі даміно.

Але вось са сцэны тройчы пачуўся ўдар у чыгуначную рэйку, і ў зале патухла святло. Адразу ж захліпнуўся і сціхнуў гармонік, гулякі згарнулі ў кучу сваё даміно, заціх гоман. Усе з нецярплівасцю павярнуліся да сцэны. На гэты раз панежыцкія гурткоўцы паказвалі п'есу з дарэвалюцыйнага жыцця, нейкую меладраму з нешчаслівым каханнем і маладым ашуканцам-панам.

У першай дзеі ўсё ішло гладка і добра, як па пісанаму. Героі заходзілі, выходзілі, нарасталі, як і належыць, хвалюючыя падзеі. Але ў канцы другой з'явы нечакана здарыўся невялікі канфуз. Камбайнер Рыгорка, які ўпершыню выступаў на сцэне, ад разгубленасці недачуў суф-

лёра і нешта прамямліў ад сябе. Але, відаць, сказаў ён зусім не ў лад, таму што суфлёр, занерваваўшыся, ледзь не ўголас выгукнуў: «Не так, ч-чорт!» Ды на гэты раз Рыгорка адразу пачуў падказку, радасна ўскінуў галаву і на ўсю залу грымнуў свайму збянтэжанаму партнёру: «Не так, чорт!..»

Але гледачы, дабрадушна пасмяяўшыся, не звярталі асаблівай увагі на такія дробныя непаладкі, і спектакль з поспехам ішоў далей. У канцы першай дзеі на сцэну выйшаў дзядок, рухавы, з расчэсанай надвое пышнай сівой барадой. Дзядок прайшоўся па сцэне, нешта сказаў адтанклявым голасам дзяўчыне, што прала кудзелю, і адразу ж уся зала загудзела вясёлым смехам, адусюль пачуліся выгукі:

— Брава, Цімоша!.. Ну і мастак, глядзі ты, як Сілівона пераняў!..

— Га-га-га! — не ў сілах стрымацца ад смеху, рагатаў на ўвесь голас Ціт Сямёнавіч Дрозд.— Вось лайдак... вось прахваціў! Ну, чысты Сілівон!..

Хоць яшчэ нічым асаблівым не праявіў сябе той дзядок, у зале адразу ж выбухнула бура апладысментаў. Як дасціпна пераняў Цімошка ўсім вядомага калгаснага вартаўніка Сілівона! І паходка тая ж, і голас, і жэсты. Адно толькі было некаторае разыходжанне ў адзенні: дзядок на сцэне быў апрануты ў нейкую недарэчную, доўгую да пят світу, на нагах — лапці з высока закручанымі анучамі, а Сілівон звычайна хадзіў у ботах, насіў купленыя ў магазіне суконны касцюм, добрую паддзёўку з авечым каўняром. У астатнім жа дзядок на сцэне нібы ўсе кропелькі пабраў са старога Сілівона.

Калі апусцілася заслона, у зале толькі і гаворкі было, што пра Цімошкаву ігру. На думку ўсіх, на гэты раз Цімошка проста пераўзышоў самога сябе. У асаблівым захапленні была дзетвара. Збіўшыся ў групкі, яны, нібы адтыя канаплянкі на плоце, шчабяталі, перабівалі адзін аднаго, захлёбваючыся ад смеху, абмяркоўвалі кожны ўчынак Цімошкі на сцэне.

Нібы на злосць, у другой дзеі, як і ў першай, здарылася няўдача. Па ходу п'есы на сцэне трэба было зрабіць выстрал. Яго дамоўлена было імітаваць з дапамогаю дошкі, якою сам Цімошка ў патрэбны момант павінен быў за кулісамі ляснуць аб падлогу. Цімошка падняў аполак, стаіўся і з-за дэкарацый пачаў паглядваць у выразанае ў фанеры акно, чакаючы, пакуль на сцэне герой пачне «стра-

ляць». Неўзабаве герой навёў на свайго партнёра пугач і зрабіў выгляд, што націснуў спуск. Але прыціхшая зала замест выстралу пачула нейкі глухі стук, а затым прарэзлівы крык: «О-ой!.. Што ты б'ешся?!»

У зале адразу здагадаліся, што адбылося. У час, калі павінен быў адбыцца выстрал, нехта з гурткоўцаў, сагнуўшыся, перапаўзаў тое месца за кулісамі, дзе ў дэкарацыі было акно. А Цімошка, сочачы за сцэнай, не заўважыў гэтага і стукнуў не па падлозе, а па спіне таго хлопца... Гледачы сустрэлі гэтую «накладку» з вясёлым энтузіязмам, і ў зале доўга стаяў нястрымны рогат.

Але публіка лёгка даравала артыстам усё, калі на сцэну зноў выйшаў той дзядок, калі ён дакладна гэтак жа, як дзед Сілівон, кашлянуў, паціснуў плячыма, прайшоўся. Так забаўляла ўсіх яго ігра, што цяпер мала хто ўжо сачыў і за ходам дзеі, і за перажываннямі герояў. Усе адно толькі і глядзелі, як той дзядок нязграбна тупаў па сцэне, як хітра прыкідваўся збянтэжаным і ў нейкім замяшанні торгаў сваю бараду.

— Цімошка! — у захапленні закрычалі ў зале.— Ты пакажы, як Сілівон ад нячысціка ўцякаў!..

— Пакажы, пакажы! — з усіх бакоў падтрымалі гэтую вясёлую просьбу.

Усе чакалі, што Цімошка зараз жа перадасць вядомы на ўсю вёску выпадак, які здарыўся гады два таму назад са старым Сілівонам. Той неяк улетку пайшоў спаць у гумно, распрануўся, лёг у салому, але... тут жа ўсхапіўся, нібы з гарачай патэльні, і, спалоханы да паўсмерці, у адных падштаніках прыбег дахаты. «Нячысцікі данялі!» — растлумачыў ён напалоханым яго крыкамі суседзям. А назаўтра выявілася, што на саломе побач з адзежаю Сілівона адпачывала сям'я вожыкаў, і стары, распрануўшыся, упоцемку лёг на іх...

— Пакажы! — крычалі ў зале.

Але Цімошка чамусьці адмаўляўся выканаць просьбу гледачоў. Відаць, таму, што звычайна дзед Сілівон не любіў, калі яму ўспаміналі пра гэты выпадак. І дзядок, ці то так па п'есе яму патрэбна было, ці па іншай прычыне, павярнуўся і, незадаволены, пакінуў сцэну...

Тым часам публіка прыйшла ў такое вясёлае захапленне, што ўжо не хацела нават звяртаць увагі на другіх герояў.

— Цімошку! Цімошку!..— заўзята выгуквалі адусюль.

Раптам гурткоўцы перапынілі спектакль і апусцілі

заслону. Па сцэне сумятліва бегалі артысты. Ніхто ў зале не ведаў, у чым была прычына ўсяго гэтага, і гледачы пачалі з новай сілай апладзіраваць, стукаць нагамі аб падлогу.

— Ці-імо-ошку-у!..— перакатвалася ў зале.

Нечакана заслона зноў адчынілася. Гледачы ўсё яшчэ настойліва гукалі Цімошку. Але тут адбылося такое, чаго не думаў і не чакаў ніводзін чалавек у зале. На сцэну выйшаў Цімошка, самы сапраўдны Цімошка, у звычайным сваім адзенні, і ён вёў за сабою... дзеда Сілівона ў доўгай да пят суконнай свіце, у лапцях, з расчэсанай надвое сівой барадой... Гэта было так нечакана для ўсіх, што людзі ў зале анямелі ад здзіўлення. І ў гэтай нямой цішыні асабліва выразна прагучаў голас Цімошкі.

— Таварышы! — незадаволена хмурачыся, цвёрда прамовіў ён.— Я — гэта я, і я тут ні пры чым, а наш паважаны Сілівон Мацвеевіч сёння выступае, так сказаць, як удзельнік спектакля, і ён просіць, каб вы не збівалі яго рознымі недарэчнымі выгукамі. Зразумела?..

Можна сабе ўявіць, які вясёлы рогат выбухнуў у зале, калі гледачы нарэшце апамяталіся і да іх дайшло, як яны нечакана ашукаліся!..

Вось якія забаўныя рэчы здараюцца часамі на спектаклях панежыцкай моладзі. Далібог, каму здарыцца быць на Палессі, не мінайце Панежыч, паглядзіце выступленні мясцовых артыстаў пад мастацкім кіраўніцтвам трактарыста Цімоха Сымонавіча Алешкі. Ручаемся, сумаваць не давядзецца!

1959

## СУСТРЭЧА ЛЯ ХРАМА ЛОРЭТА

Калі вам, дарагі чытач, давядзецца ў якасці турыста аглядаць выдатнасці Прагі і трапіцца ў вас гідам пані Бажэна Алаізава, лічыце, што вам пашанцавала. Гэтая немаладая, але поўная энергіі жанчына проста-такі закаханая ў сваю старажытную «стовежавую» Прагу, «матку мест» [1], і можаце не сумнявацца, што ва ўсім гэтым вялізным і сапраўды вельмі прыгожым гора-

[1] Матка мест — маці гарадоў, як называюць чэхі сваю сталіцу.

дзе не застанецца ніводнага колькі-небудзь цікавага куточка, з якім бы яна вас не пазнаёміла.

Я абавязаны пані Бажэне ўдвая: і за яе вялікую стараннасць паўней пазнаёміць нас з Прагай, і за тое, што, калі б не яна, у мяне не адбылася б адна хвалюючая сустрэча, якая...

Але не будзем забягаць наперад. Мы былі на Карлавым мосце, аглядалі яго цудоўныя скульптурныя ўпрыгожанні, калі раптам пані Бажэна, зірнуўшы на гадзіннік, заспяшалася, запрасіла ўсіх у аўтобус, і нас ні з таго ні з сяго хутка памчалі праз увесь горад да нейкага храма Лорэта. Што казаць, ёсць у замежных гідаў асаблівая і, трэба сказаць, даволі надакучлівая схільнасць частаваць турыстаў знаёмствам з усімі сваімі старажытнымі храмамі, царквамі, былымі манастырамі і рознымі сутарэннямі далёкай мінуўшчыны.

Як выявілася, паспешлівасць, з якою імчаў нас да гэтага храма шафёр «Чэдака» — чэшскага турысцкага бюро,— мела свае прычыны. На званіцы Лорэта вісіць дваццаць сем рознагалосых званоў, і вось ужо трыста гадоў роўна а дванаццатай гадзіне дня гэтыя званы вызваньваюць урачыстую мелодыю «Аве Марыя». Пані Бажэна так спяшалася, каб даставіць нам асалоду паслухаць гэтую «Марыю», што мы трапілі да храма а палове дванаццатай, і ў нас яшчэ заставаўся час аглядзець і самы храм.

Мне, уласна, запомніліся ў тым храме дзве рэчы: выстаўленая для агляду за шклом славутая дарахавальніца, вядомая ва ўсім свеце пад назвай «пражскае сонца» — тварэнне сапраўды высокага мастацтва. Зробленая з чыстага золата і аздобленая больш чым шасцю тысячамі брыльянтаў, гэтая дарахавальніца і праўда ўся зіхацела, як сонца.

І яшчэ запомніўся вялізны, напісаны на сцяне партрэт святой Старосты, ахоўніцы ўсіх бедных і пакрыўджаных лёсам жанчын. Запомніўся з той незвычайнай прычыны, што твар гэтай святой, у адрозненне ад усіх жанчын свету, абрамляла... густая чорная ў завітушкі барада. Легенда тлумачыла гэтую дзіўную акалічнасць так: некалі, яшчэ ў другім стагоддзі, бацька Старосты, кароль Луізітаніі, жадаючы парадніцца з сіцылійскім каралём, парашыў выдаць за яго сваю дачку, вышэйпамянёную Старосту. Але прыгожая маладая дзяўчына не хацела ісці замуж за нелюбімага ды, можа, яшчэ якога-небудзь гугнявага, з клюкаватым носам старога. І вось у ноч

перад першай сустрэчай з нарачоным Староста пачала маліцца і прасіць бога, каб ён уратаваў яе ад нежаданага замужжа. Бог паспачуваў шчырым малітвам, і да раніцы ў дзяўчыны вырасла... вялізная чорная барада. А які ж дзівак будзе жаніцца на дзяўчыне з барадой! Паколькі ж адкупілася Староста ад жаніха занадта дарагой цаной, царква ў парадку, так сказаць, кампенсацыі, залічыла яе ў святыя. Што казаць, пакутніцы была аказана «высокая» пашана. Але, як нам здаецца, наўрад ці льга было змякчыць трагедыю барадатай дзяўчыны нават такой «шчодрай» аддзякай, і можна ставіць сто супроць аднаго, што юная Староста не падскоквала ад шчасця і не выяўляла глыбокай удзячнасці богу за яго легкадумны жарт.

Словам, да дванаццаці мы аглядзелі храм усярэдзіне, а затым выйшлі на невялікі, пакрыты брукам дворык слухаць званы. Музыка на званіцы пачалася са спазненнем хвіліны на паўтары, і пані Бажэна з гэтай прычыны адчувала сябе так ніякавата і ўсміхалася ўсім нам так жаласліва, што можна было падумаць, быццам гэтае спазненне здарылася па яе асабістай віне.

У пачцівым маўчанні мы праслухалі мелодыю, што адбівалі званы. Яна была павольнай, урачыстай і, трэба сказаць, мілагучнай. І ўсё ж у нашых сэрцах атэістаў не ўзнікалі высокія думкі аб тленнасці быцця, усемагутнасці божай ці там яшчэ што-небудзь падобнае. У гэтым сэнсе званы не апраўдвалі спадзяванняў, якія ўскладалі на іх былыя гаспадары храма.

Яшчэ слухаючы «Аве Марыя», мы заўважылі збоку, непадалёк ад нас, невялікую групу людзей, мяркуючы па ўсім, таксама турыстаў. Іх, як і нас, прывезлі сюды, відаць, з той самай прычыны — паслухаць музыку званоў. Усе, як адзін, чарнявыя на выгляд, яны таксама моўчкі стаялі і пазіралі ўгару, на званіцу, увесь час, пакуль над дворыкам гучала «Аве Марыя».

Як толькі званы заціхлі, турысты хапіліся за свае фотаапараты, пачалі фатаграфаваць званіцу, уваход у храм, дворык. І тут нам кінулася ў вочы адна цікавая акалічнасць: усе гэтыя турысты былі ўзброены нашымі савецкімі фотаапаратамі. Прычым не якімі-небудзь там дарагімі камерамі, накшталт такіх, як «Кіеў», «ФЭД», «Зоркі», а самымі што ні на ёсць прасценькімі і таннымі — «Змена», якую ў нас звычайна дораць у дзень нараджэння дзецям піянерскага ўзросту. Мы зацікавіліся і падышлі да незнаёмых. Аказалася, што гэта былі італьянцы.

Даведаўшыся, што мы савецкія людзі, італьянцы (між іншым, гэта была арганізаваная група нейкага прафсаюза) горача кінуліся да нас, заўсміхаліся, нешта жвава загаварылі, жэстамі прапанавалі нам абмяняцца памятнымі значкамі. Моладзь з нашай групы, ды і ўсе аматары сувеніраў палезлі ў кішэні за значкамі, і тут адразу ж пачалося ажыўленне, пачуўся гоман, вясёлыя выгукі.

Да мяне падышоў адзін з турыстаў, мужчына гадоў пад сорак, сярэдняга росту, чарнявы, з маленькімі, як у Чапліна, вусікамі. На правай шчацэ ў яго чырванеў рубец, які цягнуўся ад вуха амаль аж да тых яго чорных вусікаў. Апрануты італьянец быў у карычневы плашч, на галаве — капялюш, а паўзверх плашча цераз плячо ў яго, як і ў іншых, вісела наша «Змена».

— Сав-еціко? Русо?..— звярнуўся да мяне італьянец.

Ён быў неяк асабіста ўзрушаны сустрэчай з намі, і мяне гэта зацікавіла. Я пацвердзіў, што мы сапраўды савецкія турысты, беларусы. Пачуўшы гэта, італьянец яшчэ больш захваляваўся, узрадаваўся, схапіў мяне за руку.

— Бланкорусо? О! — Ён горача і хутка пачаў нешта гаварыць, затым рукой паказаў на свой чырвоны рубец на твары. Час ад часу ў яго гаворцы праскоквалі асобныя рускія словы, але аб чым ён расказваў, зразумець было цяжка. Я мог толькі здагадацца, што той рубец быў знакам апошняй вайны і, відаць, італьянец нейкім чынам быў знаёмы з нашымі краямі.

Убачыўшы, што я не разумею яго, італьянец спыніўся.

— Маменто! — гукнуў ён і пачаў азірацца, шукаючы некага вачыма. Заўважыўшы непадалёк перакладчыцу, маладую дзяўчыну з пышнымі русымі валасамі па імені Мілена, ён кінуўся да яе, жэстамі запрашаючы, каб і я ішоў за ім.

З дапамогай Мілены, якая ведала не толькі італьянскую, але і рускую мову, нам адразу стала лягчэй размаўляць.

— Мяне завуць Рынальда Марчэла,— перш за ўсё назваў сябе італьянец.— Я шафёр таксі. Можа, вы калі-небудзь будзеце ў Рыме, дык мяне вельмі лёгка знайсці — мая стаянка на плошчы Фламініо, каля Вітэрбоскага вакзала.— Рынальда ўсміхнуўся, бліснуўшы сваімі белымі зубамі.— Бланкорусо я задарам пракачу па ўсіх вуліцах, пазнаёмлю з нашым горадам.

Я падзякаваў Рынальда і пажартаваў, што абавязкова

выкарыстаю яго запрашэнне, калі ў мяне здарыцца нагода пабываць у Рыме. Але, дадаў я, мне незразумела, чым выклікана яго такая асаблівая ветлівасць.

— О-о! — паклаў мне руку на плячо Рынальда.— Сіньёр не ведае, што азначае для мяне яго радзіма. Бачыце гэты рубец?.. Гэта памяць ад фашыстаў. Рынальда Марчэла быў падрыўніком аднаго з вашых партызанскіх атрадаў.

На гэты раз прыйшла мая чарга здзіўляцца.

— Вы былі ў нас партызанам? — перапытаў я, мяркуючы, што проста нечага не зразумеў.

Мне было вядома, што ў беларускіх партызанскіх атрадах змагаліся салдаты многіх краін, прымусова мабілізаваныя на вайну супроць Савецкай Арміі,— славакі, сербы, палякі. Але пра італьянцаў я ніколі не чуў.

— Так,— кіўнуў галавою Рынальда.— Калі ў вас ёсць жаданне, я раскажу...

Твар Рынальда паружавеў ад хвалявання, вочы блішчалі. Я сказаў, што з вялікай цікавасцю паслухаю яго расказ. Тым часам, зацікавіўшыся размовай, нас з усіх бакоў абступілі і мае сябры па падарожжы і італьянскія турысты.

— Наша часць размяшчалася ў невялікім напаўспаленым беларускім мястэчку,— пачаў свой расказ Рынальда.— Думаю, кампаньеро, вам не трэба гаварыць, што Гітлер у той вайне не меў ад нас надта вялікай дапамогі. Наш народ ненавідзеў яго гэтак жа, як і свайго «мілага» дучэ. Гітлераўцы адчувалі гэта і не любілі нас, здзекліва звалі «спагецці» — «макароннікі». Мы плацілі ім той жа манетай і ў душы кожны раз радаваліся няўдачам «ботчо» [1]. Многія з нас спачувалі вашаму народу, які так гераічна змагаўся з фашыстамі. Паверце, кампаньеро, мы не маглі спакойна глядзець, як гітлераўцы расстрэльвалі вашых жанчын і дзяцей, палілі сёлы, знішчалі гарады... У мяне даўно спела думка ўцячы з арміі, перабегчы да савецкіх партызан, ды ўсё не здаралася зручнага выпадку.

Але вось аднойчы ўночы партызаны ўварваліся ў мястэчка, дзе быў наш гарнізон, узарвалі камендатуру, нямецкія фуражныя склады, вызвалілі з гестапаўскага засценка сваіх сяброў. Я і яшчэ адзін мой сябра, Сільвано, не ўцяклі разам з усімі, а засталіся ў мястэчку і, выбраўшы зручную хвіліну, здаліся ў палон партызанам.

---

[1] Ботчо — бошы, зняважлівая назва фашыстаў.

Як сёння памятаю чалавека, які першым дапытваў нас. Гэта быў немалады ўжо мужчына, з вусамі, але гладка паголены, у паўваенным адзенні. Асабліва запалі мне ў памяць яго вочы, раздумлівыя, крыху як бы сумныя, але такія цёплыя, чалавечныя. Як я пазней даведаўся, гэта быў камандзір вялікага партызанскага атрада, звалі яго таварыш Андрэй. Калі перакладчык сказаў яму, хто мы, ён спачатку проста заявіў, што адпускае нас на ўсе чатыры стораны, і прапанаваў лепш за ўсё вяртацца да сваіх. Але мы з Сільвано адмовіліся вяртацца. Мы прасілі, каб ён дазволіў нам застацца ў атрадзе і ваяваць супраць гітлераўцаў. Камандзір здзівіўся нашай просьбе. Пасля гэтага ён доўга размаўляў з намі, распытваў, адкуль мы і хто мы, чаму ў нас узнікла такое жаданне, распытваў пра нашы сем'і.

І ён дазволіў нам застацца ў атрадзе. Хоць мы з Сільвано і не ведалі рускай мовы, але хутка знайшлі самых шчырых сяброў сярод вашых цудоўных баявых хлопцаў. Разам з імі мы хадзілі ў засады, рабілі налёты на варожыя гарнізоны. А ў вольныя хвіліны сядалі разам ля кастра і пад гітару спявалі песні — і вашы, беларускія, і нашы...

Неўзабаве па загаду таварыша Андрэя нас з Сільвано перавялі ў падрыўную дыверсійную групу. Уночы мы падкрадаліся да чыгункі, мініравалі рэйкі, а раніцою тут быў «грассэ — бух», ляцелі пад адхон вайсковыя эшалоны фашыстаў. Адзін час мы так дапяклі фашыстам, што яны зусім спынілі рух на бліжэйшым да нас участку дарогі.

Але праз тыдзень рух на дарозе зноў быў адноўлены. На гэты раз чыгунку ахоўвала ўзмоцненая варта. Праз кожныя сто метраў на дарозе шпацыраваў «ботчо», праз кожныя дзвесце — стаяў дзот, узброены кулямётам. Акрамя таго, у раён, дзе размяшчалася наша брыгада, прыбыла вялікая карная экспедыцыя па барацьбе з партызанамі.

Аднойчы нашу дыверсійную групу напаткала вялікая бяда. Неяк ноччу, падкрадаючыся да чыгункі, мы нарваліся на варожую засаду, і ў няроўнай бойцы трое з нашай групы былі забіты. У гэтым начным баі загінуў і мой друг Сільвано...

Рынальда спахмурнеў, у задуменні апусціў галаву. Відаць, успаміны расхвалявалі яго, і некаторы час ён маўчаў. Маўчалі і мы, як бы ўшаноўваючы памяць таго незнаёмага нам італьянскага салдата. Потым Рынальда загаварыў зноў, ціха, павольна.

— Я ўбачыў, як Сільвано ўпаў, падкошаны кулямётнай чаргой, і кінуўся да яго. Але ў гэты міг нешта бліснула перада мной і я грукнуўся вобземлю... Апрытомнеў ужо толькі ў зямлянцы партызанскага шпіталя, куды мяне прынеслі сябры. Асколкам гранаты я быў паранены ў грудзі і вось,— паказаў Рынальда рукою,— у твар.

У шпіталі мне вынялі асколак, перавязалі раны. Ад майго ложка амаль не адыходзіла сястра, мілая, маладая сеньёрына. Сам таварыш Андрэй прыязджаў пераведаць мяне, клапаціўся, каб мяне добра даглядалі.

Між іншым, у час яго апошняга прыезду я заўважыў, што камандзір быў нечым моцна занепакоены. Я спытаў, у чым справа, што яго хвалюе. Але таварыш Андрэй усміхнуўся і сказаў, што гэта мне, відаць, здалося, у атрадзе ўсё ціха і спакойна. Ён перадаў мне прывітанні ад сяброў і знаёмых. «Ляжы спакойна, Рынальда,— сказаў ён на развітанне,— ні аб чым не думай і хутчэй ачуньвай. Мы з нецярплівасцю чакаем цябе ў атрадзе...»

Але праз дзень я даведаўся, што камандзір, не жадаючы мяне хваляваць, сказаў няпраўду. Партызанская брыгада знаходзілася ў вельмі цяжкім становішчы. Гітлераўцы акружылі і блакіравалі лес, дзе мы размяшчаліся, і рыхтаваліся разграміць нас. Неўзабаве партызаны вымушаны былі адступіць у глыбіню лесу. У шпіталі, акрамя мяне, было яшчэ чалавек пяць параненых і хворых, і партызаны ўвесь час неслі нас на насілках. Партызаны прабіраліся скрозь гушчар дзень і яшчэ дзень, імкнучыся якнебудзь вырвацца з акружэння.

Але на трэці дзень выявілася, што «ботчо» чакалі нас ужо і па той бок пушчы, і сілы ў іх былі намнога большыя, чым у нас. Куды ні спрабавалі прабрацца партызаны, усюды натыкаліся на фашыстаў. Не памятаю, колькі мы блукалі па тым лесе, галодныя, знясіленыя, не ведаючы спакою ні ўдзень ні ўночы. Але нават у самыя цяжкія часіны партызаны не пакідалі нас, параненых, аддавалі нам апошні кавалак хлеба.

Ніколі не забуду, як аднойчы на світанні да нас прыйшоў таварыш Андрэй. Ён быў увесь схуднелы, чорны ад клопатаў і бяссонніцы, няголены, левая рука яго, відаць, параненая, вісела на перавязі. Мы ведалі, што становішча брыгады было вельмі цяжкое, але таварыш Андрэй не падаваў выгляду, падбадзёрваў нас. «Пратрымайцеся, хлопцы, яшчэ дзянёк-другі, і ўсё будзе ў парадку. Нам на дапамогу ідзе некалькі суседніх брыгад». Потым камандзір

падышоў да мяне, усміхнуўся: «Што, Рынальда, цяжка?.. Можа, зараз ты шкадуеш, што трапіў да нас?..» Увесь знясілены, я глянуў яму ў вочы і адмоўна калыхнуў галавой. Мне многае хацелася яму сказаць, хацелася падзякаваць за яго добрае сэрца, за мужнасць, сказаць, як моцна я яго палюбіў. Але я змог толькі калыхнуць галавой. «Дзякую, дружа,— ціха сказаў таварыш Андрэй.— Трымайся, Рынальда...»

Але падмога, пра якую гаварыў таварыш Андрэй, нешта не прыходзіла. А тым часам вораг з кожным днём усё тужэй сціскаў кола вакол нас. І вось надышоў дзень, калі нам засталося выбіраць адно з двух: або гінуць усім у акружэнні, або прабівацца праз глухое багністае балота, якое не так моцна ахоўвалася фашыстамі. І таварыш Андрэй прыняў рашэнне: прабівацца і адыходзіць праз тое балота...

Адзін з параненых, камуніст,— ён акурат ляжаў побач са мной — сівавусы, стары чалавек, папрасіў сястру перадаць камандзіру, што ён просіць пакінуць яго ў лесе. Мы зразумелі яго: у няроўных баях параненыя будуць вялікім цяжарам для партызан. А справа ішла аб выратаванні многіх соцень партызан і іх сем'яў. І мы, усе параненыя, далучыліся да яго просьбы.

Але калі сястра перадала нашу просьбу таварышу Андрэю, ён накрычаў на яе і прагнаў. «Якія мы былі б камуністы,— сказаў ёй таварыш Андрэй,— калі б пакінулі ў бядзе сяброў?» І камандзір вылучыў групу моцных, маладзейшых партызан, каб яны нас неслі і ахоўвалі.

І вось позна ўночы, пад аховай заслонаў, якія заставаліся стаяць насмерць, стрымліваючы фашыстаў, атрады партызан пачалі прабівацца да балота. Гэта была жахлівая ноч. Усё вакол грымела і грукатала, ракеты асвятлялі хмызняк і балота, з гулам і свістам ірваліся вакол міны. Партызаны неслі нас, па пояс грузнучы ў балотнай твані. Малады высокі хлапец, які пярэдні нёс мае насілкі, раптам спатыкнуўся і ўпаў, падкошаны асколкам міны. Насілкі адразу ж падхапіў другі баец, а параненага ўзялі на рукі і панеслі следам за намі.

Гэтак з баямі партызаны прабіваліся гадзіны дзве і вырваліся з акружэння толькі к раніцы. Брыгада адышла кіламетраў за сорак ад ранейшага месца і зноў асталявалася ў лесе. Але тут карнікі ўжо не маглі нас даняць,— у гэтых мясцінах стаялі буйныя партызанскія сілы, узброеныя не толькі кулямётамі, але і гарматамі. Нас, паране-

ных, перадалі ў шпіталь злучэння, і месяца праз паўтара я ачуняў...

Мінула колькі гадоў, а я не магу забыць, і ніколі не забуду, тыя вашы лясы, людзей, поплеч з якімі мне выпала шчасце ваяваць. Я не ведаю ні імя, ні прозвішча нашага камандзіра,— «таварыш Андрэй» была толькі яго партызанская клічка. Але калі ён жывы і вам здарыцца сустрэць яго, перадайце яму: калі б нават раскалоліся цвердзі зямныя і залілі зямлю прорвы нябесныя, Рынальда Марчэла не здрадзіць дружбе, народжанай у тыя вогненныя дні.

І яшчэ перадайце яму...— Рынальда сунуў руку ў бакавую кішэнь, выцягнуў партманет і дастаў з яго невялікую чырвоную кніжачку.— Вось...

Я разгарнуў кніжачку,— гэта быў білет італьянскай камуністычнай партыі.

— Перадайце, што Рынальда Марчэла, шафёр рымскага таксі, назаўсёды звязаў з вамі свой лёс.

Рынальда замоўк, паглядзеў на мяне і ўсміхнуўся.

— Кампаньеро, вось мой адказ на пытанне, чаму я буду такі ветлівы, калі сустрэну вас у Рыме...

Усхваляваны расказам Рынальда, які нечакана абудзіў у памяці незабыўныя ўспаміны, я нейкі міг знаходзіўся нібы ў забыцці. Ды і ўсе, хто слухаў яго, раптам прымоўклі, задумаліся, нават наша мілая перакладчыца Мілена, якая пад канец апавядання Рынальда не саромеючыся выцірала хусцінкай набегшыя на вочы слёзы.

Але праз міг я прахапіўся ад таго міжвольнага забыцця, шчыра пацiснуў руку Рынальда, падзякаваў яму за хвалюючы расказ. Мы абмяняліся значкамі: ён падарыў мне невялікі сціплы значок італьянскай кампартыі — зорачка і молат з сярпом на фоне чырвонага сцяга, а ўнізе надпіс «P. C. I.». А я ў адказ даў Рынальда свой — маленькі, круглы, з залацістым сілуэтам Леніна. А потым, акружыўшы Рынальда, мае сябры прыкалолі яму да плашча яшчэ многа розных іншых значкоў. Рынальда ўсміхаўся, шчаслівы, расчулены, і вочы яго бліпічалі...

Ужо калі мы развіталіся, паселі ў аўтобус і пані Бажэна, узяўшы ў рукі мікрафончык, заняла сваё месца гіда, Рынальда раптам аддзяліўся ад групы сяброў, якія заставаліся на дворыку, і, на хаду шукаючы нешта ва ўнутранай кішэні, паспешліва кінуўся да нашага аўтобуса. Падбегшы, ён працягнуў мне скрозь раскрытае акно сваю фотакартку.

— Аміко [1], перадайце гэта таварышу Андрэю... На ўспамін! І яшчэ скажыце яму, што Рынальда Марчэла не хоча, каб у свеце паўтарылася тое, што было. Вы чуеце?.. Перадайце гэта Андрэю!

Аўтобус крануўся і пабег, і я ў адказ змог толькі памахаць Рынальда рукой...

* * *

Вярнуўшыся з падарожжа, я спачатку нават не рабіў і спробы шукаць таго «таварыша Андрэя». Марная работа, думаў я. Ці ж можна было зараз, праз столькі год пасля вайны, знайсці чалавека, нават прозвішча якога было невядома?..

Але аднойчы, можа, праз якіх паўгода пасля той сустрэчы, перабіраючы свае дарожныя нататкі і нечакана натрапіўшы на фотаздымак Рынальда, я раптам падумаў: а што калі ўсё ж паспрабаваць? У той жа дзень я звярнуўся з запытаннем пра «таварыша Андрэя» ў музей Айчыннай вайны. Якое ж было маё здзіўленне і радасць, калі неўзабаве мне паведамілі не толькі імя і прозвішча «таварыша Андрэя», але сказалі нават, дзе ён знаходзіцца зараз. Выявілася, што ён жыве на Магілёўшчыне і працуе дырэктарам буйнога жывёлагадоўчага саўгаса.

Усхваляваны гэтай навіной, я адкінуў усе справы і ў той жа дзень увечары выправіўся ў дарогу. Я ўвесь гарэў жаданнем хутчэй убачыць таварыша Андрэя, пазнаёміцца з ім. Разам з тым я адчуваў сваю віну перад Рынальда і цяпер хацеў як найхутчэй выканаць яго даручэнне.

У доме дырэктара саўгаса мяне сустрэў пажылы, хударлявы мужчына ў паўваенным, па-хатняму расшпіленым кіцелі. Твар мужчыны быў гладка паголены, не крануты былі толькі вялікія чорныя вусы. Але, як ні дзіўна, пазнаў я таварыша Андрэя не па гэтых знешніх адзнаках, а па позірку яго вачэй, крыху як бы сумных, але надзвычай чалавечных, праніклівых, акурат такіх, як расказваў Рынальда.

Прывітаўшыся і папрасіўшы прабачэння за свой нечаканы прыход, я парашыў нічога не тлумачыць і ні аб чым не распытваць, а спачатку проста падаць яму фотаздымак.

— Рынальда?! — выгукнуў таварыш Андрэй, ледзь

[1] Аміко — друг (італ.).

толькі кінуўшы позірк на здымак.— Рынальда Марчэла!.. Адкуль у вас гэты здымак? Заходзьце ў хату і хутчэй раскажыце ўсё...

Таварыш Андрэй паклаў мне руку на плячо так, быццам мы з ім былі даўнія прыяцелі, і гасцінна павёў у пакой. Я падрабязна расказаў таварышу Андрэю, дзе і як мы сустракаліся з Рынальда і што той прасіў перадаць яму.

Калі я скончыў гаварыць, таварыш Андрэй устаў ад стала, моўчкі прайшоўся туды-назад па хаце. Потым зноў сеў, апусціў у задуменні галаву. Я заўважыў, што яна ўжо густа серабрылася сівізной.

— Рынальда,— ціха, не падымаючы галавы, прамовіў таварыш Андрэй,— ты не хочаш, каб паўтарылася тое, што было...— Ён раптам падняў галаву, вочы яго заблішчалі.— А каму ж на ўсім нашым вялікім свеце патрэбна вайна?.. Гадам паўзучым яна патрэбна, а не людзям...

Памаўчаўшы, таварыш Андрэй усміхнуўся, весела, з хітрынкай глянуў на мяне.

— А ведаеце, гэта ўсё ж вельмі радасна, што ў нас па ўсёй зямлі ёсць столькі добрых сяброў. Праўда?..

Я моўчкі кіўнуў галавой,— так, гэта вельмі радасна. Мне хацелася толькі дадаць: у нас таму так многа сяброў, што зямля наша бясконца шчодрая на такіх цудоўных людзей, як таварыш Андрэй.

1959

## НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ...

Першае сваё апавяданне Усевалад Краўчанка надрукаваў у 1933 годзе, васемнаццацігадовым юнаком. За плячыма былі Нараўлянская сямігодка, рабфак у Мазыры, першыя крокі ў рэдакцыі раённай газеты «Калгаснік Мазыршчыны» (нарадзіўся Усевалад Ігнатавіч Краўчанка 14.X.1915 г. у вёсцы Каплічы Калінкавіцкага раёна).

Рана тады сталелі юнакі і дзяўчаты, смела ішлі ў самастойнае жыццё. Здольны і як на той час даволі адукаваны юнак усе даваенныя гады працуе ў газеце «Бальшавік Палесся», рэарганізаванай з раённай у абласную, і адначасна вучыцца на літаратурным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У дваццаць два гады,— як па нашых цяперашніх мерках, то надзвычай рана,— праз нейкія тры гады пасля літаратурнага дэбюту выпускае ў свет кнігу «На крутым пераломе» (у 1937 годзе), а зноў праз тры гады (у 1940 годзе) выходзіць у свет яго другая кніга «Калгасныя навелы».

Гэта быў пры ўсёй складанасці ўнутранага і міжнароднага жыцця час вялікіх дасягненняў у сацыяльна-эканамічнай і культурна-духоўнай сферах жыцця савецкага народа, час яшчэ большых надзей і спадзяванняў. І ў тым, што ў нашым тагачасным мастацтве гучалі мажорныя акорды, што *радасць* было адным з найбольш папулярных слоў у нашай літаратуры, была свая жыццёвая логіка — такая была атмасфера часу.

Адно з першых апавяданняў Усевалада Краўчанкі якраз і называлася «Радасць». Перачытваеш цяпер тое даўняе апавяданне і бачыш, якія вялікія патэнцыяльныя магчымасці былі ў маладога празаіка.

Давайце ж перачытаем яго непаспешліва і ўважліва, пройдземся «ўслед за аўтарам».

«...Чацвёртага свайго сына, Петруська, Тэкля нарадзіла ў по-

лі. Быў гарачы спякотны дзень. Пад капою жыта стаяў гляк з халоднаю вадою. Ахопленая смагай, Тэкля ляжала на посцілцы і ад слабасці не магла дацягнуцца рукою да гляка. Ціха застагнаўшы ад нясцерпнага болю, яна згубіла прытомнасць. Суседка цераз мяжу ўбачыла гэта і прыбегла на дапамогу. Неўзабаве Петрусёк ужо быў жыхаром на зямлі. На ігрушы каркала варона. Яна каркала на бяду. Суседка перавязала Петрусю пупок і кінула каменем у варону. Мякка ўзмахваючы крыллем, варона павольна праляцела над імі. З жахам у вачах Тэкля правяла яе позіркам і папрасіла піць. Вада канчаткова прывяла яе ў прытомнасць. Над галавой стаяла як ніколі чыстае неба. У далёкіх прасцягах яго сваім жыццём жыў сусвет, невядомы, чужы. Тэкля не ведала пра далёкі сусвет, яна ведала другое: недажатаю засталася паласа...

Захар, яе муж, прыехаў на поле толькі пад канец дня. Ён ішоў да яе і стараўся здавацца радасным».

Аўтара вельмі лёгка папракнуць тут — і па справядлівасці — у розных недаглядах, паўшчуваць яго, скажам, за «ахопленасць смагай» ці тую ж «згубленую прытомнасць». Але ж няма тут «бурапены», штучнай мажорнасці, і ёсць тое многае, што так неабходна мастацкай прозе — дакладна ўзяты тон, які стварае адпаведны зместу расказанага настрой, праўда мастацкіх дэталяў, натуральнасць чалавечых пачуццяў:

«...— Ну што прывяла, хваліся?

Ён усміхаўся крывою, жаласлівай усмешкай. Каб не глядзець Захару ў вочы, яна закрыла рукою твар. Захар скінуў шапку.

— Хлопчыка...

— Едзем,— адказала Тэкля.

Тады Захар паклаў на воз некалькі снапоў і дапамог узабрацца на іх Тэклі. Ціхі і абыякавы гнеды павольна пацягнуў воз. Апусціўшы галаву, збоку, як за труною, ішоў Захар...»

Проста здзіўляе па-харошаму, як лаканічна і тым не менш пераканаўча паказаў малады аўтар у некалькіх абзацах цэлае жыццё чалавечае.

Сашчапіўшы ад болю зубы, ужо назаўтра Тэкля дажала сваю паласу. Касар, аратай, возчык панскага лесу, Захар ва ўсе бакі кідаецца, каб агораць як-небудзь новую хату. Але яму не суджана было пераступіць парог свае новае хаты. «Петрусёк нядоўга жыў пад апекаю бацькі...» Паехаў неяк Захар у панскі лес, каб украсці там адну хваіну. «Хвоя доўга не хацела падаць, не хацела накідаць жыццё, але калі ўпала, то рашыла і жыццё Захара...»

Не магу ўтрымацца, каб не працытаваць яшчэ з гэтага, як для пачаткоўца вельмі гарманічна-цэласнага, апавядання, у якім, паўтараю, так шмат ёсць таго, што так неабходна мастацкай прозе і найперш — непашматслоўны і дакладны паказ настрою, змены

чалавечых пачуццяў адчуванняў, узнаўленне самой атмасферы жыцця:

«На хвою, пад якой хавалі Захара, падалі апошнія промні сонца. Глуха стукала зямля аб века труны. Сумна спяваў бацюшка. А Тэкля стаяла прыпёршыся спіною да хвоі, моўчкі пазірала ў яму. Яна змарылася плакаць і галасіць, у яе не было слёз, чым плакаць. Пацііху прыйшла яна дадому. Яна глядзела на пусты двор, на пахіленую хату, на чатыры вянцы новай хаты побач, на гнедага, які спакойна жаваў у канцы двара лебяду, і толькі цяпер адчула, як яна асірацела».

І пайшло ўсё далей так, што Тэкля ўжо «не верыла нікому — ні людзям, ні богу, ні жыццю...».

Раз'юшаны бугай «вымесціў... нейкую сваю сляпую звярыную злосць» на старэйшым Тэклінам хлопчыку, прыпёр яго да дуба, «узняў высока на рогі і кінуў вобзем». А потым захварэлі на тыфус усе яе астатнія дзеці і ўсе памерлі. Толькі нейкі надзіва жывучы Петрусёк перамог смерць.

І вось гэты Петрусёк прысылае цяпер сваёй старэнькай маці ліст — паведамляе, што яму «надалі званне лётчыка» і на некалькі гадзін ён можа заляцецца ў родную вёску, сесці «на палянцы ля Савосевага дуба» альбо на загуменні, калі яго не зааралі пад зябліва.

Якая гэта, аднак, непаўторная эпоха ў жыцці нашага народа! Чытаеш-перачытваеш такія вось немудрагелістыя, «немаштабныя» перадваенныя творы, пачынаеш глыбей разумець, адкуль у нас узяліся сілы вытрымаць у хуткім часе такую страшную вайну. Якой прывабнай і, калі хочаце, гаючай атмасферай патыхае на нас у такіх творах, якое, кажучы словамі аўтара, свята «чалавечай еднасці» паўстае перад намі.

Усе ў вёсцы шчыра радуюцца прыезду Петруся, ганарацца ім, як вялікім героем,— лётчыкі ж тады былі не менш любімыя, чым нашы першыя касманаўты.

І тая радасць, якая пануе ў апавяданні,— гэта не шматслоўна-рытарычная аўтарская радасць. Перад намі паўстаюць, як жывыя, у вельмі натуральных жэстах і словах многія людзі, нават самыя другарадныя персанажы. Скажам, той жа спагадлівы і кемлівы лістаносец Рыгорка, што ўміпае, «прыцмокваючы і аблізваючыся», смачныя цётчыны аладачкі і радасна паведамляе: «Загуменні яшчэ не зааралі, гэта я добра ведаю, бо ў Лёшкі ўчора жывот балеў...» І тая ж крыху старэйшая за Лёшку Настасся, што, хуценька выцягваючы вядро вады, крычала цётцы Тэклі ад калодзежа:

«— Чакайце, цётка Тэкля, чакайце! — і крыху засаромеўшыся, дадала: — З поўным я перайду».

Аўтар любіць сваіх герояў. І таму і словы находзіць дакладныя, і тон адпаведны, і гумар у яго дасціпны:

«Яна перабегла Тэклі дарогу, пругка трымаючы поўнае вядро. Настасся не верыла ў «поўнае вядро»,— гэта бабскія забабоны, а яна ўжо трэці год як камсамолка, але яна хацела сказаць што-небудзь прыемнае старой Тэклі.

— Пятрусь ваш прыляціць? Цётка Тэкля, папрасіце, каб ён пакатаў мяне на самалёце. Добра?»

А возьмем таго ж Лёшку — трактарыста, твар якога «бліШчаў і ільсніўся ад здароўя і паўпаты жыцця», які знарок «захварэў», каб не араць на тым загуменні, а цяпер вынімае з рук «мамашы» вядро і нясе да яе хаты.

І гэтая вось такая дасціпная канцоўка надзвычай светлага, сапраўды жыццесцвярджальнага апавядання, у якім так шмат ад цеплыні аўтарскага сэрца: упадабаўшы цётчыны аладкі, Рыгорка сам піша і прыносіць цётцы Тэклі пісьмо... ад другога сына, не ведаючы, што ў яе толькі адзін Петрусёк...

Хай даруецца мне гэтая даўгаватая гаворка пра даўняе апавяданне амаль забытага намі празаіка, які, аднак, пакінуў свой след у літаратуры.

Сапраўдная літаратура была. Далёка не ўсё напісапае Краўчанкам вытрымала суровую праверку часам. Але былі ў тых першых кнігах творы, якія і цяпер чытаеш з цікавасцю і задавальненнем, са светлым душэўным настроем.

Тыя, хто ведаў Усевалада Ігнатавіча, кажуць, што гэта быў найперш вельмі добры чалавек. Вось гэтая дабрыня, нейкая пасаблівому шчырая замілаванасць да простых людзей, пра якіх ён расказвае, якраз і прываблівае найбольш у яго ранніх апавяданнях, напісаных, дарэчы, харошаю — жывой, натуральнай — моваю. Мы ведаем, што не так ужо ўсё добра і светла было ў тагачасным жыцці, як гэта выпікае з апавяданняў. Але ад хадульнасці і фальшу гэтыя не ва ўсім дасканалыя творы выратоўвае мяккі дасціпны гумар, вельмі натуральныя, жывыя ноткі ў голасе аўтара-апавядальніка.

Колькі, скажам, жывых і маляўнічых штрышкоў у паказе побыту і чалавечых узаемаадносін у апавяданні «Прыкрае здарэнне».

Чаго не стае, скажам, вельмі і вельмі часта нашай сучаснай «бягучай» прозе, якая так ганарыцца сабою? Ды самага элементарнага. Тых «рабочых дробязей», пра якія гаварыў некалі М. Астроўскі, просячы сталых майстроў слова не баяцца выказваць яму пра гэтыя «дробязі» самую горкую праўду. Без іх жа немагчлівая сапраўдная мастацкая проза. І найперш — без «вонкавых» характарыстык — без паказу аблічча чалавека, яго жэстаў, адзення, тых прадметаў, якія яго акаляюць. Усё гэта, вядо-

ма, ёсць і ў цяперашніх пачаткоўцаў, часам — аж занадта. Але падаецца апісальна, шматслоўна, а не праз мастацкія дэталі. Пераважае нейкае абстрактнае «паведамленне», без размеркавання «святла і ценю», без імітацыі жывога голасу аўтара-апавядальніка.

Тут жа, у першых апавяданнях маладога празаіка, ёсць, паўтараю, многае, так неабходнае мастацкай прозе...

...Не менш фантастычна-яркаю, чым прылёт лётчыка ў вёску, быў у той час звычайны немудрагелісты радыёпрыёмнік. Сын дорыць бацьку гэтае дзіва. І вось як пераканаўча паказвае малады аўтар шчырую радасць і гэтую вось наіўную фанабэрыю старога чалавека:

«Тамаш быў у захапленні ад апарата. Кожнага, хто прыходзіў да яго ў хату, ён заводзіў у бакоўку, паказваў радыёпрыёмнік, даваў паслухаць і радаваўся, прыкмеціўшы ў вачах госця здзіўленне. Ён быў горды і тым, які ў яго слаўны сын, і сваім умельствам кіраваць незразумелым апаратам. Бывала, ці трэба ці не, стары Тамаш заклапочана і мнагазначна падкручваў якую-небудзь шрубку ў кантактах, правяраў злучэнне. Потым з важным, таемным выразам твару прыслухоўваўся да працы прыёмніка і, быццам тое, што перашкаджала, ужо выпраўлена, сам сабе задаволена насміхваўся».

І не «ўвогуле», а жывымі ўзрадаванымі вачыма старога Тамаша глядзім мы на ўсё вакол яго:

«Новы чырвоненькі пеўнік на каньку хаты вось-вось збіраўся кукарэкнуць на ўвесь голас. Вакол хаты — прыгожая агарожа, пад акном — градка кветак. На вуліцы, каля плота, лаўка, на якой вечарамі збіраецца ўся канцавая моладзь. На хляве і на хаце — па мачце. Вокны завешаны паркалёвымі фіранкамі. У хаце чыста, светла, свежа...»

І сам Тамаш у чыстай белай кашулі, падпяразанай стракатым саматканым поясам, або «адзеты ў чорны пінжак, новыя боты, з акуратна расчэсанай сівою барадою», памаладзелы і шчаслівы, паўстае перад намі, як жывы.

А хіба ж менш пераканаўча паказаны той канфуз, у які трапляе стары Тамаш з-за гэтага радыёпрыёмніка? У кожнага персанажа — і ў Тамаша, і ў яго брата Цімоха, і ў той жа ўнучкі Волечкі — свая «канфігурацыя мовы» (М. Горкі), свае натуральныя жэсты: усё тое, без чаго немажліва ажывіць чалавека ў слове.

І калі апавяданне «Прыкрае здарэнне» — гэта сапраўды яшчэ як бы кур'ёзнае прыватнае здарэнне, хай сабе і адмыслова расказанае, то ўжо апавяданне «Дзедаў прынцып» не вымагае ніякіх скідак ні ў эстэтычным плане, ні ў плане сацыяльнай значымасці. За вобразам дзеда-рэўкома Мацея стаіць ужо сацыяльна-грамад-

скага значэння праблема — праблема чалавечай нераўнадушнасці і грамадзянскай актыўнасці.

Як бачым, талент маладога празаіка раскрыўся адразу, і абяцаў ён шмат. У 1939 годзе яго прымаюць у члены Саюза пісьменнікаў БССР. Цікавая работа ў газеце, вучоба ва універсітэце, творчае прызнанне...

І тут — вайна...

Хворага на сэрца дваццацішасцігадовага пісьменніка вызваляюць ад прызыву ў армію, але сам ён неўзабаве дабіваецца таго, што яго бяруць супрацоўнікам армейскай газеты «Боевое знамя». Але хвароба была занадта сур'ёзная — у хуткім часе У. Краўчанка апынаецца ў Арле, а потым у Саратаве. Але ў 1943 годзе па выкліку ЦП КП(б)Б едзе ў Маскву, дзе да 1944 года загадвае аддзелам партызанскага жыцця ў газеце «Савецкая Беларусь».

Сказаць, што ў гады вайны У. Краўчанка не ведаў, што робіцца на Беларусі, вядома, нельга. Але гэта не было тое канкрэтнае, глыбіннае веданне, якое больш за ўсё неабходна пісьменніку і якога не хапала тады нават такому выключнаму таленту, як Кузьма Чорны. І таму ў прозе ваенных гадоў ёсць многае — здзекі і катаванні ворага, мужнасць і гераізм народа, веліч усенароднага змагання, але часам не стае таго «ледзь-ледзь», якое ўзрушвае ў вялікай літаратуры і праз стагоддзі.

Там, дзе была мастацкая праўда, і тады была праўда жыцця.

Возьмем апавяданне «Мікола Багрым з Выглядаў», напісанае У. Краўчанкам у 1944 годзе, літаральна на свежым папялішчы, калі аўтар вярнуўся «з далёкіх дарог вайны» ў вызваленыя родныя мясціны. Аўтару верыш, бо не фальшывіць ён ні ў тоне апавядання, ні ў сюжэтных «счапленнях».

Вось яно перад намі, палескае сяло Выгляды, што стаяла некалі на самым беразе Прыпяці: «Раскінутае на высокім правым беразе прыгожае сяло так прыціскалася да круч, што, здавалася, яно імкнулася ўбачыць, куды гэта бягуць і чаму так спяшаюцца рачныя воды і ці ёсць супынак іхняму бегу...»

І ў песні пастуха Міколы Багрыма, у гэтыя «своеасаблівыя гімны прыродзе і шчасцю свайго края» верыш. І ў Міколаў сон, за які ён заплаціў самай высокай цаною — сваім жыццём.

І хіба патрэбныя доўгія аўтарскія каментарыі, калі ёсць жывая натуральная фінальная сцэна?..

Нямецкі афіцэр мог думаць, што ён перахітрыў старога палешука, паабяцаўшы яму захаваць жыццё пры адной толькі ўмове — публічна адмовіцца ад свайго сну, у якім паўзлі і паўзлі з усходу на захад незлічоныя нашы танкі, на кожным з якіх «на зялёнай брані зіхаціць-іграе здалёку, як кропля крыві на траве, чырвоная зорка». У сне старому Міколу не хапіла сілы голасу,

каб паклікаць да сябе тыя танкі. Але ў яго хапіла мужнасці, каб крыкнуць перад непазбежнай рэальнай смерцю:

«— Я не бачыў таго сну,— нізка апусціўшы галаву, ціха сказаў Багрым.— Я сам прыдумаў яго.— І раптам ён увесь выпраміўся, падняў голас да крыку: — Але гэта так і будзе, людзі! Гэта праўда! Я не адракуся ад праўды!..»

Многія тагачасныя творы цяпер ужо не ўзрушаюць («Ля старой бярозы», «Паланянка» і інш.). Але хіба ад таго толькі трацяць такія творы з цягам часу сілу эмацыянальнага ўздзеяння, што яны напісаны не ў «формах жыцця»?

Іншая рэч, што ў хуткім часе ў творах бадай што ўсіх нашых пісьменнікаў, напісаных якраз у «рэалістычнай манеры», стала пераважаць такая «рамантычная прыўзнятасць», што цяпер проста немагчыма ўбачыць хоць што-небудзь ад рэальнага тагачаснага жыцця.

Пасля вайны Усевалад Краўчанка напісаў аповесць «Рыгор Шыбай». Асаблівага поспеху яна не мела, аднак успрымалася як подступы да больш важкага асэнсавання мінулага і сучаснага.

У аснову сюжэта аповесці «Рыгор Шыбай» пакладзена рэальнае ж жыццё, ваенная біяграфія чалавека сапраўды на рэдкасць смелага і гераічнага — баявая дзейнасць вядомага партызана-падрыўніка, Героя Савецкага Саюза Рыгора Такуева і яго баявых паплечнікаў, людзей не менш адважных і мужных. Рэальныя падзеі ў рэальным партызанскім злучэнні славутага Каўпака пакладзены і ў аснову «Апавядання пра вялікае сэрца», напісанага ўжо ажно ў 1958 годзе — калі літаратура наша ўжо павярнулася тварам да жыцця...

Гэты паварот, на жаль, не ўсім лёгка ўдаваўся. Некаторыя так і не змаглі зрабіць такога крутога пералому. Адным таленту мастакоўскага і мужнасці грамадзянскай не хапіла, іншыя проста не паспелі. Занадта ўсё-такі рана абарвалася жыццё У. Краўчанкі, у нейкіх сорак шэсць гадоў.

Цяжка цяпер гадаць, ці стварыў бы Усевалад Краўчанка што-небудзь такое, што стала б упоравень з лепшымі творамі шасцідзесятых гадоў. Але дужа сімвалічнаю здаецца цяпер назва адной з яго апошніх прыжыццёвых кніг — «Не поле перайсці» (1958). Пражыць жыццё, вартае дадзенаму табе таленту, вартае вялікай літаратуры твайго народа — сапраўды, не поле перайсці.

Не скажаш жа, што У. Краўчанка ў сваёй творчасці пяцідзесятых гадоў зварочваў з жыццёвых бальшакоў на нейкія пакручастыя сцяжыны. Наадварот, можа, найбольшая бяда яго, бясспрэчна здольнага мастака слова, якраз у тым, што ён, прыспешваючы сябе ў пошуках шчаслівага, радаснага жыцця, як бы так і не асмеліўся сысці з гэтае роўнае і гладкае літаратурнай дарогі

і прыгледзецца да ям і калдобін на тагачасных рэальных сцяжынах жыцця.

Не думаю, аднак, што тая павярхоўнасць, якая стала панавацъ у тагачаснай нашай прозе,— не, не нейкае выключэнне творчая спадчына тых гадоў У. Краўчанкі,— можа вытлумачыцца адной толькі і пры тым не абавязкова кан'юнктурнай паспешлівасцю. Але немажліва і цяпер адвесці тыя папрокі, якія рабіла крытыка аўтару і пры яго жыцці, адзначаючы справядліва, што яго «героі жывуць, дзейнічаюць і дамагаюцца шчасця і месца ў жыцці па пропісях сацыялогіі».

Былі і тады, вядома ж, жывыя старонкі, сагрэтыя цеплынёй чалавечага сэрца. Але пераважала слоўная радасць, не падмацаваная мастацкімі доказамі. Нельга, скажам, не верыць пісьменніку, калі ён заяўляў, што яго любае Палессе, гэты, кажучы яго словамі, «прыгожы і самабытны край», нельга не палюбіць, калі блізка спазнаеш яго. На жаль, спазнаць шмат нечага новага не ўдаецца, чытаючы адно апавяданне за другім, і аўтарская радасць і біццё яго сэрца («...калі далёка-далёка наперадзе раптам выбліскае між зялёных лазнякоў блакітная істужка Прыпяці, у мяне міжвольна б'ецца сэрца, і я адчуваю нейкую вялікую радасць») не перадаюцца чытачу, яго сэрца не б'ецца ва унісон аўтарскаму.

Ну сапраўды, хіба можа ўзрушыць сённяшняга чытача такая, скажам, інфармацыя:

«...Улічыўшы, што пры разліках за мінулы год калгаснікі атрымалі на працадні нямала і грошай, і збожжа, Ладуцька прапанаваў праўленню адмовіцца на некалькі месяцаў ад штомесячнага грашовага авансу і павярнуць гэтыя сродкі на гаспадарку калгаса.

Гэта была разумная прапанова. У калгасе трэба было шмат чаго зрабіць — пабудаваць новы кароўнік, новае гумно, купіць грузавую аўтамашыну, набыць тэхнічнае абсталяванне для насоснай устаноўкі на агародзе, прывесці ў парадак сажалку і наладзіць там невялікую рыбную гаспадарку. Прапанова была зроблена з добрым гаспадарчым прыцэлам, і праўленне калгаса не хістаючыся ўхваліла яе. Але на агульным сходзе яна выклікала спрэчкі: не ўсе здолелі ўбачыць яе далёкія выгады, затое ўсім было зразумела, што ў наступным месяцы яны не атрымаюць авансу на працадні. Было тут над чым задумацца, была прычына паспрачацца».

Пісьменнік, відаць, і тады адчуваў, што няшмат у такой прозе мастацкай, жыццёвай праўды. Нездарма ў гэтай жа аповесці «Палессе» ёсць такі эпізод. Да героя-апавядальніка прыйшлі землякі. І вось якая размова адбываецца паміж імі:

«— А ведаеш, зямляк, мы ж зайшлі да цябе з просьбай. Ты

тут бліжэй. Хочам, каб перадаў нашу крыўду пісьменнікам. Нешта мы чытаем, чытаем новыя творы, а цікавых бачым мала. Такіх, ведаеш, каб аж за душу бралі, каб, як пяцікорпусны плуг, аралі і шырока і глыбока, а галоўнае — жыццё паказвалі праўдзіва.

Я запярэчыў Данілу Кузьмічу, назваў рад новых добрых, праўдзівых твораў.

— Не аб гэтым гаворка,— перабіў мяне Даніла Кузьміч.— А вось нядаўна прачытаў я раман пра калгасы,— адна лакіроўка! Не людзі там паказаны, не калгаснікі, аграномы, не партыйныя кіраўнікі, а, можна сказаць, анёлы нябесныя, адно толькі, бедныя, без крылаў».

Каля дзесяці апошніх гадоў (у 1953—1961) Краўчанка працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка», выпускае за гэтыя гады (1948—1961) некалькі кніжак для дзяцей — зборнікі апавяданняў і казак «Дзве сяброўкі» (1948), «Падарунак» (1950) і «Тэорыя імавернасці» (1958), аповесць «Злачынства ля Зялёнай тоні» (1961).

У дзіцячай прозе У. Краўчанкі, як адзначаюць цяпер даследчыкі, былі свае немалыя набыткі, многае не страціла ў сваёй мастацкай пераканаўчасці.

Жыццё У. Краўчанкі дачасна абарвалася ў 1961 годзе. З той пары выйшлі ў свет усяго дзве кнігі — аднатомнік выбраных твораў «Над хвалямі Прыпяці» (1964) і кніга выбраных апавяданняў для дзяцей «Таямніца вугла альфа» (1973).

А між тым творы У. Краўчанкі і цяпер змяшчаюцца ў нашых школьных чытанках. Яшчэ на самым пачатку творчага шляху не хто іншы, як Кузьма Чорны лічыў, што У. Краўчанка «заслугоўвае ўвагі», і называў яго першым з тых маладых пісьменнікаў, якія «стаяць ужо даволі высока». Хіба на карысць нашай літаратуры не надаваць ніякай увагі аўтарам, якія ўсё-такі заслугоўваюць яе? Без лепшых твораў У. Краўчанкі, якія выпускаюцца ў свет да 70-годдзя з дня яго нараджэння, нашы ўяўленні пра беларускую прозу перадваенных, ваенных і першых пасляваенных гадоў былі б далёка не поўныя.

*ГЕНАДЗЬ ШУПЕНЬКА*

## ЗМЕСТ

**Краўчанка У.**

К 78 Крыгалом: Апавяданні; Аповесць/[Аўт. пасясл. Г. Шупенька].— Мн.: Маст. літ., 1985.— 318 с., 1 л. партр.

У пер.: 1 р. 60 к.

У кнізе Усевалада Краўчанкі (1915—1961) «Крыгалом» сабраны лепшыя творы аўтара розных гадоў напісання, якія даюць чытачу ўяўленне аб творчасці пісьменніка. Гэта апавяданні пра жыццё новага калгаснага Палесся, пра вайну, пра дружбу народаў нашай Радзімы.

К $\frac{4702120200-108}{М\ 302(05)-85}$ 139—85

ББК 84Бел7

Бел2

*Всеволод Игнатьевич Кравченко*

**ЛЕДОЛОМ**

**Рассказы. Повесть**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
**На белорусском языке**

Рэдактар *Л. Р. Законнікава.* Мастак *Ю. А. Модлінскі.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Т. В. Трубач.*

ІБ № 2181

Здадзена ў набор 02.11.84. Падп. да друку 03.06.85. АТ 12201. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,80+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 16,91. Ул.-выд. арк. 18,53. Тыраж 3300 экз. Зак. 859. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.